НАЦЫЯНАЛЬНАЯ АКАДЭМІЯ НАВУК БЕЛАРУСІ
Інстытут мовазнаўства імя Якуба Коласа

# ЖЫВОЕ НАША СЛОВА

Дыялекталагічны зборнік

Да 90-годдзя члена-карэспандэнта
НАН Беларусі Ю. Ф. Мацкевіч

МІНСК
«БЕЛАРУСКАЯ НАВУКА»
2001

УДК 808.26-3
ББК 81.2 Бел
Ж 94

Рэдактары:

кандыдаты філалагічных навук Л. П. Кунцэвіч, І. Я. Яшкін

Рэцэнзенты:

доктар філалагічных навук В. Дз. Старычонак,
кандыдат філалагічных навук А. К. Усціновіч

**Жывое** наша слова: Дыялектал. зб.: (Да 90-годдзя
Ж 94 чл.-кар. НАН Беларусі Ю. Ф. Мацкевіч). НАН Беларусі. Ін-т мовазнаўства імя Якуба Коласа / Рэд. Л. П. Кунцэвіч, І. Я. Яшкін. – Мн.: Беларуская навука, 2001. – 352 с.
ISBN 985-08-0472-6.

Кніга з'яўляецца зборнікам лексікі розных беларускіх гаворак, у якіх адлюстроўваюцца іх асаблівасці, прыводзяцца цікавыя фразеалагічныя спалучэнні. Даюцца некаторыя падборкі беларускай лексікі з гаворак населеных пунктаў, якія знаходзяцца па-за межамі Беларусі. Змешчаны таксама артыкулы аб вывучэнні слоўніка жывога народнага маўлення. Асобна прыводзяцца ўзоры звязных тэкстаў розных беларускіх гаворак. Новымі ў дыялекталагічным зборніку з'яўляюцца артыкулы аб этналінгвістычным аспекце беларускіх гаворак.

Прызначаецца моваведам, этнографам, гісторыкам, літаратарам і ўсім, каго цікавіць беларуская мова і культура.

**УДК 808.26-3**
**ББК 81.2 Бел**

ISBN 985-08-0472-6

© Калектыў аўтараў, 2001

# ПРАДМОВА

27 ліпеня 2001 г.[1] споўнілася 90 год з дня нараджэння доктара філалагічных навук, члена-карэспандэнта НАН Беларусі, Заслужанага дзеяча навукі Беларусі, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі СССР і Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь Юзэфе Фларыянаўне Мацкевіч.

Ю. Ф. Мацкевіч у 1950–1986 гг. была загадчыкам аддзела дыялекталогіі Інстытута мовазнаўства імя Якуба Коласа і ўзначальвала ўсю дыялекталагічную работу, што вялася ў рэспубліцы.

Дыялекталагічны зборнік «Жывое наша слова» паслядоўнікі і вучні Юзэфы Фларыянаўны Мацкевіч прысвячаюць юбілею вядомага мовазнаўцы.

Гэта кніга з'яўляецца працягам публікацый шасці дыялекталагічных зборнікаў[2], у якіх змяшчаліся артыкулы аб асаблівасцях ужывання слоў у беларускіх народных гаворках. Гэтыя (пераважна слоўнічкі) зборнікі мелі поспех, усе былі прыхільна сустрэты грамадскасцю, станоўча ацэнены ў друку.

Асноўнай задачай серыі падобных зборнікаў з'яўляецца збіранне лексічных матэрыялаў па ўсёй тэрыторыі Беларусі, якія будуць вельмі карыснымі пры падрыхтоўцы і выданні зводнага слоўніка беларускіх народных гаворак. Матэрыялы гэтага зборніка, як і ранейшых, удакладняюць і пашыраюць тэматыку «Лексічнага атласа беларускіх народных гаворак» у пяці тамах.

---

[1] Пасведчанне аб нараджэнні Юзэфы Фларыянаўны Мацкевіч было згублена ў гады Вялікай Айчыннай вайны. У аднаўленым пасведчанні стаіць умоўная дата нараджэння (27 ліпеня 1911 г.), а сапраўднай з'яўляецца 2 жніўня 1911 г. (са слоў Ю. Ф. Мацкевіч).

[2] З народнага слоўніка. Мн., 1975; Народнае слова. Мн., 1976; Народная лексіка. Мн.,1977; Жывое слова. Мн., 1978; Народная словатворчасць. Мн., 1979; Жывое народнае слова Мн., 1992.

У гэтай кнізе лексічныя падборкі з розных месцаў Беларусі апрацаваны і пададзены па ўзору папярэдніх шасці зборнікаў. Кніга складаецца з пяці частак: «З лексікі народных гаворак», якую складаюць артыкулы, дзе падаюцца пераважна слоўнічкі назваў, працэсаў і прымет пэўнай гаворкі, а таксама прадмовы з характарыстыкай гаворак да іх; «Тэматычныя групы лексікі», дзе змешчаны артыкулы, у якіх зроблены навуковыя даследаванні важных для навукі пытанняў (аб фразеалогіі, сінаніміі і г. д.); «Дыялектныя асаблівасці беларускіх гаворак за межамі Беларусі», дзе змешчаны артыкул з Беластоцкага ваяводства (Польшча); "Тэксты беларускіх гаворак на Беларусі і за яе межамі", якая прадстаўляе ўзоры маўлення мясцовых жыхароў (запісы зроблены аматарамі сваіх родных гаворак, а таксама ў час дыялекталагічных экспедыцый); "Фразеалогія", дзе падаюцца фразеалагізмы гаворак Берасцейшчыны.

У канцы кнігі змяшчаецца агульны алфавітны індэкс усіх рэгіянальных слоў, якія апісваюцца ў артыкулах з указаннем старонкі выдання. Словы падаюцца ў набліжанай да арфаграфічнай літаратурнай нормы форме.

*Ф. Д. Клімчук*

# ЮЗЭФА ФЛАРЫЯНАЎНА МАЦКЕВІЧ – КЛАСІК БЕЛАРУСКАЙ ЛІНГВІСТЫЧНАЙ НАВУКІ

Выдатны беларускі мовазнаўца Юзэфа Фларыянаўна Мацкевіч нарадзілася ў в. Ухлё на Віцебшчыне (цяпер Бешанковіцкі раён). Бацькі, Фларыян-Іосіф Антонавіч і Ядвіга Іванаўна, паходзілі з Глыбоччыны. Жылі яны бедна, арандавалі зямлю, батрачылі, пераязджалі з аднаго месца на другое. Васьмігадовай дзяўчынкай Ю. Ф. Мацкевіч засталася сіратой. Скончыўшы сямігодку (1929), Юзэфа Фларыянаўна паступіла ў Магілёўскі педагагічны тэхнікум. Затым у 1931–1933 гг. працавала настаўніцай пачатковай школы ў в. Гулькі Клімавіцкага р-на.

У 1933–1934 гг. Ю. Ф. Мацкевіч вучылася ў Магілёве на падрыхтоўчых курсах для паступлення ў ВНУ, а ў 1934–1938 гг. – на факультэце мовы і літаратуры Мінскага педагагічнага інстытута. Пасля яго заканчэння па рэкамендацыі вядомага беларускага лінгвіста прафесара К. І. Гурскага яна паступіла ў аспірантуру Інстытута мовы і літаратуры Акадэміі навук БССР, дзе пад кіраўніцтвам прафесара Е. С. Істрынай (Ленінград) спецыялізавалася па гісторыі беларускай мовы.

У час вайны Юзэфа Фларыянаўна жыла ў брата мужа ў Смалявічах, дзе была сувязной партызанскай брыгады «Смерць фашызму».

У 1945 г. Ю. Ф. Мацкевіч вярнулася ў Мінск. Яна з радасцю прыняла запрашэнне на працу ў Інстытут мовы, літаратуры і мастацтва АН БССР, якім кіраваў у той час К. К. Атраховіч (Кандрат Крапіва). Юзэфа Фларыянаўна ўключылася ў групу складальнікаў «Руска-беларускага слоўніка» (1953). Адначасова яна падрыхтавала і ў 1946 г. паспяхова абараніла кандыдацкую дысертацыю на тэму «Літоўскі статут 1529 г. як помнік беларускай літаратурнай мовы XV – пачатку XVI стагоддзя».

Дыялекталагічная праца ў Беларусі пасля вайны пачынаецца ў 1946 г. Тады ў Інстытуце мовы, літаратуры і мастацтва АН БССР была вызначана адна з першачарговых задач беларускіх дыялектолагаў – стварэнне «Дыялекталагічнага атласа

беларускай мовы» (ДАБМ). З гэтага часу дыялекталогія стала асноўным аб'ектам навуковых інтарэсаў Юзэфы Фларыянаўны.

У 1950–1986 гг. Ю. Ф. Мацкевіч з'яўляецца загадчыцай сектара (з 1986 г. – аддзела) дыялекталогіі[1]. Яна фактычна становіцца кіраўніком усёй дыялекталагічнай работы ў Беларусі. Асноўнай жа задачай у тыя гады для Юзэфы Фларыянаўны з'яўляецца стварэнне «Дыялекталагічнага атласа беларускай мовы», збор матэрыялаў для якога праводзіцца пры яе ўдзеле і непасрэдным кіраўніцтве. Далей – апрацоўка сабранага матэрыялу, складанне карт. Сумесна са сваімі настаўнікамі, членам-карэспандэнтам АН СССР Р. І. Аванесавым і акадэмікам АН БССР К. К. Атраховічам, яна ажыццяўляе планаванне і кіраўніцтва збіральніцкай працай, займаецца рэдагаваннем карт і матэрыялаў атласа, рыхтуе тэхнічныя і даведачныя раздзелы.

«Дыялекталагічны атлас беларускай мовы» выйшаў з друку ў 1963 г. Арганічным працягам і абагульненнем дадзеных атласа з'яўляецца калектыўная праца – «Лінгвістычная геаграфія і групоўка беларускіх гаворак» (1968–1969), якая была падрыхтавана па ініцыятыве і пад кіраўніцтвам Р. І. Аванесава і Ю. Ф. Мацкевіч. Юзэфа Фларыянаўна разам з калегамі па працы падрыхтавала «Хрэстаматыю па беларускай дыялекталогіі» (1962), «Нарысы па беларускай дыялекталогіі» (1964), «Мікратапанімію Беларусі» (1974). Адметнае месца ў беларускім мовазнаўстве заняла грунтоўная асабістая праца Юзэфы Фларыянаўны Мацкевіч «Марфалогія дзеяслова ў беларускай мове» (1959). Гэта манаграфія стала яе доктарскай дысертацыяй, якую Ю. Ф. Мацкевіч абараніла ў 1963 г.

З 1960 г. пад кіраўніцтвам Ю. Ф. Мацкевіч і пры яе актыўным удзеле пачаўся збор беларускіх матэрыялаў для складання «Агульнаславянскага лінгвістычнага атласа».

З'яўляючыся ўдзельніцай дыялекталагічных экспедыцый, Юзэфа Фларыянаўна Мацкевіч заўсёды фіксавала значны дадатковы лексічны матэрыял, які не быў прадугледжаны праграмай. Пазней для збору лексікі сталі праводзіцца спецыяльныя

---

[1] У 1950–1952 гг. Ю. Ф. Мацкевіч працавала выконваючай абавязкі загадчыка сектара дыялекталогіі.

экспедыцыі. Гэты матэрыял быў пакладзены ў аснову будучага дыялектнага слоўніка. З пачатку 1970-х гадоў пад кіраўніцтвам Юзэфы Фларыянаўны Мацкевіч экспедыцыі для папаўнення картатэкі праводзіліся штогод. У іх прымалі ўдзел не толькі супрацоўнікі сектара дыялекталогіі Інстытута мовазнаўства АН БССР, але і навукоўцы Польшчы, Літвы, Латвіі. На аснове сабранага матэрыялу калектывам аўтараў пад рэдакцыяй Ю. Ф. Мацкевіч складзены пяцітомны «Слоўнік беларускіх гаворак паўночна-заходняй Беларусі і яе пагранічча» (1979–1986). Усяго для слоўніка абследавана 208 населеных пунктаў, з іх на тэрыторыі Беларусі – 140, Літвы – 25, Латвіі – 25, Польшчы – 18.

«Дыялекталагічны атлас беларускай мовы» (1963) прысвечаны ў асноўным фанетыцы і марфалогіі. З 338 карт у ім толькі 113 лексічных. Між тым дыялектная лексіка характарызуецца вялікім багаццем. Таму наспела патрэбнасць стварэння асобнага «Лексічнага атласа беларускіх народных гаворак» (ЛАБНГ).

У 1969–1970 гг. у Інстытуце мовазнаўства імя Якуба Коласа АН БССР пад кіраўніцтвам Ю. Ф. Мацкевіч была распрацавана праграма для стварэння такога атласа. У 1971 г. пачаўся збор матэрыялаў, затым – складанне карт, а ў 1985 г. праца над атласам пад кіраўніцтвам Юзэфы Фларыянаўны Мацкевіч была цалкам завершана. Атлас выйшаў з друку ў 1993–1998 гг. Складаецца ён з пяці тамоў, у якіх змешчаны 1792 лінгвістычныя карты. Першы і другі том выдадзены пад рэдакцыяй М. В. Бірылы і Ю. Ф. Мацкевіч, трэці, чацвёрты і пяты – Ю. Ф. Мацкевіч.

Буйнейшае навуковае здзяйсненне беларускіх дыялектолагаў – «Дыялекталагічны атлас беларускай мовы» (1963) і «Лексічны атлас беларускіх народных гаворак» (1993–1998) – з'явіліся здабыткам беларускай, славянскай і агульначалавечай культуры. Працы гэта калектыўныя, але іх ажыццяўленне было здзейснена так паспяхова і ў такія сціслыя тэрміны ў вялікай ступені дзякуючы арганізатарскім здольнасцям, намаганням і асабістаму творчаму ўдзелу Юзэфы Фларыянаўны Мацкевіч.

Абедзве працы атрымалі высокую ўрадавую ўзнагароду. У 1971 г. за комплекс прац «Беларуская лінгвістычная геаграфія»,

асноўнай сярод якіх з'яўляецца «Дыялекталагічны атлас беларускай мовы», Ю. Ф. Мацкевіч у складзе аўтарскага калектыву была прысуджана Дзяржаўная прэмія СССР, а ў 2001 г. за пяцітомны «Лексічны атлас беларускіх народных навюрак» у складзе аўтарскага калектыву – Дзяржаўная прэмія Рэспублікі Беларусь.

Багатая творчая спадчына Юзэфы Фларыянаўны Мацкевіч складае звыш 100 навуковых прац, якія з'яўляюцца яркімі старонкамі ў гісторыі беларускага мовазнаўства.

У 1969 г. Ю. Ф. Мацкевіч першай з супрацоўнікаў Інстытута мовазнаўства абрана членам-карэспандэнтам АН БССР. У 1978 г. ёй прысвоена ганаровае званне Заслужанага дзеяча навукі БССР. Юзэфа Фларыянаўна Мацкевіч узнагароджана ордэнам Дружбы народаў (1981), медалямі «За доблесную працу» (1970) і «Ветэран працы» (1985), Ганаровай граматай Вярхоўнага Савета БССР (1970).

Ю. Ф. Мацкевіч у 1986–1991 гг. працавала ў Інстытуце мовазнаўства кансультантам. З 1991 г. знаходзіцца на пенсіі.

*Я. М. Рамановіч*

## НАВУКОВЫЯ ПРАЦЫ І РЭДАКТАРСТВА Ю. Ф. МАЦКЕВІЧ. ЛІТАРАТУРА АБ ЯЕ ЖЫЦЦІ І ДЗЕЙНАСЦІ

### Працы

1. Праграма па вывучэнню беларускіх гаворак і збіранню звестак для складання дыялекталагічнага атласа беларускай мовы – Мн., 1948. – 47 с. – Сааўт.: Растаргуеў П. А., Жыдовіч М. А., Бірыла М. В.

2. Праграма па вывучэнню беларускіх гаворак і збіранню звестак для складання дыялекталагічнага атласа беларускай мовы – Мн., 1950. – 112 с. – Сааўт.: Растаргуеў П. А., Жыдовіч М. А., Бірыла М. В.

3. Я. Ф. Карскі як дыялектолаг // Весці АН БССР. – 1951. – № 4. – С. 26–40.

4. Дыялектныя асаблівасці паўднёвабеларускіх гаворак // Матэрыялы I дыялекталагічнай канферэнцыі БССР. – Мн., 1950. – С. 54–80.

5. Русско-белорусский словарь. – М., 1953. – 787 с. – Сааўт.: Бровка Е. М., Войтович Н. Т., Лобан Н. П. і інш.

6. Важнейшыя пытанні беларускай дыялекталогіі // Працы Ін-та мовазнаўства АН БССР. – 1954. – Вып. 2. – С. 125–154.

7. Некаторыя формы дзеяслова па матэрыялах дыялекталагічнага атласа беларускай мовы // Працы Ін-та мовазнаўства АН БССР. – 1954. – Вып. 1. – С. 60–90.

8. Об итогах работы по составлению атласа белорусских народных говоров // Вопросы диалектологии восточнославянских языков. – М., 1954. – С. 39–59. – Сааўт.: Мурашка А. Г., Орешонкова А. В.

9. Дзеяслоў // Курс сучаснай беларускай літаратурнай мовы. Марфалогія: Падручнік для студэнтаў філал. фак. – Мн., 1957. – С. 150–161.

10. Нарысы па гісторыі беларускай мовы: (Дапам. для студэнтаў выш. навуч. установу) – Мн., 1957. – 140 с. – Сааўт.: Бірыла М. В., Булахаў М. Г., Жыдовіч М. А. і інш.

11. Некаторыя дыялектныя асаблівасці паўночна-ўсходніх беларускіх гаворак // Працы Ін-та мовазн. АН БССР. – 1957. – Вып. 3. – С. 32–49.

12. Інструкцыя па збіранню матэрыялаў для складання абласных слоўнікаў беларускай мовы. Вып. 1. – Мн., 1959. – 128 с.

13. Формы інфінітыва ў беларускай мове // Весці АН БССР. Серыя грамад. навук. – 1958. – № 4. – С. 157–171.

14. Формы 3-яй асобы адзін. ліку цяперашняга і будучага простага часу ў беларускай мове // Весці АН БССР. Серыя грамад. навук. – 1958. – № 3. – С. 150 – 164; Slavia. – 1960 – Roč. 29. Seš. 2. – С. 193–206.

15. Марфалогія дзеяслова ў беларускай мове. – Мн., 1959. – 292 с.

16. О классификации белорусских диалектов // Вопросы языкознания. – 1959. – № 6. – С. 87–102. – Сааўт.: Гапанович П. Н.

17. Пытанні класіфікацыі сучасных беларускіх гаворак // Працы Ін-та мовазнаўства АН БССР. – 1959. Вып. 6. – С. 26–51. – Сааўт.: Гапановіч П. М.

18. Інструкцыя па збіранню матэрыялаў для складання абласных слоўнікаў беларускай мовы. Вып. 2. – Мн., 1960. – 128 с. – Сааўт.: Арашонкава Г. У., Вайтовіч Н. Т., Груца А. П. і інш.

19. Взаимодействие между белорусским национальным языком и народными говорами. // Тез. докл. на совещ. по проблемам образования русского национального языка в связи с образованием других национальных языков. 12–14 дек. 1960 г. – М., 1960. – С. 4–5.

20. Арганізацыя і вынікі дыялекталагічнай работы ў Беларусі (1948–1960) // Весці АН БССР. Серыя грамад. навук. – 1961. – № 1. – С. 129–140. – Сааўт.: Бірыла М. В.

21. Да характарыстыкі моўных асаблівасцей сярэднебеларускіх гаворак // Працы Ін-та мовазнаўства АН БССР. – 1961. – Вып. 8. – С. 143–158.

22. Взаимодействие между белорусским национальным литературным языком и народными говорами // Вопросы образования восточнослав. нац. яз. – М., 1962. – С. 127–143. – Сааўт.: Мурашка А. Г., Орешонкова А. В.

23. Хрэстаматыя па беларускай дыялекталогіі. – Мн., 1962. – 350 с. – Сааўт.: Арашонкава Г. У., Бірыла М. В. і інш.

24. Дыялекталагічны атлас беларускай мовы: [Кніга карт] – Мн., 1963. – 37 карт.

25. Дыялекталагічны атлас беларускай мовы // Дыялекталагічны атлас беларускай мовы: Уступ. арт., давед. матэрыялы і камент. да карт – Мн., 1963. – С. 33–40.

26. Работа над «Дыялекталагічным атласам беларускай мовы» // Дыялекталагічны атлас беларускай мовы: Уступ. арт., давед. матэрыялы і камент. да карт. – Мн., 1963. – С. 29–32.

27. З лексікі беларускіх гаворак заходняй зоны // Весці АН БССР. Серыя грамад. навук. – 1969. – № 4. – С. 123–134. – Сааўт.: Арашонкава Г. У., Грынавецкене Е. І., Кавальчук І. П. і інш.

28. Нарысы па беларускай дыялекталогіі: Вуч. дапам. для філал. фак. ун-таў і пед ін-таў. – Мн., 1964. – 415 с. – Сааўт.: Аванесаў Р. І., Арашонкава Г. У., Вайтовіч Н. Т., Бірыла М. В.,

Гапановіч П. М., Грыгор'еў С. А., Крывіцкі А. А., Рамановіч Я. М., Чабярук А. І., Шэлег В. М.

29. Інструкцыя па збіранню матэрыялаў для складання абласных слоўнікаў беларускай мовы. Вып. 3. – Мн., 1966. – 171 с. – Сааўт.: Суднік М. Р., Грыгор'еў С. А., Юрэвіч А. І. і інш.

30. Про «Діалектологічний атлас білоруської мови» // Українська лінгвістична географія: Респ. міжвід зб. – Київ, 1966. – 86–85. – Сааўт.: Бирило М. В.

31. Прыклады акцэнталагічных адрозненняў у сучасных беларускіх гаворках // Slavia orientalis. – 1966. – № 1 – С. 81–93. – Сааўт.: Рамановіч Я. М.

32. Лінгвістычная геаграфія і групоўка беларускіх гаворак: [Кніга інтэрпрэтацыі ізаглос]. – Мн., 1968. – С. 38–41, 44–62, 155–160, 259–270.

33. Лінгвістычная геаграфія і групоўка беларускіх гаворак: [Карты]. – Мн., 1969. – № 15–17, 19, 63.

34. Из лексики белорусских говоров западной зоны // Совещание по общеслав. лингвистическому атласу (Одесса, 1969). – М., 1969. – С. 120–121. – Сааўт.: Гринавецкене Е. И., Ковальчук И. П., Орешонкова А. В., Романович Е. М., Шаталова Л. Ф.

35. Інструкцыя па збіранню матэрыялаў для складання лексічнага атласа беларускай мовы. – Мн., 1971. – 164 с. – Сааўт.: Арашонкава Г. У., Бірыла М. В., Вайтовіч Н. Т. і інш.

36. Атлас беларускіх гаворак // Сельская газ. – 1971. – 24 лістапада. – Сааўт.: Крывіцкі А. А., Бірыла М. В.

37. Да лексіка-семантычнай дыферэнцыяцыі ў беларускіх народных гаворках // Весці АН БССР. Серыя грамад. навук. – 1971. – № 1. – С. 89–98. – Сааўт.: Арашонкава Г. У., Грынавецкене Е. І., Шаталава Л. Ф.

38. Адкрыцці ў краіне слоў // Вяч. Мінск. – 1971. – 26 мая.

39. Метадычныя рэкамендацыі да Інструкцыі па збіранню матэрыялаў для складання лексічнага атласа беларускай мовы. – Мн., 1971. – 9 с. – Рэпр.

40. Атлас беларускіх гаворак // Настаўн. газ. – 1972. – 5 студз. – Сааўт.: Крывіцкі А. А., Бірыла М. В.

41. Аб беларускіх дыялектных рысах заходняга пагранічча // Slavia orientalis. – 1972. – № 1. – С. 69–71. – Сааўт: Арашонкава Г. У.

42. Да характарыстыкі лексікі паўднёва-заходніх беларускіх гаворак // Весці АН БССР. Серыя грамад. навук. – 1972. – № 1. – С. 78–86. – Сааўт.: Арашонкава Г. У., Грынавецкене Е. І., Рамановіч Я. М., Сцяшковіч Т. Ф., Чабярук А. І., Шаталава Л. Ф.

43. Лінгвістычная геаграфія // Беларуская савецкая энцыклапедыя. – Мн., 1972. – Т. 6. – С. 372–373.

44. Литовские элементы в говорах белорусского языка // Тез. IV диалектол. конф. по изучению говоров и языковых контактов в Прибалт. Респ. – Вильнюс, 1972. – С. 23–25. – Сааўт.: Гринавецкене Е., Орешонкова А., Романович Е., Чеберук Е., Шаталова Л.

45. О глагольных основах в белорусских говорах (В связи с ударением) // Русское и славянское языкознание. – М., 1972. – С. 193–199.

46. Северозападные белорусские говоры литовского пограничья // Балтославянский сборник. – М., 1972. – С. 377–393. – Сааўт.: Гринавецкене Е. И., Ковальчук И. П., Романович Е. М.

47. Литуанизмы в белорусских говорах Гродненщины // Актуальные вопросы диалектологии: Материалы научной конф. – Рига, 1973. – С. 30–33. – Сааўт.: Гринавецкене Е. И.

48. Балтызмы ў беларускіх гаворках: (Лінгвагеаграф. аспект) // Этногенез белорусов. – Мн., 1973. – С. 151–153. – Сааўт: Арашонкава Г. У., Грынавецкене А. І., Рамановіч Я. М., Чабярук А. І.

49. Лексіка балтыйскага паходжання ў беларускіх гаворках // Бел. лінгвістыка. – 1973. – Вып. 3. – С. 27–37. – Сааўт.: Арашонкава Г. У., Грынавецкене Е. І., Рамановіч Я. М., Чабярук А. І., Шаталава Л. Ф.

50. К интерпретации некоторых лексических изоглосс в белорусских говорах // Диалектологический сборник: Материалы 4-й диалектолог. конф. по изучению говоров и языковых контактов в Прибалтике, окт., 1972. – Вильнюс, 1974. – С. 102–114. – Сааўт.: Орешонкова А. В., Гринавецкене Е. Й.

51. Мікратапанімія Беларусі: Матэрыялы. – Мн., 1974. – 326 с. – Сааўт.: Арашонкава Г. У., Грынавецкене Е. І., Клімчук Ф. Д. і інш.

52. Бытовая лексика литовского происхождения в Западной Белоруссии // Вопросы литовского языкознания, 1975. –

Вып. 16: Литовская терминология. – С. 163–195. – Сааўт.: Гринавецкене Е. Й., Романович Е. М., Чеберук Е. И.

53. Лексіка пчалярства // З народнага слоўніка. – Мн., 1975. – С. 204–217.

54. Некоторые явления морфологической интерференции литовского языка в западно-белорусских говорах // Тр. АН ЛитССР. Обществ. науки. – 1975. – № 4. – С. 187–192. – Сааўт.: Гринавецкене Е. Й.

55. Некоторые явления языковой интерференции в белорусских говорах литовского пограничья // Ареальные исследования в языкознании и этнографии: Тез. 3-й конф. на тему «Методика лингво- и этнографических исследований. Маргинальные и центральные ареалы». – Л., 1975. – С. 61–62. – Сааўт.: Гринавецкене Е. Й.

56. Новый случай делабиализации в литовском говоре белорусско-литовского пограничья. // Тез. докл. 3-й Всесоюзн. конф. по балтийскому языкознанию. – Вильнюс, 1975. – С. 123–124. – Сааўт: Романович Е. М., Чеберук Е. И., Гринавецкене Е. Й.

57. З лексікі вёскі Лісна Верхнядзвінскага раёна // Народнае слова. – Мн., 1976. – С. 144–147.

58. Аб семантычнай структуры дыялектных слоў // Народная лексіка. – Мн., 1977. – С. 165–167.

59. З мікратапаніміі Віцебшчыны // Беларуская анамастыка. – Мн., 1977. – С. 98–104. – Сааўт.: Грынавецкене А. І.

60. Нерегулярные явления в фонетике, акцентуации и грамматике белорусских говоров западной зоны // Вопросы литовского языкознания. – Вильнюс, 1977. – Т. 17. – С. 89–96. – Сааўт.: Гринавецкене Е. Й., Романович Е. М., Чеберук Е. И.

61. О лексическом атласе белорусских народных говоров // Совещ. по общим вопросам диалектологии и истории языка. Тез. докл. и сообщ. – М., 1977. – С. 38–39.

62. О некоторых диалектных различиях в белорусских говорах [также о белорус. говорах на территории Литвы] // Совещ. по общим вопросам диалектологии и истории языка. Тез. докл. и сообщ. (Нальчик, 21–24 сент. 1977 г.) – М., 1977. – С. 21–22.

63. Аб лексічным атласе беларускіх народных гаворак // Бел. лінгвістыка. – 1978. – Вып. 13. – С. 3–10.

64. К проблеме распознавания белорусской лексики иноязычного происхождения // Этимологические балто-славянские контакты в настоящем и прошлом: Конф. – М., 1978. – С. 77. – Сааўт.: Гринавецкене Е. Й.

65. [Рэцэнзія] // Baltistica. – 1978. – Т. 14, № 2. – С. 152–155. – Рэц. на кн. Атлас литовского языка / АН Лит ССР. Ин-т литовского языка и литературы. – Вильнюс: Мокслас, 1977. – Т. 1. Лексика. – 295 с. – 120 карт. – Т. 2. Фонетика. – 148 с. – 112 карт.

66. Некоторые необычные микросистемы в диалектной структуре белорусского говора окрестностей Опса // Baltistica. – 1979. – Т. 15. – № 1. – С. 52–65. – Сааўт.: Гринавецкене Е. Й.

67. Слоўнік беларускіх гаворак паўночна-заходняй Беларусі і яе пагранічча. – Мн., 1979. – Т. 1. – С. 512; 1980. – Т.2. – С. 728; 1982. – Т. 3. – С. 536; 1984. – Т. 4. – С. 616; 1986. – Т. 5 – С. 563. – Сааўт.: Грынавецкене Е. І., Рамановіч Я. М., Чабярук А. І. і інш.

68. К вопросу о литуанизмах в лексике белорусских говоров белорусско-литовского пограничья // 4-я Всесоюзная конф. балтистов: Тез. докл. – Рига, 1980. – С. 147–148. – Сааўт.: Гринавецкене Е. Й.

69. Прынцыпы ўкладання слоўніка беларускіх гаворак паўночна-заходняй Беларусі і яе пагранічча // Рэгіянальныя традыцыі ва ўсходнеславянскіх мовах, літаратурах і фальклоры: Тэз. дак. 2 Рэсп. навук. канф. – Гомель, 1980. – С. 21–22. – Сааўт.: Грынавецкене Е. І., Рамановіч Я. М., Чабярук А. І.

70. Аб «Слоўніку беларускіх гаворак паўночна-заходняй Беларусі і яе пагранічча» // Бел. лінгвістыка. – 1981. – Вып. 20. – С. 8–14. – Сааўт.: Грынавецкене А. І., Рамановіч Я. М., Чабярук А. І.

71. Лінгвістычная геаграфія // Беларуская ССР: Кароткая энцыкл. – Мн., 1981. – Т. 4. – С. 321–322.

72. О лингвистической географии в Белоруссии // Лингвистическая геаграфия и проблемы истории: Материалы 6-го Всесоюз. совещ. – Нальчик, 1981. – Ч. 1. – С. 11–15. – Сааўт.: Гринавецкене Е. Й., Романович Е. М., Чеберук Е. И.

73. [Рэцэнзія] // Бел. лінгвістыка. – 1981. – Вып. 19. – С. 68–70. – Рэц. на кн. – Atlas gwar wschodnio-slowiańskich Białostocczyzny. – Wrocław–Warszawa–Kraków–Gdańsk, 1980. – № 14.

74. Лингвогеографические данные белорусских народных говоров о балто-славянских языковых контактах // Балто-славянские этноязыковые отношения в историческом и ареальном плане: Тез. докл. 2-я балто-слав. конф. – М., 1983. – С. 35. – Сааўт.: Романович Е. М., Чеберук Е. И., Гринавецкене Е. И.

75. Аванесаў Рубен Іванавіч (1(14). 2.1902. – 1.5.1982) савецкі мовазнавец, адзін з аўтараў і рэдактараў даследаванняў у галіне беларускай дыялекталогіі і гісторыі беларускай мовы // Энцыклапедыя літаратуры і мастацтва Беларусі. – Мн., 1984. – Т. 1. – С. 25.

76. Дыялекталагічны атлас беларускай мовы // Энцыклапедыя літаратуры і мастацтва Беларусі. – Мн., 1985. – Т. 2. – С. 395.

77. Дыялектная зона // Энцыклапедыя літаратуры і мастацтва Беларусі. – Мн., 1985. – Т. 2. – С. 396.

78. Некоторые вопросы вокализма литовских заимствований в белорусских говорах // Междунар. конф. балтистов. – Вильнюс, 1985. – С. 147–148. – Сааўт.: Гринавецкене Э. Й., Романович Е. М., Чеберук Е. И.

79. К характеристике животноводческой лексики // Региональные особенности восточнославянских языков, литератур, фольклора и методы их изучения. – Гомель, 1985. – Ч. I. – С. 45–47. – Сааўт.: Гринавецкене Е. Й., Романович Е. М., Чеберук Е. И.

80. [Рэцэнзія] // Бел. лінгвістыка. – 1985. – Вып. 28. – С. 68–70. Рэц. на кн.: Атлас української мови в трьох томах. Т. 1. Полісся, Середня Наддніпрянщина і сумежні землі. – Київ: Наук. думка, 1984. – 92 с., 391 карта.

81. Лінгвістычная геаграфія // Беларуская ССР: Кароткая энцыкл. – Мн., 1986. – Т. 4. – С. 321–322.

82. Лінгвістычная геаграфія // Энцыклапедыя літаратуры і мастацтва Беларусі. – Мн., 1986. – Т. 3. – С. 258.

83. Лінгвістычны атлас // Энцыклапедыя літаратуры і мастацтва Беларусі. – Мн., 1986. – Т. 3. – С. 258.

84. Некаторыя тыпы намінацыі і формаўтварэння ў беларускай дыялектнай мове // Словообразование и номинативная

деривация в славянских языках: Тез. докл. II респ. конф. – Гродно, 1986. – Ч. 2. – С. 6. – Сааўт.: Гринавецкене Е. И., Чеберук Е. И.

85. З назіранняў над мовай Я. Купалы // Бел. лінгвістыка. – 1987. – Вып. 31. – С. 29–37. – Сааўт.: Грынавецкене А. І.

86. Лингвогеографические данные белорусских говоров о балто-славянских языковых контактах // Acta-Baltico-Slavica. – 1989. – № 20. – С. 323–332. – Сааўт.: Гринавецкене Е. И., Романович Е. М., Чеберук Е. И.

87. З лексікі вёскі Асташкавічы Светлагорскага раёна Гомельскай вобласці // Slavia orientalis. – 1990. – Т. 39. – № 34. – С. 341–358.

88. Назвы абутку ў народных гаворках // Дыялекталогія і культура беларускай мовы: Тэз. Рэсп. навукова-практ. канф. 10–11 снежня 1991 г. – Мн., 1991. – С. 43–44. – Сааўт.: Грынавецкене А. І., Рамановіч Я. М., Чабярук А. І.

89. З лексікі Першага, або Старога Літоўскага статута 1529 г. // Жывое народнае слова: Дыялектал. зб. – Мн., 1992. – С. 201–218. – Сааўт.: Грынавецкене А.І.

90. Індэкс // Лексічны атлас беларускіх народных гаворак. Раслінны і жывёльны свет. – Мн., 1993. – Т. 1. – С. 144–159.

91. Лексічны атлас беларускіх народных гаворак. Т. 1.: Раслінны і жывёльны свет. – Мн., 1993. – 59 карт, 10,76 друк. арк.

92. Прадмова // Лексічны атлас беларускіх народных гаворак. Т. 1: Раслінны і жывёльны свет. – Мн., 1993. – С. 2–4.

93. Спіс збіральнікаў // Лексічны атлас беларускіх народных гаворак. Т. 1.: Раслінны і жывёльны свет. – Мн., 1993. – С. 27–28.

94. Се́ран, шаро́н у беларускіх народных гаворках // Бел. лінгвістыка. – Мн., 1993. – Вып. 40. – С. 54–55. – Сааўт.: Грынавецкене Е. І.

95. Лексічны атлас беларускіх народных гаворак. Т. 2: Сельская гаспадарка. – Мн., 1994. – 40 карт, 6,59 друк. арк.

96. Аб назвах дзікіх жывёл: (У раздзеле: «Свойскія і дзікія жывёлы») // Лексічныя ландшафты Беларусі. Жывёльны свет. – Мн., 1995. – С. 62 – 70. – Сааўт: Грынавецкене А. І.

97. Джала. Дымар. Раёўня: (У раздзеле: «Пчалярства») // Лексічныя ландшафты Беларусі. Жывёльны свет. – Мн., 1995. – С. 153, 167–168. – Сааўт.: Грынавецкене А. І.

98. Здрок: (У раздзеле: «Назвы насякомых») // Лексічныя ландшафты Беларусі. Жывёльны свет. – Мн., 1995. – С. 177–178. – Сааўт.: Грынавецкене А. І.

99. Назвы абутку ў беларускіх гаворках // Бел. лінгвістыка.– 1995. – Вып. 43. – С. 3–19. – Сааўт.: Грынавецкене Э., Рамановіч Я., Чабярук А.

100. Лексічны атлас беларускіх народных гаворак. Т. 3.: Чалавек. – Мн., 1996. – 25 карт-адзінак, 3,59 друк. арк.

101. Лексічны атлас беларускіх народных гаворак. Т. 4: Побыт. – Мн., 1997. – 43 карты, 4,91 друк. арк.

102. Лексічны атлас беларускіх народных гаворак. Т. 5: Семантыка. Словаўтварэнне. Націск. – Мн., 1998. – 71 карта, 10 друк. арк.

**Рэдактарства**

1. Дыялекталагічны атлас беларускай мовы: [Кніга карт]. – Мн., 1963. – 338 карт. – Рэд. таксама: Аванесаў Р. І., Крапіва К. К.

2. Дыялекталагічны атлас беларускай мовы: Уступны арт., давед. матэрыялы і камент. да іх. – Мн., 1963. – 971 с. – Рэд. таксама: Аванесаў Р. І., Крапіва К. К.

3. Жывое слова: [Зб.] АН БССР. Ін-т мовазнаўства. – Мн., 1978. – 287 с. – Рэд. таксама: Яшкін І. Я.

4. Інструкцыя па збіранню матэрыялаў для складання Лексічнага атласа беларускай мовы. – Мн., 1971. – 164 с. – Рэд. таксама: Вайтовіч Н. Т., Груца А. П., Крывіцкі А. А. і інш.

5. З народнага слоўніка / АН БССР. Ін-т мовазнаўства. – Мн.: Навука і тэхніка, 1975. – 350 с. – Рэд. таксама: Крывіцкі А. А.

6. Лексічны атлас беларускіх народных гаворак. Т. 1: Раслінны і жывёльны свет. – Мн., 1993. – 368 лінгвіст. карт, 55 друк. арк. – Рэд. таксама: Бірыла М. В.

7. Лексічны атлас беларускіх народных гаворак. Т. 2: Сельская гаспадарка. – Мн., 1994. – 354 лінгв. карт, 55,5 друк. арк. – Рэд. таксама: Бірыла М. В.

8. Лексічны атлас беларускіх народных гаворак. Т. 3: Чалавек. – Мн., 1996. – 293 карт, 47,5 друк. арк.

9. Лексічны атлас беларускіх народных гаворак. Т. 4. – Мн., 1997. – 439 карт, 56 друк. арк.

10. Лексічны атлас беларускіх народных гаворак. Т. 5: Семантыка. Словаўтварэнне. Націск. – Мн., 1998 – 337 карт, 50,5 друк. арк.

11. Лінгвістычная геаграфія і групоўка беларускіх гаворак.: [Кн. інтэрпрэтацыі ізаглос] – Мн., 1968. – 318 с. – Рэд. таксама: Аванесаў Р. І., Атраховіч (Крапіва) К. К.

12. Лінгвістычная геаграфія і групоўка беларускіх гаворак: [Карты]. – Мн., 1969. – 111 с. – Рэд. таксама: Аванесаў Р. І., Атраховіч (Крапіва) К. К.

13. Мікратапанімія Беларусі: Матэрыялы. – Мн., 1974. – 326 с. – Рэд. таксама: М. В. Бірыла.

14. Народная лексіка: [Зб.]. – Мн.: Навука і тэхніка, 1977. – 287 с. – Рэд. таксама: Крывіцкі А. А.

15. Слоўнік беларускіх гаворак паўночна-заходняй Беларусі і яе пагранічча. – Мн., 1979. – 1986. – Т. 1–5.

16. Працы Інстытута мовазнаўства АН БССР. Вып. 8. – Мн., 1961. – 260 с. Рэд. таксама: Крапіва К. К., Суднік М. Р., Булахаў М. Г.

**Літаратура**

1. *Бірыла М. В*. Член-карэспандэнт АН БССР Юзэфа Фларыянаўна Мацкевіч: (Да 70-годдзя з дня нараджэння) // Весці АН БССР. Серыя грамад. навук. – 1981. – № 1. – С. 127–129.

2. *Германовіч І. К.* Мацкевіч Юзэфа Фларыянаўна // Беларуская энцыклапедыя.: У 18 т. – Мн., 2000. – Т. 10. – С. 230.

3. *Дзендзялеўскі І. А.* 5 і 27. // Веды. –2001. – № 13.

4. *Карпенка М. І.* Падарожжа за словам: [Пра лінгвіста Ю. Ф. Мацкевіч] // Работніца і сялянка. – 1973. – № 1. – С. 67.

5. *Карпенка М. І.* Падарожжа за словам: // Веды. – 2001. – № 14.

6. *Клімчук Ф. Д.* Юзэфа Фларыянаўна Мацкевіч: (Да 85-годдзя з дня нараджэння) // Весці Акадэміі навук Беларусі. Сер. гуманіт. навук. – 1996. – № 4. – С. 129 – 132.

7. *Клімчук Ф. Д.* Юзэфа Фларыянаўна Мацкевіч: (Да 90-годдзя з дня нараджэння) // Бел. лінгвістыка. – 2001. – Вып. 51. – С. 91–93.

8. *Клімчук Ф. Д.* Юзэфа Фларыянаўна Мацкевіч – класік беларускай лінгвістычнай навукі // Жывое наша слова: Дыялектал. зб.: (Да 90-годдзя чл.-кар. НАН Беларусі Ю. Ф. Мацкевіч) – Мн., 2001. – С. 5–8.

9. *Крывіцкі А. А.* Юзэфа Фларыянаўна Мацкевіч: (Да 60-годдзя з дня нараджэння) // Бел. лінгвістыка. – 1972. – Вып. 1. – С. 84–85.

10. *Крыўко М. Н.* Даследчыца роднай мовы // Настаўн. газ. – 1986. – № 61.

11. *Крыўко М. Н.* Да скарбаў роднага слова // Работніца і сялянка – 1986. – № 10. – С. 5.

12. *Крыўко М. Н.* Член-карэспандэнт АН БССР Юзэфа Фларыянаўна Мацкевіч: (Да 80-годдзя з дня нараджэння) // Весці АН БССР. Серыя грамад. навук. –1991. – № 4. – С. 118–121.

13. *Крыўко М. Н.* Усё яе жыццё аддзена даследаванню пытанняў роднай мовы // Наша слова. – 2001. – № 5. – С. 4.

14. *Кунцэвіч Л. П.* Юзэфа Фларыянаўна Мацкевіч: (Да 90-годдзя з дня нараджэння) // Весці Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі. Сер. гуманіт. навук. – 2001. – № 2. – С. 143–144.

15. *Кязене Тяресе.* Дружба слов и людей: [О сотрудничестве языковедов Е. Гринавецкене и Ю. Мацкевич из Минска по подготовке коллективного труда «Микротопонимия Белоруссии»] // Теса. – 1975. – 16 марта. – На лит. яз.

16. *Міхайлаў П. А.* Юзэфа Фларыянаўна Мацкевіч: (Да 70-годдзя з дня нараджэння) // Бел. лінгвістыка. – 1981. – Вып. 20. – С. 77–79.

17. *Міхайлаў П. А.* Юзэфа Фларыянаўна Мацкевіч: (Да 75-годдзя з дня нараджэння) // Бел. лінгвістыка. – 1986. – Вып. 30. – С. 71–73.

18. *Міхайлаў П. А.* Юзэфа Фларыянаўна Мацкевіч: (Да 80-годдзя з дня нараджэння) // Бел. лінгвістыка. – 1993. – Вып. 40. – С. 72–73.

19. *Міхайлаў П. А.* Тады слова серабро, калі справа золата: (Да юбілею Юзэфы Фларыянаўны Мацкевіч) // Роднае слова. – 1996. – № 7. – С. 87–92.

20. *Міхайлаў П. А.* Вялікі працаўнік і крыштальнай душы чалавек: Да юбілею Юзэфы Мацкевіч // Роднае слова. – 2001. – № 5. – С. 91–93.

21. Мацкевіч Юзэфа Фларыянаўна, беларускі савецкі мовазнавец (чл.-кар. АН БССР, д-р філал. навук) // Беларуская савецкая энцыклапедыя. – Мн., 1973. – Т. 7. – С. 105.

22. Мацкевіч Юзэфа Фларыянаўна – беларускі савецкі мовазнавец // Беларуская ССР: Кароткая энцыкл. – Мн., 1981. – Т. 5. – С. 414.

23. Мацкевіч Юзэфа Фларыянаўна // Энцыклапедыя літаратуры і мастацтва Беларусі: У 5 т. – Мн., 1986. – Т. 3. – С. 489.

24. Мацкевіч Юзэфа Фларыянаўна [беларускі мовазнавец] // Беларуская мова. Беларуская энцыклапедыя. – Мн., 1994. – С. 340–341.

25. Мацкевіч Юзэфа Фларыянаўна // Беларусь. Энцыклапедычны даведнік. – Мн., 1995. – С. 472.

26. Мацкевич Юзефа Флориановна // Гуманитарии и обществоведы Национальной академии наук Беларуси: Беларускі кнігазбор. – Мн., 1997. – С. 53–54.

# ПРЫНЯТЫЯ СКАРАЧЭННІ

| | |
|---|---|
| абразл. | – абразлівае |
| адз. | – адзіночны лік |
| бат. | – батаніка |
| безас. | – безасабовае |
| выкл. | – выклічнік |
| груб. | – грубае |
| дзеепрым. | – дзеепрыметнік |
| дзіц. | – дзіцячае |
| ж. | – жаночы род |
| жарт. | – жартоўнае |
| заал. | – заалогія |
| займ. | – займеннік |
| зак. | – закончанае трыванне |
| зборн. | – зборны назоўнік |
| злучн. | – злучнік |
| зневаж. | – зневажальнае |
| іран. | – іранічнае |
| ласк. | – ласкальнае |
| ліч. | – лічэбнік |
| м. | – мужчынскі род |
| м. і ж. | – агульны род |
| метаф. | – метафарычнае |
| мн. | – множны лік |
| н. | – ніякі род |
| незак. | – незакончанае трыванне |
| пабочн. | – пабочнае слова |
| пагард. | – пагардліва |
| памянш. | – памяншальная форма |
| памянш.-ласк. | – памяншальна-ласкальная форма |
| перан. | – пераноснае значэнне |
| прым. | – прыметнік |
| прыназ. | – прыназоўнік |
| прысл. | – прыслоўе |
| часц. | – часціца |
| экспр. | – экспрэсіўнае |

*Т. В. Валодзіна*

# СУСЬКІЯ (СУШАНСКІЯ) СЛОВЫ

Словы запісаны ў вёсцы Су́ша Лепельскага раёна Віцебскай вобласці ад маіх бацькоў Скакуна Васіля Ніканоравіча і Скакун Соф'і Іосіфаўны ў 1997–1998 гг.

АБЛАЧБА´НІЦЬ *зак.* Абстрыгчы абы-як, часцей нагала. *Во дзядуля Віцьку аблачба́ніў, усе людзі разбягуцца.*

АБРАХАВА´ЦЬ *зак.* Выбраць для сябе, абмеркаваць, вырашыць тую ці іншую праблему. *Мы абрахава́лі пусціць таго парасёнка ў зіму.*

АГА´ЗЗЮ *прысл.* Назойліва. *Ня лезь ага́ззю, адчапіся, займісь чым-небудзь.*

АКАЛА´ЧАВАЦЦА *незак.* Марнаваць час. *Цэлае ўтра акала́чаваюся, заварку ніяк ні пастаўлю.*

АПО´ЎЗЛІК *м.* і *ж. жарт.* Дзіця. *Калі ўжо гэты апо́ўзлік хадзіць пачнець?*

АПЫ´РХНУЦЬ *зак.* Аслабець, апусціць крылле (пра захварэўшую птушку). *Яшчэ адзін цяплюк апырх, скора, мусіць, здохніць.*

АСАМАШЭ´ЦІЦЦА *зак.* Страціць развагу, розум, з'ехаць з глузду. *Алі асамашэ́ціўся, у вакно лезіць, ці табе дзвярэй німа?*

АТО´ХНУЦЦА *зак.* Задыхацца. *Міця аж ато́хнецца, вас калышыць, а цяпер вы яго пакалышыце.*

АХРА´П'Е *н.* Сабраная трава для свіней. *Нада ахра́п'я насабіраць, каб на два дні хвасціла.*

БАРЛЁШЫ *мн.* Абутак, часцей абрэзаныя гумавыя боты. *Хай бы ты барлёшы надзеў у хлеў іці, а то гразь дужа.*

БАСЦІ´СЯ *незак.* Лезці, сунуцца. *Куды ты бадзе́сься. Ці ня відзіш – ад гразі недзе дзецца.*

БУ´РДАЎКА *ж.* Дзіцячая зáбаўка, гузік на звязанай нітцы, расцягваючы якую ўтвараецца гук. *Зроб Віцю бýрдавачку, хай гуляіць.*

БЯДЗІ´ЦЬ *незак.* Непакокоіцца. *Мне вот бядзíць, што ня ўспела цыбулю пачапаць.*

ВАЙЛА´К *м.* Непаваротлівы, марудны (часцей пра каня). *Алі каб гэты вайлáк хуць троху скарэй ішоў.*

ВЫ´СЕДЗЕЦЦА *зак.* Вывесціся. *У нас сёлета выседзеліся чорныя і рабыя піскляты.*

ВЫ´ХАРТАВАЦЦА *зак.* Моцна захацець есці. *Як выхартаецца карова зімой, дык будзець есці.*

ВЯ´ЗГАЦЬ *незак.* Звягаць. *Як першы раз гоніш, замок клалі пад ногі карові, замакалі, а ключ у карман, каб ніхто ні вязгаў на каров.*

ГАРНУ´ШАК *м.* Начны гаршок. *Ідзі, дзетка, гарнýшак за печкай.*

ГВА´ГА *ж.* Штосьці мокрае, брыдкае. *Палез дзядуля за пічанёўкамі, а там адна гвáга.*

ДАЛУКА´Х *прысл.* На падлозе. – *Ня лезь туды, а то далукáх січас будзіш.*

ДЗЮ´ШКА *ж.* Свіння. *Сёлета дзэшкі ў нас спраўныя, ядуць як не ў сябе.*

ДРО´ГКА *прысл.* Няроўна (гл. *дрóгкі* – які трасе або трасецца). *Ні ляці з гары на віласіпедзі, там дрогка дужа.*

ДРУ´ЗНУЦЦА *зак.* Паваліцца. *Ні вядзі ты яго туды, а то дрýзніцца, ён яшчэ мáлы.*

ДРУ´КА *ж.* Прылада для апрацоўкі лёну для атрымання кужалю. *Друка – даска, на ей надзіваецца такое вазвышэння, у якоя набіты гвоздзі, гвоздзі шморгаюць, патрап'е астаецца, а кужаль ідзець.*

ДУДЗІ´ЦЬ *незак.* Ныць. *Хваціць табе ўжо дудзíць, аж худа робіцца.*

ДУДЭ´ЛІЦЬ *незак.* Ссаць пустышку. *Алі дакуль ты будзіш дудэ́ліць, кідай ужо.*

ДУДЭ´ЛЯ *ж.* Пустышка. *Такі бальшы маліц, а з дудэ́лій ходзіць.*

ЗАКАПЫЛІ´ЦЬ *зак.* Заўпарціцца, закапрызнічаць. *Дзяўчына закапылíла, нічога надзіваць ня хочыць.*

ЗІПА́ЦЬ *незак.* Моцна крычаць, рыкаць. *Там за гарой цялёнак нейкі зіпа́іць.*

ЗРАБЯ́ЦІЦЦА *зак.* Здзяцініцца, паводзіць сябе як дзіця. *Ты ўжо як раз зрабя́ціўся, абы-што робіш.*

ЗЯЛЕ́ПКА *ж.* Недаспелыя ягады, плады. *Сёлета ў нас не клубніка, так, зялепкі адны.*

КАМЫ́РДЗІЦЦА *незак.* Крывіцца. *Чаго ўжо ты камы́рдзісься, што табе не ў лад?*

КАПЫ́Л *м.* 1. Драўляная калодка для шыцця ботаў. 2. *перан.* Упарты чалавек. *Такі ўжо капы́л, упрэцца, нада яму тая карціна.*

КАРЖЭ́ЦЬ *незак.* Існаваць, жыць (пра старых). *Калі ўжо будзем налета каржэ́ць, дык двух парсюкоў завядзём.*

КІЛУВА́ЦІЦЦА *незак.* Ісці ў ствол (пра капусту). *Нешта сёлета капуста кілува́ціцца.*

КІ́РГАЦЬ *незак.* Квакаць. *Апяць раскі́ргаліся жабы, можа на дож?*

КЛЫ́ЖНІ *мн. груб.* Ногі. *Клыжні свае павыстаўляў, дык і ня пройдзіш.*

КО́РАБ *м.* Ёмістасць з саломы ў форме вялікага гарлача розных памераў (ад 50 і больш кг). *У нас два карабы, у адзін можа 70 кілаграмаў, а ў другі 200, ён такі пузаты, горла вузкае.*

КУЛАМЕ́СА *ж.* Таўкатня, марнае баўленне часу. *Ні так замарылася, як ат гэтай куламе́сы галава баліць.*

КУМАСЫ́СЛА *зневаж.* Да чалавека. *Кацярына свайго мужука называла: «Кумасы́сла ты».*

ЛАТА́ЦЦА *незак.*, ПАДЛАТА́ЦЦА *зак.* Сілкавацца, есці. *Харашо, як павукі ў хаці, пад балькай у нас як конь, прынясу яму авадня, хай падлата́ецца.*

ЛАТАШЫ́ЦЬ *незак.* Рваць траву, знішчаць. *Пусцілі курэй у гарод, а яны там агуркі латаша́ць.*

ЛАЦЬВЕ́Й *прысл.* Лепей, добра табе, шанцуе. *Лацьвей, як табе ўсе памагаюць, і бульбу садзіць, і на пасту.*

ЛУ́БКА *ж.* Лубка с саломы, сяўня. *У меншай лупцы зярно пераносілі, а ў большую што насыплюць, так стаіць, муку з жорнаў высыпалі.*

МЯ́ЛІЦА *ж.* 1. Мялка, прыстасаванне для апрацоўкі лёну. *Лён сушылі, а тады бралі па жмені, і клалі ў мя́ліцу і мялі.*

2. *перан.* Рот. *Як разі́ніць сваю мя́ліцу, дык гадка глядзець.* 3. *зневаж.* Жывёла. *Во мя́ліца праціўная, век упрэцца куды ні надо.*

НА´БРАДЗЬ *зборн.* Прыезджыя людзі ў вёсцы. *Поўна Сўша на́драдзі, усё парасця́гнуць.*

НАМЕ´СНІК *м.* Вясельны чын, паджанішнік. *Перваму наме́сніку ўлева цвет чапалі, а жаніху ўправа.*

НАЎСКАПЫТА´ *прысл.* Хутка, бягом. *Дзверы закрывай, а то Віцька ляціць наўскапыта́.*

НЕКАРЫ´СНЫ *прым.* Няздатны, абы-які. *Выскрабаш дзеўкам ні давалі есці, а то табе жаніх будзіць нікары́сны.*

НО´ТНЫ *прым.* Нервовы. *Алі такі но́тны, нічым ні ўладзіш.*

ПАБУЧНЕ´ЦЬ *зак.* Паправіцца, патаўсцець. *Хоць троху ягоны маліц пабучне́ў, а то гадка было глядзець – адны косці.*

ПАВЕ´ЦЬ *ж.* Гаспадарчая прыбудова для захоўвання гаспадарчага інвентару. *У нас у павеці ўсяго напхана, што можна паваліцца, чорт і той нагу зломіць.*

ПАВІ´РУЧ *м.* Дэталь кроснаў. *У нас на чардаку і паві́руч валяецца, і бёрды, і ска́ла.*

ПАНДО´ПЛЫ *мн.* Штаны з шырокімі калошынамі. *Таня пандо́плы надзела і пашла варочаць сена.*

ПАПУЦЁХА *ж.* Жанчына ў доўгай да пят спадніцы. *Ні надзівай ты гэту юбку, а то як папуцёха.*

ПАРЦЯНЫ´ *прым.* Самароблены, вытканы з лёну. *Вокны добра выціраць парцяной трапачкай.*

ПА´ТРАП'Е *н.* Рэшткі, якія застаюцца пасля апрацоўкі лёну. *З патрап'я вілі вяроўкі, такія някрэпкія, імі лапці патплі-талі.*

ПАЎПУ´РАК *м.* Сплеценая з саломы ёмістасць на паўтара пуда. *У нас з саломы ёсь і га́рнец, і сіва́лка, і лу́бка, і кораб, і паўпу́рак.*

ПАЎШАБЭ´ЛАК *м.* і *ж.* *груб.* Дзіця. *За гэтымі паўшабэ́лкамі яблыка ня ўвідзіш.*

ПАЦІГА´КА *м.* і *ж.* Дрэнны гаспадар. *Пацігáка такая ёсь, жывець у Стахванавай хаці, а старую хату разбіраюць і палюць, во які хазяін.*

ПЕ´ЎНАЕ *прым.* Аплодненае яйка. *Дала нам няпе́ўных яец, а толькі адзін выседзеўся.*

ПІ´ЛЬНА *прысл.* Дужа. *Пільна нада агуркі дасадзіць, сённі ж Пахом.*

ПІ´ПА *ж.* У забаўлянках нейкая істота.

*Пі́па кашку варыла,*
*На палічку станавіла,*
*Гэтаму давала...*
*А ты, мальчык-с-пальчык,*
*Твая кашка на палічкі.*
*Тут пень. Тут калода,*
*Тут асінавая ізгарода.*

ПІЦАВА´ЦЬ *незак.* Старанна, напружана працаваць. *Во дзе піцу́ець, у чатыры у́станіць, усё робіць.*

ПО´ЛКА *ж.* Пялёнка. *Даўней казалі, по́лкі нанач на вуліцы ні кідаць, а то начніцы прыкінуцца.*

ПРАСЦЮПЕ´ХА *ж.* Неахайная жанчына. *Прасцюпе́ха ты, нічога ня ўберыш, усюдах гразь.*

ПРЫБЫ´ЦКІ *прым.* Прышлы. *Сарачанку прыбы́цкаму нада аддаць, каб усё было добра.*

ПРЫПУЦІ´ЦЦА *зак.* Прыжыцца, ажаніцца. *Недзе ж прыпуці́ўся ў горадзі і жывець там.*

ПРЫШЧА´ЦЬ *зак.* Быць раскормленым, сытым. *Наш Дружок нейкі худы, во іхны аж прышчы́ць.*

ПЭ´ЦКАЛЬ *м. жарт.* Дзіця. *Малы ты пэ́цкаль, чаго ты туды прэш?*

РАЗАДАВА´ЦЬ *незак.* Бунтаваць, капрызнічаць. *Ну, алі што за рабёнак, толькі разадава́ць.*

РАСШЫШЭ´ЦЬ *зак.* Раздурэцца. *Расшышэ́ў перад сном, цяпер ніяк не паложыш.*

РУБІ´НКА *ж. памянш.* Рубец, шво. У выразе «да рубінкі». *Так рабіў, што аж спацеў да рубі́нкі.*

САРАЧА´НКА *ж.* Булачка, якую пяклі на Саракі. *У адну сарачанку запікалі капейку, каму трапіцца – то добра.*

СПАВЯДА´ЦЬ *незак.* Лаяць, выгаворваць, дакараць. *Во іна яго спавяда́іць, дык той ні знаіць дзе дзецца.*

СУВЯРЭ´КА *м.* і *ж.* Недарэка. *Во дзе сувярэ́ка, зашыць ні сумеіць.*

СУ´СЬКІ *прым.* Сушанскі. *Гэта ня су́ські, прыблу́да нейкая, чаго ён тут цігаецца.*

СХА´ЛЧЫЦЬ *зак.* Забыцца дзе паклаў. *Дзе я схáлчыла тую рубашку, хоць бы хто нашоў.*

ТРАНТ *м. зневаж.* 1. Адзенне. *Скарэй сабірай свае транты.* 2. *перан.* Незнаёмы нікчэмны чалавек. *Вун трант пашоў нейкі, паглядзі куды.*

ТУРЫ´ЦЬ *незак.* Будзіць. *Пайду Віцьку турыíць, хай ідзець касіць.*

УДЫ´РА *м.* і *ж.* Забіяка, капрызлівае дзіця. *Яе большы маліц такая удыíра, каму хочаш вочы выдзірыць.*

УКАМШЫ´ЦЬ *зак.* Упхаць, пакласці ў рот кавалак не кусаючы. *Нашто ты цэлы блін укамшыíў сабе ў рот?*

УТУРПА´ЧЫЦЬ *зак.* Пакласці што-небудзь і забыцца. *Куды я ўтурпачыла тую кофту, ці відзіў хто?*

УШЧЭ´ПНІК *м.* Невялікая сумка, торба з пачопкай. *Тут нада было з кароміслам іці, а ты з ушчэ́пнічкам прышоў.*

ЦЕЛЯПЕ´НЬ *м.* Недарэка. *Былі такія дзеўкі, ці гарбаыя, ці крывыя, што ніхто іх замуж ні браў, і мальцы такія былі, што доўга ні жаніліся. Бацька дачкі гаварыў пад вакном мальца: «Целяпень-целяпéнь, ці нада на даўбень».*

ЦЮ´МКАЦЬ *незак.* Есці (пра дзіця). *Во, палядзі, ён і вафлінку цю́мкаіць, усё купляць нада.*

ЦЯПЛЮ´К *м.* Кураня. *Чаго гэты цяплю́к сюды ўбіўся? Каб карова заціснула?*

ЦЯСЮ´ТА *ж.* Назва коровы (пры падзыванні) *Цясю́та мая́, цясю́тка, хадзі сюды, цёська, цёська. Цёсь-цёсь-цёсь.*

ЧМА´РА *ж. зборн.* У выразе «як чмары» – шмат. *Там дзяцей як чмары́ ля возера, а крычаць нéма.*

ШЧЭНЬ *зборн. зневаж.* Дзеці. *Апяць шчэнь па гароду пашла.*

*І. А. Дзендзялеўскі*

# ТРАДЫЦЫЙНАЯ ЛЕКСІКА ГАВОРКІ ВЁСКІ ЗАЛЕССЕ КОБРЫНСКАГА РАЁНА БРЭСЦКАЙ ВОБЛАСЦІ

Гэты даклад з'яўляецца працягам даследавання лексікі гаворкі вёскі Залессе на Брэстчыне на аснове матэрыялаў, сабраных аўтарам[1] у ліпені 1964 г. ад старэйшага і найстарэйшага пакаленняў карэнных жыхароў вёскі[2] .

**Сям'я, роднаснасць, сваякі**: *мáты, мáма, бáтько, батькы́* 'бацькі', *тáто, сэ^ы стрá, брат, двоййу́родный брат, двоййу́родна сэ^ы стрá, мужык* 'муж', *жй нка* 'жонка', *дыты́на, сын, дочкá, блызн'áтка, блызн'у́к, блызн'у́чка, одынáк, одынáчка, сыротá, байстру́к* 'пазашлюбны сын', 'пазашлюбнае дзіцё', *байстру́чка* 'пазашлюбная дачка', *пáсынок, пáсэ^ы рбыц'а, ойчым* 'айчым', *мáчоха, сымйá, д'ід, бáба, прáд'і́д, пробáба, внук (уну́к), вну́ка (уну́ка),вну́чка (уну́чка), мн. вну́кы (уну́кы), свэ^ы крóв* (Р. адз. *свэ^ы крэ^ы в'і́*) 'свякроўка', *св'і́кор* (Р. адз. *св'і́кра*), *тэ́шча, тэс'ц', не^ы в'і́стка, з'ат', братьі́ха* ці *братовáйа* 'жонка брата', *д'і́вэр, свойáк, утрыв'і́нка* 'жонка мужыковага брата', *с'в'і́ст'* 'сястра жонкі', *зоввы́ц'а* 'сястра мужа', *д'áд'ко* 'брат бацькі, маці', 'любы старшы чалавек', *т'йтка* 'цётка', *д'áдына, вдовы́ц'а, вдовэ́ц', жэ^ы ны́тыс'а, іты зáмуж, д'і́вка* 'дзяўчына недзе паміж 14–18 гадамі', *кавал'і́р* 'хлопец паміж 14–18 гадамі', *старáйа д'і́вка* 'старшая дзяўчына, якая не выйшла замуж', *стары́й кавал'і́р* 'старшы мужчына, які не ажаніўся', *покы́данка* 'жанчына, якая разлучылася з мужам', *покыдáнэц'* 'мужчына, які разлучыўся з жонкай', *прычэ́па* 'жанчына, што жыве з мужчынам без шлюбу', *прыймáк*.

---

[1] Ад рэдкалегіі:

Трэба ўлічваць «падладжванне» мясцовых жыхароў пад гаворку закарпацкага госця-украінца. У гэтай зоне, апрача сваёй гаворкі, ведаюць і могуць размаўляць па-украінску, па-руску, па-польску і (у школе) па-беларуску. У рэдагаванні артыкула прыняў удзел носьбіт даследуемай гаворкі, аспірант НАН Беларусі – В. М. Хвірысюк.

[2] Гл. Й. О. Дзендзелівський. Традиційна сільськогосподарська лексика села Залісся Кобринського району на Берестейщині // Літвјежа (поліська) штудіјно-прахтыцька конфырэнция. Тэзы проказэј (13—14 априля 1990 р.). Пынськ, 1990. С. 78—80.

**Чалавек і яго рысы:** *чэ^ы^рн'áвый* 'чарнявы', *рус'áвый, ры́жый, сы́вый, кучэ^ы^р'áвый, лы́сый, глухы́й, нымы́й* 'нямы', *заі́кôватый* або *пы́кавый* 'заіклівы', *заі́кôватыс'* альбо *запы́ко^у^ватыс'* 'заікацца', *слэ^ы^пы́й* 'сляпы', *кусы́й* ці *кусо^у^ óкый* 'касавокі', *кал'і́ка, кул'гáвый* 'кульгавы, крывы', *горбáтый, тóвстый, свыст'ӥл* (Р. адз. *свыст'олá,* Д. адз. *свыст'олóвы;* параўн. *свыст'óлык* 'свісток') 'вельмі тонкі, худы', *бэ^ы^ззýбый, стары́й, здорóвый, зап'і́кс'а* 'які загарэў, у якога на твары ад сонца маленькія карычневыя крапінкі', *шармáтый* 'плячысты, каржакаваты', *бóрôх* 'барэц', *слабы́й* 'кволы, слабы, хваравіты', *хворов'і́кôвáтый* 'хваравіты', *кашлы́вый* 'які часта кашляе', *л'івôшн'á* 'ляўша, ляўшун', *з лáпт'амы* 'пляскатаступнёвы', *крас'і́вый* 'прыгожы', *хорóшый* 'прыгожы', *нэ^ы^полноýмный* альбо *дурны́й,* альбо *самошэ́дшый* 'дурны', *прыдýркôватый* ці *нэ^ы^довáрок* (Р. адз. *нэ^ы^довáрка*) 'які не зусім дурны, але і не зусім разумны', *гул'тáй* 'лодыр, які ўсё робіць кепска', *гул'тáйка* 'гультаяватая жанчына, дзяўчына', *лынýйет'с'я* 'лянуецца', *робóчый* 'які ўсё робіць добра і старанна', *партáчыт'* 'усё робіць кепска, абы як', *лахýдра* 'нягоднік, нікуды не варты', *дóбрый, правды́вый, мот'ун* (Р. адз. *мот'уна́*) 'хлус, ілгун, манюка', *обмáн'уйе* 'падманвае', *богомӥлный* 'багамольны', *трэ^ы^пло́* 'балбатун, ілгун', *рáдыты* 'даваць параду, раіць', *ты́хый* 'маўчун, маўклівы', *назӥлнывый* 'назола, назойлівы', *хвастýн, хвастýнка* 'хвалько, самахвалка', *плэ^ы^т'уха* 'пляткар', *плэ^ы^т'ӥнка* 'пляткарка', *упóрл'івый* 'упарты', *лыхы́й* 'злоснік, гарачы, запальчывы', *розбӥйнык* 'які любіць біцца з іншымі', *задайéт'с'а, завы́ный* 'зайздросны', *зáздрост'* 'зайздрасць', *заздровáты* 'зайздросціць', *танцóрка, танцóр, бáбнык* 'бабнік', *звы́нный* 'спрытны, паваротлівы, кемлівы' *жáрты, жартôвáты, жартовлы́вый* 'жартаўлівы', *смыйýнка* 'малая дзяўчынка-рагатушка', *збыткôвáты* 'здзеквацца', 'насміхацца над кім-н.', *шчы́рый* 'ахвочы да працы', *шчóдрый, стрóгый, хы́трый, ныкчэ́мный, свыстýн, ны^ы^р'áха, чы́стый, пйáныц'а, пы́ты* 'выпіваць спіртное', *пэ^ы^рэ^ы^бырáты* 'праяўляць пераборлівасць у ежы і інш.', *пы́шный, шчэ^ы^рбáтый* 'бяззубы', *рэ́ва, рэ^ы^вýшка* 'малое дзіцё, якое плача бесперапынна'.

**Вясковыя адносіны, прафесіі:** *сус'і́д, сус'і́дка, богаты́р* 'багацей', *богáчка* 'багачка', *б'і́дный, быдн'áк, батрáк, батрáчка, наслáнэц'* (Р. адз. *наслáнц'*а) 'мужчына, які адслужыў 8–10 гадоў у войску і па дарозе дамоў застаўся ў чужой вёсцы', *комӥрнык* 'землямер', *орэ́нда, огорóдн'ік* 'агароднік', *садóвн'ік* 'садоўнік', *пчоловóд, урáдн'ік* 'ураднік', *двӥр* (Р. адз. *дворá*) 'двор', *фыл'вáрок* 'маёнтак сярэдняй велічыні', *майóнток* 'вя-

лікая памешчыцкая гаспадарка', *сто́рож, ко́н'ух, одына́р'ійа* 'плата натурай за працу ў фальварку і інш.', *па́рубок* (Р. адз. *па́рубка*) 'пасыльны, слуга, наймiт', *ху́рман, доййа́рка, пасту́х, пасту́шка, покоййівка* 'пакаёўка', *куха́рка, по́вар, пло́тн'ік* 'цясляр', *му́л'ар, сто́л'ар, скл'ар, пэ^ы^чні́к* 'пячнік, муляр', *комына́р* 'камінар', *ка́мэншчик, л'і́сн'ічый* 'ляснік', *дровос'ек* 'дрывасек', *охо́тник* 'паляўнічы', *ково́л', ковальі́ха* 'жонка каваля' *ма́йстэр, то́кар, стэ́л'мах, бо́ндар, горшчэ́чнык* 'ганчар', *шку́рнык* 'дубільшчык, гарбар', *шку́рныц'а* 'жонка гарбара', *портні́й* 'кравец', *кравэ́ц', кравчьі́ха* 'жонка краўца', *рьі́мар, швэ́ц'* 'шавец', *шэ^ы^вчьі́ха* 'жонка шаўца', *шва́чка, ша́почнык* 'шапачнік', *ону́чник* 'анучнік', *мэ́л'ник, мэ́л'нычыха* 'жонка млынара', *ковба́сник, гьі́цэл'* (Р. адз. *гьі́цл'а*, Д. адз. *гьі́цл'овы*) 'гіцаль'.

**Гандаль:** *рьі́нок, торго́выц'а* 'плошча, на якой прадаюць і купляюць толькі жывёлу', *йа́рмарка* 'кірмаш', *купэ́ц', продавэ́ц', купчьі́ха* ці *пэ^ы^рэ^ы^ку́пшчыц'а* 'перакупшчыца'.

**Школа**: *шко́ла, учэ^ы^н'і́к* 'вучань', *учэні́ц'а, уч'і́тэл', лавка* 'парта', *крэ́йда, т'ітрад'* 'сшытак', *чэ^ы^рн'і́ло, чэ^ы^рн'ільні́ц'а, каранда́ш, пыро́, ру́чка з пыро́м, ґу́мка, буква́р.*

**Вясковая адміністрацыя**: *со́лтыс* 'вясковы стараста', *війт* 'войт'.

**Пошта і інш.**: *пыс'мо́, конôвэ́рт* 'канверт', *ма́рка, суд'а́* 'суддзя'.

**Народныя вераванні і абрады**: *Бі́г* (Р. адз. *Бо́га*), 'Бог', *Роздво́* 'Народзіны Хрыста', *кôл'ада́* 'куцця', 'вячэра напярэдадні Калядаў'; *сват* ці *дружко́* 'той, хто прыводзіць сватоў да маладой (звычайна ім бывае хрышчоны бацька, альбо дзядзька, альбо муж сястры)', *огл'а́дыны, запо́йіны* 'заручыны', *заручо́ный, заручо́на; за́повэд'* (ж.) 'абвяшчэнне бацькоў маладых пра наступны шлюб, якое поп тройчы абвяшчаў у царкве за тры тыдні да вяселля', *оглашэ́н'ійе* 'тс', *выно́к* (Р. адз. *вынка́*) 'вечар у маладой напярэдадні вяселля' (маладая збірае ўсіх сяброўак, якія сплятаюць ёй вянок; прыязджае малады, выкупляе сплецены вянок, пасля чаго маладой надзяваюць яго на галаву, яна дзякуе сяброўкам за вянок; абрад заканчваецца пачастункам); *молоды́й, молоду́ха* 'маладая', *брат* 'брат, шафер маладога ці маладой', *дружко́* 'шафер' *пэ́ршый брат* 'першы шафер, які трымае вянец над гадавой маладога ці маладой падчас вянчання і які знаходзіцца каля маладых ўвесь час на працягу вясельнага абраду'; *пэ́рша дру́жка; вэ́л'ун* 'вэлюм', *корова́й, марша́лок* 'удзельнік вясельнага абраду, які па чарзе выклікае родзічаў (сваякоў) маладых падыходзіць да каравая падчас яго раздачы' (пры гэтым, выклікаючы родзічаў, маршалак б'е ў столь спецы-

яльнай палкай, аздобленай барвенкам, каляровымі стужкамі. Калі вясельнікі едуць да маладога, маршалак выкрыквае час ад часу *гоп!* – каб было вядома, што яны вязуць маладую); *ба́т'ко хрэ$^{\text{ы}}$шчо́ный* 'хросны', *ма́ты хрэ$^{\text{ы}}$шчо́на* 'хросная', *сын хрэ$^{\text{ы}}$шчо́ный* 'хроснік', *дочка́ хрэ$^{\text{ы}}$шчо́на* 'хросніца'; *кум, кума́, хрэ$^{\text{ы}}$сты́ны* 'хрысціны', *крыж, кры́жык; музы́кы, музыка́нт, скры́пка, смык* 'смычок'; *гармо́н'а* 'гармонік', *гармон'і́ст, бу́бон* 'бубен', *бубо́ншчык* 'барабаншчык', *свыст'ӥл'* (Р. адз. *свыст'ола́*, М. адз. *на свыст'ӥло́вы*) 'жалейка, дудка'.

**Танцы**: *кру́глый, по́лька, мазу́рка.*

**Будаванне хаты**: *закла́дшчына* 'пачатак будавання хаты і звязаныя з ім абрады'; *кв'і́тка* 'аздобленыя галінкі, прымацаваныя ў вільчаку, якія сведчаць пра тое, што зруб ужо збудаваны і на ім уведзены кроквы', *вхӥдшчына* 'наваселле'.

**Сельскагаспадарчыя работы**: *зас'і́вкы* 'першы дзень, пачатак сяўбы ці звязаныя з ёй абрады: перад Вялікаднем пякуць пернікі ў выглядзе плуга, бараны, крыжа; пасля таго, як яны добра высахнуць у печы, іх захоўваюць у каморы да восені, пакуль не пачнецца перыяд сяўбы; выязджаючы да ўсходу сонца ў першы дзень на поле сеяць, гаспадар бярэ гэтыя пернікі з сабою; пасеяўшы і завалачыўшы, ён вяртаецца дамоў; уся сям'я частуецца; пасеяць трэба было зараней, каб людзі не бачылі, што пасеяна'; *зажы́нкы, дожы́нкы; коса́* 'закручанае ў касу і акінутае ў полі нязжатае жыта'; *толока́* 'талака, калектыўная дапамога гаспадару пры малацьбе збожжавых машынай, пры рэзанні сечкі зімой і інш.'; *по́пр'ады* 'попрадкі'.

**Дэманалогія:** *чорт, домовы́й, в'і́д'ма, краснол'у́док* (Р. адз. *краснол'у́дка*) 'гном'.

**Чары і варажба:** *чарова́ты, чаровны́к, чаровны́ц'а, уро́чыты* 'насылаць на каго-н. хваробу поглядам', *уро́кы* 'сурокі', *одговоро́$^{\text{у}}$ваты уро́кы* 'замаўляць ад сурокаў', *калдова́ты* 'чараваць', *колдовны́к, колдунны́ц'а* 'чараўніца, вядзьмарка', *ворожы́ты, воро́жка, ворожа́й* 'варажбіт', *ворож'і́н'н'е.*

**Рэльеф:** *зэ$^{\text{ы}}$мл'а́* 'раўніна', *пату́рок* (Р. адз. *пату́рка*) 'узгорак', *гора́, вэрх* 'вяршыня гары, вяршаліна, верхняя частка коміна'; *ка́мэн'*; *про́пасть* 'глыбокае месца ў возеры; дрыгва, зарослая травою, мохам, куды можна праваліцца'; *долы́на; р'і́чка, дно, чы́ста вода́, му́тна вода́, глубо́ко, м'і́лко, зал'і́в* 'мясцовасць каля рэчкі, якая заліваецца ўвесну вадою', *о́зэ$^{\text{ы}}$ро, са́жувка* 'сажалка', *кана́л, му́л'а* (*ж.*) 'глей', *хва́л'а* (на вадзе), *боло́то, торфйа́нык* 'тарфянік', *стожары́ско* 'стажар'е, цвёрдае ўзвышша, астравок на балоце, дзе можна класці сена', *дэ$^{\text{ы}}$рн'а́к* 'дзір-

ван’, *по́плав* ’поплаў’, *ло́нка* ’сенажаць, месца, дзе косяць траву на сена’.

**Метэаралогія:** *в’і́т’ор* (Р. адз. *ві́тру*), *вы́хор* ’віхор’, *бу́ра* ’ураган, навальніца, моцны вецер без дажджу і хмар’, *в’і́трык* ’лёгкі ветрык’, *мо́лн’ійа* ’маланка’, *мо́лн’ійа блы́скае, грі́м* (Р. адз. *гро́му*), *пеᵘру́н* ’гром’, *грі́м грэᵘмы́т’, а пэᵘру́н бʼйэ; ра́дуга* ’вясёлка’, *ра́дуга бэᵘрэ́ во́ду, дошч* (Р. адз. *дошчу́*), *вэлы́кый дошч* ’лівень, залева’, *родьі́тэл’* (Р. адз. *родьі́тэл’а*) ’дробны працяглы дождж’, *моросьі́т’* ’імжыць, імгліць’, *л’л’е, л’л’е йак з выдра́* ’ідзе вялікі дождж’, *задошчы́лос’а; гнойа́нка* ’працяглае дажджыстае надвор’е’; *дошчовьі́ц’а* ’дажджавая вада на полі, на дарозе ў каляінах; чыстая, сабраная дажджавая вада’; *боло́то, кал* ’гразь’; *град, град па́дайе, хма́ра, о́блак* (м.) (Н. мн. *облака́*) ’белая хмара на небе’, *хма́рыт’с’а, хму́рный д’эн’* ’пахмурны дзень’, *хму́рно,* ’воблачна’; *роса́, тума́н, сн’іг, сн’іг ідэ́, па́дайе лапа́тый сн’іг; крупа́* альбо *голодьі́ц’а* ’дробныя сухія сняжынкі’, *завыру́ха* ’снег з ветрам, снежная бура’, *пла́хаты* ’кідаць снегам (пры завірусе)’, *гу́рба; шкарал’у́па* ’шарпак, шарон’; *моро́зы* ’мароз’, *л’і́д* (Р. адз. *л’о́ду,* Т. адз. *л’о́дом*), *голол’о́дыц’а* ’галалёд’, *кры́га, і́ный* ’шарэнь, іней’, *сві́чка* ’лядзяк, лядяш’, *одлы́га* ’адліга’.

**Поры дня і ночы:** *нэ́бо, со́нцэ, до схо́ду со́нц’а, вдо́свыта* ’пара дня перад узыходам сонца’, *свыта́йе* ’днее’, *со́нцэ схо́дыт’, схі́д* (Р. адз. *схо́ду*), *ра́нок* (Р. адз. *ра́нку*), *подоб’і́док* ’пара дня паміж раніцай і полуднем’, *по́лудэн’, об’і́д* ’час найвышэйшага стаяння сонца над гарызонтам’, *пополу́дн’у, з об’і́да* ’папаўдні’, *захо́дыт’ со́нцэ, захі́д* (Р. адз. *захо́ду*), *змэᵘрка́йе (змэᵘрка́ты)* ’(наступае) ша́рая гадзіна’, *вэ́чор, ні́ч* (Р. адз. *но́чы*), ’ноч’, *му́цно ні́ч тэ́мна* ’вельмі цёмная ноч’, *по́вноч* ’поўнач’, *по́ночы* ’калі цёмна, у цемры’, *т’ін’* (ж.).

**Месяц і ягоныя фазы:** *м’і́с’ац’, молоды́й м’і́с’ац’, молоды́к* ’перыяд, калі месяц яшчэ не відзен, хаця неба светлае; перыяд, калі месяц мае выгляд сярпа’, *половы́на м’і́с’ац’а,* ’перыяд, калі месяц павялічыўся да паловы’, *по́вный м’і́с’ац’, по́вн’а* ’перыяд, калі месяц круглы’; *спо́вн’і* ’перыяд, калі месяц пачынае памяншацца’; *погі́длывый м’і́с’ац’* ’месяц, калі добрае надвор’е’.

**Зоркі**: *зора́* ’зорка’, *вэᵘчі́рн’а зора́, ра́н’ішн’а зора́, Ві́з* (Р. адз. *Во́за*) ’сузор’е Вялікі Воз’, *Косар’і́* ’сузор’е Арыён’, *Мэᵘдвэ́дыц’а, Доро́га,* ’Млечны шлях’.

**Меры часу:** *кал’енда́р, часы́* ’гадзіннік’ *мыну́та* ’кароткі адрэзак часу’, *су́ткы* ’суткі’, *м’і́с’ац’* ’месяц’, *год* ці *рі́к* ’год’, *высоко́сный рі́к, до гэ́того ро́ку, про́шлый* ці *л’і́т’ушный год*

’мінулы год’, *позал’іт’ушный год* ’пазамінулы год’, *л’íт’ус’* ’мінулага года, летась’, *гэ́той рі́к* ’цяперашні год’; *тыждэнь’* ці *нэ$^{ы}$д’íл’а, понэ$^{ы}$д’íлок, вто́рок, сэ$^{ы}$рэда́, чэ$^{ы}$твэ́р, піа́тныц’а, субо́та, нэ$^{ы}$д’іл’а, робо́чый дэн’, нэ$^{ы}$д’íл’а* ці *свіа́то* ’дзень, калі адпачываюць, не працуюць’, *тэ$^{ы}$пэ́р* ’сёння’, *вчо́ра, позавчо́ра, позавчірышный дэн’, за́втра, за́втрэ$^{ы}$шній дэн’, по́сл’а за́втрыйа* ’паслязаўтра’.

**Поры года:** *чэ́твэрт’* ’квартал’, *вэ$^{ы}$сна́, л’íто, о́с’эн’, зыма́, вэ$^{ы}$сн’а́ный, ос’íнный, зымо́вый; жара́* ’гарачыня, спёка’; *ба́бс’кэ л’íто* ’бабіна лета’; *сывба́* ’перыяд, час, калі сеюць у полі’; *косовы́ц’а* ’час касьбы’, *жныва́* ’жніво’.

**Лічэбнікі:** *одын,* ці *од’о́н, одна́, одно́; два, дві; тры, штыры, піат’, ш’іст’, с’ім, віс’ім, дэ́вэт’, дэ́сэт’, одына́цэт’, двана́цэт’, трына́цэт’, штырына́цэт’, піат’на́цэт’, шэ$^{ы}$сна́цэт’, с’імна́цэт’, вос’імна́цэт’, дэ$^{ы}$вэ$^{ы}$тна́цэт’, два́цэт’, тры́цэт’, со́рок, піадэс’а́т, шэ$^{ы}$здэс’а́т, с’емдыс’а́т, вос’імдэ$^{ы}$с’а́т, д’ів’іно́сто, сто, дв’е́ст’і, тры́ста, чыты́рыста, піатсо́т, ш’іссо́т, с’імсо́т, вос’імсо́т, дэ$^{ы}$вэ$^{ы}$тсо́т, тыс’ача, обы́два, об’íдвы, шчыта́ты* ’рахаваць’.

**Зборныя лічэбнікі:** *двойе, тройе, чэ́твэ$^{ы}$ро, піа́тэ$^{ы}$ро, шэ́стэ$^{ы}$ро, сэ́мэ$^{ы}$ро, во́с’мэ$^{ы}$ро, дэ́вэ$^{ы}$тэ$^{ы}$ро, дэ́сэ$^{ы}$тэ$^{ы}$ро.*

Пададзены вышэй лексічны матэрыял, як і засведчаныя ў ім фанетычныя і іншыя рысы, пераканаўча гавораць аб тым, што:

а) даследаваная гаворка належыць да заходнепалескай групы гаворак паўночнага (палескага) дыялекту;

б) у абследуемай гаворцы шмат беларусізмаў і, відаць, супольных украінска-беларускіх утварэнняў з розных гістарычных перыядаў;

в) як і ў іншых украінскіх ды беларускіх гаворках, размешчаных на польскім пагранiччы, у гаворцы в. Залессе адзначана значная колькасць паланізмаў.

*Пераклаў з украінскай мовы І. І. Лучыц - Федарэц*

*Н. В. Драбудзька*

# З ЛЕКСІКІ ВЁСКІ КАШТАЛЯНАЎШЧЫНА ГЛЫБОЦКАГА РАЁНА

Словы былі запісаны ў вёсцы Кашталя́наўшчына Глыбоцкага раёна Віцебскай вобласці ад Долгай Станіславы Антонаўны, 1922 г. н. і Долгага Івана Канстанцінавіча, 1923 г. н. у 1998 годзе.

АБМЫКА´ЦЬ *незак.* Абыходзіць кругом чаго-небудзь ці каго-небудзь з замком у руках і замыкаць (з засцерагальнай мэтай). *Як выганя́юць каро́ву на по́ле пе́ршы раз, замко́м абмыка́юць – ад ваўко́ў.*

АГЛЕ´ДЖАНЫ *прым.* Дагледжаны. *Была́ я ў По́льшчы на ру́скім кла́дбішчы – яко́е яно́ агле́джанае!*

АДЗЕ´РЖЫЦЬ *зак.* Прыпыніць (пра каня). *Ён каня́ адзе́ржыў, злез з во́за і стаў.*

АДРАБЛЯ´ЦЬ *незак.* Адчароўваць. *Была́ ў на́шай дзяр́эўні ба́бушка, яна́ ўме́ла адрабля́ць – калі́ хто каро́ву зачару́іць і та́я малако́ ні дае, то зва́лі ѓэту ба́бушку і яна́ адрабля́ла.*

АНДЫНА´РШЧЫК *м.* Батрак. *На па́на рабі́лі андына́ршчыкі, ён ім шэсць пудо́ў мукі́ плаці́ў і бо́лей нічо́га.*

АТМАЛІ´ *прысл.* Змалку. *Яна́ атмалі́ ўсё ўме́ла рабі́ць – і каро́ў даі́ць, і жаць, усё.*

АЧМУ´Р *м.* Гіпноз. *Быва́ла, прывязу́ць у маёнтак кіно́, мы сабяро́мся, а стары́я на нас ка́жуць: “Дурны́я вы, гэта́ вам ачму́р даю́ць, вот вам і выдаёцца ро́знае”.*

БАСЦЯ´ЦЦА *незак.* Бадзяцца. *Яго́ ніко́лі до́ма німа́, век басця́ецца не́дзе.*

БАРЛЁЧЫ *мн.* Бацінкі. *Даўне́й баці́нкі ўсе́ барлёчамі зва́лі.*

БУЛДАВА´ТЫ *прым.* Тоўсты і круглы. *І што ѓэта за бо́ты цяпе́р но́сяць – цяжкі́я, насы́ булдава́тыя, ці ѓэта мо́да за́раз така́я?*

ВУШЛА´ТКА *ж.* Зімовая шапка. *Малы́х піскля́т у стару́ю вушла́тку на́да пасадзі́ць, каб цёпла ім было́.*

ГАРАДУ´ ГАРАДЗІ´ЦЬ. Хлусіць. *Ня слуха́й ты я́го, ён та́бе гараду́ гаро́дзіць, а ты ве́рыш.*

ГУКА́ЦЬ *незак.* Размаўляць. *Зайдзі́ся да мяне́, пасядзі́м, пагука́ем з табо́й.*

ДЗЕРАВЯ́ШКІ *мн.* Від абутку. *Дзе́рава вычо́сывалі, абшыва́лі верх ко́жай і насі́лі, бо ні было́ чаго́ насі́ць.*

ДНІ́ШКА *н.* Крышка. *Дні́шка кру́глае, дзераўля́нае, дзе́жку накрыва́юць.*

ДУМАЎЁ *н.* Труна. *Даўне́й як памрэ́ць чалаве́к, то яго́ пало́жаць у думаўё і вязу́ць на́нач у цэ́ркву, кап ноч стаяў.*

ДУРЭ́ЦЬ *незак.* Выдурняцца. *Андрэ́й, ні дурэ́й, ні дзяры́ саро́чкі, ні ты праў, ні ты ткаў, ні твае́ і до́чкі* (прыпеўка).

ДУХ *м.* Цяпло. *Даўне́й ко́мінаў у ха́тах ні рабі́лі – ду́малі, праз яго дух выхо́дзіць.*

ЗАВУ́РЗГАЦЦА *зак.* Запэцкацца. *Дзе ж ты хадзі́ў, што гэ́дак заву́рзгаўся?*

ЗАМУДО́ХАЦЦА *зак.* Стаміцца. *Так за дзень замудо́хаюся, што к ве́чару аж валю́ся.*

ЗАПА́ШША *н.* Арэнда зямлі. *Запа́шша – гэ́та калі́ пан дае́ць зямлю́, і тады́ ро́біш на сваі́х ко́нях, палаві́на* (ураджаю) *сабе́, палаві́на па́ну.*

ЗАСМУ́ГАНЫ *прым.* Зашмальцаваны. *Ён адзі́н жыве́ць, ма́тка паме́рла, дык ніякага пара́дку ні ма́іць, у бо́тах і ватоўцы засму́ганай і хо́дзіць, і спа́ць кладзе́цца.*

ЗБЫЧЭ́ЦЬ *зак.* Здзічэць (пра кароў). *Каро́ва адна́ стаяла ў хле́ві ўсю́ зіму́, дык зусі́м збычэ́ла.*

ЗЫ́БАЛКА *ж.* Калыска. *Даўне́й рабя́т у зы́балках калыха́лі – пачэ́пяць яе на кручо́к на бэ́льцы ў сто́лі і калы́шуць.*

ІГРЫ́ШЧА *н.* Вечарынка. *Мы малады́мі хадзі́лі на ігры́шча, танцава́лі.*

ІСПО́ДКІ *мн.* Рукавіцы. *Ні́так тро́ху засталóся, рабя́там іспо́дкі зраблю́. Палажы́ іспо́дкі на печ, каб да ра́ніцы вы́сахлі.*

КАЗЁНКА *ж.* Гарэлка. *К свя́ту на́да па́ру бутэ́лек казёнкі купі́ць.*

КАРЭ́ЛЫ *прым.* Брудны. *Гро́шы насабіра́ў, а сам хо́дзіць у рызі́навых бо́тах, карэ́лы, да́жа ў ха́ці ня це́пліць.*

КРА́ТАЦЬ *незак.* Варушыць. *Як выно́сяць з ха́ты пакó́йніка, усё кра́таюць – і пчол, і скаці́ну, кап нічо́га ні ўміра́ла.*

КУ́БЛА *н.* Скрыня круглай формы для адзення. *Ку́бла – кру́глая дзе́жка із дзвюма́ ру́чкамі збо́ку, перагаро́дка наскро́зь,*

*і склáдвалася адзёжа: з аднагó бóку бяльё, з другóга – пáльты, дáўней з íмі зáмуж ішлí.*

КУСА́НІК *м.* Недаедак. *Нікóлі не кідáй кусáнікі нáнач – у сне пужáцца бýдзіш.*

КУ́ФАР *м.* Скрыня для адзення. *Усю́ адзёжу, дáжа і пáльты, клáлі ў кýфар, бо шáфы ні былó.*

ЛАВУ́ШЧЫ *прым.* Які добра ловіць мышэй (пра ката). *Дýжа дóбрая гэ́тая нáша кóшачка, такáя лавýшчая.*

ЛАСКАТА́ЦЬ *незак.* Балбатаць. *Мне рабóту рабíць нáда, а яна прыйшлá, сéла ды ласкóчыць.*

ЛАХАНДА́ *ж.* Пляткарка. *Не слýхай ты гэ́ту лахандý, янá век абы́-штó гавóрыць, усё на свéці янá знáіць.*

ЛЁТАЦЬ *незак.* Хутка бегаць. *Жылí даўней людзі і лётаў па пóлі кóнь* (з казкі).

МАСКА́ЛЬ *м.* Старавер. *Маскалí – гэ́та старавéры, у іх на папóў ня вýчуцца.*

НАЦЕ́ПЛІЦЬ *зак.* Напаліць. *Тады́ нацéпліў ён лáзню і пазвáў сасéда мы́цца.*

НІ́КАЦЬ *незак.* Выведваць што-небудзь. *Янá нічóга не рóбіць, а тóлька хóдзіць па хáтах ды нíкаіць.*

НІЯ́КІ *займ.* Дрэнны. *Сёлета лéта ну зусíм ніякае былó.*

ПАЖЫ́ЗНІ *прысл.* Навек, назаўсёды. *...А хвост у ягó пажы́зні застáўся...* (з казкі).

ПАХРАПАТА́ЦЬ *зак.* Паламаць. *Карóве корм не панрáвіўся, дык усю́ кармýшку пахрапатáла.*

ПРЫКРУЦІ́ЦЦА *зак.* Знянацку прыйсці, прыехаць. *Цэ́лы год ён нéдзе басцяўся, а цяпéр у дзярэ́ўню да бáцькі прыкруцíўся.*

ПРЫСТА́ЦЬ *зак.* Стаміцца. *Да вéчара так прыстáну, што ні магý пад гарý падняцца без ляскі.*

ПУГА́ЙЛА *ж.* Пудзіла. *Ну а хто пугáйлу гэ́ткую зрабíў? Усё рóўна як чалавéк стаíць на пóлі.*

РАЗБЫДРЭ́ЦЬ *зак.* Распесціцца. *Карóва зусíм разбыдрэ́ла, нямóжна дамóў завясцí – вырывáіцца і ляцíць у буракí.*

РЫ́ЗГАЦЬ *незак. экспр.* Плакаць. *Ён як вып`іць сто грам, ну тады́ ўжо ры́згаіць!*

РЭ´ПКІ *мн.* Цукровыя буракі. *Бéлыя буракí – гэ́та кармавы́я, скацíну кармíць, а чырвóныя, рэ́пкі мы іх завём, сабé ў гарóдзе сáдзім.*

САБА´ЧЧА АТРУ´ТА Тытунь. *Пагóда зусíм ніякая, сабáччу атрýту пасадзíў – і тáя ні расцéць.*

САРО´КА *ж.* 1. Птушка. *Сарóку ўвíдзіш – плёткі пачýіш* (прыкмета); 2. Амлет. *Сарóку с пéчы дастáну зáраз, éшчэ пакýль гарáчая, а то астыніць – нісмáчная бýдзіць.*

СПАЛЕРЖАВА´НЫ *прым.* Паралізаваны. *Якáя бáба бéдная, адзінáццаты год спалержавáная ляжы́ць.*

СТА´ЦЦА *зак.* Здарыцца. *Як гóнім карóву пéршы раз на полé, то свянцóнай вадóй свéнцім, кап нічóга ні стáлася.*

ТА´ЙНІК *м.* Шпіён. *Тáйнікі пяшкóм хадзíлі за граніцу, у Расéю, у Бэразвэ́ччы áрмія стаяла, дык яны́ дакладáлі, што тут рóбіцца, грóшы ім за гэ́та плацíлі.*

ТРЫЛУ´ЗІЦЬ *незак.* Вярзці абы-што. *Ды перастáнь ты трылýзіць, дай чалавéку сказáць!*

УПАТРЭ´БІЦЬ *зак.* Спадабацца. *Чамý ж ты бýлку не ясí? Ці не ўпатрэ́біў?*

ХАЛТАМА´ *ж. зняваж.* Пляткарка. *А ні ты вíдзіла, а ні ты знáіш, табé абы́ казáць, халтамá ты!*

ЦВІ´ЧЫЦЬ *незак.* Трымаць у строгай дысцыпліне. *Ён мáліц такí бы́стры, ня ўглéдзіш за ім, алé бáцька ягó дýжа цвíчыць.*

ЦЫТРАМО´Н *м.* Апельсін. *Паны́ купляли рабятам цытрамóны. І я éла, як былá ў іх за няньку – дадýць дзяўчы́не, дык і я ўхвачý.*

ЦЭД *м.* Жыжка з заквашанай аўсянай мукі. *Мукý аўсяную заквáшваюць і рóбяць цэд на кісéль, а тады́ вáруць. На куццó два кісялí вáруць – адзíн з журавíн, другí з цэ́да.*

ЦЮ´ПКА *ж.* Страва з малака і накрышанага ў яго хлеба. *Есці нéшта нічóга ні хачý, во карóву падаю́ ды зраблю́ сабé цю́пкі.*

ЧО´ХЛЫ *прым.* Неадукаваны, цёмны. *Цяпéр і ў нас падкультýрыліся, а даўнéй чóхлы быў нарóд.*

ЧЫ´ПЧЫК *м.* Каптур. *Даўнéй дзяўчы́на як вы́йдзіць зáмуж, далжнá насíць чы́пчык.*

ШАФА´РНЯ *ж.* Скрыня для захавання сыпкіх прадуктаў, падзеленая на некалькі частак перагародкамі. *Схадзí ў сéні, зачарэ́пні ў шафáрні круп ды курáм пасы́п.*

ЯРМО́ЛКА *ж.* Летняя шапка. *Пайду́ надзе́ну ярмо́лку, бо со́нца ду́жа ў галаву́ пячэ́ць.*

Я́СІЧАК *м.* Маленькая падушачка. *Ясічак – така́я паду́шачка, як ло́жак засцілаіш, паду́шкі адна́ на адну́ пало́жыш, а зве́рху я́січак – кап краса́ва было́.*

*М. А. Ісачанкава*

## АБРАДАВАЯ ЛЕКСІКА БЕЛАРУСКАЙ МАСЛЕНІЦЫ

Асобая вылучанасць часу ад 1–3 дзён да месяца і больш перад Вялікім постам характэрна для многіх народаў Еўропы. Комплекс абрадаў, якія адбываюцца ў гэты час, сведчыць аб агульнаеўрапейскім паходжанні цэлага святочнага цыкла не менш значнага, чым, напрыклад, калядны або велікодны. У рускіх, беларусаў і ўкраінцаў вылучаецца апошні тыдзень перад постам. Беларускія яго назвы прадстаўлены шэрагам назоўнікаў і субстантывіраваных прыметнікаў: *Ма́сленіца, Ма́сленка (-ін-, -ян-), Ма́слеца, Ма́сленая (-ін-, -ян-)* (гл. карту № 1)[1]. Спарадычна на ўсёй тэрыторыі Беларусі сустракаюцца назвы *Ма́сленая* і спалучэнне *Ма́слены(ая) ты́дзень (нядзе́ля)*, а таксама тэрмін *Ма́сленіца*, але больш часта яго ўжываюць у паўночным рэгіёне. Найменне *Ма́сленка* найбольш распаўсюджана ва ўсходняй зоне. *Ма́сленкай* называлі і спецыяльныя стравы, якія гатавалі на гэтым тыдні: мучную з макам у Дзедзіна Докш., з тварагу і масла на Віцебшчыне[2] і Смаленшчыне[3]. На Заходнім Палессі

[1] У артыкуле выкарыстоўваюцца матэрыялы Палескага архіва Інстытута славяназнаўства і балканістыкі РАН, матэрыялы архіва Палескага этналінгвістычнага атласа НДЛ БДУ, матэрыялы, якія сабраны аўтарам у час экспедыцый 1988–1992 гг. і супрацоўнікамі аддзела дыялекталогіі і лінгвагеаграфіі НАН: Клімчуком Ф. Д. у в. Сіманавічы Драг., Яшкіным І. Я. у в. Шаламы Слаўг., Курцовай В. М. у в. Залессе Чачэр., Трухан Т. М. у в. Замошша Люб., Драбудзька Н. В. у в. Кашталянаўшчына Глыб. Абазначэнне скарачэнняў месца запісу падаецца ў канцы артыкула.

[2] Хрэстаматыя па беларускай дыялекталогіі. Мн., 1962. С. 35. Запіс зроблены ў в. Старынкі Віцебскага раёна ў 1954.

[3] Этимологический словарь славянских языков. М., 1990. Вып. 17. С. 228.

распаўсюджаны тэрмін, блізкі да ўкраінскага: *Ма́сьніца, Ма́сна нядзе́ля* (параўн.: *масниця, масляна, масляниця*)[4] – варыянт назвы *Ма́слeніца*.

Словы *масленіца, масленка, масленая*, якія бяруць пачатак ад агульнаславянскага **масла** (масленіца ← масленка ← > маслены ← масла) вядомы ўсім славянам, але ў значэнні назвы свята – толькі ўсходнім (maślny, maślanica сустракаецца ў польскіх гаворках)[5]. У гэтым значэнні, як лічаць укладальнікі ЭСБМ, усходнеславянскія тэрміны *Ма́сленіца, Ма́сленка, Ма́сленая* ўтварыліся пад уплывам старажытнаславянскага словазлучэння маслянага седьміца[6]. Аўтары энцыклапедычнага слоўніка «Христианство» сцвярджаюць, што свята спачатку мела назву *мясапуст*, а выразы *сырны тыдзень, масленіца* з'явіліся не раней XVI стагоддзя[7]. Тэрмін *Ма́сленіца* сустракаецца ў старажытнарускіх помніках сярэдзіны XVI ст., *Ма́сленка* – пачатку XV ст., а *сырны запуск* – XIII ст. (у Пераяслаўскім летапісе па спісе XV ст.). Як здаецца нам, разглядаемыя тэрміны ўзніклі позна, калі было ўстаноўлена царкоўнае прадпісанне ўстрымлівацца ад мясной ежы, што было лагічным, як пераход да посту. У дахрысціянскія часы наўрад ці існавала ўстрыманне ад мясной ежы. Рэшткі шчодрых сталоў у час мясапуснага тыдня захаваліся і ў XX ст. у культуры розных еўрапейскіх народаў. Так напрыклад, у сербаў было прынята есці кур. Беларусы адступалі ад царкоўных прадпісанняў, калі святкавалі на Масленым тыдні Улассе з мясной ежай, гарэлкай

---

[4] Русско-украинский словарь. Киев, 1961. С. 237.

[5] Этимологический словарь славянских языков. М., 1990. Вып. 17. С. 223–228. Параўн. у іншых славянскіх народаў: лужычане – postnicy, zapust; чэхі – masopust, fašank; славакі – fašiang; славенцы – pust; сербы, чарнагорцы – бела, сирна, загонетна недеља, сирнице; харваты – pust, mesopust; македонцы – сирната, сирупосна, бела, проштена недела, сирница. Гл.: Календарные обычаи и обряды в странах зарубежной Европы кон. XIX – нач. XX в. (весенние праздники). М., 1977. С. 221, 239, 243.

[6] Этымалагічны слоўнік беларускай мовы. Мн., 1990. Т. 6. С. 246, 247.

[7] Христианство. Энциклопедический словарь / Под ред. С. С. Аверинцева, А. Н. Мешкова, Ю. Н. Попова. М., 1995. Т. 2. С. 94.

(падрабязней гл. ніжэй). Магчыма, рэлікты дахрысціянскіх святкаванняў засталіся і ў назве звычаю *паласка́ць зу́бы*. Хутчэй за ўсё, у ўсходнеславянскіх мовах спачатку з'явіліся назвы *мясапу́ст* і *сы́рны ты́дзень* (яны захаваліся і ў іншых славянскіх мовах) у выніку перакладаў царкоўных кніг з грэчаскай мовы. Тэрміны з коранем *масл-* узніклі ўслед за *сырны,* калі мясны тлушч быў заменены малочным згодна з царкоўнымі правіламі. Ужыванне страў з маслам (трэба заўважыць, што ў розных народаў абрадавымі сталі розныя стравы: у ўсходніх славян, у першую чаргу, у рускіх – бліны, украінцаў – варэнікі, чэхаў і славакаў – пончыкі і інш.) прывяло да ўтварэння тэрмінаў *Ма́сленіца, Ма́сленка, Ма́сленая.*

Існуюць і менш пашыраныя назвы позняга паходжання, якія таксама звязаны з семантыкай свята: *Пусты́ тыждэнь* (В. Церабяжоў Стол.) – сведчыць аб забароне ўжываць мяса, *Прошча́льны тыждэнь* (В. Церабяжоў Стол.), *Запу́сна́я нядзе́ля* (Слабада, Пырашава Уздз., Тухавічы Лях.) – аб праводзінах мясаеда і падрыхтоўцы да Вялікага посту[8]. Залежнасць ад фазы луны лягла ў аснову наймення *Маладзяко́ва нядзе́ля* (Забер'е Лях.). Часта цяжка аддзяліць назвы ўсяго тыдня ад назвы нядзелі на гэтым тыдні. Акрамя таго, пры наяўнасці найменняў усяго часу, якія асацыіруюцца з ужываннем бліноў і малочных страў, асноўныя гулянні і абрадавыя дзеянні набывалі размах у нядзелю або адбываліся толькі ў гэты дзень. Трэба адзначыць, што правядзенне Масленіцы ў розных частках Беларусі адрознівалася. Так, на захадзе яна не лічылася святам і ўспаміналі яе тут у асноўным толькі ў сувязі з забаронай ужываць мясныя стравы ў апошні тыдзень перад постам. Вось як апісвае Масленіцу ў Валожынскай парафіі Ашмянскага павета І. Берман: «На Масленым тыдні ніякіх не прынята асаблівых забаў у нашым народзе, ён не ўмее так павесяліцца, як Велікаросы: ні арэлямі, ні катаннямі не забаўляецца, запрашэнняў не робяць адзін аднаму, бліны таксама не з'яўляюцца важнай прыналежнасцю Мас-

---

[8] Назва *прошчальны тыдзень* магла ўзнікнуць пад уплывам рускага звычая прасіць прабачэння адзін у аднаго ў апошні тыдзень перад постам, але на Беларусі гэты звычай амаль невядомы.

леніцы...»[9]. Сучасныя матэрыялы пацвярджаюць гэта (гл. карты № 5, 6).

Больш распрацаваны сцэнарый на ўсходзе Беларусі: «Маслены тыдзень, ад панядзелка да нядзелі, праводзіцца шумна. Па вечарах на гэтым тыдні не працуюць. Ходзяць у госці, моладзь паўтарае калядныя гульні. Удзень усе лічаць сваім абавязкам пакатацца: адны на саначках, другія на ледзяках, што высякаюць на рацэ або замарожваюць у кадцы, трэція катаюцца на абернутых, злёгку прымарожаных скамейках або простых дошках. Добрыя гаспадары на Масленіцу абнаўляюць сані»[10] .

На працягу Масленага тыдня нельга было працаваць увечары на Брэсцка-Пінскім Палессі, паўночна-усходнім Паазер'і[11], у вёсках Старое Саколіна Тал., Нямойта Сен., Зарэсце Маг., Акцябр, Праскуркі Жлоб., Залатуха Калінк., што нагадвае прыметы каляднага цыкла. У сувязі з гэтым большую цікавасць прадстаўляе тэрмін *крівы́я вечары́*, зафіксаваны на Віцебшчыне: *На Ма́сленку такса́ма крівы́я вечары́. Не працава́лі ля ско́ту ці жэ́нщчына бяро́менная* (Нямойта Сен.). У гэтым рэгіёне такая назва часцей характэрна для калядных вечароў і падкрэслівае «небяспечнасць» часу. Па заканчэнні каляд, каб пазбегнуць непрыемнасцей у гаспадарцы, тут адбывалася рассяканне веніка, якім карысталіся на працягу двух калядных тыдняў. Па сведчанню Дабравольскага, жыхары Краснінскага, Парэчскага і Смаленскага паветаў рассякалі венік пасля Масленіцы[12] . Такім чынам, можна зрабіць вывад аб «небяспечным» характары свята. Такая яго семантыка ўласціва поўначы і ўсходу Беларусі і мае працяг на Смаленшчыне. Аб блізкасці Масленічнага і Каляднага цыклаў сведчыць і назва Масленіцы *святы́ ве́чар*: *Усю́*

---

[9] Берман И. Календарь по народным представлениям в Воложинском приходе Виленской губернии Ошмянского уезда. Спб., 1874. С. 8.

[10] Романов Е. Р. Белорусский сборник. Вильна, 1919. Вып. 8. Быт белоруса. С. 137.

[11] Ивлева Л. М., Ромодин А. В. Масленичная похоронная игра в традиционной культуре белорусского Поозерья // Зрелищно-игровые формы народной культуры. Л., 1990. С. 196.

[12] Добровольский В. Н. Различия в верованиях и обычаях белорусов и великорусов Смоленской губернии // Живая старина. 1903. Вып. 4. С. 472.

*нядзе́лю Ма́сьленка... Удзе́нь рабо́талі, а ве́чар пры́дзе – пяку́ць бліны́ і з ма́слам вячэ́раюць. Ве́чар святы́* (Акцябр Жлоб.). *На Ма́сленую недзе́лю днём ўсё дзе́лаюць. А ве́чорам гуля́ць на́да: ў адну ха́ту сабе́рэцца семе́й тры-пяць да патом і паю́ць, гуля́юць. А рабо́таць нельзя́ ве́чэрам. Называ́ецца святы́ ве́чэр* (Залатуха Калінк.). Паралель паміж Масленіцай і Калядамі праводзіць і У. Я. Пропп[13] . Семантычную блізкасць ён звязвае з супадзеннем некалі святкавання Масленіцы і Новага года (калі год пачынаўся з 1 сакавіка). У. Я. Пропп звяртае ўвагу на шчодрасць ежы на працягу гэтых святочных цыклаў (па яго меркаванню, такая ежа з'яўляецца памінальнай і не характэрна больш ні для аднаго свята).

Існуе ўяўленне аб Масленіцы як самым вясёлым часе. У заходніх еўрапейцаў – гэта карнавал. У рускіх «шырокая Масленіца» – свята з дакладна распрацаванымі дзеяннямі на працягу ўсяго тыдня (кожны дзень меў сваю назву). На тэрыторыі Беларусі яна не атрымала такога развіцця. Нягледзячы на тое, што шматлікія масленічныя звычаі: катанне з гор, на канях, гулянні з песнямі, пачастункамі – шырока вядомы на Беларусі, яны не атрымалі тут рускай шыраты. У асноўным святочныя дзеянні аказаліся прымеркаванымі да чацвярга або нядзелі. Маркіраваны і першы дзень посту – панядзелак. Напрыклад, катанне з гор, якое з'яўляецца цэнтральным звычаем у рускіх, на Беларусі вядома ў асноўным ва ўсходняй частцы (гл. карту № 5). Працягвалася яно ўвесь тыдзень. Тыдзень або толькі ў нядзелю адбывалася катанне на конях. На паўднёвым захадзе яно прымяркоўвалася да чацвярга. Гулянні (часам толькі жаночыя) у асноўным таксама звязаны з чацвяргом або нядзеляй. У некаторых месцах на Масленым тыдні праходзіў абрад праводзін зімы і сустрэчы вясны.

Як справядліва адзначае Г. А. Носава, у беларускай Масленіцы, як і ўкраінскай, пераважаюць абрады «сямейна-родавыя»[14] . У першую чаргу прыгадаем звычаі, звязаныя з маладажонамі (гл. карту № 6). Па нашых дадзеных, у Магілёўскім

[13] Пропп В. Я. Русские аграрные праздники. Л., 1963. С. 26.

[14] Носова Г. А. Картографирование русской масленичной обрядности (на материале XIX – нач. XX века) // Советская этнография. 1969. С. 53.

рэгіёне прынята наведванне маладымі сям'і жонкі, частаванне цешчай зяця: *Éслі пéршы зяць, то на Мáсленку звáлі* (Зарэсце Маг., таксама Брасневічы Бял.). *Гуляюць. Як послесвáдзебный банкéт спажсыўляюць. Гукáюць рóдных, як пéрва Мáсленка ў маладажóнаў за поўгóд, цёшча зя́цю галаву мáсьліць мáслам, каб мáсьліна жыíлі* (Сялец Мсцісл.). Часта звычаі звязаны толькі з маладой. У канцы мінулага стагоддзя П. В. Шэйн апісваў звычай *вазíць* або *разувáць маладую* ў Ігрушацкай вол. Сенненскага павета[15]. Звычай *разуваць маладую* ў в. Абчуга Крупскага раёна апісвае В. К. Сакалова[16]. У Зубрэвічах Арш. і зараз памятаюць, як у чацвер Масленага тыдня замужнія жанчыны хадзілі па хатах, дзе жылі маладажоны, зрывалі абутак у маладой або кралі яе падушкі. Усё гэта вярталі ў абмен на пачастункі. Звычай мае назвы *разўціе маладўх, замачыíць або трэсць падўшкі*. Частаванне маладых вядома ў Расіі і ў Польшчы. «У рускай масленічнай абраднасці падкрэслівалася значэнне маладых. Негатыўны бок – ганьбаванне тых, хто мог узяць шлюб, але не зрабіў гэтага і тым самым аказаў дрэнны ўплыў на прыроду, – у рускіх сустракалася як выключэнне»[17]. У беларусаў, наадварот, такое ганьбаванне пераважае. Асабліва выразна гэта відаць у звычаі *цягáць калóдку*. «У апошнія дні Масленіцы, асабліва ў нядзелю, замужнія жанчыны ходзяць па хатах, з гаспадынямі якіх яны сябруюць, і прывязваюць дзецям, хлопцам і дзяўчатам, калодкі, невялікія палачкі ў пакаранне за тое, што яны не ўзялі шлюб у апошні мясаед. Маладыя людзі павінны плаціць за гэта выкуп (гарэлка, бліны)» (Гараны, Рэчкі Маг.)[18]. *На Мáсьленку калóду вéшаюць. Калóду – хто нáда жанíцца, а ён не жанíўся. Што-нéбудзь пачэ́плюць – і ён тадыí аткўпліваецца* (Сялец Мсцісл.). На ўсходнім Палессі акрамя негатыўных адносін да маладых людзей, якія не пажаніліся, сустракаецца ганьбаванне і іх бацькоў: *Калі дзéўка лі хлóпец ў мясаед не жанíлісь, прывя́-*

---

[15] Шейн П. В. Материалы для изучения быта и языка русского населения Северо-Западного края. Бытовая и семейная жизнь белоруса в обрядах и песнях. Спб., 1887. Т. 1. Ч. 1. С. 115, 116.

[16] Соколова В. К. Весенне-летние календарные обряды русских, украинцев и белорусов. М., 1979. С. 91, 92.

[17] Соколова В. К. Весенне-летние календарные обряды... М., 1979. С. 43.

[18] Опыт описания Могилевской губ... С. 510, 511.

*жуць к ім калóтку. Цяпуць округ хаты. У прастынку палóжаць мáтку лі бáцьку і кальíшуць* (Грабаўка Гом.).

З ходам часу абрад рэдукаваўся, змяняўся і зараз успрымаецца як гульня. *На Папéлец катóрыя прынясýць у хату калóдку бальшýю (ўтрох-ўчатырох не ўнясуць) – так давай жа бутыл-ку. Так як пастáвяць – і нарэ́жуць, і накóляць, а як не – пакі́нуць і пóйдуць* (прыносілі ў хату, дзе жылі дзяўчаты) (Пырашава Уздз.). У в. Рачныя Докш. на калоду накідвалі аброць, у якую запрагаліся дзяўчаты і хлопцы. Яны цягалі калодку па вёсцы і крычалі: *Калóда рагóчыць, сыра-мáсла хóчыць,* – збіралі сабе на вечарынку. *І на Мáсленку гуля́лі. Калóду цягáлі. Завядóўцы ўсё бáбы. Калóду прывя́жуць і цягнуць каму на двор. Пія́лі к гéтой калóдкі. Каб і ты ўжо ішла к іх кампáніі. І к канцý дзярэ́ўні сабéруцца нéскалькі баб. У каго-небудзь сабірáюцца, знóсюць сваі прігатаўлéнні і п'юць і паюць Мáсленку* (Дуброўка Чаш.). Відавочна ў адным раду з калодкай можна паставіць і яшчэ некалькі масленічных звычаяў. У Парахонску Пін., дзе не вядома калодка, існаваў звычай зносіць дзверы ад хлопца да дзяўчыны, з якой ён сябруе, і наадварот (такі звычай існаваў тут і на Каляды) (таксама Равячычы Навагр.). У в. Гошчава (зараз Івац. раён) хлопцы цягалі ступу па хатах, дзе жылі дзяўчаты, кралі іх рэчы, якія вярталі ў абмен на выкуп[19]. Падобны звычай крадзяжа хлопцамі рэчаў у дзяўчат і раздачу іх у масленічную суботу зафіксаваны і ў Любчы Навагр. Нагадаем і катанне тут хлопцаў і дзяўчат на качарзе. У Хіславічскім р-не Смаленскай вобл. на Масленіцу *Бáхаря жані́лі* – гульня аналагічная *Жані́цьбе Цярэ́шкі*, што распаўсюджана у Каляды на Віцебшчыне[20]. Апісаны рад звычаяў з адной семантыкай сведчыць аб важнасці для беларусаў хутчэйшага стварэння сям'і.

Такім чынам, на Беларусі выканаўцамі звычаю часцей былі замужнія жанчыны, а аб'ектамі – хлопцы і дзяўчаты, якія дасягнулі шлюбнага ўзросту. У выніку страты рытуальнага сэнсу моладзь сама станавілася суб'ектам. У іншых выпадках дарос-

---

[19] Шейн П. В. Материалы... 1902. Т. 3. С. 382.

[20] Падрабязней аб «Жаніцьбе Цярэшкі» гл. ў зб.: Жаніцьба Цярэшкі. Сер. Беларуская народная творчасць. Мн., 1993; Валодзіна Т. В. Жаніцьба Цярэшкі: спроба рэканструкцыі // Веснік БДУ. Серыя 4. 1994. Вып. 2. С. 17.

лыя паміж сабой рабілі складчыну для святкавання Масленіцы. Захаваўся (за невялікім выключэннем) галоўны атрыбут – калодка, іншы раз у змененым выглядзе (бант, кветка, цукерка і інш.).

Значная частка ўвагі да маладажонаў і негатыўныя адносіны да не ўзяўшых шлюб «...далі падставу некаторым даследчыкам сцвярджаць, што Масленіца ў цэлым свята маладажонаў. Маладыя пары, якія нядаўна пажаніліся, па старажытных уяўленнях, павінны былі магічна спрыяць урадлівасці зямлі. Калі яны ўдзельнічалі ў абрадзе, то як бы атрымлівалі здароў'е, сілу, умацоўвалі сям'ю, садзейнічалі прадаўжэнню рода"[21].

Тэма стварэння сям'і была важнай для беларускай Масленіцы, але не адзінкавай. Не менш значнай з'яўлялася і сельскагаспадарчая накіраванасць масленічных звычаяў і абрадаў. Часцей за ўсё яны прымяркоўваліся да чацвярга, які звязаны з імем Уласа. Царквой дзень св. Уласія (заступніка хатняга ската, які замяніў старажытнага ўсходнеславянскага бога) святкуецца 11 лютага. Побач з Перуном Волас з'яўляўся галоўным богам язычніцкай Русі[22].

На Беларусі дзень св. Уласія замацаваўся менавіта за чацвяргом Масленага тыдня і мае назвы: *Улассе, Улас, Уласкі*, у заходне-палескім і панямонскім рэгіёнах: *Волосій, Волоссе*. Нават у тых месцах, дзе Масленіцу гулялі цэлы тыдзень, чацвер вылучаўся асобым разгулам і ўступаў толькі апошняму дню – запускам. Гулянні адбываліся ў Засценках Дубр., Ст. Саколіне Тал., Каралевічах Сен., Роўбіцку, Смалянах Пруж., Алексічах Смарг., у Гродзенскай губерніі[23].

Дзеянні і забароны ў гэты дзень накіраваны на: 1) ахову свойскай жывёлы; 2) забеспячэнне добрага ўраджаю лёну.

«...Чацвер на Масленым тыдні ў Слонімскім пав. называецца *Волосье*. У гэты дзень бабы з самай раніцы гатуюць багатую мясную закуску са свініны і валовага мяса... Сяляне гаспадары ў

---

[21] Соколова В. К. Весенне-летние календарные обряды... С. 42.

[22] Гл.: Иванов В. В., Топоров В. Н. Исследования в области славянских древностей. М., 1974; Мартынов В. В. Сакральный мир «Слова о полку Игореве» // Славянский и балканский фольклор. М., 1989. С. 61–63, 75.

[23] Материалы по этнографии Гродненской губ. Вильна, 1911. Вып. 1. С. 35, 36.

сваю чаргу запасаюцца гарэлкай, запрашаюць адзін аднаго... ў госці. Потым, як падгуляюць, бродзяць па вуліцах сваіх вёсак, каб мужыкам вялася скаціна, а бабам радзіўся валакністы лён»[24]. Аналагічны адказ зафіксаваны ў Роўбіцку Пруж. Цікава прыгатаванне мясной ежы, што забаранялася царквой. Магчыма, гэта рэшткі язычніцкіх ахвяраванняў[25]. У старажытнарускай літаратуры ўпамінаецца Валосій – «скоцій бог». Гэтыя ўяўленні захаваліся да нашых дзён: *Пырыд Масньíцію в чэтвэ́р – Волóсый – коб скотьíна шыховáла. Ны в чыслí. На Волóсого бліны пыклыí чы оглáдкы, коб булы волыí глáдкы* (Сіманавічы Драг.). *Аўлáскі – лáдкі пяклі і назаўтра давалі карóвам гэтыя ладкі* (Брасневічы Бял.). Ладкі насілі жывёле і ў Дулебах і Жабаўке Бярэз. У Дроньках Хойн.: *На Улáсся пякýць варэ́нікі ў мáсьле, каб цялятыы былі глáдкія.* З гэтай мэтай святкавалі чацвер і ў Ст. Саколіне Тал. *У чацвéр нéльга лáпці плéсці, прясці – звáлі Улáссе, а то цялятыы ня бýдуць гудувáцца* (Каралевічы Сен.). Нельга было прасці ў Шаламах Слаўг., Жабаўке Бярэз. На Палессі забароны выконваліся, каб пазбегнуць псавання малака і прадуктаў з яго: *Улáс, кáжуць, на сыр і на мáсла лас. На яго не прадýць, штоб у сырý чэ́рві не пашлí* (Стадолічы Лельч.). Семантыка свята захавалася і ў назвах гэтага дня *Карóўскае Вялíчка* (Брасневічы Бял.), *волóвый прáзнік* (Спорава Бяроз.).

Я. Р. Раманаў указвае, што ў гэты дзень "грамада" нанімала пастуха[26], абучалі маладых каней і быкоў[27].

Акрамя аховы свойскай жывёлы звычаі і абрады чацвярга павінны былі спрыяць добраму ўраджаю лёну. Аб сувязі Воласа з земляробствам узгадвае А. А. Патабня[28].

---

[24] Из деревенских наблюдений Крестьянина // Живая старина. 1907. Вып. 2. С. 17.

[25] Чацвер вылучаецца і ў іншых еўрапейскіх народаў: румыны лічуць яго днём абароны палёў ад сельска-гаспадарчых шкоднікаў, у чэхаў і славакаў дзень мае назву жырны (tučhny).

[26] Романов Е. Р. Белорусский сборник. Вильно, 1912. Вып. 8. Быт белоруса. С. 137.

[27] Там жа. Гл. таксама: Шейн П. В. Материалы… Спб., 1887. Т. 1. Ч. 1. С. 123. Намі гэты звычай зафіксаваны ў в. Пырашава Уздз.

[28] Потебня А. А. О происхождении названий некоторых славянских языческих божеств // Славянский и балканский фольклор. М., 1989. С. 261.

На «доўгі лён» (гл. карту № 5):

1. Гулялі з выпіўкай, багатай ежай, песнямі (Гродзен. губ., Слонімскі пав., Тышкавічы Іван.), у Ст. Саколіне Тал. «*на Мáсленіцу пяюць яго: «Радзі, Бóжа, дóбры лён»*; у в. Ловаж (Лоўжа) Пол. жанчыны ў панядзелак пасля Масленіцы *палóшчуць зубы* на будучым яравым полі»[29].

2. Гаспадыні часалі лён – *шчэткай чэшуць, каб лён быў дóбры* (Жабаўка Бярэз.), таксама: Гараны Пол., Сяляўшчына Рас., наогул на Масленым тыдні: Бездзеж Драг., у *мясныя зáпысты* (нядзеля перад Масленіцай) «гаспадыня садзіцца на лаўку і чэша *павéсма* (мера валакна) льну, гаспадар за сталом выцірае талерку кавалкам хлеба. Потым ідуць у хлеў: гаспадыня гладзіць *павéсмам кáжиную стачи́нину*, а гаспадар *пхáиць ёй у рот кавалычек хлеба, каб была гладка*»[30].

3. Каталіся на канях (Любча Навагр., Роўбіцк Пруж., з гэтай жа мэтай у Грабаўке Гом.: *У каго сваі коні, украшáюць іх, заплетáе ім хóсы (косы). На сабе адзеюць шóўковы платóчэк з длíнай бахрамóй, штобы лён радзíў як шоўк і дліный як бахрама.*

4. Хадзілі па вуліцах вёскі, а часам і да іншых вёсак *Збярýцца бáбы, дзяўчáты і крічáць: «Даўгунéц, даўгунéц, даўгунéц!» – Ходзюць з канца ў канец, крічáць ратýнку* (Свяда Леп.). *Бяжы́м на дзярэ́ўню жанчы́ны, дзяўчáты, каб лён даўгí расцягнýць, каб лён рос даўгí* (Завуцце Мёр.).

5. Скакалі на дошцы: *Кладýць клáдку на палéна і чы́каюцца, каб лён вéлькі рос* (Любча Навагр.).

6. Каталіся з гор: «Перш, чым вазіцца ў Масленку на санках, жанчыны павінны з’ехаць з гары на прасніцах: чым даўжэйшы будзе такі праезд, тым даўжэйшы ўродзіцца лён. Калі паваліцца з прасніцы, то не ўбярэ летняга лёну з-за хваробы або па іншай прычыне» (Ловаж Пол.)[31]. На Масленіцу *бáбы не прялі,... на пря́ліцах з гары катáліся* (Доўжа Віц.). Калі катаюцца з гор, прыказваюць: *На доўгую пяньку, на доўгі лён* (Ліцвінава Горац.)[32].

---

[29] Никифоровский Н. Я. Приметы и поверья, суеверные обряды и обычаи, легендарные сказания о лицах и местах. Собраны в Витебской Белоруссии. Витебск, 1897. С. 240.

[30] Никифоровский Н. Я. Приметы и поверья... С. 238.

[31] Там жа.

[32] Опыт описания Могилевской губ... С. 510.

Такую семантыку звычаю некаторыя вучоныя лічаць позняга паходжання: «Магчыма, катанне з гор у аснове было варыяцыяй старажытнейшага распаўсюджанага прыёма карпаганічнай магіі – звычай качання па зямлі меў на ўвазе, што шляхам дакранання да яе можна заставіць яе лепш плоданасіць»[33].

7. Па вечарах дзяўчаты і жанчыны качаліся на арэлях і пелі *másленку*: *Скалыхнёмся мы на даўгí лён, на даўжэйшыя пасканый: ета мáльчыкам на штаный* (Ст. Саколіна Тал.)[34].

Трэба адзначыць, што многія з прыведзеных вышэй дзеянняў на *дóўгі лён*, адбываліся і на Каляды.

Ёсць сведчанні і аб віншаванні ў гэты дзень павівальных бабак. *Улáссе. Бáба йдзé к унýцы на пóпрэдкі. Там яна прадзé, унýчка угашчáе. Нап'óцца бáбы, ідуць па ýліцы, піяюць. Прáсніцы унýчкі ззадзі нясýць* (Свяда Леп.). У Спорава Бяроз. у *тлýсты чэтвэ́р* унукі вязлі бабу ў карчму на санках, частавалі яе і адвозілі да хаты[35]. Катанне павівальных бабак на Масленіцу праходзіла і ў в. Старыя Юркавічы Гом. павета[36]. Аб распаўсюджаным у беларусаў звычаі наведвання павітух бацькамі з дзецьмі піша і Г. А. Носава[37]. На Масленіцу хадзілі да павітух і ў Ігрушацкай воласці Сенненскага павета[38]. У Парахонску Пін. звычай прымяркоўваўся да панядзелка пасля Масленіцы: *Молодá жэ́нщчына бэрэ́ чэкýшку горíлкі, бýлочку яку спэчэ́, конфéт і нэсэ́ бáбы, шчо пуп завя́звала, шчо дытя́ бáбыла.*

Як ужо гаварылася вышэй, галоўным днём Масленіцы з'яўлялася нядзеля. У некаторых месцах і сама назва свята асацыіруецца толькі з гэтым днём. Невыпадкова, што і звычаі і аб-

---

[33] Соколова В. К. Весенне-летние календарные обряды... С. 44.

[34] Звычаі на «доўгі лён» шырока вядомы ў Еўропе, што сведчыць аб іх старажытных каранях: чэхі і славакі прыгалі на «лён і каноплі» і пелі: «Гэта будзе на канаплю, гэта будзе на лён»; славацкія жанчыны збіраліся ў адной з сябровак, выпівалі за «вялікі лён» і цягалі за валасы тую, якая мела самыя густыя і доўгія валасы; славенцы танцавалі і прыгалі, каб урадзілася рэпа, каталіся на санках, качаліся на арэлях, галінах дрэў, каб быў багаты ўраджай; лужычанскія дзяўчаты танцавалі з высокім хлопцам. Гл.: Календарные обычаи и обряды... С. 224, 238, 249.

[35] Шейн П. В. Материалы... 1902. Т. 3. С. 381.

[36] Опыт описания Могилевской губ... С. 510.

[37] Носова Г. А. Картографирование русской масленичной обрядности... С. 53.

[38] Шейн П. В. Материалы... 1887. Т. 1. Ч. 1. С. 115.

рады прымяркоўваліся галоўным чынам да нядзелі. У вёсках весела *право́дзілі Ма́сленіцу* (Задуброўе Віц., Смален. губ.), *заяда́лі пра́знік* (Блужа Пух.), збіраліся па некалькі сямей, пілі, спявалі, гулялі. З песнямі каталіся на канях, з гор. З гэтага дня ва многіх месцах пачыналі спяваць веснавыя песні. *Вясну́ гука́лі* ў в. Галубіца, Дарашэвічы Петрык., Аздамічы Стол. На Палессі дзяўчаты скакалі на дошцы. *Поло́жаць бревно́, а на тэе бревно́ – до́ску і на ра́зные концы́ становя́тса і ска́чуць* (Аброва Івац., таксама Горталь Івац.). *Дзеўча́та скака́лі у до́шку. Поло́жаць полі́но і кусо́к сы́ра і ска́чуць: у які бок сыр упадзе́ – у такі вы́йдзе за́муж* (Роўбіцк Пруж.).

Назвы нядзелі на Масленым тыдні паходзяць ад трох дзеясловаў:

| | |
|---|---|
| загаве́ць | *за́гавіны* |
| | *за́гвіны* |
| запусці́ць | *за́пусты* |
| | *запу́сты* |
| | *запусты́* |
| запуска́ць | *за́пускі* |
| | *запускі́.* |

Т. А. Агапкіна, якая разглядае палескія тэрміны Масленічнай нядзелі, адзначае, што яны падзяляюць Палессе на дзве часткі: на захадзе распаўсюджаны найменні *за́пу́сты, за́пускі́, запусте́нь, запу́сна няде́ля, пушчэ́нне*, на ўсходзе ім супрацьпастаўлена назва *за́гавіны*[39]. Такі малюнак характэрны і для ўсёй тэрыторыі Беларусі. Тэрмін *за́гавіны* акрэслівае усходнюю зону (гл. карту № 3), *за́пускі́* – Палессе і Панямонскі рэгіён, *за́пу́сты́* – паўночна-заходнюю зону.

Не менш важным з'яўляўся для беларусаў і першы дзень посту – панядзелак. У гэты дзень працягваліся гулянні, якія атрымалі назвы: *зу́бы паласка́ць, зу́бы вымыва́ць, заяда́ць пра́зьнік* і ў асобных вёсках далі найменне дню *Паласказу́б* (Гарадная Стол., Горталь Івац., Парахонск Пін., Жытлін Івац.) (гл. карту № 4). «Там, дзе праваслаўныя маюць зносіны з католікамі, пры поснай ежы палошчуць зубы гарэлкай да аўторка –

---

[39] Агапкина Т. А. Очерки весенней обрядности Полесья // Славянский и балканский фольклор. М., 1995. С. 22.

каталіцкага загавення і тлумачуць, каб іх *змеі ня кусалі*»[40] . У Слонімскім пав. казалі: *Полощем зубы, штобы мясо у зубах не зостовалося, а то грех, як яно в зубах будзе*[41] . Сінонімам паласканню зубоў з'яўляўся звычай *кавáць шыла* на Віцебшчыне, які таксама зводзіўся да п'янства ў карчме. Таму панядзелак тут мае назву *шыльны*. Наогул тэрміналогія паўночна-ўсходней часткі Беларусі даволі разнастайная: *крывы́ панядзéлак: Прáсці не прáлі, шыць ня шы́лі – крывы́ панядзéлак* (Дзедзіна Докш., таксама Пасынкі Мядз.; на паўночна-ўсходнім Паазер'і *крывым панядзелкам* называецца першы дзень Масленіцы[42] ); *бéлы панядзéлак: Бéлы панядзéлак. Нада плáцця зáліць, так бýдзя плáцця бéла* (Галоўкі Рэч., таксама Нямойта Сен., Дулебы, Багушэвічы Бярэз., Брасневічы Бял., Бабічы Рэч.), *сухí панядзéлак: На сухí панядзéлак хоць зýбы папаласкáць, хоць нямнóжко вóдкі затóркнуць у глóткі* (Каралевічы Сен., таксама В. Осаў Краснап.). Шырокае распаўсюджанне на беларускай тэрыторыі атрымаў тэрмін *Папялéц* (паўночна-заходняя зона) або *Папéлец* (цэнтральна-беларускі арэал), які можна лічыць паланізмам: менавіта так называецца серада ў каталікаў – першы дзень каталіцкага посту, калі адбывалася асвячэнне попелу і пасыпанне ім галавы. У праваслаўных назва была перанесена на панядзелак і ёй было знойдзена новае тлумачэнне: ...*пóпелу адну дрóбачку з'éсці – гэта бýдзеш увесь гот чы́стае éсьці* (Старынкі Дзярж.).

Існавалі ў гэты дзень строгія забароны на працу наогул або на асобныя віды жаночай работы: матанне (Рачныя Докш.), снаванне (Парахонск Пін.), прадзенне (Дзедзіна Докш.), мыццё бялізны (Пырашава Уздз.), забароны на шыццё звязаны з тым, каб не нарывалі пальцы ў час палявых работ (Акцябр, Праскуркі Жлоб., Дзедзіна Докш., Міхневічы, Зарудзічы Смарг., Брасневічы Бял., Жабаўка, Багушэвічы Бяроз., Бабічы, Галоўкі Рэч.). *На Папéлец нéкалі лýгу не рабíлі, таму што на капýсце будзе папялíца* (Пырашава Уздз.). *Полóшчуть зубы у понэдíлок. Вот*

[40] Романов Е. Е. Белорусский сборник. Вильно, 1912. Вып. 8. Быт белоруса. С. 141.

[41] Из деревенских наблюдений Крестьянина... С. 18.

[42] Ивлева Л. М., Ромодин А. В. Масленичная похоронная игра в традиционной культуре белорусского Поозерья... С. 196.

*тоды́ і кро́сна снова́ты нэ мо́жна. Нэ вда́сца* (Парахонск Пін.). Для дабрабыту ў гаспадарцы меў месца і прыход першага чалавека ў хату: *Ужэ пе́рвы дзень по́сны ў панедзе́лок, шчо коп хто недо́бры не прышо́ў, бо коровы́ дзержа́лі, сыры́ рабі́лі, то ўжэ не ўдава́ціматса. У кажусі́ коб не прышо́ў, раньшы ж бло́хі былі і ўсэ́нько* (Роўбіцк Пруж.).

Забароны Масленічнага тыдня прымяркоўваліся галоўным чынам да чацвярга. Забаранялася прасці (Стадолічы Лельч., Ст. Саколіна Тал., Доўжа Віц., Каралевічы Сен.), плесці лапці (Каралевічы Сен., Паазер'е). На працягу ўсяго тыдня нельга мыць бялізны, каб не хварэлі каровы (Сяляўшчына Рас.). Прадпісанні былі накіраваны на ахову свойскай жывёлы, малочных прадуктаў і звязаны з шанаваннем продкаў, памінанне якіх адбывалася перад Масленіцай: *Та Ма́сляна, то ўсё ў нас говорацъ, шчоб на Ма́сленой костры́ не было́, не трэ́ прасць. Шчэ не шы́лі, го́лку не бра́лі, шчоб коро́ўка не кульга́ла* (Стадолічы Лельч.).

Такім чынам, масленічныя звычаі і абрады звязаны:

1) з шанаваннем маладажонаў і ганьбаваннем маладых людзей, якія дасягнулі шлюбнага ўзросту, але не стварылі сям'і;

2) з забеспячэннем добрага ўраджаю лёну;

3) з аховай дамашняй скаціны, а таксама малака і малочных прадуктаў.

Галоўнымі суб'ектамі дзеянняў з'яўляліся замужнія жанчыны.

Абагульняючы, можна выказаць меркаванне, што шанаванне Воласа – сялянскага бажаства – і з'явілася той асновай, з якой на беларускай тэрыторыі развілася тая частка Масленіцы, што датычыцца сельскай гаспадаркі. Другая частка звязана з веснавымі шлюбнымі саюзамі. Калі справядліва думка аб уплыве маладых на ўрадлівасць, можна зрабіць здагадку, што дзве часткі развіваліся асобна і зліліся ў комплексе з-за блізкасці семантыкі. Таксама трэба падкрэсліць сувязь Масленіцы і Каляд, звычаі і абрады якіх паўтараюць адзін аднаго.

# Спіс населеных пунктаў

| Умоўныя абазначэнні месца запісу, якія прыняты ў артыкуле | Нумар на карце | Вёска | Раён | Вобласць |
|---|---|---|---|---|
| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 |
| | 1 | Сар'я | Верхнядзвінскі | Віцебская |
| Сяляўшчына Рас. | 2 | Сяляўшчына | Расонскі | Віцебская |
| | 3 | Іказнь, Старыкі | Браслаўскі | Віцебская |
| Завуцце Мёр. | 5 | Завуцце | Мёрскі | Віцебская |
| Гараны Пол. | 6 | Гараны | Полацкі | Віцебская |
| Ловаж Пол. (Никифоровский Н. Я. Приметы и поверья, суеверные обряды и обычаи, легендарные сказания о лицах и местах. Собраны в Витебской Белоруссии. Витебск, 1897) | 6а | Лоўжа | Шумілінскі (былы Полацкі павет) | Віцебская |
| Доўжа Віц. | 7 | Доўжа | Віцебскі | Віцебская |
| гл. п. 6а | 7а | | Віцебскі (былы Віцебскі павет) | Віцебская |
| Задуброўе Віц. | 8 | Задуброўе | Віцебскі | Віцебская |
| Добровольский В. Н. Различия в верованиях и обычаях белорусов и великорусов Смоленской губернии. // Живая старина. 1903. Вып. 4. | 9 | | Дзямідаўскі (былы Парэчскі павет) | Смаленская |
| | 10 | Белькі, Гута | Пастаўскі | Віцебская |
| Кашталянаўшчына Глыб. | 10а | Кашталянаўшчына | Глыбоцкі | Віцебская |
| | 10б | Варанцы | Глыбоцкі | Віцебская |
| | 11 | Брылі | Мядзельскі | Мінская |
| Пасынкі Мядз. | 12 | Пасынкі | Мядзельскі | Мінская |
| Дзедзіна, Рачныя Докш. | 13 | Дзедзіна, Рачныя | Докшыцкі | Віцебская |
| | 14 | Свядзіца | Лепельскі | Віцебская |
| Свяда Леп. | 15 | Свяда, Слабада | Лепельскі | Віцебская |
| Дуброўка Чаш. | 16 | Дуброўка | Чашніцкі | Віцебская |
| Каралевічы Сен. | 17 | Каралевічы | Сенненскі | Віцебская |
| Шейн П. В. Материалы для изучения быта и языка русского населения Северо-Западного края. Спб., 1887. Т. I. Ч. I.; 1902. Т. III | 17а | | Сенненскі (былая Каралевічская воласць) | Віцебская |

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 |
|---|---|---|---|---|
| Опыт описания Могилевской губернии / Под ред. председателя Могил. губернского статистического комитета А. С. Дембовецкого. Кн. 1. Могилёв, 1882 | 17б | Госмір | Сенненскі (былы Сенненскі павет) | Віцебская |
| Нямойта Сен. | 18 | Нямойта | Сенненскі | Віцебская |
| Ст. Саколіна Тал. | 19 | Старое Саколіна | Талачынскі | Віцебская |
| Засценкі Дубр. | 20 | Засценскі | Дубровенскі | Віцебская |
| гл. п. 17б | 20а | Ліцвінава | Дубровенскі (былы Горацкі павет) | Віцебская |
| гл. п. 9 | 21 | | Смаленскі (былы Смаленскі павет) | Смаленская |
| | 22 | Міхневічы, Зарудзічы | Смаргонскі | Гродзенская |
| Зубрэвічы Арш. | 24 | Зубрэвічы | Аршанскі | Віцебская |
| гл. п. 9 | 25 | | Краснінскі (былы Краснінскі павет) | Смаленская |
| Берман И. Календарь по народным представлениям в Воложинском приходе Виленской губерн. Ошмянского уезда. Спб., 1874 | 26 | Валожын (былая Валожынская парафія) | Валожынскі | Мінская |
| | 28 | Азярыцкая Слабада | Смалявіцкі | Мінская |
| | 29 | Верцялішкі | Гродзенскі | Гродзенская |
| Материалы по этнографии Гродненской губернии. / Под ред. Романова Е. Р. Вильно, 1911. Вып. 1 | 29а | | | Гродзенская (былая Гродзенская губернія) |
| | 30 | Мураванка, Аленкаўцы, Скрыбаўцы | Шчучынскі | Гродзенская |
| Юркевич И. Остринский приход Виленской губернии Лидского уезда // Этнографический сборник. 1853. Вып. 1 | 30а | Астрына | Шчучынскі (былы Лідскі павет) | Гродзенская (былая Віленская губернія) |
| Любча, Равячычы Навагр. | 31 | Любча, Равячычы, Голынь | Навагрудскі | Гродзенская |
| | 32 | Старынкі | Дзяржынскі | Мінская |
| | 33 | Багушэвічы | Бярэзінскі | Мінская |
| Дулебы, Жабаўка Бярэз. | 34 | Дулебы, Жабаўка | Бярэзінскі | Мінская |

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 |
|---|---|---|---|---|
| Брасневічы Бял. | 35 | Брасневічы | Бялыніцкі | Магілёўская |
| Зарэсце Маг. | 36 | Зарэсце | Магілёўскі | Магілёўская |
| Гараны, Рэчкі Маг. (гл. п. 17б) | 36а | Гараны, Рэчкі | Магілёўскі | Магілёўская |
| | 37 | Сідаравічы | Магілёўскі | Магілёўская |
| Сялец Мсцісл. | 38 | Сялец | Мсціслаўскі | Магілёўская |
| | 39 | Гразь | Хіславіцкі | Смаленская |
| | 40 | Воўпа, Кавалі | Ваўкавыскі | Гродзенская |
| | 41 | Дзярэчын, Алексічы | Зэльвенскі | Гродзенская |
| Из деревенских наблюдений Крестьянина // Живая старина. 1907. Вып. 2 | 41а | | Слонімскі (былы Слонімскі павет) | Гродзенская |
| | 42 | Міжэрычы, Дзергілі, Дарбраселец | Зэльвенскі | Гродзенская |
| Пырашава, Слабада Уздз. | 43 | Пырашава, Слабада | Уздзенскі | Мінская |
| Земляробчы каляндар. Мінск, 1990 | 43а | Мікалаеўшчына | Стаўбцоўскі (былы Мінскі павет) | Мінская |
| | 44 | Блужа | Пухавіцкі | Мінская |
| | 45 | Баравіца | Кіраўскі | Магілёўская |
| Шаламы Слаўг. | 46 | Шаламы | Слаўгарадскі | Магілёўская |
| Вялікі Осаў Краснап. | 47 | Вялікі Осаў | Краснапольскі | Магілёўская |
| Тухавічы, Забер'е Лях. | 49 | Тухавічы, Забер'е | Ляхавіцкі | Брэсцкая |
| Замошша Люб. | 51 | Замошша | Любанскі | Мінская |
| Акцябр, Праскурскі Жлоб. | 52 | Акцябр, Праскуркі | Жлобінскі | Гомельская |
| Залессе Чач. | 53 | Залессе | Чачэрскі | Гомельская |
| | 54 | Мікалаева | Камянецкі | Брэсцкая |
| Роўбіцк Пруж. | 55 | Роўбіцк | Пружанскі | Брэсцкая |
| Смаляны Пруж. | 56 | Смаляны, Алішавічы | Пружанскі | Брэсцкая |
| | 57 | Спорава | Бярозаўскі | Брэсцкая |
| Аброва Івац. | 58 | Аброва | Івацэвіцкі | Брэсцкая |
| Жытлін Івац. | 58а | Жытлін | Івацэвіцкі | Брэсцкая |
| Горталь Івац. | 58б | Горталь | Івацэвіцкі | Брэсцкая |
| Гошчава Івац. (Шейн П. В. Материалы… 1902. Т. III) | 58в | Гошча́ва | Івацэвіцкі (былы Кобрынскі павет) | Брэсцкая |
| | 59 | Крыўляны | Жабінкаўскі | Брэсцкая |
| | 60 | Дубіны, Аніскавічы | Кобрынскі | Брэсцкая |
| | 60а | Засімы | Кобрынскі | Брэсцкая |

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 |
|---|---|---|---|---|
| | 60б | Бельск | Кобрынскі | Брэсцкая |
| Сіманавічы Драг. | 61 | Сіманавічы | Драгічынскі | Брэсцкая |
| Бездзеж Драг. | 62 | Бездзеж | Драгічынскі | Брэсцкая |
| | 63 | Опаль | Іванаўскі | Брэсцкая |
| | 63а | Дружылавічы | Іванаўскі | Брэсцкая |
| | 63б | Тышкавічы | Іванаўскі | Брэсцкая |
| | 64 | Олтуш, Арэхава | Маларыцкі | Брэсцкая |
| | 65 | Сварынь | Драгічынскі | Брэсцкая |
| | 66 | Адрыжын | Іванаўскі | Брэсцкая |
| | 67 | Жабчыцы | Пінскі | Брэсцкая |
| Парахонск Пін. | 68 | Парахонск | Пінскі | Брэсцкая |
| | 69 | Жоўкіна, Ласіцк, Вешня | Пінскі | Брэсцкая |
| Гарадная Стол. | 70 | Гарадная | Столінскі | Брэсцкая |
| В. Церабяжоў Стол. | 71 | Верхні Церабяжоў | Столінскі | Брэсцкая |
| | 71а | Радчыцк | Столінскі | Брэсцкая |
| Аздамічы Стол. | 72 | Аздамічы | Столінскі | Брэсцкая |
| | 73 | Дзякавічы, Лутаўё, Пасталы | Жыткавіцкі | Гомельская |
| Галубіца, Дарашэвічы Петрык. | 74 | Галубіца, Дарашэвічы | Петрыкаўскі | Гомельская |
| | 74а | Камаровічы | Петрыкаўскі | Гомельская |
| Залатуха Калінк. | 75 | Залатуха, Навінкі | Калінкавіцкі | Гомельская |
| Бабічы, Галоўкі Рэч. | 76 | Бабічы, Галоўкі | Рэчыцкі | Гомельская |
| Грабаўка Гом. | 77 | Грабаўка | Гомельскі | Гомельская |
| Гл. пункт 17б | 77а | | Гомельскі | Гомельская |
| | 78 | Тонеж | Лельчыцкі | Гомельская |
| | 79 | Стадолічы | Лельчыцкі | Гомельская |
| | 80 | Кочышчы | Ельскі | Гомельская |
| | 80а | Вербавічы | Нараўлянскі | Гомельская |
| | 81 | Барбароў | Мазырскі | Гомельская |
| | 82 | Вялікі Бор | Хойніцкі | Гомельская |
| | 83 | Дронькі | Хойніцкі | Гомельская |
| | 84 | Ручаёўка | Лоеўскі | Гомельская |
| | 85 | Верхнія Жары | Брагінскі | Гомельская |

# Карты № 1–6




- ○ Ма́сленіца
- ⊖ Ма́сленка
- ⊙ Ма́слена(я)
- Ма́сленыя(ая) ты́дзень(нядзе́ля)
- ● Ма́сні́ца
- Ма́сна нядзе́ля
- ⊕ Ма́слеца
- ☑ Святы́ ве́чар
- △ Запу́сна́(я) нядзе́ля
- * адзінкавыя назвы




Ула́с
Ула́ссе
Аўла́ссе
Ула́скі
Аўла́скі
Воло́сій
Воло́ссе, Воло́сье, Воло́сся
Вало́скі день
адзінкавыя назвы




- ○ за́гавіны
- ⊙ за́гвіны
- ▲ за́пусты
- запу́сты
- за́пускі
- запу́скі
- запускі́
- пу́шча́нне




- ● Папе́лец
- **o** Папяле́ц
- ◫ Бе́лы панядзе́лак
- ⊠ Шы́льны, шылава́ты панядзе́лак
- ▨ Крывы́ панядзе́лак
- ⊟ Сухі́ панядзе́лак
- △ Паласказу́б




⊙ каталіся на канях

◐ каталіся з гор

● калыхаліся на арэлях

⊕ скакалі на дошцы

⊗ праводзілі зіму і сустракалі вясну

дзеянні на "доўгі лён":

ŏ каталіся на канях

◐̆ каталіся з гор

●̆ калыхаліся на арэлях

⊕̆ скакалі на дошцы

Ŏ часалі лён шчоткай

⊘̆ хадзілі далёка

⊖̆ гулялі з багатай ежай, выпіўкай

Φ̆ спявалі песні




● цягалі калодку
⊖ цягалі ступу, дзверы (да незамужніх дзяўчат)
○ ездзілі на качарзе (хлопцы, дзяўчаты)
⊘ кралі рэчы незамужніх дзяўчат
⊕ цешча частавала зяця
⊙ разувалі маладух
△ віншавалі павітух

*Ф. Д. Клімчук*

# СЛОВЫ З-ПАД БЕЛАВЕЖСКАЙ ПУШЧЫ

Артыкул з'яўляецца працягам публікацыі «З лексікі вёскі Камянюкі Камянецкага раёна» («Жывое народнае слова». Мн: Навука і тэхніка, 1992. С. 36–35). Вёска Камянюкі, дзе запісаны матэрыял (снежань 1974 г.), знаходзіцца на паўднёвай ускраіне Белавежскай Пушчы.

БАЛАВЭ´ШКА *ж.* Доўбня. *Балавэ́шка – і дра́нки коло́ли, і полі́но коло́ли.*

БА´РВА *ж.* Абвіслая частка адзежыны. *Ба́рва – бы мышо́к на ко́фты.*

БІ´ГМА *прысл.* Далібог. *Бі́гма, шо то пра́вда.*

БЛАГЫ´Й *прым.* Дрэннай якасці, слабы. *Блага́я ха́та.*

БОЛО´НКА *ж.* Палонка.

БОЛО´ТЛИВЫЙ *прым.* Балотны. *Боло́тливый лопу́х.*

БРО´МКАТЫ *незак.* Брынкаць.

БЫЗДЫ´ТУХА *ж.* Бяздзетная жанчына.

БЫЛО´ *н.* Драўляная частка сіта.

БЫЛЮГА´ *ж.* Балотная расліна. *Былюга́ – як ва́та, воно́ од ві́тру, ку́раться йім.*

БЫ´ТЫ *незак.* Цячы струменем. *На Сэлишча́ньских поло́сах була́ крыны́ця, бы́ла з зымлі́ вода́.*

БЭ´ЛИЦЬ, БЭ´ЛЬЧЫК *м.* Цэбер. *Бэ́льчык, бэ́лиць – так ка́жуть в Кындышя́х, гэ́то цэ́бэр.*

ВО´ВЧЫ Я´ГОДЫ *мн.* Плады «*во́вчого дэ́рыва*» (гл. *во́вчэ дэ́рыво*).

ВО´ВЧЭ ДЭ´РЫВО *н.* Кустарнік. *Во́вчэ дэ́рыво похо́жэ на крушы́ну, на йім во́вчы я́годы.*

ВСЮ´СЬКЫ *займ.* Усе выключна. *Всю́ськы сусі́дэ попрыхо́дыли.*

ВЧА´ДЯТЫ *зак.* Учадзець. *Вча́дяйіш – голова́ болі́тымэ. Вона́ вча́дяе тут.*

ВШЧЫПЫ´ТЫ *зак.* Прышчапіць. *Вы́спу вшчыпы́ли.*

ВЫБІРА´ТЫ *незак.* Падбіраць (мёд). *Выбіра́ют мід.*

ВЫ´ВАЖАНЫЙ *прым.* Узважаны (для ўстанаўлення нормы, крытэрыя). *Вы́важанэ камі́нне.*

ВЫ´ВАЖЫТЫ *зак.* Узважыць (для ўстанаўлення нормы, крытэрыя). *Вы́важыв камі́нне.*

ВЫГА´Р *м.* Выгараўшыя мясціны. *Выга́ры в лі́сы.*

ВЫ´МЫНЕ *н.* Вымя.

ВЫ´СМЫШКА *м.* Валацуга.

ВЫ´ШЧЫРЫТЫ *зак.* Вышчарыць. *Зу́бы вы́шчырыв.*

ГАЛ *ж.* Непакрытая лесам прастора. *Там гал всю́ды, лі́су ныя́кого ныма́.*

ГАЛЁВЫ´ТКА *ж.* Скручаныя галінкі лазы, якімі перавіваюць часткі бараны. *Галёвы́тка в борони́.*

ГАЛУ´ЗУВАТО *прысл.* Пра стан сырога халоднага надвор'я.

ГО´ЙДАВКА *ж.* Гушкалка. *На го́йдавцы го́йдалися.*

ГОЙДАНЫ´НА *ж.* Грузкае балота.

ГРА´МАТНЫЙ *прым.* Пісьменны.

ҐРАША´НЧЫК *м.* Кусочак каўбасы, сала, бульбы.

ГРУЗУЛЕ´ВЫНА *ж.* Грузкае балота.

ГУ´БЫ *мн.* Ядомыя грыбы, акрамя баравікоў. *Назбыра́ла губ ці́лый ко́шык, а бі́лых грыбйв ныма́; шэ бэ́тки зва́ли.*

ГУДЭ´ННЫК *м.* Гадзіннік. *Гудэ́нных на стыні́ вы́сыт.*

ҐУЗЬЗЁДЗЁ´Р *м.* Прыстасаванне вымаць цвікі. *Ґузьзёдзёр – шо выйма́ты ґо́зьдзі, та́я ла́пка.*

ДВОЯ´КЫ *прым. мн.* Дзеці ад двух мужоў. *Мны двоя́кых дытэ́й ны трэ́ба.*

ДДЕ´ЛЬНО *прысл.* Асобна. *Вони́ дде́льно жыву́т.*

ДЗЯ´ВКАТЫ *незак.* Дзяўкаць. *Як соба́ки дзя́вкают.*

ДОВГОТЁН *м.* Ачышчаны ад сукоў ствол дрэва.

ДОЙТЫ´ *зак.* Давесці да непрыемнасці. *Тыбэ́ шэ здоро́в'е до́ймэ.*

ДОСУ´ДЖЫЙ *прым.* Здольны ўсюды прадэманстраваць сябе.

ДОТЫРКА´ТЫСЯ *незак.* Дакранацца.

ДРЫН *м.* Тоўсты кій.

ДУХ *м.* Унутраны пухір у рыбы.

ДЫВО´ЦТВО *н.* Дзявоцтва. *Дыво́цтва ны ба́чыла.*

ДЫВЫ´ТЫСЯ *незак.* Прыглядвацца. *Ды́выцься на хло́пцюв.*

ДЫЛЯНЫ´ЦЯ *ж.* Доля, частка. *Гэ́то його дыляны́ця.*

ДЭ-НЫ-ГДЭ´ *прысл.* Сям-там.

ЖА´РЫЙ *прым.* З чырванаватым адценнем (пра траву). *Жа́ра трава́.*

ЖОВЧ *м.* Жоўч. *Тым жо́вчом суху́ю экзэ́му лі́чат.*

ЖЫВЁЛО *н.* Жывёліна. *Якóе гэ́то жывёло?*

ЖЫ´ТТЕ *н.* Жыццё. *Йий́і жы́тте – выгóда.*

ЖЯ´РЫЙ *прым.* Карычневаты (пра масць кароў).

З ДЭЙ РА´ЦЫЙІ. Без сур'ёзнай прычыны.

ЗАВЫЗА́ТЫ *зак.* Завязаць. *Встымка, завыжы́ мышка́. Я завыза́в мышка́.*

ЗАКА́ЛЕЦЬ *м.* Сыраваты хлеб. *Сыры́й хліб – зака́лець.*

ЗАКУ́ЦНЫК *м.* Упаўнаважаны пры Польшчы.

ЗАМЭ́РЗШЫЙ *дзеепрым.* Замёрзлы. *Замэ́рзша вода́ в бо́цци.*

ЗБЫВА́НКА *ж.* Збітая з частак рэч. *Збыва́нка – гэ́то збыва́ют, шось збы́тэ.*

ЗВА́ЛКА *ж.* Нарыхтоўка лесу. *Мужчы́ны хо́дят на зва́лку, ва́лят ліс.*

ЗВЭЛІЧА́ТЫ *незак.* Выказваць павагу. *Сказа́ты «ма́мочко», то вэльмы звэлі́чают, а «ма́тыско» – то не.*

ЗГО́РОК *м.* Узгорак.

ЗДАРЭ́ННЕ *н.* Выпадак. *Якое там здарэнне трапылось?*

ЗДО́ЛЬНЫЙ *прым.* Здольны. *Сам здольный робыты.*

ЗДУ́МАТЫ *зак.* Успомніць.

ЗЛЯ́ГЛЫЙ *прым.* Злежаны. *Зляглый сныг.*

ЗМЫНТРЭ́ЖЫЛОСЬ. Пра хуткую змену ўлад у 1939–1941 гг.

ЗМЫНЮ́ШЧЫТЫ *зак.* Даць мянушку.

ЗНАЧЫ́ТЫСЯ *зак.* Пра стан каровы перад цяленнем. *Корова вжэ значыцьця – рожкы лу́пацьця.*

ЗРА́ДА *ж.* Здрада.

ЗЫ́МНЫЦЯ *ж.* 1. Азімая пшаніца. 2. Зімовая дарога.

ЗЫМСА́К *м.*, ЗЭ́МСЫ *мн.* Узоры на дзвярах.

І́МЫЛО *н.* Амяла. *Імыло – бы клубо́к на бырэ́зыны.*

КАВДУНА́ТЫЙ *прым.* Чараваты, з вялікім чэравам.

КАЛ *м.* Гразь на дарозе.

КАЛНЫ́Й *прым.* Гразкі. *Кална́я доро́га.*

КАНЧУ́К *м.* Плецены з рэменя ці з лазы біч.

КАПЛУ́Н *м.* Страва з вады, кусочкаў хлеба, тлушчу ці цукру.

КВОХТА́ТЫ *незак.* Падаваць голас (пра пчалінаую матку). *Ма́тка квóхчэ пырыд роя́мы.*

КЛЁК *м.* Дзіцячая гульня. *Ды́ты гра́лись в клёка: пыску́ ку́чычку малу́ю, встро́мыт па́лочку і кыя́мы збыва́ют.*

КЛІЙ *м.* Жыццёвыя сілы. *Робóта клій вытягнэ с чолові́ка.*

КНЫ´БЫЛЬ *м.* Палка, якой скручваюць вяроўкі.

КО´ЗЛИК *м. заал.* Конік. *Кóзлик, козéльчык, дай мáсці.*

КОЛЫ´КАТЫ *незак.* Ужываць словаформу «колы́». *Полю́х колы́кае.*

КО´НЯ *н.* Конь, каняжына. *Було́ кóня в нас.*

КО´НЯТКО *н.* Конік, каняжына. *Одногó кóнятка трымáли.*

КОСНЫ´К *м.* Від пояса. *Коснықáмы подпаря́зувались мужыкы́, плéтяны коснықы́, с кутасáмы на концях; пóяс плáскый, а то крýглый.*

КОШЫЛІ´: ПЛИСТЫ´ КОШЫЛІ´. Гаварыць бязглуздзіцу.

КРАЁНКА *ж.* Дошка, на якой рэжуць сала, мяса.

КРОСНА´ *мн.* Кросны. *Кроснá ткали́.*

КРУ´ПЫННЫК *м.* Скупы, жмінда.

КУПА´НЬКА *ж.* Начоўкі (в. Кіндзяшы). *Ночóвкы зовýт купáнька в Кындышя́х, за Бі́лую, зáрэ в Пóльшчы.*

КУ´РОЧКА *ж.* Сузор'е. *Кýрочка – в кýпцы.*

КУШНЫ´Р *м.* Грабар.

КЫПІ´ТЫ *незак.* Быць месцам частай сваркі. *Ты́йі жывýт дóбрэ, а ты́йі свáряцьця, там ві́чно хáта кыпы́т, свáры пóвно.*

ЛАПШЫ´ВО *прысл.* Ласа. *Лапшы́во йісьць.*

ЛА´ХЫ *мн. экспр.* Адзенне. *Пуслі́дні лáхы збувáла.*

ЛЕКУТЫ´ТЫ *незак.* Дрыжаць. *Злякáвся, лекуты́т.*

ЛІ´КЫ *мн.* Лякарства.

ЛІСОВЫ´Й *прым.* Лясны. *Лісовы́йі лю́ды.*

ЛІТВЫНЯ´НКА *ж.* Жанчына літоўскай нацыянальнасці. *Вонá літвыня́нка, з Літвы́.*

ЛОЖЫ´ТЫСЬ *незак.* Класціся. *Ложы́вся спáты.*

ЛО´НКА *ж.* Участак сенажаці. *На лóнцы сы́но косы́ли.*

ЛОПАТКОВА´ТЫ *незак.* Капаць рыдлёўкай зямлю. *Я пошлá лопаткóвáты зэ́млю.*

ЛУЧНЫ´К *м.* Прыстасаванне для асвятлення лучынай.

МАРА´ *ж.* Надакучлівая істота. *Прычэпы́лася, як марá.*

МА´РЭЦЬ *м.* Сакавік. *В мáрці такы́йі морóзы.*

МАТАНЫ´ *мн.*, МАТА´НКА *ж.* Жыхары в. Камянюкі.

МАТЇНКА *ж. бат.* Мацердушка.

МІДЯНЫ´ЦЯ *ж.* Мядовая «раса» на лісцях.

МІ´НЫК *м.* Венік. *Мі́ныком замыта́ты.*

МНЯ´ВКАТЫ *незак.* Мяўкаць. *Кі́шка мня́вкае.*

МОЛОТЭ´БНЫК *м.* Малацьбіт.

МО´ТЛОХ: ЯК МО´ТЛОХУ. Вельмі многа. *Ковбэ́ль, ковблі́ – осо́ба ры́ба, по пыско́вы бі́гае, йі́йі́ як мо́тлоху.*

МОЧАНІ´ЧНЫК *м. бат.* Руск. *медвежье ушко.*

МУДО´ХАТЫСЯ *незак.* Павольна што-небудзь рабіць.

МУ´ЗЯ *ж.* Вязкасць, гразкасць. *Сныгростае́, то му́зя на гу́лиці.*

МУЛЬ *м.* Мулкае месца. *Такы́й муль, муле́вына.*

МУ´ЛЯ *ж.* Мул. *Я вся в му́лі.*

МЫ´РСА *ж.* Мыса ў каровы.

МЫШОВА´ТЫЙ *прым.* Цёмна-сівы, мышасты.

МЫШО´К: ЯК У МЫШКО´ВЫ ВЫ´СЫТ. Пра хмарнае надвор'е.

НА´ГЛА СМЭРТЬ *ж.* Раптоўная смерць. *На́гла смэрть – гром забы́в, чы як хо́дыт, хо́дыт і вмрэ ныза́пно, нага́лно, то за свойі́ грыхы́ ны одму́чывся.*

НАГРАДЫ´ТЫ: НАГРАДЫ´ТЫ ХВОРО´БЫЮ. Заразіць хваробай.

НА´ДОВБЭНЬ *м.* Сувязь капылоў у санях. *На́довбні впопыро́к в санка́х.*

НАДПУШЧА´НЦІ *мн.* Мясцовыя жыхары з паўднёвых ускраін Белавежскай пушчы.

НАСАДОВЫ´ТЫ *зак.* Многа пасадзіць. *Насадовы́ли лі́са.*

НАСВЫТЫ´ТЫ *зак.* Даць празмерную колькасць святла. *Луна́тык – мі́сяць на ёго́ насвы́тыт, то так ро́быт.*

НАСМО´Л *м.* Смалісты кавалак дрэва.

НАСТУ´ЛНЫЦЯ *ж.* Абрус, настольнік.

НАСЫ´ЛЬНЫЦІ *мн.* Дзве жэрдкі, на якіх носяць сена, салому.

НАТЫРА´ННЕ *н.* Мазь.

НА´ТЯГА *ж. зборн.* Прышлыя людзі, перасяленцы.

НЫДОЛУ´ГУВАТЫЙ *прым.* Няўмека. *Він то ны шы́ты, ны споро́ты: яко́сь ныдолу́гуватэ.*

НЫКОГЇ́СЬКО *прысл.* Зусім нікога. *Ныкогі́сько ны було́.*

НЫНА´ВЫДНЫЙ *прым.* Брыдкі. *Він мны нына́выдный, яка́ясь за́волоч.*

НЫНА´ШЧО *прысл.* Ні на што. *Ныспосо́бный нына́шчо.*

НЫ´ТЬМА *прысл.* Ніцма. *Ны́тьма спыт.*

НЫХО´ДЯЧЫ *прысл.* Выпадкова (зрабіць каму-небудзь непрыемнасць).

НЫЧОГЇСЬКО *прысл.* Зусім нічога. *Ничогїсько ны трыма́е. Нычогїсько ныма́.*

НЫЧОГУ´ТЫНЬКО *прысл.* Зусім нічога. *Нычогу́тынько ныма́.*

НЭХ *часц.* Няхай. *Нэх тыбэ́ заду́шыт халёрыя!*

ОБЭ´РВА *ж.* Вяроўка, якой прыціскаюць сена на возе.

ОБЭ´РВУВАТЫ *незак.* Прыціскаць сена спецыяльнай вяроўкай на возе.

ОБЭ´РВЫТЫ *зак.* Абвязаць і прыціснуць, замацаваць спецыяльнай вяроўкай сена на возе. *Обэ́рвы ху́ру.*

ОГЛЯ´ДШЧЫНА *ж.* Агляд.

ОДГАНУ´ТЫ *зак.* Адгадаць. *Загану́ я сва́ньцы сым за́гадок, коб розу́мна була й одгану́ла* (з песні).

ОДНЭ´СЫНЬКЫЙ *ліч.* Адзінюткі. *Однэ́сынькый вйн у мынэ́.*

ОДОЗВА´ТЫСЬ *зак.* Адклікнуцца. *І ны одозвэ́цьця до мынэ́.*

ОДЫНА´К *м.* Адзін сын у бацькоў. *З одына́ка або біс, або соба́ка.*

О´ДЯГА *ж.* Адзенне.

ОЛЁС *м.* Нізкая балоцістая мясціна, зарослая кустамі. *Ольсы́ булы́. Олёс – там гру́ско.*

ОПУ´ХА *ж.* Палоска аўчыны з ворсам, прышывалася па краях кажуха.

ОСЫРЭ´ДОК *м.* Асяродак у моркве. *Осырэ́док в мо́рквы.*

ОШЧІ´ПНЫЙ, ВШЧІ´ПНЫЙ *прым.* Які шчыльна прылягае да цела (пра адзенне). *Ошчі́пный (вшчі́пный) костю́м.*

ПАЗУ´Р *м.* Ногаць. *Ма́ло – на сыі́ній пазу́р.*

ПАСЫНКОВА´ТЫСЬ *незак.* Пусціць адросткі. *Вазо́н пасынку́йіцьця; пасынкова́тысь бу́дэ, бу́дуть росты́ па́сынкы.*

ПАТЫ´ЧКА *ж.* Палачка.

ПЛІСКОВА´ТЫЙ *прым.* Плоскі. *Здрэк чы здрок такы́й пліскова́тый.*

ПЛІ´ШКА *ж. экспр.* Спадніца.

ПЛОТЫ´ЦЯ *ж.* Плотка.

ПЛЫ´ВАТЫ *незак.* Плаваць. *Гусыня́та плы́вают.*

ПОВДУ´РОК *м.* Прыдуркаваты чалавек.

ПО´ВНОЧЫ *прысл.* Цёмна.

ПОВО´ДЫТЫ *незак.* Кіраваць лейцамі. *Поводы́р коня́ пово́дыт.*

ПОВЫ´ДДЕ *н.* Павадак.

ПОДЕ´ЛЬЧЫВЫЙ *прым.* Памяркоўны.

ПОДЫВЫ´ТЫСЯ *зак.* Паглядзець. *Подывысся на ёго́.*

ПО´ЗЫХЫ *мн.* Пазяханне. *По́зыхы напа́ли.*

ПО´КАЗ: НА ПО´КАЗ. Высокай якасці, урадлівыя. *Яблыка на по́каз вродьи́ли.*

ПО´КЛАД *м.* Чалавек з радні жаніха (нявесты), якога на вяселлі астаўляюць аднаго ў бацькоў нявесты (жаніха). *На вы́сьіллі молоды́й и́йдэ од молодэ́йі, оставля́е по́клада, по́молодый остае́цьця з ёго́ родні́.*

ПОКЫДА´НКА *ж.* Пакінутая мужам жанчына.

ПОЛІ´ТКЫ *мн.* Надзелы. *На́шы полі́ткы посырэ́дыны сыла́.*

ПОЛЮХІ´ *мн.* Этнаграфічная група на Берасцейшчыне. *Полюхі́ – за Камынэць, а мы багнюки́, поліщуки́.*

ПОЛЮ´ШКА *м.* Прадстаўніца этнаграфічнай групы палюхоў (гл. *полюхі́*).

ПО´МОЛОДЫЙ *м.* Чын на вяселлі. *По́молодый на вы́сьіллі, родня́ молодця́, ёго́ дружко́.*

ПОМО´РОК *м.* Мор. *Шоб на йіх помо́рок.*

ПОМЇРОК *м.* Мор. *Помі́ркы були́.*

ПОМЫТУ´ШЧЫЙ *прым.* Памятлівы.

ПО-ПОЛІ´ВСЬКЫ. На мясцовай гаворцы, якой карыстаюцца полюхі́ (гл. *полюхі́*). *По-полі́вськы говóрат.*

ПОПЫЛЬНЮ´Х *м.* Ануча для попелу. *Попыльню́х – та́я тря́пка, шо по́пыл сы́паты.*

ПО´ПЭРЭДЭНЬ *м.* Вяроўка для ўмацавання ў пярэдняй частцы воза сена, снапоў. *Було́ ужсы́шчэ, по́пэрэдэнь, рубэ́ль, клю́чка.*

ПОРЯ´ *прысл.* Пара. *Поря́ додо́му.*

ПОТАЙНА´Я ДОРО´ГА *ж.* Малапрыкметная дарога, звычайна ў лесе.

ПОТЯГУ´ХА *м.* Валацуга, хто многа ходзіць без патрэбы па хатах.

ПО´ТЯГЫ *мн.* Пацягванне.

ПОХОДЮ´ШЧЫЙ *прым.* Пра чалавека, які многа ходзіць без патрэбы па хатах.

ПРУТ: ПОСТА´ВЫТЫ ПРУ´ТОМ. Пра сутаргі канечнасцей. *Курч – постáвыт прýтом рýкы чы нóгы.*

ПРЫЗЫЛИ´ТЫ *зак.* Прычараваць пры дапамозе зёлак. *Вонá мóжэ прызылúты.*

ПРЫЙІШЧЯ´ТЫ *незак.* Прыяжджаць. *Двóе кóны мів, до нас прыйіишчя́в.*

ПРЫКОРХНУ´ТЫ *зак.* Задрамаць.

ПУДО´ВЫЙ *прым.* Які змяшчае пуд чаго-небудзь. *Кóшык пудóвый.*

ПУДТОПЫ´ТЫ *зак.* Распаліць (печ). *Мýсыт пудтоплю́ піч.*

ПУДЎСОК *м.* Падосак. *Пудўскы в дырывя́нных возáх булú.*

ПУДШКРЎПКА *ж.* Булачка з рэштак цеста.

ПУ´ЖОЛНО *н.* Дзяржанне біча. *В бычóвы пýжолно.*

ПУЧЫ´ТЫСЬ *незак.* Стан перад распусканнем почак на дрэвах, кустах. *Высна́ – ста́нэ пучы́тысь дэ́рыво.*

ПЫКЭ´ЛЬНЫЦЯ *ж.* Гарачая пара. *Трэ́ба було́ жя́ты, така́я була́ пыкэ́льныця.*

ПЫРЫВЫСТЫ´ *зак.* Загубіць чарамі. *Пырывыла́ нывї́стку.*

ПЫРЫКЛА´Д *м.* Перакладванне (рэчаў і інш.).

ПЫРЫЛЎГ *м.* Папар. *Пырылўг чы облўг – зымля́ ныóрана.*

ПЫРЫМО´ВЫТЫСЬ *зак.* Пасварыцца (нямоцна).

ПЫРЫХОДЯ´ШЧЫЙ *прым.* Заразны (пра хваробу). *Пырыходя́шча хворóба.*

ПЫЧЫ´ *незак.* Смажыць. *Пычы́ са́ло.*

РАЗОВА´ТЫ *незак.* Баранаваць (адзін раз). *Разýе боронóю, по разу хóдыт, поразува́в, а два разы – поволочы́в.*

РОСКОТУ´РХАТЫ *зак.* Пабудзіць (з цяжкасцю).

РОСКУ´ПАТЫСЯ *зак.* Раскудлаціцца.

РОСТРЫПА´ТЫ *зак.* Падкалаціць. *Рострыпа́ты огла́ткы.*

РУБЛЁВА´ТЫЙ *прым.* Пра масць коней: шэры з белымі крапінкамі.

РУМІ´НЭ[Ы]ЦЬ *м. бат.* Рамонак.

РУНЫ´ТЫ *незак.* Рунець. *Руныт жыто.*

САМОРО´СЛЫЙ *прым.* Які вырас натуральна. *Полїззе гнут, а е саморослэ, з ясэна.*

СВА´РА *ж.* Сварка. *До свары доходыт.*

СВІРІДО´ХЫ *мн.* Этнаграфічная група. *Свірідохы – нас зовут быловїзці, а мы йіх – матаны, вона – матанка.*

СВЫНКЫ´ *мн.* Укладка снапоў у полі, калі пакрывалі трыма снапамі. *Свынкы – трыма снопамы накрывают, як малое.*

СВЫ´НЯ *н.* Свінчо. *Було в мынэ свыня.*

СВЫРЫ´ДЫ *мн.* Этнаграфічная група. *Свырыды – з Беловїжа, вона – свырыдоха.*

СВЫ´ТЫНА *ж. экспр.* Світка. *Наложыла якую свытыну.*

СЁГО´РУШКА *ж.* Якая нарадзілася ці вылупілася з яйца ў гэтым годзе. *В мынэ куры – сёгорушкы.*

СКАВЫТА´ТЫ *незак.* Пішчаць. *Ны скавычы* (на кошку).

СКНЫБЛЁВА´ТЫ *зак.* Уціснуць, умацаваць на возе сена, снапы. *Скныблёвав хуру.*

СКО´ТЯ *н. экспр.* Скацініна. *Трымала скотя. Погнав скотя пасты.*

СМЫТЮ´Х *м.* Назва птушкі. *Смытюх – одын дзюбак до хмары, а другый – до гумна.*

СОШ *ж.* Шаша. *На сошї пырыстрэлка була.*

СПЁКЛЫЙ *дзеепрым.* Запечаны. *Спёклымы плястрамы йдэ кров.*

СПІ´ЛЬНЫЦЯ *ж.* Супольніца. *Спїльныця моя йдэ, знов братымося за роботу.*

СПІША´ТЫ *незак.* Паспяшаць. *Спішае на роботу.*

СПРА´ВА *ж.* Скарга. *Ходыла на скаргу, на справу.*

СПРА´ВНЫЙ *прым.* Дасціпны. *Я баба справна, досцїпна.*

СПÜЛНЫЙ *прым.* Супольны. *Спїлна кухня.*

СПЭ´РШУ *прысл.* Спачатку. *Спэршу Выхторый там робыв.*

СРІ´БНЫЙ *прым.* Сярэбраны. *Срїбны кольца.*

СТАВЭ´ЦЬ *м.*, СТАВЦІ´ *мн.* Адзін са слупоў, на якія ставіцца першы вянок зруба. *На гэ́тых ка́мнях пудру́бы, або́ ставці́.*

СТАРА´ЙЛІВЫЙ *прым.* Старанны.

СТАРУХА´ *ж.* Першы укос сена. *Старуху́ сушы́ли. А старуха́ вві́рылась.*

СТРЫЖЫ´НЫСТЫЙ *прым.* З густымі слаямі (пра драўніну). *Стрыжсыны́стэ дэ́рыво.*

СТЫКОВЫ´ЙІ, СТЫКОВЦІ´ *мн.* Этнічныя групы пераходнага характару. *Мы стыковы́йі, стыковці́ – ны біл́орусы, ны украйі́нці; у стыковы́х.*

СУКАНА´ТЫЙ *прым.* Сукаваты. *Сукана́стэ дэ́рыво.*

СУТЫНЫ´ТЫ *незак.* Цямнець. *Вжэ сутыны́е, тымны́ты почына́е.*

СХО´ДЖАВЫЙ *прым.* Пухкі (пра хлеб). *Схо́джавый хліб – пу́хкый хліб.*

СЫВЭ´ЦЬ *м.* Сявак. *Сывэ́ць россыва́е жсы́то.*

СЫДЗЭ´ННЕ *н.* Сядзенне. *Сыдзэ́нне на ро́вырове.*

СЫНЮ´ШКА *ж.* Сівая сыраежка. *Сынюшкы́ – сы́вы сыройі́жкы.*

СЫРДОВА´ТЫ *незак.* Злавацца. *Ты ны сырду́й на мынэ́. Гань ёго́, лай ёго́, а він ны сырду́е. Сырду́е, нашчо ёго́ збу́дыш.*

ТАМТЭ´ЙШЫЙ *прым.* Пра мясцовага чалавека ў іншым населеным пункце ці мясцовасці. *Вона́ тамтэ́йша.*

ТА´НЬШЭЙ *прысл.* Таней. *Я собі́ та́ньшэй купы́ла.*

ТРАСАНЫ´НА *ж.* Грузкае балота.

ТРУСНА´ТЫЙ *прым.* Цвёрды. *Коноплі́ трусна́ты, шо́рсткы.*

ТРУТЫ´ЗНО *н.* Атрута. *Труты́зна вы́пыли да була́ быда́.*

ТРЫБЛА´ТЫЙ *прым.* Пузаты.

ТРЭ[Ы]Б *м.* Вузкая прасека праз лес.

ТУРЫ´ГАТЫ *незак.* Торкаць (пра рыбу). *Ры́ба то́(ё)ргае, туры́гае.*

ТЫПІ´РО *прысл.* Зараз, цяпер. *Оста́лась сырото́ю, а тыпі́ро вдово́ю.*

УБУ´ВОК *м.* Абутак.

УГЛО´ *н.* Вугал. *Быры́ всё, йды ты́хо, остав мое́ угло́.*

УДЯГНУ´ТЫСЬ *зак.* Адзецца. *Трэ́ба убу́тысь, удягну́тысь і пуйты́.*

УЛО´ГА *ж.* Хвароба. *Уло́гу угна́в у но́гу, но́гу одняло́, кульга́е, уло́гуватый.*

УЛО´ГУВАТЫЙ *прым.* Хворы на нозі. *Уло́гуватый, уло́гу угна́ло, кульга́е.*

УЛО´ЖНЫЙ *прым.* Пакаты. *Уло́жный шчыт* (франтон).

УПОПЫРЭ´Ч *прысл.* Упапярок.

ХА´ТНЫСКО *н.* Месца працяглага жыхарства. *Покы́нула свое́ ха́тныско.*

ХВЇСТ *м. экспр.* Худобіна. *Трэ́ба трыма́ты хоть одного́ хвоста́.*

ХВЫ´ЛЯ *ж.* Кароткі час. *Запыка́йіцьця по хвы́лі.*

ХЛЮ´БА *ж.* Дубец. *Хлю́бою поганя́е коня́. Я возьму́ хлю́бу і кажу́: россычу́.*

ХМУ´РА *ж.* Вялікая цёмная хмара. *Хму́ра нахо́дыт, дошч бу́дэ.*

ХОМУ´Т *м.* Хамут. *Наложы́в хомута́.*

ХОРОШМЯ´НЫЙ *прым.* Прыгожы.

ХРАСТЫ´ТЫ *незак.* Есці з хрумстаннем. *Храсты́т мо́рквыну.*

ХРЫ´ПКО *прысл.* Хрыпла. *Хры́пко гово́рыт, в гру́дюх хрыпы́т.*

ХРЫ´ПКЫЙ *прым.* Хрыплы. *Хры́пкый го́лос став.*

ЦЕ´НЖАР *ж.* Цяжар. *Така́я це́нжар то́е дэ́рыво.*

ЦЫБАНА´ТЫЙ *прым.* Цыбаты.

ЧМУТА´ *м.* і *ж.* Чалавек, які гаворыць недарэчнасці. *Ох ужэ́ чмута́ яка́ясь чмуты́т, гово́рыт шо попа́ло.*

ЧО´РНЫ ЛЮ´ДЫ. Сяляне. *Хай поба́чыт, як чо́рны лю́ды жыву́т.*

ЧУБА´ТА ША´ПКА. Уцяплёная шапка. *Шэ було́ холодно́, то чуба́ту ша́пку носы́в.*

ЧУ´ТЫ *зак.* Адчуваць. *Ні́г ны чу́ю пуд собо́ю. Пчо́лы чу́ют дошч, з у́лія ны хо́чут.*

ЧЫКОТЫ´ТЫ *незак.* Падаваць голас (пра сароку). *Чыкоты́т соро́ка.*

ЧЫРЫТЯ´НКА *ж.* Балотная расліна з чорнымі шышкамі.

ЧЫРЭ´МУХА *ж.* Чаромха.

ЧЫТВЫРТУ´ШНЫЦЯ *ж.* Жанчына, якая мела чацвёртую частку надзела. *Я чытвыртýшныця, мáла чытвыртýху зэмлí.*

ЧЭ´МЫР *м.* Чамярыца. *Гýркый як чэ́мыр, йім трáвацьця.*

ШАЛІ´ВКА *ж.* Хустка шаліноўка.

ША´ЛЬҐЫ *мн.* Шалі. *Вáжыли на шáльґах.*

ШМЫ´ТКЫЙ *прым.* Шпаркі. *Такáя шмы́тка молодыця.*

ШПЫ´РКА *ж.* Сала.

ШУ´БЫНЫК *м.*, ШУ´БЫНЫЦЯ *ж.* Шыбенік, чалавек, які павесіўся.

ШУ´РЧАНКА *ж.* Звязанае ці завязанае неакуратна.

ШЧЫКАТА´ТЫ *незак.* Падаваць голас (пра сароку). *Шчэ[ы]кóчэ сорóка.*

ШЧЭБЭ´ЛЬ *м.*, ШЧЭ´БЛІ *мн.* Вузкія дошчачкі ў драбінах.

ШЯ´НОК *м.* Мера ў шэсць пудоў.

Я´РЫННЫЦЯ *ж.* Яравая пшаніца.

ЯТРЫНЍВКА *ж.* Ятроўка.

БУ´СНЁВА ЛАПА. На Благовíшчынне пыклú бýснёву лáпу, бýлочку такýю, малю́ют звэ́рху бýснёву лáпу, як вычэ́рали, вся сым'я́, то зйідя́т йийí.

ВО´ЛОС. Прыкыдáецьця волос, трэ́ба взя́ты дэ́вэть кóлосов і трэ́ба лúты вóду на тóе колóссе (колóссе на рáны), вы́йдэ той вóлос і сплитэ́ тóе колóссе.

ВЫРБЫ´НКА. Як выганя́ли пэ́ршый раз скоты́ну с хливá, то вырбóю свянцóною б'ют, бы́ли, тýю вырбы́нку в стрíху над двыры́ма в хливí встромля́ли.

ВЫТА´ТЫ. Вытáе бáтько дочкý, як оддаé замуж.

ДОШЧ. Лíтом, як дошчý ны булó, як сухóе лíто, то бáтюшка с крэ́сным хóдом обхóдыв тóе поле[э], всы с сылá выхóдыли, стары́йі й малы́йі, ходы́ли, і кропы́в бáтюшка.

ДЫРКА´Ч. Як выгыня́ли пэ́ршый раз скоты́ну с хливá, то нáкрыж два дыркачí клáли пы́рыд порóгом, шоб корóва пырыступы́ла, пырыйшлá, гэ́то шоб ны врóчылася, як бýдэ ходы́ты, ты́йі дыркачí ны прыймáют.

ЗЛЫЙ. Як блýдыш, то злый вóдыт.

КОСНЫ́К. Коснyка́мы подпаря́зувались мужыки́, пле́⁹тяны кусныки́ с ку́тасамы на концях; по́яс – пла́ский, а то – кру́глый.

ЛЕ́НТОЧКА. Прыв'я́зували ле́нточку шнурочка коро́вы на шы́ю, шоб ны вро́чылася коро́ва.

НА́ВСЬКИЙ ВЫЛИ́КДЭНЬ. Він в чытвэ́р по́сля Па́ски, йшли на мо́глиці, сэрвыто́вым насті́лныком застыла́ли, поло́жыш дві йіці́, йіх оставля́ли на могы́ли, а насті́лныка забыра́ют.

НАСВЫТЫ́ТЫ. Луна́тык – мі́сяць на ёго́ насвы́тыт, то так ро́быт.

ПА́ПОРОТЬ. Ныхто́ ны допылну́е, як па́пороть цвытэ́, бо чорты́ ны допу́стят, – зорвэ́цьця бу́ра, злякайіцьця і втычэ́; тут зацвыла́, тут одлиты́ла; шоб зорва́в, то всё знав бы – шо е, шо будэ. Па́пороть цвытэ́ на Йва́на, в двана́ццэть часо́в, і ёго́ (цвытка́) зорвы, то всё бу́дыш ві́даты, вона́ цвытэ́ вэ́льмы ма́ло, зацвытэ́ і опадэ́. Одён чолові́к то ныдопылнова́в, як зорва́вся вітёр, як зорва́лася бу́ра і ёго́ чуть ны понысло́.

ПОВЫЧЭ́РАТЫ. Повычэ́раты на́нуч, коб цыганы́ ны сны́лися.

ПОЗЫЧА́ТЫ, ПОЗЫЧЯ́ТЫ. Як засыва́ют, то ны дають ныччо́го, ны позыча́ют, і як зако́пували карто́плі, то ны позыча́ли, бо мы́шы чы шчурі́ будут йі́сты, і як тылу́шка втэ́лыцьця, то ны позычя́ют.

ПО́КЛАД. На высы́ллі молоды́й йі́дэ од молодэ́йі, оставля́е по́клад, по́молодый остае́цьця з ёго́ родни́.

ПЭ́РШЫЙ СНЇП. Пэ́ршого снопа́ у ляшки ста́ват, у сэрэ́дыну ста́ват, а до ёго́ прыкла́дуют бі́льш.

СПЫ́НА. Шоб спы́на ны болі́ла, як загрымы́т пэ́ршый раз – з мі́сьця ны сходь, як в по́лі, то до зымлі́, в ха́ты – то до чого́-нэ́будь, до стыны́ чы до зымлі́. Я пэ́ршый раз загрымы́т, то до дэ́рыва чы до жылі́за прыту́люйіш спы́ну, коб була́ спы́на, як жылі́зо, коб ны болі́ла, чы до зымлі́, чы шо-ныбу́дь взя́ты в ру́ку і до спыны прытули́ты. На ко́ляду повычэ́рае, ло́шку за по́яс і быжы́т на жы́то, на посы́в і кача́йіцьця, тры разы пырыкоты́вся і прыхо́дыт додо́му; гэто шоб спы́на ны болі́ла. Як спы́на боли́т, то сокі́рою руба́ли на́крыж порога – гэ́то спы́ну, як начына́е руба́ты спы́ну, то ж, шо лижы́т, пыта́е: Шо ты ро́быш? – А той ка́жэ: Руба́ю спы́ну. – То руба́й, руба́й,

коб ны болі́ла; так тры разы. Лічыли, як спы́на боли́т: лягáйіш пырыд порóгом, дрýгый ступáе на спы́ну – найстáршый чы наймэ́нчый в сымйі́, чы чужы́й, і як пэ́ршыю дыты́ныю берéменна, то топтáли спы́ну. Як тóпчуть спы́ну, то ступáе на спы́ну: одна ногá на зымлі́, ны до порóга, дрýгыю ступáе, зрáзу на спы́ну, под вэрх, после на порі́г, пóсля за порі́г, пóсля знов на порі́г, вы́жэй (правéе) пэ́ршого рáзу, после на спы́ну, ны́жэй (лівéе) пэршого разу, после до тэ́йі ногы́, шо на зымлі́ (лівее), после знов на спы́ну, ныжэй (лівéе) дрýгого рáзу, после на поріг, ныжэй (лівее) другого разу, после за поріг, ны́жэй (лівее) пэршого разу.

ЧАРОВА´ТЫ. То ві́тром ны дмýхныш, а дмýхныш, то ны прычарýйіш, а трэба чы пы́ты даты, чы йі́сты дáты, чы вшы́ты шо-нэ́будь.

Вин – ны шы́ты, ны спорóты, якóесь ныдолýгуватэ.

Вин – одрубáй рýки, ныць ны вмі́е.

Вы́скочыв, як зáйіць.

Вонá дна (’адна’): ны рóду, ны плóду.

Гӥркый, як чэ́мыр; йім трáвацьця.

Дыся́та водá на кысылёвы – такáя родня́.

Затопы́ла удовонька сыры́мы дровáмы, залилáся удóвонька дрі́бнымы слёзáмы.

Знáла тӥлько пісэ́нь, шо на волóвӥй шкýры ны спы́шыш.

З одынáка абó біс, або собáка.

Кáждый кулі́к своé болóто хвáлит.

Коб тыбэ́ кадýк узяв!

Коб тыбэ́ смýток задушыв!

Корынны́й хозя́йін тя́гнэ в гныздó, а прыймáк з гныздá.

Мáло – на сы́ній пазýр.

Мнóго, хоч грэ́блю гаты́.

На чыёму вóзы йі́дэш, томý пі́сню спывáй.

Ны выбырáй на прáзніку собі́ жӥнку, картóплі копáют, то выбырáй.

Ныдосӥл на стӥл, пырысӥл под стӥл.

Ны стáна, ны вы́да, як в старóго ді́да.

Прычэпы́лася, як марá.

Сáмый найгӥршый вóрог стáрость.

Свята́я Покро́ва, Ма́тка Езусо́ва, прыкры́ла зымли́цю листко́м, прыкры́й мою́ голи̇вку чыпцём – так ды́вка просы́ла.

Смытю́х – одын дзюба́к до хма́ры, а дру́гый до гумна́.

Ся́кый та́кый купынӥс, абы́ горі́лкы (запыва́ты) прынӥс; пойду́, далібу́г пойду́.

Тыбэ́ нычы́стый тя́гнэ на гэ́тэ ды́ло.

Уло́гу угна́в у но́гу – ногу одняло́, культа́е, уло́гуватый.

Хай тыбэ́ жу́ром жынэ́!

Хоч ны вйі́жно, то влі́жно.

Чо́рный, як зымля́.

Як вы́ступыть Кыта́й, то быры́ да здыха́й.

Як мрӥк – мовчы́т, як стына́.

Як трыво́га, то до Бо́га, а як по трыво́зі, то по Бо́зі.

*П. І. Кулік*

## МАТЧЫНА СЛОВА

Словы запісаны ў гаворцы роднай вёскі Гало́ўчыцы Драгічынскага раёна Брэсцкай вобласці ад маці Ірыны Кандратаўны Кулік (Літвінчук), 1901 г. н., і бацькі Івана Ігнатавіча Куліка, 1907 г. н.

АПЕ́НІЯ *ж.* Аўтарытэт, характарыстыка, думка, слава. *Сынку, ны робы на Паску, а то згубыш апе́нію.*

БАЛЕ́СКЫ, БАЛЯ́СЫ *мн.* Агароджа з тонкіх фігурных слупкоў. *Помыла онучы і чобуты і повісыла на бале́скы.*

БА́ЛО *прысл.* Бывала. *Бало, ек піду в ліс, то завжды назбыраю грыбів* (баравікоў).

БАЮ́РА *ж.* Калдобіна. *Куды ты правыш коне́ в баю́ру?*

БІ́ДКА *ж.* Палка з металічным наканечнікам (пры катанні на каньках). *Колысь Іван Макарів ї̈здыв*[1] *по Чорному рові на коньках і провалывся пуд лід. Кыб ны бі́дка, то втопывся б.*

БЛЁВЗНЫТЫ *незак.* Плявузгаць. *Хватыть тобі, хлопчэ, блёвзныты.*

[1] Літарай ї̈ аўтар абазначае спалучэнне *йі*, а таксама галосны *і* пасля цвёрдых зычных.

БЛУ´СКА *ж.* Клоп. *Уночі мынэ вэльмэ міцно блускы покусалы.*

БО´БЛЯХ *м.* Плады на бульбяным кусце. *Іван нанызав бобляха на палку і кынув ёго на гулыцю.*

БО´ВДУР *м.* Прыдуркаваты. *Вылыкый до нэба, а бо́вдур, як ны трэба.*

БОСА´К *м.* Бусак. *Подай босака́, трэба выдро достаты з колёдаза.*

БРАСКОТІ´ТЫ *незак.* Бразгатаць. *Шось оконычныцы браскотеть, трэба їх закрыты.*

БРО´ХАТЫ *незак.* Моцна плюхаць. *Шо ты брохаїш їжу поросетовы?*

БУ´БНЯВКА *ж.* Паша са з'едзеным травастоем. *Якого смутку ты погнав корів на бу́бнявку?*

БУЕ´Н *м.* Бугай. *Шо ты ны жэныся, а ходыш, ек буе́н?*

БУХТОВА´ТЫ *незак.* Гарэць вялікім полымем. *Шось мій керогаз розбухтовався.*

БЫЧЕ´ЛНО *н.* Пугаўё. *Так стукнув корову бычэм, шо аж быче́лно зламалось.*

БЫЧОНЫ´К *м.* Узвышаны бераг канала (бечева́я). *Таня! Сходы на бычоны́к і прынысы пыску. Трэба кострулю пошароваты.*

БЭ´БАХЫ *мн.* Неахайна пакладзеныя пасцельныя рэчы. *Прыбыры бэ́бахы, а то в хату хоч ны заходь.*

БЭ´ШТАТЫ *незак.* Бэсціць. *Ны з то́го, ны з сёго Бо́нька збэ́штав Бо́рму.*

ВАЛКОВА´ТЫ, *незак.* Есці на поўны рот. *Він валковав так, мусыть вырнувся з голодного краю.*

ВАЛЮ´ША *ж.* Сукнавальня. *У Івана Кышукового е валю́ша. Трэба звалеты сукно і пошыты сырнегу.*

В´ЕЗКА *ж.* Вязанка. *Мар'я! Дай коровы в'езку сіна.*

В´ЕЗЫ *мн.* Шыя. *Ны лізь, Петя, на дуба, а то в'езы зламаїш.*

В´ІКО *н.* Павека (для дзежкі). *Учора ходыла в комору за салом і забула закрыты ві́ко у діжцы. А кіт здзів кусок мнеса.*

ВІ´ТКЫДОК *м.* Клінковы тварог. *Трэба пошыты клынка, а то ві́ткыдок ныма в чому робыты.*

ВОРОТЫ´ЛО *н.* Навой (для пражы). *Кросна вжэ такыї старыї, шо воротыло зламалось і ныма кому зробыты новэ.*

ВОЦЁЛЯТЫ *зак.* Размазаць, разквэцаць. *Він ны стілько їв, скілько воцёляв їжу.*

ВЫБА´ДУВАТЫ *зак.* Кленчыць. *Я ны выбадую часнычку чы цыбулькы: ты міні мнеса дай!*

ВЫ´ЗЫКНУТЫСЬ *зак.* Страшэнна вылаяцца. *Моя курыця заліза в город до Прыбышенкы, то вона на мынэ так вызыкнулась, шо я тую курыцю зарубала.*

ВЫ´ЛЫЦЫ *мн. абразл.* Рот. *Закрый вы́лыцы, ек батько говорыть!*

ВЫРДА´ *ж.* Рэха. *Він ударыв бычэм, шо аж вырда́ пушла́.*

ВЫРЭ´СНУТЫ *зак.* Голасна крыкнуць. *Феня Мынтузова так вырэ́снула, шо я злякався.*

ВЫСА´ДА *ж.* Купка дрэў. *Кілько я просыла сусіда Кузьму зрізаты высаду з вырбы, алы ж він ны однэї ны зрізав.*

ВЫ´ТУХНУТЫ *зак.* Моцна прагаладацца. *Ек ны дам тобі грошій на обід, вы́тухныш ты у мынэ.*

ВЫ´ТЯТЫ *зак.* Ударыць, але не вельмі моцна. *Діты! Ны ґізуйтэ! Бачытэ лозыну за шапію? Ох, мусыть, прыдэцця когось вы́тяты.*

ВЫ´ШКЫ *мн.* Вышкі. *Всэ сіно ны влізэ в сторону. Трэба будэ одну копыцю на вышкы закынуты.*

ВЭ´ДРЫК *м.* Божая кароўка. *О Божэ мій! Моя Маня назбырала вэдрыкув у слоїк і прынысла до хаты.*

ГА´ЛЬКА *ж.* Жаночая спальная кашуля. *Мыкыта! Ты памытаїш, ек Галя Шаблыччына прышла у га́льцы на танцы? Всі тогды подумалы, шо гэто хорошэ платте.*

ГА´МУЗ *м.* Калектыў, гурт. *Га́музом і батька добрэ быты.*

ГАПЛЫ´К *м.* Гаплік. *У мынэ гаплы́к адорвався. Чуть нагавыцы ны згубыв.*

ГАРБУ´ЗЫКЫ *мн.* Насенне з гарбуза. *Моя Катя шось гыдко їсьць. Можэ у її чырвякы́ завылысь? Трэба даты поїсты гарбу́зыкув.*

ГІ´ЦЫЛЬ *м. перан.* Гіцаль, нягоднік. *Пудкынула міні Маня Вовіка. На всэ літо. Мало того, шо він курыне забыв, алы ж гэтой гі́цыль просыв купыты пычэню.*

ГЛЫ´НКА *ж.* Мел бяліць сцены і столь у хаце. *Ек будыш їхаты у Гантопілле на базар, купы міні глынкы. Хату трэба побылыты.*

ГНЭ´НУТЫ *зак.* Моцна ўдарыць. *Ярошчык як звір. Так гнэнув свого сына Петю, шо той проплакав в корчех до вэчора.*

ГОЛОМО´ВЗЛЫЙ *прым. перан.* Безгаловы, бяздумны. *Гэто ж трэба буты такым голомо́взлым! Покы мій Трохым ходыв коровы даты сіна, дэсь горілкы напывся.*

ГРОМА´ДА *ж.* Куча. *Ек будыш возыты гнїй на Лужок, ны робы вэльмэ вылыкы громады: лёкшій будэ розбываты.*

ГРЫБЫНІ´ *мн.* Грэбень (для часання лёну). *Ярына! У тыбэ е грыбыні? Дай міні на пару днів лён почысаты.*

ГУРО´К *м.* Агурок. *Шось мій собака гы́дко їсць. А можэ ёму гурка з картоплямы даты?*

ГЫ´НЧЫЙ *займ.* Іншы. *Маруся Мушына прышла на танцы у кухвайцы. Гы́нчый ны пушов бы, а їй морэ по коліно.*

ГЫ´ЧКА *ж. бат.* Пладаножка на гарбузе. *Якого смутку ты одламав гы́чку у гарбуза? Тыпэр нысы ёго ек хоч.*

ГЭ´БЛЫК *м.* Гэблік. *Трэба сходыты до Швораба і забраты гэ́блыка, а то ек взев, то і ны оддае.*

ДОХРА´ПАТЫСЬ *зак.* Дарвацца. *Зварыла жур, а Трохым дохра́пався і увэсь выпыв. Навіть діты ны покушталы.*

ДРУБ'Е´ЗОК *м.* Дробныя галінкі галля. *Іван! Збігай на Лужок, прынысы друб'єзку, кыб хучій піч ростопыты.*

ДУДАНЫ´ *мн.* Цвёрдыя шпяні ў пер'і. *Вэльмэ ж ты гыдко оскубла курыцю. Бачыш якыї дуданы́ торчеть.*

ДЫВОСІ´Я *ж.* Дзіва, цуды. *Спына вжэ цілу ныділю болыть. І шо гэто за дывосі́я?*

Е´СЛА *ж.* Яслі, кармушка для жывёлы. *Можэ моя корова захворіла? Положыв доброго сіна у есла, а вона ёго тілько пырыброїла.*

ЖАБОРЫ´ННЕ *н.* Раска. – *Куды ты йдэш, Насьця? – Піду у рів назбыраю кошыком жаборыння. Его добрэ їсьць мое поросе.*

ЖМЫ´НДА *ж.* Скнара. – *Піду до Ярошчыка, позычу окрушчык хліба. – Ны дасьць гэта жмы́нда. Сходы до Мыгыцька.*

ЖО´МНЫЙ *прым.* Тоўсты, грубы. *Трэба купыты гэтэ сукно. Воно такое жомнэ. Будэ Стыпану добрэ пальто.*

ЖУР *м.* Кісель з аўсу. *Ны шу́ру, ны з бу́ру, дай бабо жу́ру.*

ЗАВАРЕ´ТЫ *незак.* Перашкаджаць, замінаць. *Маня! Забыры свою дытыну, а то вона заварее і ны дае нычого робыты.*

ЗАВЫНУ´ТЫ *зак.* Зажадаць. *Мій унук із Мінска завынув пычэню. Добрэ шчо я розшлёмала, шо гэто ны пычэня, а якоесь пычэнне.*

ЗА´ПЫК *м.* Драўляныя палаткі. *Петя! Сходы набый сінныка соломію чы сіном, кыб на запыку спалось мнекшій.*

ЗА´СТЫТЫ *незак.* Засланяць свет. *Одыйды в бік, а то застыш.*

ЗҐРА´БНЫЙ *прым.* Акуратны. *Я бачыла у Понталя ослінчыка. Він такый зґра́бный. Зробы і нам такого.*

ЗОРЫ´ТЫСЬ *незак.* Даспяваць. *У мынэ назорылось цілый кошык помыдорув.*

КАЛЫ´ТКА *ж.* Кашалёк. *Ек поїдыш на базар у Бэрысьць, то ны клады грошы у калытку, а сховай у чобут.*

КАНДЛУ´ШЫТЫ *незак.* Жорстка біць. *Якого смутку, Маня, выходыла замуж за гэтого едуху? Зарыз її Петя кандлу́шыть каждый дэнь.*

КА´НЬКАТЫ *незак.* Ныць, назаляць. *Шо ты у мынэ грошій просыш, всё ка́нькайіш? Шо я тобі з коліна выламню?*

КА´ПА *ж.* Пакрывала. *Маня! Ек будыш їхаты в Дорогычынь, купы міні капу, а то постэлю ныма чым засланы.*

КАПЛУ´Н *м.* Прымітыўная ежа. *Мама! Я йду в школу. Звары міні хучій каплуна́.*

КВА´РТА *ж.* Конаўка. *Шось мое поросе гыдко їсць. То я ёму ў їжу кварту молока влыла.*

КВА´СКА *ж.* Кадушка з клёпак для захоўвання сала і мяса. *Кузьма выгодовав такое вылызнэ поросе, шо мнесо і сало лэдь положыв у дьві кваскы.*

КВА´ШЫЛЫНА *ж.* Студзень. *Тыклюся заколола поросе, зварыла дітюм вэльмэ смачну квашылыну, шо їх за вуха було ны одтянуты.*

КЛЫКНУ´ТЫ *зак.* Праглынуць. *І дэ він подів нагавыцы? Ек клыкну́в, ек на огні згорілы.*

КОЛЕ´ЙКА *ж.* Чарга. *Во чес настав! Пастуха в сылі ныма. Трэба пасты свою корову у колейку.*

КОНТЭ´ТНЫЙ *прым.* Задаволены. *Купыв я у Прузыны новую кухвайку. Вона була такая контэтна, шо продала.*

КО´РМНЫК *м.* Парасё ў час адкормлівання. *Трэба за ейця камбікорму кормныку купыты, а то він у мынэ такый худый: їсць однэ зілле з картоплямы.*

КОРОГО´ДЫТЫСЬ *незак.* Гаспадарнічаць. *Ны успіла нывістка прыйты в мою хату, а вжэ стала корого́дытысь в моёму сундуковы.*

КОРТЫ´ТЬ *незак.* Не церпіцца. *Ек ны добрэ ў вас, алы ж міні корты́ть хучій йты дохаты.*

КО´СЫНКА *ж.* Жаночая хусцінка, касынка. *Ныма чого ныcты на высілле. А, оддам молодым ко́сынку. Я її шэ ны носыла.*

КОХА´НКА *ж.* Маленькі гарбузік для ўпрыгожвання. *Таня! Забыры коханку з вокна, а то вночі шэ замэрзнэ.*

КОЦ *м.* Плед. *Божэ мій. У моеї дівчынкы ныма одіяла, то я її накрываю в постэлы ко́цом.*

КОЦЮБА´ *ж.* Драўляная качарга для разграбання жару ў печы. *Прыстав до мынэ Мыколка Галушчын, хоч коцюбою адганейся.*

КПЫ´ТЫСЬ *незак.* Здзекавацца. *Ясько ек міг кпывся над своею Надію, покы її ны спокайкав.*

КРА´ПЛЯ *ж.* Кропля, малая колькасць чаго-небудзь. *Шо гэто ты валкуїш аднэ мнесо? Возьмы хоч краплю хліба.*

КРЕ´ВКАТЫ *незак.* Хныкаць. *Моя Галя кревкае, кыб я купыла канфет, а ек ны дам, то украдэ їцэ, нысэ в лавку і ку́плее собі шо хочэ.*

КРО´ХКІЙ *прым.* Крохкі. *Сынок, ны лізь на вырбу. Вона крохка, зламаїцця і ты упадэш.*

КРУЧО´К *м.* Бутэлька. Ёмістасць. Паўлітра ці чвэртка. *Сусід обгорав картоплы, я ёму кручок горілкы дала. Бач ты ёго, губы заковізыв!*

КУЗЛЫ´ *мн.* Вілы. *Калэнык, позыч кузлы, а то гною ныма чым выкынуты з хлыва.*

КУ´ЛЬКА *ж.* Папярэчка зверху на дзяржанні рыдлёўкі. *Шо ты робыв вылкамы, шо аж кульку зламав?*

КУМІ´Р *м.* Каўнер. *Їштэ, діты, кашу з капустыю, а то за кумір закыну.*

КУРЧ *м.* Сутарга. *Ой, шось міні у ногу курч ухопывся.*

КУТАСІ´ *мн.* Махры, кутасы. *Мар'я, сыстра моя з Корсынь, купыла коца з вылызнымі кутасемы. Можэ і нам купыты?*

КУ´ЧКА *ж.* Агароджаны катушок у хляве для жывёлы. *Моя корова екось так влізла рогамы в ку́чку, шо прышлось ку́чку розбыраты.*

КУШТА´ТЫ *незак.* Каштаваць ежу, страву на смак. *Параша! На, пукуштай мій сальтісон.*

КЫЦІ´КАТЫ *незак.* Казытаць. *Ну і діты! Докыцікалысь до того, шо шыбу у окні выбылы.*

КЫЧКЫ´ *мн.* Завязкі на фартуху, жычкі. *Діты! Вытэ зусім од рук одбылыся. Трэба будэ вас кычка́мы опаразаты.*

ЛА´СЫЦЫ *мн.* Марозныя ўзоры на вокнах. *На вокнах такы ї вылызны ласыцы вырослы. Мусыть, на мороз.*

ЛАТОШІ´ *мн.* Рыззё. *А шо, моя душе з латоше?*

ЛАХУ´ДРА *м.* і *ж.* Неахайны (пра чалавека). *Іван! Одеңься ліпш, ны будь лахудрыю, ек Ры́кля.*

ЛЕ´ШКА *ж.* Невялікая копка з 6 ці 7 вялікіх снапоў. *Мусыть, будэ дошч. Ярына! Давай хучій складаты снопы у лешкы.*

ЛЁХ *м.* Падпечак. *Петя, возьмы кошыка, злазь в лёх і набыры картоплюв.*

ЛЁХАТЫ *незак.* Ліць, ісці (пра моцны дождж). *Дошч лёхае ек з выдра.*

ЛО´ПАТЫ *незак.* Стукаць. Ляпаць. *Шось вітёр оконычныцямі лопае.*

ЛО´СКОТ *м.* Лоскат, козыт. *Чого ты цылуїся, ек лоскоту боїсся?*

ЛУДЫ́ТЫ *незак.* Марудзіць. *Іван! Чого ты лудыш? Йды судошеты Петю, бо він одын поїхав за сіном.*

ЛУСКА́ *ж.* Рыбіна луска. *Маня! Іды дочысць рыбу, а то на карасех такая малая луска́. Міні надоїло її чыстыты.*

ЛУШПЫ́ННЕ *н.* Бульбяное шалупінне. *Ныек ны навучу тыбэ чыстыты картоплы. Вэльмэ ж товстэ у тыбэ ідэ лушпынне з-пуд ноже.*

ЛЫ́НА *ж.* Вяроўка, трос. *На Пырэїздкы порон ны робыть, бо лына порвалось.*

ЛЭ́ЧАТЫ *незак.* Пакладаць. *Трэба вжэ выпручка лэчаты, а то всю кучку розрыв.*

ЛЯТО́ *злучн.* Але, аднак. *Моя дытына плачэ ек мокра, лято́ добрэ цыцку сцэ.*

МАКУ́ХА *ж.* Мука з адмежаванага льнянога насення, страва з такой мукі. *Ек міні упычынылысь картоплы з молоком. Трэба натовчы макухы* (дадаецца соль, цыбуля).

МАНКІРОВА́ТЫ *незак.* Спалучаць, размяшчаць, прыкідваць. *Гріша ныек ны хотів пасты корів, всё манкіровав – то млына робыв, то жорна.*

МАСКОВЭ́ШКА *ж.* Мазгаўня. *У Лёні Яська ны голова, а масковэшка. У Брашівкы напывся і кмэтыв бытыся.*

МАТЛОШЫ́ТЫ *незак.* Моцна біць. *Добрэ тыбэ, хлопчэ, трэба було матлошыты, колы ты у дэсыть років став курыты самосад.*

МАХЛА́ЧЫТЫ *незак.* Марнатравіць. *Ныма нычого дывного, шо Рыкля бідно жывэ. Ек завыдэцця дэ якая капейка, промахлачыть, шо солы ныма за шо купыты.*

МА́ЦЯТЫ *незак.* Мацаць. *Ма́цяла курэй – штыры курыцы булы з ейцямы, а зныслысь тілько тры.*

МОТУЗО́К *м.* Матуз, вяровачка, шпагат. *Косця! Возьмы мотузка і зав'яжы мышка з картоплямы.*

МОЦЮ́К *м.* Яйка з моцнай шалупінай. *Мусыть, Петя Галушчын курэй пырыд Паскію кормыть глынкію, бо у його моцюкы ныхто ны можэ побыты.*

МУСО́ВО *прым.* Абавязкова. *Ны хочыця йты до Картошкы на высілле, алы ж мусово: Наталля – моя сыстра.*

МУЧАНЫ´ЦЯ *ж.* Каўбаса з крупамі, мясам і крывёю жывёл. *Зайшлы мы з Іваном до нашыї бабы Мар'і. Вона нам дала поїсты мучаньі́цю.*

МЫ´ДЛІК *м.* Пральны парашок. *Трэба зробыты луг, а то мы́дліка осталось мало.*

МЫРҐОВА´ТЫ *незак.* Меркаваць. *Продала я ейця і два півны. Мырґовала купыты кухвайку, алы ж захворів Дыныс і ны стало ны рубле.*

МЭ´ТКА *ж.* Галінка, прут для насажвання на яе рыбы у час лоўлі. *Ну і наловыв я в ямах шчук! На мэтцы було рыбы кілограмы тры.*

НАВМЫ´СНЭ *прысл.* Знарок. *Гріша вэльмэ хотів в армію, так його военком навмы́снэ направыв на Чукотку.*

НАВЫ´ЛНЫК *м.* Сена, якое захопліваецца віламі за адзін раз. *Гріша! Подай міні на копыцю шэ одын навылнык і хватыть.*

НА´ДЫТЫСЬ *незак.* Спадзявацца. *Я шчэ на́дылась, шо Каплавухій кынэ пыты самогонку. Дэ там! П'е і горло ны просыхае.*

НАМУ´ЛЯЧ *м.* Мазоль. *Гультай за работу – наму́ляч за руку.*

НАПРОШКЫ´ *прысл.* Напрасткі. *Скілько кіломытрув до Гастївкы? Ек йты по дорозы, то тры, а ек напрошкы́, то два.*

НАСТЇ´ЛНЫК *м.* Абрус, настольнік. *Учора хавалы Панаса. Навіть тюля ны було, кыб його накрыты. Шо робыты? Накрылы його настїлныком.*

НАТУ´РЛЫВІЙ *прым.* Упарты. *У Пэхты був нату́рлывій кінь: його б'еш, кыб він хучій віз воза, а він станэ і стоїть.*

НЫ´ШКОРЫТЫ *незак.* Абшукваць, шукаць. *Явдося схавала горілку од Мыхалка, алы ж він цілый дэнь шукав, ны́шкорыв, покы ны знайшов і ны выпыв.*

НЮ´ЦЬКАТЫ, *незак.* Упрошваць, прасіць. *Петя! Скілько тыбэ нюцькаты? Уставай, трэба в школу збыратыся.*

ОДУПЛІ´ТЫ *прысл.* Аслупянець, зрабіцца ўтрапёным. *Зайшла я до Галушкы позычыты хліба і аж одупліла. На пудлозы лыжев мэртвый Мыколка.*

ОКА´ЗІЯ *ж.* Аказія, прыкрасць. *І шо гэто за оказія! Учора заплатыла штрахівку, а тыпэр Азарчук знов прыніс платыты ныдоїмку.*

ОКРО´МІЙ *прысл.* Асобна, незалежна. *Маня. Ты выйшла замуж і зарыз вытэ з Петію жывітэ окромій од нас.*

ОКРУ´ШЧЫК *м.* Акраец. *Просыла я у Петі фанеру. Я ёму тры їці вбыла, окрушчык хліба стохлыла, а він сів на машыну і поїхав.*

ОПУ´ТНЫКОМ *прысл.* Ціха, спакойна. *Діты! Хватыть свовольтысь, а то ек похрышчу лозыныю, то будытэ сыдіты опутныком.*

ОХЛУ´ДЫТЫ *зак.* Астыць, ахалодаць. *Зайшла я в хлів побачыты хворэ поросе, а воно вжэ охлудыло.*

ПАЗЮ´Р *м.* Ногаць, пазногаць. *Мынтуз заліз міні добрэ за пазюрі.*

ПАЛЮ´ШКА *ж.* Пялёнка. *У войну ны було дэ взяты палюшкы, бо всэ згоріло. Так і рослы мої діты в батьковому кожуховы.*

ПА´ПА *ж.* Толь. *Ясько якыйся дурноватый. Каждый рік крые свою хату папію. Купыв бы гонт і покрыў бы літ на дэсыть.*

ПА´РЫШ *м.* Страва з аўсянай мукі, якая зварана на вадзе. *Шо ты прыпав до капусты, бы жыд до парышу.*

ПІ´ЖНЯ *ж.* Іржышча. *Ныма чым корову подослаты. Піду на колхозным полы хоч піжні накошу.*

ПЛОТЯНЫ´К *м.* Плот са сплеценай лазы. *Курэй Кузьмыных хоч прыткны! Лізуть у город. Трэба плотяныка залататы.*

ПЛО´ХІЙ *прым.* Спакойны, ціхі. *У Васі Бонькі корова вэльмэ плоха, ныколы ны полізэ в шкоду.*

ПОВА´Л *м.* Столь. *Колысь я був у бабы Лукір'і. Якая ж малая хатка! До повала я рукою достав.*

ПОВХ *м.* Крот. *Повхы пырырылы увэсь сад, шо навіть одна еблыня засохла.*

ПО´ДЫСКО *н.* Стажар'е, адонак. *Кузьма! Ек будыш сіно возыты з болота, то подыско прывызы.*

ПО´КЛАД *м.* Яйка ў курыным гняздзе, якое пакідаецца, каб там несліся куры. *Петя! Ты з гнызда поклада ны брав? Можэ, куры склёвалы?*

ПО´КЫ *прысл.* Пакуль. *Покы ны осушылы болотá, скíлько ж було жабів!*

ПОЛО´НКА *ж.* Палонка, пелька. *Вот діты – блазнота! На дорозы пробылы у баюры полонку, туды попав трактор і колысо зламав.*

ПОНОЖІ´ *мн.* Панажы (у кроснах). *Петя, постав поножі у кросна, кыб прузукы булы цілы.*

ПОПЛАВУ´ШКА *ж.* Трава, лісты якой як у пырніку, плаваюць паверху. *Дывысь, Мар'я, ек коровы добрэ поплавýшку їдеть.*

ПО´РХАВКА *ж.* Порхаўка (пра старога чалавека). *Одыйды од мынэ, дедьку! Ты ж ек тая пóрхавка.*

ПОСОХЛЕ´ *ж.* Засохшая на корані трава. *Гріша, нарвы посохлі, назбырай хмызу і подогрій капусту на жылізках.*

ПОСТЫ´ШЧЫТЫ *зак.* Адважыцца, асмеліцца. *Волька такая добра. І ек Хвыдось постышчыв даваты волю рукам!*

ПОШЫХОВА´ТЫ *зак.* Пашанцаваць. *Міні міцно пошыковало: у Дорогычыны я купыв до ровыра чырвоны опоны.*

ПРА´Ч *м.* 1. *заал.* Апалонік. *У каждый емы ны выдно було дна од прачів.* 2. Пранік (для бялізны). *Прач зусім росколовся. Трэба нового зробыты з бырэ́зыны.*

ПРО´ЦА *ж.* Рагатка. *Алы ж мій сын – гіцыль узеў порізаў калоша і зробыв собі прóцу.*

ПРУЗУ´К *м.* Скураны шпігат, скураны пасак. *Ныма чым зав'язаты мышка? Возьмы шкуру і вырыж прузука.*

ПРУС *м.* Прусак. *Ек кусають блускы, ны чуїш, а колысь булы прусы! О! Ек прус утнэ, то зразу прочнэсся.*

ПРЫ´ЗЬБА *ж.* Прызба. *Ек прыдэ высна, трэба будэ поправыты прызьбу, а то куры розгрыблы.*

ПРЫКОРКНУ´ТЫ *зак.* Задрамаць, заснуць. *Ек хворіла на кір моя Люба, міцно я уталовалась. Ны успіїш прыкоркнуты, ек знов трэба вставаты до дытыны.*

ПРЫСІ´КАТЫСЬ *зак.* Прыдзірацца, чапляцца. *Якого смутку ты прысікаїся до мынэ? Га?*

ПРЫШЧОВА´ТЫЙ *прым.* Шурпаты, вафельны. *Купы міні на Місты утіральнік прышчоватый.*

ПУСТА´КЫ *мн.* Фундаментныя блокі. *Батько робыв пустакы за того савета, а воны і зарыз ек новы.*

ПУХА´ *ж.* 1. Патоўшчаны канец яйка. *На Паску у Петі Галушчыного самыї міцны ейця. Ны в одным пуху ныхто ны міг пробыты.* 2. *перан.* Поўная, тоўстая жанчына.

ПУХІ´Р *м.* Нарыў. *Ек прыходыть літо, то пухырі ны сходеть з ніг.*

ПЫГА´РКА *ж.* Плеўка на малацэ. *Мама! Дай міні пыга́рку. Я її вэльмэ люблю.*

ПЫРЫБЭ´НЬДЗЮВАТЫ *незак.* Перабіраць. *І шо гэто за діты! Ны їдеть, а пырыбэньдзюють. Дэ ж я вам смаків набыруся?*

ПЫЧЕ´ЙКА *ж.* Пякотка. *Хоч ты ны їж кыслыї капусты. Поїв, а зарыз пычейка мучыть.*

ПЭ´ВНО *прысл.* Так, вядома, зразумела. – *Ек ны поїсы добрый кусок сала, то й сылы ныма, кыб тягнуты косу.* – *Пэвно, шо так.*

ПЭ´НДЫТЫ *незак.* Ледзь несці што-небудзь. *Якого смутку ты пэндыш цілый мышок жыта на віз? Шчэ пуп розвежыця.*

РАДНО´ *н.* Саматканае льняное радно. *Ох, сыжу я на радні і счытаю трудодні.*

РЕ´СЫ *мн.* Парастак на клубнях бульбы. *Маня! Обырвы ресы на картоплях!*

РОСПАНА´ХТАТЫ *зак.* Моцна раздзерці. *Дэ гэто ты так нагавыцы роспанахтав?*

РУ´РКА *ж.* Кранік, носік. *Трэба будэ банку до молока купыты з руркію, бо з краном банка дорошша.*

СВОВО´ЛЫТЫСЬ *незак.* Дурэць, сваволіць. *Ек гэты діты своволылысь? Хлопіць прызнаўся, шо ногою выбыв шыбу у вокні.*

СВЫНЮШКЫ´ *мн.* Дробная бульба на корм свінням. *Катя Закозэльска дала міні свінюшків на розвод. Казала, шо картоплы вэльмэ смачны.*

СІ´ДАЛО *н.* Седала. *Заквоктала у мынэ курыця, сіла у гныздо на сідалы і ны дае другым курум ныстысь.*

СІ´ННЫК *м.* Сяннік (з саломы). *Вжэ у сінныку потыруха, трэба його знов набыты соломію і ныма колы.*

СКІ´РКА *ж.* Скарынка (хлеба). *Хочыш їсты? Трэба взеты скірку хліба, натэрты часныком, посыпаты сіллю і їсты.*

СКМЭ´ТЫТЫ *зак.* Здагадацца, зразумець. *Параша схалавала горілку у бодню. Алы Трохым вынюхав, екось скмэтыв і всю выпыв. Чуть ны згорів.*

СЛЫПЫТІ´ТЫ *незак.* Чакаць падачку, міласць (на вяселлі). *У Васыліны на высіллі діты так слыпытілы, шо вынысла їм окрушчык пырога.*

СОВГЫНУ´ТЫ *зак.* Моцна тыкнуць. *Ніч була такая тэмна, хоч у вочы совгыны.*

СПОКА´ЙКАТЫ *зак.* Загубіць, забіць, знішчыць. *Рыкля сама спокайкала свого хлопця. Одправыла на зарібок на цылiну і там його забылы.*

СПРО´НТАТЫ *зак.* Справіцца, здолець. *Вырос Сцёпа вылыкій, розуму ныма. Шэ трохы і вжэ ны спронтаю з їм.*

СУХОРЭ´БРЫК *м.* Вельмі худы чалавек. *Прыстав до моеї Мані кіномеханік. Сухорэбрык і грошій ныма.*

СЫЛНЫ´К *м.* Хлеў для сена. *Діма. Гэто вжэ послідна хура сіна. Закынь його у сылныку на вышкы.*

СЫРНЕ´ГА *ж.* Сярмяга. *Трэба звалеты сукно і пошы́ты сырнéгу.*

СЯХОТІ´ТЫ *незак.* Ззяць. *Сам заснув, а лемпа сяхотыть на всю хату.*

ТОМАЧІ´ *мн.* Тоўчаная бульба з свіным салам, камы з салам. *Мама. А томачí шэ осталыся? Трэба в їх пошукаты шкварку.*

ТОРО´ЧЫТЫ *незак.* Дурыць, абдурваць, казаць бязглуздасць. *Шо ты міні голову торочыш, ек той старый Бэрко.*

ТУК *м.* Тук (расплаўлены свіны тлушч). *Мама! Пудлый міні у томачі трохы туку, а то воны зусім нышчымны.*

ТЫПТЫ´СЬ *незак.* Дрыжэць, трэсціся. *І ек Вася Заїць на войні жывым остаўся? Рукы ў бідного сталы тыптысь.*

ТЫРЫЕ´ *н.* Пілавінне. *Шось мороз на вэчур бырэцця. Можэ на гуркы насыпаты тырые, а звэрху радюшкію накрыты?*

ТЫ´СНУТЫ *незак.* Уплятаць (прагна есці). *Тожык-брыгадір тыснэ сало і кубасу, а ты, Хома, нысы послідньо півня продаваты, бо солы і запалок ныма.*

ТЭ´РНЫЦЯ *ж.* Церніца (ручная). *Лёня! Ны куры каля тэрныцы, а то шчэ короста загорыцця.*

УБО´ІСКО *н.* Той, хто мала рэагуе на біццё, заўвагі. *Балаховіць такый дурный, кажэ ны сшытак, а шытык. Убоіско да й годэ.*

УВЫРЫДЫ´ТЫСЬ *зак.* Падарвацца. *Ны пуднымай сам воза, а то можыш увырыдытыся.*

УДО´ЛАТЫ *зак.* Адолець, перамагчы. *Кожушко грохнув поросе обухом по голові і ны забыв. Поросе бігало всё в крыві, покы ны впало. Чуть удолалы, доколовшы.*

УНА´ДЫТЫСЬ *зак.* Унадзіцца. *Корова Мыхалка Кравце так унадылась у жыто, шо прышлось одогнаты корів далій, аж до каналу.*

УПЫЧЫНЫ´ТЫСЬ *зак.* Абрыднуць. *На Сплінне заколола поросе, напыкла стілько мучаныць, шо ныек не моглы їх поїсты. Ох, ек воны нам упычынылысь*!

УТІРА´ЛЬНІК *м.* Ручнік. *Паїхав я в Мінск до сына і тілько плычыма пожымав: там навіть утіральніка ны було.*

УХВО´ЙДАТЫ *зак.* Даканаць. *Кузьма горав города, ны давав кобылы навіть травы пошчыпаты і так її ухвойдав, шо кобыла стала падаты в розоры.*

ФРЭНЧ *м.* Пінжак. *Пырыдав міні сын фрэнча із Мінска. Дырка на рукаві, алы шэ можна носыты.*

ХРА´ПА *ж.* Мурло, морда. *Куды ты суныш свою храпу*?

ХЭНДЗ *ж.* Гонар, фанабэрыстасць. *Набрався хэ́ндзу ек Борма на молітвы.*

ЦЫМА´ЛЫЙ *прым.* Які падрос вялікі (не малы). – *Якій твій хлопіць? – Вжэ цыма́лый.*

ЦЮРА´ТЫСЯ *зак.* Цурацца. *Огапа! Чо́го ты мынэ цюраїся? Я ж ны такая вжэ бідна.*

ШАХРА´ЇТЫ *незак.* Прамарнатраўліваць. *Ны успів ёму даты грошій, ек він їх росшахраїв.*

ШОЛО´ТА *м.* і *ж.* Чалавек, які гаворыць недарэчы, бязглуздзіцу. *Шолота вылызла з болота.*

Ю´КЛО *н.* Пуза. *Сахарко, наїв такое ю́кло, шо шнуркы ны можэ зав'язаты.*

ЮЦЬ *м.* Страўнік. *Учора на высіллі пырыпыв самогонкы. А тыпэр юць болыть*!

*Я займ.* Я, сам. *Я пойду дохаты, да озьму грошы схаваю у калытку.*

*Л. П. Кунцэвіч*

# РЭГІЯНАЛЬНАЯ ЛЕКСІКА ВЁСКІ РУХАВА СТАРАДАРОЖСКАГА РАЁНА МІНСКАЙ ВОБЛАСЦІ

Рэгіянальныя словы, якія ўваходзяць у гэтую падборку, запісаны ў в. Рýхава Старадарожскага раёна Мінскай вобласці. Гаворка гэтай вёскі адносіцца да паўднёва-заходняга дыялекту (усходняя група). Вёска знаходзіцца за 25 км ад раённага цэнтра Старыя Дарогі, налічвае каля 170 двароў.

Асноўныя фанетычныя і марфалагічныя рысы, якія ўласцівы для гаворкі:

1. Недысімілятыўнае аканне: *с'алó, н'асý, марóс, мáсло.*
2. Зацвярдзенне губных з выдзяленнем *j* перад галоснымі *а, о: мйáсо, мйот, аўёос, памйор.*
3. Злітная, сінтэтычная форма будучага часу: *рабіц'му, казац'му, хадз'іц'му.*
4. Цвёрдая часціца *-са* у зваротных дзеясловах: *купáўса, паламáл'іса, папрáв'іўса.*
5. У Р. скл. адз. л. прыметнікі, неасабовыя займеннікі і парадкавыя лічэбнікі маюць канчатак *-ого (-аго, -яго): нáшаго, сáмаго, клянóваго.*

АБНІЗДАЛЕ́ЦЬ *зак.* Аслабець, зрабіцца хворым. *Абніздалела нешто ўжэ Варвара, нічого ні можэ рабіць.*

АБО́ЛТУХ *м. экспр.* Пра недалёкага чалавека. *А-вой! Абóлтух ёты нешто зрóбіць дóбрэ.*

АБРАБІ́ЦЦА *зак.* Вымурзацца. *Абрабіласа буракі капаўшы.*

АБРА́КЛЫ *прым.* Чуць падкіслы, ні салодкі, ні кіслы. *Дай мне абрáклаго малакá, я яго лепш люблю́, чым салóдкае.*

АДЗЁНАК *м.* Прыстасаванне, зробленае з жэрдак, на якое кладуць стог. *Адзёнак падгатóвіў ужэ́, зрабі́ў з нóвых жэ́рдак.*

АПІВО́ША *м.* і *ж.* П'яніца. *Апівóша ты, як ты дýмаеш жыць дáлей? Што зарóбіць – прап'é і ні пра што ні дýмае.*

АПІНА́ХА *ж.* Цёплая вялікая хустка. *Акрылаcа апінáхаю павéрх плю́шаўкі і ўсё аднó зьмéрзла.*

АПРА´ТАЦЬ *зак.* Абмыць, вычысціць. *Прыду пóсле рабóты, то ў хáце ледзь апрáтаю, так дзеці нарóбяць за дзень. Такі буў грáзны (пра хлопчыка), што лéдзьве апрáтала.*

АСКЛІ´ЗЛЫ *прым.* Аслізлы *Гуркі шчэ е ў дзéжцы, але ўжэ асклізлые, нісмáшные.*

АСКРА´К *м. зневаж.* Смаркач. *Аскрáк усякі бýдзе мне камандаваць, што рабіць.*

АСКРЫ´ВЫ *прым.* Смаркаты. *Нос вéчно аскры́вы, а стрóіць с сябе шчэ нешто.*

АСО´ВІК *м.* Падасінавік. *Асóвікоў сённі набраў цэлу карзіну, нарвáўса на мéсто, што аж крáсно.*

АСЦА´ *м.* Слюна. *Сáла німá даўнó, а што з éтаго гуркá, тóлькі асцý гóніць.*

АТКАВЕ´СІЦЬ *зак.* Аттапырыць. Звычайна ў выразе: *Аткавéсіць губý.*

АТКАНА´РХАЦЦА *зак.* Адчапіцца. *Сляпіцаю лéзе ў вочы, ні атканáрхаецца.*

АТКАРА´СКАЦЦА *зак.* Адчапіцца. *Кожны дзень п'яніца éта хóдзіць, прóсіць сто грам, німожно аткарáскацца.*

АТМУ´КАНЫ *прым.* Адчынены. *А ў цябе усягдá дзвéра нáсцеж, атмýканые калі ні прыдзі.*

БА´БІЦЬ *незак.* Прымаць дзіця ў парадзіхі. *Яна ж бáбіла мяне, без усякіх дахтарóў абышлáса.*

БА´ВІЦЦА *незак.* Затрымлівацца. *Ты там ні бáўса вéльмо дóўго, бо поўно рабóты.*

БАРЖДЖЭ´Й *прысл.* Хутчэй. *Баржджэ́й бяжы́, апаздáём на аўтобус.*

БЕРЛАГІ´ *мн.* Незасланая пасцель. *Што вы мне éтые берлагі пакідалі? А ну прыбяры́це за сабóю.*

БУ´ЧА *ж.* Калатнеча. *От бýчу ўзняў, а каб хто папутáў за што?*

ВАЛО´ВІК *ж.* Падрашэтнік. *Ой, валóвікоў сёлята, лес услáны.*

ВАЛО´ШКА *ж.* Васілёк. *Жы́то сёлета рэ́дкае, то аж сіне ад валóшак.*

ВЕСЯЛКО´ВЫЯ *мн:* Удзельнікі вяселля. *Весялковыя сёні паю́ць цэ́лы дзень.*

ВІЖАВА́ЦЬ *незак.* Выглядаць, падглядваць. *А ты ўсё віжу́еш, куды́ ні ткні́са – ты там.*

ВО́БУЙ *мн.* Абутак. *Увесь во́буй, які цяпер ні носім, трэ́ба прыбраць.*

ВО́СІЛКА *ж.* Дужка карзіны, вядра. *Во́сілка ў карзіне скруці́ласа, ве́льмо спі́ну парэ́зала, трэба шыро́ку зацягнуць.*

ВУ́СКРАБАК *м.* Апошняе дзіця. *Ву́скрабак наш не́што ні расце́.*

ВУ́СПЯТАК *м.* Штуршок нагой. *Ву́спяткамі вы́кінулі за дзве́ра.*

ВЯЛІКДУ́Р *зневаж.* Блазень. *Вялікду́р е́ты вырабля́е німаве́дама што.*

ГА́РА *ж.* Самагон. *Што ж ён, га́ры етай наго́ніць дай смо́кчэ пакуль не ко́нчыць. Тады ўжэ ні на работу ні йдзе, нікуды.*

ГІЧ *м.* Бульбоўнік. *Гіч гудзе́ у по́яс, а кардо́плеў німа.*

ГРА́ВЕЛЬ *м.* Гравій. *Гра́вялём пазасыпа́лі ямы на вуліцы, цяпер даро́га ро́ўна.*

ДАКЛЯРАВА́ЦЬ *незак.* Абяцаць. *Каня́ сёні ўжэ німа́. – То ты ж мне даклярава́ў.*

ДЗЕВАЧУ́Р *м.* Хлопец, які найбольш бывае сярод дзяўчат. *От дзе дзевачу́р, ніколі к хлопцам ні ходзіць, усё з дзяўка́мі гуляе.*

ДУДУ́КАЦЬ *незак.* Неразборліва гаварыць. *Што ты дуду́каеш там?*

ДЫ́БАЧКІ *мн.* У выразе: *стаць на дыбачкі.*

ДЫГА́ТЫ *прым.* Высокі. *Хло́пец твой такі́ ўжэ дыга́ты вы́рас.*

ДЫ́РГАЛЬ *зневаж.* Вельмі высокі. *Ды́ргаль твой со́ваецца на двар́э ту́ды-сю́ды.*

ЖА́РЫ *прым.* Карычневы. *Купі́ла жа́ру хустку сабе́.*

ЗАГАВА́ЙЛО *м.* і. *ж. зневаж.* Недалёкі, прастакаваты чалавек. *Загава́йло ты, што ты вырабляеш?*

ЗАКЛАДА́НКА *ж.* Саматканая пасцілка. *За зіму тры заклада́нкі ву́ткала.*

ЗАСТУ́ДЗІНА *ж.* Халадзец. *Трэ́ба вы́мачыць галёнку, йшчэ ву́ха свіное есь, да зварыць засту́дзіны.*

ЗВЯРНУ΄ЦЬ *зак.* Абысці. *Дзіво што набра́ў по́ўно грыбоў! Ён табе ўвесь лес зве́рне.*

ІМШЭ΄НІК *м.* Грыб махавік. *Імшэ́нікі – грыбы до́брые, яны ні такі́е слі́зкіе, як масля́кі.*

КАБА΄Т *м.* Безрукаўка (звычайна шытая на ваце). *Каба́т мой саўсі́м падра́ўса, трэба ўжэ но́вы шыць.*

КАВЯНЯ΄ *ж.* Качарга. *Кавянёю жар ву́грабі с печы, а тады садзі́ хлеб.*

КАДУ΄К *м.* Д'ябал. *Каб цябе каду́к ўзяў, нашто́ ты е́то бярэ́ш?*

КА΄ПАЧКУ *прысл.* Трошкі, мала. *Уллі́ мне ка́пачку атра́вы, жуко́ў папу́рськаць трэ́ба.*

КАРА΄ЎКІ *мн.* Рыззё. *Завешалі етымі кара́ўкамі ўсю хату, трэба кара́ўніку здаць.*

КАШЛА΄Ч, КРАСЛА΄Ч *зневаж.* Калашман. *Каб жэ чалавек харошы, а то кашлач не́йкі.*

КАШЭ΄ЛЬ *м.* Кош. *Я ўжэ саўсі́м ніва́ртна, тры кашале́ кардо́плеў накапа́ю да ў ха́ту.*

КЕ΄ШКАЦЦА *незак.* Рабіць што-небудзь марудна, не спяшаючыся. *Што ты ке́шкаесса цэ́лы дзень у тым агаро́дзе!?*

КІ΄ЖЛЫ *м.* Ногі. *Абніздале́ў мой стары́ саўсі́м, ледзь кі́жлы цяга́е.*

КІХІ΄КАЦЬ *незак.* Кашляць. *Што ж ён папяросу з ро́ту ні ўпуска́е, а тады кіхі́кае й кіхі́кае, заснуць ніко́му не дае.*

КЛАДЫ΄ *мн.* Могілкі. *Сёні Дзяды́, трэ́ба абед звары́ць і схадзі́ць на клады́.*

КРАМ *м.* Матэрыя. *Купіла сабе́ кра́му на ко́хту і спадні́цу.*

КРУП'Я΄НКА *ж.* Крывяная каўбаса (з крупой). *Круп'я́нкі ўдаліса сёлета до́брые.*

КРЭ΄ЎЛЯ *ж.* Кульгавая жанчына. *А-вой, етуй крэ́ўлі усе́ бага́то трэ́ба, ледзь перала́зіць це́раз паро́г, а ў я́гады сабра́ласа.*

КУ΄РАВА *ж.* Пыл. *Трэба паўно́сіць сёні на со́нца по́сцілкі да падушкі, да хоць ку́раву павытраса́ць.*

КУХАНЫ΄ *мн.* Выпечка з мукі (пячэнне). *А кухано́ў напяклі цэ́лу го́ру, але дзе́ці за дзень вы́насяць.*

ЛА΄ПЦІ *мн.* Тапкі. *Ла́пці мае́ пакрыві́ліса ўжэ, трэба но́вые, бо ні магу ні ў чым больш хадзі́ць.*

МАЛІМО́НКА *ж.* Адзін з членаў сям'і, якому заўсёды даюцца нейкія прывілеі. *А малімо́нка тая ўсё спіць? Ды до́куль бу́дзяце яе за малу́ю лічы́ць?*

МАРСЬКА́ЦЬ *незак.* Гойсаць, матляючы спадніцай. *Мала́я надзела маю́ спадні́цу і ма́рськала цэлы дзень па двары́.*

МУЛЁРЫ *мн.* Назва лесу з забалочанымі мясцінамі. *Ля Мулёроў вельмо буяко́ў людзі панабіра́лі.*

НАДО́ЕЧЫ *прысл.* Нядаўна. *Надоечы чула, як Алена з дачкою свары́ласа.*

НАПУ́ГАЦЦА *зак.* Многа напіцца. *Сёні за дзень напу́галаса і вады́, і ква́су, і малака́. Ве́льмо ду́шно було́. Нічо́го ні ела, а то́лькі піла́.*

НА́ТТО *прысл.* Вельмі. *На́тто до́бра ў мяне каро́ва, дае́ па вядру́ малака́ ра́но й ве́чар.*

НІЗГРЭ́ДА *зневаж.* Вельмі слабы, няўмелы. *Нізгрэ́да е́та, за што ні во́зьмецца, то ні зро́біць.*

ПАМІНЮ́ТНЕ *прысл.* Часта. *Дзеці памінію́тне ў ха́ту бе́гаюць, скі́бкі ма́жуць ма́слом і наза́д бягу́ць.*

ПАМО́СТ *м.* Падлога. *Паму́й памо́ст сёні, мо хто пры- е́дзе.*

ПАЯДА́ЦЬ *зак.* Паесці. *Калі паяда́ў, то выла́зь з-за стала́, буду прыбіра́ць.*

ПЛЮ́НДРЫ *мн.* Слюні (пусціць). *Чаго плю́ндры распус- ці́ў?*

ПРАЛЫ́СІЦЬ *зак.* Месцамі прамыць, прачысціць. *Учо́рэ пралы́сіла тро́хі памо́ст, а сёні зноў гра́зны.*

ПРА́НЦЫ *мн.* Чэрці. Ужываецца ў выразе: *Каб цябе пра́н- цы ўхапілі.*

ПРЫТНО́М *прысл.* Вельмі часта. *Прытно́м сёні бе́гаеш на двор, што з табою зрабіласо?*

ПУДДУВА́ЙЛО *н.* Паддувало. *У цябе́ ж пуддува́йло за- чы́ненае, таму гары́ць сла́бо.*

ПУЖА́ЙЛО *н.* Пудзіла. *Ку́ры разгрэ́блі усе́ гра́ды, сёні пужа́йло паста́віла, але яны́ ма́ло баяцца. Чаго́ ты ста́іш, як пужа́йло, ідзі перадзе́ньса.*

ПЯЛЯСКА́ЦЦА *незак.* Пляскацца. *Што ты пяле́шчасса цэ́лы дзень у е́туй вадзе́, прасты́неш шчэ.*

РАБЕ́ЙЗА *м.* і *ж. зневаж.* Рабы. *На рабе́йзу е́ту га́дко глядзе́ць. А йшчэ не́каго абгаво́рвае.*

РАСКАПУ´СЦІЦЦА *зак.* Рассесціся. *Раскапу́сціласа на ўсю ла́ву, пасу́ньса, дай людзя́м се́сьці.*

РО´САШ *м.* Назва поля. *У Ро́сашы летась добрае жыто було.*

РЭ´КНУЦЬ *зак.* Загаварыць, падаць голас. *А ён сядзеў моўчкі, хоць бы рэ́кнуў, стра́шно, му́сіць, було.*

СКАВАРО´ДНІК *м.* Плоскі, круглы хлеб, прасна́к. *Хлеба сёні ні́ було, то скаваро́днік спякла́, дзеці з малако́м елі і хвалі́лі.*

СКУПЯРДЗЯ´Й *м.* Скупы чалавек. *У етаго скупярдзяя з-пад кі́пця гра́зі ні выпрасіш.*

СПАЛАСКА´ЦЬ *зак.* Разгрэбці. *Ку́ры ўлезлі ў гаро́дчык і ўсе гра́ды спаласка́лі.*

СТРА´МНО *прысл.* Сорамна. *Стра́мно цяпе́р на во́чы паказа́цца.*

СЦЯГА´Ч *м.* Валацуга. *А дзе той сцяга́ч? Ето ні ўтыкаецца ў хату.*

СЬЦЕ´ЖАР *м.* Жэрдка, уваткнутая ў зямлю, вакол якой кладуць стог. *Ідзі́ ву́сячы сьце́жар, ско́рэ се́но прывязу́ць, трэ́ба адзёнак зрабіць.*

ТРУСА´ *ж.* Апілкі. *Трэ́ба трусы́ ко́лькі мяшко́ў прыве́зьці да пудасла́ць каро́ў.*

УБАЁДАЦЬ *зак.* Згубіць, дзець невядома дзе. *Убаёдала ужэ́ абу́два нажы́, німа́ чым кардо́пля аскрэ́бці.*

УШЛЕ´ІЦЬ *зак.* Стукнуць (звычайна рэмнем ці вераўчынаю). *Злазь із плоту, а то як ушле́ю, то до́ўго ні пале́зеш.*

ЦЁСКА *ж.* Лучына для асвятлення. *Запалі́ цёску, а то нічого ні відаць.*

ЧУ´НІ *мн.* Гумавы абутак, глыбокія галёшы. *Чу́ні цяпе́р мо́жно то́лькі ў Слу́цку на база́ры купіць і то ні ўсягда́.*

ЧУХЛЯ´К *м.* Цюфяк. *Чухлякі́ трэ́ба павыно́сіць, папераасу́шваць паку́ль паго́да до́бра.*

ЧЫ´СЦІК *м.* Назва балота. *Журавíн сяго́лета ў Чысціку вельмо багато.*

ШАЛІНО´ЎКА *ж.* Квяцістая шарсцяная хустка. *От я харо́шу шаліно́ўку купíла, аж гары́ць.*

ШАТКО´ВАНКА *ж.* Шаткаваная капуста. *Шатко́ванкі сёлета нарабíлі бага́то, да вясны́ хапíло.*

ШО´ПЕЛЬ *м.* Шуфель. Падáй шóпель, трэба прыбрáць у дварэ́.

ШТО-ТО-Я´. Задавака. *Янá цяпéр што-то-я́, уборшчыца ў бальніцы. А нóсіць сябе, як урач.*

Ю´СТРО *н.* Люстэрка. *Цэлы дзень перад юстром крýціцца.*

ЯГО´ДНІК *м.* Ягаднік. *Лес ссеклі, то і ягóднік прапаў.*

ЯГОДНІЦА *ж.* Страва, звараная са свежых чарніц і закалочаная мукой. *От сёні с ахвóты ягóдніцы наéласа*!

ЯГО´ДНІЦА *ж.* Жанчына, якая хутка, спрытна збірае чарніцы. *Ох і ягóдніца ж яна, адна на ўсё сяло.*

ЯЗЫКАВА´ТЫ *прым.* Языкаты. *Яна ж такая языкавáта, што ні дай бог.*

***В. М. Курцова***

## З РОДНАГА СЛОВА

Прапанаваны блок слоў запісаны ў ваколіцах Чачэршчыны. У гэтай падборцы змяшчаюцца не толькі лексемы, якія адрозніваюцца ад беларускай літаратурнай мовы сваімі фанетыка-марфалагічнымі і словаўтваральнымі асаблівасцямі, а таксама і стылёвымі паметамі. Тут маюцца і некаторыя назвы, нарматыўныя ў сучасным нацыянальным лексіконе. Але ў мясцовай гаворцы сёння такія найменні ўваходзяць у склад функцыянальна пасіўнай лексікі і маладзейшым тутэйшым жыхарам ужо мала ці зусім не вядомыя. Яны, такім чынам, адлюстроўваюць дынаміку змен у лексічнай структуры пераходных ускраінных паўднёва-ўсходніх гаворак асноўнага дыялектнага масіву беларускай мовы, найперш яго паўднёва-ўсходняга занальнага рэгіёна і, адпаведна, маюць каштоўнасць у рэтраспектыўных адносінах.

АБЛАМІ´ЦЦА *зак. перан.* Не атрымацца. *Ішчэ́ аблóміцца усё́, і нáда бýдзя назáд вярнýцца.*

АБЧАПІ´ЦЬ *зак.* Упрыгожыць. *Скáцірак нашыю, а тады́ іх махрáмы абчаплю́.*

АБЫ´РЫЦЦА *зак.* Паздаравець, пакрапчэць. *Абы́рыўся там хоць трóшкі Антóн ці ўсё хварэ́я*?

АДЖЫ́ТЫ *дзеепрым.* Сталага веку. *У дзяр́эўні тут адны́ атжы́тые людзі, да на́брыдзі бага́та наёхала.*

АДЛО́ГА *ж.* Адліга. *Бу́дзя адло́га: конь пад гару́ кача́іцца, на маро́з – на гару́ ко́ціцца.*

АДСТРА́ЦЬ *зак.* Адстаць ад сценкі. *Ці клей ніякі, ці нама́залі абы-як, а адстра́ў або́й.*

АДХЛУПЕ́ЦЬ *зак.* Тое, што і адстраць. *Атхлупе́ла ўся у ха́ці шпале́ра.*

АДХЛУ́ПНУЦЬ *зак.* да *адхлупець. Шпале́ра атхлу́пнула.*

АМШЭ́НЬ *ж.* Спецыяльная гаспадарчая пабудова, паглыбленая ў зямлю. *У амшэ́ні была́ пе́чачка, зімо́й ійе́ прата́пля́лі, а ле́там там халаднава́та, дык стаўля́лі малако́.*

БЖЫЗ *м.* Дзівацтва, капрыз. *Усе́ тва́е бжы́зы я ні спатво́ру.*

БЖЫЗАВА́ТЫ *прым.* Бзікаваты. *Пятро́к мой быў бжызава́ты зма́лку, а к ста́расці саўсі́м здурне́ў.*

БЖЫЗАВА́ЦЬ *незак.* Капрызіцца, упарціцца. *Бжызу́й сабе́, мой ты хло́пчык, а я ж ні ў сіла́х цібе́ бо́лій суніма́ць.*

БРАЗКНУ́ЦЬ *зак.* Бразнуць. *А ён як бра́зкня во́бзім вядро́м.*

БРАСКАТА́ННЕ *н.* Бразгатанне. *Як уе́ўся ён мне у ду́шачку сваі́м браската́ннем: часы́ з два стая́ў і гру́каў.*

БРАСКАТА́ЦЬ *незак.* Бразгатаць. *Браско́ча і браско́ча ве́цір калі́ткай.*

БРА́СКАЦЬ *зак.* да *бразкатаць. Пакі́нь ты, дзіця́тка, цэп, ні бра́скай ім.*

БРЫ́ДЗЕНЬ *м.* Гарката ў квашанай капусце. *Бры́дзінь то́лькі вы́ступіў з капу́сты, сама́ ж іна́ шчэ й ніякая.*

БРЭ́СКАЦЬ *незак.* 1. Грэбаваць. *Ні брэ́скаіш, дык во бяры́, шчэ пано́сіш. Ні брэ́скавалі йны ні чужы́м набы́ткам, ні калхо́зным дабро́м.*

БУГО́Р *м.* Сып на целе. *Це́ла свярбу́чая, як вуж уку́ся, дык во такёя бугары́ па це́лу.*

БЯСПРО́СЫПУ *прысл.* Не прачынаючыся. *І так крэ́пка засну́ла, што біспро́сыпу часо́ў шэсьць праспа́ла; і ёта у ма́е гады́.*

ВАТАЛІ́ЦЬ *незак.* Голасна крычаць. *А як хо́чыш, ватал́і, ні ватал́і, а ні бу́дзя табе́ ўжо ніч́ога.*

ВІКО́НА *ж.* Ікона. *К віко́ні ве́шай йе́та.*

ВІСО́К *м.* Скроня. *Вісо́к уда́рыла, сама́ сьсіне́ла, чуць аткача́лі.*

ВО́БЗЕМ *прысл.* На зямлю. *Во́бзім пакіда́лі ўсё, а са́мы зьбе́глі.*

ВО́ПРАМЕЦЦЮ *прысл.* Імгненна. *Во́прамеццю зьбе́гаў туды́ і наза́д.*

ВО́СЫПКА *ж.* Тое, што і бугор. *Вы́сыпала во́сыпка ура́з па ўсяму́ це́лу, а с чаго́ – ні зна́ю.*

ВУ́ТКАЦЬ *незак.* Падаваць гукі: вут-вут. *Удо́д усё і ву́ткая: вут-вут, по́куль і уто́міцца.*

ГАЙНО́ *н.* Свінное логава. *Гайно́ ёй там бальшо́е зьдзе́лалі у хле́ві, каб цёпла было́.*

ГАЛУ́ЗА *ж. пагард. зневаж.* Неахайная жанчына. *Галу́за? Чалаве́к ні го́ніцца, каб яму́ чышчэ́й было́, як ё, так і ла́дна.*

ҐЗУ́НТЫ: ЦЯГНУ́ЦЬ ҐЗУ́НТЫ *перан.* Не ставаць сілы. *Я б сама́ скасі́ла, да ўжо ру́кі ні ця́гнуць ґзу́нты.*

ГНЁТ *м.* Груз для націскання чаго-н. *На бальшу́ю бо́чку і гнёт до́бры кла́лі.*

ДА́ЛЕЙ *прысл.* 1. Далей. *Да́лій пасу́нуліся – і там ні бу́бкі.* 2. Потым. *Да́лій захо́дзілі Цібянькі́, і братава́я ма́я прыйшла́.*

ДАСТАВА́ЦЦА *незак.* Мецьмнога клопату. *І ма́тка хварэ́я, дык ёй даста́ецца бага́та: маладэ́я са́мы усё дзе́лаюць, ніко́га ні про́сюць, а дзіцёнак ма́лы, іна́ зь ім піратамля́іцца.*

ДОР *м.* Драніца. *На дор во́сім сасён павалі́лі, а ён, Ястачкін, прада́ў і ні капе́йкі на ладо́нь.*

ДРА́ГАЦЦА *незак.* Біцца ў эпілепсіі. *Чо́рнаю бале́зьню мо́гуць насла́ць дамавікі́, бу́дзіш пужа́цца, дра́гацца.*

ДРУЧО́К *м.* Калок. *Стая́ць но́гі, як ручкі́: ні сагну́, ні разагну́ іх.*

ДУХ *м.* Пар. *Ідзі́ мы́йся, у ба́ні цёплінька і ду́ху шчэ бага́та.*

ЕТАЛІ́ЦЬ *незак.* Тое, што і ваталіць. *І еталі́ла іна́ там, і клядзьбо́ны пасыла́ла, а я ні слу́хала.*

ЁР'Е *н. зборн.* Рыззё. *Як у цібе́ ёр'я на плеча́х, так і у міне́.*

ЖЫЗАВА́ЦЬ *незак.* Тое, што і бжызаваць. *Дзе́ці жызу́юць: купа́цца по́йдзім на бало́ння.*

З НАЧЫ́ ў знач. *прысл.* Пасля ночы. *З начы́ ўста́ла йна, як і ні́чо́га ні было́: ні бо́лі, ні хваро́бы.*

ЗА ЖЫВО́СЦЮ ў знач. *прысл.* Пры жыцці. *За жыво́сьцю на́да гавары́іць с чалаве́кам.*

ЗАВАТАЛІ´ЦЬ *зак.* да *ваталіць. О, як заваталіла дачка́, убачыўшы бацьку мёртвага.*

ЗАДАВО´ХА *м. і ж.* Задавака. *Саро́ка калі пра́ўду прынясе́, калі брахню́. Адзі́н быў тут такі́ задаво́шлівы, задаво́ха така́я, дык яго́ празва́лі Саро́ка Галано́ва.*

ЗАДАВО´ШЛІВЫ *прым.* Задавака. *На само́га Галана́ каза́лі Саро́ка, такі́ ж быў чалаве́к задаво́шлівы: біз брахні́ кро́ку ні сту́піць.*

ЗАЕТАЛІ´ЦЬ *зак.* да *еталіць. Заеталі́лі у двары́ усе́ кага́лам, а чаго́ крыча́ць, не разьбярэ́ш – уме́сьці ж.*

ЗАКРАПАСЦІ´ЦЦА *зак.* Затрымацца, загуляцца. *Не́шта ба́ба закрапасьці́лася у Ма́нькі, і по́даўну пайшла́.*

ЗАКУГУ´КАЦЬ *зак.* Закугакаць (пра саву). *Закугу́кала сава́ – не жджы дабра́ у до́мі.*

ЗАЮШЫ´ЦЦА *зак.* Заварушыцца. *І усе́ тут зра́зу заюшы́ліся, захадзі́ліся: по́йдзім і усё тут табе́.*

ЗБАТУРЫ´ЦЦА *зак.* Перабіць сон. *Засну́ла то́лькі я, і ба́ба сні́цца, гука́я міне́. Я не адзыва́юся: як пако́йнік заве́ ні на́да го́ласу падава́ць. Зноў прыжму́рыла во́чы, і іна́ паяўля́іцца. І так тры разы́ за ноч прыхо́дзіла. Сон мой збатуры́ўся, я ужо́ й не лажы́лася.*

ЗВО´ДДАЛІ *прысл.* Воддаль. *Я стаю зво́ддалі, йны міне́ не ба́чуць і абсужда́юць ба́цьку.*

ЗВЫ´ЧНА *прысл.* 1. Звыкла. *Звы́чна мне тут усё́, усё́ сваё́.* 2. Звычайна. *А ніха́й і паярушы́цца, на людзя́х ён звы́чна маўчо́к.*

ЗРАСХО´ДАЦЬ *зак.* Спажыць. *Зрасхо́далі на я́гады уве́сь са́хар, а як да́лій ні прыду́маю.*

ЗЯ´БРЫ *мн.* Жабры. *Зя́бры у ка́ждай ры́бы у галаве́.*

КА´ДАЎБА *ж.* Сажалка. *Капа́лі ка́даўбы, ці са́жалкі, дзе у каго́ ні́зка. А калі́ мужчы́на харо́шы, хазя́йлівы, во́зьмя абру́бя, абстро́я так йе бяро́завымы пла́шкамы, як кало́дзіжы калі́сь-та. Ка́жны у нас паніма́я, што ка́даўба і са́жалка е́та адно́ і то́я ж.*

КАЗЕ´ЛЕЦ *м.* Палявое шчаўе. *Які́ там шча́віль, казе́ліц нікуды́шны адзі́н.*

КАЗЕ´ЛІЦЦА *незак.* Песціцца, лашчыцца. *Як чу́ла, што кане́ц ёй: так іна́ кала ма́лінькага казе́лілася.*

КАЗЕ́НІЦЦА *незак.* Тое, што і казеліцца. *Самá казéніцца дзень пóдлі дзіцёнка, а ён прыйдзя с трáктара і самóму нáда і пасьцірáць і нагатавáць.*

КАЛАХМА́ЦІЦЬ *незак.* Клычыць. *Калахмáцююць ячмéнь птýшкі. Каб ні пастáвілі пужáйлаў, увéсь бы зь'éлі.*

КАМЯНЫ́ *мн.* Спосаб укладкі сырых цэглы ці торфу. *Сырэ́ц кірпі́ч ці торх клáлі у шóпах у камяны́. А камяны́ тэ́я як калóдзіжкі такéя.*

КАПА́ЛЬНЯ *ж.* Кар'ер. *У капáльні – інá у нас па шляхý – брáлі грáвіль, пясóк.*

КАПЫРСЛЯ́ЦЬ *незак.* Няспешна рабіць. *Пóдню капырсляю шчэ то градý якýю, то кала хазяйства тýпаю, а пóначы ніяк не заснý.*

КАРАВЕ́ЦЬ *незак.* Бруднець. *Якóя табé чыстая, і на мне каравéя усё.*

КАСЛІ́ВЫ *прым.* Касцісты. *Язь éты і пад'язак крэ́пка касьлі́выя.*

КАШЧА́ВЫ *прым.* Кастлявы. *Па бáцьку удáўся. І ён быў такí кашчáвы, нікрасíвы сам.*

КРАМЕ́ННЕ *н. зборн.* Крэмень. *На крамéння паклáлі увéсь хундáмінт, пад шýлы яго брáлі, на штандáры.*

КРАМЕ́НЬ м. Крэмень. *Крамéнь век у жызьні табé не рассыпіцца. На крамéння паклáлі увéсь хундáмінт, пад шýлы яго брáлі, на штандáры.*

КРО́ШКА *ж.* Кавалак (сала). *Сáла усíм па крóшцы далá, твóрагу, цыбýлі – усягó наклáла, накýніла і éдзьця сабé.*

КРЫВАСЛІ́ВЫ *прым.* Крыўдлівы. *Такáя крывасьлíвая дзéўка: ёй знай як слóва сказáць.*

КУГУ́КАЦЬ *незак.* Кугакаць. *Калíсь забрэ́міняя дзéўка у дзéўках, савá прыляцíць і кугýкая.*

КУЗУ́ТАК *м. экспр.* Невялікае памяшканне для жылля. *Людзі ж жывýць у якíх кузýтачках, а тут раздóльля.*

КУ́КАЦЬ *незак.* Кукаваць. *Ціпéр ужó мáла кýкаюць зязюльлкі, калі аднá тóлькі.*

КУЛА́ЖЫЦЦА *незак.* Храбрыцца. *А ён кулáжыцца, ні уступáя, хоць сíлы німá.*

ЛАГВО́ *н.* Вужыная логава. *Былó такóя: чалавéк прыйшóў і нільзя нíйдзé ступíць у лéсі: вужы́ кругóм. Ці мóжа ямý памярэ́шчылася. Вужы́ сóнные, вялые. Ета лагвó іх.*

МАЖА´РЫ *мн.* Вялікія сялянскія калёсы з высокімі драбінамі. *Начава́лі мы пад мажа́рамі на лу́зе, тады́ прызда́ло́ся мне, што і мой чалаве́к тут хо́дзя.*

МАРДА´СТЫ *прым.* Круглатвары. *А дзе́ўка і́хная така́я марда́стая да кра́сная у ліцэ́.*

МАТРАШЫ´ЦЬ *незак.* Ледзьве пырскаць (пра дождж). *У нас з ра́ньня тро́шкі дождж матрашы́ў, а к ве́чару пакра́паў.*

МІТУЛЬГА´: ЯК МІТУЛЬГА´. Сноўдаць без перапынку. *Но́сіцца Вулья́нча, як мітульга́ яка́я, да сьве́ту.*

МО´ТАШНА *прысл.* Маркотна. *Мо́ташна мне зьдзе́лалась ужо́ к но́чы, я тады́ табле́ткі піць, каза́ба тро́шкі палу́ччала.*

МЯ´ЛЛЕ *н. зборн.* Кастрыца. *Мя́лля з лёну ні выкіда́лі, у хлеў яго́ пад но́гі каро́ві.*

МЯ´РТВЫ *прым.* Мёртвы. *Прывізла́ б дамо́ў мя́ртваю, а нашто́.*

НА АДНО´Й ПАРЭ´. У тым жа стане, без змен. *Ба́цька йі́хны на адно́й парэ́: ні падыма́іцца, ляжы́ць, то́лькі малака́ тро́хі вып'я і усё. Па́льцы пачына́юць со́хнуць, пажаўце́лі.*

НА´БРЫДЗЬ *ж. зневаж.* Нетутэйшыя насельнікі. *На́брыдзі уся́кай к нам нае́хала, як свае́ паўці́ка́лі ат Чарно́быля.*

НАВАРО´Т *м.* Паўторны зварот да адной і той жа думкі, падзеі. *Засну́ла, сню: гука́я міне́ Та́ня. І так тро́мы навaро́тамы за ноч гука́ла.*

НАВЕ´С *м.* Пабудова для гаспадарчых патрэб. *Се́на скла́лі пад наве́с, а там німа́ варо́т, сьне́гу ве́цер набі́ў, ідзі́ ціпе́р выдзіра́й яго́.*

НАЗА´ЎТРАГА *прысл.* Назаўтра. *Наза́ўтрага пае́хала к яму́ у Чычэ́рск.*

НА´ЙДА *ж. пагард. зневаж.* Пра жанчыну «лёгкіх» паводзінаў. *Ні жо́нка йна, з ра́ньня бе́гае, як на́йда, па дзярэ́ўні.*

НА´ПАСЛІ *прысл.* Пасля. *На́пасьлі пры́йдзіш, як упра́вімся с хазя́йствам.*

НАЎВЕ´ЦЕ: МЕЦЬ НАЎВЕ´ЦЕ. На прыкмеце. *Німа́ у нас тако́га чалаве́ка наўве́ці, каб папрасі́ў, ён ба завёз.*

НА´ЎЗНАЧ *прысл.* Наўзніч. *То́ньку пабі́ла ба свальт, іна́ упа́ла во так, на́ўзнач.*

НАЎСПРАМІ´К *прысл.* Напрасткі. *Ішо́ў наўспрамі́к.*

НА'ЦІСК *м.* Арагавелы мазоль. *Націск ён крэпкі такі, а мазоль – наступіш і зь яго можа вада пабежч.*

НЕ ЎЗДАЛЕ'ЦЬ *зак.* Не здолець, не магчы. *Будзя ўрэмя, што і курэй ні ўздалею дзіржаць.*

НЕ ЎЗДО'ЛЕЦЬ *зак.* Тое, што і неўздалець. *Шчэ трохі уперад была йна нічога, а ціпер і устаць ні ўздоляя.*

НЕ ЎЗМАГА'ЦЬ *незак.* Тое, што і неўздалець. *Год назад дзіржала і карову, а далі так стала, што ні ўзмагла.*

НЕ ЎЛАДА'ЦЬ *незак.* Не валодаць, не адчуваць. *Рукой сваёй я даўно ні ўладаю, а ціпер і нага ссыхая.*

НЕ'ВЕСЦЬ ШТО. Немаведама (што). *Невісьць што надумала у сваю галаву.*

НЕЗГАВО'РНЫ *прым.* Незгаворлівы. *Сь кім ба й дагаварыўся, а Міколкава – дужа ж нізгаворная баба.*

НЕЗГАВО'РЧЛІВЫ *прым.* Тое, што і незгаворны. *Дзеці на бацькоў упадабаюць: незгаворчлівые, як і йны.*

НІСТО'ЖЫЦЬ *незак.* Знішчаць. *Мірыканка ета, абляпіла увесь Савецкі Саюз, каждага дня ністожу, а йна расьце.*

НОЧ ПРЫ НОЧ *прысл.* Штоночы. *Ноч пры ноч уставала, даглідала яго, пакуль хварэў, а мне памэжч німа каму: ён зноў кырхая.*

НЮДА' *ж.* Самота. *Адна ў хаце асталася, ні знаю, к чаму рукі прыкласьць, нюда зь'ідая.*

НЯРУ'ШАНЫ *дзеепрым.* Некрануты, нечапаны. *На што вячэра, калі й абед нірушаны.*

ПАВЕ'ЦЬ *ж.* Тое, што і навес. *У павеці усё у міне: і бочкі длі зірна, і кош які, хапая ражна усякага.*

ПАГНО'ЕК *м.* Угнаенне. *Парахня ета, як гной паляжыць, пагнояк харошы крэпка.*

ПАДДА'ЦЬ *зак.* Стукнуць каго-н. *Рымсуй болі, дык шчэ паддам.*

ПАДЖЫГА'ЦЬ *незак.* Падбухторваць. *Паджыгаю Дуньку: пайшлі паглядзім.*

ПАДПУ'ЗЗЕ *н.* Падчарэўе. *Падпузьзя засаліць крэпка добра.*

ПАКАРАВЕ'ЦЬ *зак.* Тое, што і каравець. *Покуль бульбу пакапалі, пакаравела ўся адзежа.*

ПАКУКО'ЖЫЦЦА *зак.* Скурчыцца. *Холад такі быў ноччу, што усё лісця ўраз пакукожылася.*

ПАКУ´ТАЦЬ *незак.* Пакутаваць. *Яны́ за ўсё за е́та паку́таюць: ма́тка ж ужо́ ру́кі склáла.*

ПАНАРА´ВІЦЦА *зак.* Спадабацца. *Панара́віўся чалаве́к, не грэ́буй, выхо́дзь за́муж.*

ПАНЧО´ХІ *мн.* Панчохі. *Вы ціпе́р купля́іця у ла́ўцы чулкі́, а я маладзе́нькай сама́ віза́ла панчо́хі сабе́.*

ПАПУСКА´ЦЬ *незак.* Уступаць. *Хло́піц такі́ – сло́ва ні папуска́я.*

ПАРАДЗЕ´ЦЬ *зак.* Параіць, пасрыяць. *Ма́тка мне так парадзе́ла зьдзе́лаць.*

ПАРЫМСАВА´ЦЬ *зак.* да *рымсаваць. Пасядзе́ў мой уну́чык парымсава́ў, ба́ча: ніхто́ на яго́ ні глядзі́ць, ён і прыці́х.*

ПАСА´Д *м.* Пасадка. *Чыснаку́ на паса́д прывізла́.*

ПАТРАПА´ЦЬ *незак.* Павастрыць (касу). *Я і патрапа́ць касу́ уме́ю, і касі́ць бу́ду, і к плу́гу прывы́шная.*

ПА´ХВІНА *ж.* Пах. *У па́хьвіні вы́скачыла така́я булдо́ўка, кіла́ яка́я ці што.*

ПА´ШЧЫКІ *мн.* Сківіцы. *Па́шчыкі яму́ скрыві́ла, с таго́ і хо́дзя з разя́ўліным ро́там.*

ПЕ´ЛЬКА *ж.* Палонка. *Зімо́й па Сажы́ ідзі́ і бо́йся: пе́ляк напрасіка́юць, мо́жыш і ускочыць.*

ПЕРАБАГА´ЦІЦЬ *зак.* Усыпаць, дадаць чаго-н. звыш меры. *Перабага́ціла со́лі, дык нісма́шная йіда́.*

ПЕРАЖЫ´ТАЧНАЕ *дзеепрым.* Перабалелае. *Ета ўсё пеража́ытачнае.*

ПЕРАРАШЭ´ЦЬ *зак.* Спарахнець. *Пірагніла́ сало́ма, пірапрэ́ла, ста́ла парахнёй, во табе́ і піраращэ́ла.*

ПЕРАТАКА´ЦЦА *зак.* Паскітацца. *Піражы́ў мой хазя́ін усяго́, па усяму́ сьве́ту піратака́ўся і наза́д вярну́ўся.*

ПЕШАХО´ДЗЬ *прысл.* Для пешаходнай хадзьбы. *А така́я даро́жка пешахо́дзь хадзі́ць.*

ПІ´ЛЬНЫ *прым.* Тэрміновы. *Ні тако́я е́та дзе́ла пі́льная.*

ПЛЕ´СНЯ *ж.* Рабацінне, вяснушкі. *Не бяры́ця яе́ц ла́стачкіных: бу́дзя пле́сьня на насу́ і усю́дах.*

ПЛЯНІ´ЦА *ж.* Агароджа. *Прышла́, а пляні́ца ляжы́ць.*

ПО´ДАЛ *м.* Падол. *По́дал на́да падня́ць, штоб ні ціга́ўся, во сюды́, пад хварту́к, падтыркну́ць.*

ПО́ДАЎНУ *прысл.* Даўнавата. *По́даўну ужо́ паеха́ў брат, а так і пісьма́ ні напіса́ў.*

ПО́ЛАДЗЕНЬ *м.* Полудзень. *По́ладзінь с сабо́й на рабо́ту бра́лі. Жнем-жнем, а тады́ дава́й палу́днаваць.*

ПРАГЧЫ́ *незак.* Смажыць. *На Ра́данніцу прагу́ць яе́шню бізა́цільна, усё бяру́ць, што ё.*

ПРАСО́ЎКАЦЦА *зак.* да *соўкацца.* Соўгацца. *І ён са мной цэ́лы дзень на дварьі́ прасо́ўкаўся: то то́я, то се́я, а усё не́шта калупа́ўся.*

ПРА́ЎДЗІЦЬ *незак.* Збывацца. *Сны пра́ўдзюць, крэ́пка пра́ўдзюць.*

ПРЫЗДА́СЦА *зак.* Здавацца. *Прыздало́ся мне, што і мой чалаве́к тут, а ён – калі́ памёр.*

ПРЫКАЎРЭ́ЦЬ *зак.* Моцна прысохнуць да чаго-н. *Кроў цурлі́ць без спьі́ну, та́я тра́пка прыкаўрэ́ла к ра́ні, ні дздзярэ́ш.*

ПРЫКО́РЧЫЦЦА *зак. экспр.* Сагнуцца ад старасці і хвароб. *А ціпе́р во я прыко́рчылася, ніку́ды ні йду.*

ПРЫЛА́МВАЦЬ *незак.* Прывучваць. *Прыла́мвайця дзіце́й к рабо́ці зма́лку.*

ПУ́НЯ *ж.* Пуня. *Даўне́й каза́лі, што е́та пу́ня ці сяньні́к, а ціпе́р на ўсё ка́жуць наве́с.*

ПУТНЫ́ *прым.* Дыхтоўны. *Ні адно́й путно́й адзе́жыны у ба́бы.*

РАЗГАВО́Р *м.* Маўленне. *То́лькі разгаво́рам міне́ пазна́лі.*

РАЗГРАШЫ́ЦЬ *зак.* Дазволіць. *Разграшы́лі яму́ шчэ год хадзі́ць і хадзі́ў тры гады́ у адзі́н клас.*

РАССТРАВА́ЦЦА *незак.* Развітвацца. *Як расстрава́лася іна́ з ім, нівазмо́жна было́ глядзе́ць на е́та.*

РАССТРА́НУЦЦА *зак.* да *растраватацца. Дзе́ці ніяк ні расстра́нуцца з ба́цькам.*

РАСХО́ДАЦЬ *зак.* Тое, што і зрасходаць. *За ле́та, як сабра́ліся дзе́ці, расхо́далі і мех мукі́, і кру́пы, што былі́.*

РАСЧА́ЦЬ *зак.* Распачаць. *Стог расча́лі уво́сінь, а дажджы́... Яно́ намо́кла... каб паве́ць нам.*

РУДА́ *ж.* 1. Бруд. *Це́ла чэ́шыцца, сто́лькі на ім руды́ сабра́лася: ні мы́ліся даўно́ у ба́ні.* 2. Бруднае адзенне. *Ськіда́й зь сібе́ усю́ е́ту руду́, перасьціраю.*

РУДЫ´ *прым.* 1. Брудны. *Які́ бу́дзя чалаве́к по́сьлі тако́й рабо́ты? – Руды́.* 2. Рыжы. *Лі́да Балясьнёва така́я ру́дая па ба́цьку.*

РЫМСАВА´ЦЬ *незак.* Плакаць, упарціцца. *А йна рымсу́е: не паёду бо́ляй вучы́цца, пайду́ у сваю́ шко́лу.*

РЭ´ДЧЫК *м.* 1. Чапец. *Рэ́дчык, як і уве́сь сьвінны́ здор, мы піратóпліваім.* 2. Марля. *З рэ́дчыку шчэ шы́ла хвіра́начкі, знасі́ліся.*

САМІ´ЧКА *ж.* Самка вужа. *Як са́мка-вуж, у нас ка́жуць самі́чка.*

СЕ´ЧАНЬ *ж.* Пасечаны корм (пераважна трава) для скаціны. *Се́чань кабану́ даю́.*

СКАПЫРСА´ЦЬ *зак.* Тое, што і скапырсліць. *Напагато́ві і ко́хтачка: лічы́ ужо́ скапырса́ла.*

СКАПЫРСЛІ´ЦЬ *зак.* Няспешна зрабіць. *Скапырсьлі́ла за зіму́ ко́лькі наско́ў дзіця́м.*

СКАРАВЕ´ЦЬ *зак.* да *каравець. Скараве́ла і ху́стка саўсі́м, і спадні́ца.*

СКРОЗЬ *прысл.* Заўжды. *Мне скрозь сьні́лася, што сабяру́цца лю́дзі – вады́ ім німа́, а мне вады́ ё.*

СКРЫ´ПКІ *мн.* Прыстасаванне для зімовай лоўлі рыбы ў выглядзе рэшата, якое мае палатнянае дно з дзюркай пасярэдзіне, паднятай уверх амаль упоравень з верхам. *Не́раты узі́мку стано́вюць, пе́лькі прасіка́юць, скры́пкі не́йкія дзе́лаюць з лучы́нак. Ры́ба, як ніра́стуя, ідзе́ць на пе́льку і у не́рат ускóча.*

СЛЕНЬ *ж.* Луска. *У во́куня сьлень тру́дна чы́сьціць.*

СЛУЧА´Й *злучн.* Калі, калі раптам. *Случа́й і ко́нчыш ране́й, падажджы́ міне́, адна́ ні хадзі́.*

СО´ЎКАЦЦА *незак.* Соўгацца. *І дзед ішчэ́ со́ўкаіцца: то кала каня́, то вады́ прывязе́.*

СПАЛЮБІ´ЦЦА *зак.* Пакахаць, палюбіць. *Як спалю́біцца чалаве́к, дык грэх – у мех.*

СПАРАШЭ´ЦЬ *зак.* Тое, што і перарашэць. *Салóма та́я ністо́лькі сама́ спарашэ́ла, як іие́ мы́шы піратачы́лі.*

СПАТВАРА´ЦЬ *незак.* Патураць, задавальняць. *Ско́лькі ж мо́жна спатвара́ць тваі́м пры́хацям.*

СПАТВО´РЫЦЬ *зак.* да *спатвараць. Дзе́ткі ж яны́ таке́я: адно́ спатво́рыў, друго́я трэ́баюць.*

СПО́ДКА *ж.* Жаночае адзенне. *Ранéй на рубáшку спóдку надзівáлі, ёй карýнку дзéлалі.*

СПРАГЧЫ́ *зак.* да *прагчы. Калі хто у страдý гатавáў? Яéшні якóй спражэ́ш на хадý.*

СПРО́БАЦЬ *незак.* 1. Спрабаваць. *Спрóбалі хлóпцы, як карóў ганялі, па кýплах лáзіць, шукáць кукýшкіна гнездá.* 2. Паспытаць. *Спрóбай мяса, ці смáшна згатавáла.*

СТРО́ЧНЫ *прым.* Тэрміновы. *Стрóчная як рабóта, я тады́ нічóга ні раблю́, мардýюся зь ёй, бывáя так упялéгаюсь лі йе, што нія́к нóччы ні заснý.*

СТЫ́ЛЫ *прым.* Халодны. *Пáльцы сты́лые, нáда рукаві́цы надзівáць.*

СУМЛІВА́ЦЦА *незак.* Сумнявацца. *Ягады хто нóся, а хто сумлівáіцца: усю́дах тут, як тай... рáцыя.*

СЯДРЫ́ЦЦА *незак.* Лютаваць (пра мароз). *Урáньні сядры́ецца марóз, ні вы́йдзіць с хáты.*

СЯННІ́К *м.* Спецыяльнае месца для захоўвання сена. *Сяньнікóў ужó ні стáвюць, дзéлаюць тóлькі навéсы.*

ТАЛА́НЬ *ж.* Лёс. *Даў такýю судзьбý, такýю талáнь, планéту такýю даў Бог. Век аднá, дáйжа з адны́м вакéнцам сем гадóў жылá.*

ТА́МБУРКА *ж.* Кручок для вязання. *Тáмбуркай усю́ зімý капырсля́ла карýнкі.*

ТА́НБУРКА *ж.* Тое, што і тамбурка. *Мне пéршаю тáнбурку бáцька с касьці́ зьдзéлаў, ёй тóлькі што тóўстая візáць.*

ТАЎПІ́ЦЦА *незак.* Таўчыся. *Нарóд таўпі́цца, ну во, як базáр.*

ТУРА́ЦЦА *незак.* Ганяцца. *Ні знáю, ці інá кáжа ці мне здаéцца, што за мной чэ́рці – яны́ ж гóлінькіе – турáюцца.*

ТУ́СМЕННЫ *прым.* Цьмяны. *Мéсячык тýсьмінны, хмáркі па ім.*

У ПАГЛУ́М: ПУСЦІ́ЦЬ (ПАЙСЦІ́) У ПАГЛУ́М. Не скарыстаць па прызначэнню, сапсавацца. *Усё, што с свáдзьбы засталóсь, пусьці́лі у паглýм.*

УГАШЧА́ЦЬ *незак.* Частаваць. *Яны́ гасьцéй ні ўмéюць угашчáць: ні прывéцюць ні слóвам дóбрым, ні стрáвай.*

УКРЫ́ЎДЗІЦЦА *зак.* Пакрыўдзіцца. *Ніві́дзімые на кагó ўкры́ўдзюцца, дык і забалéіш.*

УСКО́РАСЦІ *прысл.* У хуткім часе, адразу. *Ускóрасьці пóсьлі вайны́ шукáлі штóйта у Прудкý, но нічóга не нашлі́.*

УСКРУЦІ́ЦЦА *зак. іран.* Устаць вельмі рана. *Ускруці́лася ж да сьвéту, дзень пралётала, як мітульгá, а усё ні перадзéлала, што замысьляла.*

ХАЗЯ́ЙЛІВЫ *прым.* Гаспадарлівы. *Калі мужчы́на харó-шы, хазя́йлівы, вóзьмя абрýбя, абстрóя так кáдаўбу бярóзавы-мы плáшкамы, як калóдзіжсы калі́сь.*

ЦЯГУ́ЧЫ *прым.* Здаровы, дужы. *Івáн ніхáй сáла патрабля́я, цягучэ́й бýдзя.*

ЧУР МНЕ. Воклік. *Гуля́ім у гульню́ якýю, каму надаéсьць, ён і крычы́ць: чур мне і замрэ́ на мéсьці.*

ЧУ́ЧАЛАМ: ЗАВЯ́ЗВАЦЬ ЧУ́ЧАЛАМ *зневаж.* Спосаб завязвання хусткі. *Хóрма там такáя – задзіві́цца нáда: платкі́ вышывáные з махрáмы чýчалам завя́залі, сарóчкі вышывáные, а кохт ні знáлі, усё штоб тарчэ́ла.*

ШАШО́К *м.* Моль. *Шашкі́ – éта ж моль.*

ШО́ПА *ж.* Вялікі навес з дахам, але без бакавых сценак. *Сізóн у кірпі́чным завóдзі у шóпах рабóтала, там сырэ́ц клáлі у камяны́.*

ШО́РХНУЦЬ *незак.* Пакрывацца тонкім ільдом. *Во марóз, аж вадá шóрхне у сéнцах.*

ШТО НІ ДНЯ *прысл.* Штодзённа. *Што ні дня забігáла к ямý дачкá у бальні́цу, і сын жа зь Мі́нска тóжа прыіжджáў.*

ШЧУБО́ЎКНУЦЦА *зак.* Кінуцца ў ваду. *А ён з разгóну як шчубóўкніцца у вадý, тóлькі ягó і бáчылі.*

ШЫБАНУ́ЦЬ *зак.* да *шыбаць. Шыбанýў, пы́рскі разьбéг-ліся ва ўсе бакі́, стóлькі і былó пéрсьніка.*

ШЫБА́ЦЬ *незак.* Кідаць. *Шыбáй сюды́ мéчык.*

ШЫК *м.* Ігліца. *Шы́ку набрáла пасьці́лачку раз, удрýгі, і ё у мінé на пóсьціль.*

ШЫ́ШКА *ж.* Грэбень у курыцы. *Знай: шы́шка сьсінé-ла – канцы́ кýрыцы.*

ЯР *ж.* Яравыя збожжавыя культуры. *Во, жы́та нáда жаць, і яр пасьпéла.*

Я́РНІЦА *ж.* Яравое жыта. *На зімý нічóга ні сéілі, мóжа тады́ я́рніцы пасéім.*

ЯРЫ́ЦА *ж.* Тое, што і яр. *Ярі́ца: і аве́с, і ячме́нь, і пшані́ца – усе́, што вясно́й се́юць.*

*І. І. Лучыц-Федарэц*

## ЛЕКСІКА ВЁСКІ СЫЧЫ ДРАГІЧЫНСКАГА РАЁНА

Гэтая лексіка збіралася ў 80-я гг. XX ст. паводле праграмы-апытальніка «Лексічнага атласа беларускіх народных гаворак» ад ураджэнак вёскі Сычы (мясц. *Сычі́*), афіцыйна ўключанай у вёску Аляксеевічы, Дубіцкай Ганны Тарасаўны (1919 г. н.), Лучыц-Федарэц Алены Тарасаўны (1909 г. н.), і Камісарчук Марыі Тарасаўны (1929 г. н.).

Фанетыка гаворкі характарызуецца вымаўленнем [*а*] пасля цвёрдых зычных замест [э] (напрыклад, *на́бо* ’неба’) і гука [*ˈэ*] (на пісьме *ˈе́*) пасля мяккіх зычных (напрыклад, *жˈе́ба* ’жаба’). У некаторых выпадках вымаўляецца гук [*и*] – сярэдні паміж [*і*] і [*ы*]. Націскное [*э*] – вузкае, пасля [*к*] яно набліжаецца да [*е*].

БАГА́Н *м.* Багун, Ledum L.

БІБ *м.* Фасоля. *Біб сві́йські жыва́ простэ́й чи саду́н і штычко́вий.*

БИˈЕ́НКА *ж.* Бойка. *Коро́ву продала́ я, а биˈе́нку поке́нула: хай бу́дэ ў ха́тэ.*

БУРЛЮГА́ *ж.* Сумесь чаго-небудзь з кісляй. *Я ма́ло цу́кру дала́ ў варэ́ньне, то постоˈе́ло і ста́ло – одна́ бурлюга́.*

БЫРВІ́НКА *ж.* Барвенак, Vinca L.

ВА́РУС *м.* Верас, Calluna Salisb. vulgaris (L). *Го́сыню на ва́росовэ пчоˈлэ́ сыдˈе́ть.*

ВЫНДЗО́ЛЯНИ *дзеепрым.* Вэнджаны. *Повындзо́лянэ стыгно́ смашні́шэ.*

ВЫРДОЎНЭ'К *м.* Мальва, Malva L.

ВЭ́КОЛОТОК *м.* Абкалочаны сноп збожжа. *Вэ́колотка колотэ́лэ, а кулˈе́ – траслэ́.*

ГО´КО *н.* Дзірка ў верхнім камені, куды засыпаюць збожжа. *За'рнята покро'хэ сэ'палэ ў го'ко вырховыка'* (наз. скл. *вырховэ'к* 'верхні камень').

ГРЫМО´ТА *ж.* Цмен пясчаны, Helichrysum Mill. arenarium (L) D. C. *Грымо'ту ві'шалэ ў пуча'чковэ, коб гро'му ны бо'е'тыся.*

ГУ´ЛИЙ *м.* Вулей. *Так, 'ек лытэ'ть, то пчола' бзычэ'ть, а ў гу'лийовэ – пчо'лэ гуду'ть.*

ГУРЧ'Е´К *м.* Драсён, Polygonum L.

ГУСТЭ´ *незак.* Гудзець. *'Ек пчо'лэ ма'юца вылі'татэ ро'ём, то гуду'ть-гуду'ть, бы лю'дэ, 'ек сва'раца, – така'я мыта'лыца зро'быца, шо й сві'та ны выдно'.*

ДА´РВО *н.* Драўніна, дрэва. *'Ек да'рво роста', то ка'жуть – ліс, а 'ек спу'шчанэ – то га'то ўжа да'рво.*

ДЗЁЎБАЧО´К *м.* альбо НО´СИК *м.* Зобік у пчалы.

ДУБРО´ВА *ж.* Назва травы. *Га'то така'я вылі'ка трава', пындзилі' з йийі' робэ'лэ.*

ДУПН'Е´К *м.* Борць. *Ша на дупна'того гу'лия каза'лэ кругл'е'к.*

ДЫВОСЭ´Н *м.* Дзівасіл, Inula L. *Од ўвыра'дэ: 'ек хто ўвыра'дыца, то даю'ть дывосэ'на од жывота', а 'ек просту'дыся, то тра'ба ко'рыня помэ'тэ, зварэ'тэ, він од грэ'пэ помага'е.*

'Е´ТЫЛИНА *ж.* Дзяцеліна, Trifolium L. *Вона' быто' конюшэ'на, алэ ма'нча і бі'лим цвыта'.*

ЖАРЛО´ *н.* Жала ў пчалы, асы.

ЖО´ЛУБ *м.* Жолаб. *Насэ'п оўса' кона'вэ ў жо'луб!*

ЗАВІ´ЗНО *прысл.* Сітуацыя, калі ў млыне многа памольшчыкаў. *Так тыпа'р було' заві'зно, шо ладь змоло'ў – то нэц, шо ма'лник – сво'е'к.*

ЗА´ЙІДЬ *ж.* Агульная назва для розных куслівых мух і аваднёў.

ЗА´ЙЦОВА КАПУ'СТА *ж.* Кісліца, Oxalis acetosella L. *Ді'тэ й за'рэ йід'е'ть за'йцову капу'сту, ка'жуть, шо вона' ке'слынька.*

ЗАКІ´С *м.* Пракос. *Коса'ц займа'е зако'са, 'ек оно' прыхо'дыть косэ'тэ.*

КА´ДУБ *м.* Кадаўб. *Га'то бо'чка, вэ'дзёўбана з коло'дэ.*

КАКАРУ´ЗЯ *ж.* Кукуруза, Zea L. *У колхо'зэ какару'зю са'дять, а лю'дэ – ны ва'ймэ.*

КАРКОВЭ´НА *ж.* Сала з шыі каля галавы перад хібам. *С хыба' са'ло найто'ўшчэ, і с карковэ'нэ такса'мо до'брэ.*

КОБЫЛЬН[I]Е´К *м.* Конскае шчаўе, Rumex canfertus Willd. (або Rumex cripus L., ці Rumex hydrolapathum Huds.). *Він таке'й, бы лопу'х, алэ до'ўгі лэст, а насі'ньне – бы ў шчаўюха'.*

КОБЭ´ЛКА *ж.* Малая ўкладка сена на сенажаці. *Бі'льша за кобэ'лку называ'йіца копэ'ца.*

КОКІ´ЛЬ *м.* Куколь, Agrostemma githago L. *Він цвыта' сіре'нёвым цві'том.*

КОЛ[I]Е´НДРА *ж.* Каляндра, Coriandrum sativum L. *Суп с кол[i]е'ндрию смашні'ші.*

КОЛОСЭ´ТЭ *незак.* Вымалочваць верх снапа. *Моло'тять само'е за'рне.*

КРУГА´ЛЬЦЭ *н.* Адрэзаны кружок (каўбасы). *Свою' кубасу' з мн[i]е'са н[i]е'кось рі'залэ ны круга'льцамэ, а кава'лкамэ.*

КРЫЖІ´ *м. мн.* Падстаўка пад дзяжу. *Ра'ньші дыж[i]е' сто[i]е'ла на крыж[i]е'х, накрэ'та насти'лныком.*

КРЫЖОЎНЭ´К *м.* або ДО´ШКА *ж.* Памост пад вулей на дрэве. *Йіх до да'рва прывйе'зувалэ дро'том.*

КУЗА´КА *ж.* Невялікі жучок. *Я ны можу' спа'тэ на сі'новэ: здае'цца, шо ўсё н[i]е'ке куза'кэ по мыні' ла'зять.*

ЛАТА´ТЬ *ж.* Лотаць, Caltha palustris L. *Е'ю на Па'ску хварбу'ють [i]е'йца.*

ЛЫПА´ХА *м.* і *ж.* Тоўсты чалавек з шырокім тварам.

ЛЭ´СНИК *м.* Піжма, Tanaceum L. *Лэ'сник даю'ть ді'тюм с хлі'бом і цу'кром, коб вэ'йшлэ лэ'стэ* 'аскарыды'.

МАЁ´ВЭ ЦВИТКЕ´ *мн.* Адуванчык, дзьмухавец, Taraxacum Wigg. *[i]Ек вонэ' пырыцвиту'ть, то ро'бляца з йіх одува'нчыке.*

МАКУШІ´ *м. мн.* Спрасаваныя рэшткі льнянога семя (пасля выціскання з яго алею). *Йімэ' ко'рмлять свина'й.*

МА´ЛНИК *м.* Мельнік. *У нас ма'лник і ма'лыть і крупэ' обді'рае.*

МА´ННА *ж.* Мядовая раса. *Га'то така'я трава' бы жэ'тыца. Бра'лэ сэ'то і збыва'лэ йійі' ў сэ'то, по'тим варэ'лэ ля пчо'ли.*

МОКРА´Ц *м.* Макрыца, Stellaria media (L.) Vill.

МОЛОЖ'Е'Й *м.* Агульная назва сакавітай травы другога ўкосу. *Молож'е'й ко'сять аж у а'ўгустэ.*

МУ'ЧАНЫЦА *ж.* Каўбаса з крыві.

МЫТА'ЛИК *м.* або МЫТЁ'ЛКА *ж.* Матылёк. *Мытё'лок ра'зних мнэ'го. А ў дань ла'тае ба'бочка, вона' жыва' бі'ла, алэ й рэ'жэ ла'тають уда'нь.*

НАЛЭ'НУТЭ *зак.* Наляцець у вялікай колькасці. *Пчо'лэ мо'жуть налэ'нутэ і ўвась мад вэ'братэ.*

НАСТА'ЎКА *ж.* Дадатковыя рамкі з сотамі ў стаячым вуллі. *У на'стаўцэ ра'мке, коро'ччэ пошчі' на половэ'ну, ста'ўлялися ў гу'лийовэ зва'рху, на тэх ра'мках.*

НУ'ТРИНОСЬЦІ *ж. мн.* Агульная назва ўнутраных органаў арганізма. *Гэ'нчі раз од ну'триносьці наобыра'йіш мнэ'го здзё'ру* (нутраного сала).

ОБА'РТУХА *ж.* Вялікая скібка. *Ша рука' зла'мныца од га'такейі оба'ртухэ.*

ОБО'ЙІНА *ж.* Мука з абадранага зерня.

ОЗА'ДЬДЕ *н.* Пазаддзе. *Оза'дьде па'дае блэ'жі до тыба', 'ек ві'йіш.*

ОКРУ'ШЧИК *м.* Бакавыя вырасты ў спечаным хлебе. *Окру'шчике сухе'йі на'дто сма'шнэ с смыта'нию.*

ОМА'ТЭ *мн.* Амеці.

ОПА'ЛУШКЕ *мн.* Апалушкі. *У опа'лушках пала'лэ кутю' (з ячма'ню), а на'ша ма'тэ ба'ло высыпа'ла тудэ' лысэ'цэ* ('лісічкі') *– лё'кші пырыбыра'тэ.*

ОРГІ'НЯ *ж.* Вяргіня, Dahlia Cav.

ПАЛЯНДРЭ'ЦА *ж.* Паляндвіца.

ПА'РЫТИСЯ, ПАРУВА'ТЭ *незак.* Апладняцца (аб пчалінай матцы). *Спа'рытися ма'тке му'сять на літу'. Вонэ' с тру'тнямэ пару'ють на літу'.*

ПАСКУ'СТВО *н.* Агульная назва для паўзуноў. *Га'то – ус'е'ке гадэ'ньне, яшчырке', чырвяке'.*

ПЙАВО'ЧНИК *м.* Смоўж. *Пйаво'чник жыва' ў шкаралю'пэ, а шо на грыба'х ч'е'сом сыдэ'ть – то га'то смоўж.*

ПЛЭ'СНЯК *м.* Касач жоўты, Iris pseudacorus L. *Він бы ярі'й (гл.) алэ дэ'кі, ны манэ'ть.*

ПОВИТУ'ХА *ж.* Бярозка, Convolvulus arvensis L. *Дэ'ке зі'лле, вона' ста'лыца; по карто'плях, цвыта' бі'лым цві'том, а по дорога'х пудхо'жа пуд ро'зовиньке.*

ПОВОʹЙКА *ж.* Павойнік, Clematis alpina (L.) Mill. *Цвыта' сіре'нёвим цві'том, квітке' бито' звоно'чке, усыра'дынэ – бы ў ку'бочковэ просто'рно.*

ПОПЛАВУʹХА *ж.* Раска, Lemna L. *Роста' на воді', зва'рху би жібурэ'ньне. Йийі' грабл<sup>і</sup>е'мэ згрі'балэ і свина'й кормэ'лэ. Така'я бы драпч<sup>і</sup>е'ста, зылё'на, роста' на кана'лэ.*

ПОСКРІʹПТУХА *ж.* Маленькі хлябок з рэштак цеста.

ПРАС *м.* Прыстасаванне для прасавання воску. *Во'сок выч<sup>і</sup>е'ўлюють у пра'совэ або' росто'плять у чыгуні' і вылива'ють.*

ПР<sup>І</sup>ЕʹЛКА *ж.* Калаўрот. *У пр<sup>і</sup>е'лцэ е'сьця ві'лка, сто'ўпчыке, паган<sup>і</sup>е'лка (корбочка), ла'пка, шпінь (шо сука'тэ нытке') і шпу'лька. По гэ'нчых сё'лах ка'жуть і коловорі'тка.*

ПРІʹСНЫК *м.* Цеста ў дзежцы для закваскі.

ПРЭʹДОЛОНЬНЕ *н.* Сена з некалькіх траў. *Груд – сі'но з чэ'стийі травэ', а прэ'долоньне – там роста' і хвошч<sup>і</sup>е'йка, і різа'к, і гэ'нчэ тра'вэ.*

ПУПРЭʹЦА *ж.* Парпліца.

ПУʹПЧИК *м.* Бутон. *У кві'тцэ зра'зу вэ'лиза пу'пчик, а по'тим получ<sup>і</sup>е'йіца цвіт.*

ПЫРГАʹ *ж.* Пярга. *Пчо'лэ засыпа'ють шчиж<sup>і</sup>е'йку пырго'ю, а пото'м чырвячо'к выхо'дыть.*

РОЙІʹЛЬНЯ *ж.* Раёўня. *Вона' така'я бы гу'лий, оно' шо ма'нча. А гэ'нчі раз ро<sup>і</sup>е' кла'лэ ў коро'бку чы ў рышито'.*

РОМАНАʹЦ *м.* Рамон, Matricaria L.

РЭʹЖА ГАʹДЫНА *ж.* Мядзянка.

СВЫРШОʹК *м.* Цвыркун.

СІЎКЕʹЙ *прым.* Дробная пасяўная бульба. *Дрі'бнэ карто'плі сіўке'йі, бо йімэ' мнэ'го заса'дыш.*

СКАЛАʹ *ж.* Пчаліная разведка. *Скала' хо'дыть.*

СЛАʹЖИК *м.* Слупы, на якіх стаіць печ. *Штэ'рэ сто'ўбчике би коли'дке, на йіх кла'лэ да'рво і пото'м цо'глу. А за'рэ – оно' пудмурі'вке з цо'глэ.*

СОБАʹКА *м.* Драўлянае прыстасаванне з развілкай для здымання ботаў. *Ек чо'ботэ мо'крэ, то с соба'кію намнэ'го лё'кші роззу'тысь.*

СОʹЛОДОСЬЦЬ *ж.* Нектар. *Вона' соло'дка, бы мад. Йийі' пчо'лэ збира'ють.*

СОСО´НКА *ж.* Хвошч у выглядзе стаўбункоў з шышачкай, Equisetum arvense L.

СТРІК *м.* Здрок. *У його дві голові. На'дто ж кусу'шчи він.*

СТЫБЫЛЭ´НА *ж.* Сцябло. *ˈЕк стыбылэ'на ў карто'плёвэ ра'но посо'хнэ, то й цві'ту ны бу'да. У Ма'ні хороша' росту'ть карто'плі, іда' то'ўстэ стыба'льле.*

СУ´ЧКА *ж.* Ляжачы калаўрот.

СЯ´ТКА *ж.* Прыстасаванне на галаву для падглядвання пчол. *Пчолово'д клаў на го'лову ся'тку, а ў кого' йійі' ны було', то обкру'чувалэ сэ'то радю'шкію і кла'лэ на сыба'.*

ТЭ´ПЫЦ *м.* Сівец, Nardus stricta L. *Коро'ва нэц ны зьзі'ла, бо сі'но – одэ'н тэ'пыц.*

ТЮК *м.* Вадкі тлушч. *ˈЕк сма'жыш са'ло, то з його' вытi'кае тюк.*

ХВОШЧˈЕ´ЙКА *ж.* Хвошч, Equisetum arvense L., летам у выглядзе елачкі.

ША´РШЫНЬ *м.* Шэршань. *ˈЕк ша'ршынь уку'сыть, то ўжа так болэ'ть, шо ны вэ'трыватэ.*

ШПЭ´РКА *ж.* Тонкае сала. *Яко'е то са'ло: одна' шпэ'рка – так ка'жуть на са'ло с пудчыро'вынэ.*

ШЧАЎЮ´Х *м.* Шчаўе, Rumex acetosa L.

ШЧˈЕ´ЎЛЯНЭ МОЛОКО´ *н.*, або ОШЧАВІ´ЛЭ МОЛОКО´ *н.* Кіславатае, абрызглае малако.

ШЧИЖˈЕ´ЙКА *ж.* Асобная клетачка ў сотах.

ШЧЫБИРА´Ц *м.* Чабор, Thymus serpyllum L. *Од просту'дэ він ва'льмэ помага'е. Роста' він купинка'мэ, на грудку', сіре'нёвим цвыта'.*

ШЧЫНˈЕ´ТЭ *незак.* Аддзяляць дробную салому і каласы ад зерня пасля малацьбы. *У нас шчынˈе'лэ граблˈе'мэ.*

ЮЦ *м.* Страўнік жывёлы. *Ва'рани юц порі'жыш на кава'лке, запра'выш, то він, ˈек постойі'ть, напаха'йіца часныко'м – і сма'шно.*

ЯРІ´Й *м.* Аер, Acorus calamus L. *Його' на Три'йцу наке'дають усю'дэ: на за'мню ў ха'тэ, у сі'нюх, на дворі' – мана' така'я!*

*П. А. Міхайлаў*

# З ЛЕКСІКІ НАШАЙ ВЁСКІ

Гэты слоўнічак з'яўляецца працягам публікацыі матэрыялаў з лексікі гаворкі жыхароў в. Ушкавіца Кобрынскага раёна Брэсцкай вобласці, якія былі змешчаны ў зборніках «Народная лексіка» (1977) і «Жывое слова» (1978). Большасць запісаў зроблена на працягу апошніх дваццаці гадоў ад бацькі, Міхайлава Аляксандра Агафонавіча, маці, Марыі Восіпаўны, і бабулі, Сяргута Кацярыны Макараўны. На жаль, бацькі і бабулі ўжо няма. Таму гэтую нізку заходнепалескіх дыялектызмаў прысвячаю іх светлай памяці.

БАДЫ́ЛЛЕ *н. зборн.* Сцёблы агародных раслін, пераважна бульбы. *Бады́лле то хоро́шэ поросло́, нывядо́мо, якы́йі ж карто́плі бу́дуть.*

БА́ЛО *прысл.* 1. Бывала. *А ба́ло і до Бэ́рэсця, і до Варша́вы пішака́ ходы́лы, як трэ́ба було́, дэ ш тых ко́ный набырэ́сся.* 2. Некалі, раней. *Ба́ло, збырэ́мося в чыйо́й-нэ́будь ха́ты, гармоні́ста наймэ́мо і такы́йі та́нцы зро́быммо!*

БЗЫЯ́ТЫ *незак.* Гусці (пра насякомых). *Ны за шчо' ны могу́ спа́ты, як кома́р над ухом бзы́ть.*

БРЫДЭ́НЬКНУТЫСЯ *зак. экспр.* Упасці, паваліцца. *Біг, біг і як брыдэ́ньккнувся догоры́ ногáмы.*

БУ́НЬКА *ж.* Гладыш. *Ці́лу бу́ньку смыта́ны нысла́ продава́ты і розбы́ла.*

БУСЫНЯ́ТКО *н.* Бусляня. *Там на вырбі́ гныздо́, ка́жну вэ́сну прылыты́ть – і бусыня́тка е.*

БУХТО́РЫТЫ *незак. экспр.* Ліць, сыпаць што-небудзь звыш меры. *Куды́ ты так бухто́рыш, чы крайі́в ны ба́чыш?*

БЫ *злучн.* Быццам, нібыта. *Зробы́лося в очё́х бы гарачэ́.*

БЫРЫЗНЯ́К *м.* Падбярозавік. *О на гэ́туй поля́нцы штук зо два́цыть бырызнякі́в знайшла́ на туй ныді́лы.*

БЫЧ *м.* Пуга. *Кінь ныць ны хо́чэ в плу́говы ходы́ты, прынысы́ но мні бычя́.*

БЭ́РДО *н.* Бёрда. *Дэ бэ́рдо ны ходы́ло, там ві́тёр пі́йдэ* (прыказка).

ВАХОВА´ТЫ *незак.* Меркаваць, раздумваць, разбірацца ў чым-небудзь. *Брыгадíр вахýе, вахýе і ныць ны начыíслыть.*

ВОЛОЧЫ´ТЫ *незак.* Баранаваць. *Вжэ картóплі почялыí сходыты, порá волочыíты.*

ВЫ´ВАЛЯТЫ *зак.* Запэцкаць, забрудзіць. *Шо то за дытыíна, ны вспів выíйты на дьвір – вжэ выíваляв дэсь штаныí.*

ВЫ´ДЛУПАТЫ *зак.* Выпалоць, ачысціць што-небудзь дасканала. *Хорошэ́, чыíсто выíдлупала на дворí!*

ВЫ´ЖОЛОБЛЯНЫЙ *прым.* Выгнуты, няроўны. *Чыíсто выíжолобляный повáл став.*

ВЫ´КАПАНЫЙ *прым.* Вельмі падобны да каго-небудзь. *Ай, шчо вíтэ говóрытэ, то ж выíкапаный бáтынько: і хóдыть таксáмо, і смыéцця.*

ВЫ´СТЫДАТЫ *зак.* Пасароміць моцна, многа, не шкадуючы і не стрымліваючыся. *Шо я ёмý зроблю́: набыíты – ны здýжаю, то хоть выíстыдала дóбрэ, далá так далá!*

ВЫ´СЯКАТЫ *зак.* Высмаркаць (нос). *Ны шмóргай нóсом, а возьмыí хýсточку і выíсякай.*

ВЫ´ТЯТЫ *зак.* 1. Стукнуць моцна, балюча. *Вжэ тыíждэнь, як выíтяв рýку, а біль ны прохóдыть, мýсыть, трэ́ба до дóхтора сходыíты.* 2. Ударыць (пра маланку). *Як гром грымыíть, то выставля́лы коло порóга лопáту, шо хліб саджя́ты, шоб гром ны выíтяв у хáту* (традыцыйны звычай).

ГА´ЛАС *м.* Крык, гоман, гучная гаворка. *В ýхах мні так болыíть, шо гáласу чýты ны могý, утыкáю.*

ГІ´РА *ж. экспр.* Доўгія непадстрыжаныя валасы. *Хрыстыíнын хлóпэць такýю гíру отпустыíв, аж гыíдко дывыíтыся, і ны стыдáйіця так ходыíты.*

ГЛУ´ШЭНЬ *м.* Глухі чалавек, глушэц. *От глýшэнь так глýшэнь, кáжнэ слóво пырыпыíтуе.*

ГО´ЙНЫЙ *прым.* Фанабэрысты, ганарлівы; прайдзісвет. *В íí гóйный хлóпэць ростэ́ть, він ныгдэ́ ны пропадэ́.*

ГО´НДЭ *прысл.* Вось тут. *Гóндэ лыжыíть твоя́ хýстка, ны шукáй!*

ГУ´ДЫТЫ *незак.* Абгаворваць, ганьбіць, знеслаўляць. *Ны трэ́ба своé хвалыíты, а чужóе гýдыты.*

ГЭ´НДЭ *прысл.* Вунь там. *Гэ́ндэ коло хлывá стойíть жылíзнык, прынысыí мні, сынóк.*

ДЛУ´ПАТЫСЯ *незак.* Калупацца, займацца марудлівай і нуднай работай. *Ці́лый дэнь длу́палася на гря́тках с цыбу́лію.*

ДО *прыназ.* У. *Кажу́ до Олькы, шось мні так сла́бо. Чы йі́здыла ты в ныді́лю до Бэ́рысця?*

ДОКЛЯРОВА´ТЫ *незак.* Пераконваць, унушаць, даказваць, абяцаць. *І так воны́ мні докляровáлы еі́ прывысты́.*

ДОЛЫГОВА´ТЫ *незак.* Балець. *Так шось нога́ долыгу́е, му́сыть, погóда вжэ змі́ныця.*

ДОПАДА´ТЫ *незак.* Імкнуцца, старацца. *Дэсь пуд шчіт ужэ́ допада́е воробэ́й, шука́е ды́ркы пуд гнызды́.*

ДОРА´ДЫТЫ *зак.* Параіць, падказаць. *До́бры лю́дэ дора́дылы, як мні вы́лічытыся, а дохторі́ лэдь в могы́лу ны загна́лы.*

ДОЦЕ´КЛЫЙ *прым.* Дасціпны, цікаўны. *От доце́клый, всю́ды тобі́ трэ́ба своѓо но́са всу́нуты, ныгдэ́ быс тыбэ́ ны обы́йдыця.*

ДЫХТЫЛІ´ТЫ *незак.* Адчуваць недахоп паветра, рабіць частыя ўздыхі, задыха́цца. *Як почала́ дыхтылі́ты, як почала́, чы́сто задыха́юся.*

ДЭ´ЙКАТЫ *незак.* Гаварыць, перадаваць няпэўныя чуткі, пагалоскі. *Дэ́йкають, шчо у Ма́ні ху́тко высі́лле бу́дэть.*

ДЭ-НЭ´ГДЭ *прысл.* Дзе-нідзе. *В гэ́тум ро́ці зусі́м я́блыка ны вроды́лы, оно́ дэ-нэ́гдэ ві́сять по одному' і всё.*

ЖЫ´ТЫ *незак.* Бываць, наведваць. *Я вжэ пувро́ка ны жыла́ в Ко́брыні.*

ЗАБРО´ХАТЫСЯ *зак.* Абрасіцца. *Коро́ва в шко́ду забі́гла, пока́ вы́гнала, чы́сто сподны́цю забро́хала.*

ЗАВАРЯ´ТЫ *незак.* Перашкаджаць, блытацца пад нагамі. *Ны заваря́й пуд нога́мы, одыйды́ся.*

ЗАВІРЭ´НЦЫЯ *ж.* Занятак хоць які. *Поблю́тала тро́хы ныто́к зымо́ю для завірэ́нцыі.*

ЗАВЫ´ДЛЫВЫЙ *прым.* Зайздросны. *Моя́ сусі́тка така́я завы́длыва, шо о ё-ёй.*

ЗАВЫ´ДОВАТЫ *незак.* Зайздросціць. *Ны завы́дуй на чужо́е, трэ́ба свое́ стара́тыся нажыва́ты.*

ЗАКАЧЯ´ТЫ *зак.* Закасаць. *Закачя́й вы́жсый штаны́, бо намо́чыш, тут глубо́ко.*

ЗАРА´ННЯ *прысл.* Загадзя, раней, датэрмінова. *Зара́ння прыйшлы́ на высі́льле, шэ й ныко́го ны було́ на́выть.*

ЗАРОБЫ´ТЫСЯ *зак.* Запрацавацца, захапіцца працай. *Заробы́лась як свынння́ в Спа́совку* (прыказка).

ЗАСКОРУЗІ´ТЫ *зак.* Пакрыцца тонкай скарынкай лёду. *А та́я ба́нка шэ ны замэ́рзла, оно́ так заскорузі́ло.*

ЗАШЫПЫЛІ´ТЫ *зак.* Зашамацець. *Чу́ю, шо то пісь-пісь коло мынэ́, а то мыш у бума́зі зашыпылі́ла.*

ЗБУ´РЫТЫСЬ *зак.* Успеніцца, выліцца з пасудзіны (пра малако на агні). *Вжэ молоко́ да́лый ны мо́жэ збу́рытысь – ку́бочок но осталося в костру́льцы.*

ЗВІ´ННЫЙ *прым.* Рухавы, быстры, лоўкі. *Зві́нна в тыбэ́ ді́вчына ростэ́, Та́нё.*

ЗВЫЗТЫ´ *зак.* 1. *экспр.* Моцна ударыць. *Звызы́ до́брэ йійі́ по плэ́чох, то дыся́тому зака́жэ, як в чужы́й сад ла́зыты.* 2. ЯК ЯЗЫ´К ЗВЫЗЭ´. Як вытрымае язык (пра лаянку). *Ну й кляла́, ну й дава́ла, як язы́к звызэ́!*

ЗДУ´МАТЫ *зак.* Успомніць. *Ныяк ны зду́маю, як почына́іця гэ́та пі́сьня.*

ЗЯПНУ´ТЫ *зак.* Раскрыць рот, уздыхнуць. *Як дам под зду́хы, і ны зяпнэ'ш!*

КАВЫЧЯ´ТЫ *незак.* Мяўкаць доўга, безупынна, працягла (пра ката). *Ну й чого́ ты кавычы́ш, молока́ ж влыла́, іды й йіж.*

КАРТОПЛЫ´ННЕ *н.* Бульбоўнік. *Картоплы́нне чы́сто посо́хло, мо́жна копа́ты карто́плі.*

КВЫЧЯ´ТЫ *незак.* Пішчаць (пра свіней). *Свы́ны квычя́ть, трэ́ба в коры́то шчо вкы́нуты.*

КІ´ХА *ж.* Камера для веласіпеда. *От і дава́й ёму́ по́сля гэ́того ро́выра: пробы́в кі́ху, прыві́в, поста́выв ёго́ ны́шком і ныць ны сказа́в.*

КЛЫКА´ТЫ *незак.* Глытаць. *Го́рло так болы́ть, шо ны могу́ ныць клыка́ты, му́сыть, знов ангі́на.*

КЛЫН *м.* Прарэх, шырынка ў штанах. *Клы́на хоть зашпылы́, а то хо́дыш, як чу́чало, смышы́ш людэ́й.*

КЛЯ´ВАТЫ *незак.* Ледзь жыць, мець дрэннае здароўе. *Вжэ Пытро́ лэдь кля́вае, ныць ёго́ ныма́, му́сыть, ху́тко вмрэ.*

КОНЭ´ЧНЭ *прысл.* Абавязкова, менавіта, толькі. *Шо то за ді́вка така́я вроды́лася: дай юй конэ́чнэ тое са́мэ, шо й ста́ршуй, а не – такы́й гвалт спра́выть.*

КОЦ *м.* Даматканая посцілка. *Покы́нув лы́жко як бырло́гу, ходь бы ко́цом засла́в.*

КРУТОМІ́ЗНЫК *м.* Абманшчык. *Ай, шчо ты гэ́того крутомі́зныка слу́хаеш, він ба́тька рі́дного і того́ пудма́нэ.*

КУРЯ́ЧЧЫЙ *прым.* Курыны. *Чы е в тыбэ́, Ма́нё, куря́ччы е́йця; ку́рыця заквокта́ла і ныма́ в мынэ́ на чім посады́ты.*

КЫ́ЛЬКА *займ.* Некалькі. *А, шчэ кы́лька штук е, прыхо́дь, позы́чу.*

КЭ́РГАВЫЙ *прым.* Які з плямамі (пра вішні). *Кэ́ргавы вышні́ топі́ро, а колы́сь хоро́шы булы́.*

ЛА́ВА *ж.* Кювет. *П'я́ный ішо́в з робо́ты, повалы́вся в ла́ву і засну́в, всю ніч на сыру́й зымлі́ пролэ́жав.*

ЛЫХЫ́Й *прым.* 1. Злосны, сярдзіты. *Пчо́лы топі́ро лыхы́і, як з у́лыя вылыта́ють.* 2. Пакрыўджаны. *Пытро́ гэ́того на мынэ́ лыхы́й, шо я ёму́ коня ны дав сі́на прывысты́, а мні ж і само́му трэ́ба было́ соло́мы взя́ты, бо свы́ны вжэ потопы́лыся.*

ЛЮ́МА *м.* і *ж. экспр.* Плаксун, плаксуха. *Ну й лю́ма ты, і па́льцём на́вить ны зачыпы́!*

ЛЮ́МАТЫ *незак.* Плакаць. *Пырыста́нь лю́маты, ты ж вылы́кый вжэ.*

ЛЮ́МЗАТЫ *незак.* Плакаць. *Ны лю́мзай, ма́ты за́ра прыі́йдэть.*

МІ́НА *ж.* Выраз, рысы твару. *У ёго́ завшы мі́на така́я.*

МІ́РЫТЫСЯ *незак.* Збірацца, мецць намер, намервацца. *Мі́рылася в н礼ыді́лю до Ко́брыня сходы́ты, а тут дошч такы́й улі́в!*

МОДЫКОВА́ТЫ *незак.* Прыстасоўваць, прыладжваць, майстраваць. *Шо ты там модыку́еш, ны чыпы́, пудожды́ ба́тька, він ліпш за тыбэ́ поніма́е і зро́быть.*

МОНТО́РЫТЫСЯ *незак.* Вазіцца, калупацца. *Шо ты там монто́рыся, пошлі́ хучій.*

МЫ́ДЛЫТЫ *незак.* Абівацца, бадзяцца, аціраццa, круціцца. *Шось ді́ты коло горо́джы мы́длять, чы но ны хо́чуть в сад влі́сты, нагляда́й тут.*

МЫ́МРА *м.* і *ж. экспр.* Маўклівы, негаваркі, насуплены чалавек. *Ну й мы́мра твій Стыпа́н, за дэнь і сло́ва од ёго́ ны почу́еш.*

МЫНЮ´ШЫТЫ *незак.* Моцна, брыдка абгаворваць. *Клáвдя вжэ її мынюшыла, так мынюшыла!*

НАБРА´ТЫ *зак.* Падмануць, абдурыць. *От набрáв він мынэ́: сказáв, шо грыбы́ вжэ е в бырэ́зыны, я пошлá, пувдня́ просóвалася і ходь бы одногó на по'каз знайшлá.*

НАГЛЯДА´ТЫ *незак.* Назіраць, сачыць, ахоўваць. *Я пойду́ цыбу́лю полóты, а ты тут за хáтыю наглядáй, коп той бандíт чáсом ны вворвáвся.*

НАКОВІ´СЫТЫСЬ *зак.* Нахіліцца, нагнуцца нізка, блізка да каго-, чаго-небудзь. *Чогó ты наковíсывся надо мнóю, стань полюбцьку.*

НАЛЯГА´ТЫ *незак.* Уздзейнічаць актыўна, настойліва; прымушаць да чаго-небудзь. *Сын шо дня налягáе на мынэ́ – робы́ хучій высíльле і всё!*

НАСТРОПАЛЫ´ТЫ *зак., экспр.* Падбухторыць, настроіць супраць каго-небудзь. *То, пэ́вно, жíнка ёгó так настропалы́ла, шо нáвыть на рíдну мáтыра почя́в кы́датыся.*

НАТРЫПА´ТЫ *зак., экспр.* Набіць. *А я свою́ натрыпáла і ныку́ды ны пусты́ла, хай дóма посыды́ть.*

НАТУ´РЛЫВЫЙ *прым.* Наравісты (пра каня). *Ой, то кінь нату́рлывый, ты ім сíно мóжэш і ны прывысты́.*

НАХВО´ІТЫ *зак.* Моцна намачыць. *Шчось хмурыця, ны трэ́ба открывáты картóплі, а то шчэ дошч пíйдэ і нахво'іть.*

НАХОПЫ´ТЫСЬ *зак.* Нечакана, непрыкметна прыйсці, пачацца і г.д. *Осэнь нахопы́лась як ты ны бач і оглянутыся ны вспíла.*

НА´ШЧО *прысл.* Навошта. *А нáшчо мні такы́й клóпот – чужы́х дытэ́й глядíты – мні й своí гóлову одуры́лы.*

НЫ´ҐДЫ *прысл.* Ніколі. *Більш ны́ґды моéі й ногы́ на твоёму дворí ны бу́дэ, раз у тыбэ́ хваты́ло сóвысты такóе на дытэ́й сказáты!*

НЫЦЬ *прысл.* Нічога. *Ныць мні ны трэ́ба от тыбэ́, онó ны чыпы́ мынэ́.*

О´ВОД *м.* Авадзень. *Як напáлы оводы́, то лэдь корóву подоíла, походы́ла за éю по всім пóплаві.*

ОГРЫВА´ТЫСЯ: НЫ ОГРЫВА´ТЫСЯ ДО´МА. Амаль не бываць дома, недзе прападаць. *Мій хлóпэць все лíто дóма й ны огрывáйіця: забыжы́ть, зысьць дэ́шчо і знов побíг.*

ОД *прыназ.* За. *Як вона і тры дні ны йі́стымэ, то бу́дэ то́вшча од вас.*

ОДНА΄КОВЫЙ *прым.* Як некрануты, цэлы, новы, быццам не быў у карыстанні. *Він окура́тно одэ́жу но́сыть, всю вэ́сну одіва́в костю́ма, а як одна́ковый.*

ОКРАДА΄ТЫ *незак.* Абкрадаць, красці. *І тут окрада́е, і в колхо́зі окрада́е, такы́і жу́лікы е.*

ОЛА΄ДОК *м.* Аладка. *Той ола́док на пудло́гу впав, оддáй ёго́ свы́нюм.*

ОПАДА΄ТЫ *незак.* Нападаць са злосцю, апантана, ашалела. *Як мэд быру́ть, то пчо́лы так опада́ють! Я й на зэ́млю лягáю, і всёромно́ дэсь залі́зэ і вку́сыть.*

ОПО΄НА *ж.* Веласіпедная шына. *Ны забу́дь купы́ты но́ву опо́ну.*

ОПЫРЫЗА΄ТЫ *зак.* Моцна стукнуць (пугай). *Як опырыза́ла бычём, дыся́тому закáжэ в я́блыка ла́зыты.*

ОСЫ΄ПАТЫ *зак.* Пакрыць, напоўніць, абнесці. *Як вороны по́плава осы́палы – сніг бу́дэ* (прыкмета).

ОСЫПА΄ТЫ *незак.* 1. Акучваць матыкай. *Ны було́ дэ коня́ взя́ты, му́сыла всі со́ткы осыпачкыю осыпа́ты.* 2. Пасыпаць мукой (корм жывёле). *Трэ́ба йі́хаты знов змоло́ты па́ру мышэ́чкув, бо вжэ ныма́ чым осыпа́ты ны свы́нюм, ны коро́вы.*

ОСЫПА΄ЧКА *ж.* Матыка. *Нагостры́ мні осыпа'чку, пойду́ буракы́ поло́ты.*

О΄СЫПКА *ж.* Груба змеленае зерне на корм жывёле. *Ны ша́хтай так о́сыпку, до но́вого шчэ далэ́ко.*

ОСЫ΄ТОВАТЫЙ *прым.* Сітаваты (пра драўніну). *Прыві́з осы́товату до́ску мні.*

ОТО΄ *прысл.* Нядаўна. *Ото́ судосы́ла ії́ в Ко́брыні: такáя бабзно́ зробы́лася, скуль, здае́цця, в юй набра́лося всё.*

ОТПАНА΄ХТАТЫ *зак., экспр.* Адрэзаць вялікі кавалак чаго-небудзь. *Я ш тобі́ каза́ла нывылы́чкый кусо́чок са́ла одрі́заты, а ты отпана́хтала ка́вал, шо й за ты́ждэнь ны зъімо́.*

ОТПЭ΄РЫТЫ *зак.* Моцна адлупцаваць. *Той чолові́к чуть ны отпэ́рыв мынэ́, з бычём біг за мно́ю.*

ПА΄ЛЁР: ДА'ТЫ ПА΄ЛЁРУ. Моцна насварыцца, прабраць, расправіцца з кім-небудзь. *Хоть бы пры́іхав колы́ і дав ім па'лёру!*

ПА´СТЫ *зак.* Даць ускладненне, паўплываць адмоўна. *І топі́ро па́ло мні на мо'згы.*

ПЛЯ´ЖЫТЫ *незак.* Ісці безупынна, доўга, у вялікай колькасці (пра дождж і мокры снег). *Ну й пля́жыть на дворі́, як скоты́ну покормы́ты?*

ПО *прыназ.* Пасля. *По обі́ды пі́йдэш сі́но грыпсты у валкы́, бо на́нуч на дошч пырыдава́лы.*

ПОВА´Л *м.* Столя ў хаце. *Пі́чку брыке́том топлю́, то за зы́му пова́л так закопты́цця, шчо лэдь отшару́ю пут Па́ску.*

ПОВХ *м.* Крот. *Повх за' нуч всю гря́тку цыбу́лі сточы́в, трэ́ба пырыса́джуваты.*

ПОВХОТО´ЧЫНА *ж.* Кучка зямлі, наточаная кратамі. *Ныя́к ны мо́жна косы́ты, бо одны́ повхото́чыны по траві́, оно́ ко́су ту́пыш.*

ПОВЫ´ДЁН *прысл.* Павінен. *Повы́дён був шчэ зра'ння прыйты́, а шчось ныма́.*

ПОДУПЛІ´ТЫ *зак.* Аслупянець ад страху, моцна спужацца. *Як гры́мнуло, так усі́ в ха́ті подуплі́лы, поляка́лысь.*

ПОКУ´ШАТЫ *зак.* Пакаштаваць. *Поку́шай суп, чы ны пырысолы́ла я?*

ПОКЫДА´НКА *ж.* Разведзеная, пакінутая мужам жонка; развядзёнка. *Покыда'нцы тя́шко за́муж знов вы́йты.*

ПОЛОКА´ТЫ *незак.* Паласкаць (пра бялізну). *Занысы́ мні балі́ю до коло́дяза, пойду одэ́жу полока́ты.*

ПОЛО´ТТЕ *н.* Поліва, праполванне. *Так за вэ́сну дало́ся гэ́тэ поло'тте: ру́кы поопуха́лы, шо й коро́ву ны могу́ подойі́ты.*

ПОШЧО´ *прысл.* Навошта. *І пошчо́ воно́ тобі́ здало́ся?*

ПРАВДЫ´ВЭЦЬ *м.* Баравік. *Бало, як пойду́ в бырэ́зыну, то ты́лько одны́ правды́вці быру́, а за́ра ходь бы на по'каз яко́го знайты́.*

ПРОГА´ЯТЫ *зак.* Прагаварыць, загаварыцца. *Годы́ну сыді́ла тут і прога́яла, а мні ж ча́су ныма́!*

ПРОКЫ´НУТЫСЯ *зак.* З'явіцца нечакана і ў невялікай колькасці. *Як дождж і́ пройшлы́, то булы́ тро́хы грыбы́ прокы́нулыся, а за́ра су́хо – то й знов ныма́.*

ПРОМАНЕ´ЖЫТЫ *зак.* Страціць. *Пый, пый, то права́ ху́тко проманё́жыш!*

ПРЫМАТКОБО́ЖЫТЫСЯ *зак.* Уладкавацца, прыладзіцца, прымасціцца. *Мі́сця за столо́м ны було́, то я сяк-так скрае́чку прыматкобо́жылася і так всёй вэ́чор і просэ́дыла.*

ПРЫСТУПЫ́ТЫСЯ *зак.* Падступіцца, падысці, прыступіцца. *Як наллю́ воды́ в коры́то, то з-за пчол ны прыступы́тыся.*

ПУ́ЧЫТЫСЯ *незак.* Распускацца, набрыняць (пра пупышкі). *Пу́чыцця вжэ сморо́діна, шэ хучі'й за вырбу́ вона́ роспуска́іцця.*

ПЫРЫКОВВА́СЮВАТЫ *незак.* Моцна нахіляць штонебудзь. *Ны трэ́ба так, ны пырыковбасюй.*

ПЭ́ВНЫЙ *прым.* Упэўнены, перакананы. *Він пэ́вный був, шо ёго́ ныхто́ ны ба́чыв.*

ПЭ́НЬКАТЫ *незак.* Лопацца. *Мы́ла слоі́кы гаря́чыю водо́ю, то оды́н пэ́нькнув, му́сыла вы́кынуты.*

РОСКЫ́НУТЫ: РОСКЫ́НУТЫ КА́РТЫ. Пагадаць, паваражыць на картах. *Цыга́нка так роскы́нула ка́рты і ка'жэ: «Ны быду́й, бу́дэ в тыбэ́ шэ лі́пша овэ́чычка!»*

РОСПАНА́ХТАТЫ *зак. экспр.* Разрэзаць моцна, глыбока, навылёт. *Чы́стыла буракы́ і так мі́цно роспана́хтала ру́ку ножё м, за́ра ныць ны могу́ робы́ты.*

САДОВЫ́ТЫСЯ *незак.* Садзіцца. *Ныма́ колы́ садовы́тыся, ході́мо вправля́тыся, пото'м бу́дэш опочыва́ты.*

СВЫ́НЫ *мн.* Чорныя груздзы. *Я свынэ́й назбыра́ю, полуплю́, одвару́, увыллю́ смыта́ны, накрышу́ цыбу́лькы – і так вы́їмся!*

СКІ́МЫНЫТЫСЯ *незак.* Скнарнічаць. *Чого́ ты скі́мыныся, сып, ны шкоду́й, в тыбэ́ ж мны́го шэ.*

СКОТУ́РХАТЫ *зак.* Пабудзіць, раскатурхаць. *Лэдь скоту́рхала мужыка́, так мі́цно спав.*

СЛЕДЗЬ *м.* Селядзец. *От сма́чного слéдзя купы́ла, і ны солё ный, і тлу́стый – смакота́.*

СПАЛАХТІ́ТЫ *зак.* Згарэць хутка, вялікім полымем. *Сухы́і дро́ва у плыті́ як ты ны бач спалахті́лы, шо свыння́чы карто́плі на́выть ны закыпі́лы.*

СПОМЫТА́ТЫ *зак.* Успомніць. *Гэ́то так давно́ було́, шо ныя́к ны могу́ спомыта́ты, як ёго́ зва́лы.*

СТЫ´ШЧЫТЫ *зак.* Адважыцца, рашыцца. *Ой, пі́йдэм в ха́ту, ся́дэм за сті́л і всё, такы́ ж ны стыі́шчыть пры лю́дёх прогна́ты.*

СТЭ´ЛЮВАТЫСЯ *незак.* Выводзіць паслед (пра карову). *Коро́ва отыльы́лася і ныя'к ны стэ́люіця.*

СЫ´ЛНО *прысл.* Многа, ураджайна (пра садавіну, агародніну). *У гэтум ро́ці сы́лно я́блык на я́блынах.*

ТРЫПЫТА´ТЫ *незак.* Лапатаць крыламі (пра птушак). *На одному́ мі́сцы кры́ламы трыпэ́чэ то вго́ру, то вныз* (пра жаваранка).

ТХНУ´ТЫ *незак.* Дыхнуць, перавесці дух. *Чы́сто заму́чыла мынэ́ со свэ́ю робо́тыю, ны дае́ мні й тхну́ты.*

ТЮ´БЛЫТЫ *незак. экспр.* Несці, везці многа і цяжка. *Буракы́ вжэ на са́харный тю́блять.*

УЛЮЛЮ´ШЫТЫ *зак.* 1. Укласці ў безнадзейную справу, набыць дарагую і непатрэбную рэч, страціць (пра грошы). *Такы́йі грошы улюлю́шыв за гэ́тэ пальто́, а воно́ тобі́ – як свынні́ набэ́дрыкы.* 2. Выпасці ў вялікай колькасці (пра дождж). *Дошч як улюлю́шыв – чырыз пувчаса́ й сі́но на по́плаві поплыло́.*

УМАНУ´ТЫ *зак.* Украсці. *Він ду́мав: «Уворву́ся в ха́ту і гро́шы ума́ну́».*

УТАЛОВА´ТЫСЯ *зак.* Моцна замарыцца, стаміцца. *За дэнь коло гно́ю так утолу́ися, шо, як додо́му прыдэш, і істы ны хо́чыця, ходь бы до лы́шка дойты́.*

ХА´ЯТЫ *незак.* Абгаворваць, нагаворваць, знеслаўляць. *Хва́тыть вжэ ха́яты ёго́, ма́ло він гі́ршый за оста́тніх.*

ХОРО´МЫНА *ж.* Любы будынак, просценькі, невялікі, незайздросны. *Як дырыв'я́нна хоро́мына, то в юй тыплі́й, а такы́йі пустакы', то й лі́том прохла́дно.*

ХРЫПОТІ´ТЫ *незак.* Гаварыць хрыпла, з крыкам; хрыпець. *Шо то ты, сыно́чок, хрыпоты́ш, чы но ны добі́г дэ до холо́дныйі воды', за́ра знов зля́жэш.*

ХТО´СЯ *займ.* Хтосьці, нехта. *Ны чу́ла, Ма́нё, хто́ся ні́ччу залі́з у свына́рнык і порося́ укра́в.*

ЧВЭ´НДЫТЫ *незак.* 1. Курэць, куродыміць (пра дровы). *Мо́кры дро́ва ныць ны горя́ть, оно́ чвэ́ндять, ныя́к йі́сты ны звару́.* 2. *экспр.* Моцна курыць, пускаючы многа дыму; закур-

ваць, закуродымліваць памяшканне. *Шо ты тут чвэ́ндыш ко'ло дыты́ны, йды на дьвір!*

ШКРЫПТА́ТЫ *незак.* Скрэбсці. *Трэ́ба ліпш шкрыпта́ты свынню́, коб жо́втынька була́, а ны чо́рна.*

ШЫХОВА́ТЫ *незак.* Шанцаваць, шчасціць. *Бога́тому за́вшы шыху́е: ма́е одну́ лёхкову́шку, на тобі́ – вы́грав у лоты-рэ́ю дру́гу!*

ШЭ́РХНУТЫ *незак.* Падмярзаць, замярзаць трошкі, злёгку. *Бач, як вода́ в выдрі́ шэ́рхнэ, му́сыть, ні́ччу вылы́кый моро́з бу́дэ.*

Ю́ХТА: МО́КРЫЙ ЯК Ю́ХТА. Вельмі, моцна мокры. *Мо́крый як ю́хта прыйшо́в з двора́!*

Я́ДУШЛЫВЫЙ *прым.* Які з задышкай. *Пытро́ такы́й я́душлывый став, ныць ёго́ ныма́, прі́йдэ мэ́трув дэ́сэть і стано'выця опочы́ты, я́духа зусі'м забывае.*

ЯКЫ́ЙСЯ *займ.* Якісьці, нейкі. *Якы́йся пі́вэнь прыбы́вся до мого́ двора́, мо́жэ твій, Санё?*

Я́ЛОВЫЙ *прым.* Ялавічны, які з ялавічыны. *Стушы́ла в горшко́вы я́ловэ мня́со с карто́плямы – от сым'я́ вы́йілася!*

*К. М. Панюціч*

## З ДЫЯЛЕКТНАГА СЛОЎНІКА УШАЧЧЫНЫ

У падборку ўключана частка лексікі, запісанай аўтарам на працягу 1964–1994 гг. у вёсках Ушацкага раёна Віцебскай вобласці, на радзіме народных пісьменнікаў Беларусі П. Броўкі, В. Быкава, Р. Барадуліна. Прыклады падаюцца спрошчанай транскрыпцыяй.

Прынятыя скарачэнні назваў вёсак: Арэх. – Арэхаўна, Астр. – Астраўляны, В. Д. – Вялікія Дольцы, Кубл. – Кублішчана, Маж. – Мажэйшчына, Міх. – Міхалкаўшчына, Навас. – Наваселле, Слаб. – Слабада, Стар. – Старына, Судз. – Судзілавічы, Чэр. – Чэрсвя, Шчарб. – Шчарбёнкі.

ВАДЗЯ́ВЫ *прым.* Вадзяністы. *Вадзя́вая яшчэ́ бу́льба, ні на́да біс пары́ капа́ць.* Судз.

ВАЙЛА́ЧЫЦЦА *незак.* Зблытвацца. *Каб лён ні вайла́чыўся, як ляжы́ць, сплі́та́лі зь яго́ ко́сы.* В. Д.

ВАЙСТРА́К *м.* Востры прадмет; вастрыё. *Пяту́ на не́йкі вайстра́к уссадзі́ла, балі́ць цяпе́р.* Слаб. *Ні кладзі́ но́жніцы вайстрако́м да дзяцёнка! Яшчэ́ ўко́ліцца!* Арэх.

ВАЎНЕ́НКА *ж.* Ваўнянка. *По́ўная вядро́ грыбо́ў: ваўне́нкі, ру́дачкі, сырае́шкі.* Арэх.

ВАЧАПО́Р *м.* Непаслухмянае, упартае дзіця, свавольнік. *Біз ба́цькі гаду́йіцца, такі́ вачапо́р стаў, ня слу́хайіць ма́ткі, усё наўро́шні ро́біць.* Арэх. *Усю́дых данікайіць, ба́бі наруга́йіцца, вачапо́р расьце́ць.* Стар.

ВЕ́СЦІ *незак.* 1. Весці. *Куды́ ты свайго́ ма́льца вядзе́ш?* Судз. 2. Нагаворваць, здумляць. *Ня слу́хай ты, што на твайго сы́на вяду́ць: рот жа ўсім ні зама́жыш.* В. Д. *Ні вядзі́ ты дурно́га, ні ўміра́й заўчэ́сьні, ра́на табе́ паміра́ць.* Судз. *Што́ ты вядзе́ш, з ду́ба ве́цця зьбіра́йіш? Нялю́ба слу́хаць.* Міх.

ВЕ́ТРЫЦЦА *незак.* Праветрывацца, ахалоджвацца. *Ду́шна тут, пашлі́ ве́трыцца.* Судз. *На вічары́нцы ён с тварэ́й дачко́й ве́трыцца хадзі́ў.* Кубл.

ВІД *м.* Твар. *Памы́й від, нямы́цькам хо́дзіш.* Міх.

ВІШШО́ *н.* Вецце, галінкі. *У нядзе́лю нарэ́залі з ма́цяй вішша́ на ве́нікі.* Чэр.

ВО́ДЗЕКА *прысл. часц.* Вось дзе, тут. *Во́дзіка твая́ дзя́га, ні крычы́ рату́нку!* Судз. *А во́дзіка ва́лінак, за печ завалі́ўся!* Астр.

ВО́НКАХ *прысл.* На вуліцы, на дварэ, звонку. *Пабу́дзь, уну́чак, во́нках, паку́ль у ха́ці памы́ю.* Арэх. *Вядро́ во́нках стайі́ць, а ня ў се́нцах.* Судз.

ВУ́НДЗЕКА *прысл. часц.* Вунь дзе, вунь. *Ву́ндзіка ма́тка ва́ша йдзе́ць, бяжы́ці піраймі́ці.* Арэх. *Ня ець сяго́ння, ву́ндзіка на дварэ́ чэ́рці жэ́нюцца, ня по́йдзіць аўто́бус.* Шчарб.

ВУ́ПАР *м.* і *ж.* Упарты, неслух. *Ву́пар такі́! Хоць ты стрэ́лам страля́й, а як зала́дзіць сваё – ні піра́йна́чыш.* Слаб. *Дзе́ўка ву́пар, алі й Міко́ла хара́кцірны, пірало́міць яе́.* Судз.

ВУ́ПАРНЫ *прым.* Непаслухмяны, упарты. *Німа́ ху́жы, як ля хво́рага хадзі́ць. Ба́пка ву́парная ста́ла: усе́рдзілася, што пры до́ктарцы пасьці́лку яе́ міня́лі, дык цяпе́р ня е́сь нічо́га.* Судз.

ВЫ́ВАДЗІНЫ *мн.* Шкарлупка ад яйка, з якога вывелася кураня. *Усе́ ціпля́ты вы́віліся, адны́ вы́вадзіны ў гнязьдзе́.* Арэх.

ВЫ́ГАРКА *ж.* Яма на месцы выгаралых тарфянікаў, залітая вадою. *Тарфя́нікі павыгара́лі, а я́мы вадо́й заліло́ – во́ й вы́гаркі.* В. Д. *Пяньку́ ў вы́гарцы мачы́лі.* Міх. *Занясу́ць ма́льчыка ў вы́гарку і гальнём шару́юць.* Судз.

ВЫДЫЛІНГАВА́ЦЬ *незак.* Выстрачаць, далікаціцца. *Даў- не́й клёцак зва́рыш, капу́сты, салані́ны ўкі́ніш. Ні так выдылін- гава́лі, як цяпе́р.* В. Д.

ВЫЗО́РНЫ *прым.* 1. Прыгожы, паглядны. *Дзе́ўка была́ вызо́рная – стро́йная, ла́дная, усе́ ма́льцы за е́й.* Слаб. 2. Ганаровы, аўтарытэтны. *Ня ду́жа й вызо́рная е́йная рабо́та – по́шту но́сіць, ні пасупі́ла ўчы́цца.* Чэр.

ВЫНО́СЛІВЫ *прым.* Ганарысты, фанабэрысты. *Друга́я во́чы тро́ху працёрла, дык на сваі́х ма́льцаў і глядзе́ць ня хо́чыць, выно́сьлівая ста́ла: ні пайду́, ка́жыць, за няўчо́нага.* Судз. *Адна́ няве́стка прыхі́льная, а друга́я выно́сьлівая: смык – і пайшла́, сло́ва ні ска́жыць.* Арэх. *Шо́стам галавы́ ні даста́ць – така́я выно́сьлівая.* Міх.

ВЫ́СТАРАК *м.* і *ж.* 1. Стары чалавек. *Дзед наш вы́ста- рак, на́да гу́лка яму́ гука́ць.* Стар. 2. *перан.* Старая дзеўка, векавуха. *Мае́ до́чкі за́мужам, а твая́ вы́старак сядзі́ць.* Слаб.

ВЯЗЁНКА *ж.* 1. Вязаная кофта. *З лайна́ ў Мінску, му́сіць, усё ёсь? Купі́ мне цёплую вязёнку.* В. Д. *Надзе́нь вязёнку, цяпле́й бу́дзіць, як у вадны́м пла́цці.* Арэх. 2. Вязаная рукавіца, часцей ВЯЗЁНКІ *мн.* *Адна́ вязёнка згубі́лася, рука́ мёрзьніць.* Арэх. *Дзе́ ты такі́я ло́ўкія вязёнкі купі́ла?* Судз.

ВЯ́ТАРГА *ж.* Гурт, ватага. *Чаго́ вы за канём вя́таргай хо́дзіці? Прывязём мы, тады́ вы во́зьміці.* Судз.

ВЯ́ТКА *ж.* Тое, што і *вя́тарга. Вя́ткамі ў грыбы́ хадзі́лі, сто́лькі сёлета нарасло́.* Чэр. *Чаго́ вы вя́ткай снуйіцё, ці вам рабо́ты до́ма німа́?* Арэх. *За е́й ма́льцы вя́ткай.* Маж.

ГАВЭ́НІЦЬ *незак.* Цягнуць да сябе, хапаць. *Лю́біць усё гавэ́ніць, хо́чыць сабе́ бо́лі прыхапі́ць.* Чэр.

ГАДЗІ́ЦЬ *незак.* Наймаць на працу, дамаўляцца. *Быва́ла, зьбіра́юцца жані́цца, дык ідуць папа́ гадзі́ць, каб абвінча́ў.* Маж.

ГАЛАВІ́К *м.* Разумны, кемлівы чалавек. *Уся́ йіх радня́ – галавікі́, разу́мныя бы́лі й бага́тыя.* Арэх. *Ваш ма́ліц галаві́к быў, до́бра ўчы́ўся.* Астр.

ГАЛАДВА´ *ж. зборн.* Плойма. *Памнóгу дзяцéй даўнéй былó, цэ́лая галадвá ў хáці.* Судз. *У мáчыхі чацвёра й нáшых двóя – галадвá, пракармí ўсíх!* В. Д. *Штó мне былó рóбіць с такóй галадвóй пóсьлі вайны́?* Чэр.

ГА´ЛКІ *прым.* Сквапны, зайздросны. *Усё б, здаéцца, пахапáў сабé, такí гáлкі, папóўская вóка!* Чэр. *Быíў бы шчасьлівéйшы, каб ні такí гáлкі: нінарáўную ўзяў, на багáцця пагáліўся.* Судз. *Я ні гáлкая, бяры́ гэ́ту хусьцíнку сабé.* Арэх.

ГАЛЫ´Ш *м.* 1. Голы, не апрануты. *Чагó ты, ўнýчык, галышóм тут бегáíш?* Астр. 2. *перан.* Бедны чалавек. *Багатыры́ нéкалісь з нáмі, галышáмі, й гаварыíць ні хацéлі.* Маж. *У цябé, як у галышá, тóлькі цéла й дýша* (прыказка). В. Д. 3. *м.* Прадаўгаватая клёцка з салам ці канапляным семем. *Мя́са німá, наварыíла адны́х галышóў, нічóга, ядýць дзéці клёцкі й с сáлам.* Арэх. *На Саракí варыíлі сóрак галышóў, дýшы рóбілі с калапнёў.* В. Д. *Як вáрыш клёцкі, дык і галышóў сь пятóк укíніш.* Кубл.

ГАЛЬКЕ´ЦЬ *незак.* Гараваць, жыць у беднасці, нястачы. *Пóсьлі вайны́ дýжа галькéлі, ужó дýмала: с капыíлля далóў.* В. Д. *Той год лён урадзíў, палучыíлі грóшы. Хáту піракрыíлі, ужó ні так галькéлі.* Стар. – *Як ты жывéш? – Ай, галькéю патрóху.* Міх.

ГАРДЛІ´ВЫ *прым.* Ганарлівы. *Ні гардлíвая дзéўка, сéла, пагукáла з нáмі.* Судз.

ҐЕ´ЛІЦЬ *незак.* Настойліва прасіць, дабівацца свайго. *Ґéліць і ґéліць, каб матка тýхлі нóвыя купíла.* Судз. *Цяпéр бýдзіць ґéліць і ґéліць, кап у Лéпля піраéхаць, мужукý там кварцíру даю́ць.* В. Д. *Ён цяпéр ґéліць жанíцца, а йінá кáжыць – вяснóй.* Міх.

ГНЯВЫ´Ш *м.* Гняўлівы, капрызны, крыўдлівы чалавек (звычайна пра дзяцей). *Як што ні па йíм – пувáліцца пасярóт хáты, нагáмі б'éць, во гнявыíш!* В. Д. *Раздурыíлі дзяцёнка, дык і гнявыíш.* Стар.

ГНЯНУ´ЦЬ *зак.* Ударыць, выцяць. *Як гнянéць па карóві пáлкай! Дзе ш той рóзум у чалавéка?* Арэх.

ГО´НКА *прысл.* Хутка. *Круцí гóнка жóрны, дык скарэ́й зьмéліш.* Слаб.

ГРУЗА´ЛАК *м.* Камяк у тоўчанай бульбе, нерасцёрты кавалак. *Як ты бýльбу стаўклá – грузáлкаў пóўна!* Міх. *Мая́ сьвíнка éшчая, і грузáлкі паéсь.* Судз.

ГРУ́НІЦЬ *незак.* Ушчуваць, прабіраць. *Што́ ты яе гру́ніш? Калі́ ей вышыва́ць? З ра́ніцы да ве́чара на рабо́ці.* Судз. *На́да ба́бу гру́ніць, каб язы́к ні распуска́ла.* Стар.

ГРЭ́БЛА *н.* Грэбля, гаць. *Па грэ́блу цяпе́р ні прае́дзіш, вады́ мно́га.* Чэр. *Гэта грэ́бла здаўны́х тут.* Арэх.

Ґ̈РЭ́НГАЦЬ *незак.* Гаварыць, спяваць невыразна. *Ґрэ́нгаюць хто што, а ён я́к запяе́ць – усе́ сьці́хнуць, слу́хаюць.* Маж.

ГУ́ДЗІЦЬ *незак.* Абгаворваць, ганіць. *Так ужо́ гу́дзілі маладзі́цу, языка́мі абмыва́лі: й ні ла́дная, й ро́біць ня ўме́йіць.* В. Д.

ГУКА́ЦЬ *незак.* Гаварыць. *І хо́дзіць, і гука́йіць, як ма́ця, і пе́сьні так пяе́ць.* Судз. *Мы са́мі сабо́й гука́лі, а нашто́ сьвёкар уміша́ўся?* Арэх. *Хай бох сьціражэ́ць, што ён гука́йіць!* В. Д.

ГУСТЫ́Ш *м.* Гушча. *Ня лі́ мне густышу́, ле́пі рэ́дзінькага.* Арэх.

ГУ́ТАЛКА *ж.* Гушкалка. *Глядзі́, каб з гу́талкі ні зьляцеў!* Астр.

ГУ́ТАЦЦА *незак.* Гушкацца. *Асьцяро́жна там гу́тайціся!* Навас. *Ня гу́тайся на гэ́най вяро́ўцы: яшчэ́ зва́лісься!* Арэх.

ГУ́ТАЦЬ *незак.* Гушкаць. *Гу́таў малу́ю, ду́жа лю́біць.* Арэх.

ДАБІЎНЫ́ *прым.* Бойкі, кемлівы, баявы. *Во́льга дабіўна́я: пае́хала ў раён і што ты ду́майіш — дабі́лася пе́нсій.* Арэх. *Жо́нка ў яго́ дабіўна́я, сама́ ле́су на ха́ту вы́пісала, а ён не́йкі зава́ла.* Судз.

ДАЕ́СЦІ *зак..* 1. Закончыць есці. *Дае́ш гэ́ту крупе́ню.* Астр. 2. Дапячы, даняць, вельмі надакучыць. *Так дае́ў мне гэ́ты ма́ліц, цэ́лы дзе́нь адно́ зьвя́гайіць.* Арэх. *Шо́стую ня́дзе́льку шчы́ранька ляжу́, хварэ́ю, ужо́ дае́ла ўсім.* Судз.

ДАЛУКА́Х *прысл.* Унізе, доле, на падлозе. *Хварэ́йіць на́ша ба́пка, го́рача ей, про́сіць: пакладзі́ці мяне́ спаць далука́х.* Судз. *На пе́чы твае́ ва́лінцы, а ты далука́х глядзі́ш.* Арэх. *У вас дзяцёнак далука́х бо́сы хо́дзіць, яшчэ́ прасту́дзіцца!* В. Д.

ДАНІ́КАЦЬ *зак.* Дайсці, дапасці. *Ужо́ й сюды́ даніка́ў, бісь цябе́ ні абышло́ся.* Арэх.

ДАПЕ́ТРЫЦЬ *зак.* Здагадацца, зразумець, скеміць. *За даро́гу ўсяго́ дапе́трыла, як і бяле́т купля́ць, і як піра́ся́ткі ро́біць.*

Судз. *Дапе́трыла я, што та́я ба́ба абдурыі́ць мяне́ хо́чыць, ды хадала́*! Стар.

ДАСУЖЭ́НЬ *м.* і *ж.* Занадта цікаўны, дасужы. *Ну што́, дасужэ́нь, ужо́ зьбе́гала, чужыі́х гасьцей палядзе́ла?* Міх. *Такі́ дасужэ́нь усю́дых до́йдзіць, ўсячыну зно́йдзіць.* Судз. *Надо́вінь та́нка тут йішла, і ваш дасужэ́нь стаяў, глядзе́ў на то́я дзі́ва.* Арэх.

ДАЎГАЦЫ́БЫ *прым.* Даўганогі, цыбаты. *Не́йкі даўгацыі́бы тут хадзі́ў, вас пата́ўся.* Навас.

ДАЯ́ДЛЫ *прым.* Дакучлівы, назола. *Аво́й, дая́длы! Трэ́ці рас пра адно́ пата́йіцца, ні аччапі́цца.* Арэх. *Цэ́лы дзень адну́ тыні́ню́ цягніць: купі́ яму́ ца́цку! Дая́длы стаў.* Астр. *Ты мне кі́шкі піраеў сваей зьвя́гай, ня буць такі́ дая́длы.* Слаб.

ДВАЙНЮКІ́ *мн.* Двайняты. *Той ме́ншы, ды спарне́йшы. Пашлі́ на камі́сію, дык йіх двайнюка́мі паста́вілі.* Слаб. *Гэ́ны мальчанёнак з двайнюко́ў.* Астр.

ДВАЙНЮ́ЧКІ *мн.* Дзяўчынкі-двайняты. *У бра́та двайню́чкі радзі́ліся.* Арэх. *А гэ́та йіх дзе́вачка ці з двайню́чак?* Судз.

ДЗЯВО́ШЧЫНА *ж.* Дзявоцтва, дзявочыя гады. *Што́ ўжо ту́ю дзяво́шчыну ўспаміна́ць, даўно́ міну́ла то́я.* Судз. *Адгуля́ла сваю́ дзяво́шчыну, два гады́, як за́мужам.* В. Д.

ДЗЯРКА́Ч *м.* Задзірысты чалавек, задзіраха. *Сло́ва про́ці ні скажы́, ле́зіць бі́цца, такі́ дзірка́ч!* В. Д.

ДЗЯРО́НІК *м.* Дранік. *Прагаладала́ся на па́сьці, дык дзяро́нік за малі́нінку з'е́ла.* Арэх.

ДЗЯРО́НКА *ж.* Бабка. *Ня хо́чуць дзе́ці су́пу, про́сяць дзяро́нкі.* Судз. *Задала́ся дзяро́нка са скваркамі.* Навас.

ДЗЯРЭ́ННЕ *н.* Драная бульба. *Дзярэ́ння шчарне́йіць, паку́ль ты зьбярэ́сься пячы́.* Арэх. *Даба́ў мукі ў дзярэ́ння.* Шчарб.

ДЗЯЎЧУ́К *м.* Дзяўчынка-падлетак. *Пад дзе́ўку падбіра́йіцца, ла́дны ўжо дзяўчу́к.* Судз. *Дачка́ е́йная ўжо дзяўчу́к, гадо́ў пітна́ццаць бу́дзіць.* Кубл.

ДЗЯЦІ́НУХА *ж.* 1. Курыца-квактуха. *Дзяці́нуха ў сусе́ткі была́, у наш ячме́нь ціпля́т вадзі́ла.* Слаб. 2. *перан.* Жанчына, у якой малыя дзеці. – *Чаго́ вы, маладзі́цы, так ра́на дамо́ў? – А яны́ ж дзяці́нухі, дзяце́й глядзе́ць на́да.* Судз.

ДО́СВЕЦЯ *прысл.* Досвета, на досвітку. *Ма́тка до́сьвіця ўстае́ць.* Судз. *До́сьвіця йішлі́ малаці́ць.* В. Д.

ДРУ́ГАЦЦА *незак.* Стукацца, грукацца. *Прыляцéў, у дзьвéры дрýгаўся, у вóкны, а дачкá й ня вы́йшла: нялю́бы ён ей.* Судз.

ДРУЗА́ *м.* і *ж.* Тоўсты азызлы чалавек. *Яшчэ́ й ні стары́ мушчы́на, а ўжо друзá, так аплы́ў, раздрýс.* Арэх. *Куды́ ей у гóсьці éхаць, друзá стáла, дóма сядзі́ць.* Астр.

ДУ́БНІК *м. зборн.* Дубовае лісце. *Пат хлеп клáлі дýбнік ці клённік, яшчэ́ й мукí патсы́плюць, а тады́ на лапáту і ў печ.* Арэх.

ДУК *м.* і *ж.* Скупы чалавек. *Ці́ха ўжо ты! Бýдзіш, дук, гры́сьці дзéўку за кáліва бýльбы.* Судз.

ДУ́КРЫЦЬ *незак.* Падбіваць, падгаворваць. *Усё дýкрыць нáшага сы́на, каб éхаў зь йі́м на стрóйку ў Пóлацак.* Арэх.

ЕЛКАТА́ *ж.* Ёлкасць, гарката. *Старóя сáла, дык аднá йілкатá, ня хóчуць дзéці éсьці.* Арэх.

Е́МЕННЫ *прым.* Прызначаны на харчаванне (пра бульбу). *І сéмінная, і éмінная бýльба ў вадно́й я́мі.* Арэх.

Е́ШЧЫ *прым.* З добрым апетытам, непераборлівы ў ядзе. *Éшчы быў парсючóк і спакóйны, ня мéла гóра зь йі́м.* Арэх. *Пупáўся éшчы кабáнчык. Што ні дай – хапáйіць.* Чэр. *Бог знáйіць які́ éшчы мáльчык.* Судз.

ЖМА́ЧКА *ж.* Жмак. *Жмáчку сéна вы́цігнула са стóга.* Судз. *Далá карóві жмáчку.* В. Д.

ЖМУ́НДА *м.* і *ж.* Скупы чалавек, жмінда. *Жóнка ў ягó жмýнда, усё сьціскáйіць, капі́ць, нічы́м ні расьќініцца.* Чэр. *Жмýнда ён: свайі́м дзіця́м і то капéйкі ні дась.* Слаб.

ЖМУНДЗЯ́К *м.* Тое, што і *жмунда. Мой хоць і жмундзя́к быў, усё грóшы зьбірáў, а шкадýю: забóтлівы, дзяцéй глядзéў.* Чэр.

ЖЫГУ́Н *м.* Хуткі вяртлявы чалавек. *Тут ёсь, тут німá – такí жыгýн.* Арэх. *Што ты вéрцісься, як жыгýн!* Шчарб.

ЗАБАШЫ́ЦЦА *зак.* Затрымацца, забавіцца. *Забашы́ліся яны́ там, позна дамóў вярнýліся.* Судз.

ЗАВІ́ДНІК *м.* Зайздросны чалавек. *На чужóя багáцця гáліцца гэ́ты заві́днік.* Навас. *Такýю капéйчыну ўзя́лі за хáту, а яшчэ́ й сат прадаю́ць, заві́днікі.* Міх.

ЗАВІ́ДНІЦА *ж.* Зайздросніца. *Заві́дніца: сабé ўсё пахапáла, а пра сястрý й ня дýмайіць.* Судз.

ЗАВІДО́ХА *м.* і *ж.* Тое, што і завіднік, завідніца. *Ні глядзі́, завідо́ха, на чужо́я, а сам сабе́ купі́ такі́ касьцю́м.* Навас. *Ня бу́дзь, уну́чка, завідо́хай.* Кубл.

ЗАГУЛЯ́ЦЬ *зак.* 1. Пачаць гуляць. *Загуля́лі дзе́ці ў пі́кара.* Шчарб. 2. Знясіліць гуляючы, давесці да знямогі. *Дава́й мне дзяцёнка, а то ты яго́ загуля́йіш – ня ўме́йіш ня́ньчыць.* Чэр. *Бе́гаў-бе́гаў саба́ка за куры́цай і загуля́ў яе́ – ляжы́ць ву́ндзіка, саму́чыў.* Слаб.

ЗАДА́ЦЦА *зак.* Удацца. *Зада́ўся сяго́ння хлеп.* Арэх.

ЗАДА́ЧЛІВЫ *прым.* Ганарысты чалавек, задавака. *Такі́ ўжо зада́члівы, хварсі́сты, галаву́ ду́жа высо́ка но́сіць.* В. Д. *Няве́стка зада́члівая, ня с ко́жным і загаво́рыць.* Судз.

ЗАДА́ЧНЫ *прым.* 1. Тое ж што і *задачлівы. Зада́чны ма́ліц, а хвалі́цца німа́ чым: у шко́лі на дво́йкі ўчы́ўся.* Навас. 2. Удалы. *Ня ду́жа зада́чны парасёнак : пара́дашны, а ня е́сь.* Судз. *Ні зада́чныя грыбы́, адны́ чарві́выя.* Арэх.

ЗАДЗІРА́ХА *м.* і *ж.* Задзіра. *Ніхто́ яго й ні чапа́ў, сам такі́ задзіра́ха.* Міх. *Адзін задзіра́ха, а другі́ ніўступа́ха, во й пабі́ліся.* Кубл.

ЗАДУ́МЧЫВАТЫ *прым.* Задумлівы, затурбаваны. *Заду́мчыватая Прасе́ня: кі́нылі ўну́чыка на яе́ ру́кі, наму́чыцца зь йім.* Судз.

ЗАКАЁМНЫ *прым.* Зацяты, акаянны. *А во закаёмная: по́сьлі сва́ркі ня хо́чыць і гавары́ць зь дзя́цькам.* Судз. *Браты́ на фу́тары жылі́, закаёмныя былі́, заві́дывалі бага́ццю, адзі́н к аднаму́ ні хадзі́лі.* Арэх.

ЗАКАРМЕ́Ж *м.* Даўнейшы абрад напярэдадні вяселля. *Закарме́ж у субо́ту пірат са́мым вясе́ллім быў.* Навас. *Пры мне ўжо ні было́ закарме́жу, мяне́ ўжо ні прыязджа́лі зака́рмліваць.* Слаб.

ЗАКА́РМЛІВАННІК *м.* Асоба ў вясельным абрадзе. *Пірад вясе́ллім прыйіжджалі ад маладо́га зака́рмліваннікі, малады́ху зака́рмлівалі.* Слаб.

ЗАКА́РМЛІВАЦЬ *незак.* 1. Перакармліваць. *Ні зака́рмлівай дзяцёнка.* Арэх. 2. У вясельным абрадзе: частаваць маладую і яе радню напярэдадні вяселля. *У субо́ту ве́чарам, пірад вясе́ллім, ад маладо́га двоя́ е́дуць зака́рмліваць малады́ху, а маладзён наза́ўтрыя з дружы́най прыйіжджаюць.* Арэх. *Запіва́-*

*юць дзе́ўку, а по́сьлі зака́рмліваюць ве́чырам у субо́ту пірад вясе́ллім*. Навас.

ЗАЛА´ *м.* і *ж.* Назола, уедлівы чалавек. *Быў у нас такі́ зала́, усё яму́ ні ў лад: то пірасо́ліна, то нідасо́ліна*. Судз. *Ма́чыха зала́ была́, по́едам е́ла па́ччарку*. Навас.

ЗАЛІ´ЦЬ *незак.* Назаляць, дакучаць, пераядаць душу. *Ма́чыха залі́ць і залі́ць, ні дась дзяўчы́ні ўро́кі вучы́ць*. Навас. *Ра́на ўста́ла ўну́чка і ўсё пла́чыць, залі́ць*. Слаб.

ЗАМАНУ´ЦЬ *зак.* Задумаць, захацець. *Рука́ты чалаве́к: што ні замані́ – зро́біць*. Судз.

ЗАПАТЫ´ЛАК *м.* Патыліца. *Два разы́ ў мяне́ быў пры́ступ. З усі́х ног наўсьця́ш пувалі́лася, як хто па запаты́лку мне даў*. Слаб.

ЗАСІЛЯ´ЦЬ *незак.* Прымушаць. *Я ні засіля́ю вас е́сьці, ня хо́чыці цяпе́р, мо́жна бу́дзіць пазьне́й*. Судз. *Ні засіля́ю цябе́ е́хаць, як хо́чыш*. В. Д. *Ні на́да засіля́ць уну́чыка, сам усё ро́біць*. Міх.

ЗАСПО´РЫВАЦЬ *зак.* Заспрачацца. *Заспо́рываў Кузьма з на́мі, на свайім стая́ў*. Судз.

ЗАСТРАМІ´ЦЦА *зак.* Набрацца сораму, зняславіцца. *Даўне́й у царкве́ вінчаліся. Мо́жна было́ й застрамі́цца, калі што ні так там зро́біш*. Навас.

ЗАЎРА´ГАВАЦЬ *зак.* Заўпарціцца, занаравіць. *Заўра́гаваў конь, ня йдзець у вагло́блі*. Чэр. *Мала́я йіх капры́зная, як заўра́гавайіць, крычыць, ніко́га ня слу́хайіць*. Арэх.

ЗАЎЧО´РЫХ *прысл.* Заўчора. *Заўчо́рых сьвякро́ўка ў нас бала́*. Стар.

ЗАХАВА´ЦЬ *зак.* Зберагчы. *У вайну́ ўсе сы́навы дакуме́нты захава́ла*. Арэх.

ЗАХАВА´ЦЬ *зак.* Замарыць голадам. – *Ты мне ні захава́й на́шу го́сьцю, ле́пі карм*і́. – *Ні захава́ю, во ўжо яе́шню нясу́*. В. Д. *До́ўга клёцкі ні ва́руцца, захава́ю ба́бу на́шу*. Судз. *Захава́лі саўсі́м каро́ву, адны́ ко́сьці*. Стар.

ЗБРО´ДАВАЦЬ *незак.* 1. Залазіць у шкоду (пра жывёлу). *Збро́дуйіць каро́ва, а сусе́тка й ні глядзі́ць*. Арэх. *До́сіць ужо́ ва́шай* (карове) *збро́даваць, век у наш гаро́д ляці́ць*. Судз. 2. *перан.* Свавольнічаць, рабіць без дазволу (пра дзяцей). *То ў сат, то ў агаро́т – усё збро́дуюць дзе́ці*. Судз. *У я́блыкі на́шы ўлёзьлі, так ужо́ збро́дуюць*. Шчарб.

ЗВАДУ´Н *м.* Хлус, манюка, выдумшчык. *У яго́ сем вёрст да нябёс і ўсё ле́сам – звадун такі.* В. Д. *Ня ве́р яму́, гэ́таму звадуну́, баламу́ціць ён сьве́там, здумля́йіць халёрыю ўся́кую.* Міх.

ЗВАДУ´НКА *ж.* Ілгуха, манюка, выдумшчыца. *Іш, звадунка ўну́чка, наздумля́ла ба́цьку, што ба́ба яе́ б'е́ць.* Слаб. *Курню́ не́йкую вядзе́ць, звадунка, ніпра́ўду гаво́рыць.* Арэх.

ЗВО´ДЗІЦЬ *незак.* Маніць, выдумляць. *Німа́ чаго́ табе́ ніпра́ўду гавары́ць, на ўсю радню́ зво́дзіць.* Міх. *Маню́ка, уме́йіць зво́дзіць, пра́ўды ні даб'е́сься.* Навас.

ЗДАЛІЗАВА´ЦЬ *зак.* Збіць, скапыціць. *Каро́ва ўве́сь агаро́т здалізава́ла.* Чэр.

ЗДАЎНЫ´Х *прысл.* Здаўна, спрадвеку. *Здаўны́х на́ша радзіна тут жыве́ць.* В. Д. *Гэ́тыя пе́сьні здаўны́х лю́дзі зна́юць, я ад ба́бы сваей чу́ла.* Стар.

ЗНАЙДУ´Н *м.* Пазашлюбнае дзіця. *У вадне́й тут знайду́н быў, у дзе́ўках радзіла.* Арэх.

ЗНАЙДУ´НКА *ж.* Тое, што і *знайдун,* толькі ў адносінах да жанчыны. *Знайду́нку гадава́ла, ні ўзяў яе́ той салда́т.* Шчарб.

ЗНУРО´НЫ *прым.* Стомлены, знясілены. *Знуро́ны быў, ня е́ўшы, сеў аддыхну́ць у ле́сі й зьмёрс.* Кубл.

ЗНУРЫ´ЦЦА *зак.* Стаміцца, знясіліцца. *Езьдзілі ў дро́вы, саўсім знуры́ліся.* Арэх.

ЗНЯЧЫ´ВІЛІ *прысл.* Не памятаючы сябе, у стане ўзрушанасці. *Та́я дзе́ўка была́ як сама́ ні ў сабе́, зьнячы́вілі аш пат По́лацак забе́гла, у ле́сі знайшлі.* Арэх. *Ускочыў но́ччы – усё кругом гары́ць, зьнячы́вілі ні зна́ю, куды́ дзе́цца.* Чэр.

ЗУБАШЧЭ´Р *м.* Пустасмех, зубаскал. *Ня бог зна́йіць, яко́я ў яе шча́сьця: мужы́к насьмі́шнік, зубашчэ́р.* Арэх.

ЗЫ´ГАРАДЗЬ *ж.* Загародка, плот. *На́да шячэ́ па жардзінцы прыбі́ць у зы́гарадзі.* Шчарб. *Машы́на як дала́ ў зы́гарадзь – усё паляце́ла, бу́льбу стапта́лі.* Слаб.

*М. П. Сідаровіч*

# ЛЕКСІЧНЫЯ АСАБЛІВАСЦІ АДНОЙ СЛУЦКАЙ ГАВОРКІ

Увазе чытачоў прапануецца падборка дыферэнцыяльнай лексікі гаворкі в. Знамя (да 1964 г. – Ста́рцавічы) Слуцкага раёна Мінскай вобласці, зафіксаваная ў 1990–1992 гг. Прыведзеная лексіка з'яўляецца традыцыйнай, і, безумоўна, ужывалася да эпохі татальных перайменаванняў, таму мы будзем карыстацца старой назвай вёскі.

Знаходзіцца в. Старцавічы за 14 км на захад ад Слуцка, 119 км ад Мінска. З'яўляецца цэнтрам Сярэднікаўскага сельсавета і калгаса «Прамень Камуны», які некалькі дзесяцігоддзяў з'яўляецца гаспадаркай па вырошчванні элітнага жыта. У вёсцы зараз каля 250 двароў.

Гаворка в. Старцавічы ўваходзіць у сістэму паўднёва-заходняга дыялекту, паўднёвую групу гаворак[1]. Пры аналізе дыялектных зон выяўляецца, што вёска адначасова ўваходзіць у паўднёва-ўсходнюю, паўночна-заходнюю, сярэднюю, усходнюю і заходнюю зоны. Фанетычныя асаблівасці слуцкіх гаворак добра апісаны ў літаратуры[2], але ў галіне лексікі Случчына даследавана слаба. Таму найбольшую цікавасць уяўляюць лексічныя асаблівасці слуцкіх гаворак. Апроч таго, актуальнасць даследавання гаворкі в. Старцавічы абумоўлена і тым, што гаворка гэтай вёскі ўваходзіць у замкнёныя дыялектныя арэалы слуцка-капаткевіцка-лунінецкага і слуцка-любанска-салігорскага пучкоў[3].

Пры вызначэнні статуса лексем параўнанне вялося з літаратурнай мовай (з Тлумачальным слоўнікам беларускай мовы). Зыходзячы з двух бакоў слова – фармальнага і ўнутранага, вылучаем два асноўных тыпы дыялектных лексем – *структурны* і *семантычны*.

---

[1] Лінгвістычная геаграфія і групоўка беларускіх гаворак. Т. 1, 2. Мн., 1968–1969, карты № 76–80.

[2] Гл., напрыклад: А. А. Крывіцкі, А. І. Падлужны. Фанетыка беларускай мовы. Мн., 1984 і інш. выданні па беларускаму мовазнаўству.

[3] Лінгвістычная геаграфія і групоўка беларускіх гаворак. Карты № 178–179.

Да першага тыпу можна аднесці *ўласналексічныя, лексіка-словаўтваральныя, лексіка-фанетычныя* і *фармальна-граматычныя дыялектызмы.*

*Уласналексічныя дыялектызмы* – гэта словы, корані якіх не ўжываюцца ў літаратурнай мове, але якія маюць у ёй адпаведнікі; таксама словы, якія не маюць адпаведнікаў у літаратурнай мове (*вы́снякаць* – літ. высмаркаць; *блы́шыць* – літ. памыляцца, падводзіць каго-н.).

*Лексіка-словаўтваральныя дыялектызмы* – гэта словы, аднакаранёвыя з літаратурнымі, якія ў гаворцы ўтвораны пры дапамозе іншых афіксаў або іншым спосабам (*адда́ўна* – літ. здаўна, *прадо́нны* – літ. бяздонны).

*Лексіка-фанетычныя дыялектызмы* – гэта словы, якія адрозніваюцца ад літаратурных фанематычна (адрозненне не абумоўлена рэгулярнымі фанетычнымі з'явамі), камбінацыямі фанем, месцам націску (*абрысклы́* – літ. абры́згльі).

*Фармальна-граматычныя дыялектызмы* – словы, якія адрозніваюцца ад літаратурных граматычным родам або лікам.

Да другога тыпу адносяцца: *ўласнасемантычныя, абмежавана-семантычныя* і *семантыка-метафарычныя дыялектызмы.*

*Уласнасемантычныя дыялектызмы* – гэта амонімы літаратурных лексем, якія маюць з імі поўнае несупадзенне ў значэнні або значэннях (*бара́к* 'пограб').

*Абмежавана-семантычныя дыялектызмы* характарызуюцца частковым несупадзеннем значэнняў літаратурнага і дыялектнага слова (*ба́нька* 'мыльная бурбалка' і 'кальцо для прымацавання касы').

*Семантыка-метафарычныя дыялектызмы* – гэта словы, якія маюць пераноснае значэнне, якога няма ў такіх жа лексем у літаратурнай мове (*ме́шалка* 'прылада для размешвання', *перан.* 'бесталковая жанчына, якая ўсім замінае' (у літаратурнай мове толькі 1-е значэнне).

Для зручнасці карыстання словы пададзены ў алфавітным парадку, але ў падборцы прадстаўлены амаль ўсе віды дыялектызмаў, уласцівых гаворцы в. Старцавічы.

АБАБІ´ЦЬ *зак.* Здабыць чаго-н. крыху. *Травá на мяжы́ парэ́сла... мóжна якýю лáтку сéна абабíць...*

АБЗАДА´ЧЫЦЬ *зак.* Дамовіцца, забяспечыць на словах. *Пайшлá я да гэ́тага, што канáвы глядзíць, кажý: дай хоць якíя сто мéтраў аткóсу апкасíць. Дак я, знáчыць, абзадáчыла сабé сéна.*

АБЛАСКА´НЕЦ *м.* Адораны увагай, ласкай. *Сьпéсьцілі вы ягó, абласкáнца гэ́тага, так і чакáе, кап пакармíлі, а мышэ́й ні лóвіць.*

АБРАСЯ´НІЦЦА *зак.* Намокнуць ад расы. *Касéц с цябé! Толькі абрасяніўса па сáмы пуп.*

АБРЫСКЛЫ´ *прым.* Пра малако, якое пачало скісаць. *Гэ́тае малакó ў крýпнік мóжна ліць? – Паспытáй, ці ні абрысклóе.*

АГНЁВА *ж.* Хвароба скуры, герпес. *Нéйкая агнёва ўкíнуласа: усé чырвóна і чырвóна, гары́ць ажно.*

АГНЮСІ´ЦЬ *зак.* Аблаяць, абгаварыць нядобра. *Агнюсíла з ног да галавы́... От прáнцы, але ж ні чапáй дый гóдзе. І ў кагó такáя ўдалáса?*

АДДА´РАЧКІ *мн.* 1. Тое, чым аддорваюць (гл. *аддóрваць*). *Аддáрачкі ні падáрачкі* (прыказка). 2. Тое, што дораць для адчэпнага. *Аддáрачкамі ні абы́дземса, трэ́ба што дóбрае купíць.*

АДДА´ЎНА *прысл.* Даўно, з даўняга часу. *Ён тут аддáўна жывé... дзяды́ і прáдзеды тут ягó жылí.*

АДДО´РВАЦЬ *незак.* Дарыць нешта ў адказ. *Яны́ ж да нас заўсёды с падáркамі йдуць. То трэ́ба ш і нам аддóрваць, а ні з гóлымі рукáмі ісьцí.*

АДЗЫЎНУ´ЦЦА *зак.* Адгукнуцца. *Адзыўнíса, ці табé зарвáла? Дзіця́ унь гукáе...*

АДНА´КАЎ *прым.* Аднолькавы, той самы. *Плáкаў, плáкаў, а ўсе Бог аднáкаў. А як стаў сьпявáць, стаў і Бог давáць* (прымаўка).

АДХАПІ´ЦЦА *зак.* Скіснуць, стварожыцца пры награванні (пра малако). *Дýмала, малакó салóдкае, а янó адхапíласа на агнí.*

АДХЛА´НЬ *ж.* Пярэдых, перапад напружання ў рабоце. *Цэ́ла лéцечка атхлáні німá... то сéна, то жаць трэ́ба. Пóту вы́церці нéкалі.*

АПІГУ´ШЫЦЬ *зак.* Выпіць шмат нагінкам, адным духам. *Вéльма ш піць захацéласа... дак я мо цэ́лы збанóк кіслага малакá як апігу́шыў, то й дóбранька зрабíласа...*

АПО´РВАЦЬ *незак.* Даставаць што-н. высока – збіваць, зрываць (з дрэва). *Ідзí гру́шы апóрваць! Тут на вяршэ́чку йшчэ есь.*

АПРА´ННЕ *н.* Вопратка. *Зімá на нóсе, а нія́кага апрáньня цяплéйшага ў дзяцéй німáшака.*

АРЭ´Й *м.* Аер. *Арэ́й на Трóйцу йрвуць.*

АСТАВЕ´Ц *м.* Апошні, той, хто застаецца, спазняецца. *Астаўцу́ або з аўцу́, або нія́к* (прымаўка).

БА´НЬКА *ж.* 1. Мыльная бурбалка. *Во яку́ю бáньку вялíкую Іры́нка зрабíла!* 2. Шырокае кальцо для мацавання касы да касільна. *Каб запрэ́гчы касу́, трэ́ба бáнька і заты́лак.*

БАРА´К *м.* Пограб. *Прынясí буракóў з баракá.*

БА´ЦЮХНА *м.* і *ж.* Той, хто ўдаўся ў бацьку. *От, бáцюхна які́... ты ш паглянь на ягó – і крóшачкі бáцькавы пабрáў! Яня бáцюхна ў вас.*

БЕ´ЛЕНЬ *ж.* Белізна. *Бéлянь узíмку ў гарáх такáя – вóчы адбірáе!*

БЛУКА´ЛЬНІК *м.* Бадзяга. *Нéйкія блукáльнікі завандравáлі.*

БЛЫ´ШЫЦЬ *незак.* Памыляцца, падводзіць, рабіць недакладна, нядобра. *Гэ́ты ні блы́шыць нікóлі, надзéйны чалавéк.*

БО´ЛІВА *н.* Вялікі боль. *Такóе бóліва, чорт ягó вы́дзяржыць... Кры́чма крычáла.*

БУЙ *м.* Вецер-скразняк, пройма. *Чагó ты стáла на сáмум буí* (насупраць акна. – *М. С.*), *прасьвíшча!*

БЫВА´ЛЯШНІ *прым.* Былы, даўнейшы. *Бывáляшнія лю́дзі здаравéйшыя былí... Мой дзед мог прэ́нцік вузлóм завязáць.*

БЯЗМУ´ЖКА *ж.* Жанчына, якая мае дзяцей без мужа. *Бязму́шка, а дзяцéй напрывóдзіла...:*

ВАЗНЯ´ *ж.* Бесталковая перавозка чаго-н. *Абры́дзела мне гэ́тая вазьня́. Зрáнку туды́ вязí, вéчарам назáд.*

ВАЙСКАВІ´К *м.* Вайсковец. *Мéншы сын у Гáнны вайскавíк.*

ВАЛО´ВІЦА *ж.* Пуга, якой паганялі валоў. *Ні дадзéржыць... Пэ́нкне, кажу́! Тут каб якóю валóвіцаю ўвязáў!*

ВЕРАСКЛІ´ВЫ *прым.* Тонкі, прарэзлівы. *Ну й жóначка ў ягó. Галасóчак верасклíвы, як у су́начкі Мóдзіных: цяў-цяў-цяў...*

ВЕСЯЛО´ШЧЫ *мн. экспр.* Несвоечасовая гульба, забавы. *Ні да весялóшчаў лéтам – дыхнýць нíмá калі.*

ВІ´ТКА *ж.* Кручаны дубец, якім прывязвалі салому на страсе.

ВО´ДСЕЎ *м.* 1. Поле, якое нанава засяваецца. *Во які ячмéнь вы́махаў! – На вóдсеве. Жы́та тут былó вы́прала.* 2. Дзеянне паводле дзеяслова «адсяваць». *Трэ́ба вóдсеў рабíць.*

ВЫ´ПУГАЦЬ *зак.* Прагна, ненасытна выпіць нешта. *Вы́пугаў збанóк кíслага малакá, і на жóнку: «Ну, а цяпéр давáй чагó абéдаць».*

ВЫ´СНЯКАЦЬ *зак.* Высмаркаць. *Нос вы́сьнякай, а то смаркачы́ ў рот палéзуць.*

ВЫСТАЧА´ЦЬ *незак.* Рабіць нешта, каб задаволіць, каб нечага хапіла. *Як тóлькі ні наравíлі, ні выстачáлі. А ён і дзя́куй ні скáзаў.*

ВЫХІЛЯ´СЫ *мн.* Выкрутасы. *Бач, якíя выхіля́сы нагáмі рóбіць. Зноў напíўса!*

ВЫ´ЦУБІЦЬ *зак.* Выпіць са смакам. *Далá ў вядры́ мо лíтры са два. Усé вы́цубіла!*

ВЫ´ЧАЎРАЦЬ *зак.* Счаўрэць. *Кап ты вы́хварала да вы́чаў-рала!*

ГАВЯ´ДА, ГАЎЯ´ДА *ж.* Буйная рагатая жывёла. *О, ужэ́ гавя́да ў канцы́ сялá паказáласа!*

ГАРАХІ´ *мн.* Кучары. *А валасы́ ў ягó так гарахáмі і ўю́цца.*

ГАРАШКАВА´ТЫ *прым.* Пакручасты, кучаравы. *Пагля́нь, які ў ягó чуб расьцé гарашкавáты! Во дзéўкам прысýха бýдзе.*

ГРАЦКО´ЎЕ *н.* Поле, на якім зжалі грэчку. *Сéньня авéчкі па грацкóўі хóдзяць.*

ГРЫБАСЕ´Й *м.* Густы, дробны, працяглы дождж. *Дошч-грыбасéй: лéтась такі папайшóў два дні – апéнькі вы́сыпалі.*

ГРЫ´ВА *ж.* Верх страхі, «канёк». *Вáня! Трэ́ба кастры́цы занéсьці на гры́ву, натаптáць. Бач, як бýра ўзарвáла, зьнéсла!*

ГРЭ´ЙМА *прысл.* Шпарка, як сарваўшыся. *Паклíкала – грэ́йма ляцíць. Вéдае ўжэ, як зваць ягó. От табé і жывёліна...*

ГУРГУ´Н *м.* Узвышэнне, хваля. *Хай тóлькі махнé вéцер, адрáзу па вадзé гургуны́ кóцяцца.*

ДАЖДЖО´ВІЦА *ж.* Даждлівая пара. *У такýю дажджóвіцу грыбы́ дóбра растýць.*

ДАПАДНЫ´ *прым.* Пракідны, прайдошысты. *І тудьí даско́чыў... Ай-яй-яй, ну і дападньí ш!*

ДАСТАТНЫ´ *прым.* Цікаўны чалавек, які любіць саваць нос куды не трэба. *От ні лесь кудьí ні трэ́ба, бес цябе́ абьíдуцца. Дастатньí ве́льма.*

ДА´ЧА *ж.* Надзел, частка чаго-н. *І хто ш яго́ ве́даў, што гэ́тую ко́шанку трэ́ба на дзьве да́чы дзялíць.*

ДЗЕВЯЦІРУ´ЧКА *ж. экспр.* Той, хто вымушаны «разрывацца на часткі», каб усё паспець. *Зазна́ла го́ра адна́... Круцíласа, як дзівяцірýчка яка́я.*

ДЗЕ´ДЗІЦ *м.* Тутэйшы, няпрышлы чалавек. *Ён дзе́дзіц: і бацькí, і дзядьí яго́ тутэ́йшыя.*

ДЗЯНЯ´ШНІ *прым.* Дзённы, атрыманы удзень. *Ма́ма, у якім сло́іку дзяня́шняе малако́?*

ДРАПЕ´ЖЫЦЬ *незак.* Ірваць кіпцюрамі. *Во разышо́ўса: драпе́жыць зямлю́ кіпцюра́мі!*

ДУБАЛА´ *прысл.* Дагары нагамі, настармачана. *Пасьціха́йце, кажу́! Усю́ пасьце́ль дубала́ паста́вілі!*

ДЫЁМІНА *м.* і *ж. экспр.* Вялікі чалавек. *Ну й дыё́міна... У дзьвяро́х лець ні скла́ўса, каб зайсьцí.*

ЖАДО´БА *ж.* Прага, ахвота. *Гуро́чкаў маласо́льных ламанýла ў жадо́бу.*

ЖАЎЛЕ´ЦЬ *незак.* 1. Старэць, збірацца ў зморшчынкі. *Твар пача́ў жаўле́ць... Што ш ты хо́чаш – сто́лькі пражьíць!* 2. Мець характэрны колер у час заходу сонца (пра неба). *Не́ба чырво́на ці жаўле́е? Калі жаўле́е, то мо маро́зу ні бýдзе.*

ЖБУРНУ´ЦЬ *зак.* Моцна кінуць, шпурнуць. *Жбурнý яго́, каб ні лез больш.*

ЖНЕ´ЎНІК *м.* Іржышча. *Ідзі жне́ўніку награбí, каро́ву трэ́ба падасла́ць.*

ЖУКО´ВІНА *ж.* Пярсцёнак. *Усе́ па́льцы ў жуко́вінах, і ў вуша́х зо́лата, і рот залатьí, як у цыга́нкі.*

ЖУ´ПІЦЬ *незак.* Гутарыць, гаманіць. *До́ўга мы з ёй жýпілі, расказа́ла яна́ мне ўсе.*

ЖЫ´ЦІЦЬ *незак.* Выбельваць (пра сонца). *Со́нца ве́льма валасьí жьíціць.*

ЗААСЯ´НЕЦЬ *зак.* Пахаладаць, зрабіцца падобным на восень. *Так заася́нела ра́птам... Дажджьí, халадэ́ча.*

ЗА́ВАЛКІ *мн.* Міндаліны. *Паглядзе́ла ў ро́це, а ў яго за́валкі – як сьлі́вы!*

ЗАЗЫРЧЭ́ЦЬ *зак.* Заяснець. *Эй, со́ні! Не́ба ўжэ зазырчэ́ла на ўсхо́дзе, са́ма рыба бярэ́цца!*

ЗА́ЛЮБКІ *мн.* Пачатак кахання, любашчаў. *Бач ты іх... Яшчэ́ мо ў шо́сты клас хо́дзяць, а ўжэ за́любкі ў іх.*

ЗАТУ́ЛАК *м.* Зацішак. *Стань сюды́ во, у зату́лак, а то ве́цер такі́ хало́дны, ні́жа про́ста.*

ЗАФУРАВА́ЦЬ *зак.* Шпарка, імкліва завезці што-н. цяжкае. *Мы зафурава́лі ўжэ яго́ на ста́нцыю з усі́мі бэ́бахамі.*

ЗА́ЧУБКІ *прысл.* Ухапіўшыся спераду за чупрыну. *Ухапі́ліса за́чубкі, і дава́й адно́ аднаго́...*

ЗАЯ́ДА *м.* і *ж.* Той, хто заядаецца, заюшваецца. *Няйдзі́ ты за гэ́тага зая́ду! Хіба ж гэ́та чалаве́к? Нагару́есса.*

ЗБЛЫ́ШЫЦЬ *зак.* Памыліцца. *Усю́ старо́нку напа́мяць прачыта́ў, ні кро́пелькі ні зблы́шыў.*

ЗБРЫДЧА́ЦЬ *зак.* Зрабіцца непрыгожым. *Цяпе́р яна́ з жыватом хо́дзіць, дак збрычча́ла с тва́ру.*

ЗВЫ́ЧВАЦЬ *незак.* Прывучваць. *Ні насі́ ў по́ле зе́льле, ні звы́чвай каро́ву, хай траву́ скубе́.*

ЗГАЛЕ́ЛАСЦЬ *ж.* Нястача. *Як згарэ́лі, дак і згале́лі... Ко́лькі гадо́ў прайшло́, а та́я згале́ласьць усе́ чу́ецца: рук німа́ за што зацяць.*

ЗГА́МТАРЫЦЬ *зак.* Скамячыць. *Што ш ты зга́мтарыў яе́ абы-як? Складзі́ хо́рашанька ці паве́сь. Шану́й адзе́жу до́ма, то яна́ цябе́ ў лю́дзях пашану́е.*

ЗДЗЕ́ДЗІЦЦА *зак.* Стаць дзедам; пастарэць. *Здзе́дзіўса саўсі́м. От гуляю з уну́каю, нікуды́ ні́якага хо́ду німа́шака мне.*

ЗДЗІВІ́ЦЬ *зак.* Сурочыць. *Каза́ла ш табе́ – ні хадзі́ туды́ з мало́й! От зьдзіві́лі дзіця́, што цяпе́р рабі́цьмеш?*

ЗДРЫСАВА́ЦЬ *зак.* Паразгрэбваць (грады). *Акыш, каб вы падо́хлі ... Усе́ буракі́ здрысава́лі!*

З'ЕД *м.* Тое, што з'ядае здароўе. *Хіба гэ́та рабо́та? Такі́ з'ед для здаро́ўя!*

ЗЛЮЦЕ́ЛА *прысл.* Люта. *Ён як закрычы́ць зьлюце́ла: «Марш с ха́ты, смуро́д!»*

ЗРАДЗЕ́ЦЬ *зак.* Узрадвацца. *Як уба́чыла – сын ідзе́, так зрадзе́ла, што і мо́ву заняло́!*

ЗРО´ШЧЫ *мн.* Хвароба, недамаганне росту. *Перарасьцé, гэ́та ў ягó зрóшчы.*

КАВАЛЬЧУ´К *м.* Сын каваля. *Тóня за кавальчукá вы́йшла, чýла?*

КАВЯРЗА´ *м.* і *ж.* Дзіця, якое невыразна, перакручана вымаўляе словы. *Кавярзá гэ́ты... Тóлькі «мáма» і гавóрыць чы́ста.*

КАЗЮ´ЛІНКА *ж.* Мошка, казюрка. *Прапаўзлá нéйкая казю́лінка, адáле гляджý – пачырванéла, успýхла рукá.*

КАМЁЛАК *м.* Мажны, сыты хлопчык. *У-у, камёлак які́, ні падня́ць!..*

КАПЫ´РЗА *м.* і *ж.* Упартае, заядлае, капрызнае дзіця. *Капы́рза гэ́ты, ужэ́ надзьмýў гýбы? Ідзі́ за стол, а то паўрóзаў дам отó.*

КАРАЧУ´Н *м.* Курч, хвароба, якая скручвае чалавека. *Пасьля́ начлéгу на сырóй зямлі́ на ягó нéйкі карачýн напáў: ляжáла пад галавóй сагнýтая рукá, так і асталáса кóрчыкам.*

КАРБЯЖЫ´ *мн.* Зазубрыны на рагах каровы. *Маладáя карóўка яшчэ́, трэ́цім цéлем. Я карбяжы́ на рóгах палічы́ла – гадóў чаты́ры ёй...*

КАСМА´ *ж.* Пасма. *Адная касмá на лоп спáла, як у Гі́тлера якóга.*

КВАТЭ´РЫНА *ж.* Палавінка варотаў у хляве. *Ні трэ́ба лéскі, я па кватэ́рыны залéзу на страхý.*

КВІК *м.* Віск. *Што ш ты ў сьвіны́ квік прыйшóў? Табé калі сказáлі?*

КЕ´ПСТВА *н.* Штосьці кепскае. *Ні рабі́ кéпства чалавéку, то і ён табé благóга ні зрóбіць.*

КІСЛІ´НЫ *мн.* Валакністы асяродак гарбуза. *Павыбірáй с кісли́н гарбýзікі.*

КІЎ *м.* Лівок. *Ні слýхае кі́ва, то паслýхае кі́я* (прымаўка).

КЛА´ДКА *ж.* Лаўка на вуліцы пад плотам. *Мáма, я пасяджý на клáцэ з дзяўкáмі.*

КЛЮ´НАЧКА *ж.* Дзюбка. *Кóлькі я ямý далá – з вераб'ёву клю́начку.*

КЛЯ´МКАЦЬ *незак.* Бразгаць клямкай. *Кот на дзьвéры узьлéз, кля́мкае. Пайдзі́ аччыні́.*

КЛЯЯ´ЦЬ *незак.* Кіпець з характэрным гукам. *Во, ужэ́ картóплі кляя́юць – мáбыць, звары́ліса.*

КО́ЗАЧКА *ж.* Ніжняя белая частка пёрцаў цыбулі. *На, пажу́й ко́зачку – салó-откая!*

КО́ШЛЯ *ж.* Касьба. *Яка́я там ко́шля! Адно́ шча́ўе, адны́ цырбуны́.*

КРА́МАЧКА *ж.* Кавалачак крамнай тканіны. *Я ўсе кра́мачкі ў мяшо́к зьбіра́ю.*

КРУГЛАВІ́ДЫ *прым.* З акруглым тварам. *Харо́шы сам, круглаві́ды. У ма́тку ўда́ўса.*

КРУТ *м.* Шалёнства, шал. *Во, не́йкі крут на яго́ ўссеў ужэ́. Усе́ па-сво́йму гне, да трох яму́ ні гавары́.*

КРЫГАВА́ЦЬ *незак.* Разбівацца на крыгі. *Пайшо́ў лёд крыгава́ць.*

КРЫШЭ́НІК *м.* Долька яблыка. *Паглядзі́ на пе́чы, мо крышэ́нікі пасо́хлі, зьбяры́ ў карабе́ц.*

КУДЗЕ́ЛЬНІЦА *ж.* Кудзельная коўдра. *Трэ́ба дзе́цям кудзе́льніцу на пе́чы пагрэ́ць.*

ЛАБЯ́К *м.* Узгорак. *Ву́ньдзека, на са́мым лабяку́ пясо́к бра́лі, дзе я́мы.*

ЛА́ВАЧКІ *мн.* Тронак з дзвюх палавінак. *Дай мне нож з драўля́нымі ла́вачкамі – ён лепш рэ́жа.*

ЛА́ПІКЛА *ж.* Латка, лапік. *Скіда́й нагаві́цы, ла́пікла трэ́ба прышы́ць.*

ЛА́ТКА *ж.* Шчыльна збіты граблямі пласт сена, саломы. *Як до́бра ла́ткі саб'е́ш, то і дошч ні праб'е́.*

ЛАЎГАНУ́ЦЬ *зак.* Захапіць языком. *Ко́лькі ты ўкіну́ў се́на? Лаўгану́ла каро́ва рас языко́м – і німа́.*

ЛІСА́ВІЦЦА *незак.* Падлізвацца. *Бо́йса ні таго́, хто ваўко́м глядзі́ць, а таго́, хто ліса́віцца* (прымаўка).

ЛІСЦЯ́НКА *ж.* Дрэва лістоўніца. *Лісця́нкі ў нас на мо́гілках расту́ць.*

ЛЮТАЕ́ЗЛІВЫ *прым.* Капрызны, які дрэнна есць. *Лютае́зьлівы япру́к – ні есь ніч́ога.*

МАГАТА́ *ж.* Магчымасць, моц. *Магаты́ мае́ ўжэ німа́ з ім ваява́ць.*

МЕ́ШАЛКА *ж.* 1. Прылада для размешвання. 2. *перан. экспр.* Бесталковая жанчына, у якой ўсё валіцца з рук, якая ўсім замінае. *От, ме́шалка гэ́тая! Ніч́ога зрабі́ць ні ўме́е!*

МІНУ́ШКА *ж.* Тое, што хутка мінаецца. *Гру́шка-міну́шка: як пасьпе́юць – усе́ сы́плюцца, як грась.*

МІТУХНУ´ЦЦА *зак.* Хутка мільгануць і прапасці. *І от, здэ́уца, мітухну́ласа штось уваччу́. Я глядзе́ць – не, нічо́га.*

МО´ЎЧЫКАМ *прысл.* Моўчкі. *Што ты ўсе со́ваесса мо́ўчыкам?*

НАВО´ДХІЛ *прысл.* Адставіўшы ад сябе. *Трыма́й ру́кі наво́дхіл, а то но́вую спадні́цу вы́гнюсіш.*

НА´ЙДЗІЧ *м.* Знойдзенае дзіця. *Гэ́та ж ні яе́ сын, на́йдзіч. Паткі́нуў не́хта, а яна́ вы́гадавала як свайго́.*

НАМАНЫ´ *прысл.* Шукаць наманы: шукаць, не мацаючы ўсё запар, а хапаючы то тут, то там. *Наманы́ – зна́чыць хап тут, хап там, паку́ль ні пападзе́ш.*

НАМНАЖА´ЦЦА *незак.* Памнажацца, павялічвацца. *Як то́е дабро́ бу́дзе намнажа́цца, калі ніхто́ рабі́ць ні хо́ча?*

НЕЛАПЫ´ *прым.* Немалы. *Нелапы́ ўжэ хло́пец, падро́с за ле́та, паздараве́ў.*

НЕ´МЧЫК *м.*Ваўчок. *Што ты кру́цісса, як не́мчык?*

НЕПАЗА´РНАЯ *прым.* Непрыгожая, на якую не заглядваюцца. *Ка́жуць, ка́жуць, мая ма́тка, што ніпаза́рная* (з песні).

НЕ´СМАЧ *м.* Нясмачная ежа. *А мая́ ш як зва́рыць яко́е не́смачы, хоць на саба́ку узьле́й!*

НЯБО´ГА *ж.* Пляменніца.

НЯБО´Ж *м.* Пляменнік. *Ён нябо́ж мне прыхо́дзіцца, бра́таў сын.*

НЯДО´КРАТКА *ж.* Ганарліўка, якую нельга зачапіць. *А-ей, така́я нядо́кратка! Па́льцам бо яе ні зачапі́!*

НЯЎМЕ´ЧКА *памянш.-ласк.* Няўмека. *Эх ты, няўме́чка... Глядзі́, як гэ́та ро́біцца.*

ПАГЛЯ´ДНЫ *прым.* Прыгожы, прыемны на выгляд. *То́нін мужы́к быў пагля́дны, але ж развяла́са.*

ПАГО´ДЧАТЫЯ *прым.* Тыя, што нараджаліся штогод. *У яе́ ш усе́ дзе́ці паго́ччатыя.*

ПАГО´ДЧЫНА *ж.* Дзеці-пагодкі. *У Во́лькі такса́ма паго́ччына была́, але ні ўсе жыць аста́ліса.*

ПАДАРЭ´ЙКА *м.* і *ж.* Жабрак. *Падарэ́йка сёньня хадзі́ў, Аніська кульга́вы.*

ПАДКІДА´ЛЬНІЧАК *м.* Невялікі абрус, настольнік, сшыты з рэшткаў палатна, якіх не хапіла на добры настольнік. *Падкі-*

*дáльнічак на сталé ляжáў, на ягó клáлі хлеб і другóй палóвай накрывáлі.*

ПАДРАБЯ´ЗКІ *мн.* Дробныя часткі курыцы (крылы, ногі, трыбухі). *От, падрабяскі ўсякія зварыла...*

ПАДХВА´ТНЫ *прым.* Ахвочы на работу. *О, ён патхвáтны, і прыганяць ні трэба, усе збробіць.*

ПАДШПА´РАК *м. экспр.* Падлетак. *Дóбры ўжэ патшпáрак, памагáе: цэла лéта авéчак пáсьціў.*

ПАДШУКА´ЦЬ *зак.* Ашукаць. *Што? Патшукáў ён цябé трóшкі?*

ПА´ЗАЛКІ *мн.* Вада на драўнінным попеле, шчолак, у якім памыліся. *Пáзалкі вынесі, вылей. Да ні апхлюпайса, глядзі!*

ПАЙГРА´ЦЬ *зак.* Шпарка пабегчы. *Во, пайгрáў, задрáўшы хвост. Такі натýрысты конь удáўса.*

ПАКАШТАВА´ЦЬ *зак.* Выпрабаваць яйка на моц, стукаючы лёгенька аб зубы (пад час гульні з яйкамі на Вялікдзень). *На, пакаштýй маё яйка – па-мóйму, тваё слабéйшае.*

ПАКІ´ДЗЬКА *м.* і *ж.* Нікчэмны, ні на што не здольны чалавек. *Што я, пакіцька які-нéбуць? За чалавéка мянé ні лічыце?*

ПАКІ´НЬКА *м.* і *ж.* Той, каго пакінулі. *Ён пакінька: мáці ў радзілцы аццурáласа.*

ПАПЛЁТ *м.* Вянок цыбулі. *Унё паплёты на сьцянé вісяць – бáчыш, якая цыбýля ў мянé ўрадзіла?*

ПАРАДЗЁНКА *ж. памянш.* Парада. *Німá ўжэ мáці, німá камý рáдачку-парадзёнку дáці.*

ПАСВА´РЫ *мн.* Стан адносін паміж сваркай і прымірэннем. *Мы тадыі ў пасвáрах былі.*

ПАСВО´ЙТАЦЦА *зак.* Зрабіцца сваякамі. *Мы ж з Вáнем пасвóйталіса нядáўна: мая дачкá за ягó сына пайшлá.*

ПАСПЫ´Т *м.* Каштаванне. *Адвязі ім і нáшага чагó на паспыт.*

ПАХАЦЕ´ЦЬ *незак.* Моцна пахнуць. *От цюльпáны пахацяць – на ўсю хáту!*

ПАЦВЯЛЯ´СТЫ *прым.* Які лёгка пацвельваецца (дражніцца). *Сабáка ў Алéсевых пацьвялясты – пастýкай па плóце, а ён ужэ на дыбкі.*

ПА´ЦУРАК *м.* Невялікі востры калок. *Бес пáцурка тýга куля ні зьвяжаш.*

ПАЧАКА´ЛЬНЯ *ж.* Памяшканне, у якім чакаюць. *Пабу́ць у пачака́льні.*

ПАШЫБА´ЦЬ *незак.* Цягнуць да чагосьці. *Пашыба́е яé на капу́сту кíслую – кап у прыпóле ні прынéсла!*

ПЕРАВЕ´Д *м.* Адведкі. *Ты яшчэ́ ні хадзíла ў перавéд? Ка́жуць, Алéна дачку́ ўлавíла.*

ПЕРАХО´ДЧЫК *м.* Перабежчык. *Перат са́маю вайнóю перахóччыка ў нас улавíлі.*

ПЛЕ´ЦІВА *н.* Тое самае, што і *паплёт.*

ПО´ДЦАРАК *м.* Не самы вялікі чын. *Ні так стра́шны цар, як пóццаркі.*

ПО´МЕЖ *прысл.* Побач, праз мяжу. *Яны́ пóмеж жылí, мíрна, ніякíх платóў ні гарадзíлі.*

ПО´ШАПКАМ *прысл.* Ціха, шэптам. *Пагаварылі пóшапкам і разыйшлíса.*

ПО´ШВА *ж.* Дубчык, якім прыціскаецца салома на страсе. *Перакíнь мне па́рачку пóшваў – ні хапа́е рад закóнчыць.*

ПРАВІ´ННІК *м.* Той, хто правініўся. *Дзя́дзіна – га́дзіна, дзя́дзька – правíннік, дзя́дзіну ў балóта, а дзя́дзьку – у магíльнік.*

ПРАГУЛЬТА´ІЦЦА *зак.* Прабавіць час марна. *Дзе ты стóлькі прагульта́іласа, што і вада́ асты́ла?*

ПРАДО´ННАЯ *прым.* Бяздонная. *Ну й бóчка прадóнная, паўдня́ трэ́ба наліва́ць.*

ПРАМЫВА´Ч *м.* Той, хто прамывае што-н. *Павéзла я вóўну ў часа́льню, а там прамыва́ч і ка́жа мне: «Што, ні магла́ дóма прамы́іць дóбра?».*

ПРАЦАЛЮ´Б *м.* Працалюбівы чалавек. *Дзет твой працалюб быў.*

ПРУГЛО´ *н.* Частка калодзежнага жураўля. *Трэ́ба былó п якóе кóла на пруглó прывяза́ць – цяшка ста́лаваду́ дастава́ць.*

ПРУГМЕ´НЬ *м.* Прыгуменне, лужок каля гумна. *Пругмéнь трэ́ба скасíць, а то ку́ры вы́таўкуць.*

ПРЫБЛУ´ДАК *м. экспр.* Нетутэйшы. *Прыблу́дак нéйкі і п'янтóс. І чагó старшыня́ падбіра́е ўсякíх? Спіцаліста знайшóў...*

ПРЫСПА´ЦЬ *зак.* Прыдушыць у сне. *Яна́ пакла́ла малу́ю с сабóю спаць, цы́цку дала́. Заснула і прыспа́ла яé!*

ПРЫСТО́ЯЦЬ *зак.* Крыху пастаяць. *Мо хвілі́нку прысто́яла с сусе́ткаю, прыхо́джу, а ў пе́чы пагарэ́ла ўсе, гаршкі́ вы́кіпелі.*

ПРЫ́ХАДЗЕНЬ *м.* Прышлы чалавек, не тубалец. *Ён жа пры́хадзень, з сусе́дняга сяла́ ў пры́мы прыйшо́ў.*

ПРЫЧЫ́ННІК *м.* Той, хто мае дачыненне да чаго-н. *Які́ я на той бясе́дзе прычы́ннік? Ні пайду́.*

ПУЗЫ́Р *м.* Асобны воблак, хмарка круглай формы. *З гэ́тага пузыра́ мо́жа за́раз дошч ліну́ць.*

РАЗЭ́РВА *ж.* Стан, калі шмат спраў і мала часу – хоць разарвіся. *У яе́ цяпера́ка разэ́рва: і вучы́цца трэ́ба, і дзіця́ глядзе́ць, і ма́ці.*

РАЗЯВЕ́НЯ *м.* і *ж.* Разявака. *Ехала разяве́ня да мне агло́бляю ў рот!* (жарт).

РАСІ́ЦЬ *незак.* Дробна пырскаць, крапіць. *Ро́сіць до́жджык, ро́сіць. Грыбы́ по́йдуць ско́ра.*

РАСКІДА́ХА *м.* і *ж.* Тое ж што і *раскідач.*

РАСКІДА́Ч *м.* Той, хто не ашчаджае капейку. *Ат, ні бу́дзе з яго́ гаспадара́. Такі́ ўжэ раскіда́ч, ніко́лі капе́йка ў кішэ́ні ні затрыма́ецца.*

РАССЕ́ЧЫНА *ж.* Шрам у выглядзе расколіны. *Каб гэ́та на ско́рым ча́се да ў бальні́цу, то дактары́ зашы́лі п, а то так і астала́са рассе́чына на ўсе жыцьцё́.*

РАХТА́ЦЬ *незак.* Рагатаць або квакаць з характэрным гукам. *Жа́бы рэ́хчуць у бало́це – на паго́ду по́йдзе.*

РО́ДНЫ *прым.* Урадлівы. *Пі до дна, каб было́ жы́та ро́дна!*

РО́ЗНІЦЦА *незак.* Разрастацца з аднаго кораня парасткамі. *Жы́та так рэ́тка ўзышло́, ду́маў, ніч́ога ні зьбярэ́цца, а цяпе́р так ро́зьніцца – мо па тры́ццаць ка́ліў з аднаго́ ко́раня!*

РЫХТО́БА *ж.* Падрыхтоўка (як працэс). *Гэ́тая рыхто́ба цябе́ ў магі́лу заго́ніць. Трэ́ба табе́ той інсьціту́т.*

СІБІ́РНЫ, СІБЕ́РНЫ *прым.* 1. Ахвочы да працы, заўзяты. *Яна́ была́ сібі́рна на рабо́ту.* 2. Пра надвор'е – круты, халодны. *От жа зіма́ сібе́рна ўдала́са!*

СІНЯ́ЎКА *ж.* Шчупачок. *Паўто́рбы ры́бы налаві́лі: пло́ткі, сіня́ўкі, лі́ні.*

СКВІЛ *м.* Гук, які падаюць галодныя свінні. *Сьві́ньні скві́лу нарабі́лі, е́сьці нясі́.*

СКУЗАВА́ЦЬ *незак.* Папікаць, пастаянна тузаць каго-н. заўвагамі, папрокамі. *Што ты ўсе скузу́еш дзіця́? Ні бу́дзе ён так больш рабі́ць!*

СЛАКІТА́ЦЬ *незак.* Казытаць. *Хо́піць яе́ ўжэ слакіта́ць!*

СЛЕ́ПАТ *м.* Дзікія пчолы. *Вунь там, у дупле́, сле́пат. Даўно́ пасялі́ліса, мёду нанасі́лі, ма́быць, да хале́ры.*

СЛО́КІТ *м.* Козыт. *Ты сло́кіту баі́сса?*

СПАЛНУ́ЦЬ *зак.* Хуценька згарэць. *Ускі́нь барджэ́й наве́рх таўсьце́йшых дроў, а то спалне́ падпа́л, і зноў усе́ спача́тку давядзе́цца.*

СПРЭ́ГЧЫСЯ *зак. экспр.* Памерці. *Чу́ла? Іва́н канцавы́ спро́гса, а так хаце́ў да пе́нсіі дацягну́ць.*

СПУСТАВА́ЦЬ *зак.* Звесціся на ніщто. *Кап ты спустава́ў не́чага! Як ты мяне́ напало́хаў...*

СТРЫНГАЛЯВА́ТЫ *прым.* Танканогі, высокі. *Высо́кі ўжэ Ко́ля, стрынгалява́ты. Мо на го́лаў за мяне́ бо́льшы.*

СУДЗЬБА́ *ж.* Працэсуальны назоўнік ад дзеяслова «судзіць». *Давяра́цца і́хняй судзьбе́? Да там жа і суддзя́, і сьве́ткі, і засяда́целі ўсе падку́пленыя.*

СЦЭ́ДКІ *мн.* Рэшткі нечага вадкага, што не вылілася адразу. *Сцэ́ткі – на дро́бныя дзе́ткі* (прыказка).

ТАЛАЛА́Й *м.* Брахлівы, звяглівы сабака. *Ну і талала́й! Але ш угамо́ну яму́ німа́, зьвіні́ць і зьвіні́ць.*

ТУ́МКАЦЬ *незак.* Разумець. *Ты ту́мкаеш тро́хі ў гэ́тым дзе́ле? Я дак ні́як.*

ТЭНЧ *ж.* Нешта вельмі тонкае (гл. *тэўсць*).

ТЭЎСЦЬ *ж.* Таўшчыня; нешта вельмі тоўстае. *Дзе ты насе́к тако́е тэ́нчы? На кро́квы трэ́ба жо́рткі во яко́е тэ́ўсьці – як дало́нямі апхапі́ць.*

УДЗЯ́ДЗЕЦЬ *зак.* Стаць дарослым. *Ста́лы ўжэ, удзя́дзеў.*

УЖАЛЕ́ЛЫ *дзеепрым.* Пераварaны, разлезлы.

УЖАЛЕ́ЦЬ *зак.* Пераварыцца, упрэць. *Ужале́ў кру́пнік. Ко́лькі ш ён у пе́чы стая́ў?*

УЗДЗЯБУ́РЫЦЬ *зак. экспр.* Апрануць сілком малое па памеры адзенне. *Што ты ўзьдзябу́рыў? Ло́пне ш пад рукава́мі!*

УКО´СІКІ *прысл.* Крыва, зігзагамі. *Ну і ара́ты с цябе́! Навіхля́ў укóсікі...*

УКРА´ДЛІВЫ *прым.* Асцярожны, патаемны. *У ягó хадá, як у катá, укрáдлівая.*

УЛЕ´ГІСТЫ *прым.* Старанны, неадступны. *Ай-яй, як улёг за зáйцам! Дзе ты такóга ўлéгістага сабáку дастáў?*

УМЕ´РКНУЦЬ *зак.* Пацямнець. *У мяне́ у вачóх ажно ўмéркла.*

УПІ´ЧКА *ж.* Папрок. *Бес канцá ўпíчкі, шпíлькі... Што за чалавéк такí?*

УПЛА´КАЦЬ *зак.* Упрасіць слёзна. *Уплáкала паліцáя, упрасíла – пусьціў бáцьку.*

УТЛУМА´ЧЫЦЬ *зак.* Добра растлумачыць. *Утлумáч ты ямý, у мяне́ ўжэ мóцы німá.*

УТО´ХНУЦЦА *зак.* Сасмагнуць. *Што ты ўсе хапáесса за халóдную вадý? Утóхса вéльма?*

ХАПО´ШЧЫ *мн.* Панічнае разбіранне тавараў у магазінах. *Перад гэ́тым падаражáньнем хапóшчы, як перад вайнóю.*

ХЛУ´ПА *прысл.* Нахіліста. *Хлупéй трэ́ба крóквы стаўля́ць, а то шы́феру ні хóпіць.*

ХРЭ´ШЧЫКІ *мн.* Хлеб, спечаны на хросную нядзелю ў Вялікі пост, упрыгожаны цацкамі ў выглядзе крыжа, сярпа, бараны. Хрэшчыкі бралі ў поле, калі ехалі першы раз араць. *Ты ш хрэ́шчыкі ні забýць у тóрбу паклáсьці.*

ЦІ´ЎКАТ *м.* Назоўнік ад гукапераймальнага дзеяслова «ціўкаць». *Кураня́ты галóдныя, ці́ўкату нарабíлі.*

ЦЫ´БЫ *мн.* Доўгія худыя ногі. *Вы́ставіла цы́бы... Прымí, бо спатыкнýса.*

ЦЫРБУ´Н *м.* Сцябліна. *Цырбуны́ ў шчáўя таксáма кíслыя.*

ЦЫ´РКАЦЦА *незак.* Корпацца, забаўляцца. *Кóлькі ты бýдзеш цы́ркацца? Вадá даўнó закіпéла.*

ЧАБО´ХНУЦЬ *зак.* Укінуць чаго-н. адразу шмат. *Маймý ўсе сóлі мáла. Узялá рас, чабóхнула лóшку – еш!*

ЧВЫР *м.* Жвір. *Вы́йду на рэ́чку, ся́ду на чвырóчку. Ці ні вы́йдзе міла памы́ць мне сарóчку?* (з песні).

ШАМЛЯ´К *м.* Няшчыльны качан капусты. *От прывéзьлі капýсту – адны́ шамлякí. Нímá с чагó вы́браць.*

ШЧЫ´РАК *м.* Нехта ці нешта моцнае, здаровае. *Ай жа і грып! От шчырак дак шчырак!*

ЯКАТА´ЦЬ *незак.* Енчыць, заходзіцца не сваім голасам. *Сабáка аш якóча... Хібá воўк падышóў?*

Я´ЎКАЦЬ *незак.* Мяўкаць. *Чагó ты яўкаеш? Ні пад'éла яшчэ?*

Я´ШКА *ж.* Ячэйка ў сотах. *У гэтых яшках яéчкі заклáдзены, чарвá скóра бýдзе.*

*Т. М. Трухан*

## З ГАВОРКІ ВЁСКІ ЗАМОШША ЛЮБАНСКАГА РАЁНА

Лексіка, якая падаецца ў гэтым артыкуле, запісана аўтарам у жніўні 1995 года.

Інфарматарамі з'яўляліся бацька і маці – Трухан Мікалай Фёдаравіч (1930 г. н.), Трухан Вольга Георгіеўна (1934 г. н.).

Бацька нарадзіўся ў гэтай вёсцы, а маці прыйшла замуж з паўднёвага ўсходу суседняга Салігорскага (раней Старобінскага) раёна. Размешчана в. Замошша на адкрытай прасторы, паблізу няма густых лясоў, толькі невялікія лясочкі, узлескі, кустарнікі, таму яе жыхароў называюць палевікамі.

Гаворка вёскі адносіцца да слуцкай групы паўднёва-заходняга дыялекту.

АБО´РА *ж.* Кароўнік. *Ішла ў абору, дай рýку зламáла, паляцéла рукá.*

АДКІ´НУЦЬ *зак.* Адсадзіць, аддзяліць (цяля ад каровы). *Хай пассé тыдні два цялятко, дай аткідáць мóжно.*

АМЕ´ЦІ *мн.* Адходы пры веянні. *Зграбці̑ салóму трэ́ба, дай у сці̑рту скі̑нуць, а амéці на кані̑ вывезам.*

АПЕ´ШАЦЬ *зак.* Ачмурэць ад работы. *Я за дзéнь апéшала, ляглá і забыла халóднэ разлі̑ць.*

АПЧАХА´ЦЬ *зак.* Падсыхаць. *Хай дош суні̑мецца, апчахáе хай.*

АСО́ВІК *м.* Падасінавік. *Трэба было́ б асо́вікаў набра́ць да насушы́ць.*

АТВАРО́Г *м.* Тварог. *Ко́ля наш атваро́г любіць, са́хару ўсыпле і смята́наю палié.*

АШЧАПЕ́РЫЦЬ *зак.* Моцна абняць, абхапіць рукамі. *Ашчапе́рыла ўнучка мяне́ за шыю і ні выпускае с ха́ты – баі́цца адна́.*

БА́БА *ж.* Бэра. *Ба́бы спе́юць пад во́сень – вялі́кіе, сма́чныe. Цяпе́р не́што вывяліса.*

БАЛАНДА́ *ж.* Нясмачна прыгатаваная страва. *Ету баланду́ ты і ні пака́звай, я е́сці ні бу́ду.*

БЛЫ́НДАЦЦА *незак.* Швэндацца. *Чаго́ ты па ха́це блы́ндаеса, хоць бы зрабі́ла што.*

ВАБЖЫ́М *прысл.* У абліпку. *Усе не́як у вабжы́м купля́еш, трэ́ба ўжэ раско́шней купляць.*

ВІ́ЛАЧНІК *м.* Вугал, дзе стаяць вілкі. *У нас у ві́лачніку стая́ць ві́лкі, качарга́, чапляя́ і мяцёлка с саўко́м.*

ВО́БАЛАЧАК *м.* Воблачка. *Якра́з як во́балачэк найшо́ў і со́нцэ схава́ласо.*

ВО́БЛІЎКА *ж.* Адвар з ільнянога семя. *Во́бліўку кароове патро́шку вары́ла.*

ВО́ЧАРАДЗЬ *ж.* Чарга. *Нам яшчэ́ ні ско́ра во́чарадзь, кароў у нас цяпе́р за тры́ццаць.*

ВУ́НЬДЗЕКА *прысл.* Вунь там. *Ву́ньдзека і мятла́ стаіць, і саво́к – то́лькі во́чы раскры́й.*

ВУ́НЯКА *часц.* Вунь. *Ву́няка твае́ чо́баты і ану́чы на пло́це ві́сяць.*

ВЫ́БАВІЦЬ *зак.* Выправіць. *Як зо́йдзе, дак ні вы́бавіць с ха́ты, хоць яго ражно́м выпо́рвай.*

ВЫ́ГЛУСЦІЦЬ *зак.* Выпіць. *Вы́глусціць усе малако́ с каро́ўніка, яму́ то́лькі дай.*

ВЫ́ЛЕХЧАНЫ *прым.* Кастрыраваны. *На́шые ўсе каба́нчыкі вы́лехчаные, цяпе́р ужэ́ віціна́р ляхча́е.*

ВЫ́ЛЕХЧАЦЬ *зак.* Кастрыраваць. *Ужэ́ парася́там па пяць ты́дняў, то трэ́ба праслі́ць каго́ ды вы́лехчаць.*

ВЫ́ЦІСНУЦЬ *зак. экспр.* Выгнаць (самагонку). *Трэба к Ко́лядам хоць адзі́н чага́н сіву́хі вы́ціснуць.*

ВЯДРЫ́ШЧЭ *н.* Вядро для памыяў. *Усé памы́і злівáй у вядры́шчэ, а бáцько вы́нясе на загóн у разóру.*

ВЯЛІ́ЗАЗНЫ *прым.* Велізарны. *Юлю ні бáчыла дóўго, то нéйка вялі́зазна вы́расла, як на дражджáх.*

ГАМАНА́ *ж.* Гамонка. *Падышлá к хáце, а там гаманá на ўсю хáту.*

ГО́РНА *прысл.* Горка. *Юра абі́дзіў яе, а Юля так гóрно плáчэ.*

ГРУ́ДЗІ: ГРУ́ДЗІ ВАРО́ЧАЦЬ. Вельмі перажываць. *Паглядзі́ш на такóго мужыкá, дак тóлькі грýдзі варóчае.*

ГУЖА́ВЫ *прым.* Густы. *Вы ш гужáвае кáшы ні лю́біце, хóчаце каб жыдзéйша былá.*

ДАЙНІ́ЦА *ж.* Даёнка. *Як сáмо травá, то карóва дае малакá цэ́лу дайні́цу.*

ДЗЮ́БА: З КАМАРО́ВУ ДЗЮ́БУ. Вельмі мала. *Камякі́ нісмáчные, відáць, сáла ўкі́нула с камарóву дзю́бу.*

ДЗЯЎЧАНЯ́ТКА *н.* Дзяўчынка. *Дзяўчаня́тко харóшэ было, да ў кіпатóк шýхнуло.*

ДОЛ *м.* Падлога, памост. *Усе дóле чаганы́ пастáвіла, а дзіця́ падбéгло да гоп у чагáн, у кіпатóк.*

ДРАБАНЫ́ *мн.* Кускі. *Я драбанáмі лепш картóплі люблю́, у мянé зýбы ўсе.*

ДУБЕ́ЛЬТЫ *мн.* Падвойныя вокны. *Дубéльты трэ́ба памы́ць дай устáвіць, ужэ хóладно ў хáце.*

ЖЫД *м.* Анучнік. *Па сяле чáсто ранéй жыд éздзіў, мне нéяк скаварады́ дóбрые прадáў.*

ЗА *прыназ.* Пасля. *Нáдзя так срáзу за мнóю стáла палучáць пéнсію.*

ЗАБУШАВА́ЦЬ *зак.* Зарасці. *Ягó і сóткі ні сéяныя, забушавáлі ў зéллі.*

ЗАБЯЛІ́ЦЬ *зак.* Чуць прыбяліць малаком страву. *Ты хоць трóхі забялі́ крышаны́, а то аднá вадá.*

ЗАПО́НА *ж.* Фіранка. *Трэ́ба запóны з вóкан паздымáць ды памы́ць, жжаўцéлі саўсі́м за лéто.*

ЗА́СТУВАЦЬ *незак.* Зацямняць. *Ні зáстуй, картóплі чы́шчу, а тут цёмно, атыйдзі́ ад дзвярэ́й.*

ЗА́ШМАРГАМ *прысл.* Вузлом са свабоднай пятлёй. *Завяжы́ пярэ́днік зáшмаргам, а ні вузлом, а то рýкі ўжэ не здóляюць развязаць.*

ЗВЕКАВА́ЦЬ *зак.* Пражыць жыццё. *Мы, стары́е, ужэ́ звекава́лі, а як вам малады́м жыць?*

ЗВО́ДЫ *мн.* Плёткі. *Пражыла жыццё, то ніхто́ ніко́лі ні сказа́ў, што зво́ды рабі́ла.*

ЗДУЦЬ *зак.* Уздуць. *Здуло́ каро́ву, як бо́чка. Дайшла́ б і ўсё, каб ні аглéдзела.*

ЗЛАДЗЕЙКАВА́ТЫ *прым.* Зладзеяваты. *Нéйкі хло́пец у На́дзі расце зладзейкава́ты, з ма́лага па гаро́дах ла́зіць.*

ЗНАЙКА́ *прысл.* З самага пачатку. *У цябé су́мка знайка́ така́я га́дкая.*

ЗНАХАРЫ́ЦЬ *незак.* Прырабляць знахарствам. *Усé лю́дзі яму́ ро́бяць, знахо́раць.*

ЗНЯЧЭ́ЎКУ *прысл.* Знянацку. *Знячэ́ўку ні трэ́ба пужа́ць, а то мо́жэ забалéць на ўсю жызь.*

КАМЯКІ́ *мн.* Пюрэ. *Камякі́ вельмі сма́чныя, калі́ патаўкці́ с са́лам, да яшчэ́ с цыбу́ляю.*

КАРАВА́ЦЬ *ж.* Ложак. *Як паўзбіва́е паду́шкі, да паста́віць на карава́ць, да панакрывае накі́дкамі, то лю́бо глядзéць.*

КАРАНЁК *м.* Корань. *Адныя караванькі́ ў ро́це сядзя́ць.*

КАРБАВА́ЦЬ *незак.* Ісці бесперапынна. *Дош карбу́е другі́ дзень.*

КАРТАПЛЯ́НІК *м.* Блін з дранай бульбы. *Картапля́нікаў напяку́, у тук намача́юса – наéмса на цэ́лы дзень.*

КІВІЛЯ́ЦЬ *незак.* Ісці, кульгаючы. *Як само́й чаго́ трэ́ба, токівіля́е ў двор.*

КО́ЗЛЫ *мн.* Сталюга. *Ранéй машы́ну дро́ў на ко́злах рэ́залі ўручну́ю, а цяпéр усё электрапі́лкі.*

КУБ'ЁЛАК *м.* Кубелец. *Куб'ёлак м'яса накла́ў, на цэ́лу зі́му хопіць.*

КУДЗЯЛЯ́НКА *ж.* Посцілка, вытканая з кудзелі. *Пат кудзяля́нку патсаджу́ ру́ку дай грэ́ю.*

КУЛІ́ДКА *ж.* Булка хлеба. *У кра́ме даю́ць на ру́кі па дзве кулі́ткі, той сабé трэ́ба, дай каро́ве ўдзéнь зрэ́заць.*

КУ́РА *ж.* Курыца. *Нéшто ў нас ку́ры не вяду́цца: то здо́хне, то пад машы́ну пападзé, то на пло́це заві́сне.*

КУ́РАВО *н.* Пыл. *Здэ́цэ і ні хо́дзім у тую хату, а ку́рава пат ко́йкаю свет.*

КУШМЕ́РЫЦЬ *незак.* Напаліць печ. *Ты, мабыць, ніштава́то кушмéрыла ў пéчы.*

ЛАХМА́К *м.* Лахман. *Такі лахма́к быў, а ні каструля, а Ко́ля ўзяў і выраўнава́ў.*

ЛЕГКАЦЕ́ЦЬ *незак.* 1. Хрыпець у грудзях. *Цэлу зі́му лехкаці́ць у грудзях, відаць, бранхі́т у мяне.* 2. Лескатаць. *А ўжэ Пажарні́ца лехкаце́ла* (дровы рэзалі).

ЛЁТКІ *мн.* Дробная бульба і памідоры. *Лётак накла́лі цэлу мі́ску, хоць у стрэ́льбу зало́жвай.*

ЛУПЦАВА́ЦЬ *незак.* Смачна есці. *Кружо́к бу́льбы атрэ́жэ і так лупцу́е, аж трэск ідзе. І камяні пагрызе зуба́мі такі́мі.*

ЛУШПА́ЙКІ *мн.* Лупіны. *Ты лушпа́йкі то́нко лупі́, да ў вядро́, свінням зва́рым з бурака́мі.*

ЛЮМІНЁВЫ *прым.* Алюміневы. *Мне люмінёва мі́сачка трэ́ба.*

ЛЮТАЕ́ЖЛІВЫ *прым.* Пераборлівы ў ядзе. *Штоб ты такі́ быў лютае́жлівы, саўсі́м слабо ясі́.*

МА́БІЦЬ *прысл.* Мабыць. *Ето, ма́біць, Іван абдумаўса, назаўтрэ ра́но сеў і паехаў у Салігорск.*

МАЦА́К *м.* Моцнае яйка, якім выігрываюць многа бітак. *На Па́сху дзе́ці лю́бяць у мацакі́ гуля́ць, да і мушчы́ны каля́ магазі́на збіра́юцца.*

МАЦЁРА *ж.* Свінаматка. *Мацёру трэ́ба аддзе́льно атагнаць і гусцёй паткармліваць.*

МІЖ *прысл.* Паміж. *Вот э́так о між крава́цю ста́ла, уся стулі́ласа – ня хо́чу, Але́нка, паміра́ць, штоб яе пе́рун ля́снуў, е́ту смерць.*

МІ́КАЦЬ *незак.* Крычаць (пра цяля). *Як каро́ву вы́ганяць на па́шу, то цяля цэлы дзень мі́кае.*

М'ЯРТВЫ *прым.* Мёртвы. *Усе м'я́ртвые паўстаю́ць, як запяю́ць каля́ кладо́ў.*

НАБІ́РКА *ж.* Невялікая пасудзіна для ягад. *Як пайду́ ў чарні́цы, то вядро́ цэ́лэ нашуплю́ю, да яшчэ́ і набі́рку.*

НА́ГАЛО *прысл.* Дагала. *Нейкі ліша́й на галаве, то трэба на́гало пастры́гчыса.*

НА́ДГАЛАДЗЕНЬ *прысл.* Недаеўшы. *Хай кабылка лепш на́дгаладзень, чым пера́есь. А пера́есь – тады атхварэ́е.*

НАКІ́НУЦЬ *зак.* Зрабіць. *Вам накі́нуто на ўсю́ худо́бу, саба́кі і ты́я бале́юць.*

НАПА́СЦІ *зак.* Настаць. *Яньí так збірáюцца, што вéчар нападзé.*

НАПО́ЙКІ *мн.* Наліты поўна. *Цяпéр гарбузікі пустыé, а бывáе ж пóўные, як напóйкі.*

НАПРАСТКІ́ *прысл.* Наўпрост. *Нашто́ мне абыхóдзіць так далéко, я лепш напрасткí – і на свінáрніку.*

НАРА́НКІ *прысл.* Удзень. *У нас нарáнкі каровы прыганя́юць, а пóсле абéда, калі жарá спадзе, выганя́юць.*

НАРАСХРЫ́СТ *прысл.* Нараспашку. *Усе адзéнне нарасхрыст, і так ляціць па вýліцы.*

НАРО́ЧНА *прысл.* Знарок. *Кажу выгані кýры за вýліцу бáцьку. А ён нарóчно дзяржыíць у запóры.*

НАСО́ЎВАЦЬ *незак.* Нацягваць. *К рáніцы началó насóўваць, і пашóў дош.*

НАХЛІ́СТАЦЦА *зак.* Наесціся. *Нахлíстаўса крышанóў, дай ляжыí на печы цэлы дзень.*

НЕ́НЗА *ж.* Неспакой. *Нéнза была на кабылу напáла, на абрóць кабылу пастáвіў, а маладóе – палятáць хóчацца.*

НІЗА́ШТО *прысл.* Нізашто. *Вот харóша твая́ дóчка, змянíласа, нізáшто б ні пазнáла.*

НІЎПАВА́ЦЬ *незак.* Не разумець, не думаць. *Тагó ніўпавáе, што бацькí пракармíлі цэ́лэ лéто яго.*

НІ́ШКАМ *прысл.* Моўчкі. *Бацькі хай свáрацца, а ты залезь на печ і сядзí нíшкам.*

ПАВЯРГО́Н *м.* Герань. *Я люблю́, калі на вокнах улетку павяргóны цвітýць.*

ПАГО́НІСТА *прысл.* Хутка. *Як дробные картóплі, то выбіраць ні пагóністо, а вялíкіе – пашóў і пашóў.*

ПА́ДАЛЬ *зб.* Здыхляціна. *Усю пáдаль у Бадунóвые вязýць.*

ПА́ДАНКІ *мн.* Апад. *Пáданкі кóжны вéчар карóве рэ́жам, а сабé ўжэ здымáем.*

ПАДПА́ХВЫ *мн.* Падпахі. *Вазьмі яе падпáхвы, пацягáй па дварý.*

ПАДПРА́ВІЦЦА *зак.* Падрасці. *Дош пашóў, то трóхі буракí патпрáвяцца.*

ПАДРУ́КІ *прысл.* Падпахі. *Схапíў падрýкі і пацягнýў у хáту.*

ПАДУЗО́РНІК *м.* Падзор. *Падузóрнікі яшчэ вісяць у сялé.*

ПАЛЕ´ГЛІЦА *ж.* Палёглы лён. *Цяпéр ні лён, а аднá палéгліца, вельмі ж цяжко яго браць.*

ПАЛЮ´ДНО *прысл.* Па-людску. *Еслі б я бáчыла, што ён рóбіць палюдно, я б усе яму далá.*

ПАНАПЕ´РВАЦЬ *зак.* Насыпаць зверх меры. *Цэлэ карыто панапéрвае мукі і пад ногі.*

ПАНТАЛЫ´К *м.* Парадак, паслядоўнасць. *Ты мяне збіў с панталыку, а цяпéр што рабіць мне і ня вéдаю.*

ПАПАЛУПА´СІЦЬ *зак.* Папабіць. *Як была малáя, была праціўна, то мáці і папалупáсіла папрýгаю.*

ПАПЯРЭ´СЦІЦЬ *зак.* Дрэнна зрабіць. *Картоплі ні прапалóла дóбрэ, а толькі папярэсціла.*

ПАРАСЮ´К *м.* Парася. *Малéнькіх парасюкóў яна набрáла, падлóгу паслалі, усхóды парабілі і свінне сталі высóко.*

ПАСУРО´ЖВАЦЬ *зак.* Пакалечыць, пакрывіць. *Пасурожваеш пальцы ў бóтах, то ні рáда бýдзеш свéту, музылёў панаганяеш.*

ПЕ´НДЗЕЛЬ *м.* Пэндзаль. *Нéйдзе ў мянé пéндзель яшчэ ляжыць у патпéчку.*

ПЕРАНО´СІЦА *ж.* Пераноссе. *Ішла ў дварэц к свіннямм да перанóсіцай аб насілле, так сцямнéло ў вачáх.*

ПЕРАП'Я´ЦЦА *зак.* Высахнуць. *Ты паглядзі на яго, увесь перап'яўса, жывóт к спіне пацягло.*

ПІЛНАВА´ЦЬ *незак.* Пільнаваць. *Пілнавáць дзіця як вóко ва лбе трэба.*

ПЛАЎЦЕ´ЦЬ *незак.* Плаваць. *І плаўцяць картоплі ў сáле.*

ПО´ДРАСТАК *м.* Хлапчук малога ўзросту. *На лісапéт сядзе, дак ляціць, як пóдрастак.*

ПРАЗ *прыназ.* Аб. *Як паéдзеш у гóрат, то бýдзе млóсно нам, бýдам успамінáць, як праз Юлю гаварылі, калі паéхала.*

ПРЫЛЯЦЕ´ЦЬ: ПРЫЛЯЦЕ´ЦЬ КУ´БАРАМ. Моцна, хутка бегчы. *Як учуў Коля, што дóчка прыéхала, то прыляцéў кýбарам с канюшні.*

ПРЫПУСКА´ЦЬ *незак.* Рухацца з затрымкамі, падпасваючы (пра жывёлу). *Яшчэ гнаць карóвы ранавáто, а паціху прыпускáць ужэ мóжно.*

ПУЛЯ́ЦЬ *незак.* Кідаць з сілай. *Такі хлеб чо́рствы, хоць у сцэ́ну пуля́й, толькі свіння́м намачы́ць ці быку́.*

ПЯРЭ́СТЫ: НА ПЯРЭ́СТЫХ КО́НЯХ. Пра няўстойлівасць надвор'я. *Вясна і во́сень на пярэ́стых ко́нях.*

РАДАБО́ДЗЬЕ *н.* Рэдкая тканіна. *Каб якое радабо́дзье, то ні насі́ла б, а мо́цнэ, той но́сіцца.*

РАСПЛАТА́ЦЦА *зак.* Расцягнуцца. *За ка́рак Валю, дай пусці́ў, яна́ расплата́ласа і ляжы́ць.*

РАСПШЫ́КАЦЬ *зак.* Распусціць (грошы). *Палучы́ў пе́нсію і за месяц усю распшы́каў.*

САЦІНЕ́ВАТЫ *прым.* Сацінавы. *Сацінэ́ватые – мо́цные спадні́цы.*

СВАРЫ́ЦЦА *незак.* Сварыцца. *Як мужык і жонка ядзя́ць адной ло́жкай, то сварі́цца бу́дуць* (прыкмета).

СКАМЯ́КАЦЬ *зак.* Скамячыць. *Узялі́ Ко́ліну ку́ртку да скамя́калі ўсю, трэ́ба адзе́ць – хай выпрастаецца.*

СКРОЗЬ *прысл.* Увесь час. *Трэба было б скрозь штоб папасма́г да папахварэ́ў.*

СЛІЗКАТА́ *ж.* Слізота. *На ву́ліцы дош, слізката́ страшэ́нна.*

СНО́ЎГАЦЦА *незак.* Хадзіць без работы. *Ні сно́ўгайса па хаце, лепш ляш да паляжы.*

СТАГНАЦЕ́ЦЬ *незак.* Стагнаць. *Карова гоп на зе́млю і так стагнаці́ць.*

СТРАПЯНУ́ЦЦА *зак.* Скалануцца. *Страпяну́ласа ўся, як пасту́калі ў шы́бу на Шчо́дра.*

СТРАПЯТА́ЦЬ *незак.* Неразборліва гаварыць. *Бацько страпе́чэ і сам ні разбірае што.*

СТРАСНУ́ЦЬ *зак.* Страсянуць. *Падаждзжы, я пайду страсну́ табе яблык.*

СТУДЗЯНІ́НА *ж.* Квашаніна. *Ма́ці ўсягда́ к пра́знікам студзяні́ну вары́ла і така́ сма́чна.*

СТУЖАВА́НКА *ж.* Саматканая пасцілка. *Стужава́нкі цяпе́р на пе́чы, на іх ляжа́ць здо́рава.*

СЦЯНУ́ЦЦА *зак.* Кранууцца. *Сам бе́гае, усе ро́біць, а яна ні сцяне́цца.*

СЫПО́НІЦЬ *незак. перан.* Ісці. *Дош сыпо́ніць і сыпо́ніць цэ́лы дзень.*

ТА´ЙНЫ *прым.* Скрытны. *Ба́ба хі́тра і та́йна, нічо́го не пачу́еш.*

ТУ´ТАКА *займ.* Тут. *Але мо ту́така ў Ву́лі былі, бо свету не було ў Ва́лі.*

УДЗВЕ´ЙГУ *прысл.* У дзве столкі. *Прасушыла ўсе ў шкафу і ўвесь мацер'ял удзьвейгу склала.*

УКРАДКІ´ *прысл.* Употайкі. *Украткі́ ад Во́лі ўсе ў халадзі́льнік бе́гае.*

УПО´КАТ *прысл.* Покатам. *Раней у адной хаце ўсе на палку́ ўпо́кат спалі.*

УСЯГДА´ *прысл.* Заўсёды. *Усягда́ стараюса выбраць карто́плі, як цёпло.*

УТАЛХАВА´ЦЬ *зак.* Растраціць. *Ле́тась усе гро́шы ўталхавала на муку.*

УШУ´ШКАЦЦА *зак.* Цёпла апрануцца. *Добрэ ўшу́шкайса, штоб ніякі ве́цер цябе не прадуў.*

ЦУ´РБАЛКА *ж.* Сцябло расліны. *Жукі паелі ўсе карто́плі, адные цу́рбалкі асталіса.*

ЦЫБА´ТЫ *прым.* Высокі. *Прынясла́ на буракі́ цыба́ту пляшку віна́ – дапіва́йце жанкі, усю́ дапіва́йце.*

ЦЫ´РКАЦЦА *незак.* Марудна рабіць. *Што ты цы́ркаесса з гэтымі карто́плямі, парві зверху зе́лле дай до́брэ.*

ЧАСО´ЎКА *ж.* Пасма нітак на клубку. *Намата́е шмат клубкоў, да ўсе часо́ўкамі.*

ЧУТНЫ´ *прым.* Адчувальны. *Кохта вы́нашана, яна і ні чутна́я – рэ́тка, як рэ́шато.*

ШАП'ЁНКА *ж.* Пячурыца. *Яблыко м'я́ке, як шап'ёнка, я тако́ не бу́ду е́сці.*

ШАРАШЫ´ЦЬ *незак.* Трэсці. *Ні шарашы́ гразнымі штана́мі, пылу ні ганя́й.*

ШВЫ´РКНУЦЬ *зак.* Усхапіцца. *Яна швы́рк і пашла з дзяўка́мі паўз са́мые клады́.*

ШВЭ´НДАЦЦА *незак.* Хадзіць без справы. *Цэлы дзень швэндаецца па двару, ці сядзіць на Барсуковай лаўцэ.*

ШКРАБАКІ´ *мн.* Паношаны абутак. *А шкрабакі́ кара́вые, ногі памы́еш – ізноў у іх.*

ШЛЕЙГАНУ´ЦЬ *зак.* Сцебануць. *Шлейгані́ там пу́гаю каро́ву, ніха́й ідзе на мох.*

ШМО´РГАЦЬ *незак.* Рваць, цягнучы рукой па галінцы. *Калі чарніц мно́го, то іх толькі шмо́ргай, уміг вядро́ нашмо́ргаеш.*

ШУРУ´ХНУЦЬ *зак.* Праявіць шум. *Ніхто ля нас і ні шуру́хнуў у я́гады, маўча́лі ўсе.*

ШЭ´РАН *м.* Мароз з туманам. *Зімо́ю такі шэ́ран быва́е на дварэ́ – вачэ́й ні атарва́ць.*

Я´ДКІ *прым.* Злосны. *От і яткі саба́ка, ніко́го ні прапу́сціць.*

ЯНВАЛІ´Д *м.* і *ж.* Інвалід. *Які яна янвалі́д па ста́расці, ніхто ёй беспла́тно жаць ні бу́дзе.*

*А. К. Усціновіч*

## ЛЮБЕЦКІЯ СЛОВЫ

Лексічны матэрыял з'яўляецца працягам артыкулаў, змешчаных у папярэдніх зборніках[1]. Там жа адзначаюцца характэрныя асаблівасці гаворкі в. Купіск Навагрудскага раёна. Яна вельмі вялікая і складаецца з трох частак – Купіск Вялікі, Купіск Другі (ці Паргавічы) і Купіск III (ці Любешчына), але афіцыйна ўжываецца адна назва, а Паргавічы і Любешчына – так дыферэнцыруюць самі жыхары. Разам з тым варта назваць, акрамя таго, яшчэ такія фанетычныя і марфалагічныя рысы:

1) вымаўленне постфікса *-сь* у зваротных дзеясловах;

2) наяўнасць прыстаўнога *в* у пачатку слова (*вочарадзь, вуксус, вундзя*);

3) аглушэнне звычных гукаў у канцы слоў і перад глухімі (*клуп, брытко, гатко*);

4) наяўнасць выбухнога *г* (*ґарнец, ґанак, ґузік*);

5) наяўнасць канчатка *-аў* у назоўнікаў ніякага роду множнага ліку (*вокна, вёдра, сёла*).

АБЕ´ЧАК *м.* Вобад у рэшаце. *Абечак трэснуў, а сіто яшчэ цэлаё.*

АСКО´МІНА *ж.* Аскома. *Зьела яблыко кіслаё, цяпер аскоміна на зубах, нічого не магу ўзяць у рот.*

---

[1] З народнага слоўніка. С. 53–63; Народнае слова. С. 236–241; Народная лексіка. С. 151–155; Народная словатворчасць. С. 41–49; Жывое наша слова. С. 105–114; Да слоўніка Навагрудчыны. С. 105– 115.

АХВАТНЕ´Й *прысл.* Ахвотней. *Разам ахватней есьці.*

БА´ЛО *пабочн.* Бывала. *Бало ў сьвятыя вячары зьбіраліся да каго ў хату ды расказывалі, што дзе чулі.*

БЛАЖНЕ´ЦЬ *незак.* Худзець. *Шмат работы і клопату, таму блажнею.*

БЛЫ´НДАЦЬ *незак.* Швэндаць без работы, без справы. *Паўдня блындала па хатах, дровы ў печы пагарэлі, нават сьнядання ня зрабіла.*

БРА´ЦЦА *незак.* Чапляцца на кручок. *Добра бярэцца рыба на гарох.*

БУДЗІ´ЦЬ ПЧОЛ. Стукаць у вулей на Грамніцы, каб знаць, што жывыя. *Бацько як стукня па вулью, пчолы загудуць, значыць перазімавалі.*

БУ´ДНІ *прым.* Штодзённы, не святочны. *Зьмяні буднюю сукенку на сьвяточную ды ідзі ў лаўку.*

БУ´РКІ *мн.* Пашытыя з суконнай тканіны валенкі. *Лепшаго вобую, як буркі, ня было, лёгко і цёпло.*

ВАРАВА´ЦЦА *незак.* Пабойвацца. *Такі неслух вырас, толькі трохі яшчэ бацькі варуяцца.*

ВІЖАВА´ЦЬ *незак.* Сачыць за кім-н., пільнаваць каго-н. *З-за вугла выглядае, віжуя, як сусет пчол глядзіць, мёт дастае.*

ВО´МШАР *м.* Амшара. *Знайшлі ў леся вомшар, чарніц хоць граблямі грабі.*

ВО´ЧКА *н.* Акно ў рыбалоўнай сетцы. *Вочкі ў сетцы розныя: для вялікай рыбы большыя, для малой – маленькія.*

ВЫ´ЖАНУЦЬ *зак.* Выгнаць, прагнаць (пра жывёлу). *Сонцо ўстало, каровы выжані на пашу.*

ВЫ´ПШЫКНУЦЬ *зак.* Распусціць (грошы). *Выпшыкала ўсе грошы на абы-што, цяпер на патрэбу ня засталось.*

ВЫ´СКУРЫЦЬ *зак.* Паспець усюды, змагчы зрабіць усё. *Як я магу выскурыць і печ паліць, і дзяцей даглядаць.*

ВЫ´ТРАСЦІ *зак.* Узяць рыбу цішком з чужых венцяроў. *Добра быць зухам, калі вытрасаць чужыя вянцяры, есьці рыбу і ног не намачыўшы.*

ВЫ´ЦІСНУЦЬ *зак.* Выгнаць (пра самагонку). *Ходзіць, цяляпаяцца, відаць, выціснула марматуху.*

ВЫЦЯ´ГВАЦЬ ПАЛ. Змяншаючы тэмпературу, абязбольваць. *Зрабі кампрэс на руку, хай пал выцягвае.*

ГАВЭ´НДА *ж.* Гутарка. *Ніякай гавэнды ня будзя пра такі пасаг.*

ГАРУ´ШЧЫ *прым.* Гаротны. *Жонкай яна стала добрай, бо расла ў горы, гарушчая была.*

ГАРЭ´ЛІК *м.* Бульба з прыгарэлым верхам. *Ужо зварылась картофля з гарэлікамі.*

ҐЕ´БНУЦЦА *зак.* Памерці. *Яшчэ ня стары, а ґебнуўся.*

ГІЛЯВА´ЦЬ *незак.* Не працаваць, весці загульнае жыццё. *Усю жызнь гілюя, таму такі гладкі, спраўны.*

ГО´ЙДАНКА *ж.* Гушкалка. *Як павесілі гойданку, дзеці нікуды ня ідуць, дома круцяцца.*

ГУСЦІ´ *незак.* Плакаць. *Як памёр мужык, то месяц прайшоў ужо, а яна усё гудзе.*

ГУ´ТАЦЬ *незак.* Гушкаць. *Вечарам сына гутае, пасадзіўшы на нагу.*

ДАЛЯГА´ЦЬ *незак.* (звычайна з адмоўем ’не’). Адчуць. *Скажы той дзень, калі будзя далягаць, каб паглядзець на цябе.*

ДАНО´САК *м.* Абносак. *Ёй усё новае ды новае, а мне даноску будзь рада.*

ДА´ЦЦА *зак.* Схуднець. *Як нарадзіла дзіця, так далася, што ня пазнаць – шкура і косьці.*

ДРАЖНІ´ЦЬ *незак.* Крывіць каго-н. *Ня дражні, як старыя ядуць, ходзяць, сам будзяш такім.*

ДРАПА´К: ДАВА´ЦЬ ДРАПАКА. 1. Уцякаць з усіх сіл. *Во давалі драпака як убачылі, што палявы ідзе займаць кароў, што ў віку зайшлі.* 2. Заўзята танцаваць. *Толькі і можа, што даваць драпака на гуляні, першы пойдзя і апошні станя.*

ДУБАРЭ´ЦЬ *незак.* Мерзнуць. *У хаце дубарэю, стаяк ня прапаліла, замарылась.*

ДУША´ *ж.* Паветраны мяшок у рыбы. *Так страляя душа моцна, як стукняш нагой.*

ЖАГЛЯВА´ЦЬ *незак.* Дзьмуць, дуць моцна (пра вецер) праз шчыліны. *Ня сядзі на лавя ля акна, вецяр там жаглюя.*

ЖА´ДНЫ *прым.* Ніводны. *Жаднай капейкі няма ў кішэні, а нос да неба задзірая.*

ЖЫ´ЛКА *ж.* Лёска. *Сома ня выцягнеш на такую тонкую жылку.*

ЗАБРЫ´НДАЦЦА *зак.* Заляпацца граззю. *Падымі спадніцу, а то забрындаяшся да самой шыі.*

ЗАВА´ЛІНА *ж.* Завала. *На заваліну дзверы запры, а то і вуглы панясуць.*

ЗБРЭ´СКЛЫ *прым.* Кіславаты (пра малако). *Адкіпеў крупнік, бо было малако збрэсклае.*

ЗБЭ´РСАЦЬ *зак.* Паблытаць. *Каб акуратно зьвіць ніці, дак збэрсала, жмутак нарабіла.*

ЗВЕКАВА´ЦЬ *зак.* Застацца ў дзеўках. *Такая дзяўчына спраўная, а так і звекавала адна, натта доўга выбірала пару.*

ЗГА´ДЗЯЦЬ *зак.* Надаесці. *За цэлы дзень аш згадзяла сваім ныццём: то тое дай, то гэтага ня хачу.*

ЗМА´ХВАЦЬ *незак.* Быць падобным на каго-н., да каго-н. *І ўсё ж больш змахвая на бацьку тварам.*

КАСТРО´ВЫ *прым.* Расколаты (пра палена). *Кастровыя палены сухія, добра гараць у печы.*

КАЎТНУ´ЦЬ *зак.* Глынуць. *Хоць рас каўтні, паглядзі, як смашна.*

КЛЭ´ПША *ж.* Жанчына, якая скрыўляе абутак пры хадзьбе. *Гэтай клэпшы што ні купі, усё скрывіць, згадзіць.*

ЛУПА´СІЦЬ *незак.* Біць, лупцаваць. *Добра лупасіла за тое, што з'ілгала, не прызналась.*

МАЛІМО´НІЦЬ *незак.* Назойліва прасіць, выпрошваць, дамагацца свайго. *Як прыдзя, як пачне малімоніць, з хаты ня выдзя датуль, пака ня дасі гарэлку, грошы ці яшчэ што.*

МАРМАТУ´ХА *ж.* Самагонка. *Што ж гэта за праява, каб marматуха трохлітровымі слоікамі стаяла на сталах.*

МАРСЬКАНУ´ЦЬ *зак.* Стукнуць, ударыць, даць чым-н. гнуткім (вяроўкай, лазіной).

МАСЦЬ *ж.* Мазь. *Ударыла калено, трэба масьці прыкласьці.*

МАЦЮКІ´ *мн.* Лаянкавыя брыдкія словы; **гнуць м.** – перасыпаць сваю мову мацюкамі.

МУДА´К *м.* Неразумны чалавек. *Хіба ж гэты мудак спляце добры кош?*

МУ´РЗАЦЦА *незак.* Зацягвацца хмарамі (пра неба). *Нешта неба мурзаецца, дошч можа быць.*

МУ´СІ *пабочн.* Можа быць, можа. *Бацька, мусі, ўжо дома, позно.*

НАВО´ДЛЯХ *прысл.* Ад сябе. *Ня лій гарэлку наводлях, так толькі кепскае жадаюць, а не спрыяюць.*

НАВЫ´ЛЯТ *прысл.* Навылёт. *Куля навылят прайшла праз ладонь.*

НАЙГРА´НЫ *прым.* Апладнены. *З усіх найграных вылупіліся куранята, ніводнае ня прапала.*

НАРА´ВІЦЦА *незак.* Падабацца. *Яе хлопцы наравяцца ўсім, добрыя, паважныя, ня гультаі.*

НАСЦЁБАЦЬ *зак.* Налавіць рыбы вудай. *За раніцу на вуду вядро плотак насцёбаў.*

НАТУ´РЫЦЦА *незак.* Наравіцца. *Няма чаго натурыцца, перапрасі мацяру ды гавары, як нічого і ня было.*

НА´ЎЗНАЧ *прысл.* Наўзніч. *Пасьлізнулася і павалілась наўзнач, сьпіну моцно ўдарыла.*

НАЎСКАПЫТА´ *прысл.* З усіх сіл бегчы, хутка. *Ляцеў наўскапыта, зачапіўсь і моцна ўдарыўся.*

НАЎСКАСЯ´К *прысл.* Напрамік. *Калі ісьці наўскасяк, то дарога ж будзя, пэўно, карацейшай, але ж варона наўскасяк лятая, але ніколі дома ня бывая.*

НАХЛІСТА´ЦЦА *зак.* Напіцца гарэлкі. *Як дабраўся да гарэлкі, то так набраўся, што трэба было дабірацца на падводзя.*

НІЧАПА´НЫ *прым.* Некрануты. *Крупнік у печы нічапаны, ніхто лошкай ні баўтануў.*

НЯМКІ´НЯ *ж.* Немка. *Ты што, нямкіня, што ніводнаго слова ня выгаварыла.*

НЯХЛЮ´ДА *ж.* Неахайная жанчына. *У гэтай няхлюды баісся ўзяць што папробаваць.*

ПАБЛАЖЭ´ЦЬ *зак.* Пахудзець. *З гэтых перажыванняў мацi так паблажэла, ходзіць як цень.*

ПАДГА´РЛЁ *н.* Падбародак. *Падгарлё вісіць складкамі, бо сама як туча, тоўстая.*

ПАДНЯБЕ´НЁ *н.* Скляпенне ў печы. *Трэба печ перарабліваць, с паднябеня выпадаюць кавалкі цэглы.*

ПАДУ´ЧКА *н.* Эпілепсія. *Замуш ня вышла, баялась падучкі ў хлопца.*

ПАДХЛЯ´БІСТЫ *прым.* З упалымі бакамі (пра жывёлу). *Ад такой падхлябістай каровы малака ня чакай.*

ПАДЧАРЭ´ВІНА *ж.* Сала з падчарэўя. *Патчарэвіна цвёрдая ня ўкусіць, хіба што толькі паварыць.*

ПАКРЫ´ШКА *ж.* Для падушкі пакрывала. *Раней цяжко жыць было, пакрышкі рабілі з марлі.*

ПАПА´РЫЦЦА *зак.* З'явіцца, наведацца куды-н. *Хай толькі папарыцца тут, тады ёй ня здабраваць, палучыць і ў хвост і ў грыву.*

ПАПО´КАЦЦА *зак.* Патрэскацца (пра пупышкі). *Пашло на цяпло, дак пупышкі за дзень папокаліся.*

ПАПЭ´КАЦЬ *зак.* Пакурыць. *Вазьмі во цыгарку ды папэкай.*

ПАСТАЎНІ´К *м.* Дарога простая, па якой толькі людзі ходзяць. *Ішла ў Любчу, а на пастаўніку дагнала аграномку.*

ПА´ТКІ *прым.* Сквапны. *Згарэў ад гарэлкі, бо ш такі паткі быў да яе.*

ПАТПАВЕ´ТКА *ж.* Навес пры гумне, ababіты аполкамі. *Сані і калёса стаяць у патпаветцы.*

ПАТПЛЁТ *м.* Лыка для падплятання лапцяў. *Зняў кару з ліповых галін, падраў на палосы, будз патплёт добры.*

ПАТСЦЁЛ *м.* Падсціл. *Салома пасля малатарні ідзе на патсцёл каровам.*

ПАТСЯВА´ЦЬ *незак.* 1. Рэшатам веяць. *Патсяваць жыта.* 2. Хлусіць, гаварыць няпраўду. *Лыжэ ня патсяваючы, слухай, што на вярбе грушы растуць.*

ПЛАТА´ЦЦА *незак.* Кідацца, быць неспакойным пры высокай тэмпературы. *Жара вялікая, усю ноч платаўся.*

ПЛЮШЧЫ´ЦЬ *незак.* Хлюпаць. *Плюшчыць у бацінках, набрала вады ў боты, граская дарога.*

ПРА´ВО ПРА´ВІЦЬ. Рабіць што хацець. *Управы яму няма, сваё права правіць.*

ПРАЛЫ´СІЦЬ *зак.* Падмесці, памыць (падлогу) не поўнасцю і акуратна, а месцамі і абы-як. *Пралысіла падлогу, а пад сталом, лавай як ляжала смецё, так і засталось.*

ПРУ´ШЧЫНА *ж.* Сорт белага палатна, якое выкарыстоўваецца для бялізны. *Раней прушчына была частая, моцная, як шкура, а цяпер – адна рэдзясь.*

ПРЫВАРЫ́ЦЬ *зак.* Забяліўшы, давесці да кіпення. *Забялі зацірку ды прывары, глядзі, каб ня пабегла.*

ПРЫГА́РАК *м.* Бульба з прыгарэлым верхам. *Картофлі з прыгаркамі, бо не накрыла вечкам чыгун.*

ПРЫПУСЦІ́ЦЬ *зак.* Запусціць у добрую траву, каб наеліся (пра каровы). *Каровы як пачынкі сталі, як прыпусціла іх у сянакос.*

ПРЭ́НТКО *прысл.* Хутка. *Прэнтко збірайсь, тады усьпеяш на аўтабус.*

ПЫ́ЦЯЛЬ: ДАЦЬ ПЫ́ЦЯЛЮ, ПЫ́ТЛЮ. Накрычаць, насварыцца. *Дала пыцялю, пытлю, што сено пад дошч папало.*

ПЭ́КАЦЬ *незак.* Курыць. *Ня хавайсь, можаш пэкаць пакуль бацька ня пабачыў.*

ПЯРГА́ *ж.* Яда маладых пчол. *Мёд быў ня весь пячатны; шмат пяргі ў ём, маладыя пчолы жывяцца ёй.*

ПЯРО́ *н.* Ліст цыбулі. *Цыбуля як лаза, нашчыпай пёраў ды зрабі са сьмятанаю.*

ПЯЧУ́РКА *ж.* Нара ў беразе ракі, у якіх жывуць птушкі – берагарулькі. *На беразе Нёмна шмат пячурак, але туды ня далезяш, бо бераг высокі, а з чайкі рука не дастае, каб паглядзець птушанят.*

ПЯЧУРЫ́НЫ *мн.* Шампіньёны. *Шмат пячурынаў нарвала на пашы, іх там хоць касой касі.*

РАЗБАЗЫ́РАЦЬ *зак.* Рабіць, што хацець і як хацець, не падпарадкоўвацца нікому. *Да таго разбазыраў, што кажы, хоць не, а ён сваё.*

РАСПУКНУ́ЦЦА *зак.* Распусціцца. *На ліпя пупышкі ужо распукнулісь.*

РАССУ́НУЦЬ *зак. безас.* Страціць здольнасць валодаць сабой пры моцным нечаканым узрушэнні. *Мяне аж рассунула, як пачула, што хлопяц у Нёмні ўтапіўсь.*

РО́ЗЛЯХ ІДЗЕ́. Разносіцца, пашырацца (пра шум, крык і інш.). *Такую сварку падняли, што розлях ідзе па сяле.*

САЛО́НЫ *прым.* Салёны. *Такоё салонаё мясо, што аш горкаё.*

СЕ́ДАЛО *н.* Шасток. *Куры ўжо на седале зразу пасля палудня.*

СІ´КАЎКА *ж.* Зробленая забаўка для аблівання вадой. *З трасьціны зрабіў сікаўку, то і дзяцей аблівае і сам ходзіць мокры.*

СКАПЫТА´ *прысл.* З усіх чатырох ног. *Коні паляцелі скапыта, як загула машына.*

СЛЯПЯНДЗЯ´ *м.* і *ж.* Сляпы, недабачваючы чалавек. *На самым віду ляжыць хустка, а сляпяндзя ўсю хату звярнула шукаючы.*

СЦЭ´ДКІ *мн.* 1. Тое, што засталося пасля сцэджвання вадкасці. *На дне вядра засталісь толькі сцэдкі, каламута, што асела з вады.* 2. Нязначная, малая колькасць таго, што сцякае. *Вылій у чарку сцэдкі, каб былі дзеткі.*

СЯЛЕ´ДЗЯЎКА *ж.* Бочачка з-пад селядцоў; селядзёўка. *Парыла сяледзяўку кіпяткам, сіраўно смрод есць.*

ТРАПЯТУ´ХА *ж.* Старанная, руплівая жанчына. *У гэтай трапятухі заўсёды агонь гарыць – ці рана, ці позна.*

ТУ´ХНУЦЬ *незак.* Доўга спаць. *Уставай, досыць тухнуць, работы хоць разарвісь.*

УДЗВЕ´ЙГУ *прысл.* У дзве столкі. *Складзі нітку удзвейгу, мацней будзя і трымаць будзя лепяй, як прышыяш.*

УДУШЫ´ЦЦА *зак.* Дзецца, падзявацца невядома дзе. *Дзе ты ўдушылася, паўдня, а цябе няма.*

УЗРО´ШЧА *ж.* Рост, развіццё дзіцяці. *Хлопец кепско есьць, думала што хворы, аш дохтарка кажа, такі рост, узрошча.*

УКЛЯ´ПАЦЦА *зак.* Закахацца. *І ў каго ён толькі ўкляпаўся: у жанчыну з дзіцям.*

УНУ´РЫЦЦА *зак.* Настойліва займацца чым-н. *Як унурыцца у вязанё, то хоць страляй, яна нічога ня чуя і ня бачыць.*

ХА´ЎКАЦЬ *незак.* Чуць дыхаць. *У хлопца жара, баліць у грудзях, што ледва хаўкая.*

ХОЦЬ РАСПЕРАЖЫ´СЬ. Пра вялікую колькасць яды. *Еш хоць распяражысь, ніхто ня забароніць.*

ХЭНЬЦЬ *ж.* Жаданне. *Калі хэньці няма, так усякая работа з рук валіцца.*

ЦАПУ´-ЛАПУ´ *прысл.* Абы-як. *Ці ш гэта работа, прыляцела, пахватала цапу-лапу, ды назад.*

ЦЕ´ПЯРСЯ *прысл.* Даўно. *Цепярся кончылась работа, а яго ўсё няма дома.*

ЦЫ́РКАЦЦА *незак.* Выдаваць, аддаваць што-н. пакрысе. *Грошы пазычаў адразу ўсе, а цяперака цыркаўшся па пяцёрцы.*

ЦЯ́МЦІ-ЛЯ́МЦІ *м.* Нерашучы, нясмелы, безыніцыятыўны. *Хіба гэта мужык, ён жа цямці-лямці: ня зрабіць, ня папрасіць, ня пагаварыць.*

ШАНАВА́ЦЬ *незак.* Берагчы (пра адзенне). *Шануй адзежу дома, то яна пашаная сярод людзей.*

ШАРХАНУ́ЦЦА *зак.* Зачапіць трошкі, дакрануцца. *Няўспееш шархануцца, а яна крычыць.*

ШЛЫ́КАЦЬ *незак.* Выцягваючы пасмы кудзелі, лёну хутка спрадаць, скручваць іх. *Шлык, шлык і ручайка, як пачынак.*

ШМО́РГАЦЬ *незак.* Рваць, усёй рукой цягнучы па ветцы, сцяблу. *Шморгаць авёс для трусоў.*

ЯК КРОЎ З МАЛАКО́М. Пра здаровую, прыгожую маладую дзяўчыну (хлопца). *Не дзяўчына, а ўся кругом як кроў з малаком.*

*С. І. Фацеева*

## З ЛЕКСІКІ ГАВОРАК БЯРЭЗІНСКАГА РАЁНА

Словы, змешчаныя ў артыкуле, сабраны ў вёсцы Дзмітравічы і навакольных з ёю ў час палявой дыялекталагічнай практыкі студэнтаў факультэта беларускай філалогіі і культуры БДПУ імя М. Танка ў 1992 годзе.

АНТАЛЯ́ЖЫ, АНТЫЛЯ́ЖЫ *мн.* Карункі. *Усё сама ро́біла: тка́ла, вышыва́ла і антыля́жсы на рушні́кі пляла́.* Шавярнічы.

АХА́ІЦЬ *зак.* Прыбраць. *Прышла́ вя́сна, пацí́ху во́кны, столь ахáіла.* Міхеевічы.

БЕЛІТРА́МА *ж.* Драўлянае ўпрыгожанне вокнаў з вонкавага боку. *Раней на во́кнах ве́льмі до́брыя белітра́мы былí́, іх заўсёды фарбава́лі.* Дзмітравічы.

БРУ́СНІК *м.* Шафер. *На зару́чыны жанí́х е́хаў з бацькамі, бру́снікам, з мату́сяй.* Шавярнічы.

БУКАВІ́НА *ж.* Ямка, выемка, дзе стаіць вада. *Так до́ўга дажджу́ не было́, аж у букаві́не вада́ вы́сахла.* Дзмітравічы.

ВЕ´ШКА *ж.* Хлебная дзяжа. *Малóлі жыта, правівáлі, замéшвалі цеста на хлеп у вéшках.* Дзмітравічы.

ВІ´ТКА *ж.* Бярозавы дубец, які выкарыстоўваецца для віцця вяроўкі кругом сталба. *Бáцька віткі не ўсе здаў, засталóся пáру штук.* Каранец.

ВЯЛІ´ЧКА *ж.* Вялікдзень. *Вéльмі бальшым святам былá Вялічка, на Вялічку пяклі хлеп, прыбірáлі хáту.* Дзмітравічы.

ВЯРХО´ЎЯ *н.* Горшае валакно, пакулле, пачаскі. *Мужыкáм рубáхі шылі з вярхóўя.* Шавярнічы.

ГРЫБНІ´ЦА *ж.* Смажаныя грыбы. *Маá хазяйка гатýе нáдта смáчную грыбніцу.* Дзмітравічы.

ГУЖВА´ *ж.* Ліна. *З вітак круцілі гужвý кругóм сталба.* Каранец.

ДЗЯ´ДЗІНА *ж.* Жонка дзядзькі. *Нáша дзядзіна забурдохае цеста ўрáнні, напячэ праснакóў.* Каранец.

ДО´РДЗІК *м.* Блін з бульбы. *Картóшку на дрáчку дрáлі і дóрдзікі пяклі.* Міхеевічы.

ДУХО´ЎНЫ *прым.* Духмяны. *Хлеп спячэцца харóшы, духóўны.* Шавярнічы.

ДЫМЫ´ *мн.* Посцілка, тканая ў чатыры ніты. *Ткáлі дымы ў перабóры шóўкам і сукнóм.* Шавярнічы.

ЁЎНЯ *ж.* Асець. *Спачáтку снапы нéслі на азярóт, пóтым ў ёўню.* Дзмітравічы.

ЖАВІ´НЫ *мн.* Ажыны. *Ёсць у лéсе суніцы, малíны, жавíны – чóрныя такія.* Дзмітравічы.

ЖЛУ´КТА *ж.* Пасудзіна для запарвання бялізны, кадушка. *У жлýкту бялізну клáлі, кіпенем залівáлі, кáмень навéрх клáлі.* Міхеевічы.

ЖЛУ´КЦІЦЬ *незак.* Запарваць бялізну ў жлукце. *У вадý камéнья гарáчае кідáлі, на верх ткáнае лажылі і жлýкцілі, а як выжлукціцца – дык бéленько.* Міхеевічы.

ЗАБУРДО´ХАЦЬ *зак.* Намяшаць. *Дзядзіна забурдóхае цéста, замéсціь хлеп.* Каранец.

ЗАЧЫ´НАК *м.* Выступ печы, на якім можна было сядзець або ставіць што-небудзь. *На зачынак óбуў, парцянкі лажылі сушыць.* Дзмітравічы.

ЗЛАЯ´НКА *ж. бат.* Зялёнка. *У глыбóкую вóсень злаянкі збірáлі, на зімý варылі.* Рудня.

ЗЫ́РКА *прысл.* Горача. *Так было́ зы́рка, што не́льга на ву́ліцу вы́йсці.* Дзмітравічы.

ЗЯМЕ́Ц *м.* Пчаляр. *Ране́й было́ мно́га зямцо́ў і ву́лляў мно́га было́.* Каранец.

КАБО́РАЧКА *ж.* Куфар. *У кабо́рачцы ў мяне́ скла́дзены рушнікі́, стары́я руба́хі, кару́нкі.* Шавярнічы.

КАВЭ́РКІ *мн.* Леташняя падмарожаная бульба. *Пасля́ вайны́ ні было́ чаго́ е́сьці, дык на по́лі збіра́лі кавэ́ркі.* Дзмітравічы.

КАЛЕ́КА *м.* Мянтуз. *Усякую ры́бу лаві́лі: шчу́кі, кале́кі, караcі́.* Дзмітравічы.

КАМЯНО́К *м.* Бакавая частка прыпека, дзе раскладаюць агонь для асвятлення хаты. *Ране́й вечара́мі пра́лі каля́ камянка́.* Дзмітравічы.

КЛЯ́МАР *м.* Крук. *У сто́ля кля́мар уб'юць і пачэ́пяць на вяро́ўкі калубе́льку.* Міхеевічы.

КУ́БЛІК *м.* Невялікая пасудзіна для захоўвання сала. *З аднаго́ кабана́ накла́лі два ку́блікі са́ла.* Дзмітравічы.

КУ́КА *ж.* Вялікі драўляны молат для збівання гліны. *Ране́й пе́чы рабілі з глі́ны, яку́ю бі́лі ку́камі.* Шавярнічы.

КУКУ́ЛЯ *ж.* Зязюля. *Пры́йдзеш, бывала, у лес, апхо́піш дрэ́ва платко́м і ска́жаш: «Куку́ля, куку́ля, ці до́ўга мне ў ба́цькавай ха́це жыць?»* Міхеевічы.

КУ́РКА *ж. бат.* Від грыбоў. *У ле́се бра́лі ку́ркі, закру́чвалі ў ба́нкі.* Шавярнічы.

ЛАЙНО́ *н.* Рэдкая тканіна, якой закрывалі твар, калі даглядалі пчол. *Зе́мцы, калі́ лаві́лі рой, закрыва́лі твар лайно́м.* Каранец.

ЛЕ́СКІ *мн.* Лесвіца. *Каб ла́жаць на хату, ста́ўлю ле́скі.* Шавярнічы.

ЛЕ́ТАВАЦЬ *незак.* Жыць усё лета. *Уну́кі ў мяне́ ле́тавалі.* Шавярнічы.

ЛІ́ПАЎКА *ж.* Бочка, выдзеўбаная з ліпы. *У вайну́ лі́паўку ячме́ню закапа́ла.* Шавярнічы.

ЛІ́ПНІК *м. зб.* Цвет ліпы. *Як цвет паспе́е, лі́пнік збіра́ем. Як захварэ́еш, дак лі́пнік вары́лі.* Шавярнічы.

ЛО́КША *ж.* Лапша. *На Вялі́чку ма́ма ло́кшы дзе́лала.* Шавярнічы.

ЛУ́БКА *ж.* Лубянка. *У лес хадзі́лі з лу́бкамі, збіра́лі я́гады.* Шавярнічы.

ЛУХ *м.* Шчодак, луг. *Дзе́шку засцілáлі палатнóм, на яго клáлі салóмку, сы́палі пóпел і лілі кіпятóк, так атры́млівалі лух.* Дзмітравічы.

ЛУЧО́К *м.* Прылада, пры дапамозе якой рабілі каўбасы. *Здзе́лаюць лучóк з лы́ка, укладу́ць ягó ў кішку́ і натóпчуць мя́са.* Міхеевічы.

ЛЯ́ДА *ж.* Высечаны ўчастак лесу. *У ле́се ля́ды матычылі.* Шавярнічы.

ЛЯСЁНКА *ж.* Посцілка насіць траву, сена, салому. *Цяпе́р лебядá вы́сыпала, цэ́лую лясёнку нарвáла.* Шавярнічы.

МАКА́ТРА *ж.* Гліняная пасудзіна, у якой труць мак, макацёр. *Канóплю патаўчэ́ш, патрэ́ш у макáтры і крупе́ню зрóбіш.* Міхеевічы.

МАЛА́ННЯ *ж.* Маланка. *Дажджу́ нямá, а малáння жы́гае і жы́гае ў вакнó.* Міхеевічы.

МАХВА́Й, МАХНА́Й *м.* Махавік. *Махвáі ў ле́се збіра́лі, сушы́лі іх.* Шавярнічы.

МОСТ *м.* Падлога. *Васімнáццаць гадóў мóсту ў хáце ні былó.* Дзмітравічы.

МЯ́ЧКА *ж.* Церніца. *Лён мнуць у дзеравя́най мя́чке, каб быў мякчэ́йшы.* Міхеевічы.

НАСКІПА́ЦЬ *зак.* Нашчыпаць. *Старадрэ́віну тáта прыця́гне, тады тапарóм наскіпáюць на ўсе Каля́ды лучы́ны.* Міхеевічы.

НАСО́Ў *м.* Верхняе мужчынскае адзенне з даматканай тканіны. *Мой дзет насóў надзе́не і да цэ́рквы ідзе́.* Міхеевічы.

ПАДЖЫМА́ЦЬ *незак.* Адціскаць ваду з адзення. *Сусе́т увéсь змок на пóлі, хазя́йцы цяпе́р адзе́жу трэ́ба паджымáць.* Шавярнічы.

ПАДМЕ́ШВАЦЬ *незак.* Абгарнуць зямлёй радкі бульбы. *Гарóт спалóлі, а сёння бу́льбу падмяшáлі ўжо другі́ рас.* Рудня.

ПАДО́ЙНІК *м.* Даёнка. *Бáцька мой сам дзе́лаў дзеравя́нныя і падóйнікі.* Рудня.

ПАДТО́ПІНА *ж.* Самаляныя трэскі для падпальвання ў печы. *У пячу́рку клáлі спі́чкі, падтóпіну.* Дзмітравічы.

ПА́СТА *ж.* Паша. *Свіне́й і аве́чак ране́й ганя́лі на па́сту ў по́ле*. Дзмітравічы.

ПАТРЭ́П'Я *н.* Атрэп'е. *Патрэ́п'я ішло́ на штаны́, андара́кі*. Дзмітравічы.

ПІ́ВА *н.* Кірмаш. *У нас на Тро́йцу пі́ва было, у Стары́х Гу́мнах – на Дзевя́тухну пі́ва, людзе́й мно́га збіра́лася на пі́вы.* Каранец.

ПІ́ПКА *ж.* Люлька. *Ба́цька не куры́ў пі́пку і гарэ́лкі не піў, паку́ль не пачасту́е пасвіца́нкі.* Шавярнічы.

ПЛЮСЫ́ *мн.* Радоўкі. *Плюсы́ па во́сені расту́ць, на суравёжы падо́бны, краснава́ценькія.* Дзмітравічы.

ПРЫВА́ЛАК *м.* Лава каля печы. *На прыва́лак ста́неш, по́тым на зачы́нак і на пе́ч.* Дзмітравічы.

ПУПО́К *м.* Ручка, лучок у касе. *За пупо́к руко́й касу́ трыма́юць*. Дзмітравічы.

РАДО́ЎКА *ж.* 1. Чарга пасвіць кароў. *За людзе́й у радо́ўку ганя́ла каро́ў*. Дзмітравічы. 2. Радоўка. *Е такі́я грыбы́ радо́ўкі, але, як го́рача, дык няма́.* Дзмітравічы.

РАСПУКНУ́ЦЦА *зак.* Распусціцца. *То́ркалі купа́льніцу ў ха́це, як распукне́цца – бу́дзеш жыць, а як не – бу́дзе смерць.* Дзмітравічы.

РАСЦЕ́ЛЬВАЦЦА *незак. перан.* Разбягацца. *Пры́дзеш у магазі́н, про́ста во́чы расце́льваюцца.* Дзмітравічы.

РАЎГЕ́НЯ *ж.* Саладуха. *Елі раўге́ню з бу́льбай, з бо́бам, сма́чка было́*. Дзмітравічы.

РУ́ЧЫ *прым.* Дружны. *У нас і дба́йная сям'я́ была́, і ру́чая.* Рудня.

САВЯ́К *м.* Падасінавік. *Хо́дзім у лес грыбы́ збіра́ць: лісі́чкі, ку́ркі, савякі́*. Шавярнічы.

СВЕСЬ *ж.* Сястра жонкі. *Паехаў у Пруда́к, сустрэ́ў там свесь, даў і ёй пасы́лку.* Дзмітравічы.

СЕ́ВАЛКА, СІВА́ЛКА, СЯВА́ЎКА *ж.* Сявенька. *Калі́ рой абляпля́ў дзе́рава, яго́ аграба́лі ў се́валку.* Дзмітравічы.

СІНЮ́ХА *ж.* Хмара. *А вот у Бярэ́зане ні было дажджу́, хоць сіню́ха стая́ла*. Шавярнічы.

СКА́ПАВІЧ *м.* Вілы, якімі скідаюць з воза гной. *Гной на по́ле вы́вазілі, а капа́лі дзераўны́м ска́павічам*. Шавярнічы.

СМУРО́ДА *ж.* Чорныя парэчкі, смародзіна. *До́ма ў нас шмат чаго́ расце́: і агрэ́ст ёсць, і смуро́да, і жаві́на.* Дзмітравічы.

СО́ШКА *ж.* Колік з вяроўкай для падтрымкі чаго-небудзь. *Ячме́нь дошч паваля́ў, дык хазя́ін со́шку ўбі́ў, падвяза́ў.* Шаварнічы.

ССО́РЫЦЦА *зак.* Згубіцца. *Пыляня́тка адно́ ссо́рылася не́дзе.* Дзмітравічы.

СТА́ЛІНЦЫ *мн.* Бліны, якія пякліся з мерзлай бульбы. *Капа́еш вясно́й праме́рзлую з зімы́ карто́шку і пячэ́ш з яе́ ста́лінцы.* Дзмітравічы.

СЫ́РНІЦА *ж.* Сыр з маслам, падрыхтаваны для доўгага захоўвання. *У прачэ́сцінскі пост збіра́лі сы́рніцу: сыр аттáплівалі, атціскалі, кла́лі ў бо́чку і залівáлі то́пленым ма́слам.* Дзмітравічы.

СЫТА́ *ж.* Вада, засалоджаная мёдам. *Ма́мушка мая́ сыту́ ро́біла, яна́ сало́дкая, сма́чная.* Дзмітравічы.

ТАРПА́ *ж.* Доўгая скірда сена або саломы. *Мы се́на ў стaшкі́ ста́вім, а ў калга́се ў тарпу́ склада́юць.* Дзмітравічы.

ТВА́НКІ *прым.* Тваністы. *Рэ́чка тва́нкая была́, але рыб мно́га.* Рудня.

ТЫНО́К *м. памянш.* Плот, тын. *Каля́ ха́ты гарадзі́лі тыно́к са стары́х дзе́раў.* Дзмітравічы.

УРУ́ПІЦЬ *зак.* Зразумець. *Тады́ ён уру́піў, што да чаго́.* Дзмітравічы.

ЦАЎЁ *н.* Ручка ў драўлянай лыжцы. *Хлеп так правяра́лі, ці спёкся ён: то́ркалі цаўё, калі́ це́ста ні прылі́пне да яго́, то до́бра спёкся.* Шаварнічы.

ЦЯПЛО́ *н.* Вогнішча. *На Купа́лле на ро́станьках наклада́юць цяпло́ і сядзя́ць аж да ра́ння, каб ве́дзьмы ў каро́ў малако́ не адабра́лі.* Дзмітравічы.

ЧАРО́ПАЧКА *ж.* Гліняная пасудзіна. *Ма́сла калаці́лі ў чаро́пачках, а пазне́й у бо́йках білі.* Шаварнічы.

ЧЫ́ЛЫ *прым.* Справядлівы, чэсны. *Ба́цька наш быў чы́лы ве́льмі.* Дзмітравічы.

ШАР *м.* Рад. *Снапы́ ў ёўнях ста́вілі шара́мі.* Рудня.

ШАРХУ́Н *м.* Званочак. *Да́ўна на ко́нях жані́цца е́халі, дугу́ шархуна́мі ўпрыго́жвалі.* Міхеевічы.

ШКУ́ЦЦЕ *н.* Бялізна. *За́раз Бо́га і ні ведаюць, няве́стка і ў нядзе́лю шку́цце мые*. Шавярнічы.

ШУРМАВА́ЦЬ *незак.* Шумець, крычаць, сварыцца. *Ба́цька шурмава́ў нас, дык хадзі́лі ў лес, у калхо́с*. Міхеевічы.

ШЧАЎЛЮ́К *м.* Шчаўе. *Шчаўлю́к, дзя́дзелінку зляпі́лі з муко́й і е́лі*. Дзмітравічы.

ШЫДЭ́ЛІЦЬ *незак.* Вязаць. *На вячо́рках шыдэ́лілі антыля́жсы*. Шавярнічы.

*І. П. Чыгрын*

# ЯШЧЭ АДЗІН ВЫРАЙ З НАШЫХ СЛОЎ ВЁСКІ ЧАМЯРЫ СЛОНІМСКАГА РАЁНА

Гэта падборка лексікі з'яўляецца працягам: «З лексікі вёскі Чамяры Слонімскага раёна» – Народная лексіка. Мн., 1977; С. 47–60; «З лексікі нашай вёскі» – Жывое слова. Мн., 1987. С. 152–162; «Яшчэ з лексікі нашай вёскі (Чамяры Слонімскі р-н)» – Народная словатворчасць. Мн., 1979. С. 30–40; «Яшчэ раз з нашай лексікі (вёска Чамяры, Слонімскі раён)» – Жывое народнае слова. Мн., 1992. С. 123–131.

АБРАНДАВА́ЦЬ *незак.* Лічыцца, паважаць, прызнаваць. *Нікого ні абрандуя, яна каму хачаш вываліць у вочы, што думая.*

АБЦЕ́ПКАЦЦА *зак.* Абшмаргацца. *Рукавэ ў рубашцы чысто абцепкаліся – трэба паправіць.*

АБЧЫЧЫ́КАЦЬ *зак.* Абмануць, абхітрыць. *Ён любого абчычыкая – ні то што даверліваго такого, як твой хлопяц.*

АБЫЗНА́ЦЦА *зак.* Памыліцца, прыняць за іншага. *Ой, даруйця, абызналася – вельмі ж вы падобныя на майго даўняго суседа.*

АГЛАВУ́ШЫЦЬ *зак.* Прыбіць (не абавязкова фізічна), ударыць. *Ні за што ні пра што аглавушыў чалавека па галаве калом. Яна яго аглавушыла навіною тою.*

АГРАБА́ЦЬ *незак.* Атрымоўваць, мець. *Пенсію такую аграбая, от і жыве ні кепско.*

АГЭ´ДЫЧА *прысл.* Такой парою. *Дзе ты была агэдыча – рань такая.*

АДКАВЕ´СІЦЬ *зак.* Адставіць губу. *Адкавесіла баба губы – слухая, што мужчыны трэляць.*

АДЛЯ´ШЧЫЦЬ *зак.* Папабіць, адлупцаваць. *Адляшчыла, адляшчыла па мордзі, хай ведая, як мацеру слухаць. Яна кажны дзень яго ляшчыць – добрую жоначку знайшоў.*

АДСІ´ДКА *ж.* Тэрмін турэмнага зняволення. *Кончылася там яго адсідка. Дык от і вярнуўся дахаты – доўга быў у астрозі, але яму гэтаго мало.*

А´ЖНЯКА *часц.* Аж, ажно. *Каравэ ажняка ў рэчцы пад альшынамі стаялі – ад заядзі пахаваліся. Ажняка страшна, як падумаяш – пераязжаць у другóё месцо трэба: прывы́класё тут ды і перавозіць усякай усячыны столькі трэба.*

АКАПА´ЦЦА *зак.* Навесці парадак (памыць, пачысціць і г. д.). *Акапалася збольшаго ў хаці, то от у горад збегаю, у крамы зазірну.*

АНЁ *прысл.* Няўжо. *Анё ні прыдзя – ад яго ўсяго чакаць можно.*

АСЫПА´ЦЬ *незак.* Акучваць. *Асыпа́ў картоплі ўсю раніцу, а хто за яго асыпля.*

АСЯНЧУ´К *м.* Свойская жывёліна асенняга прыплоду. *Наш бычок – асянчук, добры ўдаўся.*

АХА´ЯЦЬ *зак.* Абгаварыць, абліць гразёю. *Ахаяла чалавека з ног да галавы. Ахаяць другого любіць, а сама якая.*

АЧО´ПКАЦЦА *зак.* Ачуняць, прыйсці да сябе. *Збольшаго была ачопкалася, то зразу хапілася за работу, захалодала на рэчцы – і зноў ёй пагоршало.*

БА´ЛО *прысл.* Бывала. *Бало, вазьме карзінку, ножык у руку і ў лес – любіў збіраць грыбы.*

БЕ´ГАНКА *ж.* Беганіна, беганне. *І пачалася беганка – ён да яе, яна да яго. І каму патрэбна была тая беганка па чужых людзях – вельміся нехто так сабе паможа чым.*

БІЗАВА´ЦЬ *незак.* Гульма гуляць, лынды біць. *Цэлы дзень бізуя недзя мой хлопяц. Каторы дзень ты бізуяш без работы.*

БЛАГО´ЦЁ *н.* Кепскі, дрэнны, слабы (ён, яна, яно). *Такое благоццё мой унучак. Ажно глядзець ні хочацца, бытта есці яму хто шкадуя. Дзяўчына – благоцё. Жарабя – благоцё.*

БЛЕВУЗГО´ЦЁ *н.* Лухта ўсякая, гаворка абы пра што. *Развядзе тут блевузгоцё, гаварун гэты. Блевузгоцё нéкаё, а ні гаворка.*

БЛІЗНА´ *ж.* Спараная нітка, баразна і г.д. *Ткаля такая – зрабіла блізну і тчэ сабе. Маці хай блізну гоніць, а мы па дзве асобныя баразны выбіраць будзям.*

БЛЭ´НДЗІЦЬ *незак.* Гаварыць што набяжыць. *Блэндзіць дзядзько абы-што, а ты яго, цётко, слухай.*

БО´ЎДУР *м.* Дурань набіты, тупіца. *Ці можно з боўдурам такім зрабіць што дóбраё?*

БРЫ´ДНІЦА *ж.* Асоба жаночага полу, якая не адчувае меры дазволенага: бессаромніца. *Брыдніца несусветная – павыстаўляя перад мужчынамі свае цыцкі, задзярэ спадніцу вышэй каленяў і скаліць зубы – хіба ж такую будзя хто паважаць?*

БУ´ЙДА *ж.* Нагавор, плётка. *Пусцілі па людзях буйду некую, дык от жыцця німа – з хаты ні выйсці, папікаюць усе чорт ведая чым.*

БЫДЛІ´НА *ж. абразл.* Быдла, скот. *Хіба з быдлінай такой пагаварыць можно па-чалавечы. Быдліна і е быдліна: усё ні па-людску робіць.*

БЫ´ЛКА *ж.* Былінка. *І былку адну ні вырваў на тваёйградзе, ні то што агуркоў налаташыў.*

ВА´ДЗІЦЬ *зак.* 1. Карцець. *І вадзіла ж яму ў той дзень у той лес пайсці – быў чалавек і німа. І вадзіла ж ёй напіцца той вады.* 2. Жмурыцца (калі гуляюць у жмуркі). *А цяпер буду вадзіць я.*

ВЕ´ЛЬМІСЯ *прысл.* Вельмі, надта. *Вельміся яна баіцца яго.*

ВЕ´ТРЫНА *ж.* Спецыфічны сабачы пах. *Вон, каб ты здох – ні вытрымаць так ветрынай цягня ад яго. Ветрынай ад цябе. Як ад сабакі нясе.*

ВІ´ВІНА *ж.* Іва. *Вівіны сырое насёк – вельміся будзя яна табе гарэць.*

ВО´БМАЛАДЗЬ *ж.* Абмаладжэнне. *Павяло старога на вобмаладзь: і п'е, і танцуя, і да дзевак хіліцца.*

ВО´БРУЦЬ *ж.* Аброць, вуздэчка. *От вазьмі лепш вобруць ды пайдзі кабылу з выгану прывядзі ў хлеў.*

ВО´СЬДЗЕКА *прысл.* Тут, вось дзе. *Восьдзека твая маці, сядзіць у цяньку пад вярбою.*

ВО´ТАЛАПЕНЬ *м.* Асталоп. *Воталапень гэты ідзе дахаты. Што ты стаіш тут, як воталапень які – людзі на рабоці гараць, а ён...*

ВО´ЎГЛАЕ *прым.* Сыраватае. *Яшчэ сено воўглае, рано забіраць ў гумно.*

ВУГНА´ *ж.* Надакучлівы чалавек (нярэдка з насавым пранансам). *І ўродзіцца ж такая вугна – прыстае і прыстае, вымагая і вымагая, ныя і ныя.*

ВУГНІ´ЦЬ *незак.* Гаварыць у нос, ныць. *Вугніць тут над душою цэлую раніцу.*

ВУ´ДЫ: ПАДЦЯГНУ´ЦЬ ВУ´ДЫ. Надзвычай прагаладацца. *Даўно ўжэ падцягнуло вуды – есці хачу, што воўк які.*

ВУЖА´ВАЁ *прым.* Старое недаваранае (пра мяса). *Некаго вужаваго мяса на стол паставіла – ні адкусіць, як ні старайся, што гэто за закуска такая?*

ВЫДУНДЗІ´ЦЬ *зак.* З прагай напіцца. *Выдундзіў цэлы збан кіслаго малака.*

ВЫДУРНЯ´ЦЦА *незак.* Блазнаваць, дурыкамі займацца. *Выдурняцца ўсякі раз – колькі табе гадоў?*

ВЫ´ЗІКНУЦЬ *зак.* Вызверыцца. *На бедную мацеру як вызікня, як вызікня – што гэта за сын такі?*

ВЫ´ЛЕШЧЫЦЬ *зак.* Папабіць. *Вылешчыла па мордзі, аж ляха́ па лесі пакаці́ласё.*

ВЫНДРЫМУ´СНІЧАЦЬ *незак.* Быць пераборлівым, перабіраць. *От ні вындрымуснічай, еш, што падалі, німа з чаго выбіраць надто.*

ВЫПЕ´НДРЫВАЦЦА *незак.* Выстаўляцца. *Вечно выпендрываецца, вечно ён, што такое «Я», паказвая.*

ВЫ´ПШЫКАЦЦА *зак.* Растраціцца. *Як ні будзяш ашчаджаць, выпшыкаяшся скоро, ні заўважыш, калі ста́ласё то́ё.*

ВЫ´СКАЛАК *м.* Рагатуха, рагатун. *Уродзіцца ж такі выскалак, галаву будзя марочыць дзеўкам некалі. Ні дзеўчына расце. А выскалак нейкі.*

ВЫСЦІ´ГІ *мн.* Пераганкі. *Давай з табой на высцігі – я стары, ты малы, хто каго абгоніць, паглядзець надто хочацца.*

ВЫ´ШМУГЛЕВАЦЦА *зак.* Прыбрацца, навесці глянец. *Вышмугляецца за цэлы дзень перад люстэркам, то якой*

*халеры – будзя харошай выглядаць цнота гэтая яго, хай бы на работу ў калхоз прыходзіла.*

ГАЛЫТВА´ *ж.* Бедната, галайстра. *Пазбіраяцца адна галытва, ды крычаць адзін перад адным: то таго ў іх німа, то гэтаго. А дзе яно што будзя ў галытвы, калі яны працаваць і то ні хочуць.*

ГАРЛА´Ч *м.* Той, хто горлам свайго дамагаецца; крыкун, гарлапан. *Гарлач гэты ізноў крычыць.*

ГЛУШМА´Н *м.* Той, хто не хоча адклікацца; глухаваты чалавек. *Глушман наш нічого ні чуя, кліч ты яго ці ні кліч.*

ГУ´КАЦЬ *незак.* Падкідаць на руках дзіця з узаемным задавальненнем. *Бач ты яе, прыдбаць прыдбала, а гукаць ні навучыцца ніяк. Глядзі, як яна гукае сваё малоя – хлопчык гэтакі нарадзіўся.*

ГУМЕ´НІЦА *ж.* Рабочая пляцоўка перад гумном. *На гуменіцу пайшлі авечкі. Бацько недзя на гуменіцы.*

ГЭ´ПНУЦЬ *зак.* Упасці. *Ночу яблык так гэпнуў на зямлю, ажно я прачнулася. Хлопчык гэпнуў на падлогу, але зноў падняўся – вучыцца хадзіць.*

ДАБРО´ШЧЫ *мн.* Спагада, дабрата. *Ні патрэбны мне яго даброшчы.*

ДАПА´ДЛІВЫ *прым.* Пранырлівы, сарві-галава. *Дападлівы твой чалавек – свайго не ўпусціць.*

ДАРЫ´ЎКАМІ *прысл.* Прыхапкам. *Дарыўкамі робіць, часу вольнаго ніякаго.*

ДАТУ´МКАЦЬ *зак.* Уцяміць, зразумець. *Датумкаў, слава Богу – на сёмы дзень да яго даходзіць.*

ДАЎГУ´ЛЯ *ж.* Нязграбная худая высокая жанчына. *І дзе ён знайшоў сабе такую даўгулю.*

ДВАЙГУ´ *прысл.* Удвух. *Двайгу былі ля кароў – я і твой хлопчык. Двайгу з Аксеняй пасядзелі на прызьбі.*

ДЗЫ´НГАЛО *н.* Пабуджэнне, хаценне. Устнасць, загадка. *У кажнаго чалавека сваё дзынгало, а ты што ад яго чакаяш?*

ДЗЯ´ДЗЮХНО *м.* Дзядзька. *Вунь твой дзядзюхно з цёткай Таклюсяю недзя пайшоў.*

ДЗЯЦІ´СКА *мн.* Дзеці. *Дзяціска як дзень божы ў лапту гуляюць – і ні абрыдня ім. Дзяціска начысто сад аблаташылі.*

ДРАВІ´СКА *мн.* Дровы. *Дравіскаў каля хлява процьма, а яна сырым галлячком варыць есці. Дравіскаў тры кастры наклаў.*

ДРАЧЫ´ЦЬ *незак.* Штучка, знарок раздражняць. *Ні драчы ты мне душу.*

ДРУ´ПАЛО *м.* і *ж.* Маруда. *Друпало гэ́таё, адну градку тры дні поля.*

ДРУ´ПАЦЦА *незак.* Мець няспешны занятак. *Маці друпаяцца паціху каля хаты.*

ДРЫ´НДА *ж.* Нікудышняя павозка. *Што ты на гэтай дрындзе прывязеш?*

ДРЫПУ´Н *м.* 1. Чалавек з дробнай хадой. *Куды гэты дрыпун ізноў пайшоў так рано?* 2. Трапятун. *Дрыпун і е дрыпун – трапечацца вечно, а толку мало.*

ДЭ´ГНУЦЬ *зак.* Памерці, аддаць канцы. *Каторы год як дэгнуў чалавек, а ты ўсё ўспамінаеш яго.*

ДЭЎЖ *ж.* Даўжыня. *Бачыш, якая дэўж, палоска гэтая, ні сажну за два дні.*

Е´НКАТ *м.* Стагнанне, енк. *Енкату на ўсю хату нарабіла – хворая такая.*

Е´СТАЧКІ: ДА´ЦЬ Е´СТАЧКІ. Даць есці. *Ні плач, маленькая, мама дасць дзяўчынцы естачкі зараз.*

ЗАМО´НТАЦЬ *зак.* Прыкласці рукі, зрабіць нешта. *Хоць бы што замонтаў за дзень цэлы, гультай гэты.*

ЗАМУДО´ХАЦЦА *зак.* Стаміцца незвычайна. *Замудохаўся чысто мяшкі жыта цягаючы ўчора ў амбары.*

ЗАНЯГО´ДЗІЦЦА *зак.* Стаць на непагодзе. *І трэба так занягодзіцца – колькі ён будзя ісці гэты дождж, цэдзіць і цэдзіць.*

ЗАПАВАДА´ЦЬ *зак.* Прымусіць нешта рабіць, павесці за сабой, прывабіць. *Каго запавадаюць, таго і пасылаюць. Запавядаяш таго наравістаго – якраз!*

ЗА´ПЕК *м.* Запечча, запечак. *Наш за́пяк вялікі – два ложкі стаяць і прасторно яшчэ.*

ЗА´ТХЛІНА *ж.* Затхлае паветра. *Затхліна такая на кухні – дух цяжкі, як у пограбі.*

ЗАЧЭ´ПАЦЬ *зак.*, ЧЭ´ПАЦЬ *незак.* Зайсці (ісці) памаленечку, па-старэчы. *Я думаю, што за паўгадзіны якое зачэпаю ў*

*по́лё – вельмі хочацца аглядзець на збажыну. Чэпая старая дахаты.*

ЗБАБО́ЎЧЫЦЬ *зак.* Ударыць. *Вось як збабоўчу лемцінай па плячах, то ведаць будзяш.*

ЗБУХТАВА́ЦЬ *зак.* Скасабочыць кола, зрабіць васьмёрку. *Збухтаваў за́дняё калясо ў ровары. Ні сёня збухтаваў, яно даўно збухто́вано.*

ЗГА́ДЗЕЦЬ *зак.* Абрыдзець. *Згадзялі яны мне за тыдзянь – глядзець ні магла: ні дзеці, а чэрці.*

ЗГА́ДЗІЦЬ *зак.* Абгаварваць, абліць памыямі. *Яна такая – любого згадзіць, хлебам ні кармі, а дай абліць чалавека гразёю.*

ЗГАЛЯ́ЦЬ *зак.* Збегаць. *Нехто там толькі прачнецца, а ён у лес ужэ згаляя, карзіну грыбоў прынясе.*

ЗДО́ХЛІК *м.* Нямоцны здароўем чалавек. *І куды гэто пасунуўся Просін здохлік. Ні далягае нешто чалавеку – от і здохлік.*

ЗДЫХО́ЦЁ *н.* Немач, хвароба. *Не́каё здыхо́цё на чалавека напало – каторы тыдзень як ён хыркая.*

ЗНІМО́: ЯК ЗНІМО́. Цяжар, што ледзь можна падняць. *Камянь той як знімо – такі карапуз, а ўзяў і падняў.*

З’ЯД *м.* Сварлівы, нецярпімы чалавек. *Які ён чалавек – з’яд, от хто ён. З’яд, а ні баба.*

КАЛАЧЭ́ЧА *ж.* Непарадак, калатня. *І калі толькі кончыцца гэта калачэча ў свеці?*

КАНЧЛЯ́ *н.* Конь, каняка. *Меў чалавек сяко́ё – тако́ё канчля, то ні трэ было людзям паклоны біць – запрагай, калі хочаш, ды едзь, куды трэба. А дзеж нам нашо канчля паставіць будзя?*

КАНЯНЯ́ *н.* Конь, конік. *Адно каняня ў гаспадарцы, хіба гэто дзело?*

КАПАВА́ЦЬ *незак.* Думаць. *Капаваць трэба. Капуй ні капуй, а яны свайго не папусцяць.*

КАПЫНУ́ЦЬ *зак.* Уцячы, даць драла. *Дадому капынула – куды ж яшчэ. Ён за ёй як прыпусціцца, а яна як капыне – смех ды грэх.*

КАРА́ЧКІ: НА КАРА́ЧКАХ. Ракам. *Каб ты на карачках поўзала* (праклён).

КАРТАПЛЕ́НЁ *н.* Бульбянішча. *Картапленё насіў цэлы дзень.*

КА´ЎКАЦЬ *незак.* Ледзь дыхаць, ледзь жыць. *Жонка яго лéдзьвя каўкая – скоро ёй капец будзя – давёў.*

КАЦЮ´ТЫ *мн.* Плясканне ў далоні. *Ажно ў кацюты хлопчык запляскаў – такі падарунак хрышчоная маці прынясла.*

КВЭ´НЧЫЦЬ *незак.* Вымольваць, выпрошваць. *Квэнчыць тут цэлы дзень пад вухам – дзе я вазьму яму тых грошай?*

КЕ´СТАЛКА *ж.* Загуба, пагібель, гроб з музыкай. *Каб табе кесталку зрабілі. Німа на цябе кесталкі.*

КІЛДЫ´ШЫЦЬ *незак.* Тузаць, душыць, біць (іграючы, цешачыся). *Любіць, таму і кілдышыць; каб ні была мілай, ні кілдышыў бы.*

КІ´ТКА *ж.* Вязанка. *Кіткамі сена панасіў у гумно. Мо пяць кітак сена ў прыстаранку – як яго будзя дазімаваць кароўку?*

КЛЫ´БАЦЬ *незак.* Ісці накульгваючы. *І куды гэто твая цешча клыбая?*

КЛЫБУ´Н *м.* Кульгавы чалавек, найчасцей з прыроджанымі дэфектамі. *Клыбун Вусцін зноў недзя суняцца.*

КО´ТУХ *м.* Месца для бульбы ў каморцы. *На картоплях у котуху стаіць твой кошык – ні плач.*

КРЭ´ЧМА: КРЭ´ЧМА КРЫЧА´ЦЬ. Надрыўна крычаць, балюча. *Крэчма крычала ўсю ноч – так тузала нага, мусіць падбой у мяне, нарываць стало.*

КУЗЁ *выкл.* Так клічуць жарабят. *Кузё, кузё! Харóшанькаё маё жарабятко, ідзі да мяне, ідзі, ні бойся. Кузё, кузё...*

КУ´КА *ж.* Балячка, болька. *Куку дзяўчынка зрабіла, баліць дзяўчынцы кука.*

КУ´ТАЦЬ *незак.* Цёпла апранацца. *Кутаць залішне ні трэба – цёпло ж спаць і так.*

ЛАБАЙДА´ *ж.* Пустамеля. *Лабайда гэтая прыходзіла, нагаварыла бочку арыштантаў і пайшла рагочучы.*

ЛАБЭ´ЦІНА *ж.* Лоб. *Не падстаўляй сваю лабэціну дзе трэба, дзе ні трэба – герой такі знайшоўся.*

ЛАЖБІ´НКА *ж.* Ніжэйшая частак гоняў, поля. *Жаць зайшлі былі ад лажбінкі.*

ЛАТА´ЦЁ *н.* Лотаць. *Вясна на дварэ – латацё занялосё жоўтымі сваімі кветкамі.*

ЛІХАТА´ *ж.* Нешта кепскае, ліха. *Ліхата яго ні вазьме, ён выкруціцца.*

ЛУШЧАНЕ´Ц *м.* Спелы арэх. *Лушчанцоў назбіраў паўторбы – ні паспеяш рукамі дацягнуцца, як выкочваюцца, збыць* (вельмі) *паспелі.*

МАЛЯНКО´СЦЬ: З МАЛЯНКО´СЦІ. З малых гадоў. *З малянкосці дурная, хіба ты ні ведаў гэтаго.*

МАТЫ´ЛЬКА *ж.* Матыль. *Гля, хлопчык, якая матылька харошая лятая, давай мы з табой яе паймаям.*

МЕЛЯЯ´ *ж.* Чалавек схільны да бясконцых размоваў; не ў меру гаварлівы. *Прыйшла гэтая меляя, як стала гаварыць, то дзве мо гадзіны прагаварыла – абы што лапоча ды лапоча.*

МРЭЦ *м.* Нябожчык, памерлы. *На лаві мрэц ляжаў, то мы барджэй выйшлі з хаты.*

МУ´СЯКА *прысл.* Бадай, мусіць. *Мусяка пайдзем заўтра касіць – дарма што німа пагоды, распагодзіцца праз дзень – два.*

МЫ´ЛЬНУЦЬ *зак.* Збегчы, уцячы, слізгануць. *Як ён мыльнуў у кустэ, то б толькі паглядзеў.*

НАГЛЮ´КАЦЦА *зак.* Напіцца да чорцікаў. *Наглюкаўся ўчора як мая быць – як дахаты давалокся, ні помню.*

НАДО´ДНІЦЫ *прысл.* Раным рана. *У лесі былі нादодніцы – іначай грыбоў ні назбіраяш, людзей процьма.*

НАЗАБО´Й *прысл.* На смерць. *Б'ецца карова назабой – ні падаіць.*

НАПАСЦІ´СЯ *зак.* Наўмецца, назапасіць. *Ні напасціся яды адной, а яшчэ ж адзець, абуць трэба – сямейка дай Бог. Аднаго зеля свіням ні напасціся.*

НАПЛЯСКА´ЦЬ *зак.* Наслядзіць мокрымі ды бруднымі нагамі. *Прыйшоў з надворку ў мокрых ботах – напляскаў, напляскаў на кухні, а ты зноў наводзь лад-парадак.*

НАПЯПЯ´ТНУЮ: ІСЦІ´ НАПЯПЯ´ТНУЮ. Адступаць назад, даваць задні ход. *Пайшоў напяпятную, хітрун такі.*

НА´РАД *м.* Бяда, ліха, халера. *Каб цябе нарад ніякі ні браў. Ні хоча памагаць, каб яго нарад.*

НАСТАБУ´РЧЫЦЦА *зак.* Наяршыцца. *Паглядзі, як шэрсць на сабацы раптам настабурчылася, на хіб зірні.*

НАСТАЯ́ШЧО *прысл.* Шмат, добра. *Настаяшчо паеў хлопяц, ачуньваць будзя. Настаяшчо ягадаў назбірала.*

НЕДАЛЭ́НГА *м.* і *ж.* Недацёпа. *Звязалася з нэдалэнгаю такім.*

НЕ́ЗГРАБАЦЬ *ж.*, НЕЗГРАБО́ЦЁ *н.* Нязграба. *Незграбаць (незграбоцё) такая (такое) – ні нагі тае, ні рукі тае, нос, што тапарышчо, і за што толькі Максім любіць такую.*

НУ́КАЛО *н.* Пра таго, хто бесперастанку пабуджае да дзеяння іншых. *Нукало гэтаё, сам нічого ні робіць, а нас ўсё падганяя.*

НУ́РТАМ *прысл.* Потырч. *Паляцела нутрам, на нешто спатыкнулася.*

НУ́ХТАРЫЦЬ *незак.* Выведваць, вынюхваць, віжаваць. *Што ён нухтарыць ля вашаго гумна.*

НЯГО́ *прысл.* Няўжо. *Няго збярэцца на дождж. Няго брат ні прыедзя на вясе́лё з Мінска.*

НЯМКІ́НЯ *ж. абразл.* Немка, маўчуння. *Немец са сваёй нямкіняй у кіно падаліся. Нямкіня гэта хіба скажа што – слово з яе ні выцісняш.*

НЯМ-НЯМ *дзіц.* Так запрашаюць немаўлятак да яды, пабуджаюць есці. *Мама скоро дасць ням-ням сыночку.*

НЯ́МНЯ *ж.* Смаката. *Нямня, нямня – хлапчэнятко нашо, еш, еш кашку.*

НЯМО́ГЛІК *м.* Слабы, фізічна нядужы чалавек. *Нямоглік гэты ўсюды свой нос уваткне, а сам усё збоку, збоку.*

НЯЎДО́БКІ *мн.* Малапрыдатныя для апрацоўкі кавалкі зямлі, няўдобіца. *Трэба было браць тыя няўдобкі ды неяк пачынаць абрабляць, даводзіць да ладу, а што было рабіць чалавеку без права ды грошай.*

ПАБА́БІЦЦА *зак.* Пакрыцца бугаркамі, папрышчыцца. *Пабабілася шкура на руках – вечно ў вадзе тыя рукі – то свінням мяшаяш, то пасуду мыяш, то пла́цё на рэчцы аджымаяш.*

ПАДБО́Й *м.* Нарыў. *Дзе яму тыя каравэ ў по́лё гнаць, у яго падбой вунь на назе. З хаты на надворак на адной скача. Не перавязаў тады добро нагу, як парэзаў, напха́ласё гразі ў ранку, от і падбой будзя.*

ПАДЧЫПУ́РЫЦЦА *зак.* Прыхарашыцца, навесці марафет. *Падчыпурылася як мае быць, у госці пайду.*

ПАД'ЯЛДЫ'КВАЦЬ *незак.* Падколваць, падтруньваць. *Пад'ялдыкваць ён любіць: яго хлебам не кармі, дай паздзекваццa над чалавекам.*

ПАЛО'ХАЛО *м.* і *ж.*. Страшыдла, той, хто выглядам уласным наводзіць жах. *Палохало нéкае ні баба – такі мужчыніско, пане мой, а жыве чорт ведая з кім.*

ПАЛЯВА'ЦЬ *незак.* Гойсаць, бегаць. *Дзе ты цэлы дзень палюяш – работы вунь колькі дома. Спаляваў ажніка ў Хадзявічы і назад.*

ПАЛЯМЦЕ'ЦЬ *зак.* Пайсці, пабегчы (рухава, спешна). *Адразу пераадзеўся і да цноты свае палямцеў – хрыч стары. Як міленькі, палямцеў да кароў, а хто за яго будзя пасвіць.*

ПАМАГА'ТАР *м.* Памочнік, памагаты. *Памагатар такі знашоўся – ідзі от лепш, хлопчык, дахаты.*

ПАПА'РЫЦЦА *зак.* Уцалець, зберагчыся. *Дзе тóё сало дасюль у яе папарыцца, меўшы такую сям'іску. Дзе тыя грышы ў п'яніцы такого папараца.*

ПАПІХА'ЙЛО *м.* і *ж.* Папіхач. *Так і пражыў усё жыццё папіхайлам – у людзей на пабягушках.*

ПАПРАВУ'НАК *м.* Выздараўленне. *Чым ні лечыш, а папраўнку німа і німа. Пайшло на папраўнак нарэшці.*

ПАРАЧО'М: ПАРО'ЦЬ ПАРАЧО'М. Спосаб змусіць зрабіць нешта. *Ты яго і парачом з хаты ні выпарыш, гультаіну такую. Нічого ні хоча рабіць, хоць ты яго парачом пары.*

ПАЦЯГУ'ШКІ *мн.* Пацягванне пасля сну. *Дачушка мая пацягушкі спраўляя, прачнулася ўжэ.*

ПЕЛЕНГАВА'ЦЬ *незак.* Песціць, даглядаць. *Не пелянгуй ты ўжэ так свае дачкі, шчасця з іх столькі з усех.*

ПЕРАВЯ'ЗІСТЫ *прым.* З тонкай у таліі фігурай. *Перавязісты дзяцюк. Наша суседка, як аса, перавязістая – і трэба ж урадзіцца такой.*

ПЕРАЛЯ'К *м.* Перапуд. *З пераляку як шугануў праз двухмятровы плот, тут яго толькі і бачылі. З пераляку чалавек што хочаш зробіць.*

ПЕРАСТАНАВІ'ЦЬ *зак.* Перайначыць, перамяніць. *Яе ніхто ні зможа перастанавіць – такі ўжэ характар у бабы: хоць ты што хочаш, а будзя сваё тварыць.*

ПЕРАСТРЭ'ЦЬ *зак.* Пераняць, пайсці на пярэймы. *Перастрэла каля лесу самого.*

ПЕРАСЦІГНУ´ЦЬ *зак.* Апярэдзіць. *Яна цябе перасцігне, яна лепш жне.*

ПЕТНАСТО´ЎКА *ж.* Жанчына, што надта малодзіцца. *Петнастоўка знайшлася такая – бачыш, на танцы ёй зарахцелася* (гл. *рахцець*) *пайсці.*

ПІЯ´КА *м.* Выпівака, піток. *Піяка з цябе – ты ад кружкі піва звалішся.*

ПЛІШЧО´М *прысл.* Нахрапам. *Плішчом у душу лезя. Плішчом плішчацца ў хату.*

ПЛЮШЧЭ´ЦЬ *незак.* Чвякаць. *Плюшчыць вада ў чаравіках, прапускаюць здорава.*

ПЛЯ´МКАЦЬ *незак.* Гаварыць абы-што, абы-як. *Плямкая, плямкая сваімі губамі, а ты слухай яе.*

ПО´СІК *м.* Мачавы пузыр. *Свіны посік маці выкінула – ватрабянкі ў гэтым годзе напіхаць у яго ні будзя.*

ПРЫГАНУ´ЦЬ *зак.* Успомніць. *Прыганулі нешта з даўняго, сядзім, гамонім.*

ПРЫЛІПА´ЙЛО *м.* і *ж.* Прыліплівы чалавек, прыліпа. *Як мне адкараскацца ад прыліпайлы гэтаго, нідзе ад яго ратунку німа.*

ПРЫЛЯМЦЕ´ЦЬ *зак.* Прымчацца. *Скоро прылямціць назад, дзе яна дзеняцца.*

ПРЫНАНЯ´ЦЬ *зак.* Згадзіць, папрацаваць. *Трэба капальнікаў было б прынаняць, бо цяжко давядзецца адной – столькі картаплiскаў у гэтым годзі насадзілі.*

ПРЫПІ´РЫСКО *н.* Прыстанішча. *Каб хата ні згарэла, то меў бы чалавек хоць якоё прыпірыско ў жыцці.*

ПРЫ´ШЧАЎКА *ж.* Прышч. *Прышчаўка на руцэ села, каб хаця што ні кепскаё.*

ПУ´ГАЦЬ *незак.* Прагна есці. *Вунь як пугая зацірку – згаладаўся нябось.*

ПУХНА´ЦІК *м.* Нехта поўны, пухлы, пушысты. *Мой коцік, мой пухнацік, які ты мяхкі, які ты прыгожы.*

ПУХНЕ´ЦЬ *незак.* Пышэць, раз'ядацца. *Пухнея на казённых харчах – дапала да дармаўшчыны.*

ПЫЛЮ´ГА *ж.* Пыл. *Такая пылюга, вочы ні адкрыць, суш, а тут вецяр гэтакі ўзняўся.*

ПЯРЭ´ВЯДЫ *мн.* Адведкі. *У пярэвяды хадзіла да Зіны, сына тая нарадзіла.*

РАЗДАЖДЖАНЕ´ЦЬ *зак.* Набухнуць вадою. *Пόлё раздажджанело – хай падсыхая, як ты палезяш з плугам, сам правальваешся, ні тоё што конь.*

РАЗМУЗНЕ´ЦЬ *зак.* Разварыцца да растварэння, страты формы. *Размузнелі твае салодныя, як ты ні даглядзела – камяк атрымаўся.*

РАЗ'Ю´РАНЫ *прым.* Той, каго ахапіў непамерны шал. *Убег у клуб раз'юраны, схапіў жонку за руку і папёр перад сабою дахаты. Раз'юраны кнур, адстань ад мяне – нічого з гэтаго ні будзя, каб ты нат здох тут перада мною з дамаганням сваім, ні пуская, бач яго.*

РАЗ'ЮРЫ´ЦЦА *зак.* Распаліцца палавой страсцю. *Раз'юрыўся мужчына, аж сіпіць, а мне хоць бы што гэто яго гарэ́нё.*

РАСТРЫБУ´ШЫЦЬ *зак.* Расшкуматаць. *Я цябе, гада такого, на гэтым жа месці растрыбушу, як паймаю толькі – уздумаў у садок лазіць.*

РАСШАДО´БАЦЬ *зак.* Уразумець, дайсці да сэнсу. *Расшадобай нарэсці, дайшло да яго, тупіцы гэтакого. Пакуль расшадобая стары, то ў вачах пазеляняея тлумачачы.*

РАСША´СТАЦЬ *зак.* Парэзаць. *Расшастаў так руку, от гіцаль.*

РАХЦЕ´ЦЬ *незак.* Вельмі хацець. *Аж рахціць, так на танцы просіцца. Аж рахціць так замуж хоча.*

РО´ХЛЯ *ж.* Празмерна таўстая, разлезлая баба. *Каму рохля, а каму жонка – мало што таўстая ды разлезлая.*

САЛО´ДНЫЯ *мн.* Салёнікі. *Навару салодных – з кіслым малаком будзям есці. Кажны дзень гэтыя салодныя, заціркі зварыла б.*

СА´ПАЎКА *ж.* Надрыўнае, цяжкае дыханне. *Сапаўку нагнаў – так дабегчы стараўся. Сапаўка на чалавека напала.*

САТХНУ´ЦЬ *зак.* Уздыхнуць. *Аж сатхнуло дзіцятко, пакрыўдзілі беднаё.*

СВАЕ´НСТВО *н.* Прыналежнасць да кола людзей па сямейна-родавых прыкметах. *Зрабі ты ўжэ яму гэту паслугу па сваенству. Сваенство развялі тут – бач ты, а мы што?*

СКАПЫТА´ *прысл.* Адзін са спосабаў верхавой язды. *Конь бег дробным бегам, а потым пусціўся скапыта. Я люблю скапыта ездзіць.*

СКІГІТА´ЦЬ *незак.* Жыліцца прыплакваючы, прысвавытваючы і інш. *Ні скігічы ты, сукін сын, сам жа вінаваты. Пабілі сабаку, скігіча ля плоту. Кнігаўкі скігічуць нечаго над балотам.*

СКО´ЛЯКА *прысл. Во сколяка шчаўю дачушка нарвала, на два разы наварыць будзя.*

СКУПО´ЎВАЦЬ *незак.* Скупліваць. *Скупоўвая свіней ды перапрадае за граніцу.*

СЛІБІЗЕ´ЦЬ *незак.* Паддобрывацца, падлізвацца, падхалімнічаць. *Перад начальствам вечно слібізіць.*

СЛУХА´ЎКІ *мн.* Навушнікі. *Надзеў слухаўкі, сеў, як стары, і слухая радзіво – а там песьні.*

СЛЯПІ´ЦАЙ *прысл.* Неадчэпна, нагла. *Баба сляпіцай лезя да мужчыны – ніяк ні адчэпіцца, бедны.*

СПЕРУНЕ´ЦЬ *зак.* Спрахнуць, згінуць. *Каб ты сперунеў, каб ты* (праклён). *І дзе ён сперунеў, чалавек гэты, яму там адна дарога, а ты тут сядзі, думай, гадай.*

СПРЫ´НДЗІЦЦА *незак.* Крычаць на ўсе галасы. *Вунь як свіня спрындзяцца, аж іх халера бярэ – есці так захацелі.*

СПУС´ГАВА´ЦЬ *зак.* Згінуць, прапасці. *А няхай яно, дзеткі, спустуя, жыцё такое – старасць, хваробы, а тут у хаці бядоцё.*

СПУ´ЧЫЦЬ *зак.* 1. Ударыць чым-небудзь цвёрдым. *Адыдзіся, стары, а то як спучу качалкам гэтым па плячах.* 2. Уздуцца. *Чысто ўспучыло жывот – а хай яго з гарохам тваім, накарміла.*

СТА´РПЕР *м. абразл.* Стары, ні на што не годны чалавек. *Старпер гэты – труха з яго сыплецца, а ён усё да дзевак падсядая.*

СТАРУ´ТКІ *прым.* Стары. *Саўсем старуткі стаў за некалькі апошніх гадоў.*

СТРАШЧЫ´ЦЬ *зак.* Ссукаць дзве ніткі ў адну. *Страшчыць трэба дзве ручайкі пражы.*

СУ´ГАРБАВАТЫ, СУ´ГАРБАКАВАТЫ *прым.* Сутулы чалавек, нешта з гарбінкай. *Ён сугарбаватым быў – высокі такі, худы. Сугарбакаваты нос чалавек мая.*

СУ´НДУК *м.* Куфар. *Сундук у бабкі мае вялікі быў, чэрвоны такі, бляшанымі палоскамі акаваны.*

СУ´ТАЛАКА *ж.* Неразбярыха, бязладдзе. *У той суталацы хіба можно было чаго дамагчыся простаму чалавеку.*

СЦІГА´ЦЬ *незак.* Ісці размашыстымі крокамі. *Куды ты ў такую рань сцігаяш?*

СЯМ'І´СКА *ж.* Сям'я. *Сям'іска ў іх была душ сямнаццаць – як пасядуць абедаць, толькі ложкі мільгаюць: што ні настаў, усё падчыстую, чорта з'ядуць.*

ТАКЕ´НЯЧАЧКІ *прым.* Такі, надзвычай малы, кароткі і інш. *У мяне брацік такенячачкі.*

ТАЎКАЧЭ´ЧА *ж.* Таўкатня. *Такая на базары таўкачэча была, ні то што прайсці, прасунуцца цяжко было.*

ТРЫ´БА *ж.* Лясная просека. *У Мокрым Рові, калі перайдзеш трыбу, я і натрапіў на храшлі* (грузды).

ТРЫНДЗІ´ЦЬ *незак.* Вярзці. *От трындзіць гэты стары чорт ведама што.*

ТЭ´НЧА *ж.* Пражора, кішка ненаежная. *Тэнча гэтая – пхая і пхая, есць і есць.*

УВЭ´ДЗГАЦЦА *зак.* Абмазацца, абрабіцца. *І дзе ты гэдак увесь увэдзгаўся – і ва што толькі грась ні грась, мазута ні мазута.*

УДУШЫ´ЦЦА *зак.* Падзецца. *А дзе ты удушышся без кутка свайго – будзяш дагаджаць.*

УЛЯГА´ЦЦА *зак.* Заходзіцца. *Неко як скажа, як скажа – ажно ўлягаюцца ўсе сосмеху: спрытная яна да гаворкі.*

УМЭ´НТ *прысл.* Тут жа, у адно імгненне. *Прыбег, крутнуўся і ўмэнт прапаў – і калі толькі ён мог змыцца зноў. Такі ўмэнт табе шыю скруціць.*

УПЯРЭ´КІДКІ *прысл.* Хутка вельмі, перакульваючыся. *Бяжы ўпярэкідкі – яна цябе там чакая.*

УРО´ІЦЦА *зак.* Уявіцца, уздумацца. *Уроіцца цётцы чорт яго зная што, от і страх наганяя на малых дзяцей.*

УСУ´ПРАДКІ *прысл.* Хадзіць з кудзеляю на попрадкі. *Ні хадзі ты да іх усупрадкі – нядобрыя там рэчы чыняцца: хлопцы ўсякія заходзяць.*

УСЯ´КСЯ *прысл.* Як толькі можна, розным спосабам. *Усякся стараўся – нічога ні мог зрабіць. Усякся дамагаўся.*

УТО´РЫ: ЛЁГКАЯ НА ЎТОРЫ´. Жанчына лёгкіх паводзінаў. *Зінка лёгкая на ўторы, па ёй вунь колькі мужчынаў слінку пуская.*

УЧО́РАКА, УЧО́РАЧЫ *прысл.* Учора. *Учорака заходзіла хрышчоная маці майго Вані – вялікóднаё хрэсніку прыносіла, сам яшчэ ні дабяжыць да яе хутара, малы, далеко. Учорака (учорачы) толькі пад вечар явіўся дадому, анёж калі – і то добро.*

ХА́БАЛЬ *м. абразл.* Каханак невысокага кшталту. *Сама за год з восім хабаляў змяніла – яшчэ будзя мне мужчынамі папікаць.*

ХВАРУ́ТКІ *прым.* Зусім хворы. *Хваруткі пайшоў да кароў – німа каму папасвіць.*

ХІТРО́ШЧЫ *мн.* Хітрыкі. *Хітрошчы яму яшчэ наўме, пню старому.*

ХЛА́ПІНА *м.* Дзяціна. *Такі хлапіна быў, за тыдзень згарэў. Пане мой, такі хлапіна у хаце, а бацьку трэба аднаму малаціць.*

ХО́ДАЛЯ: ДАЦЬ ХО́ДАЛЯ. Пусціцца наўцёкі, даць лататы. *Даў ходаля з коўба – збаяўся, каб ні адлупцавалі хлопцы.*

ХЫ́РКАЦЬ *незак.* Вычухваць прыстуду, хварэць пастаянна. *Ці ж ты ні бачыш, як ён хыркая – як у такі дождж яму ісці ў пóлё. Ён усё жыццё хыркая.*

ЦЕЛЯМПЕ́Й *м.* Целяпень. *Целямпей гэдакі, яму абы дзень да вечара дабыць: што ўбіў, тое ўехаў.*

ЦЕ́МЦЯ-ЛЕ́МЦЯ *м.* і *ж.* Ні тóё, ні сёе; ні рыба, ні мяса (ён, яна). *Што ты з цемці-лемці вазьмеш: такая (такі) урадзілася (урадзіўся) ужэ.*

ЦЕМЯНЖЭ́НЁ *н.* Памрока. *Найшло на бабу цемянжэ́нё нéкаё, то от і нарабіла дурного.*

ЦЕ́РПНУЦЬ *незак.* Дранцвець. *Сцерлі пальцы на правай руцэ. Рукі церпнуць – такая вада халодная.*

ЦІХАМЯ́ *прысл.* Поціху, непрыкметна. *Ціхамя зробіць сваё дзело – і ўсё: хітрая баба.*

ЦУКЕ́РНЯ *ж.* Крама, у якой прадаецца салодкае (цукеркі і інш.). *Цукерню сваю мая, сядзіць, гандлям займаецца.*

ЦЫРБО́ЛІЦЬ *незак.* Ліць. *Бач, які дождж цырболіць, а ты ў горад ісці збіраяшся.*

ЦЫТРЫНОЎКА *ж.* Гатунак грушаў. *У старым садзі было ні мало садовых дрэваў – яблыняў, грушаў: бэры былі, цытрыноўкі, папяроўкі, сапяжанкі, ды другіх усякі ні мало.*

ЦЯРЭ´СПАЛЯ *прысл.* Напрамкі, напрасткі (полем). *Цярэспаля папёрся да бацькі ў Падоськавічы – косіць там, то ён і захацеў з бацькам пабыць.*

ЧАРНО´ЦЁ *н.* Чарната, чарнота. *Чарнóцё гэ́таё – і праўда ж кажуць: чорны ды руды, німа горшае брыды.*

ЧЫСЦЮЛЯ *м.* і *ж.* Той, хто бясконца наводзіць чысціню. *Чысцюлю такую ўзяў замуж. Наша чысцюля ўсё павымывала, павыскрабала, дзетак пакупала і сама мыцца будзя вось. Чысцюля такі – не мужчына, а баба.*

ЧЭ´МКАЦЬ *незак.* Есці не спяшаючыся, нехаця. *Чэмкаў, чэмкаў ён тую капусту, ажно мутарно глядзець было.*

ШАМРЭ´ЦЬ *незак.* Багата адзявацца. *Я адзену цябе – шамрэць будзяш.*

ШАПЯТА´ЦЬ *незак.* Прыглушана вымаўляць словы (прастудзіўшыся, зуб выпаў, дэфект мовы і інш.). *Шапечаш, дачушка, зубкі выпадаюць – яны вырастуць, і ты будзяш чысто гаварыць.*

ШМАКАЗЯ´ЎКА *ж.* Нешта нязначнае, драбяза. *От сядзі як сядзіш, усякая шмаказяўка ў вочы лузці будзя.*

ШТО´НЬСЯ *займ.* Нешта, што-небудзь. *Штонься прыдумаям – пасядзім, параімся. Штонься зробіш з гэтае дошкі – шкада на дровы сечы.*

ШТУ´РХЕЛЬ *м.* Штурханец. *Як дам вось штурхяля пад бок. Збаяўся ён вельмі твайго штурхяля. А яна штурхель, штурхель яго ў плячо.*

ШТЫ´РХАЦЬ *незак.* Штурхаць. *Яна штырхая яго ды штырхая, а ён ні чманая нават.*

ШУ´ТКІ-ШУ´ТКІ-ШУ´ТКІ *выкл.* Так прываблiваюць авечак, калі яны недалёка ад вас, калі ж далёка, то клічуць: БАСЬ-БАСЬ-БАСЬ.

ЯЗДУ´Н *м.* Яздок. *Яздун знайшоўся – конь пабяжыць, упадзеш, а тады адказвай за цябе перад бацькам.*

Я´КСЯ *прысл.* Нейк. *Якся абыдзяцца. Якся дакосім. Яксяпаразумеюцца.*

*І. Я. Яшкін*

# СЛОВЫ З НАВАКОЛЛЯ І САМОЙ ТУРАЎШЧЫНЫ

Матэрыял збіраўся ў час экспедыцый пасля заканчэння абследавання гаворак Жыткавіцкага раёна Гомельскай вобласці і Столінскага раёна Брэсцкай вобласці для Тураўскага слоўніка ў пяці тамах (1981). Тут таксама прыводзяцца словы, якія запісаны ў наваколлі Тураўшчыны ў час экспедыцый для «Лінгвістычнага мікраатласа Тураўшчыны» (картатэкі захоўваюцца ў Інстытуце мовазнаўства імя Якуба Коласа НАН Беларусі). Словы нашай падборкі не ўваходзілі ў склад картатэкі Тураўскага слоўніка і мікраатласа Тураўшчыны. Яны не картаграфаваліся.

Прынятыя скарачэнні назваў раёнаў: Жытк. – Жыткавіцкі, Калінк. – Калінкавіцкі, Лельч. – Лельчыцкі, Лун. – Лунінецкі, Стол. – Столінскі.

А *часц.* А. *А сва́хі не ба́чыў?!* Вялікі Малешаў Стол.

АГІ´ *выкл.* Так (пры сцверджанні). Тураў Жытк.

АГЫ´ *выкл.* Так (пры сцверджанні). *Бачу, шчэ половіна, а бокі поўные. Агы* (то і двойню нарадзіла). Альшаны Стол.

АЙВО´ *выкл.* (пры здзіўленні). *Айво́ дуб ме́троў 10 і сучка не було!* Бечы Жытк.

АКРО´МЕ *прысл.* Апрача. *Акро́ме настояшчэго грыба́ козлякі е.* Беражное Стол.

БА´БА-СОЛОМ'Я´НКА *ж.* Старая жанчына, якая варожыць. *Ба́ба-солом'я́нка на соло́му ворожы́ла.* Семанавічы Лельч.

БА´БА СОПЛІ´ВА *ж.* Міфічная істота. *Ба́ба соплі́ва на пенькý седзі́ць да гора́чу ско́вороду дзе́ржыць, да заста́віць, шоб гора́чу ско́вороду цэлова́ў.* Семановічы. Лельч.

БАБКОВА´ТЫ *прым.* 1. Каранасты мужчына. Беражное Стол. 2. Мужчына, які падобны на жанчыну па паводзінах. *Бабкова́ты чолове́к.* Доўгая Дуброва Жытк.

БАГА´ТО *прысл.* Багата, многа. *Лісіча́нок бага́то росце́ по хво́йніку.* Альманы Стол.

БА´ГРЭВО *н.* Зарава. *Ба́грэво на не́бе, сто́ўб кра́сны* (стаіць). Доўгая Дуброва Жытк.

БАЖА́ЦЬ *зак.* Жадаць. *Пага́ны чоловéк, не бажáе добрá.* Семанавічы Лельч.

БА́ІЦЬ *незак.* Гаварыць, гаманіць. *Так не бáюць у нас.* Альманы Стол.

БАЙДУШЧЫ́НА *ж.* Лайдак. *Байдушчы́на абу́-якé!* Найда Жытк.

БАРВІ́НКА *ж.* Амяла. *Барві́нка росцé на берóзі, на хвоі́ні і на молодóй берэ́зцы росцé.* Альманы Стол.

БА́РКА *ж.* Дашчаная лодка. Альманы Стол.

БЕ́ЗНОСЦЬ *ж.* Прорва, бяздонне. Тонеж. Лельч.

БЕЛОВА́ТЫ *прым.* Белаваты. *Е сыроéжсы беловáты, чырвóны.* Альманы Стол.

БЕРЛО́Г *м.* Логава. *Свіньá рóбіць берлóг у хлéве.* Альманы Стол.

БЛАГА́ЦЬ *незак.* Лаяць. *Благáе ёгó зашчó?* Альманы Стол.

БЛЕЙЧА́К *м.* Ватэрпас, грунтвага. *Блейчáка купі́ў у Ві́льнюсе.* Іванава Слабада Лельч.

БО́БРЫК *м.* Божая кароўка. *Бóбрык, бóбрык! Ці пень ці колóда?* (прыгаворваюць на божую кароўку). Альманы Стол.

БОДЫ́ЛЬЕ *м.* Адна чарнобыліна. *Боды́лье. Зовéцца дай гóдзі.* Альманы Стол.

БОЛЯ́ЧКА *ж.* Пра адсутнасць чаго-небудзь. *Болячка! У молоды́х грóшэй булá* (калісьці), *а старыкі́ ўпівáлі.* Бечы Жытк.

БОРА́КА *м.* Той, хто дужаецца, крапак. *Мой брат борáка, борáка, то збóра любóга чоловéка.* Бечы Жытк.

БО́РУШНО *прысл.* Адзенне, лахманы. *Озмі́ своé бóрушно да одзені́са.* Альманы Стол.

БОЎКУ́НЕЦ *м.* Ярмо на аднаго вала. Вулька І Лун.

БРАШЭ́НЬ *м.* Стрыечны брат. *Брашэ́нь мой лю́бы!* Альманы Стол.

БРЭДУ́ХА *ж.* Брахуха. *Брэду́ха ты, шо набрэ́дзіла* (нагаварыла няпраўду). Альманы Стол.

БРЭШЧА́ЦЬ *незак.* Шамацець, бразгатаць. *Брэшчы́ць лён, посóхлі голóўкі.* Альманы Стол.

БУ́ЛЬБІШЧЭ *н.* Поле, дзе расла бульба. Альманы Стол.

БУСЬКІ́ *мн.* Трава касталом. Альманы Стол.

БУ́ЦІК *м.* Бычок. Найда Жытк.

БЭЙЦУ´Х *м.* Адна ягада буякоў. *Бэйцýхі ростýць у нас, бы чэрыніцы вонí* (буяны, буяхі – на Украіне). Альманы Стол.

ВАЛЯ´ЦЬ *незак.* Спілоўваць дрэва. *Валя́ў, да завíсло дзéрэво.* Бечы Жытк.

ВА´РЫВО *м.* Боршч. *Бóчка для вáрыва.* Бечы Жытк.

ВЕ´ЛЯ *н.* Вялікае. *З мáла да вéля усé мóжэ расказáць.* Альманы Стол.

ВЕ´НО *н.* Пасаг. *Екé ж там вéно далí? – Тры корóві.* Бечы Жытк.

ВЕРХ *м.* Адсечаны верх дрэва. *Дзерэвíну зобрáў, а верх покíнуў.* Альманы Стол.

ВЕ´РЭС *м.* Верас. *Рыба на нéрэс, а корóва на вéрэс* (на пашу) (прыказка). Танеж Лельч.

ВЕСЕЛЕ´Ц *м. метаф.* Назва жураўля. Альманы Стол.

ВЕ´ЧНОСЦЬ *ж.* Усё жыццё, век. *Дóнько, я ішлá на вéчносць, а цепéр не векýюць зáмужэм.* Бечы Жытк.

ВІ´ЛЬЧЫК *м.* 1. Верх дрэва. *Залéз на сáмы вíльчык.* 2. Грэбень на страсе. *На хáці вíльчык.* Альманы Стол.

ВІНДОВА´ЦЬ *незак.* Круціцца. *Собáк пусцíў, то летáюць да віндýюць по горóду.* Доўгая Дуброва Жытк.

ВОЁВА´ЦЦА *незак.* Змагацца, цягацца. *Воёвáўся з год, судзíўса* (з ім). Бечы Жытк.

ВУ´ПУЧЫЦЬ *зак.* Выставіць, паказаць. *Вýпучыць пýпа і спінá гóла.* Семанавічы Лельч.

ВУС *м.* Вус. *У менька вусоў нема.* Альманы Стол.

ВЫО´РВАЦЬ *незак.* Выворваць (плугам). *Выóрваюць бýльбу на бульбя́нішчы.* Бережное Стол.

ВЫПА´РВАЦЦА *незак.* Выбельвацца. *К сóнцу выпáрваецца полотнó, белéе.* Альманы Стол.

ВЫ´ПЕРЦІ *зак.* Зрабіць, выгнаць, вырасці. *Ґýлу вы́перло на соснé.* Альманы Стол.

В'ЯЗА´НКА *ж.* Вязанка. *Лён брáлі у пучкí, а патóм вязáлі ў снопы́, у в'язáнкі.* Бережное Стол.

ГА´МУЗОМ *прысл.* Гурбой, усе разам. *Гáмузом усé ў хáту* (увайшлі). Бечы Жытк.

ГАМУ´ЛКА *ж.* Сусла (камячок пажаванага ў роце хлеба, часам падсалоджанага, у шматку тканіны, каб супакоіць дзіця). *Гамýлку зробí да ў рот увопры́* (то сціхне). Бярэжцы Жытк.

ГЛЕДЗЕ´НЬЕ *н.* Люстра. Калінк.

ГЛЫБ *ж.* Глыбіня. *У водзé такáя глыб!* Бечы Жытк.

ГЛЯ́НУЦЬ *зак.* Глянуць. *Як гля́нуць сама́ гне́ча.* Альманы Стол.

ГНЕ́ЧА *ж.* Нетра, гушчар. *По гне́чы, по гу́шчы насобіра́е се́на.* Альманы Стол.

ГОЙНА́ *ж.* Гняздо, логава, бярлога. *Во́ўча гойна́. Соба́ча гойна́.* Альманы Стол.

ГОЛОВА́ТЫ *прым.* З нарасцю (пра дрэва). *Голова́та сосна́.* Альманы Стол.

ГОЛОВЕ́ШКА *ж.* Галавешка. *Сінякo҆ў нагна́ў, чо́рна, ек голове́шка.* Доўгая Дуброва Жытк.

ГОНЧА́К *м.* Лодка з дошак. *Гонча́к прорва́ўся ў На́йдзено о́зеро.* Найда Жытк.

ГОРАЧЭ́ *прысл.* Горача, спякотна. *Горачэ́ на дворэ́.* Альманы Стол.

ГО́РКА *ж.* Грудок. Альманы Стол.

ГОРОБЧЫ́ХА *ж.* Вераб'іха. *Горобчы́ха клюе́ дзю́бай про́со.* Альманы Стол.

ГОРОВА́ЦЬ *незак.* Працаваць. *Як хто мо́жэ, так і гору́е, так і перажыва́е.* (Гаворка ішла пра калгасніка, у якога 12 дзяцей і 12 галоў рагатай жывёлы.) Альманы Стол.

ГОСПОДЫ́НЯ *ж.* У паноў жанчына, якая кіравала кухняю, ахмістрыня. Беражное Стол.

ГРАДО́ВА СЕРАДА́. Свята. Серада велікоднага тыдня. *Не ро́бляць на градо́ву сераду́, шоб град не побі́ў посе́вы.* Семанавічы Лельч.

ГРЫБ *м.* Грыб, які паразітуе на драўніне, выклікае яе гніенне. *Грыб зале́з у ха́ту.* Альманы Стол.

ҐРЫНДЖО́ЛІНА *ж.* Прылада ў выглядзе літары «А» з выступам зверху для вымярэння ліній зямельных участкаў. Бярэжцы Жытк.

ГРЭ́ЧКА *ж.* Грэчка. *Грэ́чку косі́лі і ста́вілі, а як ву́сохне, то вяза́лі у снопу́.* Семанавічы Лельч.

ГУ́ВЕСНА *ж.* 1. Прадвесне. *На Стрэ́чанне гу́весну дзе́ці спраўля́юць: «Гу́весна, шо ты нам ву́несла? Дзе́вочкам по ху́стоцы, а хло́пчыкам по ша́поцы, а стары́м дзедо́м і бабо́м по па́лоцы, а мале́нькім дзе́ткам по ее́чку».* Семанавічы Лельч. 2. Дзень сустрэчы вясны. *Гу́весна ў пе́рвом ты́жні поста́* (бывае). Беражное Стол.

ГУ´РБА *ж.* Куча, гурба. *Лóбузь скідáём у гýрбу.* Альманы Стол.

ДА´ЖЭ *прысл.* Нават. *Нáвет вон дáжэ і дýмаць не хóчэ.* Альманы Стол.

ДЗЕД *м.* «Хлеба (даць)?» – *«Поскочыí дзéда».* Альманы Стол.

ДЗЕРЖА´ЦЦА *незак.* Трымацца, знаходзіцца. *Водыí немá, то вoныí не дзержáцца* (тут вужы, на сушы, дзе паблізу няма вады). Альманы Стол.

ДЗЕРЭЗА´ *ж.* Павітуха. *Дзерэзá ў болóцi пахнé* (у траве белая павітуха з дробнымі белымі краскамі). Альманы Стол.

ДЗЕЎКІ´ШЧЭ *н. абразл.* Пра лайдакаватую дзяўчыну. *Дзеўкíшчэ абý-якé.* Найда Жытк.

ДЗІКА´Р *м.* Дзічына. *Не знáю, ек дзікáра* (лісы, зайцы паводзяць сябе ў стане веснавога ўзбуджэння). Альманы Стол.

ДО´БРЫ ДЗЕ´НЬ! Вітанне. *Вітáюць рáнком: дóбры дзень!* Семанавічы Лельч.

ДОГНА´ЦЬ *зак.* Дагнаць. *Покýль я собрáласа, то воныí óнодзе, кажэ́, пошлí, а я догнáла.* Альманы Стол.

ДО´ЖДЖ *м.* Дождж. *Дожджý не бýдзе покá квáдра не поменя́ецца.* Вялікі Малешаў Стол.

ДОКУ´ЛЬ *прысл.* Дакуль. *Спаў, спаў, докýль й выíспаўса.* Альманы Стол.

ДО´ЛЯ *ж.* Доля, шчасце. *Дóля, дóля, як у нéбі стóля. Немá ў нéбі стóлі. Немá ў менé дóлі.* Іванава Слабада Лельч.

ДОПОЎСМЕ´РЦІ *прысл.* Да непрытомнасці. *Злякáўсе, шчо аж побелéў допоўсмéрці.* Альманы Стол.

ДОСТА´ЦЦА *зак.* Дабрацца. *Ек не мóжно достáцца, то тóчно не доберэ́мся* (у Амерыку). Семанавічы Лельч.

ДОЎНА´ЦЬ *незак.* Бурчэць. *Лежыíць дай доўнáе, гáркае, ворчыíць.* Альманы Стол.

ДОЦЕ´РПАЦЬ *незак. А я доцéрпаю* (не спяшаюся). Найда Жытк.

ДУБО´К *м.* Доўбаная лодка. Струга Стол.

ЕРШОВА´ТЫ *прым.* Светлай масці, шэры. *Конь ершовáты – анí бéлы, анí чóрны, éрэш.* Семанавічы Лельч.

Е´РЭШ *м.* Шарак, светлай масці (дэ́раш). Семанавічы Лельч.

ЕСЕ́ЛЬНІКІ *мн.* Драбінкі, за якія трымаецца мёд у колодзе, у яе галаве. Найда Лельч.

ЖАЛКОВА́ЦЬ *незак.* Шкадаваць, хваляваццa. *Вон по косé жалкýе.* Семанавічы Лельч.

ЖАРО́К *м.* Чырвоная мурашка. *Жаркí пекýць* (*мóцно*). Альманы Стол.

ЖА́ХКО *прысл.* Страшна, жахліва. *Самóму жáхко, ек вужы́ лежáць логóм по порослé.* Альманы Стол.

ЖМІНДЗІ́ЦЬ *незак.* Бурчаць, незадаволена бубніць. *Цэлы дзень лежыць дай жміндзіць.* Бечы Лельч.

ЖМОДЗЬ *ж.* Навала, саранча. *От, гэта жмодзь, не накорміш, у вошчо вона* (есць) (*на вутки́*). Альманы Стол.

ЖОЎНА́ЦЬ *незак.* Бурчаць. Беражное Стол.

ЖУЛІ́КАЦЬ *незак.* Казытаць. *Не жулíкай, я боюс лóскоту.* Альманы Стол.

ЖУЧО́К *м.* Ягада ажыны. *Наéўсь жучкóў у ожы́льніку.* Альманы Стол.

ЖЭЛЕ́ЗЫ *мн.* Прыстасаванне ў выглядзе рашоткі для лучыны ў свяцільным коміне. *На жэлéзах, на лучыні свецíлі колíсь.* Альманы Стол.

З *прыназ.* З. *Блінцэ́ з мукí.* Альманы Стол.

ЗА́БЕРДЗЬ *ж.* Драўніна хвоі з нетрывалымі слаямі. *У хвóі е зáбердзь: у её слоé смолóвые й по пáльцу.* Бечы Лельч.

ЗАВЕДЗЕ́НЦЫЯ *ж.* Мода, звычай. *Хотомцэ́ (жыхары вёскі Хотамель) опéнькі ядýць, а ў нас заведзéнцыі немá éсці.* Альманы Стол.

ЗАВЕРЭ́ЙКА *ж.* Дошка ў агароджы, якая адсоўваецца (замест варот). Танеж Лельч.

ЗАГУБІ́ЦЬ *незак.* Загубіць. *Не плач, ек загýбіш, не рáдуйся, ек нáйдзеш* (прыказка). Альманы Стол.

ЗА́ЕДЗЬ *ж.* Машкара, заедзь. *Зáедзь нападзé на корóву, то й не надóем молокá.* Альманы Стол.

ЗАЛЕ́ЗЦІ *зак.* З'явіцца. *Грыб залéз у хáту.* Альманы Стол.

ЗАЛОЖЭ́НЬЕ *н.* Залажэнне. *Заложэ́нье цэ́ркві на трэ́ці дзень Пáскі у Альмáнях.* Альмані Стол.

ЗАМОРУ́ЖЫЦЬ *зак.* Зажмурыць. *Заморýжыў вóка.* Альманы Стол.

ЗАПА´ЛЬЧЫНА *ж.* Адна запалка. *Одну́ запа́льчыну* (у вайну) *раско́лвалі на тры.* Альманы Стол.

ЗАПА´ХВАЦЬ *незак.* Засейваць. *Пожню осенню оруць мелко, добаўляюць гной і запахваюць под посеў, а весною побороноваў і посеяў.* Беражное Стол.

ЗАПРАЎЛЯ´ЦЬ *незак.* Наводзіць, ставіць, падрыхтоўваць. *Кро́сна запра́ўлены.* Альманы Стол.

ЗАРОСЦІ´ *зак.* З'явіцца, вырасці. *Зарослі́ пампу́хі, ужэ́ бу́дуць грыбы́ росці́. Грыбы́ зарослі́, ужэ́ бу́дуць росці́.* Альманы Стол.

ЗАСЕ´СЦІ *зак.* Густа зарасці. *Засе́ла одна́ лоза́.* Беражное Стол.

ЗАСКОРУ´ЗІЦЬ *зак.* Агрубець, стаць шурпатым. *Заскору́жэно бер́эзі* (кара). Доўгая Дуброва Лельч.

ЗАЦЯ´ГЦІ *зак.* Зацягаць. *Заця́г бороно́ю тро́ху тэ по́ле.* Альманы Стол.

ЗБАНО´К *м.* Гліняны гладыш. Альманы Стол.

ЗДОРОВІНА´ *ж.* Здаравяка. *Здоровіна́ булі́ лю́дзі ў постоля́х і не ка́шлялі.* Альманы Стол.

ЗДОРО´ВЫ *прым.* Здаровы. *Здоро́вы до чо́рта. Здоро́вы, ек медзве́дзь.* Альманы Стол.

ЗЕБЛЯ´ *ж.* Зябліва. *Трэ ора́ць на зе́блю.* Альманы Стол.

ЗЛЮ´БВАЦЬ *зак.* Аблюбаваць. *Злю́бваюць грыбы́ пры доро́зі (сабе́ ме́сца)/ й росту́ць.* Альманы Стол.

ЗОБЭ´НЬКА *ж.* Прамавугольная лубянка, кораб з лубу. *Зобэ́нька, коро́бка з лі́пы, а ко́шэль з дра́нкі.* Танеж Лельч.

ЗОГНІСЦІ´ *зак.* Згнісці. *Не муй, коб подло́га не зогніла́.* Семанавічы Лельч.

ЗОДРА´ЦЬ *зак.* Здзерці. *Зодра́ў кору́.* Альманы Стол.

ЗЫР *м.* Гарачыня. *Ба́бку ў зыр ста́вяць тушы́цца.* Бечы Жытк.

ІЗЛІ´ЦЬ *зак.* Моцна змачыць. *До́ждж ізлі́ў, пра́мо про́лівень!* Іванава Слабада Лельч.

КА´ЙСТРА *ж.* Чапля. Альшны Стол.

КА´ПОСЦЬ *ж.* Шкода, паскудства. *Хто́-то́ ка́посць зробі́ў у заго́не пшэні́цы, за́вітку.* Бечы Жытк.

КІЙ *м.* Прамая тонкая палка. *Хвэ́дор, возьмі́ кі́я да ву́несем цэ́бор коро́ві!* Іванава Слабада (5 км ад Танежы) Лельч.

КЛЕКОТА́ЦЬ *незак.* Крычаць (пра птушак). *Кажэ́, пошо́ў на торо́к, ек начына́юць клекота́ць глусцы́.* Беражное Стол.

КЛЕ́ТКА *ж.* Зруб у калодзежы. *Клётку у во́ду* (ставілі). Бечы Жытк.

КНІ́ГА *ж.* Кнігаўка. *Кні́га спева́е кугі́-кугі́.* Альманы Стол.

КНІ́ГАЎКА *ж.* Кнігаўка. Альманы Стол.

КО́ЛІСНІ *прым.* Колішні. *Мо хто ко́лісні ска́жэ мога́йбо.* Сямурадцы Жытк.

КО́ЛО *прыназ.* Каля. *Опёнькі росту́ць ко́ло пня.* Альманы Стол.

КОЛО́ШВА *ж.* Калашына. *Коло́шва за коло́шву закру́чваецца.* Доўгая Дуброва Жытк.

КО́ЛОШНЯ *ж.* Калашына. *Ко́лошні шыро́кі ў крэ́слі.* Бечы Жытк.

КОНО́ЗА *ж.* Капрызная, фанабэрыстая асоба. *Коно́за коно́зіцца.* Доўгая Дуброва Жытк.

КО́НСКІ: КО́НСКІ ВО́ЛОС. Чорны прожылак ў драўніне дуба. *У ду́бі ко́нскі во́лос, то бо́чка і цечэ́.* Беражыстае Стол.

КОНЯ́ЧКА *ж.* Слабы, заезджаны конь. *Запрага́е коня́чку.* Бечы Жытк.

КОРА́КА *м.* Анучнік. *Кора́чнік збіра́ў кора́кі.* Найда Жытк.

КОРО́БКА *ж.* Кошык ці сяўня. *Коро́бка* (робіцца) *з соло́мы, з праві́цы і вербы́.* Альманы Стол.

КОРОВА́ТЫ *прым.* Шурпаты. *Берэсці́на корова́тая.* Доўгая Дуброва Жытк.

КО́РШАК *м.* Вялікі каршун. Альманы Стол.

КОЎГА́Н *м.* Драўляная міска. Кайда Жытк.

КОЎТУ́ННІК *м.* Дзераза. Альманы Стол.

КОХА́НЫ *прым.* Каханы. *А бо́жэчко коха́ны!* Хлупін Жытк.

КОШУ́ЛКА *ж.* Плеценая з саломы кашолка для захоўвання яек. Бечы Жытк.

КОШЭ́ЛЬ *м.* Плецены выраб для захоўвання і пераношвання чаго-небудзь. *Кошэ́ль плелі́ з дубцо́ў. Кошэ́ле дзе́лаюць з дране́.* Бечы Жытк.

КРАІ́ЦЬ *незак.* Рэзаць на паскі. *З поло́сья кра́юць окра́ўкі і дзе́лаюць постолы́.* Танеж Лельч.

КРАЙ *м.* Край, канец. *Зара́ косові́ца, іду́ць кра́й све́ту.* Альманы Стол.

КРА́КАЦЬ *незак.* Крычаць «кра-кра». *Кра́чыць крумка́ч: кра-кра.* Бечы Жытк.

КРА́СНЫ *прым.* Чырвоны. *Малі́ны, калі́ны кра́сные рос-ту́ць.* Альманы Стол.

КРО́ІЦЬ *незак.* Краіць, рэзаць. *Кро́іць матэ́рыю трэ. Дзеро́м лозу́ да кро́ім ножо́м на па́скі і плето́м постолы́.* Альманы Стол.

КРУ́ГЛЕНЬКІ *прым.* Кругленькі. *Сі́тнік кру́гленькі.* Альманы Стол.

КРУ́Ж'Е *н.* 1. Дубовыя плашкі. *Кру́ж'е заклада́лі ў коло́дзеж.* Найда Жытк. 2. *зборн.* Кругі. *Цэменто́вуе кру́ж'я* (у калодзежы). Бечы Жытк.

КРУШНІ́К *м.* Крушына. Альманы Стол.

КРЭ́СІЛО *н.* Крэсіва, кавалак сталі для высякання агню з крэменю. *Колі́сь було́ крэ́сіло, кра́мень, о́гніво* (дабываць агонь). Беражное Стол.

КРЭ́ШЫВО *н.* Крэсіва. *Гу́бка на ду́бі, на берэ́зі росце́ для крэ́шыва вона́.* Альманы Стол.

КУ́БЛІЦЦА *незак.* Рабіць ямкі (пра курэй). *Акі́ша! Пры-шла́ сюды́ ку́бліцца?!* Альманы Стол.

КУ́КЛА *ж.* Сусла самаробнае для дзіцяці. *Ку́клу зробі́ да ў рот увопры́* (дзіцяці). Бечы Жытк.

КУЛІ́К *м.* Кулік. Альманы Стол.

КУПНІ́СТЫ *прым.* Куп'істы. *Ме́сто там купні́стое, а тут гално́е.* Бечы Жытк.

КУТО́К *м.* Тоўстая кішка, начыненая мясам. *Куто́к – кі́шка больша́* (начыненая мясам). Альманы Стол.

ЛАЙНО́ *н.* Адна рэч адзення, бялізны. *Там тых лаён, шо адзева́юць, е бага́то.* Альманы Стол.

ЛА́ТКА *ж.* Жменя скручанага лёну. *Жме́ню скру́цім у ла́тку.* Альманы Стол.

ЛЕДА́ШЧЫ *прым.* Лянівы. *Леда́шчэ дзеўзно́!* Танеж Лельч.

ЛЕСОВЫ́ *прым.* Лесавы. *Лесовы́ бу́сько чо́рны.* Альманы Стол.

ЛІСА́ВЫ *прым.* Ліслівы. *Агы́! Ці така́ во́на ліса́ва, ці така́ до́бра?* Семанавічы Лельч.

ЛОБА́ЧЫК *м.* Шчупак. Альманы Стол.

ЛОГ *м.* Пласт. *Вужы́ лежа́ць ло́гом по поросле́.* Альманы Стол.

ЛОЖА´ЦЬ *незак.* Лажыць, класці. *Поле́но ложа́ем да ёго́ рожны́ з грыба́м кладо́м у печ.* Іванава Слабада Лельч.

ЛУЧЫ´НА *ж.* Смольныя дроўцы з карчоў для падпалу. *Лучы́ны насечы́, а дроў наколі́.* Іванава Слабада Лельч.

-ЛЫ. Ужыванне марфемы *-лы-* замест *-лі-*. На -лы- гаворыць у в. Дубой, Плотніцы, Стахаве (*рабілы, снілы).* Беражное Стол.

ЛЮБЫ´ *прым.* Любы. *Чэшуя́ на любо́й ры́бе е.* Альманы Стол.

ЛЯК *м.* Зляканне. *Ляк напа́ў, аж обопне́ў.* Семанавічы Лельч.

МАЛЫ´ *прым.* Малы. *Вороня́ка мала́, а крук велі́кі ў ле́сі.* Альманы Стол.

МАРА´ *ж.* Здань, прывід. *Распусці́ў ко́сы і хо́дзіць як мара́, нейке́ недо́брэ.* Семанавічы Лельч.

МЕТЛОВЕ´НЬЕ *н.* Дзяржальна ў мятле. *Метлове́нье ў метлу́ забіва́еццa.* Альманы Стол.

МЕШАЦЬ *незак.* Перашкаджаць. *Нашчо́ ты меша́еш людзя́м!* Бечы Жытк.

МОГА´ЙБО *выкл.* Вітаюць днём тых, хто робіць. *Мога́йбо! Поможы́ Бо́жэ!* Семанавічы Лельч.

МО´РДА *ж.* Шчака. *Ба́ба ро́біць і ўгледа́еццa ў лю́стро на мо́рды.* Семанавічы Лельч.

МО´ШКА *ж. зборн.* Мошкі, заедзь. *Мо́шка зае́ла.* Альманы Стол.

МОШКАРА´ *ж. зборн.* Мошкі, заедзь. *Мошкара́ зае́ла.* Альманы Стол.

МРА´ЧЫЦЬ *незак.* Імжыць. *Мра́чыць мра́ка.* Бечы Жытк.

МУРОВА´ЦЬ *незак.* Будаваць, складваць. *Мура́шкі муру́юць собе́ кубло́.* Бечы Жытк.

МУРО´Г *м.* 1. Мурог, споры. *Лосі́ (грыбы), у йіх з-пад ні́зу муро́г такі́* (расце), *мошо́чэк.* Альманы Стол. 2. Расліна спарыш. *Муро́г сві́нья едзя́ць.* Альманы Стол.

МУ´ЧЭЛЬНІК *м.* Талакнянка. Альманы Стол.

МЫРЛЫ´КАЦЬ *незак.* Мычаць. *Целя́ мырлы́чэ.* Альманы Стол.

НА *прыназ.* На. *Кот пропа́ў на весне́.* Альманы Стол.

НАГЛЕ́Ц *м.* Высакарослы. *Наглéц вы́рос.* Доўгая Дуброва Житк.

НАГОРОВА́ЦЬ *зак.* Нарабіць, зарабіць. *Нагоровáла ты мне хлéба?* Альманы Стол.

НАЕ́ДНО *прысл.* Уежна. *Хоць не наéдно, абы́ улéжно* (прыказка). Альманы Стол.

НАЗНАЧА́ЦЬ *незак.* Меціць. *Гýсі назнáчаць крáскою.* Альманы Стол.

НАЗО́ЛА *ж.* Назола, дакука. *От, такá назóла тэ жукі́!* Альманы Стол.

НАПА́РНІК *м.* Напарнік. *Грыб адзі́н вы́рос, то шукáём напáрніка.* Альманы Стол.

НАПРЫНАМСІ́ *прысл.* Абавязкова. *Мне еда не напрынамсі́, могý церпéць і до дванáццаці.* Альманы Стол.

НАПРЫСТРЭ́ЧЫЦЬ *зак.* Сурочыць. *Вýтрэшчыў вóчы і напрыстрэ́чыў.* Семанавічы Лельч.

НАРОБІ́ЦЬ *зак.* Нарабіць слядоў, наслядзіць. *Наробі́ў следóў своі́мі чобоцьмі́.* Альманы Стол.

НАСТРОМГОЛОВУ́ *прысл.* Стрымгалоў. *Настромголовý ідзé.* Танеж Лельч.

НАЎРО́ЧЫЦЬ *зак.* Сурочыць. *Наўрóчыў дзіця́.* Альманы Стол.

НАЦЯГА́ЦЬ *незак.* Насоўвацца. *Хмáра нацягáе, мáбуць бýдзе дóждж.* Альманы Стол.

НАШКРЭБЦІ́ *зак.* Наскрэбсці. *Вóна хóчэ нашкрэбці́ молодóй бýльбы.* Альманы Стол.

НЕБОЖА́ТА *мн.* Дзеці, моладзь. *Небожáтам богаты́р отдáў грóшы кацяры́нкай.* Семанавічы Лельч.

НЕЗГРЭ́ЙНЫ *прым.* Нязграбны. *Незгрэ́йны остóпок!* Танеж Лельч.

НЕ́МА *прысл.* Моўчкі, стаць нямым. *Нéма, як сцянá, стáла глýха.* Семанавічы Лельч.

НЁГОЦЬ *м.* Ногаць. *Порэ́зала пáльца і нёгця отрэ́зала нóжэм.* Альманы Стол.

НІ *часц.* Ні, не. *Німá ні гóдное косі́ны.* Альманы Стол.

НІКО́МЕНЬКУ *займ.* Нікаму. *Ты моя́ голýбочка, скажý я тобé нóвосць, тóлькі ты нікóменьку не кажы́!* Семанавічы Лельч.

НУ *часц.* Так. *Ну, пайдý ў я́гады* (журавіны). Альманы Стол.

ОБ'І'НЬВАЦЬ *незак.* Пакрываецца інеем. *Мурóг об'і́ньвае.* Бечы Жытк.

ОБКРУ'ЖНОСЦЬ *ж.* Акруга. *По 'бкру́жносці прыстрэ́к* (гаворань). Доўгая Дуброва Жытк.

ОБРОБЛЯ'ЦЬ *незак.* Лупіць бульбіну. *Вонá обробі́ла бу́льбу да порэ́зала на крышаны́.* Альманы Стол.

ОБРЭ'НТВАЦЬ *незак.* Абкручваць. *Нáноч обрэ́нтвала ру́кі од золоту́хі.* Альманы Стол.

О'БУЙ *м.* Абутак. *Обуі прывезлі богато.* Семанавічы Лельч.

ОГІ'ДНУЦЬ *зак.* Выклікаць агіду. *Шэсцьдзесят дзве кáчкі було́ ў мене́, да огі́длі так* (іх мяса). Найда Жытк.

ОДБІ'ЦЬ *зак.* Адмераць, выдзеліць. *А дзе ты мне одбі́ў травы́?* Альманы Стол.

ОДГО'Н *м.* 1. Перагон з малака. 2. Слабая самагонка. Найда Жытк.

ОДГРЭБЦІ'СА *зак.* Адгрэбціся. *От, музго́ль прыпáла, не одгрэбці́са од ее.* Бечы Жытк.

ОЖЫ'ЛЬНІК *м.* Ажыннік. *Жучкі́ ростуць на ожы́льніку.* Альманы Стол.

ОКРО'П *м.* Кроп. *Окро́п, мак росце́ на огоро́дзі.* Альманы Стол.

ОКУ'НЬ *м.* Ёрш. Альманы Стол.

ОКУ'НЬЧЫК *м.* Ершык. Альманы Стол.

ОПАЛІ'ЦЬ *зак.* Апячы. *Окро́пом опáліш ру́кі.* Альманы Стол.

ОПЛІ'К *м.* Гузік, аплік. *Оплі́к зашчэпі́ўса.* Бечы Жытк.

ОРОБЕ'Й *м.* Верабей. *Я кладу́ жэ́рдку на водзе́ і качкі́ садзя́цца як ороб'е́* (хвост туды, галову сюды). Найда Жытк.

ОСО'Т *м.* Асот. *Е осо́т і крапі́ва два со́рты.* Альманы Стол.

ОСТА'РВАЦЦА *незак.* Састарвацца. *Стары́ грыб остáрваецца.* Бечы Жытк.

О'СЦІ *мн.* Рыбалоўная прылада, восці. Альманы Стол.

ОТ *выкл.* Вось, ат. *От, мах, свіньня́ вы́росла.* Альманы Стол.

ОТПА'СЫЧ *м.* Парастак ад кораня, ад пня. *Отпáсычы отхо́дзяць з вербы́, от ко́рэня.* Альманы Стол.

ОТРОНО´ЖЫЦЬ *зак.* Стрыножыць повадам за рогі і пярэднюю нагу. *Отронóжсыць корóву за однý ногý.* Танеж Лельч.

ПА´ДАШЫЦЬ *незак.* Гоняцца, імкнуцца (набыць). *Воньí (жсыхары бязлесся) за гэ́тымі пампýхамі (*грыб порхаўка*) ўжэ так пáдашаць.* Альманы Стол.

ПАКОПА´ЦЬ *зак.* Выкапаць. *Бýльбу пакопáём.* Альманы Стол.

ПАНЦЫ´РКА *ж.* Кароткая вопратка з сукна, якая падшыта адходамі з ільновалакнянага атрэп'я. Альманы Стол.

ПА´РЫЦЬ *незак.* Выліваць гарачае, высыпаць, выварочваць. *Пáрым у цэ́бер бýльбу варóну.* Альманы Стол.

ПАСЦІ´СА *незак.* Паляваць. *Куні́ца пасéцца зайцáмі.* Найда Жытк.

ПАХУ´ЧЫ *прым.* Духмяны. *Е пахýчы плéшнік і е непахýчы плéшнік, два сóрты.* Альманы Стол.

ПЕ´РВЕСТКА *ж.* Карова першым цялём. Доўгая Дуброва Жытк.

ПЕРЭБЕ´РЦІНА *ж.* Тое ж, што і перэберць. Найда Жыт.

ПЕРЭБЕ´РЦЬ *ж.* Драўніна з чаргаваннем здаровых і гнілых праслоек. *Перэбéрць – перэбердзёвата хвóя, смóльная.* Найда Жытк.

ПЕРЭВЕ´СЦЬ *зак.* Загубіць, знішчыць, пашкодзіць. *Свіні́шчэ перэвéло мне огорóд.* Семанавічы Лельч.

ПЕРЭО´РВАЦЬ *незак.* Пераворваць. *Бульбя́нішчэ перэóрваюць.* Беражное Стол.

ПЕРЭО´РЭНЫ *дзеепрым.* Пераворана. *Перэóрэно пóле на веснé і зóсені.* Альманы Стол.

ПЕРЭХО´Д *м.* Пераход. *Перэхóд на рэ́цэ плоў.* Альманы Стол.

ПЛЕ´ВЭНЬ *ж.* Дзетвара (пры лаянцы). *Плéвэнь напáла, пóрцяць я́блука, об'éла ўсе чьíсто.* Бечы Жытк.

ПО *прыназ.* Па, якраз. *По капелюшэ́ гýскі ростýць.* Альманы Стол.

ПОВЕ´НУЦЬ *зак.* Павеяць. *Вéцер повéне, то вонó одстаé* (пра мякіну пры веянні). Альманы Стол.

ПОВЕ´РНІЦА *ж.* Ярмо на двух валоў (*боўкунéц* – на аднаго вала). Вулька Лун.

ПО́ВОД *м.* Повад, кароткая вяроўка. *Озьмі́ пóвод да ведзі́ целя́!* Бечы Жытк.

ПОВОРОЧА́ЦЬ *незак.* Вярнуць. *Вóна старá жóнка тут зáмужэм, то бы на цэ поворочáе, не забывáе своґó.* Альманы Стол.

ПОДОРО́ЖНЫ *прым.* Хто многа ездзіць, падарожнічае. *Подорóжного чоловéчэ звáлі.* Семанавічы Лельч.

ПОДШЧУ́ЛЬВАЦЬ *незак.* Падварочваць, падгінаць. *Бусько́ йгрáе, хвостá подшчу́львае под срáку.* Доўгая Дуброва Жытк.

ПОЗАЛА́МВАЦЬ *зак.* Пазаломваць. *Хтó-тó позалáмвае жы́то, ек рóбіць зáвітку у загóне.* Бечы Жытк.

ПОЗБОЎКА́ЦЬ *зак.* Перастаць варушыцца. *Жукі́ потону́лі (у ґáзе) да позбоўкáлі, воны́ нежывы́е.* Альманы Стол.

ПОЗЫВА́ЦЬ *незак.* Паклікаць. *Позывáлі бáцюшку да хрысці́лі б дзіця́.* Альманы Стол.

ПОКАЛЕ́КАЦЦА *зак.* Забрудзіцца, запэцкацца. *Покалéкаўса ў гразь.* Бечы Жытк.

ПОЛЕПІ́ЦЬ *зак.* Запэцкаць. *У гразь нóгі полéпіш.* Бечы Жытк.

ПОМА́НЬВАЦЬ *незак.* Дражніць, кпіць. *А я помáньваю, а вонá кліне́.* Семанавічы Лельч.

ПОМ'ЯТУ́ШЧЫ *прым.* Памятлівы. *Голову́ пом'яту́шча, коб шчо почу́ла, то ўжэ знáе.* Альманы Стол.

ПОНЯ́ЦЬ *незак.* Ганяць на пашу. *У мене́ дзве корóвы, то пры́дзе óчэрэдзь, то я поня́ю дзень.* Альманы Стол.

ПООБІВА́ЦЬ *зак.* Пааббіваць. *Берóм лён, і кладóм пучкі́ і пра́ніком у хлéве на току́ пообівáём, і сцелём ёго на поплавóх, і ў ўязáнкі ўя́жом.* Альманы Стол.

ПООБТРЭ́НТВАЦЦА *зак.* Паабкручвацца, паабвязвацца. *Пообтрэ́нтваліса бы бáбы ху́сткамі.* Альманы Стол.

ПОПАЛІ́ЦЦА *зак.* Згарэць. *Мóзкі попалі́ліса ў свéсці.* Танеж Лельч.

ПОПЕ́КАЦЬ *незак.* Марозіць моцна (пра марознае надвор'е). *Морóз попéкае.* Беражное Стол.

ПОПОЛЁВА́ЦЬ *зак.* Апладніцца (пра жывёл). *Пополёвáла корóва.* Альманы Стол.

ПОРОСХО´ДЗІЦЦА *зак.* Паразыходзіцца. *Поросхóдзіліса по прыімах.* Бечы Жытк.

ПОТО´П *м.* Патоп, вялікая вада. *Так водá булá, потóп, поробíлі суш.* Найда Жытк.

ПОЎДЗЕЎЯ´ТКА *ж.* Берда на 9 $^1/_2$ пасмаў. Альманы Стол.

ПОЎРО´ЧЫЦЬ *зак.* Сурочыць. *Подзівíласа на мене́ і поўрóчыла.* Семанавічы Лельч.

ПО´ЧВА *ж.* Глеба. *Такá пóчва земле́.* Бечы Жытк.

ПОЯСНІ´ЦА *ж.* Пояс. *Пояснíца зашпíльваецца* (у штанах). Бечы Жытк.

ПРО´БЫТ *м.* Праход, спакой. *Прóбыт не давáў зяць.* Бечы Жытк.

ПРО´ДОК *м.* Продак. *С прóдка говорыілі базáр.* Доўгая Дуброва Жытк.

ПРОЙМА´ЦЬ *незак.* Працягваць, праймаць. *Праз стол проймáлі, ек прыстрэ́к* (лячылі). Доўгая Дуброва Жытк.

ПРОКЛА´СЦІ *зак.* Назваць, даць найменне. *Проклáлі нáзву Тоне́жы.* Танеж Лельч.

ПРО´СТЫ *прым.* Дзікі. *Дзíке я́блука несмáчные, прóстые.* Альманы Стол.

ПРО´СТЫ БОБ *м.* Боб. *Прóсты боб емó* (сыры). Альманы Стол.

ПРЫ *прыназ.* Каля, пры. *Лін пры земле́ жыве́.* Бечы Жытк.

ПРЫКМЕЧА´ЦЬ *незак.* Прыкмячаць. *Ніхтó не прыкмечáў тых грыбóў.* Альманы Стол.

ПРЫНЯ´ЦЦА *зак.* Збочыць, адысці ў бок з дарогі і інш. *Мне прыня́цца ў стóрону?* Бечы Жытк.

ПРЫПЕ´КАЦЬ *незак.* Прыпякаць, падсмажваць. *Мухомóр прыпекáем да мýхі едзя́ць і погібáюць.* Альманы Стол.

ПРЫПУСЦІ´ЦЬ *зак.* Зрабіць дно. *Дно ў колóдзежы прыпусцíлі, то водыí немá.* Бечы Жытк.

ПРЫСТА´ЦЬ *зак.* Прыстаць, прыляпіцца. *Прыстáла бы грязь.* Доўгая Дуброва Жытк.

ПТА´СТВО *н.* Птаства. *Кýры, гýсі, бýські – однэ́ птáство.* Альманы Жытк.

ПТА´ШКА *ж.* Птушка. *Птáшка лю́бая* (называецца). Альманы Стол.

ПУГА́Ч *м.* Пугач. *Пуга́ч гу-гу гука́е бу журавэ́ль.* Альманы Стол.

ПУДПА́ЛЬНІК *м.* Тоўсты блін з хлебнага цеста, скавароднік. Танеж Лельч.

ПУДПА́РВАЦЬ *незак.* Зябліць. *Пудпа́рваюць мі́лко ці глы́бко* (увосень аруць іржэўнік). Семанавічы Лельч.

ПЫД *прыназ.* Пад. *Пыд воротамі. Пыд ве́чор прышо́ў.* Альманы Стол.

ПЫР-ПЫР *выкл.* Ціп-ціп (на куру). *Пыр-пыр, а шо б ты вы́дохла!* Альманы Стол.

РАЁВА́ЦЬ *незак.* Мітусіцца. *Там людзі раюють.* Найда Жытк.

РАЗОБРА́ЦЦА *незак.* Распрануцца. *Вы разобра́ліса і купа́ліса.* Альманы Стол.

РА́НШЭЙ *прысл.* Раней. *Пло́скуні беру́ць ра́ньшэй, а коно́плі позне́й.* Альманы Стол.

РАПТО́ВО *прысл.* Раптам. *Рапто́во ста́ло велі́ке село́.* Бечы Жытк.

РАСНЫ́ *прым.* Ураджайны. *Расны́е чэрні́цы ек насы́пано.* Альманы Стол.

РОГО́ЗА *ж.* Рагоз. *У рого́за чо́рны кіяхі́.* Альманы Стол.

РОДЖА́ЦЬ *незак.* Нараджаць. *Гадзю́ка роджа́е, на голі́ну зале́зе, па́дае чэрвя́к і хапа́е* (і есць іх, хто уцячэ, той жывы). Доўгая Дуброва Жытк.

РОЗВО́ДЗІЦЬ *незак.* Гадаваць. *Розво́дзілі цаца́ркі, індыкі́, ку́ры.* Альманы Стол.

РЫПЕ́ЦЬ *незак.* Рыпець, скрыпець. *Ву́муліса аж рыпе́лі.* Найда Жытк.

РЭ́ДКІ *прым.* Рэдкі, вадзяністы. *Рэ́дке молоко́, то бога́то сыро́ваткі.* Танеж Лельч.

САД *м.* Месца, дзе жыруюць качкі. *Найшо́ў сад качо́к.* Найда Жытк.

САМОХВО́ТНО *прысл.* Па сваёй ахвоце. *Цепе́р самохво́тно несу́ць молоко́.* Танеж Лельч.

САМЫ́ *займ.* Толькі адзін. *Самы́х бабко́ў набра́ла. Самы́е дубы́ росту́ць.* Альманы Стол.

СА́ХЕР *м.* Цукар. Іванава Слабада Лельч.

СВЕСЦЬ *ж.* Швагерка. *Моя сестра́ мойму́ чолове́ку прыхо́дзіцца све́сць.* Альманы Стол.

СВІНІ´ШЧЭ *н.* Пра чалавека з нізкімі звычкамі, некультурнага. *От, пошло́ свіні́шчэ, дзень до́бры не дало́.* Семанавічы Лельч.

СВІ´ТКА *ж.* Світка. *Тком, прадо́м, тэ сукно́ да понесо́м шыць сві́ткі на клю́ч'і.* Альманы Стол.

СВЯТО´К *м.* Прастольнае свята ў гонар залажэння царквы. Беражное Стол.

СЕ´ЛІЦА *ж.* Дворышча, сядзіба. *Усю́ се́ліцу перэкопа́лі, шука́лі зо́лота.* Семанавічы Лельч.

СЕРЦЭ´ *н.* Сэрца. *У жаку́ е се́рцэ, калачы́.* Альманы Стол.

СЕ´ЯЦЦА *незак.* Сеяцца. *Ярыца се́яласа ко́ло дзерэ́ўні, на гно́йном.* Семанавічы Лельч.

СІКУНЕ´Ц *м.* Мачавы пузыр, набіты мясам, несалёным салам. Альманы Стол.

СІ´ЛА *ж.* Сіла, моц. *Ба́ба ро́біць поку́ль жы́ва, а чолове́к – поку́ль сі́ла* (прыказка). Бечы Жытк.

СІНІ´ЦА *ж.* Невялікі шчупак. *Сіні́ца – такі́ малы́ кожушо́к.* Альманы Стол.

СКАКА´ЦЬ *незак.* 1. Рухацца скачкамі. *Соро́ка-белобо́ка на сме́тніку скака́ла, дзе́цям ка́шу збіра́ла. Гэ́тому дам, гэ́тому не дам.* Альманы Стол. 2. Пырскаць. *Іскра́ ска́чэ і загоры́цца та гу́бка.* Альманы Стол.

СКАЛЯ´ЦЬ *незак.* Ганіць, абражваць. *Скаля́ў з рук до ног з гразёю.* Доўгая Дуброва Жытк.

СКОВОРО´ДНІК *м.* Скавароднік (з хлебнага цеста тоўсты блін). Танеж Лельч.

СКОРОЛЮ´ШЧА *ж.* Бяззубка; двухдольная ракавіна бяззубкі. Бечы Жытк.

СКУЛЬ *прысл.* Адкуль. *Скуль Вы? – Мы з Бэч, бэчанцы.* Бечы Жытк.

СЛІЗУ´Н *м.* Смоўж, слізняк, слімак. *Слізу́н мале́нькі, рабе́нькі.* Альманы Стол.

СМЕ´ЛО *прысл.* Смела, упэўнена. *Вон сме́ло коло́ дзеце́й з гро́шамі.* Семанавічы Лельч.

СМЕРО´К *м.* Змярканне. *Смеро́к ўжэ, начало́ сутоне́ць.* Танеж Лельч.

СМОЛІ´НА *ж.* Хвоя. *Смолі́на ха́утна, гнілова́та.* Альманы Стол.

СМОЛЬНІ´К *м.* Хвойнік. *Гэ́тые дрова́ са́мы* (адзін) *смо́льнік.* Альманы Стол.

СМОЛЯ´НКА *ж.* Яйка (спецыяльна прыгатаванае на Вялікдзень). *Смоля́нкамі бі́ліса ў бітќі.* Альманы Стол.

СМУ´КАЦЬ *незак.* Зацягваць ваду ў рот (у рыбы). *Смýкае во́ду мантýз.* Бечы Жытк.

СО´НЦА *н.* Сонца. *Шоб я на горы́ со́нца не ба́чыла!* Доўгая Дуброва Жытк.

СОПЕ´ЛЬ *м.* Ёрш. *Сопе́ль мале́нькі, рабе́нькі.* Альманы Стол.

СОСО´НКА *ж.* Хвошч (летні). Альманы Стол.

СПА´РЫЦЬ *зак.* Закіпяціць малако. *Спа́рыць молоко́.* Семанавічы Лельч.

СПА´ЦЦА *незак.* Спацца. *Комý не спі́цца ў глýпу ноч?!* Доўгая Дуброва Жытк.

СПАЦЬ *незак.* Спаць. *Лажэ́мса да спем! Гасе́це да спе́це тут!* Найда Жытк.

СПРО´ДКА *прысл.* Здаўна. *Спро́дка говоры́лі база́р.* Доўгая Дуброва Жытк.

СРЭ´БНЫ *прысл.* Сярэбраны. *Часы́ срэ́бные.* Найда Жытк.

СТАРОБУ´ТНЫ *прым.* Старажытны, старамодны. *Старобýтные лю́дзі ў То́нежы.* Бечы Жытк.

СТОЛОЧЫ´ЦЬ *зак.* Знішчыць, стаптаць. *Столочы́лі посе́ў, зробі́лі доро́гу.* Семанавічы Лельч.

СТОЧЫ´ЦЬ *зак.* Згрызці. *Чэр'яќі сточы́лі дзе́рэво.* Альманы Стол.

СТУПА´К *м.* След каровы. *Ступа́к, дзе каро́ва наступа́іць, там ры́ба нерэстýе.* Доўгая Дуброва Жытк.

СТУ´СНУЦЬ *зак.* Ударыць, баднуць. *Коро́ва стýсне одна́ однý і полýчыцца я́па.* Найда Жытк.

СУВЕРШО´К *м.* Адтуліна ў жаку для ўваходу рыбы. Бечы Жытк.

СУ´ДОРГА *ж.* Сутарга, курч. *Сýдорга ўзе́ла но́гу.* Альманы Стол.

ТАГА´Н *м.* Трыножнік. Найда Жытк.

ТАРАБА´Н *м.* Чатырохвугольны кошык ці сяўня. *Тараба́н з дра́нкі ро́бяць.* Альманы Стол.

ТАРТА´ЙКА *ж.* Балбатун. *Ідз́і, тарта́йка!* Бечы Жытк.

ТОРО´К *м.* 1. Плыт з 4–5 бярвенняў. Танеж Лельч. 2. Сцежка, пуцінка. *Звéр мáе торóк. Уткі мáюць торóк.* Беражное Стол.

ТОРПА´ *ж.* Торф, іл. *Загонíло торпóю óзеро.* Найда Жытк.

ТРЭСКА *ж.* Трэска, скабка. *Захромíў нóгу трэ́скай.* Альманы Стол.

ТУ´БУЛКА *ж.* Мясцовая жыхарка. Беражное Стол.

ТУ´МНО *прысл.* Хмарна, змрочна. *Ту́мно – сóнца немá.* Найда Жытк.

ТЫРКОЦЕ´ЦЬ *незак.* Тарахцець, трашчаць. *Верхолёд по леду́ тыркоцíць.* Бечы Жытк.

ТЫЧКУ´Н *м.* Фасоля, якая ўецца. *Е боб седу́н, тычку́н.* Альманы Стол.

У *прыназ.* 1. З, у. *Жóнчын бáцька у лю́льку ку́рыць.* Бечы Жытк. 2. Да. *Гуля́ць у шля́хту ходзíлі.* Бэчы Жытк.

УГЕ´ *выкл.* Побач, тут (з абурэннем). *Угé! Малéнькаго шпарá дзéлаю* (каб дастаць куніцу). Найда Жытк.

УГОВА´РВАЦЬ *незак.* 1. Вымаўляць. *Горкáвы не ўговáрвае цыíфры.* Доўгая Дуброва Жытк. 2. Выгаварваць, гаварыць. *Грáе, прáмо ўговáрвае* (на скрыпку). Бечы Жытк.

УДЗВЕ´СТАЛЬ *прысл.* У дзве столкі. *Удзвéстоль згóртаем полотнó і своéц качáём.* Альманы Стол.

УДО´Д *м.* Удод. *Удóд з чу́бом.* Альманы Стол.

УЕ´ДНО *прысл.* Уежна. *Хоць не ўéдно, абы́ ўлéжно* (прыказка). Альманы Стол.

УЗБУ´ЧЫЦЦА *зак.* Запратэставаць, абурыцца. *Хлóпцы ўзбу́чыліся і не далí* (мяне). Семанавічы Лельч.

УЗЯ´ЦЬ *зак.* Узяць. *Ейцó вы́лівок узя́ў у кублé, немá на ём шкорлу́пкі.* Альманы Стол.

УЛЕ´ЗЦІ *зак.* Увайсці, пасяліцца, стаць жыць. *Я ўлéзла ў хáту.* Семанавічы Лельч.

УЛЕ´ПВАЦЬ *незак.* Улепліваць, умазваць. *Лю́стро улéпвалі ў кóмін, бáба рóбіць і ўгледáецца на мóрды.* Семанавічы Лельч.

ФА´НДЫ *мн.* Складкі, фалды. *Свíта з фáндамі.* Альманы Стол.

ФАШЫ´НА *ж.* Пук лазовых дубцоў для ўмацавання берагоў рэк, канаў. *Фашы́ну ўя́жуць у пучкí.* Найда Жытк.

ХАЙЛУ´К *м.* Кубло, гняздо. *У хайлу́кох бéльчыных сéдзяць кунíцы.* Найда Жытк.

ХАМАЗА´ *ж.* Дрымота. *От, хамазá напáла!* (спаць хочэ). Бечы Жытк.

ХВОЙІНА´ *ж.* Хвоя. Альманы Стол.

ХВОЙНА´ *ж.* Хвоя. Альманы Стол.

ХЛЕЎ *м.* Хлеў. *У Вельё (вёска) і Храпýні (вёска) казáлі одрыіны (а ў нас – хлеў), бук (бык), му (мы), ву (вы), міш (мыш), грібі́ (грыбы), ву йдзéць (вы ідзіце), обожджэ́ць (пожджэць).* Альманы Стол.

ХЛОПЧА´К *м.* Дзяцюк, падлетак. *Хлопчáк удáчны!* Найда Жытк.

ХОРО´ШЧЫ *прым.* Добры, прыгожы. *Хорóшчая фамі́лія Якубоўскі.* Бечы Жытк.

ЦВАХ *м.* Цвік. Доўгая Дуброва Жытк.

ЦЕПЕ´РЭШНІ *прым.* Сучасны. *Цепéрэшніе жóнкі не рóбяць мáсло* (а купляюць яго ў магазіне). Сямурадцы Жытк.

ЦЕПЛІНА´ *ж.* Цяплынь. *У цеплінý не надзéў бы кажýха.* Танеж Лельч.

ЦІВО´СЯ *прысл.* Даўно. *Цівóся гэ́та буó.* Доўгая Дуброва Жытк.

ЦІПЕ´Ц *м.* Баравы сівы мох. *По ціпцý грыбы́ ростýць.* Альманы Стол.

ЦЕПЛЮ´К *м.* Ціпляня. *У цеплю́ка немá чэ́рэва, як у кабанá, і ў вошчó вóна есць?!* Альманы Стол.

ЦЯГНУ´ЦЬ *незак.* Працягвацца, доўжыцца. *Болóто сі́льно тóпке, цягне і за Перэроў.* Бечы Жытк.

ЧАСЦЯКО´М *прысл.* Часта. *Прыежджáе часцякóм до мене.* Альманы Стол.

ЧАЧО´ТА *ж.* Бяроза са звілістымі чорнымі пражылкамі. *З чачóты рабі́лі коўшы́.* Альманы Стол.

ЧО´ВЕН *м.* Даўбёнка (лодка). Альманы Стол.

ЧОРТ *м.* Чорт. *Ім і чорт – не бéда.* Танеж Лельч.

ЧО´ХРЫЦЬ *незак.* Часаць. *Чóхмарня булá і вóўну носі́лі чóхрыць.* Альманы Стол.

ЧЫ´РКА *ж.* Свята перад Вялікаднем за тыдзень. Танеж Лельч.

ЧЫРЫ´ЦЬ *незак.* Часткова надразаць кару вакол ствала дрэва. *Чыры́ць хвóю* (абдзіраць кару знізу кругом і яна ссохне). Найда Жытк.

ЧЭ´ХРЫЦЬ *незак.* Часаць. *Трэ чэ́хрыць во́ўну у чоха́рні.* Альманы Стол.

ШАБЛО´Н *м.* Прылада ў выглядзе літары А мераць плошчу поля. Сямурадцы Жытк.

ША´ЙНЯ *ж.* Кашэль з накрыўкай, сплецены з кары. *Вeрэ́нька малéнькая, а ша́йня большáя.* Альманы Стол.

ШВО´РКА *ж.* Кавалак вяроўкі. *На шво́рку ўзяў собáку.* Бечы Жытк.

ШЛЯХТУ´Н *м.* Шляхціц. *Шляхтун Масло.* Бечы Жытк.

ШМУ´РНЫ *прым.* Праворны. *Шму́рны чоловéк.* Танеж Лельч.

ШНУР *м.* Лінія птушак у час палёту. *Я страля́ю ў остáтню і шнур качо́к кладзéццa.* Найда Жытк.

ШОЛО´ПОВАТЫ *прым.* Бесталковы. *О́лупень шоло́поватьі!* Найда Жытк.

ШПАР *м.* Паколванне ў пальцах рук і ног ад холаду. *Зайшлі́ ў шпáры ру́кі.* Доўгая Дуброва Жытк.

ШУЛЯ´К *м.* Каршун. *У нас совá, шуля́к, коршáк, плі́ска, сіні́чка е.* Альманы Стол.

ШЧЫК *м.* Вяршавіна, верх. *Бурáн зломáў шчы́ка.* Найда Жытк.

ШЧЭПЮ´Р *м.* Балотная меданосная расліна, цвіце белым; дуднік. Беражное Стол.

ШЧЭЎРЭДЖО´НЫ *прым.* Абрызглы. *Шчэўрэджо́ное молоко́.* Беражное Стол.

ШЭ´РШЭНЬ *м.* Шэршань. *Шэ́рсні напáлі.* Альманы Стол.

ЭГЕ´ *выкл.* Эге (пры здзіўленні). *Эгé, набрáў грыбо́ў.* Семанавічы Жытк.

Я´ПА *ж.* Нарасць на дрэве. *З я́пы зробі́ колесо́.* Бечы Жытк.

Я´ТРОСЦЬ *ж.* Пачырваненне. *Ятросць, зардзéлосо* (каля раны). Доўгая Дуброва Жытк.

*Т. А. Грачыха*

# НАЗВЫ ЖЫВЁЛ У ГАВОРКАХ ВІЦЕБШЧЫНЫ

Словы, змешчаныя ў артыкуле, знаёмяць з такімі прадметна-тэматычнымі групамі, як назвы насякомых і назвы свойскіх жывёл у гаворках Віцебшчыны. Лексіка сабрана ў час дыялекталагічнай практыкі намі і студэнтамі факультэта беларускай філалогіі і гісторыі Віцебскага дзяржаўнага універсітэта паводле спецыяльна распрацаванай Праграмы[1] на працягу 1996–1997 гг. У некаторых выпадках для параўнання падаюцца народныя назвы жывёл, сабраныя і ў іншых рэгіёнах Беларусі.

Прынятыя скарачэнні назваў раёнаў: Арш. – Аршанскі, Беш. – Бешанковіцкі, Брасл. – Браслаўскі, Бяроз. – Бярозаўскі, В.-дзв. – Верхнядзвінскі, Віл. – Вілейскі, Віц. – Віцебскі, Воран. – Воранаўскі, Гар. – Гарадоцкі, Глыб. – Глыбоцкі, Докш. – Докшыцкі, Дрыб. – Дрыбінскі, Дубр. – Дубровенскі, Касцюк. – Касцюковіцкі, Кругл. – Круглянскі, Лельч. – Лельчыцкі, Леп. – Лепельскі, Лёзн. – Лёзненскі, Мазыр. – Мазырскі, Мёр. – Мёрскі, Нараўл. – Нараўлянскі, Паст. – Пастаўскі, Пол. – Полацкі, Рас. – Расонскі, Сен. – Сенненскі, Ст.-дар. – Старадарожскі, Талач. – Талачынскі, Ушац. – Ушацкі, Чаш. – Чашніцкі, Чэрв. – Чэрвенскі, Шарк. – Шаркаўшчынскі, Шум. – Шумілінскі.

Прынятыя скарачэнні назваў вёсак: В. Дольцы – Вялікія Дольцы, Н. Млынок – Новы Млынок, Н. Пагост – Новы Пагост, Н. Саколіна – Новае Саколіна, Н. Сяло – Новае Сяло, Ст. Дарогі – Старыя Дарогі, Ст. Лаўкі – Старыя Лаўкі, Ст. Прыбужжа – Старое Прыбужжа, Ст. Сяло – Старое Сяло.

## Назвы насякомых

АВА́Д *м.* Авадзень. *Лéтам вéльмі шмат лятáіць авáду.* Павяцце Мёр., Узмёны Мёр. Параўн. *авáд м.* ’тж’ Н. Млынок Мазыр., *гóвод м.* ’тж’ Стрыгінь Бяроз.

АГАНЁК *м.* Святляк. *Бывáла, ідзéм пóзна вéчарам лéтам – увéсь куст у аганькáх, сьвéціцца.* Гарбачы Беш.

[1] Грачыха Т. А. Праграма па збіранню матэрыялу для вывучэння фаўністычнай лексікі. Віцебск, 1995.

АСВА´ *жс.* Аса. *Асвá за рýку ўкусíла.* Муляры Паст., Вярэнькі Паст., Сасновая Наспа Лёзн. Параўн. *асвá жс.* ’тж’ Іжа Віл.

АСЬЛЯПЕ´НЬ *м.* Сляпень. *Карóў парá дамóў гнаць: асьляпнí зайідáюць.* Шклянцы Докш.

БА´БАЧКА *жс.* Матыль. *Раньшэ бóльшэ была рáзных бáбачак: бóльшэ свабóднай зямлí была.* Гарбачы, Свяча, Будзілава Беш., Лоўша, Галі, Мішневічы Шум., Бычыха, Пшанічана Гар., Васькавічы, Суйкава, Кашалёва, Ноўка, Стайкі Віц., Масоры, Полымя Сен., Іванск, Сялец Чаш., Шкунцікі Шарк., Наўгароды, Павяцце Мёр., Галубічы, Свіла Глыб., Андроны, Вярэнькі Паст., Клясціцы Рас. Параўн. *бáбачка жс.* ’тж’ Іжа Віл. Глядавічы Ст.-дар., Дуброва Лельч.

БÁБКА (БÁПКА) *жс.* Страказа. *У бáпкі вéльмі прыгóжсыя крылы.* Леснікі Глыб., Свіла, Галубічы Глыб., Вярэнькі Паст., Крывое Сяло, Навікі Шум.

БА´БЫЧКА *жс.* Матыль. *Кóля насыбіраў бáбычык пóўную бáнку, а цяпéрь не знáіць, што з íмі дзéлаць.* Баброва Дубр.

БЕ´ДРЫК *м.* Божая кароўка. *Мая́ Нáсця любíла дзяржáць у рукáх бéдрыка.* Савіна Дубр. Параўн. *пэ́дрык м.* ’тж’ Стрыгінь Бяроз.

БЗДЗЮЛЬ *м.* Лясны клоп. Сасновая Наспа Лёзн. Параўн. *бдзюхá жс.* ’тж’ Стрыгінь Бяроз.

БЛАХА´ *жс.* 1. Блыха. *У катá былí блóхі.* Суйкава Віц., Камянполле Мёр. Параўн. *блохá жс.* ’тж’ Стрыгінь Бяроз. 2. Клоп. *Блахá – вéльмі недарóчнае насякóмае.* Ст. Лаўкі Чаш. Параўн. *блашыíца жс.* ’клоп’ Н. Млынок Мазыр., *блошчыíца жс.* ’тж’ Стрыгінь Бяроз.

БЛЫХА´ *жс.* Клоп. *Блыхá жсахлíвей за быкá.* Баронікі Віц., Ноўка Віц., Лоўша Шум., Алексінічы Сен., Будзілава Беш. Параўн. *блыхá жс.* ’тж’ Іжа Віл. Глядавічы Ст-дар.

БЛЫХА´-ВАНЮ´ЧКА *жс.* Лясны клоп. Ноўка Віц., Свіла Глыб. Параўн. *блыхá-ванюóчка жс.* ’тж’ Іжа Віл.

БО´ЖАЯ КАЗЮ´ЛЬКА *жс.* Божая кароўка. *Па вакнý паўзлá чырвóная ў крáпінку бóжсая казюóлька.* Ст. Лаўкі Чаш.

БО´Ж’Я КАРО´ЎКА *жс.* Божая кароўка. *Бóж’я карóўка сідзéла ў мінé на рукé.* Суйкава Віц., Першамайка Гар., Рудкоўшчына Сен.

БРО́НЗАЎКА *м.* Кветкаед. *Бро́нзаўка сядзе́ла на лістку́ землянí чніка.* Лабачова Беш.

БУЛЬБЯНЫ́ ЖУК *м.* Каларадскі бульбяны жук. Біцялёва Віц.

БЫ́ЗАЎКА *ж.* Авадзень. *У гэ́тым ле́се мно́га бы́завак.* Леснікі Глыб. *Што му́ха – бы́заўка, авадзе́нь – яшчэ́ бо́льшая: ад аднаго́ гу́ку ву́шы закладáіць.* Бараны Глыб.

ВАДЗЕ́НЬ *м.* Авадзень. *У паўдзён у спяко́ту лётаюць ваднí і бо́льна кусáюць скот.* Галі Шум., Н. Саколіна Талач., Лабачова, Гарбачы Беш., Рудкоўшчына Сен., Сасновая Наспа Лёзн., Стайкі Віц., Першамайка Гар.

ВАЛАСЕ́НЬ *м.* Дажджавы чарвяк. *Накапáлі мáльцы валасьнёў і пайшлí рыбу ву́дзіць.* Марчанкі Гар., Слабодка Гар.

ВАНЮ́ЧКА *ж.* Лясны клоп. *Я рáзам з я́гадкай з'еў ваню́чку.* Лабачова Беш., Савіна Дубр., Галубічы Глыб.

ВАСА́ *ж.* Аса. *Васá чэ́раз фо́ртачку залятáла.* Мішневічы Шум.

ВАСВА́ *ж.* Аса. *Во́свы як апанавáлі, дык чуць уцёк.* Макаравічы Докш., Кубелеўшчына Шарк.

ВАША́ *ж.* Вош. *З гнíды вашá вырастáіць.* Кубалеўшчына Шарк., Н. Пагост Мёр.

ВАША́Н *м.* Вош. Жарнасекава Беш., Юнкі Паст.

ВАШЫ́НА *ж.* Вош. Рудкоўшчына Сен.

ВЕРТАЛЁЦІК *м.* Страказа. *Ко́лькі ро́зных верталёцікаў над рако́й у со́нечны дзе́нь!* Ст. Лаўкі Чаш.

ВО́ЛАС *м.* П'яўка. *Зноў у нагу́ папáў і ўпíўся во́лас – трэ́ба ісьцí да до́ктара.* Ст. Лаўкі Чаш.

ВО́СПА *ж.* Аса. *У сцёнах нáшай хáты жыло́ не́калькі сяме́й во́спаў.* Мерзлякова Лёзн.

ВО́ЎДЗЕНЬ *м.* Авадзень. Свіла Глыб.

ВОШ ЛАСІ́НАЯ *ж.* Клоп лясны. *Зноў у галаве́ прынёс ласíных вашэ́й!* Рудкоўшчына Сен.

ВО́ШЫНА *ж.* Вош. *Во́шына, што по́ўзаіць па куры́цы, бязурэ́дная для чалаве́ка.* Далуева Шум., Галі Шум., Савіна Дубр., Галубічы Глыб.

ВУ́СЕНІЦА *ж.* Вусень. *Ву́сеніцы капу́сту апанавáлі.* Н. Пагост Мёр.

ВША *ж.* Вош. *У катá было́ мно́га вшэ́й.* Кашалёва Віц.

ВЫ́ПАЎЗЕНЬ *м.* Дажджавы чарвяк. *Як праішоў до́шчык, дык вы́паўзняў павымыва́ла.* Слабодка Брасл., Сітцы Докш.

ГАД *м.* Каларадскі бульбяны жук. *З лі́сьцяў бульбо́ўніку мы зьбіра́лі га́даў.* Свіла Глыб.

ГАРО́ШЫНКІ *мн.* Малюскі з двухбаковай ракавінай. *Гаро́шынкам трэ́ба чы́стая вада́.* Сітцы Докш.

ГІЗ *м.* Авечы авадзень. *Гіз ятта́ў до́ўга каля́ аве́чкі.* Лоўша Шум. Ноўка Віц., Сазонаўшчына Глыб. Параўн. *гіз м.* ’тж’ Абадоўцы Віл.

ГІ́ЗАЎКА *ж.* Авечы і цялячы авадзень. *Цялу́шка лётаіць па ўсім по́лі: гэ́та яе гі́заўкі куса́юць.* Кубелеўшчына Шарк.

ГНУС *м.* Агульная назва мошак, гнюс. Сялец Чаш.

ГУ́СЕНІЦА *м.* Вусень. *Калі́ то́лькі абтрасла́ капу́сту, а во зноў гу́сеніц аш шэ́ра.* Свяча Беш., Будзілава Беш., Сасновая Наспа Лёзн., Бычыха Гар., Мішневічы Шум., Суйкава Віц., Полымя, Рудкоўшчына, Обаль Сен., Іванск, Альшанка Чаш., Рцішчава Талач., Шкунцікі Шарк., Свіла Глыб., Андроны, Вярэнькі Паст., Камянполле, Узмёны Мёр., Мар’янполле Брасл. Параўн. *гу́сеніца ж.* ’тж’ Абадоўцы Віл., Глядавічы Ст.-дар.

ДАЖДЖАВІ́К *м.* Дажджавы чарвяк. *Калі́ про́йдзе дошч, то ў гаро́дзе мо́жна сустрэ́ць шмат дажджавіко́ў.* Алексінічы Сен., Обаль, Нямойта Сен., Ноўка Віц., Першамайка, Малашанкі Гар., Лоўша, Кардон, Мішневічы, Навікі, Крывое Сяло Шум., Сасновая Наспа Лёзн., Савіна Дубр., Чырвоныя Буднікі, Рубеж, Панкратава, Лабачова Беш., Васькавічы Віц., Зарэчча Талач., Стараселле Леп., Шкунцікі Шарк., Галубічы, Скражына, Свіла Глыб., Ліпанты, Камянполле Мёр., Мар’янполле Брасл. Параўн. *дажджаві́к м.* ’тж’ Забалаць Воран., Глядавічы Ст.-дар.

ДАЖДЖАВІЧО́К *м.* Дажджавы чарвяк. *Пе́рат дашчо́м шмат дажджавічко́ў выла́зіць на пав́ерхню зямлі́, бо іх но́ркі затапля́е вада́.* Ст. Лаўкі Чаш.

ЖУК ВАДЗЯНЫ́ *м.* Плывунец. Бычыха Гар., Суйкава Віц., Жарнасекава Беш., Шкунцікі Шарк., Свіла Глыб. Параўн. *жук вадзяны́ м.* ’тж’ Абадоўцы Віл.

ЖУК-НАВО́ЗНІК *м.* Жук-гнаявік. *Каля хлява́ гу́жам лёталі жукі́-наво́знікі.* Савіна Дубр.

ЖУК НАВО́ЗНЫ (ЖУК НАВО́ЗНЫЙ) *м.* Жук-гнаявік. *А так навóзный жук красíвый, чóрный.* Мішневічы Шум. *Навóзныя жукí жывýць у навóзе* Галі Шум., Суйкава Віц., Клясцічы Рас., Масоры Сен., Андроны Паст., Наўгароды, Камянполле Мёр. Параўн. *навóзны жук м.* 'тж' Абадоўцы, Іжа Віл.

ЗАВІТУ́ШКА *ж.* Домік смаўжа. *У завітýшцы быў сьлімáк.* Жарнасекава Беш.

ЗДРОК *м.* Авадзень. *Здрок упíўся ў шыю – бýрка адратавáла.* Бараны Глыб., Леснікі Глыб. Параўн. *здрок м.* 'тж' Н. Млынок Мазыр.

ЗЛАТАБРУ́ШКА *ж.* Гнаявая муха. *Ля батóўя ад бýльбы лётала цэлая стáя златабрýшак.* Ст. Лаўкі Чаш.

ЗЫ́ГАЎКА *ж.* Муха. *Кáля хлéва было́ шмат зы́гавак.* Балаі Паст.

ЗЫ́КАЎКА *м.* Муха. *У вушáх аз звінíць, як гэ́тыя зы́каўкі ў вакнó б'ю́цца.* Бараны Глыб., Леснікі Глыб.

КАВАЛЁК *м.* Конік. *Малатóчкам ручы́ць кавалёк.* Удаста Мёр.

КАЗЁЛ *м.* Вялікі зялёны конік, цвыркун. *На лíсціне казёл сядзíць.* Першамайка Гар. Параўн. *кóзлік вэлíкі вэчóрні м.* 'тж' Стрыгінь Бяроз.

КАЗУ́РКІ *мн.* Агульная назва маленькіх жучкоў, казюлькі, казяўкі. Мішневічы Шум., Ноўка Віц.

КАЗЯЛО́К *м.* Конік. *Вы́йдзеш вéчарам на пóжню, а казялкí так стракóчуць, што аглóхнуць мóжна.* Кубелеўшчына Шарк. Параўн. *кóзлік малы́ м.* 'тж' Стрыгінь Бяроз.

КАЛАРА́Д *м.* Каларадскі бульбяны жук. *Як зацвітáіць бýльба, прыхóдзіцца барóцца з каларáдамі, якія аб'ядáюць яе цвятóчкі.* Галі Шум., Далуева Шум., Жарнасекава Беш., Буеўшчына Шарк., Скражына, Галубічы Глыб. Параўн. *каларáд м.* 'тж' Н. Млынок Мазыр.

КАРАЕ́Д *м.* Жук-караед. *Караéт папóрціў усю драўнíну.* Svіла Глыб.

КАРО́ЎКА *ж.* Божая кароўка. Галубічы Глыб.

КАРО́ЎКА-БАГО́ЎКА *ж.* Божая кароўка. Мішневічы Шум., Клясцічы Рас., Андроны Паст.

КАЦЯРЫ́НКА *ж.* Хрушч. *Як малы́я былí, трэ́слі кацяры́нкі.* Гарбачы Беш.

КВЕТКАЧЫ́ *мн.* Кветкаеды. Савіна Дубр.

КЛЕШЧ *м.* 1. Лясны клоп. *З лесу мы прынеслі клешча.* Біцялёва Віц. 2. Зерняеды. *Кляшчы ядуць зярно.* Рудкоўшчына Сен.

КЛОП-ВАНЮ́ЧКА *м.* Лясны клоп. *Клоп-ванючка пры небяспецы выпускаіць непрыемны пах.* Бычыха Гар.

КЛОП ЛЕСАВЫ́ *м.* Лясны клоп. *З грыбамі й лесавога клапа з лесу прывалок.* Першамайка Гар.

КО́СЬКА *м.* Конік. *У траве сядзеў коська.* Леснікі Глыб. Бараны Глыб. Параўн. *касі-касіножка ж.* 'павук з доўгімі нагамі' Турэц Чэрв.

КРАСНАЦЕ́ЛКА *ж.* Бяскрылая ярка-чырвонага колеру казюлька, якая жыве ў зямлі. Наўгароды Мёр.

КРЫЖАВІ́К *м.* Павук-крыжаносец. *Кажуць павукі-крыжавікі шкодзяць людзям.* Савіна Дубр.

КРЭСТАНО́СЕЦ *м.* Павук-крыжаносец. *На спіне ў яго белы крэст, таму і называюць крэстаносцы.* Скражына Глыб. Параўн. *крыжаносец* 'тж'. *Кажуць бабкі старыя, што заб'еш крыжаносца, то і сам скора загінеш.* Рудкоўшчына Сен.

КУЗЬНЕ́ЧАК *м.* Конік. *Кузьнечыкі летам так і стракочаць.* Гарбаты Беш.

КУЗЬНЕ́ЧЫК (КУЗНЕ́ЧЫК) *м.* Конік. *Мы столька кузьнечыкаў відзілі на лугу.* Баброва Дубр., Мерзлякова Лёзн., Лабачова, Жарнасекава Беш., Полымя, Обаль, Нямойта, Алексінічы Сен., Кашалёва, Стайкі, Суйкава, Біцялёва Віц., Першамайка Гар., Кардон, Мішневічы, Далуева, Галі Шум., Клясціцы Рас., Мар'янполле Брасл., Н. Пагост, Камянполле, Павяцце Мёр., Свіла, Кукры, Леснікі Глыб. Параўн. *кузьнечык м.* 'тж' Іжа, Абадоўцы Віл.

КУЗЮ́ЛЬКА *ж.*, КУЗЮ́ЛЬКІ *мн.* Казюлькі, казяўкі. *Адну юргіню завяла, і то ўвесь цвет казюлькі абселі.* Бараны Глыб.

КУ́КАЛКА *ж.* Ліставёртка. Лабачова Беш.

КУКЛЯ́НКА *ж.* Вадзяны смоўж. *У вадзе шмат куклянак вялікіх і маленькіх.* Жарнасекава Беш., Заазер'е Глыб.

ЛІСТАВІ́ЦЫ *мн.* Лістаеды. Савіна Дубр.

ЛІСТАЕ́ДКІ *мн.* Лістаеды. *Трэба апрацоўваць дрэвы растворам, а то лістаедкі ўсю лістоту зганьбяць.* Ст. Лаўкі Чаш.

ЛІСТАЖО́РЫ *мн.* Лістаеды. *Лістажоры пааб'елі ўсе лісты.* Рудкоўшчына Сен.

МАКРУ´ХА *ж.* Макрыца. *Пат палóм мнóга макрýх.* Суйкава Віц., Галубічы, Svіла Глыб. Параўн. *макрýха ж.* 'тж' Турэц Чэрв.

МАКРУ´ШКА *ж.* Макрыца. *Чуць дзе сырасць, там і макрýшка.* Гарбачы Беш.

МАЛЯ´ЎКІ *мн.* Агульная назва маленькіх жучкоў, казюлькі, казяўкі. *Усякія там мáленькія насякóмыя, гузачкі – маля́ўкі лýчшэ ўсягó.* Гарбачы Беш.

МАЛЯ´ШКА *ж.* Моль. Будзілава Беш.

МО´ЛІНА *ж.* Моль. *Каб вывесці з хáты мóлін, трэ́ба лажыць або вéшаць у ёй пальíн.* Старыя Лаўкі Чаш.

МРУ´ШКА *ж.* Мурашка. Лазічы Глыб.

МУ´МКІ *мн.* Блохі і вошы. *Учóра сабáку памылі, а ізнóў нéйкія мýмкі пóўзаюць.* Прамышляды Паст.

МУРАВЕ´ННІК *м.* Мурашнік. *Нéльга разбураць муравéннікі.* Ліпанты Мёр., Мішкавічы Шум. Параўн. *муравéннік м.* 'тж' Глядавічы Ст.-дар.

МУРА´ШКІ О´ГНЕННЫЯ *мн.* Маленькія чырвоныя мурашкі. *Пакусáлі хлóпца агненныя мурашкі.* Рудкоўшчына Сен.

МУРАШЫ´ *мн.* Вялікія лясныя мурашкі. Жарнасекава Беш. Svіла Глыб. Параўн. *мýраха ж.* 'тж' Стрыгінь Бяроз.

МУРО´ЎКА *ж.* Божая кароўка. *Як мурóвачка паляціць, дашчý не бýдзе.* Бараны Глыб. Леснікі Глыб.

МУ´ХА ЗЯЛЁНАЯ *ж.* Гнаявая муха. *Кáля навóзнай кýчы шмат зялёных мух.* Савіна Дубр.

МУ´ХА НАВО´ЗНАЯ *ж.* Муха гнаявая. Svіла Глыб. Параўн. *мýха навóзная ж.* 'тж' Абадоўцы Віл.

МУШКАРА´ *зб.* Машкара. Біцялёва Віц.

МЯ´КЛІШ *м.* Матыль. *Мя́клішы рóзныя бывáюць.* Першамайка Гар.

МЯ´ТЛІК *м.* Матыль. *Вось памёр ён, пахаранілі, а чэ́раз нéкатарае ўрэ́мя прыляцéў бéлы мя́тлік.* Гарбачы Беш., Лабачова, Жарнасекава Беш., Сутокі, Навінкі, Крывое Сяло Шум., Обаль, Рудкоўшчына, Нямойта Сен., Кубелеўшчына Шарк., Бараны, Чашні, Скражына, Леснікі Глыб, Ліпанты, Камянполле Мёр., Гута Паст., Мар'янполле Брасл. Параўн. *мя́тлік м.* 'тж' Комсенічы Кругл., *матылка ж.* 'тж' Стрыгінь Бяроз.

МЯТЛУ´ШКІ зб. Агульная назва начных матылёў. *Мятлýшкі лётаюць каля́ святлá.* Рудкоўшчына Сен.

МЯТЛЫ´ШКІ зб. Агульная назва начных матылёў. Савіна Дубр.

НАВО´ЗНІК *м.* Жук-гнаявік. *Навóзнік пóўзаў на кýчы навóзу.* Лабачова Беш., Свяча Беш., Біцялёва Віц., Нямойта, Рудкоўшчына, Обаль Сен., Навікі, Крывое Сяло Шум., Зарэчча Гар., Мар'янполле Брасл., Свіла, Галубічы Глыб. Параўн. *навóзнік м.* 'тж' Глядавічы Ст.-дар., Комсенічы Кругл.

НАВО´ЗНЫ ЖУК (НАВО´ЗНЫЙ ЖУК) *м.* Жук-гнаявік. *Навóзныя жукí жывýць у навóзе.* Галі Шум. *А так навóзный жук красíвый, чóрный.* Мішневічы Шум.

НАВО´ЗНІЦА *ж.* Муха гная́вая. Галубічы Глыб.

НАЧНІКІ´ *мн.* Начныя матылькі. *Зноў начнікí ў вóкны ляпаюць.* Ракава Гар.

НАЧО´ВАЧКІ *мн.* Малюскі, якія закрываюцца ў дзвюх ракушках у выглядзе начовачак. Жарнасекава Беш. Параўн. *начóвачкі* 'тж' Іжа Віл.

О´ВАД *м.* Авадзень. *Óвады лятáлі над стáдам.* Кашалёва Віц., Савіна Дубр., Вусце В.-дзв. Параўн. *авадзéнь м.* 'тж' Вусце В.-дзв.

ПА´ДАЛЬШЧЫК *м.* Мерцвяед (жук). Лабачова Беш.

ПАДСКУ´РНІК *м.* Авадзень бычыны. *Уся спíна ў карóвы былá ў буграх ад падскýрніка.* Савіна Дубр., Масоры Сен.

ПАЛАСА´Ч *м.* Каларадскі бульбяны жук. Савіна Дубр.

ПАНЮ´ЧКА *ж.* Лясны клоп. Навікі, Крывое Сяло Шум.

ПЁТРА-ПА´ЎЛА *ж.* Божая кароўка. *Бóжай карóўкай назывáецца я́рка-крáсная казýрка, янá ў землí пóўзаіць, а пётра-пáўла лётаіць, і на спіне ў яе крóпачкі чóрные.* Кубелеўшчына Шарк. Параўн. *пéтрык м.* 'тж'. Дуброва Лельч.

ПІЛУ´ГІ *мн.* Пільшчыкі. Пышно Леп.

ПІТАЛІ´ШКА *ж.* Начны матыль. *Піталíшкі кáля агнió так і лётаюць.* Муляры Паст.

ПІЯ´ВІЦА *ж.* П'яўка. Савіна Дубр.

ПІЯ´ЎКА *ж.* П'яўка. *Вон прісасáлась, як піяўка, і не атарвáть.* Мішневічы Шум. *Прысасáлася, як піяўка балóтная.* Галі Шум., Далуева Шум., Асінаўка Дубр., Н. Пагост Мёр.

ПЛАВУ´К *м.* Плывунец (вадзяны жук). Рудкоўшчына Сен.

ПЛАВУНЕ´Ц *м.* Плывунец. Сялец Чаш. Параўн. *плывунéц м.* 'тж' Мерзлякова Лёзн., Стараселле Леп., Наўгароды Мёр.

ПЛАДАЕ´ЖКА *ж.* Яблыневая пладажэрка. *Пладаéжска ўвесь ураджáй яблык зні́шчыла.* Н. Саколіна Талач.

ПЛАДАЖО´РКА *ж.* Ліставёртка. *Усé лістьí пладажóркі сажрáлі.* Мішневічы Шум.

ПЛЮШКАНО´С *м.* Чарвяк шаравата-белы з жоўтай пласцінкай на спіне. *Плюшканóс мóжа жыць і ў забрýджанай вадзé.* Гліннае Докш.

ПРАДУ´Н *м.* Шаўкапрад. Верацеі Докш.

ПРУС *м.* 1. Прусак, таракан (чорны). *Завёўся прус у хáце, спáсу няма: нічóга на стале не пакі́нь.* Гарбачы Беш., Будзілава Беш., Крывое Сяло, Навікі Шум. 2. Прусак (рыжы). *За пéчкаю ў нас жывýць прусьí.* Стараселле Леп., Ноўка, Біцялёва Віц., Крывое Сяло, Навікі Шум., Сялец Чаш., Бараны Глыб., Відокі В.-дзв. Параўн. *прус м.* 'тж'. Глядавічы Ст.-дар., Стрыгінь Бяроз.

ПЧАЛІ´НА *ж.* Пчала. *Блі́ска і ні патхóдзіў, а ўсі рóўна пчалі́на укусі́ла.* Шклянцы Докш.

ПШЧАЛА´ *ж.* Пчала. *Сын мёд мáіць: у ягó пшчóлы ёсць.* Муляры Паст., Багушэўск Сен., Сутокі Шум.

П'Я´ВІЦА *ж.* П'яўка. *Цётка баялася зачэ́рпнуць п'явіцу ў вядрó.* Стараселле Леп.

РАБА´К *м.* Чарвяк. *Дошч прайшóў – рабакі́ павылязáлі.* Муляры Паст., Слабада Шум.

РАБО´НЬКА *ж.* Божая кароўка. Рудкоўшчына Сен.

РАГАВІ´К *м.* Жук-алень. Кашалёва Віц.

РАГА´ЛІК *м.* Жук-алень. *У нас рэ́дка мóжна ўбáчыць рагáліка.* Скражына Глыб., Наўгароды Мёр. Параўн. *рагáлік* 'тж'. Іжа Віл.

РАГА´Ч *м.* Жук-алень. *Рагáч поўз па зямлі́.* Лабачова Беш., Савіна Дубр., Рудкоўшчына Сен., Свіла, Галубічы Глыб.

РАК ЗЕМЛЯНЫ´ *м.* Мядзведка. *Пад пнём быў землянí рак.* Біцялёва Віц., Відокі В.-дзв. Параўн. *мядзвéдка ж.* 'тж'. Відокі В.-дзв.

РА´КАВІК *м.* Рак. *Пад мастóм хлóпцы налаві́лі цэ́лы кóшык ракавікóў.* Ст. Лаўкі Чаш.

РА´КАЎКА *ж.* Ракавінка. *Рáкаўкі цёмныя звéрху і свéтлыя ўнутрьí.* Асінаўка Дубр.

РА´КУШКА (РАКУ´ШКА) *ж.* Ракавінка. *Ёсць такéя рá-кушкі калá óзера, рэ́чкі, бывáюць дýжа красівьíя.* Гарбачы Беш., Мерзлякова Лёзн., Свабоднае, Масоры, Алексінічы Сен., Суй-

кава, Біцялёва Віц., Далуева, Мішневічы Шум., Бычыха Гар., Клясціцы Рас., Стараселле Леп., Шкунцікі Шарк., Кукры, Скражына, Свіла, Абруб Глыб., Вярэнькі Паст., Узмёны Мёр. Параўн. *ра́кушка ж.* 'тж'. Іжа Віл. *Нашто́ табе́ гэ́тыя раку́шкі сабіра́ць бу́ду?* Расасна Дубр. Параўн. *раку́шка ж.* 'тж'. Глядавічы Ст.-дар., Жабыкі Касцюк.

РУЧЭ́ЙНІК *м.* Шыцік. *Дзе́ці выбіра́юць ручэ́йнікаў у ручаі́ на пажы́ўку для рыба́лкі.* Кардон Шум., Відокі В.-дзв.

СЛІ́ЗЕНЬ (СЬЛІ́ЗЕНЬ) *м.* Слізняк. *Слі́зень лю́біць сыраежкі.* Слабодка Брасл. *Дзе што сы́ра тро́шкі – заво́дзяцца слізяня́.* Гарбачы Беш., Жарнасекава Беш., Суйкава, Біцялёва Віц., Ракава, Вярэчча Гар., Забор'е Рас., Славені, Рцішчава Талач., Іванск Чаш., Сасновая Наспа Лёзн., Масоры Сен., Стараселле Леп., Шкунцікі Шарк., Узмёны, Ліпанты Мёр., Свіла, Галубічы Глыб. Параўн. *слі́зень м.* 'тж'. Іжа, Абадоўцы Віл., Глядавічы Ст.-дар., Канічы Касцюк., *слію́ня́к м.* 'тж'. Жабыкі Касцюк.

СЛІПЕ́НЬ *м.* Сляпень. *Каля́ каро́вы, во дзе сліпнёў мно́га.* Першамайка Гар.

СЛО́НІК *м.* Даўганосік. *Па майму́ па́льцу поўз сло́нік.* Стараселле Леп., Рцішчава Талач., Скражына Глыб., Наўгароды Мёр., Вусце, Відокі В.-дзв.

СЛЮМА́К *м.* 1. Слізняк. *Слюмакі́ – шко́днікі клубні́кі і бурако́ў.* Обаль Сен., Лабачова Беш. 2. Смоўж, слімак. *Слюма́к сядзе́ў на ша́пцы баравіка́.* Лабачова Беш., Ст. Лаўкі Чаш.

СЛЯПА́К *м.* Сляпень. *Сляпа́к так надае́ў каро́ве, што яна́ не вы́трамала і пайшла́ ў раку́.* Ст. Лаўкі Чаш., Галубічы Глыб. Параўн. *слепа́к м.* Стрыгінь Бяроз.

СЛЯПЕ́Ц *м.* Сляпень. *Сляпе́ц – сляпе́ц, а на спі́ну ўцэ́ліць.* Бараны Глыб.

СМАРШО́К *м.* Смоўж. *Смаршо́к сядзе́ў на грыбе́.* Леснікі Глыб.

СМО́ЎЖЫК *м.* Смоўж. *Ліпу́чы, як смо́ўжык.* Навікі Шум., Крывое Сяло Шум.

СТРЫКАЗА́ *ж.* Страказа. *Стрыко́зы над бало́там лёта-юць: сі́нія, харо́шыя.* Муляры Паст., Кашалёва Віц.

СТРЫКУ́Н *м.* Конік. *Стрыку́н сядзе́ў у траве́.* Свіла Глыб.

СТРЫКУ́НЧЫК *м.* Конік. Ст. Лаўкі Чаш.

СТРЭ́ЛКА *ж.* Страказа. Леснікі Глыб., Бараны Глыб., Мар'янполле Брасл., Стараселле Леп., Рудкоўшчына Сен., Рцішчава Талач. Параўн. *стрэлка ж.* 'тж'. Комсенічы Кругл.

ТО́ЧКА *ж.* Мядзведка. Жарнасекава Беш. Параўн. *точка ж.* 'тж'. Дуброва Лельч.

ТХЛА *ж.* 1. Тля. 2. Моль. *Як нашлá на гарóд мой тхла!* Старынкі Глыб.

ТЫРКА́Н *м.* Таракан (чорны). *Тыркáны бóлі ў гóрадзе, а ў дзярэўні калі́ тóлькі мыішы.* Бараны Глыб. Параўн. *таракáн м.* 'тж'. Першамайка Гар., Наўгароды Мёр. Скражына Глыб., Будзілава Беш.

ЦЬВІРКУ́Н *м.* Цвыркун. *Марóз бýдзіць – цьвіркýн распяяўся.* Кубелеўшчына Шарк., Ст. Лаўкі Чаш.

ЦЫРКУ́Н *м.* Цвыркун. *Сввярчкóў, як ты кáжаш, рáньшэ цыркунáмі звáлі.* Гарбачы Беш., Бараны, Леснікі Глыб.

ШАРСЦЕ́НЬ *м.* Шэршань. *Шарсцéнь гняздó рóбіць у травé. Кóсіш і падчэ́піш. Во загудýць! Бывáіць і мёд.* Бараны Глыб., Скражына Глыб., Балаі Паст., Стараселле Леп. Параўн. *шарсцéнь м.* 'тж'. Іжа Віл.

ШАРШЭ́НЬ *м.* Шэршань. *Пашлá авéчку паравізáць. Ві́жу, шаршэ́нь лётаіць, глянула пад нóгі, а там аш цэ́лае гняздó шаршнёў.* Кубелеўшчына Шарк., Свіла Глыб., Павяцце Мёр., Лабачова Беш., Масоры Сен., Сасновая Наспа Лёзн., Першамайка Гар.

ША́ШАЛЬ *м.* 1. Жук-караед. Слабодка Шум. 2. Шашаль. Н. Саколіна Талач., Скражына Глыб.

ША́ШАР *м.* Шашаль. Наўгароды Мёр.

ШВЕД *м.* 1. Жук-караед. *Як папóрчана дрэ́ва, кáжуць: швед патачыў.* Гарбачы Беш., Жарнасекава, Лабачова, Целяпні Беш., Обаль, Масоры Сен., Савіна Дубр., Сасновая Наспа Лёзн., Лоўша, Кардон Шум., Ноўка Віц. 2. Шашаль. *Швед сапсавáў у дóме усіó мэ́блю.* Селішча Гар.

ШВЫРКУ́Н *м.* Цвыркун. *Увéчары швыркуны́ пачалі́ свой канцэ́рт.* Селішча Гар.

ШЛЁП-НАГА́ *ж.* Малюскі, якія закрываюцца ў дзвюх ракушках у выглядзе начовак. Барсукі Докш.

ШЧАМЕ́ЛЬ *м.* Чмель. *Мянé ўкусі́ў шчамéль.* Леснікі Глыб., Лабачова Беш.

ШЧМЕЛЬ *м.* Чмель. Багушэўск Сен.

**Назвы свойскіх жывёл**

АДНАГО´ДАК *м.* Жарабя аднаго года. Малішы Сен.

АДНАЗІ´МАК *м.* Жарабя аднаго года. *Жарабя́, яко́е адну́ зі́му гадава́лася – гэ́та адназі́мак.* Леснікі Глыб.

АЖАРО´БКА *ж.* Кабыла, якая першы раз ажарабілася. Псуя Глыб.

АНГЕ´ЛКА *ж.* Парода курэй. *Дачка́ прывізла́ мне курэ́й, анге́лак, малы́я такі́я – сьмех адзі́н з іх.* Кубелеўшчына Шарк.

АСЯНО´К *м.* Асенняе ягня. Межава Арш.

АСЯНЧУ´К *м.* Асенняе ягня. *Асянчу́к добра падро́с.*. Антаполле Чаш.

АСЯНЮ´К *м.* Асенняе ягня. *У Мітрафа́на, глянь, які асяню́к ла́дны.* Ст. Сяло Ушац., Масоры Сен.

АЎЦА´ *ж.* Авечка. *Ко́тную аўцу́ забі́лі, а ў ей ні аднаго́ ягнёнка.* Мішневічы Шум., Марчанкі, Бычыха Гар., Вярэчча Гар., Суша Леп., Поўсвіж Леп., Барсукі Докш., Свіла Глыб.

БАНКА´РТЫ *мн.* Кураняты, выведзеныя курыцай без ведама гаспадыні. *До́бра, што ўба́чыла я́йкі, а то вы́йшлі б банка́рты.* Манякова Мёр.

БАРАВО´К *м.* Кастрыраваны кабан. Гарбулі В.-дзв.

БІЦЮ´Г *м.* Здаровы моцны конь. *На гэ́тым біцюгу́ я і ара́ў, і се́на вазі́ў, нава́т ка́мні – усё вы́церпіў, ду́жа сі́льны конь.* Н. Пагост Мёр., Норыца Паст., Чашні Глыб., Стараселле Леп., Антаполле, Сялец Чаш., Бярэзніца, Мішкавічы Шум. Параўн. *біцю́г м.* ’тж’. Турэц Чэрв.

БЭ´РА *м.* Баран. *У нас не́калі было́ мно́га аве́чак: тры бэ́ры і во́сім аве́ц.* Н. Пагост Мёр. Параўн. *бэ́ра-бэ́ра!* Выгук, якім склікаюць авечак. *Я мало́га бара́нчыка с со́скі вы́карміла, дро́чны ста́ў, як пазаву́ яго́: «Бэ́ра-бэ́ра!» – так і прэ́цца да міне́.* Кубелеўшчына Шарк.

ВЕСЯНЧУ´К *м.* Хатнія жывёлы, што нарадзіліся вясной. Слабада Дубр.

ВЫПРУ´К *м.* Кабан. Барсукі Докш.

ВЫ´ПУСТАК *м.* 1. Жарабя аднаго года. *Вы́пустак ні на крок не адыхо́дзіць ад кабы́лы.* Мар'янполле Брасл., Камянполле Мёр., Антаполле Чаш., Шкунцікі Шарк. 2. Двухгадовае цяля. Азярцы Глыб.

ВЫТВО´РНІК *м.* Некастрыраваны бык. Селішча Гар.

ВУТА́К *м.* Качар. *Ута́к жы́рны. Хто яго́ бу́дзіць е́сці?* Бараны Глыб., Мар'янполле Брасл.

ВУ́ТКА *ж.* Качка. Бунцікі Шум., Мішкавічы, Далуева, Галі Шум., Селішча, Лялеўшчына Гар., Сокарава, Свяча, Луг, Гарбачы, Жалезкі, Лабачова Беш., Града, Полымя, Падворыца, Ходцы, Обаль Сен., Баброва Дубр., Антаполле Чаш., Пагосцішча Лёзн., Н. Сяло, Н. Саколіна Талач., Кубелеўшчына Шарк., Леснікі, Абруб Глыб., Крычава, Крукі Мёр., Мар'янполле Брасл. Параўн. *ву́тка ж.* 'тж'. Ст. Дарогі Ст.-дар. *ву́ці-ву́ці-ву́ці!* 'выгук, якім падзываюць гусей, качак'. Задуброўе Віц.

ВУЦЯ́К *м.* Качар. Галі Шум., Далуева Шум., Града, Обаль Сен., Дзямідавічы Чаш., Паддуб'е Леп., Павяцце, Н. Пагост Мёр.

ВУЦЯНЯ́ *н.* Качаня. Селішча Гар. Галі Шум. Параўн. *вуцяня́ н.* 'тж'. Ст. Дарогі Ст.-дар.

ВУЦЯ́Р *м.* Качар. *У міне́ дзьве ву́тачкі і вуця́р.* Кубелеўшчына Шарк.

ГАДАВІ́К *м.* Жарабя аднаго года. Язна Мёр. Бычыха Гар.

ГАДУ́Н *м.* Жарабя аднаго года. *Дудке́вічы ў лю́тым гадуна́ прадава́ць бу́дуць, пакупніко́ў шука́юць.* Слабодка Брасл. *Гадуна́ ма́ім свайго́. Нашто́ я пайду́ брыгадзі́ру прасі́цца каня́.* Бараны Глыб., Буяўшчына Шарк., Целяпні, Гарбачы Беш., Сасновая Наспа Лёзн., Масоры Сен. Параўн. *гаду́н м.* 'тж'. Глядавічы Ст.-дар.

ГАЛУ́ЗА *ж.* Бязрогая карова. Абадоўцы Віл. Параўн. *галу́за ж.* 'тж'. Комсенічы Кругл.

ГАЛУ́Н *м.* Жарабя аднаго года. Барсукі Докш.

ГАНША́К *м.* Ганчак. *З таго́ шчанюка́ мо́жа быць неблагі́ ганша́к.* Бараны Глыб., Скражына Глыб., Буеўшчына Шарк.

ГУС *м.* Гусь. Ст. Лаўкі Чаш.

ГУСЁНАК *м.* Гусяня. *Гусёнак вы́віўся то́лька адзі́н.* Лялеўшчына Гар., Селішча Гар., Бярэзніца, Галі, Навікі, Крывое Сяло, Бунцікі Шум., Біцялёва Віц., Гарбачы Беш., Дубнякі, Ходцы, Полымя, Обаль Сен., Палёнаўка Лёзн., Жабыкі Дубр., Н. Сяло Талач., Антаполле Чаш., Кішы Глыб., Мар'янполле, Слабодка Брасл.

ГУ́СІНА *ж.* Гусь. *Гу́сіну на база́рі купі́ла, хачу́ гусе́й заве́сьці.* Бунцікі Шум. *Што ты ве́рціш галаво́й, як гу́сіна?!* Н. Саколіна Талач., Алексінічы Сен.

ГУСІ´ХА *ж.* Самка гуся. *Ды не бойся ты: гэ́та гусі́ха не шчыпа́ецца, яна́ спако́йная і лаго́дная.* Н. Пагост Мёр.

ГУСЫ´НЯ *ж.* Самка гуся. Бярэзніца Шум., Обаль Сен.

ГУСЯ´ *ж.* Гусь. *Ай, Ага́та, яка́я ў цябе́ прыго́жая гуся́!* Зялёнка Пол. Муляры Паст. Мар'янполле Брасл. Леснікі Глыб.

ГУСЯНЁНАК *м.* Гусяня. *Са́мы малё́нькі, кво́лы гусянёнак захмуры́ўся, прыйшло́ся яго́ дагляда́ць асо́бна.* Свяча Беш., Лабачова Беш., Мішкавічы Шум., Пірагі Дубр., Кубелеўшчына Шарк., Леснікі, Бараны Глыб. Параўн. *гусянё н.* 'тж'. Зялёнка Пол., Суша Леп.

ДАХЛЯ´ЦІНА *ж.* Слабы запушчаны конь. Бараны Глыб.

ДВАРА´К *м.* Дварняк. *Не бо́йся, гэ́ны двара́к не куса́е.* Рудкоўшчына Сен.

ДВАРЫСЕ´ГА *м.* Дваровы сабака простай пароды. Сялец Чаш.

ДЗЕ´ТУХА *ж.* Курыца, якая водзіць куранят. Ластавічы Глыб.

ДЗЯЦІ´НА *ж.* Курыца, якая водзіць куранят. *На́ша дзяці́на здо́хла. Харашо́, хоць цыпля́ты падраслі́ тро́ху, не так ця́шка ім было́.* Селішча Гар.

ЁРКА *ж.* Асенняе ягня. *Не спадаба́лася ёрка дзе́ду, та́му яе прадалі́.* Мішкавічы Шум.

ЖАРАБЁНАК *м.* Жарабя. *З гэ́тага крэ́пэнькага жарабёнка вы́йдзіць до́бры конь.* Галі Шум., Далуева Шум., Стайкі Віц., Гарбачы Беш., Обаль Сен., Пірагі, Жабыкі Дубр., Арэхаўна Ушац., Чашні Глыб., Камянполле Мёр. Параўн. *жарабёнак м.* 'тж'. Ст. Дарогі Ст.-дар.

ЖАРЭ´БКА *ж.* Жаробка. Галі Шум.

ЖАРЭ´БЧЫК *м.* Некастрыраваны конь ва ўзросце двух або трох год. Антаполле Чаш., Сялец Чаш., Суша Леп., Чашні Глыб.

ЖЫВАЦІ´НА *ж.* Жывёла. *Ёсць і ў міне́ жываці́на: каро́ўка, парсючо́к, ку́ры.* Кубелеўшчына Шарк.

ЗДАРАВЯ´К *м.* Здаровы, моцны конь. *У Заха́равіча до́бры конь – здаравя́к сапра́ўдны.* Жарнасекава Беш., Вярэнькі Паст.

ЗІМАВО´К *м.* Цяля, якое перазімавала. Бычыха Гар.

ІНДЗЕ´ЙКА *ж.* Індычка. Лабачова Беш. Селішча Гар.

ІНДЗЮ´К (ІНЬДЗЮ´К) *м.* Індык. *Іньдзю́к сі́льна атліча́ецца ад усе́й дама́шняй пці́цы.* Палёнаўка Лёзн. *На стале́ ўсяво́ бы́ла,*

*да́жа індзюка́ зарэ́залі.* Бунцікі Шум., Галі, Далуева, Бярэзніца Шум., Селішча, Лялеўшчына, Марчанкі Гар., Васькавічы, Біцялёва, Мазалава Віц., Лабачова, Свяча, Жалезкі Беш., Обаль, Полымя, Дубнякі, Града, Багушэўск, Алексінічы Сен., Старыя Лаўкі, Антаполле Чаш., Н. Сяло Талач., Баброва Дубр., Мерзлякова Лёзн., Балдышы, Зялёнка Пол., Суша Леп., Абруб, Ластавічы, Кішы, Завараты, Леснікі Глыб., Крычава Мёр., Слабодка, Мар'янполле Брасл., Камаі Паст.

ІНДЗЮ´ЧКА (ІНЬДЗЮ´ЧКА) *ж.* Індычка. *У маёй бабу́лі гаду́ецца больш індзю́чак, чым індзюко́ў.* Кішы Глыб., Навікі, Крывое Сяло, Галі Шум., Гарбачы Беш., Обаль Сен., Н. Сяло Талач., Суша Леп., Леснікі Глыб., Палёнаўка Лёзн.

ІНДЗЮЧЫ´ЦА *ж.* Індычка. *Ма́шына індзючы́ца па ўсёй вёсцы чыпля́т трапле́.* Балдышы Пол.

ІНДЗЮ´ШКА (ІНЬДЗЮ´ШКА) *ж.* Індычка. *Нядаўна ў кура́тніку з'яві́лася індзю́шка, і я́йцы яна́ нясе́ць бальшэ́йшыя за куры́ныя.* Далуева Шум., Галі, Бунцікі Шум., Лялеўшчына Гар., Сялец, Антаполле Чаш., Сарочына Ушац., Н. Пагост Мёр., Ластавічы Глыб.

КАБА´НЬЧЫК *м.* Парася. Жалезкі Беш. Гута Паст.

КАЗЛЁНАК (КАЗЬЛЁНАК) *м.* Казляня. *На́ша каза́ не магла́ вы́карміць сама́ свайго́ казьлёнка, і мы яго́ падка́рмлівалі.* Далуева, Галі, Мішкавічы, Ляжні Шум., Селішча, Бычыха Гар., Лабачова, Гарбачы Беш., Обаль Сен., Пірагі, Савіна Дубр., Сялец, Антаполле Чаш., Дольцы Ушац., Суша Леп., Жабыкі Дубр., Svіла, Чашні Глыб., Андроны, Муляры Паст., Мазалава Віц.

КАЗЛЯНЁНАК (КАЗЬЛЯНЁНАК) *м.* Казляня. Свяча Беш., Жалезкі Беш., Лялеўшчына Гар.

КАЗУ´ЛЯ *ж.* Каза. *Мая́ казу́ля ў ле́се схава́лася, ледзь знайшла́.* Стралкі В.-Дзв.

КАЛЯ´ДАЧКА *ж.* Авечка з ягнятамі, якія з'явіліся на свет у калядную ноч. Мар'янполле Брасл.

КАМО´ЛАЯ *ж.* Бязрогая карова. *У ста́дзе сто́лькі каро́ў ра́зных: і рагу́лі, і камо́лыя.* Межава Арш., Антаполле, Сялец Чаш., Н. Саколіна Талач., Селішча Гар., Барсукі Докш.

КАНЮ´ГА *м.* Сталы конь. *Нашто́ каню́гу карм́іць, а стрыгуна́ прадава́ць? Які́ толк?* Бараны Глыб., Свіла, Галубічы Глыб., Андроны Паст., Камянполле Мёр., Бычыха Гар.

КАНЯ́ГА *м.* Слабы конь. *Наш каня́га ледзь плёўся.* Біцялёва Віц.

КАНЯ́КА *м.* 1. Слабы, запушчаны конь. Бычыха Гар. 2. Сталы конь. *Зусі́м змучанага каня́ку прывялі́ з по́ля.* Багушэўск Сен.

КАСТРА́Т *м.* Кастрыраваны бык. Буяўшчына Шарк.

КАЦЕ́ЙКА *м.* Кот. Рудкоўшчына Сен.

КАЦЁНАК *м.* Кацяня. Ляжні Шум., Стайкі, Біцялёва Віц., Селішча, Вярэчча, Бычыха Гар., Пагосцішча Лёзн., Гарбачы, Свяча Беш., Малішы, Полымя, Дубнікі, Алексінічы Сен., Антаполле, Сялец Чаш., Паддуб'е, Суша Леп., Чашні, Завараты, Свіла Глыб., Павяцце, Андроны Мёр., Слабодка, Хвасты Брасл., Камянполле Мёр.

КАЦЯНЁНАК *м.* Кацяня. *Кацянёнак з ко́шкі ўсё высмо́ктваіць.* Бараны Глыб. *Кацянёнка рібя́ты прінясли́, гаво́рюць, што не́йкій паро́дзістый.* Лялеўшчына Гар., Галі, Мішкавічы, Далуева Шум., Обаль Сен., Лабачова, Жалезкі, Свяча Беш., Мерзлякова Лёзн., Пірагі Дубр., Манякова Мёр., Леснікі Глыб.

КАЦЯ́РА *м.* Дарослы кот. *У мяне́ до́ма шмат като́ў: кацёнак, ко́шка і кацяра – сям'я да і то́лькі.* Зялёнка Пол., Нямойта Сен.

КАЧАНЁНАК *м.* Гусяня. *З усяго́ вы́ івадка гэ́ты качанёнак быў зусі́м слабы́.* Луг Беш.

КА́ЧАРКА *ж.* Качка. *Глянь, яка́я прыго́жая ка́чарка!* Багушэўск Сен.

КАЧУ́Р *м.* Качар. Антаполле Чаш.

КВО́ЧКА *ж.* Качка. *Кво́чкі до́брыя, пу́ху мно́га, бу́ду на паду́шку зьбіра́ць.* Межава Арш.

КІЛА́Ш *м.* Некастрыраваны кабан, кныр, кнораз. Першамайка Гар.

КІЛУ́Н *м.* 1. Кабан з адным ядром. *У сара́і кілу́н саўсі́м ашале́ў: ле́зіць аж на сцэ́нкі.* Мазалава Віц., Сасновая Наспа Лёзн., Селішча Гар., Галі Шум., Луг Беш., Масоры Сен., Альшанка Чаш., Клясціцы Рас., Гута Паст. 2. Кастрыраваны бык. *Га́нна, загані́ ў хлеў кілуна́!* Бычыха Гар.

КІРНО́С *м.* Некастрыраваны кабан, кныр, кнораз. *Вы́рваўшыся з хлява́, кірно́с мо́жа пакуса́ць на́ват гаспадаро́ў.* Норыца Паст.

КЛУ́ША *ж.* Квахтуха. Мнюта Глыб.

КНО´РЫС *м.* Некастрыраваны кабан, кныр, кнораз. *Хазяевы свінаматак плаціілі Марысі грошы за кнорыса.* Чашні Глыб.

КНУР *м.* Некастрыраваны кабан, кныр, кнораз. *Нада папытацца, у каго гэта ёсць кнур, каб свінню падпусціць.* Заваракты Глыб., Муляры Паст., Мар'янполле Брасл., Буяўшчына Шарк., Н. Саколіна Талач., Іванск Чаш., Малішы, Багушэўск, Канева Сен., Жалезкі, Свяча, Гарбачы Беш.

КО´РМНІК *м.* Выкармлены кабан. Слабада Дубр.

КО´ТКА *ж.* Кошка. *Нешта маей коткі ні відаць: пэўне, недзе акацілася.* Прамышляды Паст., Вярэнькі, Муляры Паст., Бараны Глыб., Зялёнка Пол., Нямойта Сен.

КРАЛІ´ХА *ж.* Труска, трусіха. *Краліху мы тры разы на год дапушчаім.* Бараны Глыб, Муляры Паст. Параўн. *краліца ж.* 'тж'. Дуброва Лельч.

КРАЛЬЧЫ´ХА *ж.* Труска, трусіха. *Во, сматрі, у гэтай клеткі кральчыхі, а ў гэтай адны самцы.* Мазалава Віц., Далуева, Ляжні, Мішкавічы, Галі, Навікі, Крывое Сяло Шум., Бычыха Гар., Гарбачы, Лабачова, Свяча Беш., Нямойта, Малішы, Обаль Сен., Буда Дубр., Сялец, Антаполле Чаш., Поўсвіж, Суша Леп., Леснікі, Свіла, Кукры Глыб., Шкунцікі Шарк., Андроны Паст., Камянполле Мёр.

КРАПІ´ЎНІКІ *мн.* Кураняты, якія вывеліся вельмі позна і па-за гняздом. *Мае крапіўнікі зусім слабенькія, маленькія.* Манякова Мёр.

КРОЛЬ *м.* Трус. *Кралі ўсё ядуць: і моркву, і траву любую, і бульбу.* Н. Пагост Мёр., Нікіціха Шум.

КУБА´ТАРЫ *мн.* Бройлеры. Манякова Мёр.

КУЗЮ´ЛЬКА *м.* Жарабя-сысун. Муляры Паст.

КУРАВО´ДКА *ж.* Квактуха. Луг Беш., Біцялёва Віц.

КУРАНЁНАК *м.* Кураня. *Нешта адзін куранёнак захмурыўся.* Свяча Беш.

КУ´РКА *ж.* Курыца. *У гэтым годзе каршун пахапаў шмат курак.* Луг Беш, Нямойта, Будзішча Сен., Зялёнка Пол., Мар'янполле Брасл.

КУРЧА´К *м.* Кураня. Муляры Паст.

КУРЧО´НАК *м.* Кураня. *І куды гэта ўсе курчаты падзеліся, можа, у гарод палезлі.* Н. Пагост Мёр.

КУРЫ́ЦА *ж.* Курыца. *Сёлета не адну́ курьі́цу лясá са дварá звялá.* Балдышы Пол., Жалезкі Беш., Сялец Чаш., Поўсвіж Леп., Абруб Глыб., Крычава Мёр.

ЛАБА́ТАЯ (КАРО́ВА) *ж.* Бязрогая карова. Жалезкі Беш., Мішневічы Шум., Суйкава Віц., Лабачова Беш., Межава, Ларынаўка Арш., Стараселле Леп., Чашні, Леснікі Глыб., Норыца Паст., Саланое Віл., Павяцце Мёр., Мар'янполле Брасл.

ЛАБА́ТКА *ж.* Бязрогая карова. *Ну і лабáтку ж вы карóву сабé выбрáлі.* Ст. Сяло Ушац., Галі, Мішкавічы, Сутокі Шум., Луг Беш., Багушэўск Сен., Крычава Мёр., Баброва Леп., Відокі В.-дзв.

ЛАБО́НА *ж.* Бязрогая карова. Целяпні Беш.

ЛАБО́НЯ *ж.* Бязрогая карова. *Былá ў нас карóва – лабóня, дык дýжа дóбрая былá.* Селішча Гар., Сасновая Наспа Лёзн.

ЛАБО́ХА *ж.* Бязрогая карова. *У сусéткі карóва – лабóха, а я такí́х ні люблю́.* Лялеўшчына Гар., Першамайка Гар.

ЛАБЫ́Р *м.* Бязрогая карова. *Аднá карóва ў мянé рагáтая, а другáя – лабьíр.* Манякова Мёр.

ЛАША́К *м.* Конь ва ўзросце трох год. Малішы Сен. Параўн. *лашáк м.* 'тж'. Іжа Віл., Дуброва Лельч., *лошáк м.* 'конь двухгадовага ўзросту'. Углы Нараўл.

ЛАШО́НАК *м.* Жарабя-сысун. Узмёны Мёр. Параўн. *лашаня́ н.* 'тж'. Н. Млынок Мазыр.

ЛЕ́ТАШНІК *м.* Двухгадовае цяля. *Сусéт свайгó лéташніка яшчэ́ навя́звае.* Жалезкі Беш., Першамайка Гар.

ЛЕ́ТАШНІЦА *ж.* Цяля, якое перазімавала. *Лéташніцу бýдзім злучáць.* Бараны Глыб.

ЛУТ *м.*, ЛУЦЯ́РА *ж.* Кот. *Ах, мая́ луця́ра, пайшлí́ малакá табé налію́.* Ракава Гар.

ЛЫ́СКА *ж.* Бязрогая карова. *У гэ́тым стáдзе былá аднá лыска.* Іванск Чаш.

ЛЭ́БКА *ж.* Бязрогая карова. *А мы нáшу лэ́бку Рабí́най зóвем.* Слабодка Брасл., Клясціцы Рас., Камянполле Мёр., Шкунцікі Шарк., Андроны Паст., Галубічы, Свіла Глыб., Будаўка Талач., Савіна Дубр. Параўн. *лэ́бка ж.* 'тж'. Іжа Віл.

ЛЯГЧА́НІК *м.* Кастрыраваны конь. Чашні Глыб.

МАЛАДЗІ́К *м.* Цяля гэтага года. Будаўка Талач.

МАЛО́ЧНІК *м.* Цяля гэтага года. *Трэ́ба і нам здаць свайго́ мало́чніка.* Баброва Леп.

МА́РГЕЛЬ *м.* Непакладаны баран. *Сусе́тка папрасі́ла ў мяне́ ма́ргеля.* Жарнасекава Беш., Барсукі Докш.

МА́ТКА *ж.* Свіння з вывадкам парасят. Сталіца Шарк.

МАЦЮ́РКА *ж.* Свіння з вывадкам парасят. Запруддзе Глыб.

МЕ́РАН *м.* Кастрыраваны конь ва ўзросце трох год. Жалезкі Беш.

МЕ́РІН *м.* Кастрыраваны конь. Селішча Гар.

МЕ́РЫН *м.* 1. Кастрыраваны конь. *Стары́ ме́рын баразны́ не скры́віць.* Навікі Шум., Крывое Сяло Шум. 2. Кастрыраваны конь ва ўзросце трох год. *Я свайго́ ме́рына ўжо запрага́ю.* Антаполле Чаш., Сялец Чаш., Мішкавічы Шум. 3. Здаровы моцны конь. *Праз не́калькі год з маладо́га ко́ніка вы́рас мо́цны ме́рын.* Сутокі Шум. Параўн. *ме́рын м.* Сталы конь. Глядавічы Ст.-дар.

МУТРЭ́Ц *м.* Кабан з адным ядром. Муляры Паст.

НЕ́ЦЕЛКА *ж.* Карова, якая яшчэ ні разу не цялілася. *На зіму́ астáвілі яшчэ́ і не́целку.* Буеўшчына Шарк.

НЕ́ЦЕЛЬ *ж.* і *м.* 1. Карова, якая яшчэ ні разу не цялілася. *У гаспада́рцы, акрамя́ каро́вы, быў яшчэ́ і не́цель.* Скражына Глыб. *Не́цель – е́та каро́ва, като́рая яшче́ ні ра́зу не целя́лась, а я́лаўка, като́рая аста́лася няце́льнай.* Мазалава Віц., Савіна Дубр., Стараселле, Суша Леп. 2. Карова, якая засталася няцельнай. *А-а, як я там жыву́: адна́ каро́ва, і та́ не́цель.* Кубелеўшчына Шарк., Мішкавічы Шум.

НО́РНІК *м.* Сабака, які прымяняецца пры паляванні на звяроў. *Но́рнік быў чо́рненькі, ла́пкі крывенькія.* Малешы Сен.

НУТРЭ́Ц *м.* Кабан з адным ядром. *Нутрэ́ц са́ла ні дасць. Усё бу́дзіць смярдзе́ць.* Бараны Глыб., Скражына, Леснікі Глыб., Камянполле Мёр., Буеўшчына Шарк., Антаполле Чаш., Барсукі Докш., Мішкавічы Шум. Параўн. *нутра́к м.* 'кабан з унутраным ядром', *одноя́й м.* 'кабан з адным ядром'. Стрыгінь Бяроз.

ПАГО́ДНІК *м.* Цяля, якое перазімавала. Суша Леп.

ПАДРУЖО́ЎКА *ж.* Сабака, які выкарыстоўваецца пры паляванні са стрэльбай. Малішы Сен.

ПАЛУКРО́ЎКА *ж.* Помесь паляўнічага сабакі з дварняком. *У палукро́ўкі чацвёра прыго́жанькіх руды́х шчаня́т.* Стара-

селле Леп., Малішы Сен., Целяпні Беш. Параўн. *палукроўка ж.* 'тж'. Глядавічы Ст.-дар., Іжа, Абадоўцы Віл.

ПАРАСЁНАК *м.* Парася. *Купілі парасёнка, так он забалёл на нóгі і здох.* Мазалава Віц., Мішкавічы, Ляжні Шум., Селішча, Вярэчча, Бычыха Гар., Пагосцішча Лёзн., Гарбачы, Свяча Беш., Жабыкі, Пірагі Дубр., Нямойта, Полымя, Будзішча, Алексінічы Сен., Зялёнка Пол., Поўсвіж, Суша Леп., Чашні, Леснікі, Svіла, Завараты Глыб., Муляры Паст., Павяцце, Камянполле, Маняко-ва, Крычава Мёр., Слабодка, Мар'янполле Брасл. Параўн. *парасё* н.'тж'. Зялёнка Пол.

ПЕРАЗІ́МАК *м.* 1. Цяля, якое перазімавала. *Сусéтка свайгó перазíмка на атáве наважáла.* Муляры Паст., Леснікі, Скражына Глыб., Слабодка Брасл., Буеўшчына Шарк., Баброва Леп., Межава Арш., Жарнасекава, Жалезкі Беш., Галі Шум. 2. Жарабя аднаго года. Савіна Дубр.

ПЕРАЛЕ́ТАК *м.* Двухгадовае цяля. Селішча Гар., Гарбачы Беш.

ПЕ́РВАСІНКА *ж.* Карова, якая першы раз цялілася. *Пéрвасінку сабé купíлі, як дáльшы бýдзіць, а січáс дóбрая.* Лялеўшчына Гар.

ПЕ́РВАСЦІНКА *ж.* Карова, якая першы раз цялілася. *Такí ўжо дóбранькі бычóк у маёй пéрвасцінкі.* Мар'янполле Брасл.

ПЕРВАЦЕ́ЛКА *ж.* Карова, якая першы раз цялілася. Жабыкі Дубр.

ПЕРВАЦЁЛАК *м.* Першае цяля ад каровы. Багушэўск Сен.

ПЕРШАЖАРО́БКА *ж.* Кабыла, якая першы раз ажарабілася. *У Івáна першажарóбка жарабíла лáднага жарабя́, з зóрачкай і бéлымі капыцамі.* Малішы Сен.

ПЕРША́ЧКА *ж.* Карова, якая першы раз ацялілася. *Кóсцева першáчка ад усíх карóў выдзяляíцца.* Бараны Глыб., Свіла Глыб., Стараселле Леп., Луг Беш., Камянполле Мёр., Пакаёўцы В.-дзв. Параўн. *першáк м.* 'тж'. Глядавічы Ст.-дар.

ПІСКАЛЁНАК (ПІСЬКЛЁНАК) *м.* Кураня. *Нáда былó п піськля́т загнáць – цямнéе ўжо.* Макаравічы Докш., Ст. Сяло Ушац., Слабодка Леп., Слабада Дубр.

ПІСКЛЯНЁНАК *м.* Кураня. *Як мянé замýчылі гэ́тыя цыпля́ты: пішчáць і пішчáць – сапрáўдныя піскляня́ты.* Свяча Беш.

ПІСКЛЯ́ТНІЦА *ж.* 1. Курыца. Пірагі Дубр. 2. Квактуха. Песачанка Сен.

ПІСКАЛЯ́ТЫ *мн.* Кураняты. Чашні Глыб.

ПІСКЛЯ´ТЫ (ПІСЬКЛЯ´ТЫ) *мн.* Кураняты. *Піскля́ты ду́жа мно́га тво́рагу ня лю́бяць. Ім на́да і прастаква́шы пакі́даць.* Бараны Глыб., Мнюта Глыб., Камаі Паст., Стараселле Леп., Замошша Ушац., Волева Дубр., Ларынаўка Арш., Студзёнка Сен., Луг, Жалезкі Беш. *Ужо́ во́сенню піськля́ты вы́лупіліся, але́ ж не́як вы́качаліся.* Ветахмо Докш., Леснікі Глыб.

ПО´КРУЦЬ *ж.* Помесь паляўнічага сабакі з дварняком. *У пса́рні была́ то́лькі адна́ по́круць.* Барсукі Докш.

ПЫ´ЛЬКІ *мн.* Кураняты. *Хазя́йка клі́кала пыляк, каб пакармі́ць.* Нямойта Сен., Пірагі Дубр., Зялёнка Пол. Параўн. *пыль-пыль-пыль выкл.* Выгук, якім падзываюць куранят. Задуброўе Віц.

ПЫЛЯНЁНАК *м.* Кураня. *Квакту́ха вы́вела пыляня́т на двор.* Слабодка Леп.

ПЫЛЯНЯ´ТЫ *мн.* Кураняты. Н. Сяло Талач., Навікі, Крывое Сяло Шум. Параўн. *пуляня́та мн.* ’тж’. Углы Нараўл.

ПЫЛЯ´ТЫ *мн.* Кураняты. *На дварэ́ хо́дзіць квакту́ха с пыля́тамі.* Багушэўск Сен.

ПЯВУ´Н *м.* Певень. *Вось і пяву́н заспява́ў, трэ́ба ўстава́ць.* Ст. Лаўкі Чаш., В. Дольцы Ушац.

ПЯРВО´СТКА *ж.* Кабыла, якая першы раз ажарабілася. Савіна Дубр.

ПЯРВО´СЬЦЕНКА *ж.* Карова, якая першы раз ацялілася. Мішкавічы Шум., Першамайка Гар.

ПЯРВУ´СТКА *ж.* Карова, якая першы раз ацялілася. *Пярву́стка до́брая, цялёначак прыго́жанькі.* Межава Арш. Параўн. *пярво́стка ж.* ’тж’. Ст. Прыбужжа Дрыб.

ПЯРВУ´СЦІНКА *ж.* Карова, якая першы раз ацялілася. *На́ша пярву́сцінка прінёсла аплод, будзём зваць Бы́ськай.* Мазалава Віц.

ПЯРША´ЧКА *ж.* Карова, якая першы раз ацялілася. *Producing Суся́ды купі́лі ў нас пярша́чку.* Муляры, Вярэнькі Паст., Завараты Глыб., Манякова, Павяцце Мёр., Баброва Леп.

ПЯРЭ´ДАЙКА *ж.* Карова, якая засталася няцельнай. Жалезкі Беш.

ПЯРЭ´ЗІМАК *м.* Цяля, якое перазімавала. *Цялу́шка ў мяне́ пярэ́зімьчка.* Слабада Дубр., Антаполле Чаш., В. Дольцы Ушац.

ПЯРЭ́ЛЕТАК *м.* Паўгадовая жывёла. *У нас бычо́к – пярэ́летак.* Слабада Дубр.

ПЯТУ́Н *м.* Певень. Слабодка Брасл.

ПЯТУ́Х *м.* Певень. *Маладыя петухі́ крічáць сначáла хрі́пла, але́ гро́мка.* Селішча Гар., Баброва Дубр., Стайкі, Мазалава, Біцялёва Віц., Бунцікі, Галі, Ляжні, Далуева Шум., Лялеўшчына, Марчанкі, Вярэчча Гар., Гарбачы, Луг, Лабачова Беш., Града, Дубнякі, Полымя Сен., Мерзлякова, Пагосцішча Лёзн., Н. Саколіна, Будаўка Талач., Антаполле Чаш., Зялёнка Пол., Паддуб'е, Суша Леп., Буеўшчына Шарк., Чашні, Леснікі, Завараты, Кішы, Абруб Глыб., Муляры Паст., Ліпанты, Крычава, Павяцце Мёр., Богіна, Мар'янполле Брасл.

ПЯЧКУ́Р *м.* Лянівы кот, які не ловіць мышэй. *У хáце два каты́ – або́е пячкуры́, не знáю, што дзе́лаць.* Слабада Дубр, Ст. Сяло Ушац.

РАГА́ТКА *ж.* Карова з вялікімі рагамі. *Гані́ ту́ю рагáтку туды́, а то капу́сту самне́ць.* Слабодка Брасл., Галубічы, Svіла Глыб., Лялеўшчына Гар., Будаўка Талач., Поўсвіж Леп.

РАГУ́ЛЯ *ж.* Карова з вялікімі рагамі. Селішча, Бычыха Гар., Дубнякі, Малішы Сен., Жалезкі, Свяча Беш., Крывое Сяло, Навікі, Мішневічы, Сутокі, Мішкавічы Шум., Відокі В.-дзв., Межава Арш., Антаполле Чаш., Сарочына, В. Дольцы Ушац., Суша, Стараселле Леп., Буеўшчына Шарк., Камянполле Мёр.

РЫ́ЙКА *ж.* Парода паляўнічага сабакі. *Браў бáцька на ахо́ту ры́йку і ганчакá.* Рудкоўшчына Сен.

САМУ́ХА *ж.* Самка. Абруб Глыб.

САСУНО́К *м. ласк.* Жарабя-сысун. *Гэ́ты сасуно́к яшчэ́ зусі́м маленькі.* Багушэўск Сен.

СВІННЁНАК (СЬВІННЁНАК, СЬВІНЁНАК) *м.* Парася. *Сьвіннёнак до́брый вы́рас, пудо́ў пяць бу́дзіць.* Лялеўшчына Гар. *А я свінёнка до́брага вы́гадавала, сы́ценькі, длі́ненькі.* Кубелеўшчына Шарк. *Мáленькі свіннёнак нічо́га не хо́ча е́сці.* Стайкі Віц., Гуліна Сен., Н. Пагост Мёр., Жарнасекава Беш.

СЕГАЛЕ́ТАК *м.* 1. Цяля гэтага года. Свяча Беш. 2. Парася гэтага года. Сялец Чаш.

СЕГАЛЕ́ТКА *аг.* Цяля гэтага года. Кубелеўшчына, Буеўшчына Шарк., Мішкавічы Шум., Першамайка Гар.

СЕ́ЛЕЗЕНЬ (СЕ́ЛІЗЕНЬ, СЕ́ЛЯЗЕ́НЬ) *м.* Качар. Паддуб'е Леп., Н. Сяло Талач., Лялеўшчына Гар. *Селезня́ лёгка ад ву́ткі*

*адрózніць: ён бóльшы і пёры ў ягó зялёныя.* Слабодка Брасл. *К Раштвý мáмка маí гатóвіла сілязнí.* Бунцікі Шум., Гарбачы Беш., Песачанка Сен., Мішкавічы Шум.

СЕМЯННІ´К *м.* Некастрыраваны бык. Баброва Леп.

СІЛА´К *м.* Здаровы, моцны конь. Будаўка Талач.

СКОТ *м.* Свойская жывёла. *Увéчары бáба пóйдзе прыбірáць скот, які́ мы пастáвілі ў хлеў.* Далуева, Галі, Мішкавічы, Навікі, Крывое Сяло Шум., Васькавічы Віц., Селішча, Бычыха, Марчанкі Гар., Малішы Сен., Жабыкі, Пірагі Дубр., Суша Леп., Кукры, Леснікі Глыб., Узмёны Мёр., Андроны Паст.

СТРЫГУ´Н *м.* Конь ва ўзросце двух год. Палі Шум., Далуева, Мішкавічы Шум., Бычыха Гар., Багушэўск Сен., Антаполле, Альшанка Чаш., Сарочына Ушац., Барсукі Докш., Буеўшчына, Шкунцікі Шарк., Бараны, Галубічы, Svіла Глыб., Камянполле Мёр. Параўн. *стрыгýн м.* ’тж’. Глядавічы Ст.-дар.

СЫМЫСА´ТКА *ж.* Курыца, якая сама села на яйкі. *У гэ́тым гадý ў мянé не былó, а пазалётась і лётась па две сымысáткі.* Слабада Дубр.

СЫСУНО´К *м.* Жарабя-сысун. Савіна Дубр.

СЯГО´ЛЕТАК *м.* Цяля гэтага года. Багушэўск Сен.

СЯГО´ЛЕТКА *ж.* Цяля гэтага года. Мішневічы Шум. Параўн. *гэтэрóчне тэлí н.* ’тж’. Стрыгінь Бяроз.

СЯДА´ЧКА *ж.* Квактуха. Зялёнка Пол.

ТРАЦІ´НКА *ж.* Цяля на трэцім годзе. Ветахмо Докш.

ТРАЦЯ´ЧКА *ж.* Цяля на трэцім годзе. *Трацíчка маí сёлета пакры́лася.* Антаполле Чаш., Мішкавічы Шум., Суйкава Віц., Малішы, Дубнякі Сен., В. Дольцы Ушац., Бараны, Леснікі Глыб., Муляры Паст.

ТРАЦЯЧО´К *м.* Цяля на трэцім годзе. Мар’янполле Брасл.

ТРІЦЦЯ´КА *м.* Цяля на трэцім годзе. Першамайка Гар. Параўн. *трацíка м.* ’тж’. Дуброва Лельч.

ТРОХЛЕ´ТАК *м.* Цяля на трэцім годзе. Бычыха Гар.

ТРУСЯНЁНАК *м.* Трусяня. *Нáшага трусянёнка сёння шашóк сцягнýў.* Свяча Беш.

ХАХНУ´ЛЬКА *ж.* Ласкавы зварот да курыцы. Малішы Сен. Параўн. *хахлáтка ж.* Парода курэй. *У мянé кýры – адны́ хахлáткі.* Углы Нараўл.

ХРАК *м.* Некастрыраваны кабан. *У гэ́тым гóдзе храка гадýець тóлькі Тарáс.* Леснікі Глыб., Гута Паст., Крычава, Ка-

мянполле Мёр., Поўсвіж, Стараселле Леп., Антаполле, Альшанка Чаш., Дубнякі Сен., Бычыха Гар., Кардон, Бярэзніца Шум., Савіна Дубр., Барсукі Докш., Клясціцы Рас., Жоўніна В.-дзв.

ХУДО́БА *ж.* Агульная назва свойскай жывёлы. Норыца Паст.

ЦАЗА́РАЧКА *ж.* Парода курэй. *Мая́ ба́бушка гаду́іць такі́я паро́ды курэ́й: цаза́рачкі, інкуба́тарскіх.* Далуева, Галі Шум.

ЦЁШКА *ж.* Свіння. *Цёшка есь з карыта.* Гута Паст.

ЦІ́ПА *ж.* Курыца. Песачанка Сен.

ЦІПКІ *мн.* Кураняты. Рудкоўшчына Сен.

ЦІПЛЁНАК *м.* Кураня. Гарбачы Беш.

ЦЫПЛЯ́ТЫ (ЦЫПЛЯ́ТА, ЦІПЛЯ́ТЫ, ЦАПЛЯ́ТЫ, ЦЯПЛЯ́ТЫ) *мн.* Кураняты. Свяча Беш., Селішча, Вярэчча, Марчанкі, Лялеўшчына Гар., Мішкавічы, Ляжні, Далуева, Галі Шум., Ходцы, Алексінічы, Обаль, Полымя Сен., Антаполле Чаш., Жабыкі Дубр., Будаўка Талач., Паддуб'е, Суша Леп., Кішы, Абруб, Завараты Глыб., Камаі Паст., Крычава, Крукі, Павяцце Мёр., Слабодка, Богіна, Мар'янполле Брасл., Біцялёва Віц. *У гэ́тым го́дзе курацáп палаві́ну ціпля́т зьеў.* Града Сен., Навікі, Бунцікі Шум., Баброва Дубр., Кубелеўшчына Шарк., Чашні, Бараны Глыб., Манякова Мёр., Канева Сен., Лабачова Беш., Смальянцы Чаш., Сушына Пол., Ластавічы Глыб.

ЦЫПЛЯ́ТНІЦА (ЦЯПЛЯ́ТНІЦА) *ж.* Квактуха. Н. Саколіна Талач. *Цяпля́тніца склі́кала кураня́т да сябе́.* Лабачова Беш.

ЦЯ́ГЛАВЫ (КОНЬ) *м.* Кастрыраваны конь ва ўзросце трох год. Стараселле Леп.

ЦЯЖКАВО́З *м.* Здаровы моцны конь. *Кля́ча цягну́лася апо́шняй – воз для яе быў ця́жкі, цяжкаво́з з ім справіўся б хуччэ́й.* Малішы Сен.

ЦЯЛЁНАК *м.* Цяля гэтага года. *Падгаду́ю за ле́та цялёнка ды здам.* Антаполле, Сялец Чаш., Нямойта, Полымя, Обаль, Алексінічы Сен., Павяцце, Манякова Мёр., Мар'янполле Брасл.

ЦЯЛІ́ЦА *ж.* Цялушка. *Цялі́ца не́шта ня есь, пэ́уне, захварэ́ла.* Прамышляды Паст.

ЦЯЛУ´ТКА *ж.* Карова, якая першы раз цялілася. Каралевічы Сен.

ЦЯСЮ´ТКА *ж. ласк.* Карова. *Мі́лка, цясю́тка, хадзі́ сюды́.* Чарнаручча Лёзн.

ЧУБА´ТКА *ж.* Парода курэй. *Ку́ры ў нас усякія былі́, асаблі́ва бро́лерныя, але́ я любі́ла больш чуба́тку.* Н. Саколіна Талач.

ЧУ´ШКА *ж.* 1. Свіння. 2. Брудны чалавек. *Ідзі памы́йся, а то хо́дзіш, як чу́шка.* Слабодка Леп.

ЧЫПЛЯ´ТЫ *мн.* Кураняты. *Мая́ ку́рыца сёлета ра́зам з чыпля́тамі і гусяня́т во́дзіць.* Балдышы Пол.

ШКАПЕ´Ц *м.* Пакладаны баран, скапец. *Вы́ведзі на по́жню шкапца́.* Леснікі Глыб.

ШЧАНЁНАК *м.* Шчаня. *То́ма прінясла́ шчанёнка, пажы́ў у нас ён ма́ла. Глісты́ задаві́лі, пріішло́сь закапа́ць.* Селішча, Лялеўшчына Гар., Жабыкі, Пірагі Дубр., Суйкава Віц., Далуева, Галі Шум., Жалезкі, Свяча Беш., Багушэўск, Обаль, Полымя Сен., В. Дольцы Ушац., Павяцце, Камянполле, Манякова Мёр., Мар'янполле Брасл.

ШЧАНО´К (ШЧЫНО´К) *м.* Шчаня. Н. Пагост Мёр., Жалезкі Беш., Малішы Сен., Ляжні Шум. *Семяры́х ашчані́ла су́ка, ры́жсых семяры́х шчыня́т.* Бычыха Гар.

ЯГНЁНАК *м.* Ягня. *Ле́тась у на́шай аўцы́ быў ве́льмі спра́тненькі ягнёнак.* Суша Леп., Селішча, Бычыха, Вярэчча, Лялеўшчына Гар., Суйкава, Біцялёва Віц., Мішкавічы, Ляжні, Далуева Шум., Лабачова, Жарнасекава Беш., Нямойта, Малішы, Дубнякі, Обаль, Алексінічы Сен., Антаполле Чаш., Жабыкі Дубр., В. Дольцы Ушац., Муляры Паст., Свіла Глыб., Мар'янполле Брасл., Клясціцы Рас.

ЯГНЮ´К *м.* Ягня. *Скаці́на з по́ля як ідзе́ць, так упе́радзе ка́жды дзень ягнюкі́ ляту́ць.* Муляры Паст.

Я´РАЧКА *ж.* 1. Ягня. Бараны Глыб. Гарбачы, Жалезкі Беш. 2. Авечка, у якой яшчэ не было ягнят. *Аве́чкі ў мяне́ ўсе мало́дыя – я́рачкі.* Мар'янполле Брасл.

Я´РКА *ж.* Авечка. *я́рка акаці́лася.* Антаполле, Сялец Чаш. Параўн. *я́рка ж.* 'авечка'. Глядавічы Ст.-Дар.

ЯРУ´ШКА *ж.* Авечка. *Ко́жны гот хоць адну́ яру́шку с ста́да ды воўк уцягне.* Першамайка Гар.

*В. М. Емельяновіч*

# СІНОНІМЫ МАЎЛЕННЯ Ў ГАВОРКАХ БЕРАСЦЕЙШЧЫНЫ

Матэрыял, які разглядаецца ў артыкуле, сабраны аўтарам і студэнтамі Брэсцкага педінстытута пад кіраўніцтвам аўтара ў час дыялекталагічных практык, а таксама пры выкананні індывідуальных заданняў па курсавых, кантрольных і дыпломных працах у розных раёнах Брэсцкай вобласці (каля 1800 сінанімічных радоў).

Прынятыя скарачэнні назваў вёсак: Альм. – Альманы Столінскага; Бел. – Белінок Драгічынскага; Бяр. – Бярозаўка, В. Радв. – Вялікія Радванічы Брэсцкага; Вос. – Восаўцы Драгічынскага; Жам. – Жамайдзякі Івацэвіцкага; Зар. – Зарэчка, Заст. – Застаўе Драгічынскага; Крас. – Красіеўка Іванаўскага; Ліпск, Мысл. – Мыслабаж Ляхавіцкага; Паўт. – Паўтаранавічы Пінскага; Сінк. – Сінкевічы Лунінецкага; Сул. – Сулічава Драгічынскага; Таўцв. – Таўцвілы Пружанскага; Хаміч. – Хамічава Іванаўскага; Яж. – Яжоны Баранавіцкага раёнаў.

Мы маем на мэце паказаць сінанімічнае багацце гаворак Брэсцка-Пінскага Палесся, вобразна-выяўленчыя магчымасці сінонімаў, спецыфіку ўжывання тых ці іншых слоў у сінанімічным радзе, асаблівасці пабудовы сінанімічных радоў.

Значную колькасць у гаворках Берасцейшчыны складаюць абсалютныя сінонімы, або сінонімы-дублеты, якія абазначаюць адно і тое ж паняцце і не маюць сэнсавых і стылістычных адрозненняў.

Такія лексемы звычайна ўтвараюць простыя сінанімічныя рады, якія складаюцца:

1. З агульнаўжывальнага і дыялектнага слова: *покрыва́ло – ка́па, такы́й са́мый – одна́кый, тарі́лка – полу́мысок, тут – го́ндэ, чыгун – сага́н*. З двух агульнаўжывальных і дыялектнага: *дру́жка, ша́ферка – прыда́нка* (сяброўкі нявесты на вяселлі). *А за дру́жку кого́ хоч быры́, я ны бороню́. Ты в йийі́ ша́феркою, чы як? Пу́йдыш до мэ́нэ в прыда́нкы?* (В. Радв.).

2. З двух (часам трох) дыялектных слоў: *каплу́н, пота́пцы, рулі́* (страва, прыгатаваная з хлеба ў малацэ або вадзе). *Тыпэ́р*

*каплу́н йідя́ть рі́дко* (Бяр.). *Цётка зробі́ла дзе́цём на сьне́данне потáпцы* (Сінк.). *Ді́ты йі́лы рулі́* (Альм.)[1] .

3. З двух агульнаўжывальных: *лю́дэ, наро́д. У магазі́ні було́ тьма-тьму́шча людэ́й. Наро́д столпэ́вся коло двэрэ́й. Мужэ́к, чолові́к. Подождэ́, за́рэ за́йдэ по тыбэ́ мужэ́к. Мій чолові́к пушо́в по дро́ва* (Сул.).

4. З беларускага (агульнаўжывальнага або дыялектнага) і запазычанага, часцей за ўсё рускага, часам украінскага ці польскага слова: *ква́шылна – холоде́ц, чад – уга́р* (Хаміч.), *вясе́лле – сва́дзьба, за́баўка – ігру́шка, зазу́ля – куку́шка, злаві́ць – пайма́ць* (Жам.), *год – рік* (Сул.), *харо́шы – фа́йны, ядá – ядзэ́нне* (Мысл.).

5. З двух запазычаных: *веласіпе́д – ро́вар, вешчмяшо́к – рукза́к* (Жам.), *йірундá – чыпухá* (Крас.), *тітра́дь – кае́т* (Паўт.). Словы іншамоўнага паходжання ў гаворках не ўспрымаюцца як запазычаныя і падвяргаюцца фанетычнаму і граматычнаму асваенню. Блізказначныя словы ў пераважнай большасці ўтвараюць складаныя сінанімічныя рады і выконваюць ідэаграфічную або экспрэсіўна-стылістычную функцыю: *горі́ты* – гарэць наогул, *тлі́тэ* – гарэць памалу, *пыла́тэ* і *шуга́тэ* – вельмі моцна гарэць; *ітэ́* – увогуле рухацца ў адным напрамку, *плыстэ́ся* – рухацца марудна, з цяжкасцю, *чыса́тэ* – ісці хутка, *цо́ўгатыся* – дзесьці доўга хадзіць (Сул.). *Болі́ты* (*-тэ*) – увогуле балець; *садні́ты, шчымі́ты, ту́заты* – па-рознаму балець, у залежнасці ад таго, што баліць і з якой прычыны: *Так сэ́рцэ шчымы́ть, шчо ны могу́. Шчэй за́рэ колэ́-ныколэ́ ту́зае ногу* (Сул.). *Так ны́е рукá, спа́су нымá. Як дёргае, зна́чыть, бу́дэ нарыва́ты, тя́жко пры́дыцця. І но́гы, і ру́кы ло́мыть, му́сыть, на дошч* (В. Радв.). *Чуть па́лэць пурі́зала, а садны́ть, ны дай Бог* (Бяр.). *Як вы́йду го́ла, быз пальта́, так на дру́гый дэнь в боку́ болы́ть* (Паўт.). *Воло́ссе* – проста валасы; *космачі́, ку́длы, па́смы, па́тлы, пэ́йсы* – зневаж. Доўгія непрычасаныя валасы. *Космачі́ мні твоі́ ны наравляца. Роспусты́ла своі́ па́смы, шчо й сві́та бі́лого ны ба́чыш* (Хаміч). *Рошчу́хай своі́ ку́длы, а то га́дко дывы́тыся. Такыі па́тлы одгодовав, хоч бы обрі́зав пэ́йсы, а то тырча́ть, шо соло́ма ныззгрэ́бана* (В.Радв.); *грыва, чупры́на, ку́чма* – пышныя, таксама не дагледжаныя валасы. *Ну й гры́ва,*

---

[1] Прыклады адлюстроўваюць асаблівасці розных груп гаворак, таму так адрозніваюцца фанетычна.

*шо в коня́. Як потягну́ за чупры́ну, тоді́ бу́дэш зна́ты. Як ті́лько пові́е ві́тёр, всё воло́ссе стано́выцця ку́чмою* (В. Радв.).

Ідэяграфічныя сінонімы адрозніваюцца паміж сабою асобнымі адценнямі значэння слова і часта з'яўляюцца сродкам дэталізацыі, выдзялення тых ці іншых прыкмет пэўных паняццяў. Так, у сінанімічным радзе *абы́-як, як-ныбу́дь, ныдба́йно, насмі́х, тяп-ляп,* ◆*чы́рыз пэнь-коло́ду* (Паўт.) выражаецца паступовае нарастанне ступені абыякавасці. У сінанімічным радзе *слабы́, аслабе́лы, някрэ́пкі, няду́жы, знямо́глы, надарва́ны* (Мысл.) кожнае слова паказвае нарастанне ступені праяўлення фізічнай слабасці чалавека. Сінонімы *быда́, го́рэ, ныщча́сте, лыхо́е, нядо́ля, зло, напа́сть, удар,* ◆*лыхы́й час, чо́рный дэнь* кожны па-сво́йму падкрэсліваюць, выдзяляюць характар бяды: *Быда́, хоч му́чыть, алэ́ жыты у́чыть. Го́рэ прыхо́дыть ны пыта́ючыся. Одын друго́го доводять до лыхо́го (В. Радв.). Хто пошкоду́е ў ныщча́сті? Ун ужэ жжы́вса з ныдо́лею свэ́ю. Гэ́той чоловіек мо́жэ наробы́ты вылы́кого зла. Ку́лько такі́х уда́рув она́ пырынысла́! Так мы й пырыжсылы́ лыхы́й час. Шчэ молоды́й, а вжэ хава́е грошы на чо́рный дэнь* (Паўт.).

Сэнсавыя адрозненні сінонімаў-дзеясловаў могуць заключацца ў выражэнні ступені інтэнсіўнасці дзеяння (*бі́гаты, го́йсаты, лэ́таты, носы́тысь, гоны́тысь* – Бел.; *сачы́ць віжава́ць,* ◆*не спуска́ць вачэ́й, хадзі́ць па пя́тах* – Таўцв.), працягласці ў часе, абставінах працякання дзеяння (*пропа́сты, запропасты́тыся, поді́тыся, згы́нуты,* ◆*ек в зэ́млю провалы́тыся, ек в во́ду ка́нуты* – Вос.).

Словы ў сінанімічным радзе могуць звужаць семантыку (*схо́вішча, склеп, по́граб* – Мысл.; *вылкы́, сохорі́, трояны́* – Вос.), пашыраць яе (*адва́га – рашу́часць, сме́ласць, му́жнасць, геро́йства* – Ліпск), набываць адценні канкрэтнасці (*да́ты – одда́ты*) ці абстрактнасці (*говоры́ты – каза́ты*).

Стылістычныя сінонімы маюць яскравую стылістычную афарбоўку і нясуць эмацыянальна-экспрэсіўную нагрузку:

Голова, башка, мозговня, чыкуха. *Башко́ю ду́май, раз на плыча́х но́сыш. А мозговня́ тобі́ нашо́ – ду́маты чы пэ́йсы носы́ты? Ну шо за чыку́ха в тыбэ́, нычого ны по́мніт* (Крас.). Вочы, бельмы, лупы, зенкы. *Мала́я вы́тырла кулачко́м запла́каныі о́чы. Чы ты ба́чыш сві́мы п'я́нымы бе́льмамы, якый ты е? Открый сві́ лу́пы да подывы́са, шчо ты наробы́в. Чого́ вы́рачыв зе́нкы? Робы́ своё ді́ло* (Паўт.).

У стылістычных сінонімах выражаюцца знявага, асуджэнне, абурэнне, агіда, даюцца іншыя негатыўныя ацэнкі пэўных з'яў, асоб, прадметаў, дзеянняў. Пазітыўная ацэнка даецца рэдка. Сінанімічныя рады часцей за ўсё складаюцца са стылістычна нейтральных і прастамоўных або нават лаянкавых слоў.

Цікава, што сярод назоўнікаў стылістычныя сінонімы ў асноўным словы з канкрэтным значэннем (*ліцо́, лы́чэнько, мо́рда, ря́ха; жыво́т, пу́зо, трыбу́х, чэ́рыво; прыгожу́ня, хорошу́ха, кра́ля; коло́мазь, шмаровы́дло* (Вос.), а семантычныя – словы як з канкрэтным, так і з абстрактным значэннем (*кана́ва, рів, траншэ́я, бало́ра; кій, па́лка, ку́льба; віз, подво́да, фурма́нка* – канкр.; *козьба́, косовы́ця, сіноко́с; ко́лер, цвет, масть; кло́пот, моро́ка, возня́* – абстр. (Вос.).

Прыметнікам і прыслоўям больш уласціва семантычная або семантыка-стылістычная сінаніміка (*послу́шный, послу́жлывый, бызотка́зный; впыр́ід, ран́ій,* ◆ *в пэ́рву о́чырыдь* – семант., *ке́пській, ныкуды́шній, паршы́вый,* ◆ *чорт відь шо; бызпла́тно, да́рма, зада́ром, за так, за гэ* – семант.-стыл.).

Дзеяслоўныя рады (яны самыя доўгія), як правіла, уключаюць у сябе як ідэяграфічныя, так і стылістычныя сінонімы: *жан́іцца, ачалаве́чыцца,* ◆ *узя́ць у жо́нкі, паве́сіць ярмо́ на шы́ю* (Ліпск); *уда́рыць, сту́кнуць, пля́снуць, ля́снуць, сцебану́ць, гру́кнуць, ба́цнуць, жа́рнуць, смальнуць, змя́зацъ, уляп́іць, урэ́зацъ, агрэ́ць, св́існуць, садану́ць, пацягну́ць, перацягну́ць, хлыстану́ць* (пугаю, кнутом), *шлёпнуць, шмаргану́ць, джыгану́ць, аплявушыць* – Яж.; *упа́сці, звал́іцца, вываліцца, паляце́ць, разну́цца, гры́мнуцца,* ◆ *зары́ць но́сам* – Таўцв.; *спыва́ты, вышче́ты* (спяваць пісклява), *высп́івуваты, подсп́івуваты, дава́ты пе́сні* (многа спяваць); *гру́каты, грукот́іты, тарахт́іты, бо́хаты, го́паты, ло́паты* (моцна стукаць), *бараба́ныты* (стукаць у акно) – Вос.

Сінонімы не ў аднолькавай ступені ўласцівы розным тэматычным групам дыялектнай лексікі. Самая багатая сінаніміка сярод назваў розных бытавых дзеянняў, назваў прадметаў хатняга ўжытку, адзення і абутку, ежы і страў, назваў частак цела чалавека.

Сінанімія цесна звязана з мнагазначнасцю і аманіміяй, таму некаторыя лексемы ўваходзяць у розныя сінанімічныя рады. Адны з іх супадаюць з дамінантай ва ўсіх значэннях, іншыя – толькі ў адным. Так, у гаворцы в. Красіеўка Іванаўскага раёна

здоро́вый – гэта, па-першае, ’не хворы’, па-другое, ’высокі’ і, па-трэцяе, ’моцны, які доўга не рвецца’ (пра адзенне, тканіну, абутак): *Здоровый мужчына, як дуб. О, якій муй Вася здоровый, більшый за батька. Здоровый каптан, міцный, зносу ныма.* Сінанімічныя рады: *Здоровый, як дуб, і смэрть ны бырэ, і чорт ны бырэ. Вылыкій, рослый, высокій, здоровый,* ◆ *до нэба, як жырдына. Міцный,* ◆ *зносу ныма, здоровый, як камынь.*

Лексема вярнуць у гаворцы в. Мыслабаж Ляхавіцкага раёна з’яўляецца сінонімам да слоў: аддаць (*Вярні мне кнігу*), вініць (*Ве́рнеш з здаро́вай галаві на хво́рую*), збочваць з дарогі (*Не туды ве́рнеш, трэба лявей*).

У сінанімічныя адносіны часта ўступаюць словы, якія ў літаратурнай мове з’яўляюцца семантычна далёкімі:

Істы – возы́ты. *Мыні во́льмы хо́чыцця ісmы. Подывы́сь, як вона́ во́зыть – гэто-то апітіт!* (Вос.).

Прыго́жы, я́ркі – пазо́рны. *Касцюм твой, Люда, надто ж пазорны, аж вочы рэжа* (Таўцв.). Прыметнік *пазорны*, думаецца, утвораны ад старажытнага агульнаславянскага пазор ’від, увага’. З такім значэннем лексема *пазор* ужываецца і зараз у многіх славянскіх мовах: балг. *позор*, сербскахарв. *позор* ’увага’, польск. *pozor* ’від, знешнасць’, чэшск. *pozor* ’увага’[2] (чэшск. *byt středem pozori* ’быць цэнтрам увагі’ )[3] .

У сінанімічныя рады часта ўваходзяць устойлівыя словазлучэнні – фразеалагізмы. Па семантыцы яны эквівалентны словам, але заўсёды маюць выразную сэнсавую і стылістычную афарбоўку. Так, у гаворцы в. Сулічава Драгічынскага раёна сінонімамі да дзеяслова *крыче́ты* (крычаць) выступаюць ◆ *дэ́рты го́рло, захо́дытыся крэ́ком (Чого ты дэрэ́ш го́рло? Нэ вспіла в ха́ту войтэ́, а вжэ захо́дыця крэ́ком)*, да дзеяслова *насварэ́тыся* – ◆ *да́тэ прыкурэ́тэ, выпысатэ до́брых ганёлыкув (Тобі, му́сыть, твоя дала́ прыкурэ́тэ. Більш ныко́лэ нэ бу́ду сама́ бра́тэ, бо знов выпышыть ма́ма до́брых ганёлыкув)*.

У в. Восаўцы ў сінанімічны рад *муж, мужык, чоловік* уваходзіць фразема *дру́га половы́на: Пойду́, бо вдо́ма дру́га половы́на ждэ.*

Фразеалагізмы ўступаюць у сінанімічныя збліжэнні як з асобнымі словамі, так і паміж сабой: *за світом – за гора́мы*

[2] *М. Фасмер.* Этимологический словарь русского языка: в 4-х т. Т. 3. М.

[3] Česko-ruský slovník. Praha, 1958.

(Паўт.), *пойты́ на той світ – пойты́ в хвоі́ну* (Вос.), *пойты́ в хвошчы́ны* (Заст.), *до Нэ́ныка пуйты́* (Зар.).

Такім чынам, сінанімічныя сістэмы літаратурнай мовы і народных гаворак маюць многа агульнага, аднак у дыялектнай мове (гэта відаць з разгледжанага матэрыялу) ёсць спецыфічныя рысы, якія патрабуюць увагі лінгвістаў.

*М. Н. Крыўко*

## З РЫБАЛОЎНАЙ ЛЕКСІКІ МЁРШЧЫНЫ

У апошні час значна актывізавалася вывучэнне розных тэрміналагічных пластоў беларускай дыялектнай лексікі, у тым ліку і рыбалоўнай тэрміналогіі.

Неабходна назваць наступныя працы беларускіх дыялектолагаў, прысвечаныя лексіцы рыбалоўнага промыслу Беларусі, апублікаваныя ў апошнія 30 гадоў: артыкулы А. А. Крывіцкага – «Из словаря полесских рыболовов» (Полесье, М., 1968, с. 162–174) і «Тыпы і ўжыванне назваў рыбы ў адной гаворцы Палесся» (Беларускае і славянскае мовазнаўства. Да 75-годдзя акадэміка АН БССР Кандрата Кандратавіча Крапівы. Мн., 1972. С. 197–207), артыкул І. Я. Яшкіна «Семантыка назваў рыбалоўства ў гаворках пяшчанцаў Слаўгарадскага раёна» (З жыцця роднага слова. Мн., 1968. С. 119–132), артыкул Т. Р. Белайчук «З лексікі нараўлянскіх рыбакоў» (З народнага слоўніка, Мн., 1975. С. 226–230), артыкул А. Я. Баханькова «З рыбалоўнай лексікі Полаччыны» (Там жа. С. 218–223), артыкул П. П. Яворскага «З лексікі рыбаловаў Мазыршчыны» (Беларуская мова. Вып. 7. Мн., 1980. С. 70–76), а таксама кнігу І. М. Браіма «Рыбалоўства ў Беларусі. Гісторыка-этнаграфічны нарыс» (Мн., 1976), у якой побач з характарыстыкай этнаграфічных асаблівасцей рыбалоўных прылад падаюцца і намінацыі іх на розных водных беларускіх басейнах.

Багаты сваімі воднымі геаграфічнымі аб’ектамі і Мёрскі край. Дастаткова назваць толькі найбольш значныя вадаёмы раёна, каб у гэтым упэўніцца. Найбольшымі азёрамі раёна з’яўляюцца – Абстэрна, Ельня, Набіста, Важа, Орцы, Мёрскае і рэкі – Заходняя Дзвіна з Волтай, Вятай, Мёрыцай і яе прыток

Дзісна з Авутай і Яльнянкай. Гэта і абумовіла аўтара заняцца зборам і аналізам рыбалоўнай лексікі раёна. Дадзены артыкул з'явіўся вынікам дыялекталагічных камандзіровак і ўласных паездак аўтара ў вёскі раёна, размешчаныя ў асноўным каля вадаёмаў – Камянполле, Перабродздзе, Янова Перабродскага сельсавета, Ясёва Даўгінаўскага сельсавета, Новае Сяло Павяцкага сельсавета, Туркова, Цімошкава Туркоўскага сельсавета, Канцэрава Язненскага сельсавета, Булахава, Восцевічы, Мазурына, Манякова Завуццеўскага сельсавета. Матэрыял запісваўся ад людзей, якія добра ведаюць мясцовую рыбалоўную лексіку – ад членаў рыбалавецкіх арцелей, вопытных рыбаловаў-аматараў, пажылых людзей.

Тут падаецца 160 лексічных адзінак – народных назваў рыбалоўных прылад і прыстасаванняў, працэсаў і дзеянняў, звязаных з ловам рыбы, яе апрацоўкай, дзеянняў рыбы пры яе нерасце і ў час лову рыбакамі, мясцовых намінацый рыбы.

АБЛІТНЯ´ *ж.* Кручковая снасць з пласцінчатай блясной, вылітай са свінцу, прымацаваная разам з кручком на лёсцы да невялікага вудзільна. *Аблітню ў ваду і жджэш, калі рыбіна абманецца і пападзецца.* Манякова. *На акуня нада аблітня, падругому – дарожка.* Перабродздзе.

АБРУ´Ч, - á *м.* Яловы або арэхавы абадок, на які нацягваецца палатно ў мярожах, венцерах і інш. *Абруч – у жакý, у мярожы.* Перабродздзе.

АКУ´НЬ, -я́ *н.* Акунь. *Во які акунь здаровы, гэткага аднаго хваціць пад'есці. Янова. Акунёў многа ў нашых азірах.* Н. Сяло. *Во акуні – як пірагі.* Туркова.

БА´БА *ж.* Вялікая драўляная бабіна (звычайна гэта дзежка), прымацаваная да саней, пры дапамозе якой накручаным на яе канатам уручную прыводзілі ў рух невад. *Баба – дзежка з дасок, пастáўліна на санкі. Абкручывалі канатам, круцілі ўручную. Цяпер невад цягнуць маторамі.* Янова.

БАЛТА´ЦЬ *незак.* Боўтаць ваду боўткай (болткай), заганяючы ёй рыбу ў сетку. *Болткай балтаіш ваду, б'еш па вадзе, заганяіш рыбу ў сеткі.* Перабродздзе.

БЕ´ЛАЯ РЫ´БА. Умоўная назва разнавіднасці рыбы, да якой адносяць плотку, гусцяру, ляшча і некаторых іншых рыб.

*На вяління гадзіцца белая рыба: плотка, гусціра і інш.* Пераброддзе.

БЛІТНЯ′ *ж.* Тое, што *аблітня. І блітнёй ловіш у вазярэ.* Н. Сяло.

БЛІТНЯВА′ЦЬ (БЛІТНІВА′ЦЬ) *незак.* Лавіць рыбу блітнёй. *Вы на возіры блітнівалі, мальцы?* Н. Сяло.

БО′ЛТКА *ж.* Выструганая палка з тоўстым наканечнікам, якой заганяюць рыбу ў сетку. *Рыбу заганялі ў сетку болткай.* Пераброддзе. *Болткый болтаіш і гоніш рыбу ў снасць, болі ў сетку.* Н. Сяло.

БО′ЎТАЦЬ *незак.* Тое, што і балтаць. *Пойдзім рыбу боўтаць.* Восцевічы.

БО′ЎТКА *ж.* Тое, што і болтка. *Боўтка такая з таўстым канцом. Ваду боўтаюць, рыбу гонюць.* Канцэрава.

БРАДЗІ′ЦЬ *незак.* Хадзіць па вадзе і боўтаць яе боўткай (болткай), пужаючы, гонячы такім чынам рыбу ў сетку. *Некалі, як я быў малады, мы брадзілі, рыба йшла, а яе сеткай запіналі.* Янова.

БРА′ЦЦА *незак.* Зачэпліваацца за кручок. *Сягоння ні тая пагода, кап рыба бралася.* Мазурына.

БРО′ДЗЕНЬ, -адня́ *м.* Браднік. *Бродзінь мой парваўшысі саўсём.* Янова. *Наш Мішка ўсё браднём лавіў.* Н. Сяло. Туркова.

БУЛДОЎКА *ж.* Тоўсты наканечнік на прыладзе, якой заганяюць рыбу ў сетку. *Булдоўка была надзета на канец болткі. Рыбу заганялі гэтый болткай.* Пераброддзе.

БУЧ, -а́ *м.* Лавушка для рыбы, ракаў з лазы конусападобнай формы, якая ставіцца ў канавы. *Буч у канаву ставюць. У буч шчука йдзець, плотка. Ракуў бучамі лавілі. Можна й браднём. Буч на рака здзелана з лучыны.* Пераброддзе. *Бучы ў канавы стаўлялі.* Н. Сяло. *Ёсць бучы і ёсць бучкі.* Туркова.

БУЧО′К, -чка́ *м.* Разнавіднасць буча. *Бучок меншы за буч і трошку ні такі, як буч.* Туркова.

ВАЛ *м.* Хвалі на возеры, рацэ. *Сягоння бальшы вал на возеры, лавіць нам цяжка будзіць.* Пераброддзе. *Як вал, рыба лоўка клюець.* Янова.

ВЕ′НЦЕР (ВЕ′НЦІР) *м.* Рыбалоўная прылада – конусападобная сетка на абручах з двума крыламі і двума горламі для

лоўлі рыбы ў канавах і невялікіх рэках. *Венцір заставілі ў канаві.* Пераброддзе.

ВІ́ЛАЧКІ *мн.* Частка снасці кузюрка. *У кузюрцы ёсць вілачкі і шнур.* Пераброддзе.

ВО́КА *н.*, ВО́ЧЫ *мн.* Адтуліна, прасвет паміж спляченнем нітак у рыбалоўнай сетцы. *Бальшую рыбу лавілі мярожай з бальшымі вачамі.* Мазурына.

ВО́СЦІ *мн.* Рыбалоўчая прылада ў форме віл з доўгім цаўём, якой колюць рыбу, калі яна ідзе на нераст. *Васцямі рыбу коліш, як іна йдзець на нераст.* Прераброддзе. *Восці з даўгім-даўгім цаўём.* Туркова.

ВОЎК, ваўка́ (вуўка́) *м.* Назва нейкай рыбы з вусамі (не сама). *Ваўкі вусатыі такіі, вусатая рыба.* Ясёва.

ВУ́ДА *ж.* Вуда. *Тумашу які клопат – вуды на плечы ды пашоў да Язніцы ці да Дзвіны. Нож тупы як вуда.* Манякова.

ВУДАЎЁ *н.*, ВУДО́ЎІ *мн.* Вудзільна. *Адно мае вудаўё храпнала.* Манякова. *Пад страхой усе мае вудоўі.* Бухалава.

ВУДА́Ч, -á *м.* Рыбалоў з вудай. *Пэўні ш вудач ня зловіць столькі, сколькі сеткый, крыгый ці ішчэ чым.* Янова.

ВУ́ДАЧКА *ж.* Вуда, вудачка. *Болі вудачка кажуць, а ня вуда.* Пераброддзе. *Вядома ш, многа вудачкый ні наловіш.* Туркова.

ВЫ́ЕЗД (ВЫ́ІЗД) *м.*, ВЫ́ЕЗДЫ (ВЫ́ІЗДЫ) *мн.* Адна з дзвюх доўгіх вяровак невада для прывядзення яго ў рух і падцягвання да берага. *Выізды застуўляюць невад цягнуцца, плыць.* Пераброддзе. *За выізд дзіржацца і цягнуць невад да бірага.* Манякова.

ГАЛАВЕ́НЬ, -лаўня́ *м.* Галавень. *Сягоння мы болі галаўнёў улавіўшы.* Туркова. *Галаўні – чорная рыба, у Гарэлым балоці іх некалі аж кішэла.* Манякова.

ГО́РЛА *н.* Уваходняя частка буча, жака, мярэжы, нерата. *Буч у канаву ставюць. Горла ў яго такоя ўдзелана.* Пераброддзе.

ГУЛЯ́ЦЬ *незак.* Гучна плёхаць, выскокваць з вады (пра рыбу). *Пагода лоўкая, відзіш, як рыба сягоння гуляіць.* Бухалава.

ГУСЦЁРКА *ж.* Рыба сямейства карпавых, падобная на ляшча. *Гусцёрка на лішча пахожа.* Пераброддзе.

ГУСЦЯРА́ (ГУСЦІРА́) *ж. зб.* Гусцёркі. *У гусцяры касцей многа. На вялі́ння болі гадзіцца белая рыба: плотка, гусціра, лешч.* Перабродdзе. *Па азірах гусціры многа.* Янова.

ДАРО́ЖКА *ж.* Тое, што аблітня. *На акуня аблітня, падругому – дарожка.* Перабродdзе.

ДО́НКА *ж.* Вуда для лоўлі рыбы са дна вадаёма. *Маладыя цяпер на донку ловюць рыбу і нічога прыносюць.* Туркова.

ДРАБІ́НА *ж.* Крыло ў нераце, мярэжы. *Ставюць драбіны ў відзі крыль. Между драбінамі ўкрапляецца нарот. І ў нараце драбіны і ў мярожы.* Перабродdзе.

ДРА́КА *ж.* Прыстасаванне, падобнае на аблітню ў выглядзе бліскучай металічнай пласцінкі з укляпанымі ў канцы звычайна двума кручкамі і прывязаным да другога канца шнурам. *Ёсь такая драка, тады задрачываюць шнуры і цягуць, пападалі мінтузы.* Восцевічы.

ДУБІ́НА *ж.* Лодка, выдзеўбаная з асіны, дубу ці іншай пароды дрэў. *Я ўсё, бувала, любіў рыбу лавіць некалі, як быў маладый, з дубіны; заплывеш на сярэдзіну Дзісенкі і ловіш.* Восцевічы. *С асіны большынство робілі дубіны.* Манякова.

ДУБІ́ЦА *ж.* Тое, што і дубіна. *Дубіца – лодка, прамоя карыта. Паддзеланы дзве даскі з бакоў, як крыжы.* Перабродdзе. *Дубіца – карыта выдзёўбывалася такоя з таўстога браўна, з асіны іх робілі.* Камянполле.

ЕЗ *м.* Плеценая перагародка папярок ракі для затрымання і лоўлі рыбы. *Цірaз раку робілі ез.* Манякова. *Ез плялі з лазы, як лесвіцы.* Перабродdзе. *Робілі такую загароду, ез звалася. Тады нараты там ставілі.* Камянполле.

ЁРШ, яршá (іршá) *м.* Ёрш. *Ёрш дужа калючы; яго і ёрш завуць, і яжгур.* Перабродdзе. *Вы яршоў, гляджу, улавіўшы многа.* Туркова.

ЖАК, -á *м.* Тое, што венцер. *Жак і венцір – адно і тожа.* Перабродdзе. *Жакі па канавах ставілі, як на нораст ідзець шчука.* Янова. *Рыба з ракі ці возера выходзіць на нораст, тут жак паставіш дзе-небуць у канавіні якой, іна й пападаіцца ў яго.* Н. Сяло. Туркова, Цімошкава. *Жак робіцца з нітак, шпігату, а буч з лазы.* Манякова.

ЖЫВЕ́Ц, -ўцá *м.* Прылада для рыбы. *Нажыўляюць жыўцамі матыркі і ставяць на мінтузоў.* Камянполле.

ЖЫ´ЛКА *ж.* Лёска. *Добрая дзела, гэткая рыбіна, хацеў бы б ты, каб жылка ні парвалася.* Туркова.

ЖЭ´РАХ *м.* Драпежная рачная рыба, падобная на ляшча. *Жэрах пахош на лішча, болі шырокі, і таўсцейшы, і даўжэйшы. Жэрах – болі рачная рыба.* Цімошкава.

ЗАГАНЯ´ЛА *н.* Тое, што *болтка. Заганялам заганялі рыбу ў сетку.* Ясёва.

ЗАГАНЯ´ЛКА *ж.* Тое, што *болтка. Заганялка была такая заганяць рыбу ў сетку.* Даўгінава. *Заганялкай болтаіш ваду і заганяіш рыбу ў снасць.* Ясёва.

ЗАДРА´ЧЫЦЬ *зак.*, ЗАДРА´ЧЫВАЦЬ *незак.:* задра́чыць (задра́чываць) шнуры́ – ставіць, размяшчаць на вадаёме шнуры (гл. шнур у 1 знач.). *Шнуры здрачуць, на іх пападаіць болі драпежная рыба: шчупакі, мінтузы, самы.* Манякова. *Ёсць такая драка, тады задрачываюць шнуры і цягнуць, пападалі мінтузы.* Восцевічы.

ЗАПЯ´ЦЬ *зак.*, ЗАПІНА´ЦЬ *незак.* Ахапіць сеткай участак вадаёма, дзе можа быць рыба. *Сеткый запнеш места, рыбы наберыцца, а тады цягнуць.* Янова. *Брадзілі, сеткый запіналі рыбныя мясты.* Камянполле.

ЗАСТА´ВІЦЬ *зак.*, ЗАСТАЎЛЯ´ЦЬ (ЗАСТУЎЛЯЦЬ) *незак.:* заставіць (застаўля́ць) шнуры́ – тое, што задрачыць (задрачываць) шнуры. *Заставюць шнуры, ждуць і на іх рыбіна чапаіцца.* Пераброддзе. *Будзім заступляць шнуры.* Н. Сяло.

ІКРА´ *ж.* Ікра. *Ікры цяперака поўна ў рыбы: нарастуіць.* Манякова.

ІКРА´НКА *ж.* Самка рыбы ў перыяд нерасту. *Злавіў ікранку.* Мазурына.

КАЗА´ *ж.* Свяцільнік – драцяная або шынная сетка ў форме чарпака ці вядзерца, якая ўстанаўлівалася на носе лодкі з крыніцай асвятлення ўсярэдзіне, пры дапамозе якой лавілі рыбу з лодкі ў начны час. *Казой свяцілі ў лодцы.* Пераброддзе. *Казой свяцілі: смалякі з лесу запалівалі, у жалеза ўсаджывалі.* Янова.

КАРА´НКА *ж.* Самаробны паплавок з тоўстай кары (звычайна сасновай) для вуды, сеткі. *Каранак быў сам наробіўшы на вуды.* Манякова.

КАРА´СЬ, -я́ *м.* Карась. *Карасі ў сажалках болі.* Пераброддзе. *Карасёў кошыкамі ловім.* Манякова. *Карасі ёсць рудыі, красныі, белыі, а ў тарфяных выгарках і чарнаватыі.* Н. Сяло.

КАРМА´ *ж.* Сярэдняя частка невада ў выглядзе вузкага мяшка, куды трапляе рыба, а таксама сярэдняя частка венцера, ці жака. *Болткый рыбу ў сетку заганялі, у невад тожа, кап рыба йшла ў карму.* Н. Сяло. *У жаку – крылы, карма, хвост.* Манякова.

КАРП *м.* Карп. *Карп у нас водзіцца.* Ясёва. *Карп – прыгожая рыбіна, бліскучая.* Н. Сяло.

КА´РПА *м.* Тое, што *карп. Уго, якога ты карпу ўлавіў.* Янова.

КЛЁЎ *м.* Хапанне прылады, насадкі. *У дож добрый клёў далжон быць.* Цімошкава.

КЛЯВА´ЦЬ (КЛЮВА´ЦЬ) *незак.* Хапаць прыладу, насадку на вудачцы. *Рыба сягоння ня хочыць клюваць.* Манякова.

КРАСНАПЁРКА *ж.* Чырванапёрка. *Краснапёрка пёры красныі маіць.* Камянполле. *Краснапёрка добра клюець пірад дожджам.* Н. Сяло. *Плотка і краснапёрка – тоя самая.* Туркова.

КРАСНЁХА *ж.* Тое, што краснапёрка. *Краснёха водзіцца ў нашых азірах з краснымі пёрамі.* Пераброддзе.

КРУМЕ´ЛЬ, -мяля́ (-міля́) *м.* Пячкур. *Крумялі – малінькіі, шэрынькіі, падхадзяшчы пад ірша, толька ні калючыі.* Пераброддзе.

КРУЧО´К, -чка́ *м.* Кручок на рыбалоўнай снасці. *Чапляй малы кручок да гэтый вуды.* Манякова.

КРЫ´ГА *ж.* Ручная лавушка рыбы з сеткі, нацягнутай паміж двума палазамі. *Удвух крыгай ловюць. Палазом жмець-жмець і ловюць і злаўліваюць.* Пераброддзе. Н. Сяло. *Мы уперат усё крыгай лавілі.* Туркова.

КРЫЖО´ЎКА *ж.* Ручная прылада для лоўлі рыбы з берага – квадратная сетка, прымацаваная да канцоў дзвюх дуг, звязаных крыж-накрыж і злучаных з доўгай ручкай. *Крыжоўкай ловіць адзін, па бірагу ідзець і цягніць за ручку, прыціскаючы ўніз.* Мазурына.

КРЫЛО´ *н.* 1. Кожная з дзвюх бакавых частак сеткі, невада, размешчаных з абодвух бакоў кармы. *Адно крыло недзіка за лазіну зачапілася.* Пераброддзе. 2. Кожная з дзвюх бакавых частак венцера, або жака. *У жаку два крылы, кармы хвост; ён надзяецца на адзін кол і два калы паабапал.* Манякова.

КУЗЮ́РКА *ж.* Від кручковай снасці – з вілачкамі на адным канцы шнура і з трыма вялікімі з другога канца. *На кузюрку нажыўляіш плотачку і ставім на шчупука.* Пераброддзе.

КУ́КЛА *ж.* Скрутак сеткавага палатна. *Сто підзісят мэтруў скручанай сеткі – кукла. Дзве куклы выпісуў.* Пераброддзе.

КУЛЁК, -лька́ *м.* Задняя, аддзеленая горлам частка мярожы, венцера, наратка, куды трапляе рыба. *Рыбіна, скажым, пападзець у жак, заб'еуца у кулёк і стаіць, ужо й ня выдзіць нікуды.* Манякова.

КУРМЕ́ЛЬ, -мяля́ (-міля́) *м.* Тое, што крумель. *Курмялёў з рэчачкі націўгаў.* Ясёва. *Курмель – малая рыбка.* Н. Сяло. Туркова.

ЛАВІ́ЦЬ *незак.* Лавіць, здабываць рыбу пры дапамозе спецыяльных прыстасаванняў (вуды, крыгі, сака і г. д.). *Я ўжо мала лаўлю, стары стаў.* Бухалава.

ЛАПА́ТКА *ж.* Выструганая драўляная лапатачка, пры дапамозе якой вяжуць рыбалоўныя сеткі. *Цэўкый і лапаткый візалі сеткі.* Пераброддзе.

ЛЕШЧ, ляшча́ (лішча́) *м.* Лешч. *Лішча густа ў Обстарні. Лешч ня йдзець у канаву. Ён болі нарастуіць па трасніках. У маі ідзець на нараст.* Пераброддзе. *Мой унучак з пару ляшчоў злавіўшы.* Янова. Н. Сяло, Туркова.

ЛЁСКА *ж.* Тое, што жылка. *Купіў лёскі на вуды.* Манякова.

ЛІН, -а́ *м.* Лінь. *Ліна многа ёсць у возіры.* Пераброддзе. *У ліна пёры крыглыі, сам таўсты.* Янова. *Ліноў налавіць – гэта дзела.* Н. Сяло.

ЛУКА́ *ж.* Невялікі вузкі заліў у возеры. *Лука ў возеры – гэта заварот, за востраў заходзіць; у нас вун завуцца Маляўская лука, Дзедзінская лука. У луку заедзіш на лодцы і ловіш там.* Пераброддзе.

ЛУСКА́ *ж.* Луска. *У місу луску чысці.* Пераброддзе.

ЛЯПЕ́ШНІ *мн.* Клюшні. *Мы лавілі ракуў у Гоўчыцы. Ляпешні ў іх такіі сухіі; мы іх зовім сухалапыі ракі.* Янова.

МАЛАКО́ *м.* Семявая вадкасць, семявыя залозы рыб. *Рас малако – малочнік, самец.* Пераброддзе.

МАЛО́ЧНІК *м.* Самец рыбы ў перыяд нерасту. *Гэтат шчупак – малочнік.* Манякова. *Іжгуроў налавілі, болі малочнікі.* Пераброддзе.

МАЛЬГА´ *м. зб.* Малькі. *Многа мальгі цяпер у возіры.* Перабродздзе. *Халера, бальшая рыба пажыраіць многа мальгі.* Н. Сяло.

МАТО´К, -тка́ *м.* Нізка рыбы (на шнурку, лазінцы і г.д.). *Маток рыбы налавіў на вудачку.* Перабродздзе.

МАТУ´ХА *ж.* Тое, што *маток. Во якую матуху рыбы Коля цягніць з Язніцы.* Манякова.

МАТЫ´РКА *ж.* 1. Доўгі шнур з кручком на канцы і нажыўленай рыбінкай, які апускаецца на дно вадаёма для прынады рыбы, што знаходзіцца больш на дне. *Матырка аш на дно апускаіцца. На кручок нажыўляіцца рыбіна, плотачку болі нажыўлялі. Шнур даводзюць аш на дно.* Перабродздзе. *Ставюць матыркі на мінтузоў.* Янова. *Матырка? На шнур нажывюць белый рыбы і апускаюць летам у раку. Гэта матырка.* Н. Сяло. *У матырцы такіі часці: жылка-міліметроўка, трайнік, вяроўка, палена-паплавок, зноў вяроўка. Нажыўляіцца трайнік мелкай рыбый, курынымі кішкамі, курыным мясам. Бярэцца на матырку сом, шчука.* Туркова. 2. Шнурок з драўлянай палачкай на адным канцы і драцяным стрыжнем на другім для нанізвання злоўленай рыбы. *Матырку ж сваю ні забудзься ў рыбу ўзяць, а то не нашта будзіць табе рыбу налоўлінуную чапаць.* Манякова.

МЕХ, мяха́ (міха́) *м.* Выгін, заварот палатна, што ўтварае рыба ў трохсценнай сетцы і ў якім заблытваецца. Мазурына, Манякова. Цімошкава.

МЯНТУ´З, ментуза́ (мінтуза́) *м.* Мянтуз. *Мінтуза мальцы ўлавіўшы.* Перабродздзе. *Скока рас я мінтузоў лавіўшы.* Янова. *Мінтузы – такіі ў плямах, даўгіі.* Н. Сяло. *Мінтузоў можна ў ручуях налавіць.* Туркова.

МЯРО´ЖА *ж.* Сетка для лоўлі рыбы, нацягнутая на абручы. *Горла ў мярожы нацягаваіцца. Сець нацягнута. Ставюцца драбіны ў відзі крыль. Между драбінамі ўкрапляіцца нарот.* Перабродздзе. *Мярожый лавілі. Плавуном, сеткый, жаком, крыгый, браднём, невадам, шнуром, бучом, наратком, саком, блітнёй, матыркый.* Н. Сяло.

НАДЗЕ´ЦЬ *зак.*, НАДЗЯВА´ЦЬ (НАДЗІВА´ЦЬ) *незак.* Начапіць прынаду. *Надзень другога чарвіка, гэтага рыба склювала.* Перабродздзе.

НАЖЫВІ´ЦЬ *зак.*, НАЖЫЎЛЯ´ЦЬ *незак.* Тое, што *надзець. Чарвічка склювалі, нажыўлю другога.* Перабродздзе. *Та-*

*кіі чарвякі з зямлі, уюны называлісі, імі нажсыўлялі кручкі.* Восцевічы.

НАЖЫ́ЎКА *ж.* Тое, што *жсывец. Первая нажсыўка для шнуроў – чэрві і ўклейкі нажсыўлялі. Угар берыцца, шчука.* Пераброддзе.

НА́РАСТ *м.* Нераст. *Лешч у маі ідзець на нараст.* Пераброддзе. *У маі болі рыба ідзець на нараст.* Н. Сяло.

НАРАСТАВА́ЦЬ *незак.* Нераставаць. *Ужо рыба нарастуіць.* Пераброддзе. *Цяперака шчука нарастуіць.* Н. Сяло.

НАРАТО́К, -тка́ *м.* Нерат. *Давай паходзім лі ракі з наратком.* Манякова. *Я і ў сажсалцы з наратком болтаўся.* Н. Сяло.

НАРО́Т, -рата́ *м.* Тое, што *наратож. У нараце рэбры ёсць з пруткоў. Горла ў жсаку, і ў мярожсак, і ў наратах – горла.* Пераброддзе.

НЕ́ВАД *м.* Вялікая рыбалоўная сетка. *Невад бальшы. Маторамі круцім. Нада сіла. Біз дзісяці чалавек зімой ня 'бойдзісся, а летам – чатыры чалавекі, шэсць чалавек, два ў аднэй лодцы, два ў другой.* Пераброддзе. *Невадам ловюць на нашых азірах: на Бальшым, Самоўцы, Налінцы, Сярэдніку, Глыбокім, Цяцерцы.* Янова. Н. Сяло.

НО́РАСТ *м.* Тое, што *нараст. Рыба йдзець на нораст у гэну рэчку.* Пераброддзе.

О́КУНЬ *м.* Тое, што *акунь. У нас у Волці ёсць окунь, шчукі, платва.* Ясёва. *Во окунь – што пірох усё роўна.* Пераброддзе.

ПАДВАЛО́КА *ж.* Сетка, меншая за невад. *Ёсь і рачныі падвалокі і азёрныі. Летам падвалокый лавілі чалавек пяць-шэсь на азірах, і тры лодкі нада було.* Мазурына. *Рачная падвалока была меншая за азёрную.* Манякова.

ПАЛАЗЫ́ *мн.* 1. Тое, што *крыга. Палазамі ўдвух ловім, ішчэ іх крыга зовюць.* Янова. 2. *Мн.* да *полаз. Два палазы ёсь у крызі.* Мазурына.

ПАЛЕ́НА-ПАПЛАВО́К, -лаўка́ *м.* Паплавок з палена, які прымацоўваецца пасярэдзіне матыркі (гл. матырка ў 1 знач.). *Палена-паплавок пасярэдзіні вяроўкі прычэпліваіцца.* Туркова. *У палена-паплаўка вяроўка прывязываіцца з двух бакоў, унізу ат яе – грус, а ўвярху – жсылка, а далі – трайнік.* Цімошкава.

ПАПЛАВО´К, -лаўка́ *м.* Паплавок. *Паплавок з корка і піра робюць.* Манякова.

ПА´ТРАШЫЦЬ *незак.* Вымаць вантробы з рыбы. *Нада ш во ішчэ рыбу брацца патрашыць.* Манякова.

ПЕ´ШКА *ж.* Плоскі лом з драўлянай ручкай для прабівання палонак. *Зімой праб'еш пешкай прогу, сядзіш і ловіш рыбу.* Манякова.

ПЕ´ШНЯ *ж.* Тое, што пешка. *Пешній прабівалі лёд.* Пераброддзе. *Пешній праб'еш прораб зімой і ловіш.* Янова. *Пролабку пешній прабіваім.* Н. Сяло.

ПЁРЫ *мн.* Плаўнікі. *Відзіш, якіі ў гэтый рыбы пёры – і вялікіі й красныі.* Пераброддзе.

ПІСКУ´Н, -а́ *м.* Уюн. *Піскуны пішчаць пад карчамі.* Пераброддзе. *Мы сягоння болі піскуноў налавіўшы.* Янова. *Піскуноў многа мы лавіўшы.* Н. Сяло. *Піскуны такіі вёрткіі.* Туркова.

ПЛАВУ´Н, -а́ *м.* 1. Снасць у выглядзе сеткі, якой перагароджвалі ўпоперак раку. *Плавуном лавілі. Упопірак ракі яго ставілі.* Н. Сяло. 2. Від рыбалоўнай сеткі, якой ловяць з плыта і кіруюць лодкай. *Канец плавуна прывязаўшы за плот. На плату фанар. Кап ня зблытаць сець, задду упруўляіш лодкый.* Туркова.

ПЛАСТКІ´РКА *ж.* Тое, што *гусцёрка. Пласткірка – плоская рыбіна.* Н. Сяло.

ПЛАТВА´ *ж.* Плотка. *У нас у Волцi ёсць окунь, шчукі, платва.* Ясёва. *У гэтых азёрах ёсць і окунь, і платва, а лешч рэдка пападаіць.* Пераброддзе. *Платвы налавілі болі, чым якой.* Туркова.

ПЛО´ТАЧКА *ж. зб.* Дробная рыба як прынада для вялікай рыбы. *На кузюрку нажыўляім плотачку і ставім на шчупука.* Пераброддзе.

ПЛО´ТКА *ж.* 1. Тое, што *платва. Я добрую плотку ўчора ўлавіўшы.* Янова. *Во ікая большыя плотка папалася табе на вуду.* Манякова. 2. Тое, што краснапёрка. *Плотка і краснапёрка – тоя самая, а платва – гэта ўжо другая рыба.* Туркова.

ПО´ЛАЗ, палаза́ *м.* Полаз як частка снасці крыга. *Удвух крыгай ловюць. Палазом жмець-жмець. Карася, ліна жмуць і ловюць, і злаўліваюць.* Пераброддзе. *У крызі два палазы.* Манякова.

ПРО´ГА *ж.* Палонка, прабітая ў лёдзе для лову рыбы. *Зімой праб'еш пешкый прогу, сядзіш і ловіш рыбу.* Манякова.

ПРО´ЛАБКА *ж.* Тое, што *прога. У пролабцы зімой ловюць.* Пераброддзе. *Пролубка мая замёрзла.* Манякова.

ПРО´РАБ *ж.* Тое, што *прога. Прораб праб'еш зімой на возеры і ловіш.* Камянполле.

ПУЗЫ´Р, -á *м.* Унутраны паветраны мяшок у рыбы. *Які пузыр у гэтый рыбіны бальшы.* Пераброддзе.

РАК *м.* Рак. *Ляпешні – ногі ракуў.* Янова. *Ракуў бучамі лавілі, можна й браднём. Буч на рака здзелана з лучыны.* Пераброддзе.

РЫБА´К, -á *м.* Чалавек, які займаецца лоўляй рыбы. *Пётра быў заядлый рыбак, бувала, чуць залачок, а ён ужо пашоў у рыбу.* Манякова.

РЫБА´ЦТВА *н.* Занятак рыбака, лоўля рыбы. *Дзе ж ты кініш рыбацтва, яно ж длі мяне ўсё – і работа і азарт.* Пераброддзе.

РЫ´БКА *ж. зб.* Маленькая рыба як прынада. *Калі рыбкай нажывіш, ападзець мянтус і угорач.* Пераброддзе.

РЫ´Б'Я *прым.* Рыбін. *Выкінь катам гэныі рыб'я кішкі.* Мазурына. *Рыб'я вока блішчыць. Рыб'я жыр – гэта ш лікарства.* Манякова.

РЭ´БРЫ *м. адз.,* РАБРО´ *н. адз.,* РАБРЫНА´ *ж.* Лазовыя дубцы, якімі сплятаюць нерат. *У нераце рэбры робюцца з пруткоў, абпінаюцца крыллямі.* Пераброддзе.

РЭДЗЬ *ж.* Знешнія сценкі рыбалоўнай сеткі. *Рэдзь робіцца болі з таўсцейшых нітак. У тры палатны – рэдзь.* Пераброддзе.

САК, -á *м.* Снасць для лоўлі рыбы ў канавах – конусападобны сеткавы мяшок, нацягнуты на драўляны каркас. *У саку горлачка лішняя. Плотка болі пападаіцца ў сак.* Пераброддзе. *У якоя возіра лавіць пойдзіці з саком?* Н. Сяло.

САЛАКІ´ *мн.* Назва азёрнай рыбы сярэдніх памераў. *Салакоў многа ў нашых азірах.* Пераброддзе.

СЕ´ЖА *ж.* Від стаўной лавушкі на рэках у выглядзе сеткавага мяшка з крылом і прывязаным да яго шнурам, за які трымаецца рыбалоў, седзячы на беразе, каб пачуць торганне, якое азначае, што рыбіна трапіла ў лавушку. *Сежа такая сетка. На рацэ ставіцца. Іна ў відзі мішка, як хвост мярожы. Забіта калок ілі на каміні. А тут крыло. Шнур зачапіўшы. І сядзіць на*

*бірагу і дзяржыць у руках гэтат шнур. Рыба йдзець у мяшок, ён чуіць, тады цягніць.* Пераброддзе.

СЕ´ТКА *ж.* 1. Рэдкае палатно, звязанае з нітак, для вырабу рыбалоўных снасцей. *Сто підзісят мэтруў скручанай сеткі – кукла.* Пераброддзе. 2. Рыбалоўная трохсценная снасць. *Трохсценная стаўная сетка, па-другому – рэдзь.* Пераброддзе. *Сеткі ставілі. Самадзялковыі робілі сеткі.* Янова. *Улоў быў нічога з сеткый.* Туркова.

СЕЦЬ *ж.* Рэдкае палатно, звязанае з нітак, для вырабу рыбалоўных снасцей. *Сець нацягнута ў мярожы.* Пераброддзе.

СНАСЦЬ *ж.* Рыбалоўная прылада. *Мае рыбацкіі снасці пад страхой вун.* Пераброддзе. *Ужо я дужа стары, ні лаўлю, усе снасці паскладаў.* Янова.

СОМ, самá *м.* Сом. *Глядзі, і мальцы сама ўлавіўшы.* Янова. *Сама ёсць у азёрах многа.* Н. Сяло. *У Дзвіне самы водзюцца.* Туркова.

СПІ´НІНГ *м.* Спінінг. *Мы ў Дзвіне на спінінх ловім.* Цімошкава.

СТЫ´НКА *ж.* Назва азёрнай рыбы невялікага памеру і сіняватага адцення. *Стынка – сінінькая малая рыбка.* Пераброддзе. *Стынка водзіцца ў Самоўцы, і ў Налінцы, і ў другіх азірах. Я з мальцам стынак налавіўшы, ёсць нескулькі і ўклеік, а болі пасці ніякый і нет.* Н. Сяло.

СУДА´К, -á *м.* Судак рачны. Пераброддзе, Н. Сяло. *Судакі ў Дзвіне ёсь.* Туркова.

ТОНЬ *ж.* Месца, дзе можна закінуць невад, тоня. *Тоню залажылі скажуць. Тонь – апрадзілённая места, дзе закідываіш невад.* Пераброддзе.

ТО´ПЕНЬ (ТО´ПІНЬ) *м.* Тое, што *тонь.* Бухалава.

ТРАЙНІ´К, -á *м.* Вялікі кручок на тры зубы ў выглядзе якара, які прымацоўваецца да матыркі (гл. *матырка* у 1 знач.). *Трайнік нажыўляіцца дробнай рыбай, курынымі кішкамі, курыным мясам.* Туркова.

ТРУ´БАЧКА, ТРУ´БКА *ж.* Выдзеўбаная з асіны лодка. *Трубачка з асіны робіцца. Біз ніводнага гваздзя. Распараная. Распарываіцца тапаром, шклютом. У трубцы заплывеш на сярэдзіну возіра і ловіш рыбу.* Пераброддзе.

ТРЫБУШЫ́ЦЬ *незак.* Тое, што *патрашыць. Бярыся во, дзеўка рыбу трыбушыць.* Мазурына.

У́ГАР *м.* Вугор. *Як парната, чарвяк садавы, красны вылізаіць, на яго бярэцца болі угар. Угар – чорная рыбіна.* Пераброддзе. *Завуць у нас гэту рыбіну і угорач, і угар.* Туркова.

УГО́РАК, -рка *м.* Тое, што *угар. Угорак па расе ходзіць.* Ясёва.

УГО́РАЧ *м.* Тое, што *угар. Угорачы ноччы па расе ідуць жара́ць аш у гарох, буваіць, і наткнесся на яго. Калі рыбкый нажывіш, пападзець мянтус і угорач.* Пераброддзе. *Угорач – рыба смашная.* Янова. *Угорачы выпуўзалі на паплавы, там гарох сеілі, яны ноччы выпуўзалі і паўзлі па расе ў гарох.* Манякова. Н. Сяло, Туркова.

УЗЯ́ЦЦА *зак.* Зачапіцца на кручок. *Глядзі, ікая вялікая плотка ўзілася на вуду.* Цімошкава.

УКЛЕ́ЙКА *ж.* Верхаводка. *Нажсыўляць можна ўклейкый і ў асобіннасці чарвямі.* Пераброддзе. *Уклейка і ўклія – разніцы нет.* Янова. *Уклейка – як адна рыбіна, а ўклія – як многа.* Н. Сяло, Туркова.

УКЛЯЯ́ (УКЛІЯ́) *ж. зб.* Уклейкі. *Уклія цяперака нарастуіць.* Пераброддзе. *Уклейка – як адна рыбіна, а ўклія – як многа.* Н. Сяло.

УЛО́Ў *м.* Колькасць налоўленага, здабыча. *Улоў быў нічога з сеткый.* Туркова.

УШВЕ́ЙКА *ж.* Назва дробнай рыбы, блізкай да ўклейкі. *І ушвейкі там ловюцца, і курмялі, і ўклейкі, і другая рыба.* Манякова.

УШЛЕ́ЙКА *ж.* Тое, што *ушвейка. Скажсыш і ушвейка і ушлейка.* Бухалава.

ХВОСТ, -ста́ *м.* Задняя частка венцяра, або жака, мярожы. *У жаку – крылы, карма, хвост.* Манякова. *Сежа у відзі мішка, як хвост мярожы.* Пераброддзе.

ЦУДА́К, -а́ *м.* Тое, што *судак. Цудак тожа ёсць у нашых азірах. Цудак дужа добрая рыба.* Янова.

ЦЭ́ЎКА *ж.* Чаўначок для ручнога вязання сеткі. *Цэўкый і лапаткый візалі сеткі.* Пераброддзе.

ЧАРПАК, -а́ *м.* Сеткавы чарпак для лоўлі рыбы каля берагоў вадаёмаў. *Болі за ўсё чарпаком ловюць.* Туркова.

ЧАЎНА´К, -á *м.* Чаўнок для вязання сеткавага палатна. *На чаўнак накрываіцца нітка і вяжуць палатно сеткі.* Н. Сяло.

ЧЫ´СЦІЦЬ *незак.* Чысціць, ачышчаць рыбу ад лускі і патрашыць яе. *Мае бабы прама ля возіра чысцюць рыбу.* Пераброддзе.

ШНУР, -á *м.* 1. Доўгая тонкая вяровачка з прывязанымі нажыўленымі кручкамі для лоўлі рыбы. *Шнур летам болі стаіць. Нажыўляць можна ўклейкый і ў асобіннасці чарвямі.* Пераброддзе. *Будзім застуўляць шнуры.* Н. Сяло. 2. Частка снасці кузюрка. *У кузюрцы ёсць вілачкі і шнур.* Пераброддзе.

ШПІ´НІНГ *м.* Тое, што спінінг. *Федзя на шпінінх ловіць рыбу ў Язніцы.* Манякова.

ШЧУ´КА *ж.* Шчупак. *У нас у Волці ёсць окунь, шчука, платва.* Ясёва. *Шчукі многа ў нашых азёрах – і ў Набісці і ў Обстарні.* Пераброддзе. *Во возіра лі нашый бані, шчукі там гуляюць.* Янова. Н. Сяло.

ШЧУПА´К, -á *м.* Тое, што *шчука. Уперад було многа шчупакоў у Язніцы і Дзісенцы.* Восцевічы.

ЯЖГУ´Р, -а (іжгýра) *м.* Тое, што *ёрш. Яжгур – рыба, падхадзяшча пад акуня.* Ясёва. *Яжгур – во калючы. І ёрш скажуць, алі болі завуць яжгур.* Пераброддзе. *Іжгуры калючыі, халера.* Янова. *Іжгурамі ўсе рукі скалоў.* Н. Сяло.

ЯЗЬ, -я́ (ізя́) *м.* Язь. *Язі – што пранікі.* Ясёва. *Якога ізя злавіў.* Пераброддзе. *Жартуім: ясь – носам у гразь.* Янова. *Мой маліц язёў любіць лавіць.* Н. Сяло.

*У. М. Казбярук*

# НЕКАТОРЫЯ ДЫЯЛЕКТНЫЯ АСАБЛІВАСЦІ ГАВОРКІ ВЁСКІ БАНДАРЫ БЕЛАСТОЦКАГА ВАЯВОДСТВА (ПОЛЬШЧА)

Тут даецца невялікая падборка лексічных і граматычных матэрыялаў з маёй роднай вёскі Бандары. У той мясцовасці даволі прыкметна маглі адрозніванца гаворкі ў адлегласці ўсяго толькі некалькіх кіламетраў, асабліва ў напрамку поўдзень–поўнач. Дыялектныя асаблівасці гэтай мясцовасці ў нейкай меры набліжаюцца да форм, якія мы сустракаем ў «Слоўніку беларускіх гаворак паўночна-заходняй Беларусі і яе пагранічча». Русізмы засвоены ў гаворцы ад мясцовых адукаваных, начытаных людзей Казбярук Іосіфа, Баршчэўскага Андрэя. Вітанне "дзень добры" ў вёсцы лічылася "паланізмам".

АБЕТ, АБЕДАЦЬ – снеданне, снедаць

АБРОК – сечка з аўсом

АБРОТКА – аброць

АВЕС – авёс

АГЛАТКІ, АГЛАДАЧКІ – аладкі, аладачкі

АДБЕЖОК – кол з дротам, які служыць для тармажэння плыта

АДЗІЯЛО – коўдра

АДНЭ – адно

АДРЫНКА – адрына

АКНО, ОКНА *(мн.)* – вакно

АПЛАВЫ – прыстасаванне з дошак і друкоў, якія кладуцца на воз, каб вазіць сена

АПОЛОК – дошка з гарбылём, аполак

АРЭЛЬ[1] – полытнік

АРЭЛЬКА – плытніцтва, сплаў лесу

АСТАЦЦА, АСТАЎСЕ (3-я асоба адз.) – застацца

АШЧЭ – яшчэ

БАЛОТО – сенажаць

БАЛЭНДА – балбатун

БАСАНОЖ – усунуць ногі ў абутак без шкарпэтак або ануч

БАСТРУК – пазашлюбнае дзіця

БАТАРЭЙКА – электрычны ліхтарык

БАХОНОК – бохан

БЛАХА – блыха

БЛАШЧЫЦА – клоп

БОП (БОБУ) – фасоля (фасолі)

БОТКІ – агульная назва грыбоў, акрамя баравікоў

БОЎТ – доўгая гачка з патоўшчаным канцом для адштурхоўвання ёю ад дна рэчкі ў час язды на лодцы

БРОНКА – весніцы, калітка

БРУЗДЭНКНУЦЬ – кінуць кагосьці моцна на зямлю

БУЛЬВА – бульба

БУРЧЫК – ворчык

ВАСЭРВАГА – грунтвага

ВЕДРО – вядро

ВЕЛЬКІ – вялікі

ВЕРЦІХА – глыбокая гліняная міска, у якой труць мак, пякуць бульбяную кашу (бабку)

ВУГЕЛЬ – вугаль

ГАМЭРОК – папярочная ручка на канцы плытніцкай лескі (тычкі)

ГАНАВІЦЫ – нагавіцы

ГАНУЧА – ануча

ГАНУЧНІК – анучнік

ГАРА: НА ГАРЭ – на падстрэшшы, на гары

ГАРАЦЬ – араць

ГАРАЧЭ – горача

ГІДЭЛЬ – нягоднік

ГІКАЎКА: ГІКАЎКА НАПАЛА – ікаўка напала

ГЛАДУНКА – збанок без ручкі

ГЛЕНЬ – плыт

---

[1] Гл. апавяданне Васіля Баршчэўскага «Арэлі» ў зборніку «Літаратурная Беласточчына».

ГОЗДЗЬ, ГОЗДЗІ *(мн.)* – цвік, гвозд
ГОЙДАНКА – гушкалка
ГОЛКА – іголка
ГОСТРЫ – востры
ГРАФКА[2] – шпілька
ГРЫП, ГРЫБЫ *(мн.)* – баравік
ГУЛІЦА – вуліца
ГУРОК – агурок
ГЭБЭЛЬ – гэбель
ДАРЭМНЕ – дарэмна
ДАСВІДАНЕ
ДЗЕРАВО – дрэва
ДЗЕРАВЯНЫ – драўляны
ДЗЕЎЧЫНА – дзяўчына
ДЗІВІЦЦА – глядзець
ДЗЫГАЦЬ – скакаць
ДОБРЭ – добра або добрае
ДОЛАТО – долата
ДОШЧКА – дошка
ДРАБІНКІ – у возе «бакавая абрашотка»
ДУРАВАТЫ – дурнаваты, прыдуркаваты
ЕЙЦО, ЯЙЦА *(мн.)* – яйка
ЕЛОВЕЦ – ядловец
ЕСЁНКА – асенняе паліто
ЕСТ, Е – ёсць, ё
ЕЧМЕНЬ – ячмень
ЁЛКА, ЕЛІНА – ель, ельнік
ЖАДНАГО – ні аднаго
ЖАЛЕЗНА ДАРОГА – чыгунка
ЖВІР, ЖЭРСТВА – жвір
ЖЫД – яўрэй
ЖЭРАБЯ – жарабя
ЗАВАДА – той ці тое, што перашкаджае
ЗАВАЖАЦЬ – перашкаджаць
ЗАВЕЗАЦЬ – завязаць (напрыклад: завезаць зашмаргай: «зашмарга»)
ЗАСЛАНКА – заслонка, якой застаўляюць печ

---

[2] Засцежка для вопраткі, адзін канец якой хаваецца ў кручкаватае паглыбленне – галоўку.

ЗАСТУВАЦЬ, ЗАСТУЮ, НІ ЗАСТУЙ – зацямняць сабою святло

ЗАЦЕРКА – зацірка

ЗБЭРСКЛО МАЛАКО – малако, якое пачынае кіснуць

ЗВОДЗІЦЦА – дражніцца, цвяліцца

ЗДРАСТУЙ, ЗДРАСТУЙЦЕ

ЗЕЛЕПУХІ – няспелыя ягады, грушы

ЗЕМЛЯ, ЗЕМЛЮ – зямля, зямлю; падлога ў хаце

ІСКАЦЬ – шукаць вошы ў валасах на галаве

КАЛ – гразь

КАЛА – каля, пры

КАЛАДАЧ – тоўсты кароткі чарвяк

КАЛДОБІНА – выбоіна на дарозе

КАЛЕСО, КАЛЁСА *(мн.)* – кола

КАЛОДЗІСЬ: У КАЛОДЗІСІ – студня

КАПЕЛЮШ – капялюш

КАРАГУЛІЦЬ – каравуліць

КАРОПКА (КАРОБАЧКА) – плеценая з саломы сявенька

КАСТРЫЦА[3] – кастрыца; іголкі з хвойных дрэў

КАЦУБА – драўляная качарга накшталт швабры для выгортвання попелу з печы

КЕЛБ – пячкур

КІЛЬКА – некалькі

КІЛЬКАНАЦЦЭЦЬ[4] – больш за дзесяць

КІСЕЛЬ – страва з аўса

КІТ – аконная замазка

КЛОМЛЯ[5] – невялікая рыбалоўная снасць

КЛУНЯ – пуня

КЛУСТАСЦЬ – тлустасць

КУЗАКА – кузурка

КУЛЬБАКА – кій з загнутай ручкай

КУЦЯ – панцак, ячныя крупы

ЛАПАТА – драўляная лапата, якою саджаюць хлеб у печ

ЛАЎКА – магазін, а таксама скамейка

ЛЕСКА – тычка, шост

---

[3] Іголкі з хвойных дрэў выкарыстоўваліся, напрыклад, для насыпання прызбы

[4] Гэта слова сустракаецца ў беларускіх летапісах.

[5] Сетка з драўлянымі рамкамі.

ЛЕТНІК – пінжак
ЛОЖКО – ложак
ЛОКШЫНЫ – макароны
ЛОНІ – у мінулым годзе
ЛОНСКІ – мінулагодні
ЛУПАТЫ – чалавек з тоўстымі губамі
ЛУПЫ – тоўстыя губы
ЛЫЖВЫ – канькі
МАЗГАЎНЯ *(зневаж.)* – галава
МАЛАКО СЬВЕЖЭ, ЗБЭРСКЛЭ, ПАРАНЭ (свежа кіпячонае), КІСЛЭ
МАЛОДЗІВО – першае малако пасля ацёлу каровы
МАТУЛЬКА – хросная маці
МАТЫЧЫЦЬ БУЛЬВУ – абматычваць каліўе бульбы
МАЦІ, МАЦЕРЫ (больш родны склон)
МЕНЁК, МЕНТУС (МЕНТУЗА) – мянтуз
МЕНТАШКА – мянташка
МЕШОК – мяшок
МІНУТА
МОНЧКА[6] – сыпучы цукар
МОРЭ – мора
МЭТР – метр, а таксама 100 кілаграмаў (напрыклад, мяса)
НАБЭДРЫКІ – набадры
НАГНОМ – нагбом
НАДСЕЎСЕ – напрацаваўся, надарваўся
НАШЧЭ – нашча
НІДАЛЭНГА – неўдалюга
НІСХОЦІ – ненарокам
НУЖНІК – туалет (у двары, у садку)
ОГЕР – жарабок
ОЗЕРО – возера
ОКО – вока
ОКУНЬ – акунь
ОЛАВО – волава
ПАГОДА – надвор'е
ПАДВОРОК – падворак
ПАЗАЛОНІ – пазалетась
ПАЗАЛОНСКІ – пазалеташні

[6] Гэта слова сёння ўжо не ўжываецца.

ПАЗУР –ногаць
ПАКІДАЦЬ пожню – заворваць пожню восенню
ПАКОЛЬ – пакуль
ПАЛОВА – мякіна
ПАЛУДЗЕНЬ – абед
ПАЛУКАШОК – плецены кораб, які ставіцца на драбіны ў воз перад паездкай на кірмаш, у госці (іх бывае звычайна два)
ПАЛЬТО – паліто
ПАЛЬЧАТКІ – пальчаткі
ПАМЕЛО – памяло
ПАМОСТ – падлога
ПАПЕР – папера
ПАРАНКА – вараная і тоўчаная бульба, змешаная з мукою ці ворубямі (корм для свіней)
ПАРКАН – агароджа з штыкецін
ПАРШУК – кабан
ПАС – састаў плытоў
ПАСОК – рэмень, папруга
ПАСТАЛЫ – лапці
ПЕСОК – пясок
ПЕТЭЛЬНЯ – патэльня
ПЕЧАЙКА: ПЕЧАЙКА ПЕЧЭ – пякотка
ПЛАЦЕ – сукня, сукенка (жаночае адзенне)
ПЛЫТКІ, ПЛЫТКО – мелкі, мелка (у рэчцы)
ПОДАН – столь
ПОДУШКА – падушка
ПОЕЗД – цягнік
ПОЖНЯ – іржышча
ПОЎХ – крот
ПРУТКІ – пругкі, моцны
ПРЫГАРКА – прыгарак (на бульбе)
ПУЛЯЦЬ – несці цяжкі груз
РАДЗІВО – радыё
РАДЗЮШКА, РАДНО – дзяруга
РАШАПЭТНІК – стары чарвівы грыб
РОВЭР – веласіпед
РОК – год. У 1939 року; 2, 3, 4 рокі. Але 5, 6 і г. д. лет
РЫХТЫК – зусім, як
РЫЦЭПТ – рацэпт
САКЕРА – сякера

САЛАНІНА – сала
САЛО – здор
СВЕРДЗЁЛОК – свярдзёлак
СВЕРЭНЬ – сіўран
СВІНЯ КОРМНА – свіння, якую кормяць на забой
СВІНЯ НАДВОРНА – свіння, якая бегае па двары і часткова корміцца сама
СІКІ – мача
СКОЛЬ – адкуль
СКРОБАЦЬ БУЛЬБУ – скрэбці бульбу
СЛОН – услон
СПУСТ – рубанак
СТАВЕНЬКА – кадушка для мукі або круп
СТАЛЬВАГА – трайны ба́рак (ворчык) для параконнай запрэжкі
СТОЛЯР – сталяр
СТОЎП – слуп
СТРОЖНЯ – вудачка на шчупака
СТРОМЫ, СТРОМО – стромы, круты
СТРЫЛЯЦЬ – страляць
СТРЭХА – страха
СХОТКІ, СХОДАЧКІ – прыступкі
СЬЛЕДЗЬ – сялёдка
СЬЦІНА – сцяна
СЭР – сыр
СЮДЭМО – сюдэма
ТАТУЛЬКО – хросны бацька
ТАЎКАНІЦА – тоўчаная бульба, камы
ТРАСЕНКА – сена, змешанае з саломай
ТУДЭМО – тудэма
УЖЭ – ужо
УФНАЛЬ – ухналь, цвік для падкоў
УХО – вуха
УЦІКАЦЬ – уцякаць
ФАЙНЫ – прыгожы, выдатны
ФІГА – кукіш
ФЛЮНДРА – неахайная жанчына
ФУТАР – хутар
ФУТРАВАЦЬ – моцна трэсці
ХАЛАДНО – холадна

ХАЛЯНДРА – зняважлівая характарыстыка жанчыны
ХАРАШЭ – прыгожа
ХАРОШЫ, ХАРОША – прыгожы, прыгожая
ХАТКІ – студзень
ХАЎКАЦЬ – пазяхаць
ЦЕЛЬНА КАРОВА – карова, якая выношвае цяля
ЦЁШЧА – цешча
ЦІТРАЦЬ, ЦІТРАДЗІ *(мн.)* – сшытак
ЦУКЕР – цукар
ЦЬВЕРДЫ – цверды
ЦЫЛАВАЦЬ – цалаваць
ЧАРЭН – ніз у печы
ЧАСЫ – гадзіннік
ЧАША – цэбар, у якім змешваецца ці падаецца корм свінням
ЧОБАТЫ – боты
ЧОМ – чаму
ШАСА – шаша
ШВАЙКА – шыла, якім колюць свіней
ШРЫК – завостраны шост, якім спыняюць пас (плыты)
ШРЫКОЎКА – тоўсты плытніцкі дрот
ШУЛЯК – каршун
ШЧАВУХ – шчаўе
ШЧУР – пацук
ШЫТКІ – прыгожыя сані для выезду ў госці, на кірмаш
ЯБЛЫКО, АДНЭ ЯБЛЫКО – яблык, адзін яблык

*В. Дз. Астрэйка, Н. В. Драбудзька*

# УЗОРЫ ГАВОРАК ЛЕПЕЛЬСКАГА, НАВАГРУДСКАГА І СЛОНІМСКАГА РАЁНАЎ

*Расказвае Бародзіч Марыя Апанасаўна, 1930 г. н.*

## ВЯСНОВЫЯ СВЯТЫ

На Саракі нада сорак клёцак варыць ці сорак бліноў. Ґэта карміць птушак, курэй карміць, каб яе́ц насілі. Рас Саракі завецца – сорак мучанікаў было, сорак вы́раяў. Бу́сіла ні нада ніколі гнявіць, ругаць. Бу́сіл дажэ́ можыць дзе-небудзь галавешку жа́ркую найці і паднесьці к табе к дому запаліць. Бу́сла ні нада угне́ўліваць.

Красяць яічкі на Вялі́кання, валачобнікі ходзяць, пяюць. На первый дзень ходзюць валачобнікі, пад акно падо́йдуць і пяюць гэтыя песьні:

Валачобнічкі валачылісі
Валачыліся, памачылісі
Храстос васкрэс, сын Божы.
Памасьці кла́тку і заві ў хатку,
Храстос васкрэс, сын Божы.
Ні дасі ко́ка – вы́лізіць вока,
Хрыстос васкрэс, сын Божы.
Ні дасі яе́ц – палу́піш авец,
Хрыстос васкрэс, сын Божы.

Ці «пае́сь воўк авец», ці «палупіш авец». Калі хазяіну пяюць – «у чорных штанах памачыліся». А калі ўжо дась хазяін – тады ўжо благадара́т. Хадзілі, зьбіраліся і рабяты, яны ўмесьце са ўзрослымі хадзілі, яны завучаліся. Узрослыя, каторыя старэйшыя, яны запява́лі, а тады ўсе патхватывалі. І гармошка граіць.

На Вербніцу прыгаварвалі: «Ні я б'ю, верба б'ець, а хі́ра ў лес, здароўе ў ко́сьці». Гэта ўжо скаціну як у поле выга́няюць, тады гэтай вербай б'юць, ці каторы рабёнак такі плаксли́вы ёсь, як ро́дзіцца плаксли́вы, тады вербай то́жа так ро́бяць, па ім сцё-баюць: «Ні я б'ю, верба б'ець, пла́кса ў лес, здаро́ўе ў косьці».

Чысты чацьверх да абеда зьдзе́лаць, с абеда нічога ні дзе-лаць. У срэду топім баню. Тады глядзіш у чысты чэ́цьвер, як сонца, пагода харошая, як сонца гуляіць, вот як усхо́дзіць, гля-дзіш як гуляіць сонца. У чы́сты чэ́цьвер гуляіць, па Паску, на первый дзень Паскі.

## МАСЛЕНІЦА

На Масьленіцу катаюцца, калышуцца. Гэта проста так, за-німаліся такой гульнёй. А гадання ўжо на Ма́сьленіцу не́ была. Кало́тку на Масьленіцу кача́лі, цягалі. Гэта калі ў які дзень па-падае [масленіца], назаўтра цягнуць. Ра́ньшэ ж дзе на́йдуць якую-нібудзь кало́тку, і нясуць тады ў хату, ці ма́льцы, ці ба́бы, ці мушчы́ны, захочуць като́рыя вы́піць. І такую кало́тку прыня-су́ць – вот рашчы́тывайся, ну рашчы́тываюцца. А кады нет ка-ло́ткі, хоць аха́пак дроў нясуць. Надзе́нуцца ўжэ так жэ́ншчыны, каторыя дзіўча́ты маладзейшыя, у длiннае ці ма́ску якую зьдзе-лаюць, ці нама́жуцца, танцу́юць, скачуць, пало́жаць кало́тку, а тады каля кало́ткі ска́чуць. І так зьбіраецца в адно́й ку́чы, пры-шлі́ к первай там ці фтаро́й – гэта ўжэ я іду́ з імі разам, з імі ра-зам участвую. І аттуль с тэй сто́раны ідуць, ка мне захо́дзяць, тады ў мяне ўжэ уча́ствуюць ўжэ усе.

## ГАДАННІ НА КАЛЯДЫ

У Каляды дзіўчаты зьбіраюцца, варожуць. Усяк варожуць. І плот вапшчэ́пліваюць, спро́сяць у па́ру ці вапшчэ́піш. І дроў аха́пак нясуць у хату – ці ў па́ру ты прынясеш дроў, палак. І абуванне кідаюць прас страху. А мальцы знал, што дзіўчаты варожаць, абування разуісься, а на той сто́рані яны ўжо пільнуюць, чэрас хату піракінуць бот там ці бацінак ці што чэрас хату піракініш – куды ён носам ляжыць, у які ты бок

замуш пойдзіш. А куццю, знáіці, нада есці, ужо як звáрыш, садзіся есці – ні гавары ні с кім, і первую лошку як зачэрпніш, каб у рот ні клала, яе ня ела, гэту лошку куцці, у запазуху ня ўкініш, хоць у рýку, ці ў платочак прылáць і тады палажы ўжо запáзуху яе. А патом ешця, адвячэрайця, а гаварыць ня гаварыця, а патом спаць лажыся – апяць ні гавары, пат падушку лажы гэту куццю, у платочку – вот табе гэтае прысніцца. Я была зьдзелала, брат у мяне, ён замеціў, маўчаў, нічога ні гаварыў. Я нікуды ні пашла, лігла спаць. А ён паліжаў на другой креваці, тады патходзіць, рýку тóчыць, тóчыць пат падушку. Я па руцэ. Ён засміяўся ціханька. Я ляжу. Апяць падышоў з другой стараны, точыць, точыць руку. Ну і ўсё, рассміялася, нікога ні ўбачыла – ён у мяне тую куццю ўкраў. Яшчэ так варожуць на каляды. Бліны пякуць, пад акно бегаюць. Абычна мы бегалі, дзе дзяцей многа. А разы былі замецілі адны. Там ужо ж дзяцей было многа – замецілі, што мы пад акном дзіўчаты стайім, і захахаталі яны ў хаці, што мы ўжо стаім. А тады, ідзіце, пайшлі, гаворуць. Матка куццю вáрыць, абычна первая куцця. Клічуць і мароза: «Марос, марос, хадзі куццю есці, ні марось нас, ня прыдзіш ты, прывадзі майго», так гадалі. На кольцы гадалі. Вінчальнае кальцо ў стакан, таксама гадалі дзевачкі. Ня зь дзевачкамі я гадала – у дзевачак кальца ні было. У мяне маткі ні было, мне два гады было, як матка памёрла, а з мачахай, мачаха і сасéтка. Былі ні прышлі з арміі мужыкі, і вот яны гадалі, ці ёсь яны дзе жывыя. На блюдачак насеілі попілу, кап пóпіл быў чысьцінькі, каля́дны, вот на первую каляду́, а патом на фтарую каляду́ можна гадаць. Посьле накрываюць попел беленькай бумажачкай, такая тонінькая каб была, празрачная, як вот на папіросках, каб было відна. А патом ставіш стакан на бумажачку – блюдачак, там попіл пасы́паны, патом бумашка, на бумашку становіш стакан. Токі стакан каб быў чысьцінькі, біз рупцóў, кап і дно чысьцінькая і ўсё. Вады наліваіш і кальцо кідаіш ў стакан і так дзелаіш яго, становіш, каб яно было тока пасрадзі стакана, гэта кальцо. Ну і зеркала, бальшоя зеркала. І садзісься, нагінáісься і глядзіш у кальцо ў зеркалі і відзіш. І вот паглядзела была мачаха, і сасéтка, і ўвідзілі яны. Адна ўвідзіла бугор зямлі, бугор такі насы́паны і палка, і другая. Ну патом я села. Віжу – мой, за каторага я вышла замуш.

## ЖАНІЦЬБА ЦЯРЭШКІ

Цярэшку жанілі, бацьку і матку выбіралі са старэйшых. Дзеўкі і мальцы станавіліся ў рад, а бацькі выбіралі і да́йдуць па́ры, а тады адзін за адным станавіліся, дзеўка ўцікала – нада кругом тры разы абыйці, абабе́хчы кругом усіх. Ста́ня, бяжыць яна, уцікаіць, ён даганяіць яе. Зловіць ён яе і так ужо пасьмеіваіцца: «Эх, цярэх, цярэшачка, ціраз мой двор сьцежачка, бітая, таптаная, а я ў мамкі каханая». Прыпеўку такую тады ўжо спяюць. Ну усё тады гэта па́ра ўжэ атходзіцца. Патом фтарая так па́ра – сколькі там пар ужэ назьбіраіцца, і ўсе абіга́юць і гэтыя прыпе́вы так прапіва́юць. А патом гэтыя па́ры, там разыграюць вальс, вальс танцуюць. Станцуюць вальс. А патом ужэ маліц ідзець за во́ткай, бутылку во́ткі нясець, а дзевачка ідзець за каўбасой, закуску нясець. Ну й у вадну хату зьбіраюцца, там бацька з маткай сталы, скамейкі прыгла́джываюць, усю закуску прыла́джываюць. І тады садзяцца за стол кожный с сваей, па па́ры, а бацька з маткай ужо ходзяць, угашчаюць, прыглашаюць. Танцуюць, вылазяць, патанцуюць, апяць садзяцца. Ну а ўжо, як пагуляюць, і ўсё, і пашлі тады. Каторыя злюблёныя бываюць, абычна жэняцца. У нас такі Коля тут быў, ён харошы так маліц быў, но я ні любіла. Ён [«дзед»] на мяне гаворыць: «Жаніся з ім», я гавару: «Ні хачу». А майго ні было мальца, паехаў. Я гавару: «Ня буду жаніцца з ім, ня буду жаніцца». А другі, за мной там тожа лётаў, той падскочыў ка мне: «Ну с кім ты будзіш?» Я гавару: «С табой толька буду». Гэта на первый дзень каля́т усё.

*Зап. Астрэйка В. Дз., Валодзіна Т. В., Драбудзька Н. В.*
*у 1997 г. у в. Валосавічы Лепельскага р-на*

*Расказвае Шушкевіч Ганна Дзмітраўна, 1912 г.н.*

## ВЯСЕЛЛЕ

Ідуць у сваты, пап'юць гарэлку, дагаво́руюцца. Вечарам сабіраюцца, маладуха сабе, маладзён сабе, гуляюць. А тады пазьней, назаўтра прыедуць за маладу́хай. До́руць маладуху –

пасьцелюць бе́лінькім, тарэлку кладуць, грошы. Доруць, як прыедзіць маладзён. Як падоруць, маладзён выкупляіць, забіраіць к сваей дружы́ні. Сваты́ ўжо сідзяць за сталом, падмаладзе́нцы, бая́ркі. Маладуху водзяць кругом дзяжы́, а тады і са́дзяць на дзіжу́, пяюць:

А ў гародзі чырвона морква цьвіцела,
Папытайціся ў нашай маладой, ці цэла.

У нядзелю ш пойдуць у піразо́ў.

## КУПАЛЬСКІЯ ПЕСНІ

Ходзіць чы́жык па вуліцы, па вуліцы,
Клічыць дзевак на вуліцу, на вуліцу
– Вы дзевачкі, выхадзіця, выхадзіця,
Па маінцы вынасіця, вынасіця,
Купа́лачку, купа́лачку завадзі́ця, завадзі́ця.
Вам, дзевачкі, ваша воля, ваша воля.
Вам, жоначкі, сядзець дома, сядзець дома,
Дзіця плачыць у калубе́лі, у калубе́лі,
А муш ляжыць у пасцелі, у пасцелі.

***

– А дзе была Купа́лачка?
– У бясе́дзі, Іва́начка.
– Што ро́біла, Купа́лачка?
– Боп палола, Іва́начка.
– А што ела, Купа́лачка?
– Калату́шку[1], Іваначка.

## ВЯСЕЛЬНЫЯ ПЕСНІ

Каліна, Людачка, каліна
Пат калінай стая́ла,
Ручкамі калінку ламала.

---

[1] Калату́шка – страва з мукі́ (муко́й такой закало́цяць ваду і ядуць).

За ей малойцы хадзілі,
У яе калінкі прасілі.
– Ні дам калінку нікому,
Павязу яе дадому,
Пастаўлю яе на канцы́ сто́лу,
Тут табе, калінка, развіцца,
А мне, мaлaдо́й, ражжы́цца,
Тут табе, калінка, з веткамі,
А мне, маладой, з дзеткамі[2].

***

Сядзіць зайка пад елкаю,
Вочкі трэць,
Абіжаіцца ён на Сярошку,
За што б'ець:
– А ці я табе дарожачку пірабе́х,
А ці я табе вараных ко́ней папу́дзіў,
А ці я табе тваю Людачку абгу́дзіў?
Пірабі́ў табе дарожачку шэрый воўк,
Папу́дзілі вараных ко́ней жырапцы́,
Абгу́дзілі тваю Людачку мылайцы́.

***

А со́ўнійка, а со́ўнійка[3]
Калі майго са́ду ходзіш,
А ў мой бок ні захо́дзіш,
Майго са́да ні абагрэ́іш,
Майго са́да ні абагрэіш,
Вішанік ні пасьпе́іш.
Татулька мой ро́дніенькій,
Калі майго двара ездзіш,
А ў мой двор ні заедзіш,
Майго го́ра ні атведаіш.
Татулька мой ро́днінькій,

---

[2] Спяваюць, як прыводзяць нявесту да свёкра.
[3] Кожны радок паўтараецца два разы.

А заедзь ка мне на двор,
А вазьмі майго го́ра,
А вазьмі ў чы́ста по́ля,
А ня сей пры дарозі,
А пасей пры даліні,
Каб дзевачкі ні хадзілі,
Майго гора ні шчыпа́лі,
Вяночкаў ні зьвіва́лі,
На галоўках ні насілі,
Маім горам ні красілі.

*Запісана ў 1997 г. у в. Ве́рабкі Лепельскага р-на*

*Расказвае Пляшко Ніна Іванаўна, 1930 г.н.*
*(ураджэнка в. Ірынпо́лле)*

## ЖАНІЦЬБА ЦЯРЭШКІ

Раньшэ дак жанілі Цярэшку. На вічарынку ш сабіраліся, многа ж было маладзёжы, бох знаіць! На й там тады ўжэ згаваравающца маліц із дзяўчынай. Дзяўчына ўжо сходзіць дамоў, закуску якую прала́дзіць, каўба́сіну, там скварку жжарыць, віна, угашчэння. Ну а мальцы гарэлку. І тады ўжо дзеда із бабай выбіра́юць – хто вісяле́йшы, баба із дзедам жэ́нюць там з якой дзяці́най. І тады дзе-небудзь у чые́й хаці папро́сяцца – клубу ж ні было – дак у хаці. Тады сталоў наставяць, ну ўжо хто сваю закуску, хто с кім садзіцца, пяюць, гуляюць, бе́сюцца. Займаліся ш такім – цілівíзара ж ні было, нада ж было што-та дзелаць. Я адзін рас толькі ў жызьні жаніла Цярэшку.

*Запісана ў 1997 г. у в. Якіма́нь Лепельскага р-на*

*Расказвае Шлык Зінаіда Гаўрылаўна, 1925 г.н.*

Я ў па́на служыла. І лён рукамі рвалі і рукамі абіва́лі, кароў даілі. Лён насеілі, вы́палалі, рвалі рукамі, цяпер рвуць машынамі, а даўней рукамі. А тады абівалі пра́ннікамі, пра́ннікі – та-

кая [прылада] з ручкай і рукамі білі. Тады слалі на полі. Як вы́ліжыцца, тады мялі, а тады трапалі. Трапло́ з ручкай, і трэплюць яго чысьцінька. А тады жа́лі, пралі на калаўро́ці. Харошая палатно – эта кужаль, а тады трэ́пля, а тады па́праткі. Трэ́пля – ху́тшая. А тады вы́тчэм, намочам, рассце́лім, белім по́пілам. А тады ў кацёл і ў печ, пакіпяць. Тады рассцеліш яго, у начоўкі – ванна дзярава́ная, цяпер усе жалезныя, а так дзярава́ная.

*Зап. Астрэйка В. Дз., Драбудзька Н. В., Шаблоўскі А. І. у 1997 г. у в. Су́ша Лепельскага р-на*

*Расказвае Пяцюк Анна Аляксандраўна, 1929 г.н.*

## ЯК ЖЫЛІ Ў ВАЙНУ

Мы на Яна ко́ні па́сьвілі. Ехалі машыны нямецкія; партызаны зь лесу спалілі. Тады яны вярнуліся – кое-што асталосё – і прыехалі і, мі́ленькія маі́, як началі паліць – с то́го во канца вёскі і аж туда во да́лей да палавіны дзярэўні, жглі, білі людзей, усех чы́сто, каторых загналі пад мост – во дзе мо́сцік, бачыце, там вон? – на калені паставілі, тады [потым] іх забралі ў Навагрудак; каторых пабілі – даказалі, што партызанам памагалі. Адзін у нас вылез з ямы чалавек (але ён ужо ўмёр, Пяцюк Васіль Іванавіч), до́ўго-до́ўго ён поўс. Іх (людзей нашых) машынамі прывозілі і ставілі і с пулямёта білі. Ну і яны [немцы] паехалі ўжо па другія лю́дзі, а ён вылес, там такія кусьцікі былі, ён за кусьцікі – і нядзелі дзве ён дадому по́куль прыпоўс. Яны жылі тым вон, як Сьві́тась [воз. Svіцязь], а там такое зданіе было бальшое, польскае зданіе было, там растара́н быў, яшчэ кое-што, трохэтажнае зданіе было, ну яны там жылі. Знаеце, там ы партызаны. Там усюды лес, ну, хто-та даказаў. Вот аднаго брата забі́лі. А другі во гэдак спасся. А мы дак уцяклі. Мы тады каро́ву пасьвілі, ко́ні на Яна пасьвілі. Вядома ж, дзеці яшчэ, бягом па лесе. Матка Боска! Баяліся, што захво́шчуць [г. зн. заб'юць]. Вельмі ке́пско было, вельмі ке́пско. Вот так мы і жылі, так мы і перабі́ліся.

## АДКУЛЬ З'ЯВІЛАСЯ ВОЗЕРА СВІЦЯЗЬ

Мае́ мамы ўжэ бабушка раска́звала, што тут када-то было́ – го́рат, дзе гэ́то озера Сьві́тась. А патом как-то рэ́ско, проста там вада фантанам – і ўсё затапі́ла там, усё чы́сьцянько. Возера Сьві́тась назвалі.

## ПРА КЛАД

Можа гаварылі, што пат тымі дубамі нейкі рускі цар ехаў у залатой карэце. І там дзе-то пад дубам ён эту карэту закапа́ў залатую і забыў дзе. Дзе ш ты ўспомніш! І ніхто не ўзнаў. Шукалі, а дзе ш ты знойдзеш! Каб знаў, пат якім ду́бам – там жа ж многа было.

## ЯК ЖЫЛІ ПРЫ ПОЛЬШЧЫ

Пры Польшчы, я вам скажу чэсна, вельмі не гульта́ілі. Да пано́ў хадзілі, рабі́лі – наймалі. Во дзень паро́біш, пажнеш – ён табе зло́ты ці два, ці паўтара запло́ціць. А як хто гультай – дрэнно жылі́. І цяпер гэдак, і ўпярод гэдак, гляньце. Рас хазяін харошы, хазяйка харошая – і ўсё будзе добра. То скокам, то бокам – і неяк жа жывём.

Жа́лі сярпамі. Вот у ка́ждого была, вот прымерна два гакта́ры, паўтара гакта́ра по́ле. Ну ў адно́м кусочку сеюць ячмень, у друго́м сеюць пшаніцу, у трэцім картошку садзілі, а там дальшэ авёс сеялі – па кусочку, як хазяева [скажуць]. А тады сярпамі жалі – такі сярпо́к есьць, ведаеце сярпо́к? – ну вот, сярпамі. І жнём, вяжам у мэ́ндлікі – у снапочкі, снапочкі такія. А тады дзесяць штук ставяць у мэ́ндлік: дзевяць становяць, а дзесяты так ло́жаць [зверху] і накрываюць пакры́шачкаю.

Вязалі бараду́. Вот есьлі ў па́на – абвяжуць бо́раду там, дзе насо́к такі ў снапочка і сь цьвяточкамі ў вяночак саўю́ць яго. І тады ўжо пан прыходзіць – яму вешаюць... Вы знаеця, ніпло́хо было, ніпло́хо. У каждаго свой лясок быў, у каждаго і свой луг быў, усё чы́сьцянько [у значэнні 'поўнасць, выключна'] сваё – тады сваё было. Як, значыць, пост, і малака́ зьбіралі ў бочкі – это мая мама расказвала мне. Малако як пост (это шэсьць ня-

дзель пост), значыць, у бочкі зьбіраюць. А ўжо як Пасха, дык тады ўжо усяго – і мяса, і усё чы́сьцянько, людзі пааб'ядáюцца, жывать́і балелі. Еслі Пасха, па первы дзень хадзілі кукóльнікі [тут – 'валачобнікі'], сьпявáлі. Ужо хазяін вóткі вынóсіць ім, яі́чак, што мае. Вот адныя пройдуць, прымерна чалавек з дзесяць, тады другія пройдуць. «Вялік сьвятой нам дзень настáў» – хлопцы гэдак сьпявалі.

## ПРА ДАЖЫНКІ Ў КАЛГАСЕ

У нас яшчэ дажынкі былі. У нас так: кончым жатву, усе зьбярýцца, прыдсядáцель калхоза закóле кабана, перцóўка была, паставяць сталы, усе гуляюць, сьпявáюць. А зажы́нкі рэтко калі бывалі. Даўні́шнія людзі сьпявалі [жніўныя абрадавыя песні], хóраша сьпявалі. Выйдуць жаць (это мама расказвала), як запяюць, так аш!..

## ПРА ВЁСКУ ПАРЭЧЧА

Это ўсё Парэ́чча: вот там вот Кéлькі, там было шэсьць ці сем хат, далей гэто Бяльчы́цкія, там дáлей Пяцюкаўшчына, там мястэ́чко. Вот усё такімі кýчачкамі – тры кілóмэтры начынáя атсю́да во туда. Парэ́чча назвáлі так. Тут мянялі людзей на сабак, яшчэ купля́лі. Это ўжо даўным-даўно [было]. Тут усе кýпленыя людзі пазасéльваліся.

*Запісана ў 1999 г. у в. Парэ́чча Навагрудскага р-на*

*Расказвае Кіéня Надзея Аляксандраўна, 1924 г.н.*

### Лячэнне лішаю

Лішай выразáюць. Ест тут дзет – вóдзіць, вóдзіць [па лішаю], нейкі сучок вóзьмець такі, гаворыць:

Лішай, лішай,
Гаўнó мяшай

І патóм – стук эты сучóк разоў скóлька, і тожа памагáла, прападалі лішáі гэ́тыя.

*Запісана ў 1999 г. у в. Васілéвічы Навагрудскага р-на*

*Расказвае Праўдзік Аляксандра Канстанцінаўна, 1932 г. н. (ураджэнка в. Гóлі)*

У нас была вайна. І немец сільно убіваў ўсіх. Нас у Гóлі [назва вёскі] спалілі, а нікого ні забілі. Завязьлі нас у другія дзярэўні, паехалі. І тады людзі зьбіраліся, з вечара да дванаццаці часоў мушчыны стаўлялі крастэ́ ў дзярэўнях. А бáбы пралі і ткалі рушніке́ і вешалі на э́тыя крастэ́, і это ўсё каб за ноч зрабілі. І тады немец пракраціў біць нарóт. Это правільно, я то помню, ўжэ дóбро помню.

***

Это [гэты] крыш ставіў мой муш взамéн. Прыехалі немцы выбівáць, і дзяцей, і малы́х, і стары́х, усех паўбівáлі, на мóгілцах памятнік там стаіць. Як якое свята, так прыяжджаюць, вянке́ прывозяць. І ў тое место стары́х ні пусьцілі, маладых пазьбіралі і туды пазаганялі, хацелі іх вы́біць, на том месце, дзе крыш. А прыехаў такі немец, лысы, чорны, ну я ні была, ён [г. зн. муж – *В. А.*] раскáзваў, і стаў ґерґетáць. А перавóтчык прышоў да э́тых маладых, хлопчыкаў па васемнаццаць, па шаснаццаць, па дваццаць, уся маладзёш, кажа: «Ну, хлопцы, нас павязуць у Германію». І яны асталіся жывыя. І гэты крыш паставіў мой муш, во эты во хазяін, і там яшчэ адзін, яны ўтрох паставілі. А я яго ўсё ўбіраю, купляю цьвятэ́, краску эту купіла, пакрасіла, вянок за дзевяноста тысяч і рушнік. Рушнік то тут аннá чарнопыльская далá. Кажа: «Мы с Чарнобыля, я, Шура, дам рушнікá». Кажу: «Давай». Іконы я тут пакупля́ла. Вапшчэ́ пачці дзьвесці тысяч я аддала. Я абракáлася, і это я ўсё і ўбіраю гэты крэст. І бáцюшка я вызывала, яго высьвéнчваў. Сказаў: «Хто жэлáюшчый ідзе паза ём, пусь не мінáя, прóсіць у яго пращчэ́ння і перахрэ́сьціцца перад ім ужэ́». Это ў дзярэ́ўне крэ́сты далжны быць.

***

Вярніцеся мае го́ды
Хоць на кры́шку ў госьці.
«А мы не вярнёмся –
У цябе былі у хаці».
Трэбо замуш ні спяшаць,
Мужыка ні выбіраці.
А я выбірала, каго хацела,
А цяпер мая галоўка
Ды ніколі ні цэла.
Уцякала, уцякала
Церас перала́зы,
А ён мяне качаргой,
Ды чатыры ра́зы.

***

Да пайду я полем, лугам,
Дзе гарэ́ мой мілы плугам.
А ён гарэ, усё думае,
Што нелюбу жонку мае.

## АД БОЛЮ Ў СТРАЎНІКУ

Ты гэтак зрабі. Аўкаго́ру купі, бальса́на на машы́нку, і мёду купі, кап толькі такого, праўдзі́ваго. І это усё пазьліва́й, і ў слоічак, і накрый харашэ́нко. І хай ён пастаіць, кап пастаяло ты́дзень это ўсё. І тады па ча́йнай ло́жачкі пі гэтае лякарство. Ну трэбо аўкагору і гэтаго бальса́ну на машы́нку перакруці́ць, і мёт.

## АД ВЫПАДЗЕННЯ ВАЛАСОЎ

Ае́р ат станаўле́ння валасо́ў. Аеру многа ў нас. Як во́ласы выла́зяць, мый го́лаву. Карэ́нё накапа́й уво́сень, му́сі, у сенцябры́ яго трэ капаць, насушы́, і як мыіш го́лаву, вазьмі ў во́ду, як я дак у печку стаўлю, у печы выпа́льваю, яна нацягне, і

харашо́ ад галавы, ад станаўле́ння валасоў. У майго ста́ршага хлопца былі валасы́. Як быў у Чарнобылі – ён быў у салдатах, яго пасылалі спаса́ць тых людзей, і ў яго выпада́лі валасы́ кускамі з галавы. І гэдак во ён ўсё ўрэмя аерам мыў, і валасы ўстанаві́ліся. Аер, ён ве́лькі на распу́ці ж гэдакі расьце. Карэнё гэто вырывай, памый і сушы, то́лько ні на сонцы, нія́ко лякарство на сонцы ні сушыць, трэбо ў цёмным відзе, сонца выпякае ўсё, а ў цёмным відзе яно ўсё астаецца ў крэ́пасьці.

*Расказвае Праўдзік Уладзімір*

Некалі ў нас была, але вы не знаеце, на Ду́браўцы старушка, то яна бывала ў ма́і бярэ школьнікаў і ідзе зеллё збірае, і тады ў сячкарню зьмяшая, перарэжа, і вот, хто абраціцца да яе, яна усягда паможа, даст жменьку этаго зелля, загаворыць. Мне бок адымаўся, я павёс хлопца малого да яе, яна глянула мне о гэдак у вочы: «Ой, сынок, сынок, табе зро́блено!» І ўсё ўзнала, кажа: «Вы выпівалі, сядзелі з другам, ён вам ак наліў і вам зрабіў, штоб вы балелі». А я аб’ехаў усіх дактаро́ў і нідзе ні нашоў, ні пазнаюць балезьні. А іна пашаптала, праўда, дала жменьку этаго зелля, кажа: «Як паможа, шчэ прые́ць», але як памагло, ды ні паехаў больш. Ну яе цяпер-то німа́шака. А ўжэ нявестка ста́ла, а нявестка ні панімаіць таго зелля. А яна як май цьвіце, яна бярэ школьнікаў, просіць у учыцялёў і ходзіць: «Вот гэто рве́ця, вот гэто рвеця, вот гэто». О было! Яна тады бярэ і ходзіць па лесе, кругом, дзе найдзе это зеллё. І яна сабірая, я кажу, ў сячкарню прама перарэжа, і о гэдакія яны доўгія. І яна тады жменьку дасьць: «На, папа́р» і скажа што рабіць, і ўсё. Я кажу, мне як рукою адняло. І праўда, мы гулялі, былі хрэсьбіны, і ён: «Давай вып’ем, давай». Ну я знаў этаго чарадзея, і як выпіў, яна [жонка] нават крычала: «Не пі, не пі», а я, ну што ты, падвыпіўшы, я перакінуў... Вечар прыдзе – месца німа было. Вот табе і друх, умесце выпівалі усё ўрэмя, а на той мамент узяў во гэта і зрабіў. Я кажу, бок адымаўся, усё, і нідзе месца ні было, глаўны доктар тут у нас Халу́пка быў, і да яго екздзіў, кажа: «Нічого ні прызнаю».А прыдзе вечар, німа места. Вось с табою п’е і табе налівае! І зразу я тады прышоў дахаты, назаўтра мне плохо, не ведаў, дзе дзева́цца. А туды паехаў, на Ду́браўку, хворая дзіця па-

вёс. Хлопец гэдакі быў, ён сарваўсё, у школе вучыўсё, самы найбольшы быў.

***

Вось у вайну было, скажэм, асколкам [параніць – *В. А.*], шыпу́чка была, сам і ле́чыў. Этай шыпучкай заліе́ш – ана шыпі́ць і рану ачышча́е, і загоіцца, рас-два. А цяпер ёго ні відаць. Я ўжэ па бальніцах – і тое, і тое, а шыпучкі этай і німа. Іна́ пашыпі́ць, пашыпі́ць, каб это балело, ці што, так шыпі́ць, ано́, му́сі, унісцяга́е гэту грась, а цяпер ёго нічого не відаць.

***

Яны бачыце як зрабілі: Зэ́льву [г. зн. Зэльвенскі раён] расфарміравалі, не было раё́на, перадалі́ ў Сло́нім. А по́тым нешто Гродно заду́мало назад Зэльву вярнуць. Яна цяпер есь, район. І нас зноў назат. А мы сталі ўпро́ціў. І тут аўтобусы з Зэльвы. Папробуй трыццаць пяць кіло́мэтраў, а тут чатырнаццаць, дый пры бо́ку аўтобусы хадзілі. Цяпер мала ходзяць, а тады чатыры разы́ на дзень хадзілі. А цяпер няма́шака. А тады было́ харашо́. І, скажам, пе́шшу зайдзеш сюды ў Слонім, а туды ў Зэльву папро́буй трыццаць пяць кіло́мэтраў. І прыязжджалі, і мусіць нядзелі дзве му́чылі, усё агіці́равалі, каб да Зэльвы. А мы: «Не! Што хочаце там рабіце, но ў Зэльву ўжо больш ні пайдзе́м, у нас есь Слонім район». І яны патпіса́лі.

*Запісана ў 1998 г. у в. Нізы́ Слонімскага р-на*

*Расказваюць Шэндзік Яўгенія Паўлаўна, 1933 г.н.,*
*Ігнацік Вольга Восіпаўна, 1928 г.н.,*
*Ігнацік Надзея Сцяпанаўна, 1929 г.н.*

## НАЧНІЦЫ – «ХВАРОБА, КАЛІ ДЗІЦЯ НЕ СПІЦЬ»

Начніцы выліваюць. А я, бывала, прынясу палажу кары́ту эту, што купаюць, палажу дзіця пат карыту. А ён [муж] ідзець за дзверы, а я сяку на го́лаву. А ён кажа:

– Хто там сячэ?

– Начніцы.

– Сячы, сячы да трох рас, кап ні было іх у нас.

І тры разы паўтарыць.

Потым хадзілі во́ду браць. Со́нейко за́йдзе, каб ніхто ні стрэў, каб ні с кім ні аказа́ўся і нідзе ні пагля́нуў. Набраў с аднаго, са ўтарога, с трэцяго [калодзежа]. Тады прынясём верацяно, шыло, воду, нош і абнясём так вакру́х калыскі тры разы́.

## З жніўнай песні

З'бірайцеся, сарокі,
Ды на мой загон шырокі.
Сышліся вяночак ві́ці,
Да ўсе удовачкі сталі пе́ці.

*Запісана ў 1998 г. у в. Ашна́равічы Слонімскага р-на*

*Расказвае Жылінская Праскоўя Міхайлаўна, 1920 г.н.*

Мы ж, бывало, дзеці ў калы́сачку ды на поле носім і там паставіш тры калочкі, павесіш, асілім радзю́шку, а самі ірвем, ці жнем, ці капаем. Мы ж ні гэдак, як сёння ў калясках, на пле́чах насілі дзеці, у калы́сацці. О ця́шко было гадаваць! Сённі ніхто на поле з дзі́цем ні пайдзе́, у калясацці, па ру́ку і кача́е, а тады́ на плечы дзіця, калыханнікі, пад ру́ку ці радзю́шку ці брызент не́кі дастала да насіла, каб дошч ні мачыў. Ужэ насілі усё тыя калыха́ннікі, так і дожджык пайдзе́, то ўжэ і сама схаваесся і дзіця схо́вано. Калыханнікі – тры калочкі звязано, раставіш, павесіш гэту калысачку. Радзю́шка – як сёні адзія́дло. Радзюшкі тканыя былі. Тканыя і свае былі, а сёні ка́пай заву́ць, куплёну. А мы ш ткалі, тады ні было гэдакіх куплёных, адзіялка якое ўжо дзяшовенькае было цяжэй купіць, а сёні ўсяк ў харошум, у ватніх, у беленькум, с чахламі. Тады бядней жылі. Насілі ж рубашкі кужо́ўныя, ткалі, самы насілі. С ыльна́ – кужо́ўныя звалі. Ку́жаль – это ўжэ звалі мы самы сабе – ку́жаль. Это ўжэ прадзем таль. Это ўжэ прадзем то́ненько і снуем і тчэм на сарочкі сабе, палатно было такое – ку́жаль. Былі стаці́вы такіе, вот як стол шыро́ко, велькіе. І была гэдакая, зроблено, наво́й

звалі, это з галавою круціць і усаджваць туды ці накручваць гэтыя ніці. А ту́така другія, што рассоўваць. А тады ўжэ як с того на гэты ўкініш у ніт, у бердо, навільніцы тады ўжо эты павесяць, завяжам і тчэм. На панажэ́ станавіцца, пераступяць, а як палатно гэдако тоненько – на два панажэ, як чатырко́во – на чатыры панажэ́, як якія радзюшкі ці сярнічка́ нашыць. Панажэ́ – пад нагамі былі досачкі і гэдак папрывя́званы да нітоў тых, і гэдак ужэ ткалі. Сённі ні ткут нічого, ужэ усё паўвозілі, мае тыя стацівы да й спаліві, благенькіе былі, старыя, пабілі на дро́ва, бо ўжэ ні трэба. Нітэ́ – это знаеце, былі звязаные, ні́тку нада было аттуль працягаць у яго, як на два панажэ́ – два нітэ́, як чатыры – чатыры нітэ́. У ёлачку рабілася гэдак: з навоя того бярэш на пальцы на два нітэ́, у вадзін бок зайдзеш гэдак на два, а назат ужо адгэтуль бярэш і это выходзіць ёлачка на палатне. І пралі, а як жа ш. Калаўро́дачкі былі. Што рукамі, што – на калаўро́дачку. Яшчэ недзе калаўродачак той е ў мяне. Бывало прадзеш, скарэйе, то рукамі, верацяном, а это рас – от нацягні і нагою круці – і усё. І верацёны былі такіе ніве́лькіе, бывала на базары купіш, і сам іх хто ўмеў, рабіў. Усё было.

*Запісана ў 1998 г. у в. Шы́лавічы Слонімскага р-на.*

*Н. В. Драбудзька*

# ТЭКСТЫ З ГАВОРКІ ВЁСКІ КАШТАЛЯНАЎШЧЫНА ГЛЫБОЦКАГА РАЁНА

*Расказваюць Долгая Станіслава Антонаўна, 1922 г. н. і Долгі Іван Канстанцінавіч, 1923 г. н.*

## АБРАД ПАХАВАННЯ

Як пако́йнік паміра́іць ра́на – крэ́пка до́бра, усё бу́дзіць у гаспада́рцы вясці́ся. А калі́ памрэ́ць ве́чарам (хазя́ін до́му), то ўся́ скаці́на выдыха́іць, ду́жа ця́жка ўжы́цца. Са́мы ле́пшы дзень паміра́ць – субо́та, дзень Ма́церы Бо́жай.

Як памрэ́ць пакóйнік – яго адзяю́ць ва ўсё нóвае, кап лю́дзі блáга ні казáлі, і мóлюцца, кап с тагó свéту не хадзі́ў, бо пакóйнік сóрак дней без прэдзéлу, кап нічóга врэ́днага ні рабі́ў дóма. Атрáзу, як памрэ́ць, нáда наказáць у цэ́ркву, кап дáлі на званы́ – бо пакóйнік, пакýль не атзвóняць па ім, усё чýіць – і плач, і гавóрку. У хáце пакóйніка нáда дзіржáць два дні, бо бывáе, што чалавéк заснéць. Як прóйдуць два дні – вязýць на магі́лкі. Як вынóсяць с хáты, дык усё крáтаюць – і скацíну, і пчол, кап пóсля пакóйніка нічóга ні ўмірáла. І абсыпáюць зярнóм, кап вялáся гаспадарка. Як пахавáюць, сабірáюць усі́х вяскóўцаў, кап накармі́ць іх і памянýць пакóйніка. Нáда сабрáць усі́х, бо абіжáіцца пакóйнік, калі́ ня ўсі́м éсці дадýць. Пéршае, што ядýць – крупінáя кáша. Гэ́та кáша пакóйнікава. Гарэ́лку п'ю́ць тры чáркі. Патóм, на другі́ дзень, пóсля памі́нак, нáда ўсё памы́ць у хáці, кап пакóйніку на тым свéці былó лёхка і чы́ста. Як памрэ́ць хрысцья́нін, то ягó харóняць на магі́льніку, чараўнікóў на магі́льнік не паскáюць. Як памірáіць чараўні́к, то кап лёхка памёр, нáда ямý ў хáці страхý прадзірáць. Чараўнікóў і ві́сельнікаў харóняць за магі́лкамі, і бáцюшка па іх ня мóліцца. І хавáюць пакóйніка тóлька пóсля абéду.

***

У маі́ – літáння да Мáткі Бóскі. Стáвім абрáз, і сабірáімся і мóлімся. Катóрая бáба баявéйшая – тáя мóліцца пéршая, мы падпяём. Цэ́лы мéсяц мóлімся і пяём. Прóсім мы уражáю. А с пéршага наябрá па пéршае дзікабрá мóвім ружáнец да Мáткі Бóскі, пяць раз па дзéсяць здрóвэсць і тóжа пяём. Мóлімся, што нам Бог вы́расціў уражáй.

***

Пры пáну такáя каплі́ца былá. Пан Быхóвец пастáвіў каплі́цу, вы́мураваў сабé грабóвец падспóд, кап ён там пóсля смéрці ляжáў. Абсадзі́ў дрэ́вамі, стаяў грабóвец гадóў тры́ццаць, а мы там Бóгу малі́ліся. Зрабі́ў сабé думаўё палíраванае, усё там былó – і падýшка, як палажы́ць. І тут як наляцéлі ў тры́ццаць дзівя́тым камуні́сты і ягó вы́гналі. Грабóвец застáўся. І гэ́ту каплі́цу разбуры́лі, дрэ́вы пазразáлі, а пан старэ́нькі, гадóў вó-

семдзесят меў, яго́ вы́гналі з пала́цу, ні судзі́лі, нічо́га. Ён у дзя́рэўні ў мале́нькую ха́тку перайшо́ў. У Польшч радня́ яго́ забра́ла. Ён на даро́зе памёр. Астанаві́лі по́езд, далі́ гро́шы людзя́м, кап пахава́лі. Пахава́лі яго́ на даро́зе ля касцёлу, паста́вілі крыж і патпіса́лі, што тут ляжы́ць Болесла́в Быхо́вец. А ў то́е красі́вае думаўё палажы́лі ні́шчага чалаве́ка з Расе́і. Пан тры́ста пяцьдзеся́т гекта́раў зямлі́ меў, цаге́льню, млын харо́шы. А нячы́стая сі́ла прыйшла́, усё разары́ла і пайшла́.

***

Мае́й ба́бушцы было́ сем гадо́ў, як скіда́лі прыго́н. Але яна́ была́ з шля́хтаў і на прыго́н ні хадзі́ла. Як дзялі́лі зямлю́, шля́хце ні да́лі, і яны́ пае́халі на запа́шша. Як скіда́лі прыго́н, яна прыйшла́ да ма́ткі і ка́жыць: "Ма́ма, ма́ма, чаму́ гэ́та пан хава́ецца?" – "Гэ́та ж сёння прыго́н скіда́юць. А табе́ сёння сем гадо́ў спаўня́ецца". Прыляце́ла жанда́рма, баб с по́ля го́няць, а яны́ бая́цца, ня йду́ць...

***

Ікра́з жылі́ пры калхо́зі, як ране́й жылі́ прыго́ннікі. Пры прыго́не тры дні ў нядзе́лі на́да рабі́ць у маёнтку па́на, тры дні до́ма. За тры дні – лу́бку мукі́. Во́сем кілагра́м выхо́дзіла. А бальшавікі́ – па сто грам дава́лі на дзень. Вот табе́ і прыго́н. Дык які ле́пшы?

***

Пан [у часы прыгона] быў благі́. У яго маёнтак вялі́кі, людзе́й многа. І што хаце́ў, то рабі́ў. Яку́ю хаце́ў па́ру – ту́ю разбіва́ў, яе да сябе́ бра́ў. Заду́мае забі́ць – ка́жа: "Лезь на дрэ́ва і куку́й, а я буду стра́ляць – ці пападу́?" Ну, я б яму накукава́ў! Іскі́м хаце́ў, таго́ жані́ў. Такі пара́дак быў. Дурны́я мужыкі́, рабі́лі ў лапцёх і ўсё. Інцілігі́нцыя падняла́ся.

***

Маскалі́ – гэ́та стараве́ры. У іх ня ву́чацца на ба́цюшку, а як і́хні бацю́шка памрэ́ць, тады́ прыхо́дзяць, хто мо́ліцца, сабі-

ра́юцца кругóм сталá, скóка палóжана, і кладýць барóды на стол і пускáюць блахý. У чыю ускóчыць – той і поп.

***

Даўнéй дзяўчы́на як вы́йдзіць зáмуж – нóсіць чы́пчык. Кап былó я́сна, што жанчы́на замýжняя. Лéтам у чы́пчыку, а зімóй на ягó платóк, так, каб чы́пчык быў відáць. Чы́пчык бéленькі, с карýнкамі, завя́заваўся на бáнцік пад барадóй [насілі да 1947 года]. І харані́лі – маладýю ў цвітáх, жанчы́ну – у чы́пчыку.

## АБРАД ПЕРШАГА ВЫГАНУ КАРОВЫ Ў ПОЛЕ

Як выганя́юць карóву на пóле, кладýць на парóзе два яйкі́, каб яна ішлá пасярóд. І замкóм абмыкáюць (абысці́ кругóм карóвы з замкóм у рукáх і замкнýць) – ад ваўкóў. Тады́ свéнцяць вадóй, каб нічóга ні стáлася і вужáкі ні кусáлі. Вéрбай свянцóнай выганя́юць ад благóга вóка. Вéрбу свéнцяць за нядзéлю да Вялі́кадня (на Вéрбнай нядзéлі).

## КАЛЯДЫ

Каля́ды – чыславóе свя́та. 25 дзікабра. На Каля́ды ў 12 нóчы Хрыстóс нарадзі́ўся. Едуць усе на 12 нóчы на малéбен. У касцéле зрóблена на алтары́ хáтка, там ляжы́ць Ісýс Хрыстóс у калы́сачцы, і ўсе, хто прахóдзіць, далжóн кáжды пакалыхáць яго. Пяюць Калядý:

Ды́сень Хры́стус родзі,
І на свят пшыхóдзі,
Цёмна ноц яснóці
Промені́стым брóдзі.

Aniol pastežom muwil: Chrysstys
sie nam narodzil w Betlejem.
Miastewku clawiedowem pokolenie[1].

А пóсля касцёла хóдзяць і калядýюць. Запрагáюць каня́, бярýць дзéўку ў бéлым халáце як Снягýрку, надзяюцца ва

[1] Запіс песень зроблены С. А. Долгай.

ўсякую адзёжу і ёздзюць па дзярэўнях, пяюць. Людзі іх дораць. Ездзюць аж да Хрышчэння (2 нядзелі).

## ПРЫКМЕТЫ

Цёраз нож ня еш – злая будзіш.

Кап каровы вяліся, нада прадаць яе [сімвалічна] другому. А грошы – у цэркву, на афяру.

Кап былі адны куркі, курэй нада садзіць у пятніцу.

Агуркі садзяць у панядзелак, кап многа было.

Плявацца нільзя – на тым свеці гарачую патэльню лізаць будзіш.

Кусанікі нільзя астаўляць нанач – будзіш сніць, што з гары валішся.

Калі дзяўчына сніць, што бацян ляціць – замуж выйдзіць.

У дарогу ў панядзелак не кідайся – нешчаслівы дзень.

Нос чэшацца – гарэлку піць

Калі рабёнак спужаіцца, нада мець лён (семя), паставіць рабёнка, абвясці кругом тоненькім слоем і запаліць.

## ХРЫШЧЭННЕ

Посля Новага году чэраз пяць дней ходзюць у цэркву і свенцяць ваду, ідуць на возера з бацюшкай, прасякаюць пролуб і ён свенціць ваду, і людзі ўсе бяруць ваду. Гэтай вадой у хаці свенцяць, кароў пры выгане асвенчваюць. Даюць (у цэркве) крэйду свянцоную і ў гэты ж дзень дома стаўляюць хрэсцікі на дзвірах, вокнах – выпісваюць Каляды.

***

Памёр пакойнік, даўнёй вазілі іх нанач у цэркву, кап ноч стаяў. Завязлі, а назаўтра хавалі. Прыехалі па яго, а яго за ноч чэрці выцягнулі з думаўя, ды цягнулі вон. І прыцягнулі аж да дзвярэй, а далей ня ўспелі. Як адчынілі дзверы, ён і ўпаў пад ногі. Усе папужаліся, а бацюшка не пусціў яго на кладбішча, прыказаў у балоце тапіць.

***

Жыла́ ў нас вядзьма́рка з Расо́н. Стая́ць на по́лі каро́вы і ні даю́ць малака́. Але была́ ба́бушка, што атрабля́ла, са Смале́нска. Узяла́ хле́ба, з двух бако́ў адрэ́зала і на акра́йцах паста́віла храсты́. Сказа́ла ўто́ркнуць над каро́вай у хле́ве. І прайшло́.

***

Ране́й лю́дзі, ой, цёмныя былі́! Была́ ў нас така́я Юстачка, жыла́ з ма́ткай. І прывязлі́ бальшавікі́ ў маёнтак кіно́. Прыйшлі́ мы па яе, ста́лі і ма́тку звацць – "По́йдзем, цёця, паглядзі́м, кіно́ дарма́ пака́зваюць". А яна́ нам: "Дурны́я вы, гэ́та вам ачму́р даю́ць, чорт хво́сцікам кру́ціць, а вам і выдае́цца ро́знае".

***

Мая прапраба́бушка памёрла і до́ўга з таго́ све́ту хадзі́ла. І то́лькі яе сын чуў, а бо́лей ніхто́. І хадзі́ла, хадзі́ла, а тады́ сынава жо́нка ста́ла пыта́цца: "Чаму́ но́ччы саба́ка вы́е? Ці не мату́ля гэ́та хо́дзіць?" А ён стаў каза́ць, што чу́е, як ма́ці хо́дзіць. Раз падпілнава́ў. Завы́ў саба́ка, ён тады́ настро́іўся, запалі́ў лучы́ну і пайшо́ў. А яна прыйшла́ ў скла́дзік і капу́сту е́сць. А ён пыта́ецца: "Ма́ма, што ты тут ро́біш?" А яна ка́жа: "Я не адна́, нас 12 чалаве́к [бачыць нябожчыкаў маглі толькі кроўныя родзічы]. Тады́ прасі́лі ксяндза́, каб памалі́ўся. Як памалі́ўся, так і пераста́ла яна́ хадзі́ць.

***

Жылі́ лю́дзі ў адно́й дзярэ́ўні, і па нача́х лётаў па по́лі не́йкі конь. Чалаве́к но́ччы каня́ падпільнава́ў і сту́кнуў па́лкай. А той конь быў ня конь, а зо́лата зачарава́нае лётала. Як сту́кнуў, так зо́лата і пасы́палася. І ён набра́ў цэ́лы гаршчо́к. А гэ́та зо́лата было́ закля́тае. Як стаў купля́ць буды́нак, у тым буды́нку ўся сям'я́ памёрла, а сам ён захварэ́ў, ру́кі-но́гі паскру́чвала, хадзі́ў мі́ластыню прасі́ў.

***

У Зале́ссі гэ́та бы́ло. Хадзі́ў ма́ліц бага́ты да бе́днай дзяўчы́ны. Ну і сва́таюць яму́ бага́тую дзе́ўку. А ён усё да бе́днай. І

падарыў ей сярэбраны крыжык. А багатая пра ўсё знала, ды і сястра за яго перажывала. Вот рашыў ён жаніцца на беднай. Паехалі яны вянчацца. А сястра з багатай згаварыліся. Багатая акрылася хусткай, пад'ехала да цэрквы і ўкрала жаніха, ды павязла ў другую цэркву – вянчацца. А бедная зняла крыжык, пераламіла і кінула на зямлю. І як тока ў таго мальца першы радзіўся, памёрла яго жонка. А ён бедную усё-такі ўзяў. І скольки яна жыла, яго сястру на парог ні пусціла.

***

Чараўнікоў найболей было ў Ваўкалашчыне на Мядзельшчыне. І там быў чараўнік, багата жыў прыбагата. І стаў у дзярэўні скот шчызаць, авечкі найгорай. Пасліся яны ля лесу вялікім стадам. І вот як ні дзень – прылятаіць з лесу воўк і хватаіць то адну, то дзве авечкі. І ніхто нічога не мог яму зрабіць, хоць ты што. Ну а раз сабраўся чалавек у лес венікі вязаць. Аж відзіць – стаіць каля края поля чалавек, сасед ягоны. Узлез мужык на дрэва і глядзіць, што яго сасед рабіць сабраўся? А той дастаў два нажы, уторкнуў у зямлю, перакуліўся праз іх, стаў ваўком і пабег да стада. Прынёс авечку, паляцеў па другую. А мужык злез з дрэва і пераставіў нажы (памяняў месцамі). Вот прынёс воўк другую авечку, кінуў у кусты і перакуліўся праз нажы. Стаў чалавекам, але ззаду – воўчы хвост. Куляўся-куляўся, а хвост ёсць і ёсць. Засунуў яго ў штаны і пайшоў дамоў. А мужык як вярнуўся ў дзярэўню, расказаў усім, што ён відзіў. І рашылі людзі праверыць, ці праўда гэта. Нацепліў адзін чалавек лазню, ды і завець таго чараўніка мыцца. А той аднекваецца – і нездароў, кажа, і мыўся нядаўна. Тады сабраліся мужыкі і заставілі чараўніка раздзецца. Як увідзілі хвост, то збілі на горкі яблык. С той пары авечкі прападаць перасталі. А хвост у яго пажызні застаўся.

***

У Браславе, каля Нарача, дык там тожа быў пан-чараўнік, яму чэрці ўсё рабілі.

Ніколі гэты пан Богу ні маліўся і ніколі не хадзіў з людзямі зярно сваё дзяліць (спярша людзі дзялілі зярно напалавіну, палавіну сабе, другую – пану). Вот сваё зярно звезлі і за панава ўзяліся. Возюць-возюць, а яго ўсё ня меняіць і ня меняіць. Што

за дзень звязу́ць, то но́ччу зноў пая́віцца. Се́лі рабо́тнікі ве́чарам і ста́лі пілнава́ць. Но́ччы прыляце́ў вялі́кі змей з я́сным хвасто́м і як махну́ў ім – зярно́ пасы́палася. Лёта̀ў ён усю́ ноч, вялі́кую ку́чу зярна́ насы́паў. Удзе́нь пайшлі́ рабо́тнікі з тапара́мі да па́на, а ён сядзі́ць з кні́гай, чарце́й вызыва̀іць. Ста́лі рабо́тнікі кні́жку сеч, а яна́ не сячэ́цца. Як сту́кнуць тапаро́м па кні́жцы, то шра́м не на ей, а на па́ну. Стаў тады́ пан прасі́цца, што бо́лі так рабі́ць ня бу́дзіць. І пра́ўда, бо́лі зярно́ не паяўля́лася.

***

Мая ба́бушка як за́муж зайшла́, дык у курно́й хаце жыла́. Тады́ ко́мінаў не было́ – ду́малі, праз ко́мін дух выхо́дзіць. Як заце́плюць печ, усе кладу́цца на пала́ці гало́вамі ўніз, паку́ль дым со́йдзець. Нясу́ць е́жу, а ў мі́ску – боўць кусо́к са́жы. Другу́ю бяру́ць...

***

У Канстанты́наве быў ду́жа бага́ты пан. І наш быў бага́ты, але́ пе́рад тым не зраўня́цца яму́! Які́ ў яго́ быў ка́менны пала́ц! Адны́х пакаёвак сем чалаве́к. Была́ ў яго́ канто́шня, сырава́рня. Сыры́ ўся́кія рабі́лі, прадава́ць вазі́лі на кірма́ш. Што гро́шай ён меў! Бро́вар свой быў. А як памёр, яго па́ні за не́йкі год усё прапіла́, сама́ піла́ і ўсіх паі́ла. Як свя́та – па́ні і ўся дво́рня на кірма́ш е́дуць. Усё прапіла́. Праз год забра́ў яе маёнтак жыд, а яна з ко́шкай у мале́нькай ха́тцы сядзе́ла. Чаты́ры гады́ сядзе́ла. А по́сля прышлі́ бальшавікі́. Жыда́ сасла́лі, маёнтак разбуры́лі. Мост быў ду́жа красі́вы, да маёнтка, быў такі руча́й пракапа́ны. Спалі́лі той мост, руча́й заро́с. А па́ні брат у Германію забра́ў.

***

Чалавек памёр малады́ я́шчэ. І як по́йдзеш па ваду ўдо́світкі, ён даганя́ў і лавіў. Ні было́ ра́ды із ім. Узялі́ яго́, вы́капалі, атрэ́залі галаву́. А ён тады́ без галавы́ лётаў і галаво́й атрэ́занай біў усі́х. Тады папрасі́лі ксіндза́, ён яго звіза́ў (рукі), памі́жды ног галаву́ палажы́ў, і тады́ переста́ў ён хадзі́ць, а то ра́ды ні было́.

## ЯК ЧОРТ У ЧАЛАВЕКА ЎЛЯЦЕЎ

Я яшчэ́ малы́ быў, дык ві́дзіў, як вязлі́ чалаве́ка на кані́ звя́занага цапа́мі [ланцугамі]. Мы глядзі́м. На ву́ліцы ка́жуць: "У ім чорт сядзі́ць, у чалаве́ку". І вот прывязлі́ да цэ́рквы, у Асі́навы Гарадо́к, там быў вялі́кі кірма́ш Найсве́ншы Па́нны. І вот стаў ба́цюшка малі́цца над ім, а чалаве́к гавары́ць ня мо́жыць, то́лькі рот разі́нуў, а с сярэ́дзіны не́хта крычы́ць: "Баю́ся, баю́ся! Пусці́це мяне́ пад асі́навую кало́ду каля́ цэркві!" Пайшлі́ глядзе́ць, а пат кало́дай стары́ чалаве́к спаў. Гэ́та чорт хаце́ў у яго́ пераско́чыць. А productiveды́ ста́лі каза́ць:

– Атку́ль ты бра́ўся?

– Ён ваду з кало́дзежа піў, я ў яго ўско́чыў.

– Выла́зь!

– Я хоць па́ліц ме́зены адарву́, але вы́скачу.

І вы́скачыў, па́ліц адарва́ў. А чалаве́ку нічо́га, ён уста́ў і пашо́ў. Во за гэ́та як падыхо́дзіш ваду́ да сту́дні піць – перахрысці́ся.

## ЯК БОГА ХАРАНІЛІ

Як ба́бушка была́ маладá́я, яны́ жылі́ ў Мя́дзілі. А ў Будсла́ўі быў вялі́кі з'езд у цэ́ркві, з'ізджа́ліся атусю́ль-атусю́ль. Дык ксёндз малі́ўся і прасі́ў людзе́й: "Памо́лімся цяпе́р за апамянта́нне Мярэ́цак". Што не́як было́ ні прае́хаць праз бор – убіва́лі. От былі́ благі́я лю́дзі. Хі́рды іх прызыва́лі.

У Мярэ́цкіх, гэ́та я ў шко́лу хадзі́ла, 33–34 год, ішла дзяўчы́на по́льская ды за ру́скага, і ксяндзу́ гэта ні панара́вілася. А ён даў ей абраз с касцёла. Ён прыязджа́ў да нас у шко́лу, і сказа́лі яму́, што ідзе́ць яна́ за ру́скага. І ксёндз зняў той абра́з і пабі́ў яго́ – шкло́ аб стол разбі́ў, іко́нку забра́ў і павёз. А там, у Мярэ́цкіх, былі́ гэ́ткія ма́льцы, та́йнікамі былі́, шпіёнамі ў Расе́ю хадзі́лі. І як сказа́лі ім пра гэ́та, дык я́ны наду́малі, што ксёндз Бо́га забі́ў, а яны́ пахава́юць, так і сказа́лі: "Ксёндз Бо́га забі́ў, а мы пахава́ім". Ну і зрабі́лі думаўё і зрабі́лі з гарбуза́ галаву́ чалаве́ка, во́чы вы́разалі, закры́лі і вязлі́ ў Мярэ́цкія на кла́дбішча хава́ць. А тут у Прэ́ліве жыў по́льскі маёр у адста́ўцы. Ехаў у Глыбо́кае на кані́ і спатка́ўся з імі. Абы́чна, як пако́йніка вязу́ць, ні пераязджа́юць, ні ззáду ні абміна́юць, ні

спéраду, далжны́ стая́ць. І ён зняў ша́пку, каня́ адзéржыў і стая́ў. Павязлі́ на кла́дбішча, тады́ паéхаў. А патóм ста́лі смія́цца, што Бóга хава́лі. Дык да суду́ дайшлó. Дык паўціка́лі ты́я ма́льцы за грані́цу, у Расéю.

***

Як даўнéй канча́лі жы́та жаць, дык вілі́ вянкі́ і паясы з жы́та і ў жы́та ўплiта́лі цвяты́. І нясу́ць, пяю́ць і надзяю́ць па́ну на галаву́, а ён тады́ застóлле рóбіць. Гарэ́лкі, заку́скі стаўля́іць, і гуля́юць. А як зрабі́лі гэ́дак Калóдзічу [старшыні калгаса], дык вы́ругаў і сказа́ў, што як жабракі́. І, барані́ Бог, нільзя́ былó пія́ць на жні́ве.

*Ф. Д. Клімчук*

## ТЭКСТЫ З ШВЯНЧОНСКАГА РАЁНА (ЛІТВА)

У чэрвені 1976 г., знаходзячыся ў складзе навуковай экспедыцыі, якую сумесна праводзілі Інстытут мовазнаўства імя Якуба Коласа АН БССР і Інстытут літоўскай мовы і літаратуры АН Літоўскай ССР, я наведаў у Струнайцiскай апілінцы (сельсавеце) Швянчонскага раёна Літвы в. Чычалі (літоўск. – Čyčẽliai) і в. Ахвярышкі (літоўск. – Akviẽriškė). У гэтых вёсках жывуць пераважна літоўцы. Але яны валодаюць і беларускай гаворкай, многія пяюць як літоўскія, так і беларускія, а часам і польскія песні.

У в. Ахвярышкі я запісаў шмат тэкстаў ад Саламеі Вінцэтаўны Паукшта. Саламея Вінцэтаўна нарадзілася ў в. Талейкі (літоўск. – Toleĩkos) той жа Струнайцiскай апілінкі Швянчонскага раёна. Выйшла замуж у в. Ахвярышкі. У в. Талейкі жывуць пераважна беларусы. Саламея Вінцэтаўна таксама беларуска. Муж яе літовец. Да замужжа, жывучы ў Талейках, Саламея Вінцэтаўна засвоіла многа беларускіх песень. Большасць з іх яна пераказала мне ў 1976 г. Усяго ад Саламеі Вінцэтаўны я запісаў 2 беларускія апавяданні, 54 беларускія і 5 польскіх песень. У в. Чычалі я запісаў песні ад літоўкі Рымаш Паўліны Антонаўны. Тры з іх беларускія, адна польская. Ад літоўца Рымаша Ёзаса Адамавіча з Чычалёў запісаў адну беларускую прыпеўку.

*Расказвае Саламея Вінцэтаўна Паукшта, 1903 г. н.*

Ці светла, світаець,
Ці зара займаець?
А ці мой мілы, ці галуб сівы
Коніка седлаець?
Осядлай, мілы, коня,
Осядлай варанога,
Паяжджай, мілы, пакідай, мілы,
Мяне маладую.
Пайду я да броду
У крыніцу па воду.
От і стану я, от і гляну я,
Ці харошаго роду?
Роду я урадліва,
На ліцо прыкраслiва,
Я харошая, я убраная,
Мая доля нешчасная.
У полі азерцэ,
Там плавала вядзерца.
Прыдзі, міленькі, мы парадзімся,
Мая мілая сэрца.
Ты пойдзеш гарою,
А я даліною.
Я сама знаю, мне людзі кажуць,
Што с табою разлучуся.
Ой выйду я ў сені,
На ґанак нахілюся.
Я сама знаю, мне людзі кажуць,
Што с табою разлучуся.

***

Як я ў маці была,
То работніца была,
А як замуж пашла –
Прыгультаілася.
Па вадзіцу пашла –
Прызабавілася.

А кісель у печы
Выкіпеў, кіпючы.
А свёкер на печы
Ашалеў, крычучы.
А свякроўка на палу,
Памагаючы яму.
А залоўка на лаве,
Памагаючы маме.
Дзевярочак праз парог –
Ён усіх перамог.
А мой мілы за сталом
Ні пры сём, ні пры том:
«Мая мілка, прывыкай,
Праз аконца уцякай!»
«А чорт яе уцячэць:
Як дагоніць – засячэць!»

***

Пайду я долам, даліною,
Ці не знайду калінкі з вярбою?
Устану я калінку ламаці.
Бяда ж мая – не родная маці –
Ні вялеіць мізарачкі браці,
Да й вялеіць багатай шукаці.
Багатыркі валы да каровы,
Мізарачкі – чарненькія бровы.
Багатыркі – сукні, гайдамашкі[1] ,
Мізарачкі – кашулькі, сярмяжкі.
Багатыркі валы паздыхалі,
Мізарачкі броўцы не зліналі.
Багатырка сукні панасіла,
Мізарачкі сярмяжкі прасіла.
Багатыркі – караль[2] шыя гнецца,
Калі мая душа не хінецца[3] .

[1] Гайдамашкі – дарагія сукні.
[2] Караль – пацеркі.
[3] Пададзена *вяснушчая* песня: *вясной пяялі, вясной пяецца.*

***

Вілавата (у вілах) сосна,
Вінавата сёстра (2 разы),
Найвінейша маці –
Аддала далёка (2 разы),
За Дуйна-глыбока.
Ні сама прыедзіць,
Ні мяне папросіць,
Толька прысылаіць
Мнейшаго брацютку,
Што с каня не злезіць,
Варот не адставіць,
Дзверцаў не ачыніць.
Толька мяне пытаіць,
Ці ўгадзіла свякроўца,
Свякроўца, свёкеру,
Дзеверу, залоўца?
«Свякроўцэ ўгадзіла –
Вадзіцу насіла.
Свёкру угадзіла –
Кашульку памыла.
Дзеверу ўгадзіла –
Коніка вадзіла.
Залоўцы ўгадзіла –
Касіцу часала».

***

Былі два браты ў бацькі і ажаніўшыся абодва. І адна сынова ўмела хлеб пякці, а другая – не. Сірата была, маткі не было, і не ўмела. Ну і прышла свякроўка – што дрэны хлеб. А свёкар: «Чаго ты бурчыш? Памучыцца і навучыцца. А хлеб ні нявеста, які спячэ, такі з'есца». Тады паехала да цёткі ў госці з мужыком, каторая не ўмеіць хлеб пячы. Цётка пытаецца: «Ну як табе там ёсць?» – «Цётачка, добра было б усё – хлеба пячы не ўмею. Свёкар добры, а гэтая бурчыць і бурчыць». – «А як ты, дачушка, робіш хлеб?» Кажа: «Замяшу і печ пацяплю». – «Не, – кажэ, – дачушка, замясі і пастой, крыж зрабі, накрый. Тады як падоймецца, дыра хлеба зарасце, тады пацяпляй печ». Яна, гэтую, паставіла хлеб, села, прадзець. А свякроў: «Чаго яна не цепліць

печ?!» А яна ўстала, паглядзела, хлеб ужо вырасшы – пацэпліла печ. Як спякла хлеб, то пух-пухам, хоць ты акно атчыні, то як дмухнеш, то паляціць. Моцна пурхны хлеб. Свёкер кажэ: «Во відзіш, памучылася – і лепшы хлеб пячэць, як першая сынова».

*Расказвае Рымаш Паўліна Антонаўна, 1924 г. н.*

Сюды-туды дзве сцежачкі,
Трэця у саду.
Жылі-былі дзве сястрыцы,
Яны шчаслівыя.
А трэцяя – гарутніца,
Яна за імі.
«Вы пойдзеце у садочак –
Завіце мяне.
Вышчыпніце па яблычку –
Шчыпніце і мне.
Вам там дадуць есці-піці –
Спомніце мяне».
Яны елі, яны пілі –
Забылісь мяне.
Толькі адна маць радзіма
Спомнула мяне:
«А гдзе ж наша гарутніца
Ў чужой старане?
А ці жывець, ці гаруець,
Ці віно-мёд п'ець?»
«Я й жыву, я й гарую,
Мёд-віно не п'ю.
Як я выйду на вулачку –
Трава-мурава.
Нету маёй радзімачкі,
Аткуль я сама.
Напішу паперачку,
Пушчу на ваду:
Плыві-плыві, паперачка,
Ў маю старану.
Ды й паплыла паперачка
К матулі двару.

А ў матулі ва дворыку
То белы цвет.
А мне маладой
Немілы свет».

*Расказвае Рымаш Ёзас Адамавіч, 1908 г. н.*

Каб я меў хадакі
І анучы белы,
Так паехаў бы ў сваты
Да шляхцянкі смела.

*Л. П. Кунцэвіч, Т. М. Трухан*

## З ГАВОРКІ ВЁСКІ ВАСІЛЕВІЧЫ НАВАГРУДСКАГА РАЁНА

*Расказвае Стэфановіч Галіна, 1929 г. н.*

Во тока што пашóў нéдзе пат хлеў мой мужык. Ён нéмы, а на нагах мазалі, а на рукі геты паліатрыт. Бог сцярох, німа дзяцей.

Кроўку дзержымó шчэ, кабанчыка, курэй. Карову кажды сваю па вóчарадзі пасе. Во геты канец пака захіляецца туды – адна вочарадзь, а там ужэ другая вочарадзь. Не, паасобку не, хто б гэта кажны дзень выхадзіў бы.

У гародзе наўдалýю садзім, што папало, а вырасце, ні вырасце... Гуркі во кала вуліцы сохнуць. На нас во дурняў бог і дажджу ні дае. Во тая бабка, што памерла, казала: «Так было яблыкаў, сыпаліся, як мост». Капалі во беднуй дол, нідзе сырога пяску.

У калхозе. Дзе ж мы былі ніўдалые? Як хто на ферме рабіў, то зарабіў пэнсію. А на гэтых палявóдчаскіх – ярунда. Зарабіла тры мільёны ўсяго. Гэты месяц палучыла тры, а тыя... Я шчэ двох ні палучала, а хто на ферме – па дзевяць палучаюць. Шчэ шчасце, што сваю, во пака можам, карову трымаем. Так папробуй пражыві – тры мільёны. Пойдзеш да аўталаўкі, больш як

дзвесце тысяч пакінеш. Тока хлеба бярэш. Эканомім, хаця каб да другога месяца дацягнуць. Даюць троха сена на карову. Але не дай бог гэтага ўжэ давання. Як дадуць там гэтага асату́ ўжэ, ах мае вы дзяўчатка. Дзе якія пляменнікаў просім касіць. Дзед яшчэ троха косіць кала хаты, далёка хадзіць ні можа. Каб вам ні расказаць – мазалі на нагах, брызянтовікі і то ціснуць. Дзе мазоль навярху – выразаў і паказвае мне, дзе выразаў (дзед не́мы). І пат сподам мазалі і навярху.

***

Я ж у руку́ ранена (у вайну). Я ж на полі гной з братаваю раскідала. Я жыла на хутары. А нейкія, пярун іх, дзяўчатка, ведае, белыя шчэ былі. Ішлі яны на Альхоўку. А нейкі шчэ з Бярозаўкі вёз на мельніцу, махнуў нам, што гэтыя ідуць. А каба ж мы, дурные, ды стаялі, а мы, там быў зруб, і паляцелі. Дык яны, як увідзелі, што нешта рушыцца і пусцілі (пачалі страляць) пат той зруб. То братавай нічога, а мне руку́. То шчэ шчасце, кажуць, што пакінулі. А не атнялі. А сусед гу́кнуў і прыехаў бацька забіраць, мяне палажылі на воз і павезлі ў Бярозаўку. (Ні ведаю, чаму цяпер гной вілмі́ разбіваюць, а тады ж – рукамі). Ні далі быць у Бярозаўцы і павезлі. На анной машыне цэла машына немцаў села, а на другую – мяне. І тата. Павезлі ў Ліду, палажылі ў Лідзі і лячылі. После ўжэ атступаюць тые немцы, божэ мой божэ, а мама ўжэ сядзела пры мне. А я ж ні магла ніяк. Мама кажэ ж доктару: «Паночку, я ж ні маю грошай тут за сябе заплаціць». Ён шлоп маму па плячах і кажэ: «Баба, баба, цябе ніхто ні пытае». Палажылі мяне неек ужэ. Мая сястра была ў Дакудаве замужам. А яе свёкар прыехаў і на воз і павезлі. Прыехалі да сястры, туды ўжэ, у Дакудава. А тады сюды перавезлі. А тады тата вазіў усё на перавязку. А после ўспакоілася ўсё, то вазіў ўжо ў Бярозаўку.

***

У шэйдзесят сёмым замуж пашла. Васілеўскіе ж абодва. Я ж на хутары жыла. Абодва кашалапые – ніўдалые. Ён бы мяне ні браў, каб быў акуратны (ні калека), а я, каб была з рукою, той ні пайшла б за яго. Але ж ён ніўдалаваты і я – так і

сышліся. Ён ні гаворыць і ні чуе. Ён з дзенства, кажэ, спалохаўся натта. Малы і гаварыў, і чуў, а после захварэў і ўсё.

Як жыла на хутары, то каноплі сеялі, вожы з іх вілі, то нейку марташку тата ўе, тады ўціскаць жэ сена, вазіць коньмі.

Проса мы самі сеялі на хутары. Я помню яно расце якраз, як авёс. І неку сачэйку сеялі. Хрэн ніхто ні садзіць, ён сам расце. Бурачок, моркву, гарох, гурок, бобу ні было, то мне саседка дала неку жменю, пасадзіла і пасолю саджу. Гарох, як ест гэты во сахарны, дак троха садзім.

Жалі ўпярот уручную, хто сколька здужае. Жнеш, кап чым вышэй. А патом жа ж аржышча сабе на карову. Як прыляліць брыгадзір, бабы ўцякаюць, што крычыць, што высока жнём. А кожды ж хоча, каб кароўку перазімаваць. І плакалі после, як камбаіны прышлі, што ж мы будзем рабіць, дзе мы кароўку перазімуем. Цяпер, дзякуй богу, нек так-сяк і зімуем.

А во Нёман жа ж тут блізка. Як ідзяцё на Заламань, дак бухта там называем. Кала бухты і Нёман уцякае ў бухту. Ой-ё, шырокі. Ён жа цягне ў Гродна гэты Нёман. Асот каля Нёмана.

У картоплях расце лібяда, шырокая трава-пласкуха ўсё называюць, драсён, ваўчкі.

***

Лён выспее, тады абмалоцяць пра́нікам, патом пасцелюць, трэба ж каб адліжаўся. Месяц ляжыць, а як дождж мочыць, то быстра. А як ні мочым, то доўга будзе ляжаць. Лён і ў Нёмне ў ваду мачылі. То белы тады такі – харошы. Тады ўжэ церлі ў церніцы. А потам трапа́чкай трапалі. А потам трэба шчэ часаць. Такіе шчоткі, набітыя на іх цвікі. Анна́ часта-часта, а другая ратчэйшая. На ратчэйшуй – кудзеля, а гэта ўжэ па́часы часцейша. Што тонка прасці – такая шчэ шчэтка ручная ш шэрсці, шчэ трэці раз чэшуць. А ўжэ прасці, дак устаюць і з ночы, хаця каб больш і скарэй спрасці.

Збіраліся на вячоркі. Пралі на прасніцы. Тут прасніца, а тут караўло́так. А некатарыя пралі на верацяно. А патом ткаць, снаваць, сну́йка такая снуе́, а тады кро́сна. У нас была круглая сну́йка, пакруціш і снавалі. Насколька сцен называлі: на тры, на дзевяць – і снавалі. У кроснах бе́рда, ні́чаль-

ніцы, што ступаць – панажаі́, чаўно́к, цэ́вачка. Яе сукалам сукалі. Перабіра́нкі ткалі, дзярушкі, мяшкі. Бывае наснуюць ужэ етым купля́ным, а шэрсць (авечкі ж дзяржалі) уфарбуюць, паткуць, ужэ каб трохі харошае было. Мама наша ўмела перабіранкі ткаць – перабірала ўжэ. Я недзе і вышывала крэсцікам. Вышываць, я мала вышывала. Трэба было прасці, каб больш напрасці, каб наткаць мяшкі ж. Ткалі, каб было на порткі, на кашулі – гэта ж усё трэба было ткаць.

***

Дзежка спецыяльна была дзеравянна хлеб учыня́ць. Як есь кіслае малако, картошкі наскрабуць, стаўкуць. А патом ужэ таго малака і мукі троха рашчыняць, каб паткіснуць. Добра, дак за суткі ўкісне. А як не, дак і двое. Тады ў печ на такіе лапаткі. Дак быстрэй патходзіць, смачнейшы. А на сковарадах, дак бывае на зака́лец спадзе трохі. Мама наша натта харошы хлеб пякла. А ўжо сусетка наша жыла (бывае выйдзе хлеб, ето ж ні то, што цяпер купіш) пойдзеш пазычыць, дак хазяін ужо кажэ: «Ні знаю, ці данясеш да хаты». Ні ўмела хлеб пячы.

*Запісана ў в. Васіле́вічы Навагрудскага р-на ў 1999 г.*

*М. П. Чабан*

## ТЭКСТЫ З ВЁСКІ СУРСКА-ЛІТОЎСКАЕ ДНЕПРАПЯТРОЎСКАЙ ВОБЛАСЦІ (УКРАІНА)

Вёска Сурска-Літоўскае Днепрапятроўскага раёна Днепрапятроўскай вобласці (Украіна)[1] знаходзіцца на паўднёвы захад ад г. Днепрапятроўска. Заснавана ў 1794 г. перасяленцамі з мястэчка Дуброўна Магілёўскай губерні (цяпер Віцебская вобласць). Цяпер тут жывуць пераважна нашчадкі тых перасяленцаў. У гаворцы захаваны амаль ўсе дубровенскія асаблівасці.

[1] Падрабязней пра вёску гл.: *Мікола Чабан.* На ўзмежках цвіла і выстаяла. Беларуская вёска амаль у цэнтры Украіны // Голас радзімы, № 45 (1771), 11 лістапада 1982 г. С. 5.

*Запісана ад Савітчанка Сафіі Данілаўны, 1932 г. н. у 1982 г.*

Як хадзіла пáва Леначка
Па крутой гаре,
Та й раняла селёзеньку
Ціха пу вадзе.

– Плыві, плыві, селёзенька,
Ціха пу вадзе,
Прібудзь, прібудзь, ты мой татачка,
Сегодні ка мне.

Прібудзь, прібудзь, ты мой татачка,
Сегодні ка мне.
Ой, дай жэ ты паря́дачэк
Круглай сіраце.

– Ой, рад бы я, дзіця маё,
Прыбы́ць да цябе, –
Насыпана сырой зямлі
На грудзі мае.

Зламіліся мае ножэчкі,
Не магу я ўстаць,
Зчапіліся мае ручэнькі,
Не магу разняць.

Ой, клáнейся, дзіця маё,
Чужэй чужынé,
Нехай даюць парядачкі
Беднай сіраце.

– Ой, кланілась я, мой татачка,
Не раз і не трі –
Ніхто не дасць парядачку
Такога, як Вы...

***

А свёкар жэ да не татачка,
Дзе ўдарыць – баліць,
А свекрова да не мамачка,
Дзе станіць – зудзі́ць:

– Санлівая да дрэмлі́вая
Нявестка мая,
Ой, ішчэ сонца да не заходзіць,
Яна спаць лягла.

Ой, ішчэ сонца да не заходзіць,
Яна спаць лягла,
А ўжэ сонца да й на снідáння,
Яна не ўстала.

– Суседачкі-галубачкі,
Няпраўда яе,
Мелá хату да мелá сені
Пры яркай луне.

Мелá хату да мелá сені
Пры яркай луне,
Слала пасцель да слала белу
Пры цёмнай свячэ.

*Запісана ад Цярэнцьева Зінавея Іванавіча, 1909 г. н., у 1982 г.*

Ой, знаю я, знаю,
Шо ў етам караваю:

З трёх ніў і пшаніца,
З трёх крініц вадзіца,

З дзевяці кароў масла,
А з дзесятае – шчасця![1]

***

Шаўковая нітачка сцяну ўець,
Шаўковая нітачка сцяну ўець,
А Галечка мамачцы чалом б’ець.
А Галечка мамачцы чалом б’ець.
Адбіла чалом за сталом,
Шчэ й за пшанічнінькім калачом.

---

[1] Кожны радок паўтараецца два разы. Спяваюць, як «даюць» каравай.

*Запісана ад Паўлавай Алены Арсенцьеўны, 1932 г. н., у 1982 г.*

Сват чёрэз парог лёзець
І ў печ заглідáйыць:
– Чы бальшыя гаршчок кашы,
Чы пайдáюць нашы?[2]

*Запісана ад Лук'яненка Андрэя Панцеляймонавіча, 1913 г. н, у 1982 г.*

Ой, там на гаре, шэлкóвай траве –
Там сідзéла пара галубей. [2 разы]

Парувáліся, мілувáліся,
Сізáмі крылямі абнімаліся. [2 разы]

Дзе ўзяўся ахотнік, ахотнік-стрелéц,
Голýба убіў, галубку узяў. [2 разы]

Узяў пад полу, паніс дадому.
Насыпаў пшэнцá аж по коленцá,
Наліў вадзіцы – па сáмыя крыльцы.

Пшэнцá не клюе, вадзіцы не п'е,
А ўсё на ту гору плакаці ідзе. [2 разы]

– Чаго ж ты, галубка, такая смутнáя?
Ў мене есць сем пар, сем пар галубей. [2 разы]

Ў мене есць сем пар, сем пар галубей,
Летай, выбірай, якій будзе твой. [2 разы]

– Я ўжэ ж літала, я ўжэ й выбірала,
Не найшла такога, як я уцірáла. [2 разы]

Ў майго ж то не сіня, аж чорна дружына,
Сарочка бела, слом [словам] парень да дзела. [2 разы]

---

[2] Кожны радок паўтараецца.

*В. М. Емельяновіч*

# ДА СЛОЎНІКА ФРАЗЕЯЛАГІЗМАЎ ГАВОРАК БЕРАСЦЕЙШЧЫНЫ

Прынятыя скарачэнні раёнаў: Брэсц. – Брэсцкі, Бяроз. – Бярозаўскі, Ганц. – Ганцавіцкі, Драг. – Драгічынскі, Жабін. – Жабінкаўскі, Іван. – Іванаўскі, Івац. – Івацэвіцкі, Кам. – Камянецкі, Кобр. – Кобрынскі, Лун. – Лунінецкі, Лях. – Ляхавіцкі, Малар. – Маларыцкі, Пінск. – Пінскі, Пруж. – Пружанскі, Стол. – Столінскі.

АБІБО´ЧЫНА НІЛЮ´ДСКА. Гультай. *Ото дзе ўжэ абібочына нілюдска. Цалы дзень прашвэндаўса, нічога не зрабіў.* Будча Ганц.

АТРУ´ТА НА БЛЫХУ´. Пра вельмі надакучлівага чалавека. *Шчо ўжэ гэто за стварэнне, не дае шагу ступіць. Атрута на блыху.* Будча Ганц.

БА´ТЬКА З МА´ТЫРЫЮ НЫ НА´ЙДЭШ. Пра беспарадак. *Шо в мэнэ в хаты зараз робыцця, всё роскыдано, батька з матырыю ны найдэш.* Пажэжын Малар.

БОГ ПО ЗЕМЛЕ´ ХОДЗІ´Ў. Пра цёплы сонечны дзень. *От учора дзень буў – Бог по земле ходзіў.* Сінкевічы Лун.

БО´ЧКУ КОТЫ´ТЫ. Нагаворваць на каго. *О гэто люды, усю жызнь бочку котять однэ на одного, хоть і жывуть по сусідству.* Уласаўцы Іван.

БУЛВАНО´М КОТТЫСЯ. Хутка набліжацца. *Літом хмара частэнько булваном котыцця.* Стрыганец Жаб.

БЫДА´ НА КОЛЁСАХ. Пра чалавека, які ставіць сябе вышэй за іншых. *От быда на колёсах, ны хочэ їіхаты со всімы разом.* Жытнавічы Пін.

БЫ З РОЖНО´Ў СКЛА´ДЗЕНЫ. Вельмі худы. *Ох і страшны чоловек стаў, бы з рожноў складзены.* Чырвоная Воля Лун.

БЫ ПОД МАТЛУ´ МАЦЕ´. Усё вельмі хутка робіць. *Ну Йван копае, бы под матлу маце.* Дзятлавічы Лун.

БЫ Ў ЦЕ´РНІЦЫ ЛЁН ТРЭ. Вельмі гучна гаворыць. *А ты його паракрычыш? Вэн жэ говорыць, бы ў церніцы лён трэ.* Дзятлавічы Лун.

ВОРОНЯ´КЫ ВКРА´ДУТЬ. Пра вельмі чыстага чалавека (часта дзіця). *Ну то хватыть вжэ вымыватыся, а то воронякы вкрадуть.* Пажэжын Малар.

ВОЎК ДОРО´ГУ ПЕРЭЙШО´Ў. Пашчасціла, пашанцавала. *То тобе воўк дорогу перэйшоў, шчо ты гэ дзешэво ўкупіла.* Рубель Стол.

ВЫ´ДЫРКІ НА ВЫ´ДЫРКАХ. Плётка на плётцы. *Шчо гэто за болботуха, і одны выдыркі на выдырках.* Глінка Стол.

ВЭ´ПЫСАТЭ ДО´БРЫХ ГАНЁЛЫКУВ. Пасварыць (асабліва часта ў адносінах да дзіцяці). *Більш ныколэ нэ буду сама братэ, бо знов вэпышыть добрых ганёлыкув.* Сулічава Драг.

ГІЛА´ ВОРКУ´ЧАЯ. Надакучлівы, варчлівы чалавек. *Да сціхні ты ў концэ-концоў, гіла воркучая.* Дзятлавічы Лун.

ГОЛОВО´Ю НЭ´БО ПРОТЫКА´Е. Пра вельмі высокага чалавека. *Вітя вымахав, шо вжэ головою нэбо протыкае.* Застаўе Драг.

ДА´ТЫ ЛЭ´ЙЦЫ. Адмовіць таму, хто сватаўся. *Дала я ёму лэйцы. Нашчо він мні здавса?* Моталь Іван.

ДВА МЭ´ТРЫ СУХОСТО´Ю. ДВА МЭ´ТРЫ СУХОСТО´Ю, І ВСЁ НО´ГЫ. Высокі і худы. *Ганнін Геня такі страшны стаў – два мэтры сухостою, гэк нешчо.* Рубель Стол. *Глянь, які стоіть – два мэтры сухостою, і всё ногы.* Корчыцы Кобр.

ДІД ПО БА´БЫ РІ´ДНА ТІ´ТКА. Далёкі сваяк. *На высілле іх клыкаты ны буду: якыі мы свої – дід по бабы рідна тітка.* Зарэчка Драг.

ДО НЭ´НЫКА ПУЙТЫ´. Памерці. *Хватыть тобі гэтых грошый, всё ромно хутко до Нэныка* (мянушка чалавека, што жыў ля могілак) *підыш.* Зарэчка Драг.

ДЫРЖА´ТЫ ХВОСТ ПІСТОЛЕ´ТОМ. Трымацца ўпэўнена ў любой сітуацыі. *Білеты ты всі вкупыв і ны буйся, дыржы хвост пістолетом.* Пажэжын Малар.

ЕК ЗА´ЙЦЁВЫ СВЫСЦЁЛЫК. Зусім непатрэбнае. *Купыв гэту цецьку, а вона тобі трэба, ек зайцёвы свысцёлык.* Зарэчка Драг.

ЕК ЗА СЫБЭ´ ЗАКЫ´НУТЫ. Хутка з'есці, выпіць. *Наш батько цілу мыску супу ек за сыбэ закынэ.* Зарэчка Драг.

ЕК КРУК НАД ПА´ДЛОМ. Стаяць над кім, дакучаць сваёй прысутнасцю. *Ідэ, раді Бога, отсюда, чого стоіш, ек крук над падлом.* Субаты Драг.

ЕК ЗАЯЗА´ТЫ. Вельмі поўна. *Насыпала маты круп торбу ек заязаты.* Зарэчка Драг.

Е´ШЧОРКОЮ СКАКА´ТЫ. Перабіваць, не даваць выказацца другому. *Сосідка такая врэдна, ешчоркою до всіх скачэ.* Лелікава Кобр.

ЖУРАЎЛЯ´ ЗАКІДА´ЦЬ. Падглядаць. *Колькі можна жураўля закідаць? Надаела.* Мілейкі Івац.

ЗАРЫКА´ЛАСЯ СВЫННЯ´ МУ´ЛУ НЫ ЙІ´СТЫ. Пра чалавека, які запэўнівае ў чым-небудзь, а потым забывае пра абяцанае. *Ны віру я тубі. Зарыкалася свыння мулу ны йісты.* Вайская Кам.

ЗА ХОЛО´ДНУ ВО´ДУ НЫ БРА´ТЫСЬ. Нічога не рабіць. *Валя, іды хоть гуркы полы, бо ты тыпэр шэ й за холодну воду ны бралась.* Чарнеевічы Драг.

З ВО´ЗОМ МО´ЖНА РОЗВЫРНУ´ТЫСЯ. Пра крывыя ногі. *А жэ й Біг ногы дав гэтому Йвану: як стоіть, то, здаецця, і з возом можна розвырнутыся.* Кустовічы Кобр.

З ГАРА´ЧО Ў ПОЛЫМЯ´ЧЭ. Трапіць у яшчэ больш дрэннае становішча. *Влецела добрэ моя дочка, з горачо ў полымячэ.* Цна Лун.

З'І´СТЫ СУХЫ´М РО´ТОМ. Сапсаваць або згубіць нешта. *Таке платте хорошэ було, то з'іла сухым ротом.* Галёўка Малар.

З КАМАРА´МІ Ў ПСТРЫ´ЧКІ ІГРА´ЦЬ. Нічога не рабіць. *На вуліцы толькі з камарамі ў пстрычкі іграе.* Клепачы Пруж.

З КОЛІ´НА ВЫ´ЛАМАТЫ. Дастаць ці прыдбаць нешта з вялікай цяжкасцю. *Мо я тобі гэтэ платте з коліна выламну?* Моталь Іван.

З НЕ´БОМ ГОВО´РЫЦЬ. Вельмі высокі. *От у того Коўбіка хлопец вурос – ужэ з небом говорыць.* Цераблічы Стол.

ЗНЕ´ТЭ ДЫСЕ´ТУ ШКУ´РУ. Адлупцаваць. *Наробыв ділов, я тобі тыпар дысету шкуру зныму.* Субаты Драг.

З-ПАД СУ́ЧКІ Я́ЙЦА ДАСТА́НЕ. Пра хітрага, пранырлівага чалавека. *Ды што пра яго казаць, ён жа з-пад сучкі яйца дастане.* Квасевічы Івац.

З СОРО́ЧКЫ ВЫ́ВЫСТЫ. Давесці да беднасці. *Скілько можна куплеты? Ты мэнэ і з сорочкы вывыдыш.* Зарэчка Драг.

І КО́ЖА І РО́ЖА. Вельмі падобныя. *Вона ўся на іх похожа: і кожа і рожа.* Рубель Стол.

ІТЫ́ РУКО́Ю. Добра весціся, гадавацца (пра жывёлу). *Купыла корову в нычогых людэй і ныек рукою ны йдэ.* Зарэчка Драг.

КОЗУ́ ПА́СТЫ. Адставаць у працы. *Ужэ, можэ, хватыть козу пасты.* Нямержа Драг.

КО́ЛЫСО КРЫВО́Е. Пра плаксівае, капрызнае дзіця. *Ну й дытына – колысо крывое, всё плачэ і плачэ.* Корчыцы Кобр.

КРУ́КОМ НО́СА НЕ ДОСТА́ЦЬ. Пра вельмі ганарыстага чалавека. *Загордзілас наша Оля, шчо круком носа не достанеш.* Рубель Стол.

КУ́ХНЮ ТЯГНУ́ТЫ. Адставаць у працы. *Тыпэр мы кухню потегнымо. Ужэ всі давно кончылы.* Зарэчка Драг.

ЛА́СТЫ ПУДБЫВА́ТЫ. Заляцацца. *Ну й до тыбэ гэтой хлопыць ласты подбывае.* Зарэчка Драг.

ЛА́СТЫ СКЛЕ́ІТЫ. Памерці. *Од гэтакії жызні можна і ласты склеіты.* Застаўе Драг.

ЛО́ДАРА ПРА́ЗНУВАТЫ. Нічым не займацца, гультаяваць. *Тётка сёгодня лодара празнуе.* Пажэжын Малар.

МАГЭ́РА КОРА́ВАЯ. Пра брудную, неахайную жанчыну. *Надзень ты шо-небудзь чыстэе, магэра коравая.* Дзятлавічы Лун.

МА́РОЧКО ПРЫІ́ХАВ. Пара спаць. *Ну, дочушко, до тэбэ вжэ Марочко прыіхав, пора спаты.* Мастыкі Бяроз.

МІР НЕ ПО́МНІЦЬ, МОСКВА́ НЕ ЗНА́Е. Пра вельмі добрага або вельмі разумнага чалавека. *Моя баба, мір не помніць, Москва не знае, така толкова людзіна.* Рубель Стол.

МЭ́ТЭР З ША́ПКІЮ НА КОНЬКА́Х. 1. Пра малога ростам. *У мынэ був кавалер – мэтэр з шапкію на коньках.* 2. Пра падлетка. *Якый шэ з тыбэ помочнік, як ты мэтэр з шапкію на коньках.* Застаўе Драг.

МЭ´ТЭР ШКУ´РЫ, КІЛОГРА´М КОСТЫ´. Пра вельмі худога. *После болезні Коля став мэтэр шкуры, кілограм косты.* Ланская Малар.

НА БА´БКУ ЗЛУПІ´ЦЬ. Моцна набіць. *Як зазлілас на малого, то й дала, злупіла на бабку.* Рубель Стол.

НА ВО´ДУ БРЫХА´ТЫ. Бясконца піць, праганаяць смагу. *Наілася сылёдкі, то цілу ніч на воду буду брыхаты.* Зарэчка Драг.

НА СІ´НЮ МАКУ´ХУ. Моцна набіць. *Як зазлілас, то на сіню макуху дзіця злупіла, шчо сама рэўла.* Рубель Стол.

НА СКРЫ´ПКУ ВЫ´СОХЦІ. Моцна схуднець. *Як голод буў, то мы такіе страшные булі, повысыхалі на скрыпку.* Рубель Стол.

НІ ДАЙ НІ ВЫ´НЕСЬ. Без прычыны, ні з таго, ні з сяго. *А она як прычэпіцца до мене ні дай ні вынесь.* Дварэц Лун.

НІДЗЕ´ СВЕ´ЧКІ НЕ ПОСТА´ВІЦЬ. 1. Пра дрэннага чалавека. *А ты нідзе свечкі не поставіш.* Давід-Гарадок Стол. 2. Пра вельмі вяртлявае, шкадлівае дзіця. *Ото дзіця, нідзе свечкі не поставіць.* В. Арлы Стол.

НІ СОЛЬ НІ ГА´ЗА. Нічога не трэба. *Екі ты хозяін, тобе ж не трэба ні соль ні газа.* В. Арлы Стол.

НО´ГЫ МЫ´ТЫ І ВО´ДУ ПЫ´ТЫ. Адносіцца з бязмежнай павагай. *Я тэбэ заставлю мні ногы мыты і воду пыты.* Пажэжын Малар.

НОС ДУБІ´НОЙ НЕ ДОСТА´ЦЬ. Пра ганарыстага чалавека. *У Маніной дочкі, шо з города прыехала, нос і дубіной не достанеш.* Кажан-Гарадок Лун.

НО´СОМ ВІ´ТРЫТЫ. Нюхаць (пра жывёл). *Наша корова йісты ны хочэ, а всё носом вітрыть.* Зарэчка Драг.

НОСО´К ЗАГЛЯДА´Е Ў ПЭСО´К. Пра вельмі старога чалавека. *Ужэ носок заглядае ў пэсок, а баба шчэ недзе едзе.* Рубель Стол.

ОБ'І´ХАТЫ КРЫМ І РЫМ. Усюды пабываць. *Об'іхав Крым і Рым і вырнувся.* Задзерць Жабін.

ОД ГІ´РША ДО ГІ´РША. Сюды-туды (хадзіць). *Робіць тобе нема шчо, ходзіш од гірша до гірша.* Рубель Стол.

ПАЧКУ´Р ГОЛОВА´ТЫ. 1. Слабы. *Навэ не пніс, пачкур головаты, сероўно не подымеш.* 2. Вельмі шустры. *Стэй, пачкур головаты, я ж шчы не договорыў.* Дзятлавічы Лун.

ПОД НО´СОМ КУ´РЫ НОЧОВА´ЛІ. Пра бруднага чалавека. *У цебе шчо, под носом куры ночовалі? Ідзі помыйса.* Велута Лун.

ПОЙТЫ´ В ХВОШЧЫ´НЫ. Памерці. *Хутко вжэ я в хвошчыны пойду.* Застаўе Драг.

ПОФОРСІ´ЦЬ ЯЗЫ´КОМ. Пагаварыць. *Тэкля вельмі любіць пофорсіць языком.* Дварэц Лун.

ПЫТЭ´ЛЬКА НА ШЫ´І. Абуза, клопат, цяжар. *Тая дочка в еі добра пытэлька на шыі.* Пажэжын Малар.

САЧО´К НАРО´ДНЫ. Гультай. *Сачок народны, ідзі хоць дроў прынесі.* Велута Лун.

СЁГА´ЧКА ПРЫПЫ´ЛЯНАЯ. Сварлівая жанчына. *Ой, жонкі, не звязвайцеса з гэтою сёгачкою прыпыляною.* Дзятлавічы Лун.

СВОЯ´ ВОШ ВКУ´СЫТЬ. Калі цябе дапячэ. *Шэ тыбэ своя вош ны вкусыла, то ты й говорыш такое.* Пажэжын Малар. *Як свуя вош вкусыть, тугды забігайіш.* Плоска Брэсц.

СОКІ´РОЮ НЫ ОДМАХА´ТЫСЯ. Не абараніцца нічым. *Як побачыш його ніччу, то сокірою ны одмахаісся.* Вайская Кам.

СО´НЯ БОРОВІ´ЦКАЯ. Пра таго, хто любіць доўга спаць. *О, соня боровіцкая, ано прочнуласа.* Велута Лун.

УДТЫ´ЛЬ ДЭМ ПА´ХНЭ. Там вельмі добра (пра сваё, роднае). *Пуіду дудому. Удтыль дэм пахнэ.* Дзівін Кобр.

У О´ЧЭРЭДЗЬ ДО ЗЕ´МСКОГО (мясц. *земскі* – той, хто ляжыць у зямлі). *Ужэ мне, дочэнька, у очэрэдзь до земского пора.* Рубель Стол.

У СВЫНЕ´ЧУ ПО´РУ. Вельмі позна. *Учора мій сын знов прышов у свынечу пору.* Вялікі Лес Драг.

УСЕ´ КО´ЗЫ Ў ЗО´ЛОЦІ. Пра вельмі задаволенага чалавека. *У Івана ўжэ ўсе козы ў золоці, як Жану з роддома забраў.* Рубель Стол.

ХОДЫ´ТЫ КАНДІБО´БЫРОМ. Задавацца. *Бобэль собі куртку з Гірманіі прывіз, то вжэ ходыть кандібобыром.* Пажэжын Малар.

ХОЗЯ´ЙКА ПО СА´МУ ЦЭ´РКОЎ. Вельмі добрая, дбайная гаспадыня. *Моя Маня – хозяйка по саму цэркоў, ніхто не докажэцца.* Рубель Стол.

ХОМУТА´ НА ШЫ´Ю НАВІ´СЫТЫ. 1. Ажаніцца. *Колі ужэ 30 літ, а шэ холостяк: кажэ, шо вспіе хомута на шыю навісыты.* 2. Пайсці ў заработкі. *Навісыв хомута на шыю, то зары ныц ны зробыш, трэба робыты.* Зарэчка Драг.

ХОТЬ ЗА СОБА´КАМЫ КЫ´ДЫЙСЯ. Многа. *Я ужэ стількo усёго накупляла, шо хоть за собакамы кыдайся.* Зарэчка Драг.

ХОТЬ ЙІЦЭ´ ПОКОТЫ´. 1. Гладка, роўна. *Колё нас дорога хоть йіцэ покоты.* 2. Пуста, нічога няма. *У нашому магазіны хоть йіцэ покоты.* Зарэчка Драг.

ШВО´РАБЫ КОЛЁДАЗА ПЫРЫКЫ´НУЛЫ. Так гавораць, калі ў хаце няма вады. *Хотіла попыты воды, а ў йіх шворабы колёдаза пырыкынулы.* Зарэчка Драг.

ШВЫ´ДКІ ІВА´Н. Паслабленне страўніка. *Як пройняв його швыдкі Іван, то мусыв бідны сосід бігаты за хлів цэлы дэнь.* Ваські Пруж.

ШТАХЭ´ТЫ ВЫ´СТАВЫТЫ. Моцна засмяяцца. *Він говорыть абы-шо, а мы й штахэты выставылы.* Зарэчка Драг.

ШУ´ХЛЯ ТРАСЭ´. Дрыжыкі бяруць. *Мусыть, я захворыв, мынэ шухля трасэ от холода.* Мастыкі Бяроз.

ШЧО З ЦЫГА´НСКОГО ВО´ЗА ЗНЯ´ТЫ. 1. Смуглы, загарэлы. *Мою Валю, шчо з цыганского воза знялі, так загорэла.* 2. Брудны. *Каціные дзеці век ходзяць шчо з цыганского воза знятые.* Рубель Стол.

ШЧО МАРЫМО´НКА. Ружовашчокі. *Моя Лена, як удома побыла, то шчо марымонка* (мука вышэйшага гатунку) *стала.* Рубель Стол.

ЯЗЫ´К ЗА 12 ПАР ВОЛО´Ў ПОЦЯ´ГНЕ. Пра языкатага чалавека. *Як так, то язык за 12 пар волоў поцягне, а зробіць шчо, то рукі боляць.* Рубель Стол.

ЯК ЗДО´БНЫ ПРА´НІК. Пра чалавека, які застаўляе доўга сябе ўпрошваць. *Шо ты выкручваешся, як здобны пранік.* Сялец Бяроз.

ЯК КІТ НАД ДЭ´РКОЮ. Пра сталы клопат, увагу. *Тубі шэ ны надоіло? Сыдэш над ею, як кіт над дэркою.* Вайская Кам.

ЯК ЛЁХА З БАТО´НАМІ. Нечакана, знянацку з'явіцца з нечым. *Прышоў з тым вядром, як Лёха з батонамі.* Сенькавічы Івац.

# ІНДЭКС*



* У індэкс унесены словы ў набліжанай да літаратурнай мовы форме; нерэгулярныя асаблівасці захоўваюцца.

# ЗМЕСТ



## З ЛЕКСІКІ НАРОДНЫХ ГАВОРАК



## ТЭМАТЫЧНЫЯ ГРУПЫ ЛЕКСІКІ



## ДЫЯЛЕКТНЫЯ АСАБЛІВАСЦІ БЕЛАРУСКІХ ГАВОРАК ЗА МЕЖАМІ БЕЛАРУСІ

## ТЭКСТЫ БЕЛАРУСКІХ ГАВОРАК НА БЕЛАРУСІ І ЗА ЯЕ МЕЖАМІ



## ФРАЗЕАЛОГІЯ



Навуковае выданне

**ЖЫВОЕ НАША СЛОВА**

**ДЫЯЛЕКТАЛАГІЧНЫ ЗБОРНІК**

Рэдактар *Н. Т. Гаўрыленка*
Мастацкі рэдактар *В. А. Жахавец*
Тэхнічны рэдактар *Т. В. Лецьен*

Падпісана ў друк 07.12.2001 г. Фармат 84x108 $^{1}/_{32}$. Папера афсетная. Гарнітура Таймс. Афсетны друк. Ум. друк. арк. 18,48. Ум. фарб.-адб. 18,48. Ул.-выд. арк. 13,71. Тыраж 800 экз. Зак. 3863.

Падатковая льгота — Агульнадзяржаўны класіфікатар Рэспублікі Беларусь АК РБ 007-98, ч. 1. 22.11.20.400.

Рэспубліканскае унітарнае прадпрыемства «Выдавецтва "Беларуская навука"». ЛВ № 13 ад 31.12.1997 г. 220141. Мінск, Купрэвіча, 18.

Рэспубліканскае унітарнае паліграфічнае прадпрыемства "Баранавіцкая ўзбуйненая друкарня". 225320. Баранавічы, Савецкая, 80.

